# Світанне

## раман

### 1

Пахучая, здаровая восень стаіць на палетках.

Шлях, з пахіленымі тэлеграфнымі слупамі, то нырне ў нізіну, то лезе на ўзгорак, то схаваецца ў лесе, то выпростваецца роўнай стужкай па полі.

Па адзін бок шляху — нізенькі рэдкі ржэўнік; на ім там-сям тырчаць старыя трухлявыя пні. Па другі — ралля, і на ёй таксама пні.

Ігнась сядзіць на возе і з цікаўнасцю глядзіць па баках. «Як далёка мы заехалі,— думае ён,— я тут яшчэ ні разу не быў».

Гняды каняка цялюхкаецца, апусціўшы галаву; ён раз-пораз фыркае, туліць да галавы вушы і круціць хвастом. «Што гэта з канём?» — цікавіцца Ігнась і, перагнуўшыся, глядзіць уперад:

— Ага, лейчына пад хвост трапіла.

І тут Ігнась заўважае, што бацька прытуліўся плячамі да палукаша і дрэмле, і галава яго, як нежывая, ківаецца ва ўсе бакі. Тады Ігнась садзіцца ў перадок і сам вымае лейчыну з-пад конскага хваста. «Які далікатны, воўчае мяса»,— думае Ігнась.

Па няроўнай дарозе падскокваюць колы, дрыжаць драбіны, і бацька трасецца і нават стукаецца каркам аб палукаш, але ўсё роўна спіць.

«Хіба яму не баліць?» — думае Ігнась, паглядаючы на бацьку, і хлапчуку робіцца сумна. Ён мяркуе заснуць, але дзе там! Спаць зусім не хочацца.

«Хітры, падла,— думае ён пра каня,— бяжыць, але як бяжыць! Скача ў аглоблях на адным месцы. Ён, воўчае мяса, мала цікавіцца, каб куды-небудзь заехаць ды адпачыць. І ў лужыне ног ніколі не памочыць. Няхай які вялікі брод, ён абыдзе яго, хоць і ўпрэцца ў лес ды ў балота...»

І прыпамінаецца Ігнасю адступленне белапалякаў. Два афіцэры вывелі з хлява Ігнасёвага бацькі вараную кабылу, а замест яе пакінулі Гнядога. Ён быў худы, як палена, і калі выпраглі яго з дышла, дык ён, як сноп, і паваліўся тут жа. Мабыць, дышаль толькі і трымаў яго на нагах. Яго, як здохлага, адцягнулі да плота, а на яго месца запраглі варанную.

Маці, выйшаўшы на ганак, плакала па кабыле, як па нябожчыку, бацька без шапкі хадзіў за афіцэрам і прасіў, каб вярнулі кабылу, але афіцэр бізуном рассек яму губу.

Ігнась зірнуў на бацьку: чырвоны шрам і цяпер быў відаць, толькі ён пасінеў, і не кожны яго бачыў: бацька адгадаваў вусы, і яны схавалі чырвоны пісяг. А Гнядога з тыдзень падымалі на ногі, кармілі паранай бульбай, аўсом, канюшынай, і ён паправіўся. І празвалі яго ў вёсцы — Пілсуцкім.

Направа, далёка за лесам, Ігнась убачыў высокі маяк. Здалёк здавалася, што ён упёрся ў аблокі. Гэты маяк быў для Ігнася нечым таемным і недасягальным, бо ніколі не даводзілася ля яго пабыць. Ён некалькі разоў бачыў яго толькі здалёк, і кожны раз хацелася пабыць ля яго, узлезці на самы верх і адтуль глянуць навакол. І так ён заставаўся неразгаданай таямніцай і ўзбуджаў Ігнасёву цікаўнасць з незвычайнай сілай. Ігнасю хацелася разбудзіць бацьку ды распытаць яго пра маяк, але ці варта? Ігнась ведаў, што бацька расказвае толькі тады, калі яму хочацца, а калі не хочацца, то яго не ўпросіш. Недарэмна і празвалі яго ў вёсцы — Маўчун.

А вунь уперадзе, за пералескам, тырчыць жоўты крыж. Гэта ўжо, мабыць, мястэчка. У грудзях Ігнася ўсхвалёвана трапечацца сэрца ад радасці і ад нейкага страху. Ігнась ніколі не быў у мястэчку і вось едзе туды вучыцца на цэлую зіму. Як гэта добра! Але мястэчка крыху палохае Ігнася. Ён нават не можа ўявіць, як

там будзе жыць адзін сярод чужых людзей, у чужой хаце.

Бацька прачнуўся. Ён аглядае мясцовасць і вымае капшук з тытунём.

— Скора прыедзем,— кажа ён, круцячы цыгарку.— А кватэру я табе знайшоў у Алтара Сапуна. Там такіх, як ты, шмаравозаў, чацвёра. Жыві з імі дружна. Не заскоквай наперад, але і ззаду не заставайся. Задзёру ні з кім не пачынай, а калі з табою пачнуць задзірацца — не паддавайся... Толькі вучыся, сукін сын, добра, каб мне па два гады ў адным аддзяленні не сядзеў, бо пакіну вучыць.

— Што гэта вунь за царква? — перабівае Ігнась бацьку, у якога раптам з'явіўся настрой гаварыць.— Вунь крыж жоўты відаць.

— Гэта не царква, а прошча,— тлумачыць бацька,— ля яе крыніца была, але цяпер яна абсунулася і пяском засыпалася. Ды і сама прошча — бач, аблезла да рэшты.

— Што гэта за прошча, тата?

— Прошча ды ўсё. Тая самая царква. Два разы ў год тут кірмаш бывае. Людзі гандлююць, моляцца, лечацца. З крыніцы свянцоную ваду бяруць, вочы ёю мыюць, п'юць, кажуць, ад усялякай хваробы дапамагае, але ліха яе ведае, наўрад. За шклянку грыўня або палатна ці сала. Добрыя заробкі папу ды дзяку, ну і іншым, хто бліжэй да гэтае справы.

Нарэшце Ігнась убачыў прошчу. Яна стаіць на левым баку, крокаў за дваццаць ад дарогі. Ля яе невядома для чаго тырчаць, як грыбы, тры капліцы аднолькавай формы і велічыні. Ззаду прытулілася званіца з аблупленым дахам. Там відаць чатыры званы: адзін вялікі і тры малыя. Навокал расце хвойнік, а далей, як кінуць вокам,— пясок, жарства.

Пясок жоўты, сыпучы, там-сям на ім растуць хвойкі — крывыя, знявечаныя, няшчасныя. Крыж, пахіліўшыся ўзад, як чалавек, што сустрэў нечакана нешта страшнае, стаіць адзінока на пяску воддаль ад прошчы. На ім валавяны Хрыстос; ён таксама знявечаны: не хапае паўнагі і цэлай рукі.

Сум. Якое дзікае, страшнае месца!

Гэты сум закрадаецца ў Ігнасёву душу, і мястэчка здаецца такім непрывабным, чужым і маркотным. Гня-

ды ўжо не бяжыць, а паўзе; калёсы скрыгацяць аб жарству.

Мястэчка ўжо блізка, да яго як рукой падаць. Здалёку відаць хаціны, што патанулі ў пяску. Налева ад іх — рэдкі скупы хмызняк, направа дыміцца паравы млын. І ўвесь гэты сумны краявід будзіць у Ігнася нядобрыя пачуцці і з глыбіні нутра падымае ціхую тугу.

Вуліца, па якой едзе Ігнась з бацькам, даўжынёю каля вярсты. Яна крывая і гразкая, як і звычайная сельская вуліца. З пачатку яе хаткі на курыных ножках, да палове засыпаныя пяском. Стаяць яны не ў парадак, а раскіданы па адной, як выспы. Ігнасю здаецца, што гэта чарада вялізных кароў пасвіцца ля мястэчка. Ля хат няма агародаў. Хлявы стаяць воддаль. Ні адрын, ні гумен тут не знойдзеш. На адным баку вуліцы Ігнась убачыў невялікую хаціну. Пад самай страхой яе вісіць паліняла шыльда: «Шавец Халяўскі». На ёй жа намаляваны рыжы бот і шавецкі малаток, падобны на сякеру. «Чаму гэта абавязкова Халяўскі? — думае Ігнась.— Як лоўка падышло — шавец Халяўскі! А можна і Каблуковіч, і Паднарадка, і Перадоўскі!» Драбіны плывуць па гразі. Колы бухаюцца ў каляіны так глыбока, што Гняды спыняецца і хістаецца, як п'яны. Чым бліжэй да мястэчка, тым менш сустракаецца брудных халупак. Па абодва бакі вуліцы стаяць чыстыя зграбныя домікі з прыгожымі ганкамі. Усё часцей сустракаюцца шыльды; яны прыгожа размаляваны: «Ваенны і цывільны кравец Кічын». І тут жа на шыльдзе галіфэ і паліто.

Праз тры домікі ад ваеннага і грамадзянскага — «Кравец-спецыяліст Грэйнім Крэйнберг». Праз вуліцу, насупраць, у квадратным доміку — «Шавец Рубін», а поруч з ім — «Дамскі і мужчынскі кравец Рывін», на шыльдзе напісана, што ён прымае заказы ў любую гадзіну дня і ночы. «Мабыць, не вельмі многа прымаеш!» — думае Ігнась. Крышку далей на вялікім лісце бляхі дыміцца прымус, на ім незвычайнай формы каструля, а поруч напісана ярка-сінімі літарамі: «Бляхар Надэльсон». Праз пяць дамоў ад яго — «Рымар Кучын».

Гразі ўжо меней. У паветры носіцца нейкі незнаёмы пах: не то падсмажанае бульбы, не то мяса, не то газы. Адным словам, так пахлі сернікі, мыла і іншы тавар, які, бывала, бацька прывозіў з мястэчка. Ігнась так і ведаў:

калі ад бацькі патыхае гэтым пахам, то ў торбачцы нешта ёсць, магчыма, нават сшытак або аловак.

Бацька садзіўся вячэраць, а Ігнась ціхенька развязваў торбу і цешыўся местачковым гасцінцам. Якімі мілымі былі тыя вечары! Ігнасю здалося, што болей яны ўжо не вернуцца. Праглыне іх гэтае незнаёмае местачковае жыццё.

На вуліцы ля дамоў паложаны кладачкі з дошак. Па іх ходзяць людзі: адны туды, другія сюды. Клыпаюць сівыя дзяды з доўгімі пейсамі, бегаюць босыя мурзатыя дзеці, ходзяць жанкі і дзяўчаты. Вунь кульгае чалавек з драўлянай нагой. Ігнась з цікаўнасцю наглядае за ім.

Абадраныя старыя жанкі сустракаюць праезджых пытаннямі: «А што прадаеш?» Многа гэтых жанок. Мабыць, яны сабраліся з усяго мястэчка. Яны стаяць з кошыкамі, з мяшочкамі і не мінаюць ні аднаго праезджага: «Што прадаеш! Што прадаеш, добры чалавек?»

Калі ж «добры чалавек» вывез нешта на продаж, то ён збочвае ў завулак і спыняецца. І тут пачынаецца гандаль. Цягнецца ён доўга, пакуль нарэшце і прадавец і пакупнік — абодва прыкідваюцца ашуканымі і разыходзяцца: адзін хавае ў кішэню грошы, другі запіхвае ў мяшочак тавар.

Вуліца выводзіць на рынак. Ён застаўлены вазамі з паднятымі ўгору аглаблямі. Ля кожнага воза гандаль. Шум і тлум стаіць навакола. Бацька нешта кажа Ігнасю, але той не чуе яго слоў. Ён глядзіць па баках і дзівіцца, як многа сабралася людзей. І ўсе нешта гавораць, смяюцца. Вунь на возе сядзіць тоўсты мужчына. Шчокі яго, нібы з кісялю — дрыжаць ад кожнага руху. Ён прымайстраваў да аглоблі вагу-стралу і гандлюе яблыкамі. Замест гір у яго каменні. Ён трымае адзін камень у руцэ і нешта горача тлумачыць; мабыць, даказвае, што яго каменні не горш за гіры.

Драбіны ўжо ледзь рухаюцца. Бацька ўвесь час трымае ў руках лейцы і варочае беднага Гнядога і туды і сюды: гэта каб не зачапіцца за чый-небудзь воз. А Гняды так і стараецца дастаць канюшыну або сена з чужога воза, нібы не еў тры дні.

Ля аднаго воза стаяць два п'яныя, адзін без шапкі, лысы, з шыроznай барадой, другі маленькі і тоўсценькі,

як гарбуз. Яны абдымаюцца і цалуюцца: нізенькі цалуе лысага ў бараду, а лысы нізенькага ў шапку. Недалёка гандлююць бульбаю, яе не важаць, а мераюць кашом. Крыху далей чалавек прадае сала і здор, а яшчэ далей на сярэдзіне рынку стаіць воз са збожжам, а гаспадар сядзіць на мяхах і курыць піпку, нібы і не думае прадаваць.

— Чаго круцішся, як вужака на хвасце? — злосна пытае бацька.— За зіму наглядзішся колькі ўлезе.

Але бацькавы словы не сунімаюць Ігнася. На сцяне дома, які стаіць на рагу, вісіць вялізная белая дошка. На ёй намалявана чалавечая галава, а пад ёю напісана: «Заля дзеля стрыжэння і галення». Ігнась адварочваецца, потым зноў глядзіць на шыльду і заўважае, што валасы на той галаве зграбна зачэсаны назад, а на твары толькі адзін вус, а другі ці не вырас, ці ўжо абголены!

Між вазоў прабіраецца нестары чалавек. Ён сярэдняга росту, круглатвары, з вялікімі бясколернымі вачыма.

— Тата! І Патапчык Рыгор тут! — сказаў Ігнась, заўважыўшы аднавяскоўца.

— Ці не ачмурэў ты, хлопец! — не верачы, сказаў бацька.

— Гляньце! Вунь, вунь! Ужо спыніўся, мабыць, нас убачыў,— паказаў Ігнась у той бок, дзе стаяў Патапчык. Бацька спыніў каня.

— Але ж! — прамовіў ён.— А казаў жа, што не паедзе... Злыдзень, ліха на яго...

Патапчык таксама заўважыў і Ігнася і Алеся. Ён ненадоўга спыніўся ля нечага воза, нібы патаргавацца, а потым павярнуўся і знік у натоўпе.

— Н-но! Каб ты здох! — злосна гукнуў Алесь і шматануў лейцамі так, што Гняды ледзь устояў на нагах. Ігнась са здзіўленнем паглядзеў на бацьку. «Злосць на Патапчыка спаганяе на кані. Хіба конь вінаваты, што Патапчык ашукаў яго гаспадара».

Алесь не толькі ўзлаваўся: яму было крыўдна. Сёння яму трэба было ехаць не ў мястэчка, а ў лес. Лясніцтва наймала конных рабочых вывозіць да канторы сухія дровы. Алесь наняўся перавезці іх, а працу распачаць з сённяшняга дня. Патапчык абяцаў завезці Ігнася ў мястэчка, а ўчора вечарам адмовіўся.

— Няма калі, суседзе, часу няма, не паеду.

«А паехаў жа, гіцаль чортаў,— крыўдзіўся Алесь.— Што яму было забраць хлопца! І каб дарэмна! Колькі яму папарабляў. Але ж свіння свіннёй, гад пракляты...»

Нарэшце, рынак застаўся ззаду. Гняды рухава ішоў па завулку. Неўзабаве яны выехалі на кароткую прыгожую вуліцу. Тут была цішыня, спакой і бязлюднасць. Алесь спыніў каня ля ганка вялікага дома. І хоць воз ужо не рухаўся і на вуліцы было ціха, Ігнасю здавалася, што ён яшчэ едзе, і ў вушах яго стаяў шум і гоман.

Злезшы з воза, Ігнась агледзеўся. Ён заўважыў, што каля дома стаіць доўгі хлеў. Ля гэтага хлява ў завулку стаяць поруч два высокія слупы, злучаныя ўверсе перакладзінай. На перакладзіне вісіць звон.

— Пажарны хлеў,— тлумачыць бацька, распрагаючы каня.

Крокаў за чатыры ад пажарнага хлява стаіць невялікая хатка, падобная на аўчарнік. Яе прысутнасць здаецца лішняй на гэтай прыгожай і ціхай вуліцы.

На высокім ганку Ігнась агледзеўся яшчэ раз: вуліца ляжыць уздоўж берага ля самай ракі. Далёка за ракой лес.

— Ну, хадзем у хату,— кажа бацька і адчыняе дзверы.

## 2

Алесь позна выбраўся дадому.

Усю дарогу яго хвалявалі неспакойныя думкі. Прывыкшы спаць у дарозе, Алесь заплюшчваў вочы, але яму ўсё мроіліся дровы, і сон знікаў. «Мо ўжо хто другі падрадзіўся... — з трывожным жалем думаў Алесь.— Заробак проста з рук вырваўся...» У лясніцтве скажуць: «Ну што ж, няўстойка, абяцаў пачаць працу, а сам па кірмашах ездзіш».

Гняды, як і заўсёды, падскокваў у аглоблях, круціў хвастом, колы каціліся паціху, драбіны рыпелі пагражаюча, нібы вось-вось рассыплюцца, і Алесем авалодала такая абыякавасць да ўсяго навакольнага, што ён ні разу не падагнаў каня: «Скачы, ваўкарэзіна, колькі табе ўлезе».

Надыходзіў вечар. Адзінокія дрэвы ў палях, нерухомыя і бязгучныя, не ківалі ні адной сваёй галінкай. Алесь

курыў цыгарку за цыгаркай. «Дровы! — думаў ён.— Глядзі і падзарабіў бы на тое-сёе. Там газа, запалкі, соль... Цукар на выпадак хваробы... Жонка хусты не мае, сына пачаў вучыць — кніжкі, сшыткі, алоўкі — нішто не падае з неба, усё трэба купіць... Ліха яго матары, Патапчыка гэтага». Усё абяцаў: «У чацвер завязу твайго студэнта». А ўчора прыбег: ужо яму часу няма. І самому трэба з'ездзіць, але, бачыш, час увесь вычасаўся. «Ах ты, гіцаль...» Думка гэтая шмаравалася ў яго галаве бесперапынна і дакучліва, як напільнік па ржавай блясе. Дарэмна адганяў яе Алесь. Яна варочалася зноў яшчэ больш упартай і крыўднай. «Каб дарэмна! Калі дойдзе справа да разліку, то палічу я гладкаму д'яблу, колькі ён мне вінават. І малацьбу, і касьбу, і ворыва. Я яму не Калачык Сцяпан, трасца яго матары. Няхай толькі дойдзе да разліку... Але ж ці дойдзе!»

Ноч насунулася раптам. Алесь так і не заўважыў, калі сцямнела. На захадзе, як след ад сонца, засталася толькі жоўта-чырвоная паласа, і тая ўвачавідкі расплывалася ў цемры.

На полі яшчэ віднеліся дрэвы, і была прыкметна дарога, бо неба ачысцілася ад хмар, і ў ім весела мігцелі калючыя зоры, а ў лесе ўжо было цёмна, як у яме.

«Няўжо ж лясніцтва так і аддасць падрад другому? — думаў Алесь.— Але ж ім што! Ці Сідар возіць, ці Янка, абы дровы былі на месцы... Цяпер толькі дай заробак, ніхто не адмовіцца. У каго гэта лішні рубель у кішэні штаны працёр! Толькі ж цяпер, хваліць бога, не старыя парадак,— пацяшаў сябе Алесь,— ды і ляснічы не дрэнны чалавек,— падбадзёрваў ён сам сябе, хоць ужо і не верыў ні ў што добрае. Ён выцягнуў у палукашы ногі, палажыў галаву на сена і заплюшчыў вочы.— А ліха на іх, на гэтыя дровы. Заўсёды з імі так...»

Прыгадаў даўніну-маладосць. Ды якую даўніну! Ці даўно ж было! Хлопцам будучы таксама на заробкі хадзіў: па Расе плыты ганяў, вугаль паліў, лес рыхтаваў... Шмат працы пераароблена — не злічыць. А колькі пражыў? Глупства, толькі чацвёрты дзесятак кончыўся. І нібы не жыў. А старасць ужо сівізною ў галаву ды бараду лезе. Перад нягодаю косці ломіць... Бывала, нябожчык бацька казаў: «Працуй, хлопча, мо на якую дзесяціну зямлі агораеш, мала яе ў нас, святое зямелькі». Ды так і не агораў... На бацькаўскую спадчыну сеў... Бацька ўсё

на зямлі калупаўся; так і памёр у полі. Нагнуўся, каб сявеньку падняць, ды і абсунуўся, бедны. Калі памёр бацька, кінуў заробкі Алесь. Ажаніўся і сам узяўся за саху. І тут зразумеў Алесь, што і на заробкі ён хадзіў для таго каб на гаспадарку лішні грош прыдбаць. А ці прыдбаў? «Так і цяпер ты прыдбаеш,— з'явілася думка аднекуль.— Дзе нашаму брату прыдбаць, абы кусок хлеба быў на стале». «Тое, ды не тое,— вынырнула другая думка,— ці цябе бацька вучыў? А ты ж сына вучыш».— «Але ж ліха на яго і сапраўды! Мабыць, лішні кусок хлеба знайшоўся... Цяпер не той час, браце! Гэта табе не царызма і не белапалякі. Выгналі іх, дзякуй богу, катаў гэтых. Цяпер і цябе за чалавека палічылі».— «Хм... за чалавека. А чаго ж ты ліпнеш да гэтых дроў, як, скажам, смала да тваіх рук. Лішні кусок хлеба ў таго гаспадара, што на мяшках сядзеў сярод рынка. Ды ў Патапчыка, а не ў цябе. Аднак Патапчык, злодзей, хітры! Ён не павязе мяшкоў з пашнёю на рынак, каб кожны Марыніч ці, скажам, Калачык хлеб яго бачыў ды грошы лічыў. К яму прыедзе Шлёма са Слуцка ды сярод ночы ў свае мяшкі Патапчыкаву пашню зграбе і на сваіх фурманках павязе. А калі і Патапчык дасць фурманку, то не бойся, не дарма. Шлёма яму заплаціць. От як жывуць людзі на свеце! Ты толькі паглядзі на іх, ды пра дровы думай, пра заробкі, дзе б сваё здароўе палажыць ды на гаспадарку лішні грош абабіць. А як абаб'еш, дык гэты грош ніяк не лішні, бо ўжо даўно яму месца падрыхтавана...»

І зноў прыпомніўся Рыгор Патапчык. «От жа злыдзень, а не чалавек! Як убачыў, што я ў мястэчку, дык і схаваўся. Якое ж трасцы ён у мястэчка прыехаў? А-а! Самагонку Гілярысе прывозіў! Не хацеў, каб я ведаў. На ліха мне твая гарэлка. Ты мо думаеш, што я не ведаю, дзе твой апарат ляжыць! Дурань ты, дурань, чалавеча. Я ж кожны дзень ля яго хаджу! — усміхнуўся ад такое думкі.— Каб толькі я захацеў, астаўся б ты, Рыгор, без апарата, ды яшчэ штрапу заплаціў бы. Але нашто мне за жукам ісці, хіба я не ведаю, куды ён паўзе! Прыйдзе час — сам ты ўскочыш у нерат, што ні ўзад ні ўперад».— «Як там Ігнат жыць будзе? — нечакана ўзбрыло ў галаву. І забыў пра Патапчыка.— Дрэннавата без прывычкі ў чужых людзей. Але ж ён, гіцаль, і вокам не міргнуў, як я ад'язджаў. Цяперашнія дзеці не тое, што наш брат. Я, бывала, па Расе на плыце еду, а думкі

дома: як там, мо няўпраўка якая. Але ён сябе ў крыўду не дасць! Хлапец, я табе скажу, удалы і на навуку, і на працу, куды хочаш! Ды я і сам такі быў!» Замілаванне агарнула сэрца. Стала лёгка. «Канешне, не будзе маці, каб там па галаве яго гладзіць ці чым смачнейшым пакарміць... А мяне хто гладзіў або карміў! Бывала, паставіць маці на стол чыгун картопелі ды міску расолу — еш колькі ўлезе. Скварка на стале толькі на святы дзень была...»

На хвіліну забыў пра ўсё, задрамаў. Мільгануўся ў вачах Патапчык, Ігнась, потым вынырнула аднекуль біклага з самагонкаю і праз усё гэта выплылі дровы, зложаныя ў сажні. Сухія, лёгкія... Вазіць іх добра, асабліва на такой казённай падле. А на дрывах ляснічы рагоча, узяўшыся за жывот... І знікла ўсё. Заснуў.

Алеся разбудзілі галасы людзей. Ён прахапіўся ад сну і сеў у палукаш. Не цемра, а чарната стаяла навакол. Драбіны падскоквалі на пеньчуках і карэннях, і Гняды ледзь выцягваў іх з глыбокіх каляін. Алесь прыслухаўся: ззаду ішла фурманка; на ёй, мяркуючы па галасах, ехалі два чалавекі. Яны аб нечым гутарылі, але сэнсу іх гутаркі нельга было зразумець, бо словы да Алеся даляталі абрыўкамі, а плюханне колаў па гразі і скрыгат драбін заглушалі іх. Аднак адзін голас здаваўся Алесю вельмі знаёмым. «Хто б гэта мог быць?» — думаў Алесь. Сон ужо прайшоў, але лянота, якая бывае звычайна пасля сну не ў пору, адольвала яго, і, каб прагнаць яе, ён дастаў тытунь.

— Паганяй, чалавеча! — крыкнулі з задняй фурманкі.

«Патапчык! — ледзь не крыкнуў Алесь.— З кім жа ён едзе, трасца яго матары!»

Хацеў адгукнуцца, але адумаўся: «Такі шэльма, хлус...— Тытунь палажыў у кішэню,— прыбяжыць ды на воз сядзе, такая лісіца, апраўдвацца пачне». Тузануў каня, каб весялей ішоў, а сам зноў лёг у палукашы. Спаць не хацелася: ляжаў і глядзеў на зоры. На задняй фурманцы нешта бубніў Патапчык свайму таварышу. «З кім гэта ён? — думаў Алесь, упарта прыслухоўваючыся да голасу незнаёмага: — Не, не наш, не вясковы».

Калі выехалі на паляну, Алесь назнарок суцішваў Гнядога, які, пачуўшы пад нагамі гладкую дарогу, раптам падбадзёрыўся. «Паспееш, падла, дадому. Там не

насыпана ў жолаб аўса, не бяжы!» Патапчык яшчэ раз крыкнуў: «Паганяй, чалавеча!» — і не прычакаўшы адказу, павярнуў каня і галопам абмінуў Алеся.

«Добры каняка! — пазайздросціў Алесь.— Вецер, каб ён здох, і сілы хапае».

### 3

Жоўты вялізны сабака кінуўся да воза і забрахаў сіпла і варожа, мяркуючы ўкусіць незнаёмага за нагу. Але незнаёмы вёртка схаваў нагу назад у палукаш.

— Лыска, каб ты апруцянеў! — сказаў Патапчык.

Лыска падтуліў хвост і вінавата заскавытаў.

— Не пазнаў, старызна! Хто з гаспадаром прыехаў, той не злодзей. Дурань.

Лыска лізнуў гаспадарову руку і пакорліва паплёўся ў будку.

— Вы ведаеце — дарагі сабака... Ды толькі стары, ужо дванаццаць гадоў. І пад старасць сапсаваўся, страціў нюх... Злазьце, ён цяпер не кінецца. Розуму яшчэ не страціў, гэта нюх яго ашуквае.

Незнаёмаму, мабыць, не спадабалася Патапчыкава красамоўства. Ён моўчкі злез з воза і недаверліва глянуў на будку.

— Сабака ваш наглы,— сказаў ён.

— Наглы, гэтага мала, ён яшчэ і разумны.

— Ну пра сабачы розум то я ўжо чуў. Не веру я ў сабачы розум.

— Не верыце? Сабака самая разумная жывёла і ніколі не падвядзе свайго гаспадара. Конь — гэта ўжо многа дурней... Пачакайце крыху ля воза, я завяду каня.

Незнаёмы не адказаў, і Патапчык прыняў гэта за згоду.

— Ну, не ўпінайся, дурань,— ласкава сказаў ён каню,— не на працу, а ў хлеў.

Конь страсянуўся і абпырскаў гаспадара кроплямі цёплага поту.

— Нагрэўся! А здаецца, не надта хутка ехалі.

Патапчык завёў каня ў хлеў, насыпаў аўса ў жолаб, палажыў канюшыны і агледзеў хлеў, падняўшы ўгору ліхтар: пяцёра коней стаялі над яслямі і жавалі канюшыну. Патапчык задаволена ўсміхнуўся і замкнуў хлеў вялізным замком.

Калі Патапчык падышоў да незнаёмага, той так уважліва прыслухоўваўся і ўглядаўся ў цемру, што, здаецца, не заўважыў Патапчыка, але калі той спыніўся ля яго, мяркуючы таксама прыслухацца, незнаёмы так рашуча павярнуўся ў яго бок, што Патапчык аж адхіснуўся ад свайго прыяцеля.

— Рыгор Сямёнавіч,— шэптам запытаў незнаёмы,— ці ў вашай вёсцы ціха?

— Як гэта ціха? — не зразумеў Патапчык.

— А вось як: міліцыя часта прыязджае? Камсамольцы ёсць?

Патапчык зарагатаў:

— Як у бога за пазухай. Адны не трапляюць, другія не водзяцца. Цішыня і спакой... Хадзем у хату.

Патапчык завёў госця ў чыстую палавіну. Гэта быў асобны пакой, аддзелены ад чорнай хаты вузкімі сенцамі.

— Пасядзіце тут пакуль што... без лямпы! — сказаў ён і вёртка выйшаў.

— Антоля! Антоля! — стаў будзіць ён жонку.— Ліха на цябе, як ты моцна спіш... Антоля! Але ж хоць з гарматы страляй альбо ўсю хату перацягні ў лазу...

Антоля — сонная, млявая, грузная жанчына — нехаця ўзняла галаву і шырока пазяхнула.

— Прыехаў, то лёг бы спаць...

— Дурніца!.. Уставай, чалавек чужы ёсць.

— Напрывозіць тут чалавекаў... Кармі вас цэлую ноч.

— Ну і даўбешка... Патржанецкі тут, калі хочаш ведаць.

— Які Патржанецкі?

— Ды ціха ты, які, які! Хіба забыла? Колькі разоў быў, яшчэ да бальшавікоў.

— А-а-а! Той, што кілбасы любіць!.. Дык ён жа...

— А хай ты трэснi, той самы... Ды памаўчы ты, халера.

— А ліханька на мяне! — Антоля ўскочыла з ложка.— Чаго ж гэта ён? — яна пачала адзявацца.

— Не лезь ты, куды табе не трэба... Чаго, чаго... Запалі сабе лучыну ды падрыхтуй закусіць.— Патапчык зняў з дроту лямпу і пайшоў.

— Ну вось і святло ёсць! — сказаў ён, запальваючы лямпу.

Патржанецкі зажмурыўся.

— У цемнаце спакайней,— прамовіў ён.

— У нас спакойна... Баяцца, я вам скажу, няма каго. З нашай вёскі ці ведае вас хто? Наўрад!.. От газы вашыўцы і тае не маюць. Дастанеш які фунт, дык не ведаеш, як яе паліць. Толькі па святах ды для чужога чалавека.

Патржанецкі не адказаў. Ён зусім не цікавіўся яго размовай. А Патапчыку хацелася гаварыць.

— От бачыце! — ён абвёў рукою навокал сябе.— Пакойчык не дрэнны, спецыяльна зрабіў для гасцей. Але пакуль што не абсталяваў, як належыць. І пачакаю... Час прыйшоў такі няпэўны, што сёння жывеш, а заўтра богбацька.

Пакой і сапраўды быў вялікі, але пусты. У куце стаяў стол, ля сцяны канапа, ля стала мяккае крэсла. Яно невядома як трапіла сюды. На жоўтых стрыжневых сценах, як белыя плямкі, віднеліся карцінкі з кніжкі, налепленыя нечымі няўмелымі рукамі. За грубкай стаяў масіўны драўляны ложак, пафарбаваны ў зялёны колер. На ім ляжала гара падушак у стракатых навалачках.

Патржанецкі аглядаў усё гэта і маўчаў. І маўчанне яго здзіўляла Патапчыка. Ён ведаў Патржанецкага на працягу двух гадоў, калі той быў станавым приставам. Раз'язджаючы па свайму стану, Патржанецкі часта бываў у Патапчыка. Ён любіў выпіць і закусіць. Такі госць дорага каштаваў, але Патапчык быў рады: ён, просты мужык, прымае ў сваёй хаце пристава! Ого, не кожны багаты шляхціц меў такую прывілегію. У семнаццатым годзе Патржанецкі знік. Потым ён з'явіўся з белапалякамі. Зноў знік пасля іх адступлення. А цяпер от зноў тут, у Патапчыкавай хаце. З'явіўся ён не з дабра, бо чаго б, напрыклад, хаваўся ён у Есіфа Голанда ў мястэчку некалькі дзён, пакуль той цераз ляснічага не наказаў Патапчыку забраць яго да сябе.

І вось цяпер Патапчык гаварыў усё, што трапляла на язык, коса ўглядаўся ў твар былога пристава і чакаў Антолі, каб яна хутчэй з'явілася са сваёю закускаю. Ён баяўся, што яму не аб чым будзе гаварыць. А маўчаць не мог. Патржанецкі стаў цяпер зусім не такім, якім быў у дарозе. У вачах ягоззяў драпежны бляск.

Хто яго ведае, што ён за чалавек. Што ён думае. Можа, ён ноччу зарэжа Патапчыка і забярэ яго золата. Ого,

так і можа быць. Есіф Голанд — такі прахвост і шэльма, недарэмна хаваў яго ў сваёй пуньцы...

І Патапчык гаварыў пра хлеб і грошы, пра лес і тавар, пра вёску і горад. Прыводзіў у параўнанне мінулы час, хваліўся, што жыве не кепска, але не вельмі і раскошна. Можна б і шырэй разгарнуцца, але баіцца... А Патржанецкі сядзеў і маўчаў. «Не слухае ён»,— праз сваю балбатню думаў Патапчык. Ён бачыў, што прыстаў заклапочаны цяпер нечым больш важным, што сённяшняе іх спатканне не простае і не звычайнае, што ў ім хаваецца нешта глыбейшае і абавязкова небяспечнае...

«Што?.. На нешта ж я яму патрэбен...» І Патапчык не змаўкаў ні на хвіліну. Ён ужо гаварыў пра рознае глупства, абы не маўчаць, гаварыў і пільна сачыў за тварам Патржанецкага, сачыў і дзівіўся: які драўляны твар!.. Нарэшце не вытрымаў: нешта пацягнула яго бліжэй да гэтага чалавека, і ён падышоў да Патржанецкага, каб зірнуць у вочы, як гэта робіць сабака, калі хоча ўведаць, злуе ці не яго гаспадар.

Патржанецкі таксама ступіў у бок Патапчыка.

— Вы сядзіце, пане Патржанецкі! — са страхам хапаючы яго за рукі, зашаптаў Патапчык,— я схаджу ў кухню, скажу сваёй гаспадыні, каб хутчэй упраўлялася.

Патржанецкі ветліва ўсміхнуўся і сеў на канапу.

— Шчыра дзякую...

Гэта было так нечакана для Патапчыка, што ён зарагатаў ад радасці і рвануўся ў дзверы так хутка, што ледзь не збіў з ног жонку.

— Мабыць, ледзь прычакалі! Добры вечар вам! — усміхаючыся ўсім сваім шырокім тварам, сказала яна.

Патржанецкі ўстаў і схіліўся перад ёю, а калі яна спаражніла паднос, узяў яе руку і пацалаваў. Патапчык пачырванеў, як вараны рак, і зірнуў на Антолю: «А яна хоць бы што, нібы ёй кожны дзень па дваццаць разоў у руку цалуюць».

— Казаў жа табе — не марудзь,— злосна акрысіўся ён.

— Да твайго розуму здароўя не трэба. Няхай жа б ты дапамог. Хоць бы трэсак прынёс.

— Ай, ідзі ты!..— Патапчык махнуў рукой.— Прынясі з шафы графін і чаркі. Садзіцеся, пане Патржанецкі.

Патржанецкі лоўка адсунуў стол і залез у самы кут.

Патапчык паклаў ля яго відэлец і нож і прыдумваў, як бы далікатней папрасіць госця, але не паспеў. Патржанецкі ўхапіўся за ежу з такой прагнасцю, нібы тыдзень нічога не еў. «Цікава,— думаў Патапчык, гледзячы на скіўіцы Патржанецкага,— ён жа галодны, як сабака». Антоля прынесла гарэлкі, і, калі бліснула шкло графіна, Патапчык схамянуўся. Ласа, як кот мыш, ён ухапіў графін, і гарэлка забулькала ў чаркі. Гэты гук узварухнуў і Патржанецкага. Ён адлажыў убок відэлец і вінавата ўсміхнуўся.

— Выбачайце, я чатыры дні жыў на галодным пайку.

— Калі ласка! Што вы, пане Патржанецкі. Ешце колькі ўлезе. Вы дома, вы дома! Антоля, нясі ўсё, што ў цябе ёсць. Кілбасу, сала, сыры... Я сам галодны!

Калі Антоля выйшла, Патржанецкі павярнуўся да Патапчыка.

— Цікава, Рыгор Сямёнавіч, як ядуць яўрэі. Я чатыры дні жыў у Голанда. Паверыце, ён замарыў мяне. Раніцай яечка, чвэртка хлеба і шклянка гарбаты. Днём талерка поліўкі з гусіным салам і паўфунта хлеба, а вечарам чвэртка хлеба і кубак кавы. Ды яшчэ пытае: «Ну, як вы, Іван Аляксеевіч, не галодны?» А Сорка яго, выбачайце, такая скнара... Над кожным кавалкам дрыжыць, як у трасцы... Ну, ведаеце, Рыгор Сямёнавіч, я буду есці.

— А чарачку, пане Патржанецкі!

— Не адмоўлюся! — Ён адпіў паўчаркі, рассмакаваў.

— Свая?

— Свая! Ну як, трохі што варта?

— Ого! Не горш за мікалаеўскую.

— Перагон. Яшчэ адну.

— Калі ласка.

— Яшчэ адну!

— Дзякую. Можа, будзе многа?

— Глупства! Бог тройцу любіць.

Патржанецкі выпіў і трэцюю.

— Ну, а цяпер самі, Рыгор Сямёнавіч.

— На такія рэчы і я маладзец. Ля апарата стоячы прывыкнеш.

— У вас свой?

— У мяне пакуль што ўсё сваё.

Антоля стаяла ля стала, не ведаючы, дзе паставіць закуску.

— Кілбасу стаў ля пана Патржанецкага,— шапнуў ёй Патапчык. Сам ён сачыў за госцем і з цікавасцю адзначаў, як мяняецца яго твар. Патржанецкі асалавеў ад гарэлкі: памутнелі вочы, пачырванелі губы, ноздры, якія сталі яшчэ шырэйшымі, і наогул увесь твар расплыўся ад задавальнення.

Недзе ў вёсцы перагукваліся пеўні. Самая ціхая і спакойная частка ночы прайшла. Патржанецкі паклаў на стол відэлец і краем абруса выцер губы. Ён падсунуўся да Патапчыка і загаварыў сухім голасам, які пераходзіў у шэпт.

— Не буду таіцца. Мы выконваем заданне адной дзяржавы. Мы цесна звязаны з яе прадстаўнікамі. Наша місія адказная і небяспечная. Нам патрэбны людзі не толькі як саюзнікі, а як шчырыя ўдзельнікі нашай справы... Вось для чаго я з'явіўся да вас, дарагі Рыгор Сямёнавіч.

Увесь абліты потам, Патапчык не спускаў вачэй з Патржанецкага. Гэтая новая, незнаёмая і пакуль што не зусім зразумелая справа і пужала яго і цягнула да сябе.

— Я гавару з вамі больш-менш адкрыта, бо лічу вас сваім чалавекам... Я ведаю вас на працягу некалькіх гадоў і думаю: вы чалавек наш, у нас адзін вораг, я гавару аб бальшавіках... Вы зразумелі мяне?

— Я вас... зразумеў, пане Патржанецкі... Мне толькі не зразумела, што я павінен рабіць...

— Што вы павінны рабіць? Шпіянаж, тэрор, агітацыя, вы разумееце гэтыя словы?

— Разумею...

— Шкодзіць усюды, дзе толькі можна і як можна — от вашы абавязкі... Вось коратка ўсё, што я магу вам сёння сказаць. Умовы гэтае працы: нам будуць плаціць, акрамя таго, мы і тут возьмем усё, што нам трэба... Вы згодны?

— Я пакуль што не зусім зразумеў... Як гэтыя абавязкі выконваць...

— Я вам у асноўным расказаў. Бачыце, не атрымаўшы згоды ад чалавека, я не маю права знаёміць яго падрабязна з усёй справай. Тады, калі вы скажаце сваё слова, я ці раскажу вам усё, ці развітаюся з вамі назаўсёды...

Патапчык апусціў галаву. Ён зразумеў, што такое развітанне запахла б крывёю. Сэрца яго стукала, і нейкая слабасць пацякла ад грудзей па ўсім целе; ад яе задры-

жалі ногі. Ён узняў галаву: твар Патржанецкага зноў быў суровы і драўляны. І Патапчык сказаў:

— Я згодзен, пане Патржанецкі...

— Ну і ўсё. Іначай не магло і быць. Цяпер скажыце, калі вы атрымалі паведамленне ад Голанда?

— Учора вечарам.

— Вельмі добра. Вам можна верыць... У крайніх выпадках можаце звяртацца да Голанда. Ён чалавек наш. А цяпер,— ён прыхіліўся да самага Патапчыкавага вуха: — Вашы абавязкі, пан Патапчык, будуць заключацца вось у чым...

Алесь распрагаў каня. Ён паглядаў на Патапчыкаву хату і думаў, чаму гэта ў чыстай палавіне гарыць агонь. І не абы-які, а яркі, бо хоць і завешаны вокны, а святло з іх падае на двор шырокімі і доўгімі пасмамі.

— З кім жа ён ехаў, трасца яго матары!

## 4

Першы дзень Ігнасю не сядзелася ў хаце. Уражанне ад рынку яшчэ не прайшло. Цікава было агледзець усё. Ён не адважваўся папрасіць таварышаў, каб разам з імі ісці на рынак, а адзін баяўся адыходзіць далёка ад хаты.

Сумна было на кватэры: адзінае акно выходзіла на вузкі, гразкі і пустынны завулак. Ля акна стол. З абодвух бакоў два ложкі: адзін належаў братам Корзунам, другі Белцы і Цімчуку. Пятрусь, Корзун старэйшы, сядзеў ля стала і не вымаў з акна галавы. Ён глядзеў і пазнаваў па конях, хто праехаў, знаёмы ці чужы. Сваіх суседзяў ён таксама пазнаваў па конях. Малодшы Корзун — Колька, нахіліўшыся над сталом, чытаў. Ён зрэдку адрываўся ад кніжкі і, ласкава ўсміхаючыся, гаварыў брату:

— Ну, як ты пазнаеш па кані, Пятрусь? Хіба па масці?

— Ты дурань! — злосна адказваў Пятрусь.— У кожнага каня свая морда, ты толькі прыгледзься. А вунь Мацвей з Вярбінкі праехаў.

Колька зірнуў у акно.

— І зусім не Мацвей! — смеючыся, сказаў ён.— Ну, глянь жа!

Пятрусь пачырванеў.

— Няхай сабе і не Мацвей, а конь яго!

— А хто ж на Мацвеевым кані паедзе?

— Можа, Мацвей прадаў свайго каня, а можа, яго ўкралі? — горача абараняўся Пятрусь.

Ігнасю хацелася падтрымаць Кольку. Не падабаўся яму даўгатвары Пятрусь. Адразу прыкметна, што хлопец з хітрыкамі. А Колька хоць і непрыгожы, а добры. Гэта па смеху відаць: смех яго ласкавы. Белка Антось — вялікагаловы і шыракароты хлапец з вачамі па яблыку — стаяў крукам над сваім куфэркам, перакладваў кнігі і сшыткі, вымаў торбачкі і клуначкі, круціў іх у руках, не ведаючы, дзе падзець, потым зноў клаў у куфэрак, потым зноў вымаў.

«Што гэта за праца такая? На якое ліха поркаецца ён, нібы кура на сметніку? — думаў Ігнась, паглядаючы на Белку.— Ці гэта ён ад сарамлівасці?» Што такія рэчы бываюць, Ігнась ведаў. Сам ён, не надта сарамлівы ад прыроды, адчуваў сябе ў гэты дзень крыху ніякавата. Толькі адзін з яго чатырох таварышаў быў нічым не заняты: Цімчук Толя. Ён ляжаў на сваім ложку, заламыўшы рукі пад галаву, і маўчаў. Прыгожы ён быў хлапец: круглы, сінявокі, курносы, як дзяўчынка. Але яго прыгажосць Ігнасю не спадабалася: «Занадта ты прыгожы, браце, мабыць, у маму ўдаўся»,— і засмяяўся ад такой думкі.

Пачало цямнець. Колька закрыў кнігу і палажыў яе ў столік.

— Пакінь, Пятрусь. Ужо цёмна, хто цяпер будзе ехаць! — сказаў ён брату.

— Не твая справа. Ты не ведаеш, чаго я гляджу.

Цімчук засмяяўся тоненька, па-дзявочы. Белка грымнуў смехам на ўвесь свой шырокі рот, і Ігнась не вытрымаў.

— Ну дык чаго ж ты глядзіш? — запытаў ён у Петруся.

Пятрусь пачырванеў. Гэты хлопец чырванеў часта амаль без прычыны.

— А чаго ты сядзіш?

— Бо лажыцца спаць яшчэ рана.

— Ну дык і сядзі сабе,— сказаў Пятрусь і пайшоў з хаты.

Ён жвава вярнуўся і паведаміў, што на рынку ўжо зачынілі крамы, кірмаш скончыўся, і гаспадар прыйшоў

дадому. У гаспадарскай палавіне пачуліся крокі. Сям'я пачала збірацца на вячэру. Хлопцы таксама пасмялелі, і пачалася гутарка.

Колька сеў каля Ігнася і расказаў яму, што гаспадар іх Алтар Сапун ба-агаты! Ён мае краму на рынку ў цагляным радзе. Так завецца цэлая вуліца цагляных крам у адрозненне ад другой вуліцы, драўлянай. У тым драўляным радзе размясціліся бяднейшыя гандляры; яны прадаюць гузікі, фарбу і іншую дробязь. А ў цагляным у кожнай краме асобны тавар: жалеза, абутак, мануфактура. Тут і крамы называюцца завялічана — магазінамі. Гаспадар Алтар Сапун гандлюе мануфактурай. Акрамя таго, ён трымае кватарантаў-вучняў. Колька нават ведаў, што ў вялікім Алтаравым доме ёсць яшчэ адзін вольны пакой, але яго няма каму заняць, бо ў мястэчку мала служачых. Ігнась з павагай глядзеў на свайго новага таварыша і быў удзячны яму за ўвагу.

— А адкуль ты, Ігнась? — пацікавіўся, нарэшце, Колька.

— Я з Загалля. Наша вёска ля балота. Тое балота вельмі вялікае, яно злучаецца з Пінскім балотам.

— А мы з хутара, у лесе жывём. А от Белка ды Цімчук кажуць, што ад іх вёскі да лесу чатыры вярсты. Дзіўна, як яны жывуць сярод поля.

— Чаму? — запытаў Ігнась.— А ім дзіўна, як мы жывём у лесе, ды яшчэ сярод балота. Дзе хто жыве, там яму і добра, бо ён прывык там.

— Гэта-то праўда. А чым твой бацька за кватэру плаціць?

— Сенам. Тата казаў, што сенам. У нас сена многа!

— А мы дрывамі. У нас дровы пад носам. А от Белка і Цімчук плацяць хлебам.

— Так і трэба. У нас многа сена, у вас дроў, а ў іх хлеба.

Усе засмяяліся, і Ігнась адчуў, што гэты смех канчаткова зблізіў усіх.

Калі сцямнела, запалілі каганец, і Пятрусь бесперапынна прыдумваў розныя фокусы і прасіў, каб у іх прымалі ўдзел хлопцы, але ўсе адмовіліся. Тады ён сеў на ложак і пачаў апавядаць пра свае прыгоды. Ілгаў ён неміласэрна, а Колька саромеўся і заўважаў:

— Ну, нашто казаць пра тое, чаго не было. Ты ж і сам ведаеш, што хлусіш.

— Я хлушу? Калі ж гэта я хлусіў? Гэта ж шчырая праўда!

Ігнась цяпер канчаткова ўпэўніўся, што Пятрусь дрэнны таварыш, і з ім трэба быць асцярожным.

— Выйшаў я раз на сенажаць, гляджу — валяецца кавалак хмары так памерам з шапку. Я хутчэй дадому, схапіў кошык ды бягом. Думаю — забяру ў кошык ды пакажу дзеду і Кольку.

— Ну, якая ж гэта праўда?

— А хіба ж ты забыўся? Помніш, я табе расказваў таго ж самага дня.

— Ты і тады хлусіў.

Збянтэжаны Пятрусь на хвіліну спыніўся. Цімчук захіхікаў, а Белка задраў галаву і зарагатаў так, што не вытрымаў і Ігнась.

— Дык і ты не верыш? — нечакана звярнуўся да яго Пятрусь.

— Хто ж паверыць такому глупству.

— А ты ж паляшук з-пад Пінскіх балот.

— Ну дык што! Палешукі не такія дурні, як ты.

— Я і сам ведаю, што яны разумныя! Ніякі дурань не дагадаўся б падняць на дуб вала, каб там прымераць, ці выйдзе з дуба ярмо.

— Табе толькі ярма і не хапае. Прыедзь да нас, адзенем.

— Мо навучыце, як і соль сеяць?

— Навучым, ты здольны.

— А галава ці была ў старасты?

— У старасты была, а ў цябе-то няма!

Усе хлопцы засмяяліся, і Пятрусь зноў пачырванеў.

— Ён у нас такі хлус, што яму ўжо ніхто не верыць,— сказаў Колька.

— Балазе ты не хлус... Ты ў нас ого-го! — шчэрыў зубы Пятрусь, але яго ўжо ніхто не слухаў.

Спаць леглі рана. Ігнась быў поўны ўражанняў ад усяго бачанага і чутага за гэты дзень, хацелася супакоіцца і прадумаць усё падрабязна. Але як лёг, нечакана заснуў і нічога не прадумаў. Ноччу прачнуўся і засумаваў. Усё-такі не дома. Злез з ложка і ў цемры ледзь адшукаў акно; прыліп да напацелай шыбы. За акном былі такая ж самая цемра і чужына. Невядома ад чаго стала горна. Лёг, накрыўся з галавой і крыху паплакаў. А ўсе

спалі і храплі рознымі галасамі... За шыю нешта ўкусіла і пабегла па грудзях.

Круціўся без сну да раніцы. А як толькі пачало світаць, ужо быў на нагах. Ён не мог дачакацца тае шчаслівае хвіліны, калі прыйдзе ў школу.

Хлопцы збіраліся вельмі марудна. Колька старанна ўкладваў у сумкі кніжкі і сшыткі. Чарнільніцу ён абгарнуў паперкай, абвязаў шнурком, пабоўтаў у руцэ і, толькі ўпэўніўшыся, што з яе не выльецца, палажыў у кішэню. А Ігнась даўно стаяў ля дзвярэй і чакаў таварышаў. Нарэшце сабраўся і самы непаваротны — Белка.

Каб трапіць у школу, хлопцы перайшлі завулак, рынак і доўгую Крапівінскую вуліцу. Па дарозе яны дагналі шмат вучняў. Малодшыя неслі свае сумкі за плячамі, а старэйшыя — пад пахай. Хлопцы весела гутарылі па дарозе, і Ігнасю вельмі хацелася ўставіць у іх гутарку і свае слова, але не было зручнага выпадку.

Колька Корзун крыху адстаў ад таварышаў і пайшоў поруч з Ігнасём.

— Ты ж, Ігнась, яшчэ не запісаўся ў школу?

— Тата ўчора быў у загадчыка.

— Тата адно, а ты другое. Сёння трэба самому зайсці. А ў якую групу ты сядзеш?

— У пятую.

— Дык ты ў пятую!..— з сумам сказаў Колька.— А я думаў, у чацвёртую.

— Дык што?

— Разам бы вучыліся, бо я ў чацвёртай. Наш Пятрусь у пятай, але з нашым Петрусём ты не ўдружыш.

— Нічога, Колька, усё роўна мы будзем з табою дружыць. На кватэры ж мы разам, а ў школе хоць і не разам.

— А я з Цімчуком сяджу на адной парце, але ж ён такі гультай, што з ім дружыць не хочацца. Белка Антось добры хлопец, але ж ён з аднае вёскі з Цімчуком, дык яны і трымаюцца адзін аднаго. Сумна тут, Ігнась... Дадому хочацца, асабліва ў суботу. Я хадзіў бы дадому па суботах, але тата сварыцца, нашто, кажа, боты таптаць. А нашаму Петрусю ўсюды весела.

— Прывыкнеш, Колька! — спрабаваў супакоіць таварыша Ігнась, але ў словах яго не было шчырасці: сум па дому закраўся і ў яго душу. Так у гутарцы непрыкметна прайшла дарога.

Велічыня школы канчаткова здзівіла Ігнася, бо за сваё жыццё ён не бачыў будыніны, большай за гумно Рыгора Патапчыка.

Гэта быў вялікі масіўны будынак з цэлым лесам комінаў на страсе.

На шырокім двары гулялі вучні, і ўсе Ігнасёвы таварышы ўліліся ў іх грамаду.

— Ідзі, ідзі, скардзіся, ябеда! Мала я дбаю, што ты пажалішся.

— А чаго ты б'ешся ў жы-во-о-от!

— Я толькі дакрануўся, а ён ужо і завыў.

З настаўніцкай Ігнась вынес нямала ўражанняў. Яго запісаў у школу вусаты настаўнік, у якога не было левай рукі. Са слоў настаўніка ён запомніў толькі тое, што ён спазніўся ў школу на два тыдні і яму трэба даганяць таварышаў.

У класе Ігнася стрэлі як рэдкага заморскага звера: прабавалі сукно на світцы, смяяліся з вялізных бацькавых ботаў, а адзін нават памацаў, ці здаровыя цяглі-цы. Гэты смяльчак быў нізкі і таўсты. Яго звалі Ключэня.

Беліцкі Юзік, высокі рыжы хлопец, паказаў Ігнасю месца на самай задняй лаўцы. Ігнась хацеў пярэчыць, але палічыў, што ўсё роўна ніхто яго не паслухае. Ён сеў на сваё месца, а цікаўныя не разыходзіліся.

— Адкуль ты, хлапчына? — запытаў яго Беліцкі.

— З Загалля. Чуў пра такую вёску? — Ігнась адказваў сур'ёзна, не разумеючы, што з яго смяюцца.

— Як не чуў! Пра яе ўсе чулі! Гэта ж у тым баку, дзе стараста спаў у мядзведжай бярлозе!

— Там, там! — адказаў другі,— ды яму мядзведзь галаву ад'еў.

Хлопцы пад агульны смех расказвалі казку пра палешукоў, з ліку тых казак, дзе гаворыцца, як палешукі сеялі соль, рабілі «смехаўё» і г. д. Ігнась зразумеў, што ўсю гэтую музыку падрыхтаваў Пятрусь, пакуль ён быў у настаўніцкай.

— Дык, значыць, ты палешучок? — папытаў яго адзін хлопец надзвычай тонкім голасам.

Ігнась вырашыў прамаўчаць.

— Дык табе цяляты язык аджавалі, ці што? — паўтарыў ён пытанне такім глыбокім басам, што Ігнась зарагатаў.

— Ого-го! Паляшук смяяцца ўмее! А банькі табе паставіць? — Хлопец памкнуўся выканаць свой намер, але не паспеў. Ігнась устаў, узяў яго за карак і сагнуў так, што той ілбом дастаў падлогі.

Усе моўчкі назіралі за такім дзівам, бо ніхто не чакаў, што ціхі паляшук, які толькі прыйшоў у клас, асмеліцца каго-небудзь зачапіць.

— Ну што? А цяпер скажы, як цябе завуць?

Смех, як гром, пракаціўся па класе. Тоўсты Ключэня аж ухапіўся за парту, каб не паваліцца.

— Валодзя, пакажы спектакль! — крычаў ён сагнутаму хлопцу.

— Як адчуваеш сябе, Хаміцэвіч? — пытаў Беліцкі.— Гэта, мабыць, мудрэй за твае банькі!

Патрымаўшы крыху Хаміцэвіча, Ігнась нарэшце выпраставў яго.

— Ну от, мы з табой пазнаёміліся,— сказаў ён.— Мяне завуць Ігнась Марыніч. Ну як, хопіць з цябе?

Хаміцэвіч моўчкі сеў на сваё месца, Ігнась пайшоў на сваё. Ён пачуў, як нехта сказаў:— Малайчына, Марыніч! — але хто гэта сказаў, ён не ведаў.

Ігнасёвым суседам аказаўся Нічыпар Сокур, сарамяжы хлопец. На плоскую яго галаву, як гарох, сыпаліся пстрычкі. Пстрыкалі ўсе, хто не ленаваўся, але Нічыпар зносіў здзекі цярпліва і без скаргі.

Больш за ўсіх у класе бушаваў Ключэня. Ён спачатку выклікаў усіх дужацца, потым, сарваўшыся з месца, схапіў анучку і пачаў лупцаваць ёю направа і налева.

У гэты час празвінеў званок. У клас увайшла настаўніца. Вучні зарыпалі партамі і ўсталі. Ігнась, вучачыся дома па хатах, быў незнаёмы са школьнымі парадкамі і ўстаў апошні.

— Садзіцеся, дзеці! — сказала настаўніца.

У класе стала ціха, толькі шамацела папера ў падручніках. Ігнась пачаў разглядаць настаўніцу: «Стараватая ўжо — валасы сівеюць, але з выгляду яшчэ маладжавая. Барадаўка на левай шчацэ. От чорт, куды села! Вочы добрыя, мабыць, нязлосная... Нос крышку гарбатаваты, губы строгія. Пальцы тонкія і доўгія».

Настаўніца пачала тлумачэнне ўрока, і Ігнась на хвіліну аж пакінуў дыхаць: ён глядзеў проста ў рот настаўніцы. «Кірункі ветру, бач ты яго. Флюгер... Дзе гэта я чуў пра флюгер?» Цяпер ён не цікавіўся настаўніцай. Ён

нават забыўся пра яе. Новыя, дасюль нячутыя словы прыкавалі яго ўвагу, і ён увесь аддаўся ім. Настаўніца адразу заўважыла гэтага хлопца, які сядзеў з шырока раскрытымі вачамі і не зводзіў з яе позірку.

— Гэта вы Марыніч? — запытала яна.

— Я,— адказаў Ігнась.

Нічыпар штурхануў яго:

— Устань, Палессе.

— Што вы ведаеце па геаграфіі?

— Нічога,— прызнаўся Ігнась,— акрамя таго, што вы тлумачылі.

— А гэта ведаеце?

— Ведаю.

— Раскажыце.

Ігнась перамог хваляванне і пачаў гаварыць аб флюгеры, аб кірунках ветру, аб усім, што ён чуў ад настаўніцы.

— Сядайце. Вельмі добра. Цяпер вам застаецца падагнаць стары матэрыял. За тыдзень падгоніце?

— Падганю! — радасна адказаў Ігнась.— «Я за тры дні падганю»,— падумаў ён. У яго раптам з'явілася думка не толькі дагнаць таварышаў, але і перагнаць іх. Няхай ведаюць палешука!

— Нічыпар, як завецца настаўніца?

— Наталля Васільеўна. А ты цішэй, а то разявіў рот, як у лесе.

Гэтыя словы крыху ахаладзілі Ігнася, але ненадоўга. Мары зноў авалодалі ім, і калі скончыўся ўрок, ён усё сядзеў нерухома і нічога не бачыў перад сабой.

— Задумаўся нешта наш паляшук,— зазначыў нехта. Але задзіру ніхто не падтрымаў.

Ігнась толькі тады ачнуўся, калі пачаўся другі ўрок. Ля століка стаяў настаўнік. Гэта быў той самы, што запісваў яго ў школу. Ігнась цяпер добра разгледзеў яго і прыкмеціў, што на губах настаўніка заўсёды блукае стомленая ўсмешка, і ён стараецца захаваць яе, і ад гэтага варушыцца левы вус. Настаўнік сеў за стол, прагледзеў класны журнал, потым устаў, узяў анучку, двума ўзмахамі выцер дошку і напісаў на ёй нумар задачы.

— Пятрусь Корзун! — выклікаў ён.

Пятрусь нібы спужаўся, але ўпэўнена падышоў да дошкі.

— Тэкс! — сказаў настаўнік. Ён вельмі лоўка пачаў гартаць задачнік, потым схіліўся над ім і нібы застыў. І левы вус супакоіўся. Потым заварушыліся абодва.

— Тэкс! — паўтарыў ён і зірнуў на Петруся.— Задача 457, старонка 49. Корзун будзе рашаць ля дошкі, а астатнія ў сшытках. Дома будзеце рашаць чатырыста пяцьдзесят восьмую. Парадак развязвання задач такога тыпу я ўжо вам тлумачыў.

— А вы куды, Тарас Ігнатавіч? — запытаў Беліцкі.

— Мяне выклікаюць у валвыканком па нейкай неадкладнай справе. Я, дзеці, магчыма, хутка вярнуся.

— Не вернецеся! — упэўнена і смела адказаў Беліцкі.— Мы ўжо ведаем, як вы вяртаецеся, калі вас выклікаюць у валвыканком.

— Магчыма, што і не вярнуся,— вінавата адказаў настаўнік.— Мабыць, пашлюць некуды ў воласць.

— А вы не едзьце. Няхай пашлюць Васіля Андрэевіча.

— Нічога, дзеці. От прыйдзе зіма, і мы возьмемся за вучэнне.— І Тарас Ігнатавіч, прыгнуўшыся, пайшоў да дзвярэй.

— Узяў дурную моду выканком нашага загадчыка адбіраць,— заўважыў Беліцкі.— Ну, дзеткі, за працу. А ты, Корзун, варушыся там.

Цішыня ў класе трымалася нядоўга. Ключэня заёрзаў на лаўцы і азірнуўся назад. Потым перагнуўся цераз заднюю лаўку, а ногі яго пры гэтым ляглі на сваю. Ён ледзь дастаў пстрыкнуць Сокура і ў гэты ж момант папхнуў нагою чарнільніцу. Беліцкі яму паставіў за гэта баньку. Ключэня зморшчыўся і супакоіўся. Ён нават пачаў спісваць з дошкі задачу, але тут Корзун нечакана выцер дошку і пачаў рашаць нанова.

— Што ж ты робіш? — вызверыўся на яго Ключэня.

— Па адказу не выходзіць,— растлумачыў Корзун.

— А, Петрык, не выходзіць. Гэта табе не спектакль паказваць!

Хлопцы кпілі з беднага Петруся, як маглі. Хаміцэвіч рознымі галасамі задаваў яму пытанні:

— А што, Петрык, гарбату піў? Вось размяшай два гатункі чаю, што змяшалі купцы.

Пятрусь, спацелы, чырвоны, нялоўка круціўся ля дошкі і хацеў нешта сказаць, але яго не слухалі. Клас стагнаў, вохкаў, іржаў, качаўся ад смеху на лаўках.

Янка Ткачук — хлопец, які сядзеў уперадзе Ігнася, павярнуўся да яго, потым узяўся за гузік Ігнасевай світкі і запытаў:

— Што гэта ў цябе на світцы?

Не паспеў Ігнась прыгнуцца, як ён ужо ўплёў яго за нос.

— Ну, а цяпер што? Дуб ці вяз?

— Дуб.

— Ну, дык цягну да губ.

— Пусці!..— раззлаваўся Ігнась.

Янка ўсміхнуўся і выпусціў яго нос.

— Ведаеш што, дурніца, я табе магу ў рыла заехаць.

— Заедзь, то пераначуеш. А наконт дурніцы, то яна іншы раз едзе на разумніцы.

— Ну? Ці не ты яе возіш?

Янка засмяяўся:

— На пяцёрку, Марыніч! Малайчына ты, брат ты мой! — і ён падаў руку.

Ігнась паціснуў яе і здагадаўся, што і ў мінулы раз яго назваў малайчынаю не хто іншы, як гэты хлопец. Нарэшце Пятрусь зусім адмовіўся ад задачы. Ён старанна выцер дошку, пакруціў у руцэ крэйду, паспрабаваў нешта пісаць ёю, але махнуў рукою і сеў на месца. Гэта было нешта незвычайнае: Корзун — лепшы матэматык, не рашыў задачы! Тут Беліцкі і падкрэсліў, што старшынства ў класе належыць яму.

— Цішэй! — крыкнуў ён, стаўшы ля стала.

Шум на хвіліну сціх і аднавіўся з новай сілай.

— Цішэй, я кажу! — і калі крыху пацішэла, дадаў:— Ну хто там яшчэ не зачыніў сваё горла! То я анучкай заткну. Ключэня, прыпомні ўчарашні дзень! Хаміцэвіч, якім ты голасам заплачаш, калі я цябе пагладжу!

Стала ціха. Дзяўчаты з павагай глядзелі на Беліцкага. Ён бачыў гэта і намерыўся не здаваць пазіцыі.

— Ну, хто зойме месца Корзуна? — запытаў ён.

— А ты сам, Юзік! — хітра зазначыў Янка Ткачук.

— Я? Магу і я... але справа не ў тым... А вось ты паспрабуй.

— Ну дзе ўжо мне!

— Я рашу гэтую задачу,— спакойна адказаў Ігнась.

— Ты?! — Беліцкі недаверліва зірнуў на Ігнася.— Ну ідзі, пабачым, як ты будзеш рашаць.

Вучні правялі Ігнася да дошкі насмешкамі.

Беліцкі мнагазначна ўхмыляўся, але на Ігнася гэта не падзейнічала. Ён смела заняў Петрусёва месца, і не паспелі хлопцы азірнуцца, як Ігнась рашыў задачу.

— А па адказу? — запытаў Пятрусь.

— Ну, а як жа! Па адказу і выйшла!

У часе вялікага перапынку хлопцы прайшлі па ўсіх класах, пабылі ў агульнай зале і к пачатку ўрока вярнуліся ў клас. Неўзабаве прыйшоў і новы настаўнік. Быў ён лысы і худы, абуты ў вялікія боты, памазаныя дзёгцем.

— Добры дзень! — сказаў ён, стаўшы ля століка.

— Добры дзень! — грымнулі вучні, і ад іх крыку ў вокнах задрыжалі шыбы. Настаўнік заткнуў пальцамі вушы і, як ашпараны, выскачыў у калідор. Неўзабаве ён вярнуўся і зноў прывітаўся, і ў адказ яму яшчэ мацней і дружней закрычалі вучні. Настаўнік зноў памчаўся ў калідор.

— Што гэта такое? Чаго ён бегае? — звярнуўся Ігнась да Нічыпара.

Захлёбваючыся смехам, Нічыпар растлумачыў, што «Галубок» не любіць, калі з ім моцна вітаюцца, а вучні назнарок крычаць.

— А што, цікава? — запытаўся ў Ігнася Ткачук.— Гэта, брат ты мой, для цябе такая фацэцыя.

— Цікава, ды не вельмі. А калі ж вучыцца?

— А вось хутка і вучыцца будзем.

Трэці раз настаўнік не прывітаўся. Ён трымаў ля носа хустачку і, прыгнуўшыся, крочыў да стала. На хустачцы чырванелі крывяныя плямкі. Ігнась заўважыў іх.

— Эх, вы! — сказаў ён Ткачуку і Нічыпару.

Настаўнік не спыніўся ля стала. Ён наогул не спыняўся, а ўвесь час крочыў па класе. Сківіцы яго трэсліся, і ўсё худое цела нервова калацілася.

— Так вітаюцца салдаты, а не вучні,— сказаў ён скрыпучым старэчым голасам, затыкаючы ватай вушы.

Потым ён надзеў акуляры, зірнуў на Ключэню і паказаў на яго пальцам.

— Вы, як вас? Ты, здаецца, галубок, моцна крычаў. Ідзі да дошкі, галубчык... Галасок нішто сабе. Раскажыце мне, голуб, пра кісларод.

Ключэня задзірыста стаў ля стала.

— Кісларод...— пачаў ён і зморшчыў лоб, як гармонік.— Гэта... гэта горная парода. Ён складаецца...

— Як, галубчык? — перабіў настаўнік.— Горная парода і складаецца? Ну то гэта, мабыць, гадзіннік. Го-орная парода? Можа, граніт або гнейс?

Клас пухнуў ад смеху.

— Галубчык, як табе не сорамна! Ідзіце на месца, малады чалавек.

Ключэня павярнуўся, непрыкметна для настаўніка паказаў хлопцам язык і фанабэрыста пайшоў на месца. Васіль Андрэевіч крочыў па класе.

— Ну вось вы! — выклікаў ён Хаміцэвіча.

Хаміцэвіч устаў.

— Я, Васіль Андрэевіч, мінулы раз не быў на ўроку і не ведаў, што нам задалі.

— Кісларод, галубчык, кісларод.

— А я і не ведаў, што кісларод.

— Не ведаў, а то абавязкова вывучыў бы?

— Вывучыў бы, Васіль Андрэевіч! — жаласна гаварыў Хаміцэвіч.

— Бедны ты мой! І не было ў каго запытаць?

Клас ужо набухаў, бо стала вельмі ціха.

— Не было, Васіль Андрэевіч...— яшчэ жаласней застагнаў Хаміцэвіч і ўсхліпнуў.

Па ўсіх кутках класа прабег смяшок, а Хаміцэвіч аж заміргаў вачамі і пусціў слязу.

— Галубок! Як табе не брыдка дурыць мне галаву. Абібок ты, гультай і хлус. Галубчык! Ты думаеш, што я табе адзнаку не пастаўлю. Вельмі дрэнна, голуб, вельмі дрэнна. Сядай.

— Вельмі дрэнна, вельмі дрэнна! — паўтарыў басам Хаміцэвіч і сеў.

Тут ужо не смех, а проста ржанне пракацілася па класе. Настаўнік, прыхінуўшыся да акна, ні то засмяяўся, ні то заплакаў, бо выцер хустачкаю вочы...

На ўрок беларускай мовы прыйшоў настаўнік Дубоўскі Хвядос Іванавіч. Ён быў у кажушку і ў валёнках са старымі галёшамі. Галава яго была паголеная, мусіць, таму, што на ёй расло вельмі мала валасоў. На носе сядзелі акуляры, і праз іх блішчалі ласкавыя вочы.

— Не зварочвайце ўвагі, дзеці, на мае валёнкі,— сказаў ён.— Сёння нешта мне нездаровіцца.

Ігнася здзіўлялі адносіны вучняў і настаўнікаў. Між імі адчувалася нейкая таварыскасць. Ледзь прыкметная, але яна была. Яе можна было ўлавіць і ў словах Тараса Ігнатавіча, і ў тлумачэнні Наталлі Васільеўны, і ў прызнанні Хвядоса Іванавіча. Васіль Андрэевіч не ішоў у лік.

Хвядос Іванавіч адразу заўважыў Ігнася.

— Ага! Новы вучань! — сказаў ён.— З якое вёскі?

— З Загалля.

— Добра, вельмі добра. Пачытайце сённяшні ўрок.

Ігнась першы раз чытаў па-беларуску, але настаўнік яго пахваліў. Ён, здаецца, быў рады, што Ігнась, хлопчык з Палесся, прыехаў вучыцца. А Ігнасю здалося, што ён значна вырас за гэты дзень.

## 5

Кантора лясніцтва стаяла пры рацэ Расе.

Сціснутая ў высокіх берагах Раса тут згіналася ў тры пагібелі. Абягала ледзь не ўвесь астравок, парослы хвойнікам. Выкаціўшыся на луг, разбягалася па ім трыма рачулкамі ў розныя бакі. Віратлівыя гэтыя рачулкі вярсты са тры каціліся па адной, потым зліваліся разам ужо за лугам, у густым альховым лесе.

Кантора з трох бакоў была абкружана хвойнікам. Яна стаяла фасадам да ракі, і вялікія вокны яе, аздобленыя разьбой, як цудоўныя вочы, паглядалі на гэты свет. Не вельмі даўно гэты будынак належаў пану Ёдку і быў яго летняй рэзідэнцыяй.

Калі Алесь пад'язджаў да канторы, на дварэ ўжо было падобна на дзень. Як далёкае зарыва ледзь ружавеў усход. Свежы ветрык лёгкімі хвалямі патыхаў ад ракі. Бляднелі зоры, і на празрыста-сінім небасхіле збіраліся кашлатыя воблакі. Цемра ўвачавідкі радзела. У лесе яшчэ было цёмна, але, выехаўшы на паляну, Алесь здалёк убачыў сілуэт канторы. У адным акне мігцеў скупы агонь.

«Не іначай стары Змітрок лапці пляце або лыжкі робіць»,— здагадаўся Алесь і падагнаў Гнядога.

Даехаўшы да плота, Алесь спыніў каня, прывязаў яго да слупа, кінуў шматок сена і пастукаў у дзверы.

— Хто там такі ранні? — пачуўся з-за дзвярэй голас.

— А гэта я! Дровы вазіць прыехаў.

— Ага! Ты, Алесь? — Зміtрок адчыніў дзверы.— Рана ты сёння. Ляснічы яшчэ спіць. Заходзь, чалавеча.

— А я думаў, што тут нехта другі заняў маё месца,— прызнаўся ўзрадаваны Алесь.

— Ды не, што ты! Пайду разбуджу самога.

— Нашто! Няхай спіць, ён мне не трэба.

— Табе не трэба, а яму самому трэба. Учора і прыйшоў позна, а сёння хоча і ўстаць рана.

Змітрок па-старэчы пайшоў да дзвярэй.

Алесь згарнуў цыгарку, але сядзець болей не мог. «Пайду, дарогу працераблю... Хутка развіднеецца»,— думаў ён. Злосць на Патапчыка пачала праходзіць. «Ліха на яго, абы мая праца не прапала». Устаў і прайшоў па старожцы, глянуў у акно. Гняды жаваў сена. Пашкадаваў каня: «Мала ён адпачнуў сёння». І не вытрымаў, пайшоў, не прычакаўшы Змітрака і ляснічага.

На дварэ пасвятлела. Алесь сеў на воз і паехаў паціху з поўнай надзеяй, што цяпер дровы ад яго нікуды не ўцякуць. Успомніў, што трэба пераязджаць гразкі брадок, і падагнаў каня. Брадок перарэзваў дарогу, і абмінуць яго было ніяк немагчыма. «Загачу крыху ядлоўцам,— падумаў Алесь,— і ліха яго не возьме». Ля броду спыніўся і пачаў секчы ядловец. Працавалася ахвотна: падбадзёрвалі здаровая раніца і вясёлыя думкі. Прыгадаў, што гадоў дзесяць назад сек у гэтым самым месцы ядловец для вяндлярні пана Ёдкі. Па дзве капейкі за воз і вазіць на сваім кані. Тады яшчэ вараная была... добрая кабыла. Дзесяць вазоў насек і прывёз, зарабіў саракоўку. Вось якое было жыццё! Сеў, пакурыў, чакаючы святла, і, калі развіднелася, заслаў усю гразь ядлоўцам. «Крыху сёння, крыху заўтра. Пакрысе, а і сабе добра і людзі падзякуюць». Да самых дроў даехаў не спыняючыся: дарогу працярэбліваць не прыйшлося. Пассякаў там-сям лішнія дрэўцы, каб не заміналі ісці ля воза, пазбіваў на хаду трухлявыя пеньчукі і наклаў воз. Добры воз! Не такі, як калісь для пана, а як для сябе. Гняды аж упяўся крыху, пакуль з месца крануў, але нічога, павёз.

Прыгожа было ў лесе: ціха і неяк урачыста, як наогул бывае восенню. Шчабятнуў снегірок, саскочыўшы з галіны на дарогу, клюнуў разы два, пакруціўся, лоўка па-вераб'інаму падскочыў, узляцеў і знік у кустах. Чыр-

ванагрудая жаўна дзеўбанула кару на сухім явары, узляцела вышэй, яшчэ раз дзеўбанула: не спадабалася, абцерла дзюбку. Ля самай дарогі свіснуў рабчык. Алесь адказаў яму. Пазнаў, што не таварыш, пырхнуў цераз дарогу, як круглы каменьчык. Алесь пашкадаваў: «Эх, стрэльбы няма! Мяса само ў рукі ляціць». Недзе ў гушчарніку зазваніў дзяцел, і пошчак пайшоў па лесе. У адказ яму скрыпнула сухая бяроза, і зноў стала ціха. Толькі зверху, дзе хісталіся верхавіны-венічкі стромкіх сосен, ішоў ціхі маркотны шум, ды трапяталіся і шалясцелі лісточкі асін ды бяроз. Адрываліся і, кружачыся, як матылі, падалі на зямлю.

Пад вечар Алесю захацелася есці. Абедзенная пара даўно ўжо прайшла, але ён забыў пра полудзень. Ён ужо згодзен быў і да вечара працаваць не еўшы, але трэба было даць адпачынак каню. Алесь выпраг Гнядога, завёў яго на сенажаць на атаву, стрыножыў, сам сеў тут жа ля стога і дастаў з торбачкі хлеб. Сенажатка была блізка ля дроў. Лясок тут быў рэдкі, адзін яворнік, бо бярэзнік высеклі на дровы суседнія сяляне, і Алесь праз прагалак бачыў і дровы і свае драбіны ля іх. «Няўдалыя драбіны,— разважаў ён,— да зімы яшчэ паслужаць, а за зіму трэба новыя справіць, каб вясной было на чым ездзіць... ды жарабё купіць». Ён глянуў на Гнядога. «Стары, падла, як грыб, пакуль што цягне, але калі адкіне хвост, бяда. Жарабё трэба абавязкова. Але ці будзе за што купіць! Ну, скажам, на дрывах я падзараблю, але ж і дзірак шмат на гэтыя грошы... Хоць бы новыя восі купіць... Цяпер у лаўках пустка-пусткаю. Не дастанеш. Хіба ў каваля. Дык яны ж, кавалі гэтыя, здзіраюць цяпер скуру за жалеза. Каня, скажам, падкаваць і то з горам: ні падковы, ні цвічка».

Раззлаваўся: пустую торбачку палажыў у кішэню і пайшоў запрагаць каня.

Надыходзіў вечар. Была пара канчаць працу. Алесь вёз да канторы апошні воз дроў. Па яго разліку, каб перавезці ўсе дровы, трэба было працаваць так, як сягоння, яшчэ пяць дзён. Але ён меркаваў раней выязджаць з дому, не заязджаць у кантору, тады можна было б справіцца за чатыры дні. Каню цяжка будзе, ды і самому нялёгка, але што зробіш.

Змардаваны Гняды ўпінаўся. Алесь крыху пералажыў воз і цяпер дапамагаў каню: ішоў ззаду і на гор-

шых мясцінах папіхаў воз і падбадзёрваў каня ласкавымі словамі.

— Но-но, Гняды, каб ты здароў быў! Напніся, напніся крыху, каб цябе ваўкі не з'елі!

А сам напінаўся не горш Гнядога.

— Яшчэ, яшчэ, Гнядзенькі... Ах, падла чортава, такі стаў! Ну, адпачні хвіліну, каб ты здох малым.

Гняды стаў і зафыркаў. Алесь выцер пот і падышоў, пагладзіў каня. Гняды, як сабака, ткнуўся мордай у гаспадаровы грудзі. «Разумны ты ў мяне, разумны»... Шкада стала. «Ну, пастой, адпачні крыху, браце». Праз некалькі хвілін Гняды напяўся, і воз, перавальваючыся на карэннях, рушыў з месца. Алесь забег ззаду, пхнуў, і паехалі.

Нечакана з кустоў вынырнуў Патапчык. Быў ён без шапкі (трымаў яе ў руках), у ботах з даўгімі халявамі, са стрэльбай і паляўнічай сумкай за плячамі.

— Так і думаў, што Алеся спаткаю! — весела смеючыся, сказаў ён.— Добры дзень ці вечар! Надвор'е такое, што не разбярэш,— ён уплёўся за Алесеву руку і доўга трос яе, потым трымаў у сваёй.— Пачакай, няхай конь адпачне, закурым... Але не, паціху пойдзем. Я таксама да канторы: ляснічага трэба ўбачыць, калі дома ён цяпер.

І ён закрочыў поруч з Алесем і на хаду нязграбна круціў цыгарку.

«Боты мокрыя,— падумаў Алесь, аглядаючы суседа,— не іначай па балоце хадзіў. Чаго ён там шукаў, такі паляўнічы. А сумка пустая. І не брыдка цяпер у вочы глядзець...»

— Ты, мабыць, злуеш, Алесь, што я твайго Ігнася не завёз? — сказаў Патапчык, нібы ўгадаўшы Алесевы думкі.— Я, па праўдзе кажучы, і сам потым пакаяўся, але ж не было як: прыбег ляснічы ўвечар і пристаў як смала: «Завязі мне чалавека ў мястэчка». Нейкае там начальства ў яго было з воласці. Я кажу: добра, аднак я заўтра вязу Алесевага хлопца, то няхай і твой чалавек пад'едзе. «Не, кажа ляснічы, дык і я ж паеду». Тады я кажу, то пашукай сабе другое фурманкі, бо я паабяцаў Алесю. Яму заўтра ехаць нельга, ён павінен твае дровы вазіць. «Ага, кажа ляснічы, гэта глупства, я пачакаю дзень-другі». Добра, кажу я, тады ўмова такая, падрад на дровы не аддавай нікому. Ляснічы — туды-сюды ды

і згадзіўся.— Патапчык зарагатаў: — Ад мяне не выкруцішся, будзь ты хоць сам пан.

Алесь з усмешкай слухаў яго: «Хлус ты, хлус, ды і хлусіш няскладна. Бачыў я, каго ты вёз, толькі не ў мястэчка, а з мястэчка... Ляснічага на возе не было, а сядзеў нейкі прайдзісвет».

— Чаго мне злаваць, Рыгор! Пакуль што свайго каня ваўкі не з'елі, сам завёз.

— Яно, канешне, так. Але ж дровы то лясніцтва магло і другому аддаць. Вунь Герасіменя Сідар у канторы ўсе парогі паабломваў, такі лось, усё прасіўся дровы вазіць, але, па праўдзе кажучы, я за цябе слова закінуў.

«Ідзі ты к чортавай матары,— са злосцю падумаў Алесь,— ведаю я, які ты мне прыяцель»,— але не адказаў нічога.

У брадку Гняды зусім адказаўся везці. Дарэмна Алесь папіхаў ззаду воз і крычаў то ласкава, то злосна. Гняды круціў хвастом і з дакорам паглядаў назад на свайго гаспадара.

— Ты яшчэ азіраешся, падла! Ты яшчэ хвастом круціш, каб цябе з'елі ваўкі! — Алесь азвярэў: злосць, што кіпела ў грудзях на Патапчыка, перайшла на каня.— Я заб'ю цябе, ваўкарэзіна! — ён кінуўся ўбок, каб знайсці замашны дручок, але, як назло, нішто не траплялася на вочы.

— Алесь! Чалавек ты! Пачакай! — Патапчык зняў з плячэй торбу і стрэльбу.— Пачакай, Гняды тут не дасць рады. Воз вялікі, от што! Адвяжы вяроўку! — і, не чакаючы Алеся, ён сам развязаў воз, узяў адно бервяно і панёс яго.— Бяры і ты! — крыкнуў ён Алесю.

Такім чынам яны да паловы апаражнілі воз. Астатнія дровы Гняды лёгка вывез з броду.

— Цяпер і гэтыя пакладзём, тут дарога гладкая.

Пакуль Алесь увязваў воз, Патапчык адвітаўся і пайшоў наперад.

«Чаго ён да мяне вяжацца, ліха яго бацьку і матары яго?» — з глыбокай тугою падумаў Алесь. Яму стала брыдка за злосць на каня: «Ледзь не ўздурнеў, і перад кім! Перад Патапчыкам! Паказаўся дурнем... Ах ты...»

— Но, каб ты здох!

«Ён мне дабро робіць! Ён за мяне слова закінуў. Гэта ўжо ведай ты, што злаваць на Патапчыка няможна,

бо ад яго залежыш». Не ўправіўся ён скінуць дровы, як з канторы выйшаў Патапчык.

— Дзе гэтага ляснічага нячыстая сіла носіць,— сказаў ён і дапамог Алесю скласці дровы.

Дадому ехалі разам. Па дарозе размаўлялі.

— Ці надоўга табе хопіць гэтае працы, Алесь?

— Ліха яе ведае, дзён на пяць, а мо на шэсць.

— Ты, чалавеча, хутчэй канчай. Працы наперадзе шмат. Я табе такія заробкі дам, што век дзякаваць будзеш.

— Якія заробкі? — недаверліва, але з цікаўнасцю звярнуўся Алесь да Рыгора.

— Тады ўбачыш якія. Па праўдзе кажучы, не ад мяне будзе праца, але ўсё роўна як і ад мяне. Я толькі табе кажу, бо ахвотнікаў на лёгкія заробкі да чорта. Ды і ты памаўчы пакуль што. А наша не прападзе, от пабачыш, наша нам будзе! — ён зарагатаў і выцяў Алеся па плячы.— Ды падымі ты галаву! От бо затужыўся!

Алесь крыва ўсміхнуўся.

— Не нуджуся, Рыгор. Натура ў мяне такая.

— Кінь ты натуру! Жыць трэба, чалавеча.

«Ты-то жывеш! — думаў Алесь.— А пра лёгкія заробкі мы ведаем, якія яны лёгкія ў цябе... Мы яшчэ паглядзім на іх ды падумаем».

Але думка пра заробак уелася ў яго душу: «Няхай сабе і не лёгкія, абы яны былі. Дарма грошай ніхто не дае».

Пакуль прыехалі ў вёску, змеркла. Патапчык не захацеў ехаць вуліцай, а пайшоў па загуменнях. А Алесь ехаў і думаў. Ён распрог каня, сеў вячэраць, лёг спаць, і ў вачах яго ўвесь час стаяў сённяшні адвячорак. Ён не мог зразумець, чаму такім сябрам прыкінуўся да яго Патапчык. Патапчык! Такі багатыр, на якога Алесь увесь век парабкуе. І дзе ён бадзяўся, якая хвароба зацягнула яго ў балота. І якая работа ёсць у гэтага прахвоста.

Болей усяго мучылі Алеся дровы. Няўжо ж і сапраўды Патапчык «закінуў за яго слова» ляснічаму. Ён не хацеў верыць гэтаму, бо надакучыла быць залежным, схіляцца перад кожным. Што гэта за жыццё, калі кожны, хто крыху мацнейшы, можа пхнуць цябе ў вір уніз галавою. А калі на зломаны грош ён паспрыяе табе, то ты ўжо так многа яму вінен...

## 6

Аднастайна і сумна праходзілі дні Ігнасёвага жыцця ў мястэчку.

Пасля ўрокаў Ігнась мала куды хадзіў: спяшаўся да змроку вывучыць урокі ды яшчэ падагнаць прапушчанае. Колька Корзун і Антось Белка таксама сядзелі дома, затое Пятрусь і Толя Цімчук толькі начаваць прыходзілі на кватэру. Кожны дзень пасля школы яны вандравалі па мястэчку. Яны ведалі ўсіх гандляроў у абодвух радах — цагляным і драўляным, усіх саматужнікаў, пачынаючы ад каваля Сымона да каналупа Янкель-Давіда, і ўсіх сабак — вартаўнікоў мясных лавак. Гэтых барбосаў з усяе воласці доўга пабойваўся Ігнась і старанна абыходзіў на вуліцы.

На кватэры змрок і сум.

У гаспадарскай палавіне ціхая, але заядлая сварка. З цягам часу яна становіцца шумнай і надакучлівай. Слоў Ігнась не разумее, але па галасах можна пазнаць, што яна ўпартая і невыпадковая. Сварацца гаспадар Алтар і гаспадыня Лея. Часта ўстаўляе пякучыя слоўцы іх дачка Сіма. Справа ў тым, што Сіма ўжо дарослая дзяўчына. Ёй дзевятнаццаць гадоў, і хто скажа, што ёй не пара замуж! Вядома, яна яшчэ не перастарак. Ого, які гэта дурань асмеліцца сказаць такое глупства! Але калі ёсць жаніх, то чаму не ісці за яго. А жаніх ёсць: гэта сын млынара Ісроэла Бірга — Моўша. Біргаў паравік Ігнась бачыў, едучы ў мястэчка. Моўша ўдалы і багаты хлопец; ён ходзіць у драпавым паліто з каракулевым каўняром, а ў суботу апранае хромавую тужурку. Такіх тужурак у мястэчку болей няма.

І разумны! Ён іншы раз, не выходзячы з рамак далікатнасці (ого, ён не свіння!), кажа Сіме, што гарнітур, які яна носіць, ён бачыў на ёй роўна тыдзень таму назад. Хіба ж Сіма такая дурная, што не разумее, на што ён намякае!.. І калі Моўша пойдзе, яна кінецца галавой на падушку і цяжка ўздыхне. І вочы яе пачырванеюць. І з вачэй пальюцца слёзы крыўды і гора... Чаму яна такая няшчасная?! Скажыце, нашто нараджаюцца і жывуць на свеце такія няшчасныя людзі! А хіба маці не бачыць гэтага! Не, матку не абдурыш, не схаваеш ад маткі нічога. Яна ўсё бачыць і ўсё разумее... А тут яшчэ цётка, родная цётка — жонка бацькавага брата Тане-

ля — кажа: «Алтарава Сіма непрыгожая, і адзежы няма людскай, каб адным другое пакрыць».

— Ты чуеш! — крычыць Лея.— Ты чуеш, што кажа Танелева Малачка, ты чуеш?

— Чую, чую,— кажа Алтар.

— Ты чуеш, а сам маўчыш! Ты скажы ёй, што яна нараджала дванаццаць дурніц, і ўсе сляпыя. З трох гадоў акуляры носяць.

— Добра,— кажа Алтар,— я скажу, але ж тады табе не будзе чаго ёй казаць.

— Я не хаджу да гэтай паскудніцы і ніколі не пайду.

Сёння Лея патрабуе ў Алтара крамніны на новы гарнітур для Сімы. У Алтара мануфактурная крама, але ён не дае сукна. Ён скупы, як бяздзетная жанчына. У яго ёсць дарагое сукно лепшага гатунку, тоненькае, як шоўк. Алтар прывёз яго з Лодзі яшчэ ў часы польскай акупацыі. Але ён хавае дарагое сукно. Для каго? І гэтае для каго па сто разоў успамінаюць Алтару і Лея і Сіма. Лея гнеўна і злосна, о! яна мае на гэта права! Ці яна не сядзіць у краме, як тая квактуха, дзень у дзень, ці не зазывае пакупнікоў! Калі гэтая няшчасная крама дае нейкі прыбытак, то толькі праз яе. А Сіма з дакорам і сумам...

— Для каго? — пытае Лея, прыпёршы Алтара ў кут.

Алтар паглядае на сценку і маўчыць. Ён робіць выгляд, што нешта думае.

— Твая дачка ходзіць, як служанка! — шыпіць Лея.

Тады Алтар раптам пераводзіць позірк на Лею і тлумачыць:

— Не вялікая пані, паходзіць!

— З яе людзі смяюцца.

— Няхай смяюцца, каму смешна. Што я буду раты ім затыкаць: не смейцеся, бо мая Лейка не любіць.

О, зараза! О, шэльма старая! Якія ён шпількі ўтыкае пад скуру! Ну як тут вытрываць.

— Ты ж бацька! — узвізгвае Лея, і з рота яе разам са словамі вылятае нешта атрутнае.

— Я бацька, а ты маці,— спакойна адказвае Алтар.

— Для каго, для каго ты хаваеш сукно? — крычыць Лея, бо ў яе ўжо лопнула цярпенне.

— Не твая справа, ідзі к чортавай галаве! — кры-

чыць Алтар, бо і ў яго лопнула цярпенне, і дабаўляе з прыціскам:— Ахмістрыня!

Гэтага слова Лея так не любіць, што, пачуўшы яго, адразу плача. Пачынаецца трагічная частка сваркі. Алтару няма дзіркі, куды б зашыцца. Ён круціцца між двух агнёў — жонкі і дачкі, нарэшце, ускінуўшы на апашкі паліто, уцякае з хаты.

Вечарэе. У хаце ўжо ноч. За акном туман і шэрань. Праз гэтую шэрань ледзь відаць сілуэты дамоў. Пачуццё адзіноты закрадаецца ў Ігнасеву душу. Наплываюць успаміны пра дом, пра родную вёску. Якімі любымі і блізкімі становяцца цяпер і гразкая вуліца, і нізкія хаціны, парканы, плоты, калодзежныя жураўлі. А свая хата! Тыя рудыя сцены, земляная падлога, печ, на якой ляжаў у доўгія зімовыя вечары. А сястрыца Волька. Якая яна разумная і цікаўная дзяўчынка. Як хочацца Ігнасю цяпер пабачыць яе, прытуліць да сябе, пацалаваць яе белую галоўку... Колька і Антось ляжаць на пасцелі і маўчаць. «Аб чым яны думаюць! — угадвае Ігнась.— Ці не пра дом?» Ён лажыцца на тапчан і таксама думае.

— Цяпер у нас паляць у печы,— успамінае Колька, і Ігнасю самому раптам хочацца расказаць хлопцам пра сваю вёску, але Колька прадаўжае:

— І ў коміне гудзе, і вецер гудзе. А лес шуміць-шуміць. У нас пад вокнамі лес. І часамі ваўкі бегаюць ля хаты або выюць дзе блізка. Мама бульбу варыць на вячэру, бацька лапці пляце, а дзед казкі пра ваўкалакаў расказвае.

Ігнась зайздросціць Кольку: у яго ёсць дзед, а Ігнась свайго дзеда не помніць. Які ён быў? Ці ведаў ён казкі?

— Нашай бабулькі сястра,— патаемна заяўляе Колька,— цэлы год ваўком бегала.

Антось насцярожваецца і ўстае: ён цяпер увесь увага і цікаўнасць, бо страшныя казкі ён вельмі любіць.

— Хлусня гэта! — кажа Ігнась.

— Можа, і хлусня. Я ж не ведаю,— пакрыўджана кажа Колька і змаўкае.

— Братачка, раскажы, няхай сабе і хлусня...— упрашвае Антось.

— Раскажы, Коля, чаго там, паслухаем,— не сцярпеў Ігнась.

— Ну дык от, так яна і бегала разам з ваўкамі цэлы год. Толькі да рэчкі ваду піць з імі не хадзіла.

— Чаму? — усхвалявана адазваўся Антось.

— Таму, што з выгляду яна воўк, а ў вадзе яе цень чалавечы. Разарвалі б яе ваўкі.

— Як гэта чалавечы? — захлёбваючыся, не супакойваецца Антось.

— Ну як! Не воўчы яе цень, а чалавечы.

— Ай-яй. Якое страхаццё! Я яшчэ такога не чуў... Гэта ж дзіва!

— Хлусня гэта! — упарта сцвярджае Ігнась і адчувае, што па яго спіне бегаюць мурашкі.

— Можа, і хлусня, я ж сам не бачыў,— згаджаецца Колька.— Гэта дзед расказваў. І калі кончыўся год, прыпаўзла яна да свае хаты ды цераз плот і пералезла на двор... А скура воўчая там на плоце засталася, а яна зусім голая ў хату і прыйшла.

Антось аж здрыгануўся ад страху.

— А скуру яе знайшлі? — пацікавіўся Ігнась.

— Дзе ты бачыў, каб знайшлі! Гэта ж бабульцы здалося так, бо з яе не скура, а закляцце спала.

— А дарэмна ж яна ў хату не прынесла свае скуры. Прадалі б, і грошы проста, як з неба, зваліліся б! — смяецца Ігнась.

Ён зусім не верыў у такое глупства, але і яму стала страшнавата. А Колька расказвае дзедавы казкі пра тое, як чараўнікі пускаюць «стрэч», калі едзе вяселле, як таму, хто тую «стрэч» стрэне, бывае вельмі дрэнна, і шмат яшчэ такога страшнага, што нават у Ігнася вырас страх. Каб прагнаць яго, Ігнась выйшаў на вуліцу. Яго ахутала асенняя вільгаць. Яна разам з паветрам урываецца ў грудзі і, здаецца, ахалоджвае ўсё нутро. Ігнась накіроўваецца да ракі і ідзе ціха, не аглядаючыся. Шырокая гладзь вады палошчацца ля самых яго ног. Навокал нічога не відаць: і мястэчка і прыбярэжны хмызняк за ракой — усё праглынуў туман. Ён такі густы, што, здаецца, яго можна браць і абмацваць, як цвёрдую рэч. Недзе далёка ў канцы мястэчка брэшуць сабакі, і толькі яны трывожаць навакольную цішыню.

Ігнась спыніўся. Усё тут не такое, як у Загаллі. Незнаёмае, непадобнае, чужое. Можа б, яно і не было чужым, каб было знаёмым, каб ведаў, што робіцца за ракой, каб пабыў у многіх хатах...

Сумна... Ігнась пастаяў хвіліну і адчуў холад. Павярнуўся і пайшоў дадому.

На кватэры Пятрусь і Толя Цімчук вячэраюць і наперабой расказваюць пра рынак. Абодва яны чырвоныя, вясёлыя і бадзёрыя.

— Я кажу на Энту,— расказвае Пятрусь.— «Энта, прадай аловак!» А яна кажа: «Тры хунты жыта». А я кажу: «Дай напавер». А яна: «Я цябе зусім не ведаю». А я кажу: «Слухай, Энта, я чалавек сумленны, не ашукаю». А яна (от зараза худая): «Ты, кажа, яшчэ не чалавек, а паўчалавека».

— А ў мяне алоўка няма, хоць пальцам пішы.

— А нашто ж ты прадаў свой аловак? — з дакорам сказаў Колька.

— Прадаў, бо трэба было, і не твая справа.

— Ну дык і пішы пальцам, калі такі разумны.

— Слухай, Коля... А калі твайго напалам разрэзаць...

— Тады ні аднаго не будзе!

— А ў мяне ёсць! — хіхікае Цімчук і вымае тры новыя алоўкі.

— Калі ж ты іх купіў? От хітрэц, разам хадзілі, і я не бачыў.

— Мне Кантаровічыха напавер дала. «Ты чый сын?» — пытае. Я кажу: Цімчука Андрэя. «Ага! — кажа яна,— дык я табе напавер дам, бо я твайго бацьку ведаю». І дала тры алоўкі. Майго тату ведаюць усе! — хваліцца Цімчук.

У Петруся ад зайздрасці разгараюцца вочы.

— Толя,— кажа ён, схіліўшы набок галаву.— Дай мне адзін аловак... Я табе задачу развяжу ці што... Або пераклад...

Цімчук выбірае аловак і аддае яго Петрусю. Пятрусь з выглядам знаўцы, які на алоўках праеў зубы, кінуў яго два разы на стол і сказаў:

— Аловак добры не трымціць, а звініць. Каторы трымціць, дык у ім так і ведай — увесь асяродак пакрышаны. Я ўжо спрактыкаваўся!

— Гандлюючы алоўкамі? — запытаў Коля.— Ты ж і гэты прадасі.

— Калі будзе выгадна, то і прадам.

— Ох, ведаю я тваю выгаду! Праз яе я без сшыткаў застаўся.

— Не бядуй, Коля! Хутка я цябе завалю чыстай паперай!

Антось Белка надзьмуўся і лёг на ложак. Ён злаваўся на Цімчука за тое, што той аддаў аловак не яму, а Петрусю. Але Цімчук хітрэйшы за Антося. Ён, як павук, снуе сваё павуцінне ўсюды, дзе ёсць мухі.

— Антось,— сказаў ён,— на табе гэтыя два алоўкі. У мяне і яшчэ ёсць.

Антось забраў алоўкі і схаваў іх у куфэрак. Ён не прабаваў, трымцяць яны ці звіняць, бо ведаў правіла, што дармоваму каню ў зубы не глядзяць.

— Ці ты ведаеш, за што ён алоўкі раздае? — шапнуў Коля Ігнасю.— За тое, што яму задачкі рашаюць ды пераклады пішуць. Лісіца, а дурны, як бот... Наш Пятрусь нічога яму не зробіць. Наабяцае горы, ды тым і скончыцца. Гультай.

У Ігнася нарастае нянавісць да Цімчука. Ён адчувае, што ненавідзіць гэтага прыгожага хлапчука, ненавідзіць без асаблівай прычыны...

## 7

У канторы лясніцтва, у адным з пакояў, за круглым невялікім сталом сядзелі двое: Іван Бенедыктавіч Бранавіцкі, ляснічы, і госць яго Іван Аляксеевіч Патржанецкі, даўнішні прыяцель ляснічага.

Бранавіцкі, стары халасцяк гадоў пад пяцьдзесят, старанна выгалены, гладкі, быў поўнай процілегласцю Патржанецкаму, абрасламу чорнай шчэццю ад вачэй да шыі. З-пад густых навіслых брывей ляснічага лагодна паглядалі вялікія светлыя вочы. Патржанецкі глядзеў спадылба, і мутныя жоўтыя вочы яго гарэлі па-драпежніцку. Лысы ляснічы — заядлы бабнік, старанна зачэсваў назад рэдзенькі чубок валасоў, каб хоць крыху прыкрыць лысіну. На галаве Патржанецкага тырчком стаяў цэлы стажок густых, чорных, там-сям пачэпаных сівізной валасоў.

Пакойчык быў абсталяваны раскошна: мяккая канапа ля сцяны, вышэй яе вялікае люстэрка ў прыгожай раме. З абодвух бакоў канапы дзве шафы са шклянымі дзвярамі, у адным куце туалетны столік, у другім этажэрка. І шафы і этажэрка былі напоўнены кнігамі. На сценах віселі карціны, напісаныя маслам, вельмі ўдалыя

копіі з Левітана і Шышкіна. Пасярэдзіне пакоя стаяў круглы столік, вакол яго пяць мяккіх крэслаў у чахлах. На століку, захутаны ў пару, як у воблаку, шумеў і пасвістваў самавар.

Прыяцелі сядзелі адзін перад адным, і ля кожнага з іх у шклянках стыў чай.

— За новым звычаем п'ём гарэлку перад чаем! Як вы лічаце, Іван Аляксеевіч? — смеючыся, сказаў ляснічы.

— А па старому звычаю п'ём гарэлку пасля чаю! — зарагатаў Патржанецкі.— А, паміж іншым, я згодзен рабіць па абодвух звычаях, а як вы?

— Я таксама. Чым вы закусваеце?

— Чым папала. Я, паміж іншым, паважаю кілбасу. Простую, мужыцкую кілбасу.

— А я масла і сыр.— Ляснічы выйшаў у другі пакой і вярнуўся з дзвюма пляшкамі самагонкі. Услед за ім увайшоў стары Змітрок, прынёс хлеб, кілбасу, масла і сыр.

Ён усё моўчкі паставіў на стол і выйшаў ціха, як кот.

— Што гэта за чалавек? — зацікавіўся Патржанецкі.

— Свой чалавек. Мой кухар, пакаёўка і ўсё што хочаце. Афіцыяльна ён служыць вартаўніком канторы лясніцтва.

— Вы яму давяраеце?

— Я з ім жыву дваццаць два гады.

— Не вельмі важкі аргумент для давер'я.

— Па-мойму, вельмі важкі.

— Вам лепш ведаць.

— Я ведаю.

— Я з вамі знаёмы даўно. Іван Бенедыктавіч, чаму я бачу яго ў вас першы раз?

— Вы яго проста не прыкмячалі. Тады я быў малодшы, і ў мяне была пакаёўка.

Выпілі па чарцы. Патржанецкі хлябнуў чаю і адсунуў ад сябе шклянку.

— Я адвык ад чаю, Іван Бенедыктавіч,— ён узяў пляшку, наліў сабе чарку і закусіў кілбасою.— Я думаю, Іван Бенедыктавіч, што вам вядома, чаго я з'явіўся ў вашай мясцовасці, у прыватнасці ў вас.

— Так! — ляснічы падсунуў да сябе другую шклянку чаю.

— І вам вядома таксама, што вы павінны даць мне поўную інфармацыю аб усім тым, што вамі тут зроблена.

— Вядома...— рука ляснічага пацягнулася да пляшкі. Патржанецкі папераджальна сам узяў яе і наліў шклянку.

— Піце на здароўе, Іван Бенедыктавіч.

Белы твар Бранавіцкага пакрыўся чырванню. Дрыготкай рукою ён адсунуў шклянку, потым узяў яе, прыгубіў і рашуча перакуліў у рот.

— Хопіць, Іван Бенедыктавіч. Такім чынам, што вамі зроблена?

Ляснічы ўбачыў, што Патржанецкі з госця стаў гаспадаром. Не толькі гаспадаром яго хаты, але поўным гаспадаром яго самога...

— Я лічу, Іван Аляксеевіч, што я аб сваёй працы даваў цэнтру поўную інфармацыю.

Патржанецкі крыва ўсміхнуўся.

— Будзем гаварыць проста: ваша інфармацыя была толькі ў такім напрамку, які ў працэсуальным кодэксе называецца, ведаеце як?

— Ведаю... шпіянаж...— ляснічы зноў пабялеў, як сцяна.

— Ціха. Гэтага слова моцна не гавораць. А мне вы павінны сказаць, што зроблена вамі ў галіне агітацыі.

Бранавіцкі падбадзёрыўся. Ён разам з крэслам адсунуўся ад стала і пацёр рукі.

— Перш за ўсё, Іван Аляксеевіч, я вам павінен даць некаторыя тлумачэнні. Якую агітацыю мог праводзіць я, лічачыся афіцыяльна савецкім служачым і фактычна будучы вашым агентам?! У першую чаргу, я ўмацаваў сваё становішча, мне вераць у воласці і ў павеце, лічаць сваім чалавекам. Для агента гэта неабходна... Па-другое, я зрабіў усё, каб насельніцтва не бачыла ва мне былога служачага пана Ёдкі...

— Гэта вы зрабілі для сябе,— перабіў яго Патржанецкі.

— Выбачайце. Вы вузка глядзіце на гэтае пытанне. Я гэта зрабіў і для вас. Гэта дасць магчымасць вам цалкам абапірацца на мяне...

— Згодзен. Але гэтага мала.

— Не, не мала. Цяпер далей. Усякімі спосабамі, малымі і вялікімі, я стараўся пасеяць у селяніна недавер'е

і нянавісць да новай улады. Калі хочаце, магу даць прыклады: ні аднаму парубшчыку-браканьеру я не падараваў, даводзячы ім, што над лесам замест Ёдкі ёсць другі гаспадар, яшчэ больш жорсткі, чым Ёдка... І апошняе: я падабраў людзей для вашай групы.

— Для нашай групы,— паправіў Патржанецкі.

— Для нашай групы.

— Вы лічыце Патапчыка і Голанда.

— І іх.

— Добра. Вы назавіце мне некалькі прозвішчаў.

— Багалевіч — афіцэр, чалавек страшэннай адвагі і лютасці, ненавідзіць бальшавікоў усім сэрцам, крыху грубаваты...

— Далей.

— Беразоўскі, шляхецкі сын.

— Далей.

— Два браты Сасноўскія... Старэцкі.

— Хопіць. Паміж іншым, нікога новага вы не знайшлі. Гэтых людзей я ведаю сам, і калі хочаце, прадоўжу ваш спіс.

Бранавіцкі ўвабраў галаву ў плечы, потым устаў і хацеў аб нечым загаварыць, але Патржанецкі махнуў рукою, і ён зноў сеў.

— Аднак, Іван Бенедыктавіч, ваша заслуга ёсць. Вялікая заслуга. Вы падрыхтавалі глебу, вы не памыліліся ў выбары людзей.

Бранавіцкі ўсміхнуўся шырока, усім тварам.

— Гэта вялікая заслуга. Шчыра дзякую вам, Іван Бенедыктавіч, і ад сябе і ад тых, хто намі кіруе! — Абодва ўсталі і паціснулі адзін аднаму рукі.— А цяпер мы можам паўтарыць па адной.

Бранавіцкі супакоіўся. Ён стаў зноў самім сабою, гаспадаром сваёй хаты.

— Іван Аляксеевіч... Вы не можаце нават уявіць, колькі я тут перажыў... Вы крыху запроста глядзіце на маю работу. Выбачайце, але гэта так... Весці такую ролю...

— Вы зноў пачынаеце хвалявацца. Спачатку выпіце, потым прадоўжым нашу гутарку.

— Вы любіце гуркі з мёдам?

— Давайце іх сюды.

Бранавіцкі гукнуў у дзверы:

— Зміцер! Гуркоў і мёду.

Неўзабаве з'явіўся і Змітрок. Ён паставіў на стол міску гуркоў, крыху меншую міску мёду і накіраваўся да выхаду.

— Мо вып'еш чарачку? — запытаў Бранавіцкі.

— Чарачку можна.

Патржанецкі з цікавасцю аглядаў гэтага сухенькага, ужо старога чалавека, які, нягледзячы на старасць, трымаўся як малады, глядзеў у вочы без страху, але і без нахабнасці. Ён прыняў з рук ляснічага чарку, падзякаваў, выпіў яе і яшчэ раз падзякаваў, дастаў сабе гурок і пачаў закусваць. Патржанецкі заўважыў, што рукі ў гэтага дзеда белыя і чыстыя, як у жанчыны, бародка падстрыжана на французскі манер, мяккія, але вельмі рэдкія валасы зграбна адкінуты назад. Надзець на яго сурдут і капялюш — прафесар, надзець расу — поп.

— Ну, як жывецца, старызна? — весела запытаў Патржанецкі.

Змітрок, перш чым адказаць, зірнуў на ляснічага.

— Жывецца пакуль што нішто. А надалей паглядзім.

— Колькі табе гадоў?

— Яшчэ толькі шэсцьдзесят тры.

— Выпі чарку і ад мяне.

Змітрок выпіў яшчэ адну чарку, за якую падзякаваў таксама два разы.

Калі ён выйшаў, Бранавіцкі звярнуўся да Патржанецкага.

— Вас зацікавіў мой афіцыянт?

— Што гэта за чалавек?

— Ну, ведаеце, доўга расказваць. Але я коратка. Гэта манах са Слуцкага манастыра. Дваццаць два гады таму назад ён зрабіў забойства. Забіў чалавека, з чыёю жонкаю меў сувязь. Гэта пахла шыбеніцай. Ён уцёк. Я прытуліў яго ў гэтых лясах. Цэлых пяць гадоў ён нікуды не высоўваў носа. Потым справа стала пакрысе забывацца, ён стаў вартаўніком і на гэтай пасадзе перажыў і вайну і рэвалюцыю.

Патржанецкі задумаўся.

— Пачакайце, пачакайце...— ён прыставіў палец да лба і пасядзеў так некалькі хвілін.

— Я чуў пра гэтую справу. Яго завуць Андрэй Сінічка, а ў манахах ён быў Агафон. Толькі гэта адбылося не дваццаць два, а дваццаць тры гады таму назад. Я тады пачынаў сваю службу.

— У вас добрая памяць. А я, па праўдзе сказаць, забыў яго прозвішча. Для мяне ён толькі Змітрок.

— Забыць прозвішча чалавека, з якім жывеш, няможна, Іван Бенедыктавіч. Нават пры выпадковым знаёмстве я стараюся ўведаць пра чалавека болей, чым гэта на першы раз патрэбна. А надалей яно спатрэбіцца. А калі і не патрэбна, то не замінае.

— Вы кажаце праўду. А можа, яшчэ па чарцы?

— Давайце яшчэ па чарцы.

Прыяцелі выпілі і моўчкі, не гледзячы адзін на аднаго, пачалі закусваць.

Патржанецкі старанна еў. Ён, здаецца, так быў заняты гэтай справай, што болей ні аб чым не думаў. Аднак думкі круціліся ў яго галаве. «Ён тут не дрэнна жыве. І цікава, як ён здолеў зберагчы гэты домік! Усё цэлае, усё на сваім месцы, як пры Ёдку было... і мэбля, і карціны, і кнігі,— думаў Патржанецкі пра ляснічага.— І гэты Сінічка... Дваццаць тры гады ён маўчаў пра яго. Значыць... Значыць, ён поўнасцю сябе не раскрывае. Такім чынам, ён можа ведаць пра здраду і маўчаць. А сам ці можа здрадзіць? Магчыма, такая думка ёсць у яго і цяпер...» — Патржанецкі зірнуў на ляснічага і падумаў: «У яго ёсць такт у падыходзе да розных людзей. Трэба шырэй выкарыстаць гэтыя яго асаблівасці».

— Іван Бенедыктавіч, мы цёзкі! Яшчэ па адной за нашу дружбу і за нашу справу.

Бранавіцкі ўстаў.

— Шчыра дзякую, Іван Аляксеевіч, за гэтыя словы... Спадзяюся, што вы скажаце там, што я... працаваў не дрэнна.

— Я скажу ім тое, што думаю сам. А я вашу дзейнасць стаўлю даволі высока. Такіх работнікаў, як вы, трэба паважаць.— Патржанецкі таксама ўстаў.

Яны чокнуліся і выпілі.

— Сёння хопіць. У нас яшчэ не скончана гутарка. Я думаю, Іван Бенедыктавіч, што вы маеце на прыкмеце месца для маёй рэзідэнцыі.

Бранавіцкі задумаўся.

— Мне патрэбен такі куток, куды не кожная птушка далятае.

— Я разумею. Такі куток ёсць... Сярод гэтых лясоў сустракаюцца выспы, абкружаныя балотамі, дзе можна захаваць не аднаго чалавека, а цэлы полк.

— Я не аб адным сабе і думаю, Іван Бенедыктавіч.

— Зразумела.— Бранавіцкі ўздыхнуў.— У нас будзе шмат працы.

— У нас будзе працы болей, чым вы нават уяўляеце.

Патржанецкі пачаў хадзіць па пакоі. Гарэлка ўжо стукнула ў галаву, узняўся настрой. Ён загаварыў аб працы, і яму захацелася дзейнічаць.

— Мы будзем працаваць, Іван Бенедыктавіч, так, што аж чорту стане млосна. Вы і напалову не ўяўляеце таго, што тут разгорнецца праз вельмі кароткі час.— Ён падышоў да карціны Шышкіна «Карабельны бор» і спыніўся.

— Вы тут не дрэнна ўладзіліся: малюначкі розныя, кнігі. Вы жылі паціху ў гэтай нары. Мо вам шкада свайго дабрабыту? К чорту! Усё гэта не ваша! Сюды прыйдзе гаспадар Ёдка, вы думаеце пра гэта? Падумайце.— Ён спыніўся.

— Колькі вам гадоў, пяці дзесяткаў яшчэ няма?

— Без чатырох гадоў.

— А мне без трох. Жыццё наша не ўцякло, але яно можа выслізнуць з вашых рук, Іван Бенедыктавіч, калі вы пашкадуеце свайго спакою.

На дварэ вечарэла. У пакой упаўзала цемра, і постаць Патржанецкага перад люстрам вырысоўвалася злавесна.

— Мо запаліць святло?

— Не трэба. Хто вам казаў, што жыццё — гэта спакой. Мо аб гэтым пішуць у вашых кнігах? Плюньце! Пашліце іх к чорту.

— Іван Аляксеевіч, вы як быццам абвінавачваеце мяне...

— Абвінавачваю! Я разумею вас. Я бачу, што вам страшна кранацца з месца, што вы абленаваліся, што вам шкада вось гэтай утульнасці, вы баіцеся страціць яе. Вы думаеце: «Ах, ах, якая вялікая рызыка, якая небяспечная справа...» А як вы думалі? Мо вы чакаеце дапамогі з неба? Не думайце аб гэтым. Нябеснаму цару мала справы да грэшнай зямлі. Дапамогі нам не будзе... Калі яна і прыйдзе, то не з неба. А мы падрыхтуем ёй дарогу. Мы расчысцім шлях, і мо нехта з нас ляжа ахвяраю на гэтым шляху. Але мы будзем браць усё, што можна ўзяць... Ага, вас любяць, вам давяраюць! Плюньце! Толькі ступіце не так, як ім хочацца, і вы апыніцеся там, дзе Макар цялят не пасвіў. Гэта ў лепшым выпадку,

а ў горшым, улічваючы вашу дзейнасць, куля ў лоб. Вы думаеце, што яны забылі, што вы ляснічы абшарніка Ёдкі? Ого! У іх добрая памяць на такія рэчы. Яны нават ведаюць, колькі ляпнула вашых грошай у банку!

Бранавіцкі сядзеў, апусціўшы галаву.

— Вы маеце рацыю... Божа мой, як вы маеце рацыю! — шаптаў ён.

— Я рады, што вы разумееце мяне, Іван Бенедыктавіч. Вы крыху агоўтарыліся тут, але цяпер вы пастараецеся вылузацца з гэтай кары, і мы будзем дзейнічаць. А зараз мне трэба адпачыць. Канкрэтна мы будзем гаварыць заўтра.

— Калі ласка. Я вам аддам сваю пасцель.

— А вы?

— Я тут на канапе.

— Добра. У пяць гадзін раніцы я ўжо буду на нагах. Вы таксама.

У невялікай спальні Патржанецкі разуўся. Ад ануч яго несла страшэнным смуродам. Ён паставіў на пасцель валасатыя ногі, чорныя ад гразі і поту, і пачаў адкалупваць пальцамі гразь.

— У мяне сапрэлі ногі. Я не разуваўся трое сутак.

— Нічога. Сёння вы адпачнеце, як належыць. Вашы анучы трэба высушыць... Не, іх трэба памыць. Я вам дам другія анучы.

— Шчыра дзякую.— Патржанецкі лёг і пацягнуўся.

— Шкада, што вы цяпер не трымаеце пакаёўкі.

Бранавіцкі ўхмыльнуўся. «Так бы ты з ёю і лёг!» — падумаў ён.

— Ну, акрывайцеся, і спакойнай ночы.

— Дзякую. Вам таксама.

Бранавіцкі ўзяў у два пальцы вільготныя ад поту анучы Патржанецкага і, адчыніўшы дзверы, сказаў Змітраку:

— Выкінь іх на сметнік.

## 8

Асенні дзень хіліўся к вечару. Нізкае неба, засланае шэраю смугою, кожную хвіліну гатова было пырскнуць на зямлю халодным дажджом. Над апусцелымі палямі з сумным карканнем лёталі чароды галодных варон. На сухім метлюку, што рос на замежках дарогі, блішчалі дробныя кроплі халоднай расы.

Антось Галамака з цікаўнасцю і лёгкай тугою аглядаў мясцовасць, знаёмую з ранняга дзяцінства. Шэсць гадоў не бачыў ён родных гоняў. Колькі падзей адбылося на свеце за гэты час, а тут усё як было, нібы міналі навальніцы глухі куток Палесся. Навокал тыя ж самыя лясныя палянкі — палеткі палешукоў, падзеленыя межамі на вузкія палоскі... Толькі, можа, пнёў стала меней, ды лес парадзеў паблізу ад дарог і вёсак. Тыя ж гразкія дарогі, вузкія грэблі, шырокія каламутныя брады...

Многа вёсачак і хутароў прайшоў Антось Галамака, прабіраючыся ад станцыі да родных Ярэміч. Ніякіх змен не ўбачыў ён ні ў вёсках, ні на хутарах. Толькі будынкі пастарэлі, ураслі ў зямлю, патрухлявелі платы.

І сумна стала на душы ў Антося Галамакі. І чым глыбей заходзіў ён у палескую глуш, тым болей ападаў яго настрой.

У гарадах, на станцыях, якія праязджаў, ён бачыў, як кіпіць і будуецца новае жыццё, а тут усё тое, што было шэсць гадоў таму назад.

Сустрэў па дарозе некалькі палешукоў. З адным нават праехаў вярсты тры, якраз па дарозе было. Прабаваў завесці гутарку. Упэўніўся: не даецца на гутарку мужык. Аглядае цябе падазрона, думае: а хто ты такі? Глядзіць спадылба, маўчыць, не выказвае сваіх думак... Няўжо ж тут усё, як раней? Значыць, трэба варушыць гэтую глуш, працаваць, будзіць палешукоў да новага жыцця. Няўжо ж яны не разумеюць, што сонца ўзышло, што світанне паўстае над лясамі!

Такія думкі былі ў Антося Галамакі.

Ці дзіва, што не верыць паляшук ні ў што добрае! Хто толькі не здзекаваўся з яго! Спачатку паны, а не паспела ўстанавіцца савецкая ўлада, прыйшлі немцы, белапалякі аж два разы, розныя бандыты, свае кулакі...

І сумна было Антосю Галамаку. Яшчэ і таму сумна, што не ведаў, хто яго сустрэне дома. Ці жывыя маці і сястра. Ці ёсць там якая хаціна, каб прытуліцца хоць спачатку.

Бязвусым юнаком быў Антось Галамака, калі ў шаснаццатым годзе мабілізавалі яго ў царскую армію. Ён быў старэйшы ў сям'і. Бацьку яго, дворнага пастуха, перад гэтым год назад забіў панскі бык. Дома цяпер засталіся толькі маці і пятнаццацігадовая сястра Наста.

Два тыдні яго, навабранца, муштравалі ў павятовым

горадзе, навучылі разбіраць і складаць вінтоўку, страляць, аддаваць чэсць афіцэрам і адправілі на Заходні фронт у акопы. Да семнаццатага года быў Антось на фронце. Сам непісьменны, ён рэдка дасылаў лісты дадому, а адтуль ніколі не атрымліваў адказу. Хлябнуў гора за гэты час, надоўга застанецца ён у памяці. Але тут і вочы яго расчыніліся шырэй, і зірнуў ён на свет іначай.

Быў у яго старэйшы таварыш маскоўскі рабочы Селіханаў. Ад яго ўведаў Антось праўду аб вайне, хто яе распачаў і каму яна патрэбна. Дзіўна было яму, сыну панскага пастуха, што гарадскі рабочы не горш, а нават лепш за яго ведае пра думы і жаданні вясковых беднякоў і парабкаў-беззямельнікаў.

У адной перастрэлцы параніла Антося ў плячо, і накіравалі яго ў Маскву ў шпіталь. Так ён на некаторы час разлучыўся з Селіханавым і сустрэўся з ім толькі ў лістападзе 1917 года, калі выбівалі чырвонагвардзейцы з Крамля юнкераў і белагвардзейцаў — абаронцаў Часовага буржуазнага ўрада.

Рады быў Селіханаў, сустрэўшы Антося ў шэрагах Чырвонай гвардыі. Абняў яго як брата.

— Ну, цяпер ведаеш, Антось, за што ваюеш?

— Ведаю,— адказаў Антось,— вось хутка прагонім гэтых гадаў, тады можна будзе і дадому. Панскую зямлю дзяліць будзем!

Селіханаў адказаў не адразу.

— Не, таварыш Галамака... Дадому хутка не трапіш. Будзем яшчэ біцца. Шмат у нас ворагаў.

З гэтага часу яны не разлучаліся. Калі ў пачатку васемнаццатага года арганізавалася Чырвоная Армія, Антось уступіў у яе рады, а ў лютым таго ж года ўжо біў немцаў пад Псковам. Потым на Усходнім фронце змагаўся з Калчаком. Біўся з дзянікінцамі на Паўднёвым. Быў паранены. Валяўся па шпіталях, хварэючы сыпняком. Цяжкі пройдзены шлях. І хоць цяжкі, але шчаслівы. Пайшоў Антось у армію цёмным хлопцам і вырас у барацьбе да камандзіра, навучыўся грамаце, стаў камуністам. Вялікіх людзей давялося пабачыць. Бачыў Фрунзе. З Варашылавым нават гутарыў.

У часе наступлення на белапалякаў Антось са сваёй ротай праходзіў крыху паўночней Слуцка. Блізка былі родныя мясціны. Меркаваў па дарозе назад узяць водпуск і заскочыць дадому. Але не ўдалося. Панская куля

пранізала грудзі. У апошняй бойцы атрымаў апошняе раненне, і аказалася яно самым цяжкім. Больш чым паўгода ляжаў у шпіталі, потым адпачываў на поўдні і, нарэшце, дэмабілізаваўся. Была зіма шаснаццатага года, калі кінуў родную хату, і толькі восенню дваццаць другога вяртаецца назад. А ці ёсць там родная хата? Ці ёсць жывыя родныя, ці чакаюць яго. Успомніў маці, вечную парабчанку, сястру, развітанне з імі. І паўстала ўсё так яскрава, нібы адбылося толькі ўчора, а не шэсць гадоў назад.

Толькі ў вёсцы Імшарышча ўбачыў ён будаўніцтва. Будавалася ўся вёска. Сяляне ўзводзілі новыя дамы, хлявы і адрыны. Але поруч з новымі дамамі стаялі зямлянкі, невялічкія лазні ў адно акно, халупы, да паловы схаваныя ў зямлі.

Антось спыніўся ля першага дома.

— Што тут у вас адбылося? — зацікавіўся ён.

Два мужчыны — адзін сівы дзядок з невялічкай сякеркай у руках, другі — чалавек сярэдніх гадоў, з цікаўнасцю глядзелі на яго са зруба новай хаты.

— Ты хіба не тутэйшы, чалавеча? — сказаў дзядок і цюкнуў сякеру ў бервяно.

— Чалавек з войска ідзе, хіба не бачыш, тата! — сказаў малодшы старому і звярнуўся да Антося:— З Чырвонай Арміі?

— Так,— адказаў Антось.

— Я бо бачу ў шынялі, у чаравіках з абмоткамі... Ты сядай, адпачні, закурым, ці што!

Ён спрытна саскочыў з рыштавання, стаў насупраць Антося, зірнуў на шапку з чырвонай зоркай і прыязна ўсміхнуўся.

— А можа б ты перакусіў чаго з дарогі, зямляк?

— Не, дзякую. А закурыць бы добра. Абкурыўся я за дарогу.

— Сядай. А калі есці хочаш, то няма чаго фанабэрыцца. Хоць хата наша і не вельмі зграбная,— ён паказаў на зямлянку,— аднак жа я з сям'ёю пражыў у ёй больш года.

— Дык што, у вас пажар быў?

— Вялікі пажар... Польскія паны, адступаючы, спалілі нас. Вёска наша, бачыш, не спадабалася ім. Многія ў партызанах былі. Я і сам партызаніў. Білі мы іх, гадаў, спуску не давалі, дык от бачыш, што яны, каты, нарабі-

лі... Уся вёска адразу запылала: хаты, хлявы, гумны. Жывёла пагарэла, нават людзі, каторыя слабыя, ды дзеці, бо ўначы гэта здарылася...

Ён скруціў цыгарку таўшчынёю з палец, нахіліўся да Антося і запытаўся шэптам:

— Ну што чуваць, зямляк, на свеце? Не вернуцца да нас паны?

— Не, не вернуцца.

— Гэта цвёрда?

— Цвёрда.

— А ў нас тут багацейшыя кажуць, што банду нам перакінулі сюды з-за мяжы польскія панкі. Гэта на пачатак, а потым, кажуць, і самі з'явяцца.

— Банду, магчыма, і перакінулі, каб шкоду тут рабіла, але недаўгавечная яна будзе. А самі то не сунуцца.

— Я ўсяк думаю. Калі з'явяцца, то не так лёгка ім удасца асядлаць нас зноў. Ужо калі на тое пойдзе, то біць іх мы ўжо навучыліся. Будзем біць! Цяпер у нас жытка да лепшага ідзе. Ты падумай, брат! От спалілі яны нас, ушчэнт згубілі, а глядзі, як вёска зноў паўстае! Савецкая ўлада лесу дала, насення дала, каб палі нашы не пуставалі, розныя льготы дае на падатак і іншае. Каб у мінулыя гады такое адбылося, да смерці б мы жабракамі былі. Калі на тое пайшло, будзем біцца, зямляк!

У Антося стала хораша і лёгка на душы. Яму цяпер было зразумела, чаму сяляне, з якімі сустракаўся, баяліся гутарыць з ім адкрыта, чаму глядзелі на яго падазрона. Вядома, што на гэта ўплывала чутка пра банду. Хто выкажа сваю думку, не ведаючы чалавека. А можа, гэта бандыт?

Ён зірнуў на вялікія дужыя рукі селяніна, на шырокія яго плечы і дзябёлыя грудзі, на вочы, што сталі хмурнымі, рашучымі, і падумаў: «Гэты будзе біцца! А ці мала яшчэ такіх ёсць! Значыць, падзеі не абмінулі Палесся. Значыць, ёсць савецкая ўлада і тут».

Ён устаў і паціснуў селяніну руку.

— Што ж, брат! Калі прыйдзе такі час, то і павоюем. Не прывыкаць. Я ўжо шэсць гадоў дома не быў, усё ваяваў.

— Ого! Ці далёка табе да хаты?

— Я з Ярэміч. Як там у нас, не чуў?

— Даўно не быў у Ярэмічах. Там цяпер сельсавет, гэта я ведаю. Нідзе не бываю, часу няма. Бачыш, колькі работы! Трэба ж да снегу ў новую хату ўлезці. Работнікаў наняць не маю за што. Багацейшыя ды мацнейшыя сем'і ўжо ў хатах. Ну і мне надакучыла ў зямлянцы душыцца з сям'ёй. А сям'я — малыя ды старыя. Бачыш, які ў мяне памочнік!

Толькі цяпер заўважыў Антось, што дзядок сядзіць поруч з ім на бервяне.

— Лаюся з ім, кажу: сядзі, тата, у хаце, без цябе ўпраўлюся. Дык от бачыш, не хоча.

— Хоць жа крыху ды дапамагу,— сказаў стары.

— Не ў твае гады, тата, па рыштаваннях лазіць.— Чалавек хвіліну памаўчаў і звярнуўся да Антося:— Пачакай. Да Ярэміч дзесяць вёрст ды яшчэ з гакам, а наш палескі гак, то не менш чым тры вярсты,— ён засмяяўся.— Высыпай сабе на дарогу табак, а я табе кавалак хлеба вынесу.

Антось з узнятым настроем рушыў з Імшарышча. Дадому сапраўды было не блізка, але ісці было весялей. Палескі краявід, які дасюль здаваўся глухім і сумным, нібы пахнеў. Антось успамінаў гутарку з гэтым партызанам, і на сэрцы яго станавілася весела. «Што ж, калі перакінулі банду, зноў прыйдзецца ваяваць. Ды хіба толькі з ёю! А з тымі, хто чакаў яе, хто зларадасна паведамляе аб гэтым, з кулакамі, са спрадвечнай цемрай. Будзе яшчэ барацьба, будзе!»

У Ярэмічы ён прыйшоў змрокам.

Бацькаўская хата стаяла з самага краю, крыху наводшыбе ад вёскі, не на вясковай, а на былой панскай зямлі. Калісьці пан не пашкадаваў, выдзеліў свайму парабку-пастуху кавалачак пяску, каб пабудаваць хату.

Антось здалёк убачыў яе — невялічкую, пахілую, урослую ў зямлю, і сэрца яго сціснулася. У вокнах вясковых хат ужо ззялі агні, а гэтая хаціна стаяла як сляпая.

Нягледзячы на стомленасць, ён паскорыў хаду.

Падышоўшы да дзвярэй, не ўбачыў на іх замка, і з'явілася надзея, што хата не пустуе. Рашуча ўзяўся за клямку і адчыніў дзверы ў сенцы. У носе заказытала пахам каровінага поту і гною, пачулася хрумканне. Выняў з кішэні запалкі і дрыжачымі ад хвалявання пальцамі

запаліў сернік. Так-сяк разгледзеў, што сенцы перагароджаны. Да хатніх дзвярэй вёў толькі вузкі калідорчык, а ў большай палавіне за перагародкай стаяла вялікая пярэстая карова і жавала жвачку.

У хаце было цёмна і ціха, але цёпла.

— Добры вечар! — сказаў Антось, спыніўшыся ля парога.

— Добры вечар. А я ж не пазнала, хто гэта прыйшоў? Ты, Яўхім? Праходзь ды сядай, я зараз запалю лучыну.

Антось адразу пазнаў гэты мілы і родны з маленства голас. Ён быў такі ж мяккі і ласкавы, толькі мо крыху пастарэў... І, пачуўшы яго, Антось не мог стрымацца.

— Гэта я, мама, ваш Антось...

Маці кулём скацілася з печы і павісла на яго шыі.

Праз некаторы час яны сядзелі на лаве і гутарылі. Цьмяна гарэла лучына, уваткнутая ў «дзеда» — спецыяльна зробленую для гэтага прыладу.

Старая Тэкля не магла наглядзецца на родны сынаў твар.

— Сынок мой, сынок мой,— шаптала яна,— як жа ты пастарэў... Гэтулькі гадоў... Я ўжо і не думала, што і ўбачу калі цябе... Усякія думкі былі... Мо, думала, і жывога няма... А сніла я цябе, сынок, часта... І ўсё такім маладзенькім ты мне паказваўся, такім, як у войска ішоў... А цяпер, ну выліты ж ты бацька.

Яна ўглядалася ў мужныя сынавы вочы і дзівілася, што ён кропля ў кроплю — бацька, яе Андрэй. Такі ж нос з гарбінкай, доўгі твар, высокі лоб. А як адыходзіў у войска, амаль хлопчыкам быў. Было падабенства з бацькам, але не такое.

— А дзе наша Наста, мама?

— Яна ўжо два гады замужам, сынок. На Мелкаўскіх хутарах. Язэп Сушчэня яе ўзяў, але наўрад ці ведаеш ты яго, блізкі свет! Ужо сына маюць, імя тваё далі, Антосем завецца.

— Язэп Сушчэня? Не, не ведаю. Багата жывуць?

— Дзе там, сынок, багата!

— А як вы жывеце, мама?

Тэкля ўздыхнула.

— Жыву як гарох пры дарозе... Ах, і дурная ж мая галава! Ты ж з дарогі, сынок, есці хочаш.

— Не турбуйцеся, мама.

Антось пры цьмяным святле лучыны аглядаў хату. З кожнага яе кута дыхала беднасць. Стары, паедзены шашалем ложак быў засланы зрэбнай саматканай посцілкай. На невялічкай падушцы надзета палатняная навалачка. На цвічку вісіць стары кажушок, на другім суконная шэрая світа. У мыцельніку на паліцы дзве гліняныя міскі і макацёр, пад лавай чыгунчык...

Маці дастала з печы гаршчочак, уліла ў міску капусты і паставіла на стол. Прынесла лыжку і паўбуханкі хлеба.

— Сядай, сынок... Нічога лепшага ў мяне няма... Капуста посная. Пачакай, я смятанаю забялю ды малака прынясу. Карова, дзякуй богу, яшчэ доіцца.

— Нічога, мама.

Доўга яшчэ гутарылі яны пасля вячэры. Антось даведаўся, што матку надзялілі панскай зямлёй, а абрабіць яе яна не можа. Засяваюць вяскоўцы на трацяк. Дзве часткі сабе, адна ёй. Карову далі з панскага статка. Некалькі месяцаў хавалася з ёю матка ў лесе, як вярнуліся паны, але карову не аддала. Даведаўся, што з суседзяў лепшы за ўсіх Яўхім Сцешыц, якога прազываюць Мядзведзем. Гэтай восенню засеяў ёй на сваім кані дзесяціну жыта. Кожнай вясной дапамагае пасадзіць бульбу, узорвае агарод. Іншы раз заходзіць ён вечарам, пытаецца пра яго, Антося, таму яна і падумала надоечы, калі прыйшоў Антось, што гэта Яўхім.

— Без хлеба не сяджу, сынок, зарабляю. Бульбачку маю і гародніну. Гэтаю восенню і парасятка купіла,— скончыла маці сваю размову.

Яшчэ даведаўся Антось, што старшынёю ў сельсавеце Цімох Ткачэня, ды толькі стаў лайдаком, гарэлку ў хутаранцаў-заможнікаў п'е.

Так стрэў родны дом Антося Галамаку.

## 9

Пасля ўрокаў да Ігнася часта прыходзіў Янка Ткачук. Яны ўдваіх рашалі задачы і вучылі разам прыродазнаўства. Пятрусь, хоць і аднакласнік, рэдка далучаўся да іх. Толькі іншы раз хлопцы збіраліся разам і гуртам хадзілі за мястэчка ў хваёвы лясок. Там было суха і прыгожа. Хлопцы прыпаміналі вясковае жыццё і раскладалі агонь, як дома, пасучы каровы ці коні. Добра было ся-

дзець ля агню і думаць пра дом. Але Пятрусь і тут стараўся быць асобна; ён хадзіў на местачковыя палі і збіраў бульбу. Яе лажылі ў прысак і пяклі. Потым елі, давячыся і апякаючы раты: да таго ж была яна смачная. Антось Белка адзін раз нават на кватэру прынёс некалькі бульбін. У другі раз хлопцы выбралі дзесятак большых бульбін, каб прыхаваць іх на вячэру, але Антось прызнаўся, што дома яна нясмачная.

— Я ж і тыя ў памыйніцу выкінуў. Алтарава карова з'ела.

Прырода ля мястэчка наогул была бедная: пясок, хмызнякі, балота.

Толькі і дадавала прыгожасці азярцо, што ляжала ў балоце, але да яго нельга было прыступіцца ні з аднаго боку. Янка Ткачук цікавіўся азярцом: ён некалькі разоў спрабаваў падысці да яго, але балота гнеўна ўздрыгвала пад яго нагамі і ўзнімалася ўперадзе, як капшук.

— Добрае было б азярцо, каб не ў такой твані. А так ніякай карысці ад яго няма.

— Ну нашто табе возера! — з насмешкай гаварыў Пятрусь.— Ты ж і плаваць не ўмееш.

— Балазе ты ўмееш.

— Я, вядома, умею... А ён карысці ад возера хоча.

— Эх ты! Ад усяго павінна быць карысць. Плавалі б у чоўне, рыбу лавілі б... А вясной купаліся б. Любата! Я бачыў у настаўніцкай малюнак «Возера», толькі там не такое. А што каб гэтае намаляваў?

— А рака?

— Што рака? Я люблю азёры!

— А ці ты іх так многа бачыў?

— Хопіць з мяне і аднаго.

Янка і Пятрусь грызліся заўсёды: абы стрэліся дык і пачыналі. Таму хлопцы не зварочвалі на гэта ўвагі, бо ведалі, што насоў адзін аднаму яны ўсё роўна не паадкусваюць. А памірыць іх было немагчыма.

Пасля такіх пагулянак лепш спалася. Яны разганялі сум па дому і ўносілі нейкую разнастайнасць у беднае прыгодамі жыццё.

Ігнасю наогул надакучыў местачковы тлум, і ён з ахвотай прамяняў бы яго на вясковую цішыню, каб не школа. Такіх жа думак трымаўся Янка Ткачук. Хлопцы ні разу не гутарылі аб гэтым, але разумелі адзін аднаго, бо абодва шукалі цішыні, дзе б можна было памаўчаць

і памарыць. Ах, гэтыя мары! Каго не трымалі яны ў палоне. Не раз у часе вялікага перапынку Янка і Ігнась, як зладзеі, лазілі ў вялікі школьны сад і бадзяліся па ім моўчкі, апусціўшы галовы, нічога не бачачы перад сабой. Восень, восень была на дварэ. Шапацела пад нагамі апаўшае лісце, хісталіся пад ветрам галіны яблынь і груш. Шэрыя хмары віселі нізка-нізка, часамі сыпаўся дробны дожджык, прыкры і халодны, але ўсё гэта было недзе далёка, бо хлопцы не бачылі яго. У іх вачах стаялі цудоўныя краіны, залітыя сонцам, белыя прыгожыя гарады і цвіла вечная вясна.

Але дробна і весела заліваўся званок у руках вартаўніка Захара: канчаўся вялікі перапынак. Трэба было ісці ў клас.

Першыя дні ў школе, пакуль Ігнась не ўведаў усіх вучняў, яму было няёмка сярод грамады дзяцей: ён саромеўся крычаць, жартаваць, прымаць удзел у гульнях. Яму здавалася, што на яго ўсе пачнуць глядзець: бач ты яго! Але іншы раз яго так і падмывала сарвацца з месца, з крыкам прамчацца ўздоўж платоў і збіць з ног якога-небудзь важнага сямікласніка, што хадзіў з кнігай у руках. Ён бы не раз і зрабіў так, каб не заўважаў на сабе позіркаў незнаёмых вучняў. Янка Ткачук разумеў гэта і не пакідаў таварыша на перапынках. Сам Янка мала дурэў. Трымаўся ён заўсёды як дарослы, і самастойнасць гэтая ішла да яго грубаватага сур'ёзнага твару, бліскучых вачэй і крыху сутулай постаці. Ён быў аднагодак з Ігнасем, нават маладзей на некалькі месяцаў, што давала Ігнасю перавагу і чым Ігнась папраўсвойму ганарыўся, аднак кіруючую ролю ў іх дружбе пакуль што вёў Янка.

Аднойчы ў суботу, калі ўсе вясковыя вучні пасля ўрокаў пайшлі дадому ў вёскі і хутары, Янка прыйшоў да Ігнася. Выгляд яго быў ні то засмучаны, ні то вінаваты.

— Ігнась,— сказаў ён, не гледзячы на таварыша,— сходзім куды-небудзь пагуляем, чаго нам кіснуць у хаце.

— А куды ж мы сходзім?

— Я цябе завяду ў адно месца.

Ігнась зацікавіўся. Ён яшчэ не ведаў усіх мястэчковых кутоў, акрамя таго, яму было сумна, хацелася дамоў у роднае Загалле. Субота наогул была самы дрэнны дзень у тыдні.

Хлопцы накіраваліся проста да школы. На школьным двары Янка знайшоў у плоце дзірку і вылез праз яе. За ім пайшоў і Ігнась. Яны апынуліся на вуліцы, якую Ігнась убачыў першы раз. Дзіўная была гэтая вуліца. Яна была болей падобна на дарогу, чым на местачковую вуліцу. Хаты рэдка стаялі тут. Як відаць, яе нядаўна пачалі засяляць. На агародах яшчэ стаялі смаловыя карчы, ля некаторых хат з такіх карчоў былі складзены хлеўчукі для жывёлы. На самым канцы вуліцы стаяла некалькі зямлянак.

— Тут жывуць пінчукі-смалакуры,— растлумачыў Янка.— Бежанцы з-пад Пінска. Вунь тыя, што зямлянкі пабудавалі, нядаўна вярнуліся з Расіі ды і засталіся тут жыць.

— Чаму? — зацікавіўся Ігнась.

— Таму што Піншчына за мяжой, а яны не хочуць ехаць да паноў. Так яны мне казалі. Там за мяжой паны арудуюць, а яны ўжо адвыклі ад іх.

Ігнасю раптам захацелася зайсці ў зямлянку, але Янка не згадзіўся.

— Не варта, Ігнась. Я ўжо быў у іх, жывуць яны бедна. Дзе ты бачыў, каб на голым месцы сеў ды адразу аброс. Але людзі добрыя.

Тут хлопцы павярнулі ў завулак і выйшлі на старыя яўрэйскія могілкі. Гэта было тое месца, куды местачковае насельніцтва выкідала ўсё, што было не патрэбна. Тут дагнівала бярвенне з нейкай будыніны і ляжала куча спарахнелых дошчак. І тут жа па ўсіх могілках раслі старыя прыгожыя дрэвы: раскідзістыя ліпы, клёны, таполі, некалькі бяроз. У кутах ля платоў асыпаў пажоўклае лісце бэз, нават некалькі кустоў акацыі расло тут, як на смех людзям. Што гэта, гай? Не, не гай. Пустыр? Не, не пустыр.

— Гэта ж нейкае дзіва, а не месца... — жахнуўся Ігнась, і яго бадзёры настрой адразу патух. Хлопцы selі на павалены помнік.

— Я ж табе казаў, што завяду ў адно месца,— сказаў Янка.— Гэта старыя яўрэйскія могілкі,— і дадаў паціху: — Я ўжо замаляваў іх у сваім сшытку.

Ігнась не зразумеў яго апошніх слоў.

— Што ты замаляваў, Янка?

— Ды вось гэтыя могілкі,— адказаў Янка.— Глядзі, як тут прыгожа!

— Што ж тут ёсць прыгожага, Янка! Тут страшна, а не прыгожа.

— Эх ты! Зірні на гэтыя дрэвы, на вунь той дуб, яны і цяпер, восенню, прыгожыя, калі пажаўцела лісце і палова яго ўжо на зямлі. А вясной!

— Няўжо ж ты замаляваў усё гэта, усё, што тут ёсць? Я не ведаў, што ты малюеш.

— Я, брат ты мой, малюю і малюю... Я не магу жыць, каб не маляваць.

— Ты мне пакажаш свае малюнкі, Янка.

— Калі-небудзь пакажу...— нехаця адказаў Ткачук.

— Чаму калі-небудзь! Ты мне пакажы сёння.— Ігнася ўжо разбірала цікаўнасць.

— Якія там малюнкі! Крэмзаю паперу...

— Аднак могілкі ты замаляваў! А гэта ж не хата, а во! — Ігнась правёў рукою ў паветры. Янка маўчаў. Ён пакрыўдзіўся на Ігнася за тое, што ён глянуў на могілкі — яго любімае месца, іншымі і, бадай, абыякавымі вачамі.

— Янка! Пакажаш?

— Ды кінь ты! Давай пра што іншае пагаворым.

— А мне здаецца, нічога лепшага няма. Эх, каб я ўмеў маляваць. Скажы ты мне, Янка, чаму я ўдаўся такі няздатны.

— Эх і неразумны ж ты! Ды ты ж самы лепшы вучань у класе! — ён падсунуўся да Ігнася і абняў яго за шыю.— Ды і наогул ты нейкі асаблівы, самастойны, ні за кім у хвасце не ходзіш... Каб я быў такі!

Ігнася здзівілі гэтыя словы, бо і ён бачыў у таварыша тую ж самую самастойнасць, якую Янка прыкмеціў у ім.

— Нешта не разумею ж цябе, Янка. Пляцеш ты бязглуздзіцу... Хадзем лепш дадому, пакажы мне свае малюнкі.

— Потым, Ігнась. Сёння я табе нічога не пакажу.

— Чаму?

— Няма ў мяне настрою сёння.

— Глупства.

— Няхай сабе і глупства...

Хлопцы разышліся незадаволеныя адзін адным. Янка пайшоў дамоў, а Ігнась доўга яшчэ хадзіў па мястэчку і думаў. Думаў пра могілкі, пра школу, пра сваю вёску,

пра Янку Ткачука. Навошта вадзіў яго Янка на старыя могілкі?

І Ігнась рашуча пакрочыў... Толькі не на кватэру. Ён пайшоў да Янкі Ткачука.

## 10

Ужо трэці дзень Плышэўскі Міхал адчуваў сябе не так, як трэба адчуваць здароваму, хоць і не маладому чалавеку. Ад поўдня ён калупаўся ў гумне каля сячкарні і меркаваў, як прыстасаваць яе да прывада малатарні, каб нарэзаць сечкі конна. У гэтым яшчэ не было пільнай патрэбы, але сядзець у хаце ён не мог. Сэрца яго то дрыжала і трапяталася ад страху ў прадчуванні нечага нядобрага, то аблівалася салодкай радасцю і замілаваннем. Аднак і работа не давала спакою. Ён глядзеў на трыбы і калёсы, а думаў зусім аб іншым. Адчуваў, што марна траціць час, што сёння ён нічога не зробіць, але кінуць работы не мог.

На дварэ быў ясны асенні дзень. Удалая восень стаяла ў гэтым годзе. От і сёння прыгравае сонца, ды так, што ў гумне насупраць адчыненых дзвярэй аж ток нагрэўся. А ветрык хоць бы дыхнуў. Маўчыць лес, што абкружае хутар. Як залатыя, стаяць бярозы каля гумна, а ў далечыні ў лагчыне, як зарыва, ружавее яворнік.

Статак індыкоў паважна прайшоў ад хаты да самага гумна. Стары павадыр спусціў на дзюбу сваю кішку, убачыўшы Міхала, забалбатаў і смела сунуўся ў гумно.

— А кыш, пайшлі,— разагнуўшыся, крыкнуў Міхал і замахаў рукамі. Разумныя птушкі не ўзнялі гармідару, як дурныя куры, не разляцеліся ў розныя бакі, а паважна пайшлі прэч, зноў да хаты.

Міхал босымі нагамі ступіў на цёплы ток каля дзвярэй і стаяў некалькі хвілін. Прыемна было стаяць на цёплым таку. Лапцей не насіў. Не шляхецкая мода насіць лапці. Лепш ужо босаму да халадоў, пакуль мароз не пачне шчыпаць аж за пяты, а тады ў ботах. Боты добрыя, з самаробнай каровінай шкуры, кожны па паўпуда. Чацвёрты год носіць іх Міхал, а яны ўсё яшчэ як новыя.

Доўгая постаць Міхала Плышэўскага была сагнута. Гэта ад працы. Заядлы ён быў на працу. Парабкаў і прыхожых наймітаў мардаваў на полі і на сенажаці ад цямна да цямна. Карміў кіслым малаком і гарохавай кашай,

каб трывалей было. Але і сам не стаяў склаўшы рукі, працаваў, бо лічыў, што даваць уласны прыклад карысней, чым стаяць у работнікаў над каркам. І ўсё-такі ў парабкі да яго ішлі неахвотна. І не так баяліся работы, як таго, што харч дужа благі. Карміў работнікаў вельмі дрэнна.

— Ты ж бачыш, што і я тое самае ем... Прысмакаў хочаш,— гаварыў ён парабку,— а па мне хоць воўна, абы кішка поўна.

Каб хто зірнуў на ногі Міхала Плышэўскага, то вынес бы ўражанне не ў яго карысць. Шырокія шэрыя порткі, з латкамі на каленях, віселі на тонкіх нагах, як на калках. Суконная світка была зашпілена толькі на адзін гузік, калі можна назваць гузікам драўляную цурачку, прывязаную да крыса.

Затое твар Плышэўскага Міхала быў шляхецкай пароды. Кручкаваты вялізны нос звісаў да самага рота, губы заўсёды строга стуленыя, бровы насупленыя, густыя, навіслыя над вачамі. Вочы маленькія, але калючыя, толькі зірнеш у іх і адразу забудзеш, чаго прыйшоў прасіць у пана Міхала. Таму і не ходзяць мужыкі, не моляцца: пазыч, пане Міхале, пудзік жыта. Адвучыў. Але самае галоўнае ў Міхала Плышэўскага — вусы, доўгія, абвіслыя кнізу, рыжаватыя, і твар заўсёды паголены кавалкам старое касы.

І вось, нягледзячы на ўсё гэта, празвалі яго мужыкі Ваўком. Міхал Плышэўскі злаваўся. Ён не ведаў, што і сапраўды ўся яго постаць нагадвала б вялізнага галоднага ваўка, каб паставіў яго на заднія лапы.

— Ліха,— сказаў Міхал Плышэўскі сам сабе і павярнуўся тварам да гумна. Гумно было вялізнае: на шэсць пар сох. У ім двое варот: у адны ўехаў, у другія выехаў. У гумне ўжо поўны парадак: усё абмалочана, звеяна і захавана. У тарпах толькі сена, канюшына і мякіна. Нават жытняя салома не валяецца абы-дзе. Увесь зад гумна запхаў ёю, а якая не ўлезла — складзена ў стагі. Абы-як гніць не будзе.— Ліха,— паўтарыў Міхал і задумаўся.

Калі адступалі белапалякі, разам з імі пайшоў і Міхалаў сын Сымон. Нельга было не пайсці, бо служыў у польскім войску. Пісьменны хлопец. Да сёмага класа гімназіі давёў яго Міхал, вучыў у Слуцку, ці мала гэта каштавала! Думаў вывесці сына ў паны, але як пачаўся на

свеце гэты рэзрух і пазачыняліся гімназіі, скончылася і Сымонава вучэнне.

Увесь час цешыўся Міхал, што сын яго знайшоў правільную дарогу — падаўся ў Польшчу. Няхай ужо бацька марнее тут, а сыну шлях адчынены. І хоць не падаваў адтуль вестак Сымон, але Міхал быў упэўнены, што жыве ён там добра. Маёнтка, можа, і не мае, але фальварак, то абавязкова. Так было і паабяцана.

Цярпліва чакаў Міхал, што зноў збярэ сілы Пілсудскі, рыне на бальшавікоў і запануе над Палескім краем навечна. Тады і сам Міхал набудзе маёнтак. З малых год пра гэта марыў, усё жыццё грошы збіраў. Не па-дурному збіраў. Паперак не хаваў, дзе і як мог кожны рубель абменьваў на золата. І ў банк не аддаваў, а хаваў дома. Так хаваў, што і хатнія не ведалі дзе. І збярог! І цяпер пакрысе збірае, дадае ў агульную кучу. Слава Езусу! Хоць і не лічыў, а ведае: можна набыць маёнтачак. Зямлі ў яго і цяпер было багата. І ўласны хутар не малы, і панскай зямлі захапіў ладны кавалак. Не хацелі даваць, гадаўё, але сведак паставіў, што перад тым, як скінулі цара, купіў у Ёдкі... Жыць можна было і тут.

І вось тры дні таму назад Міхал прачнуўся ноччу ад шалёнага брэху сабак. Адразу прыйшла страшная думка: «Зладзеі!» Хацеў выскачыць на двор, ды жонка не пусціла.

— Куды ты?.. Заб'юць!..

Не запальваючы агню, намацаў порткі, што ляжалі на зэдліку, але дрыжаў ад страху і не мог папасці нагамі ў калашыны. Раптам адзін сабака заенчыў дзіка, не пасабачы, і заціх. Другі жаласна заскавытаў і таксама змоўк. Міхал ледзь не абамлеў, але раптам пастукалі ў акно, і не то, што б моцна, але нават далікатна... Міхал пачаў маліцца, а жонка, як непрытомная, бегала па хаце з пакоя ў пакой, плакалі малодшыя, і праз увесь гэты гармідар Міхалу здалося, што праз акно клічуць. І не абы-як, а татусем! Тады ён зразумеў усё і пайшоў адчыняць. Так вярнуўся дадому Сымон.

Зірнуўшы на яго, Міхал зразумеў, што ніякага фальварка ў яго сына ў Польшчы няма і наўрад ці ёсць капейка пры душы. Сымон быў падобны на жабрака.

Міхал пачаў распытваць, а чаго ён вярнуўся, а па якой прычыне, а як. Сымон спачатку папрасіў есці і адказаў коратка: вярнуўся для справы, справа не малая, яна

прывядзе да таго, чаго так жадае бацька. Вярнуўся не адзін. А з кім — не сказаў. Толькі ўчора шапнуў бацьку, што галоўны ў іх — Патржанецкі. Патржанецкага Міхал ведаў, таму і супакоіўся. Калі ўжо такі чалавек вярнуўся, то недарма!..

Сымон сказаў, што пажыве дома не больш як тры дні, а потым яго паклічуць. Хто пакліча, не сказаў, але загадаў падрыхтаваць яму к гэтаму часу добрую торбу. Папярэдзіў, што ніхто не павінен ведаць, што ён дома, ні адна жывая душа, а іначай усім будзе каюк...

І от ужо трэці дзень ные ў Міхала сэрца і дрыжаць калені, калі ўбачыць ён каго-небудзь чужога паблізу ад хутара. І дом вялікі на шэсць пакояў. На ўсякі выпадак ёсць дзе схавацца; але ўсё роўна страшна.

Учора нячыстая сіла прынесла Цімоха Ткачэню. От бо хамут! Панадзіўся, як кот у смятану! Учора цэлае лыка кілбасы сажраў, а гарэлкі колькі выжлукціў. Ледзь з хаты выбылі. Хацеў быў заначаваць.

Калі пайшоў Ткачэня, запытаў Міхал у сына:

— Нашто ты, сынку, сабаку забіў?

— Каб болей не брахаў. І гэтага заб'ю, калі будзе моцна брахаць.

— Дык, сынку, людзі ж даведаюцца.

— Ніякі чорт не ўведае — хутар у лесе.

— Як жа, сынку, на хутары жыць і без сабак! А зладзеі!

— Ты цяпер ніякіх зладзеяў не бойся. А мне давядзецца часта да цябе заходзіць.

— Дык, сынку... Ты хоць слова мне скажы... Пацеш ты маю душу! Чаго вы прыйшлі? А што далей будзе?

Сын сурова зірнуў на бацьку.

— Канец бальшавікам будзе. Зразумеў? І прывесь цяпер замок да языка.

Канец бальшавікам!.. От ад чаго абліваецца сэрца Міхала Плышэўскага радасцю і замілаваннем. «Каб гэта было!..— думае Міхал, і ў вачах яго на імгненне з'яўляецца ўсмешка.— Каб гэта было!» — шэпча ён.

Выграўшы на сонцы ногі, Міхал зірнуў на сячкарню і махнуў рукою. Пацягнула ў хату да сына. Хацелася яшчэ раз пачуць ад яго гэтыя словы. Хацеў зачыніць гумно, але пачуўся брэх сабакі. Міхал, як уджалены, выскачыў з гумна. Каля хаты нікога не было. Ён зірнуў на дарогу, і сэрца яго скочыла ў самыя пяткі. У двор заяз-

джала фурманка. «Хто гэта?» — са страхам падумаў Міхал і пабег старэчым трухам насустрач. «Хто гэта!» Ніколі ніхто не заязджаў у двор Міхала Плышэўскага. Сам нікуды не ездзіў, і да яго ніхто не заглядаў. «Госці, трасца вашай матары, прыдумалі — госці!.. А можа, барані божа, якое начальства... Можа, прачулі пра Сымона... Хоць бы ў хаце там здагадаліся... У склеп, пад падлогу...»

Падвода тым часам заехала ў двор. Чалавек вылез з калёс, перацягнуў пугай сабаку, і той скочыў у будку. «Ого!.. Чужога сабаку... Смелы...» А чалавек падышоў да плота і пачаў прывязваць лейцы да слупка. «Ненадоўга, каня не распрагае...» На сэрцы спачатку крыху паспакайнела, а потым стала і зусім спакойна: чалавека ён пазнаў. Гэта быў Патапчык з Загалля. «Якая ж хвароба яму спатрэбілася?..»

Патапчык прывязаў лейцы, павярнуўся і пайшоў да Міхала, радасны і вясёлы.

— Дзень добры, пане Міхале, што гэта так бяжыш?

— Дзень добры... Дзень добры, пане Рыгор... Бягу, кажаш?.. Ды от жа, сабака. Думаю: яшчэ парве чалавека!..

Патапчык зірнуў на Плышэўскага і хітра ўсміхнуўся.

— Кажаш, парве? Нешта я бачу, пане Міхале, напалоханы твой сабака. Ды ў цябе ж два было!

— Ваўкі звалаклі... Вялікае дзіва, што і гэты напалоханы. Лес навокал. Учора зноў два здаравенныя падыходзілі...

— Угу.

— Дык чаго ж, пане Рыгор, да мяне?.. За якою патрэбаю?

Патапчык агледзеў пана Міхала з ног да галавы, падумаў: «Пужну ж я цябе, шляхціц ты задрыпаны»,— і сказаў нібы абыякава:

— А я не да цябе, пане Міхале.

— Не да мяне?.. Значыць, па дарозе заехаў, ці што?..

Патапчык шырока пазяхнуў...

— Я, пане Міхале, маю пільны інтэрас да твайго Сымона.

Мабыць, і доўбняй так не аглушыў бы Патапчык Плышэўскага, як гэтымі словамі. Вочы пана Міхала палезлі на лоб, кроў адышла ад твару, і ногі пачалі дрыжаць так, што шэрыя порткі ледзь трымаліся на худой паясніцы.

— Якога Сымона?.. Пане Рыгор... Ты ж ведаеш, дзе мой Сымон...

Патапчык пачаў згортваць цыгарку.

— Каб не ведаў, то не прыехаў бы...

І зарагатаў, ухапіўшыся за тоўсты жывот.

— Ну, пане Міхале, што ты цяпер скажаш, га? Мабыць, пакуль мы тут жартуем, Сымона ў склеп запраторылі. Хадзем, выбавім мы яго адтуль.

Ён весела зірнуў на Плышэўскага, стукнуў яго па плячы і сказаў:

— Не калаціся так, пане Міхале, а то рассыплешся! — Падцягнуў яго да сябе і шапнуў: — Я ад Патржанецкага, зразумеў? Ды не трымай ты мяне на дварэ, вядзі ў хату. Я цябе не аб'ем і не абап'ю. Слова маю ад Патржанецкага да твайго Сымона, толькі яму магу сказаць.

Ён пайшоў на ганак. За ім услед разгублена клыпаў Міхал Плышэўскі.

## 11

Тарас Ігнатавіч Гурын цяжка апусціўся ў крэсла ля стала насупраць сакратара партыйнай ячэйкі Кавалёва і зірнуў на яго з ледзь прыкметным папрокам.

— Мабыць, зноў ты мяне куды-небудзь пашлеш? — запытаў ён.

— На гэты раз не,— падумаўшы, адказаў Кавалёў.— Безумоўна, што мы робім крыху зла, адрываючы цябе ад школы, але ж падумай сам, Тарас Ігнатавіч, іншага выхаду няма.

— Я разумею, таварыш Кавалёў, але ж гэтым не можна злоўжываць. Я ж не толькі загадчык, я выкладчык матэматыкі... Старэйшыя класы працуюць самі... А ў малодшых без выкладчыка заняткаў няма. Там мне проста кажуць: «Дакуль вы будзеце ездзіць!» Аж сорамна... І вось. Ідзе зіма, а ў нас ні палена дроў... Няма шкла, няма цэглы, няма грошай... Ведаеш сам, якую спадчыну пакінулі нам белапалякі: у школе была казарма, мэблю спалілі, вучэбныя прылады знішчылі.

Кавалёў, сутулы мужчына з цяжкімі рукамі рабочага, у дыаганалевай гімнасцёрцы і сінім галіфэ, моўчкі слухаў загадчыка, і вочы яго з доўгімі вейкамі глядзелі ўніз, ад чаго здавалася, што ён зусім заплюшчыў іх. Пры

апошніх словах Гурына Кавалёў ажывіўся і ўзняў вочы: у іх заблішчалі агеньчыкі добрай хітрынкі і таварыскай цеплыні і прыязнасці.

— Хіба я не ведаю, Тарас Ігнатавіч, што нашым дзецям трэба вучыцца, і хіба не ведаеш ты, што ў нас для гэтага няма яшчэ нармальных абставін? Ты от пра спадчыну загаварыў: хіба толькі ў школе яна асталася? А воласць! Яна, брат, прэ, гэтая спадчына, з усіх куткоў. Да гэтае пары мы яшчэ маем хвасты па харчпадатку — хіба гэта не праяўленне спадчыны! Кулацтва сабатуе падатак. Спекулянты таксама... Самі гандляваць яшчэ не ўмеем, нашто таіцца. У гандляроў тавараў больш, чым у нашых кааператывах. Працоўны селянін просіць: дайце солі, жалеза, газы, запалак. Кааперацыя дае недастаткова, гандляр на гэтым выгадвае. Азімы клін намі яшчэ не поўнасцю ўлічаны, асабліва ў палескай частцы. Кулакі ды хутаранцы ўтойваюць зямлю... Бачыў, колькі працы! А работнікі дзе? У некаторых сельсаветах арудуюць кулакі. Ніякай працы з беднатою там няма... Сам я тут чалавек новы, як жа не адарваць цябе іншы раз! Ну скажы, каго паслаць? А тут на месцы колькі працы. Тая ж самая кааперацыя. Трэба кааператываць саматужнікаў, а мы яшчэ не зрабілі ў гэтай галіне нічога, ані! Памочнікаў мала. Цяжкая справа, як ні круці. І крыўдзіся сабе, як хочаш, а адрываць ад школы будзем цябе і ў далейшым.

— Я не крыўджуся, таварыш Кавалёў.

Кавалёў, здаецца, не звярнуў увагі на рэпліку Гурына і прадаўжаў:

— І я табе пералічыў яшчэ не ўсё, Тарас Ігнатавіч. Барацьба за хлеб цяпер у нас галоўная задача. Вырваць лішкі хлеба ў кулацтва, не аддаць яго ў рукі прыватнікаў, накіраваць у галодныя губерні, вось што цяпер неабходна.— Ён спыніўся і паглядзеў на загадчыка школы, ледзь усміхнуўшыся. Дастаў партабак і ў тоўстых пальцах згарнуў тонкую, як запалка, цыгарку, прыпаліў яе і зацягнуўся. Абодва маўчалі некалькі хвілін.

— Ну, што ты мне параіш?

— Ты для гэтага мяне і паклікаў?

— Для гэтага.

— Падрыхтуй змястоўны даклад і сабяры сход камуністаў. Усяго зараз не зробіш. Трэба разгледзець усё падрабязна і размеркаваць абавязкі.

— Добра. Ты падтрымліваеш маю думку. К гэтаму сходу табе таксама прыйдзецца падрыхтаваць даклад, Тарас Ігнатавіч.

— Які?

— Растлумачыць камуністам значэнне нэпа. Ты ведаеш Баранаўца Андрэя?

— Ведаю. Наш кааператыўны работнік.

— У тым і справа, што не наш. Сягоння мы паставім пытанне аб выключэнні яго з партыі. Замест таго, каб праводзіць закуп жывёлы для кааперацыі, ён стаў працаваць прыватна. Ад пасады адмовіўся. Ездзіць па вёсках, скуплівае свіней, кароў, адпраўляе ў Слуцак цэлымі гуртамі. Сёння я гутарыў з ім. Куды там! Ён мне заявіў, што дзяржава дазволіла гандаль, на што ёсць дэкрэт, падпісаны Леніным. Ніхто яму не ўкажа, бо ён мае патэнт. Такія думкі аб нэпе ёсць і ў іншых таварышаў. Яны зразумелі нэп, як адступленне, як зварот да капіталізму.

— Так, так...— левы вус Гурына заварушыўся: — Мала мы працавалі ў гэтым напрамку. У цябе ёсць матэрыял Дзесятага з'езда РКП(б)?

— Ёсць.

— А выступленне Леніна на сходах Маскоўскага актыву?

— Ёсць.

— Калі мяркуеш правесці сход?

— Сёння ўвечары пачнём, заўтра закончым.

— У такім разе, дай мне гэтыя матэрыялы.

Пакуль Кавалёў выкладваў з шуфляды паперы, Гурын прайшоў па кабінеце. Ён спыніўся ля акна і паглядзеў у яго. Ён убачыў школу. На двары гулялі вучні. Суровы твар загадчыка асвяціўся ціхім сумам. Ён зірнуў на гадзіннік: быў час вялікага перапынку. Значыць, у пятым класе ўрок арыфметыкі зноў прайшоў без выкладчыка. «Што яны там рабілі?» — падумаў ён.

У зімнім паліто з узнятым каўняром, згорбіўшыся, прайшоў па двары Васіль Андрэевіч Хоміч. «Як ён, аднак, падаўся за гэтыя гады! — падумаў Тарас Ігнатавіч, убачыўшы свайго таварыша па інстытуту і калегу па працы.— А калісь быў добры выкладчык».

— Вазьмі, Тарас. Твой даклад заслухаем заўтра, падрыхтавацца ты паспееш. А мой ужо ў асноўным гатовы.

— Калі ты яго зрабіў?

— Сёння ноччу.

Гурын зірнуў на твар Кавалёва і толькі цяпер заўважыў стомленыя яго вочы, пачырванелыя ад бяссонніцы.

— Перад сходам адпачні, таварыш Кавалёў, хоць гадзіну,— сказаў ён, забіраючы са стала паперы.— Гэта я проста загадаў бы табе.

— Калі выберацца такая гадзіна, то я ўжо змагу яе выкарыстаць,— адказаў Кавалёў, праводзячы шырокай далонню па твары.— Нібы павуцінне вісіць перад вачамі...

Гурын шырокімі крокамі пайшоў да дзвярэй, спыніўся, крута павярнуў і такімі ж шырокімі крокамі вярнуўся і сеў.

— От бачыш, я таксама забывацца пачаў. Ты мне пра Баранаўца гаварыў. З ім мы лічыцца не будзем, гэта зразумела. І я ў тую хвіліну ўспомніў, што нам жа трэба прымаць у партыю новых людзей. Ты знаёмы з Дубоўскім?

— Добра знаёмы.

— Ну дык от, ён гутарыў са мною на гэтую тэму. Хоча падаць заяву ў нашу ячэйку, я магу за яго паручыцца.

— Ты добра ведаеш яго?

— З даўніх гадоў. Ён недалёка адсюль нарадзіўся, у Лясной воласці. Сялянскі сын. А як работнік, то я павінен сказаць, што школу ён адзін і трымае. Я ж, сам ведаеш, больш па воласці езджу, а ён замяняе і загадчыка, і матэматыку выкладае. А што датычыцца папулярнасці, то вучні яго паважаюць і любяць больш, як мяне... Я, прызнацца табе, нават зайздрошчу яму.

— Што ж, няхай падае заяву,— сакратар памаўчаў.— Кажаш, зайздросціш... Я бачу, Тарас Ігнатавіч, любіш ты сваю працу, і крыху грэшна нам, што мы цябе адрываем ад школы, аднак не забудзь, таварыш, гэта цяпер неабходна. Ты камуніст.

У гэты момант адчыніліся дзверы і ў кабінет шпарка зайшоў начальнік міліцыі Руткоўскі. У мінулым партызан, камандзір атрада, неаднойчы ранены белапольскімі акупантамі, ён не кінуў вайсковых звычаяў і на новай працы. Шырокія плечы яго аблягаў фрэнч ахоўнага колеру, абцягнуты шырокім раменным поясам. Штаны галіфэ былі лоўка засунуты ў халявы хромавых ботаў. Ён спыніўся ля стала, і на яго маладжавым прыгожым твары Кавалёў прачытаў хваляванне і трывогу.

— З якімі навінамі, таварыш Руткоўскі?

— Дай спачатку адсапціся, таварыш Кавалёў. Я ж проста з Ярэміч, не заязджаў яшчэ і ў міліцыю, проста да цябе...

— У чым справа? — Кавалёў зразумеў, што здарылася нешта незвычайнае.

— Справа ў тым, што ў воласці з'явілася банда.

— Ты маеш пэўныя весткі?

— Самыя пэўныя. Ля Тычынскай грэблі па мне стралялі гадзіну таму назад, ды не гадзіну, колькі я адтуль мог ехаць, улічваючы, што конь прыйшоў у мыле!

— Хвілін сорак.

— Не больш. Тры стрэлы з лесу. Людзей я не бачыў, а дым бачыў. Конь ірвануўся, а куля празвінела зусім блізка. Два разы стрэлілі наўздагон не з паляўнічай стрэльбы, а з вінтоўкі, у гэтым я ўпэўнены.

— Што ты на гэта скажаш, Тарас Ігнатавіч? — пасля кароткага маўчання запытаў Кавалёў. Гурын не адказаў. Ён моўчкі абдумваў паведамленне Руткоўскага. З'явілася думка, ці не кінуўся начальнік міліцыі ў памылку. Пасля таго, як прайшоў фронт, у многіх хутаранцаў-кулакоў засталіся вінтоўкі і патроны. У большасці ўсе гэтыя хутаранцы добрыя самагоншчыкі, і ўсе яны маюць не малую злосць на начальніка міліцыі, ды і наогул на кожнага міліцыянера. І ён выказаў гэтую думку.

— Не, таварыш Гурын, я не памыліўся,— упэўнена сказаў Руткоўскі.— Пазаўчора да мяне прыходзіў адзін рабочы з смалакурні, пінчук, паміж іншым, яго і прозвішча Пінчук. Ён выкопваў у балоце пад Леценцам смаловыя карчы і бачыў трох узброеных вінтоўкамі людзей, якія прайшлі недалёка ад яго ўскрай лесу. Я тады на гэтае паведамленне не звярнуў увагі, думаў так: мо якія паляўнічыя, чалавек не адрозніў вінтовак ад паляўнічых стрэльбаў... А цяпер от улічы: Тычынская грэбля і Леценец, калі напрасцік праз лес, то не болей трох вёрст.

— Я з табою згодзен, Руткоўскі...— Кавалёў пацёр скроні і прайшоў ад стала да шафы, што стаяла насупраць ля другой сцяны.— Воласць мяжуецца з дзяржавай, з якою нядаўна закончана вайна. Лясы тут бясконцыя. У мястэчку ні аднаго вайсковага. Што ж, гэта сігнал. Трэба быць гатовымі да горшага і рыхтавацца. Калі гэта банда, то яна будзе паралізаваць нашу сувязь

з насельніцтвам. А мы павінны часцей выязджаць у вёскі. Ідзі адпачні, таварыш Руткоўскі, і рыхтуйся да сходу.

Астаўшыся адзін, Кавалёў некалькі хвілін сядзеў нерухома. Потым устаў, надзеў шынель і выйшаў. На двары свяціла скупым святлом асенняе сонца. Кавалёў перайшоў школьны двор і накіраваўся на новую вуліцу, якую назвалі Вольнай, у канцы яе быў смалакурны завод.

## 12

Лясы непралазныя! Бязмежныя ды бяскрайнія пушчы! Колькі сцежак-дарог працяла навылет вашы глыбокія нетры!

...А ён ішоў без сцежак і дарог. Ён пераступаў вываратьі і калоды, абыходзіў кучы лому, нырaў у ямы між яловых карэнняў, вылазіў з іх мокры і чорны, спатыкаўся, падаў, уставаў і зноў ішоў наперад.

Асенні дзень хіліўся к канцу, і чалавек спяшаўся. Ён баяўся ночы ў лесе, а яна набліжалася. Часамі ён спыняўся і аглядаў мясцовасць. Моршчыўся яго шырокі лоб... «А хто яго ведае, лес усюды аднолькавы»...— шаптаў ён.

Стома скоўвала яго рухі. Балелі ў каленях ногі. Ён зрабіў вялікі марш: ззаду засталіся непралазныя балоты, пушчы і багна, а канец дарогі — дзе ён!

Чалавек вымаў компас і глядзеў на яго, нічога не разумеючы: «На поўдзень... Я іду на поўдзень. Я і павінен ісці на поўдзень?» Хаваў компас у кішэню, закурваў і крочыў далей. «Дзе тая візіра? Няўжо я перайшоў яе і не заўважыў?» Валасы ўставалі дыбам на галаве: «Ну, тады смерць... Не выберашся з гэтай цемры, загінеш тут у балотах...»

А ельнік, густы і цёмны, выцягваў свае лапы, нібы пераймаў чалавека, разрываўся пад нагамі мох, і гнеўна хлюпала чорная багна. «Я зусім адурнеў ад страху,— ліхаманкава думаў чалавек,— трэба адпачнуць, агледзецца».

Ён сеў на тоўсты ствол выварачанай яліны і закурыў. Скінуў шапку і выцер мокрыя валасы. «Не можа быць, каб я перайшоў візіру, яна наперадзе».

Пасядзеў некалькі хвілін і адчуў, што мерзне. Пазяхнуў глыбока адзін раз і другі, пацягнула на сон. Ра-

шуча ўстаў і абмацаў у кішэні рэвальвер. «Не, я не загіну... Трэба ісці».

Зноў пакрочыў наперад, на поўдзень. Пад нагамі стала цвярдзей, і гэта дадало бадзёрасці. Мох і ельнік засталіся ззаду. Ён ішоў па хваёвым бары, і сэрца яго спявала. «Хутка візіра!..»

Але пачало змяркацца. Чалавек паскорыў хаду, потым пабег... Стомленасць зусім прапала. Ён спыніўся і зарагатаў голасна, на ўвесь лес.

— А-а, вось ты дзе, праклятая!

Візіра ішла з захаду на ўсход. Старадаўні працэраб — яна пачала зарастаць маладымі дрэўцамі. У многіх мясцінах яе заваліў буралом, але, зірнуўшы вышэй маладога зарасніку, простая лінія была відаць нават у змроку.

Чалавек пастаяў, выбіраючы напрамак, і пайшоў па візіры на захад. Праз кароткі час ён зноў стаў ля тоўстай высокай хвоі і ад яе зноў павярнуў на поўдзень. Цяпер ён ішоў паціху, без трывогі і страху: далейшы шлях быў яму вядомы.

«Малайчына Бранавіцкі! — думаў ён,— мясцінку выбраў такую, што сам лесавік заблудзіцца, пакуль трапіць сюды. Малайчына, за гэта малайчына».

Раптам яго схапіла некалькі пар рук. Нечая здаровая пяцярня сціснула яму горла.

— Пусці! О, д'яблы! — захрыпеў ён, вылузваючыся.

— Капітан! — сказаў нехта, і яго адразу пусцілі.

— Ты, Багалевіч? — запытаў чалавек, хістаючыся ад жаху, стомы і злосці.

— Я, капітан!

— А хто з табою?

— Сасноўскія.

— Што вы так, д'яблы, не разгледзеўшы, кідаецеся! І адразу за горла?

— Цёмна, капітан, а вы не далі ўмоўнага сігналу.

— Я забыў свіснуць. Я ледзь не заблудзіўся, а вы кінуліся, як звяры...

— Выбачайце, капітан... Мы думалі хто чужы.

— Аслы! Не кожны свой ведае сюды дарогу. Я ж не першы раз іду і то...

— Хадзем, капітан. Я пайду наперад, вы за мною. Там ёсць яшчэ адна застава. Стаяць Плышэўскі і Старэцкі.

— За гэта малайцы... Пайшлі.

Ён закрочыў услед за Багалевічам, а за ім, як дзве цені, рушылі моўчкі два веліканы браты Сасноўскія.

Праз гадзіну, разуты і раздзеты, ён ляжаў на нарах у прасторнай і цёплай зямлянцы. Ён выцягнуў ногі да печкі, што стаяла пасярэдзіне зямлянкі, і з асалодай пацягнуўся сам.

На стале з крыжавін стаяў каганец і неміласэрна дымеў. У печы смажылася сала. Малады бандзюк Сымон Плышэўскі паварочваў яго кінжалам на другі бок. Уся зямлянка была завалена скарбам. У куце стаялі вінтоўкі ўсіх сістэм і марак. На сценах на драўляных цвіках віселі пузатыя торбы з харчамі. Мяркуючы па іх, зямлянка змяшчала каля дваццаці жыхароў, але ў зямлянцы было толькі трое.

— Ты прыйшоў з заставы, Плышэўскі?

— Услед за вамі. Багалевіч мяне адправіў падрыхтаваць вам вячэру. Там застаўся Старэцкі і Сасноўскі Казімір.

— А Багалевіч?

— Ён з Сасноўскім Стасем уперадзе.

— А дзе астатнія?

— Пайшлі на паляванне.— Плышэўскі ўхмыльнуўся.— Хутка з'явяцца.

Патржанецкі (бо гэта быў ён) змоўк і задумаўся. Багалевіч яму падабаўся. Былы падпаручнік, ён наладзіў у лагеры вайсковы парадак. Усюды, дзе можна было чакаць небяспекі, ён паставіў заставы. Правяраў іх сам. Ад усіх патрабаваў дысцыпліны і кожнаму даваў працу. Дзякуючы гэтаму ля зямлянкі стаяў лоўж сухога галля і рыхтавалася месца для другой зямлянкі.

«Я яго зраблю атаманам,— падумаў Патржанецкі.— Няхай кіруе. У яго ёсць вопыт».

— Вячэрайце, капітан,— сказаў Плышэўскі і паставіў скавараду на стол.

Патржанецкі злез з нараў і сеў за столік. Плышэўскі дастаў хлеб і пляшку з гарэлкаю.

— Толькі адну, капітан,— сказаў ён.— Другую на снеданне.

— Што, вы так збяднелі?

— Збяднелі. Учора выпілі ўсё. Што тут было!

— Некаму вас біць.

— Ёсць, капітан! Багалевіч б'ецца, як фельдфебель.

— І ты зарабіў?

— Зарабіў.— Плышэўскі блiснуў вачамі.— Але здачы і ён атрымаў.

«Ага, хлопцы не хочуць падпарадкавацца. Трэба афіцыйна абвясціць, што старэйшым між іх з'яўляецца Багалевіч. А яму патрэбен памочнік». Ён зірнуў на Плышэўскага. Ладны хлопец, плячысты, зграбны, акрамя ўсяго, пісьменны. Яму будзе крыўдна быць унізе. На ім і спыніў свой выбар. Выпіў усю шклянку за раз.

— Падай маю торбу, Плышэўскі.

Выняў з яе тры пляшкі, наліў шклянку сабе, выпіў і зноў наліў.

— Выпі, Плышэўскі, за маё здароўе.

— Дзякуй, капітан. У мяне ад самае раніцы ў галаве камары мак таўкуць.

— Выпі, то пакінуць.

— І я так думаю,— ён выпіў, адламаў кавалак хлеба і пачаў есці.

— Лягчэй?

— Значна лягчэй. Шчыра дзякую, капітан, за ласку.

— Няма за што. Скачы на здароўе.

У зямлянку пачалі збірацца бандыты. Па адным, па два. Ніхто не прыходзіў з пустымі рукамі. Кідалі ўсё на нары. Заўважыўшы Патржанецкага, гутарылі шэптам. А ён ляжаў на нарах і рабіў выгляд, што спіць. А спаць і сапраўды хацелася, але чакаў Багалевіча. Той з'явіўся апошнім, а за ім ішоў крываногі, гарбаносы, чорны хлопец.

— Капітан спіць? — запытаў Багалевіч.

— Спіць. Ціха ты!

— Нічога. Я ўсё роўна яго разбуджу,— ён падышоў да Патржанецкага і ціха штурхануў яго.

— Устаньце, калі ласка, капітан... Да вас Голанд.

— Голанд? — Патржанецкі адразу сеў.

— Добры вечар, пане Патржанецкі! — гарбаносы хлопец падаў руку. Патржанецкі з пачуццём пацiснуў яе.

— Гэта ты, Хаім, а я думаў, бацька.

— Я ад бацькі.— Ён выняў з кішэні пакет і аддаў яго Патржанецкаму.

Патржанецкі перасеў да святла і пачаў чытаць.

— Дужы ты, Хаімка, як бык! — шапнуў Голанду Сасноўскі Стась.

— А-а! А ты думаў мяне сагнуць!

— Спачатку думаў...Але ты не зломак!

Патржанецкі скончыў чытаць і агледзеў прысутных. Усе змоўклі, чакаючы, што ён скажа.

— Хаім, скажы бацьку, што з яго думкай я згодзен. Гэта мы зробім. Скажы яму яшчэ, каб больш пісулек мне не дасылаў. Што трэба, хай перадасць словамі. Дзівак. Мо ён думае, што я адкрыў тут канцылярыю, як калісьці ў стане! — ён засмяяўся, і зарагатала ўся зямлянка.

— Ну ціха, д'яблы! А цяпер слухайце. Атаманам над усімі вамі я стаўлю Багалевіча Антося. Памочнікам яго Плышэўскага Сымона. Зразумелі?

— Правільна, капітан! — сказаў Сасноўскі Казімір.— Багалевіч будзе добры атаман.

— Правільна! Правільна! — зараўлі бандыты з розных кутоў.

— Ціха ж вы, бо я яшчэ не скончыў. Хаім Голанд — гэта наша сувязь. Ён карыстаецца ўсімі правамі, якімі карыстаецеся вы, але ён вызваляецца ад усякай работы на тэрыторыі лагера.

— Зразумелі!

Болей дзесятка рук падхапілі Хаіма і пачалі падкідаць угору. Кожны раз ён стукаўся галавою аб накат, але цярпліва пераносіў боль. Патржанецкі смяяўся з гэтай працэдуры. Калі, нарэшце, усе супакоіліся, Багалевіч выйшаў наперад і схіліўся перад Патржанецкім.

— Капітан! Шчыра дзякую за ўвагу і давер'е. Спадзяюся, што свае абавязкі выканаю добрасумленна, як афіцэр. Хлопцы! Каб учора я быў вашым атаманам, то сёння б мы выпілі за здароўе нашага капітана.

— І атамана,— дадаў Патржанецкі.

— Ура! Ура капітану і атаману!..— зараўлі бандыты.

— Але ўчора вы зжэрлі ўсё, і сёння нап'ецеся толькі халоднай вады з балота.

— Нічога,— сказаў Сасноўскі Стась.— Няхай пакапаюцца ў сваіх гумнах, што сёння прынеслі, там нешта ёсць. Антон,— сказаў ён Багалевічу.— У мяне ёсць дзве пляшкі, калі не выкраў Казік, вып'ем.

— Ды не, не выкраў. Ты ж і мяне не мінай,— адказаў малодшы брат.

У страшэннай пушчы сярод непралазных балот пачалося дзікае ігрышча.

## 13

На кватэру да Алтара Сапуна перайшоў вучань сёмай групы Богуш Лявон. Рослы хлопец з першым пушком на барадзе і вусах, ён быў просты і вясёлы, яго адразу палюбіў Ігнась. На месцы Ігнасёвага тапчана Лявон зрабіў шыракаватыя нары і сказаў Ігнасю, што цяпер яны будуць разам спаць. Праз некалькі дзён хлопцы пачалі і есці сумесна. У сёмай групе штодзённа было па пяцьшэсць урокаў, і Ігнась кожны раз прыходзіў дамоў раней за Лявона і сумаваў, чакаючы яго.

Лявон быў з ліку тых вучняў, якія, пачынаючы з чацвёртай групы, вучыліся без падручнікаў. Ён сам адваяваў сабе права на вучэнне, хоць і цяжка было рыхтаваць урокі па чужых кніжках. Нягледзячы на гэта, Богуш лічыўся лепшым вучнем сёмай групы, і багаценькія вучні не раз зазывалі яго да сябе, каб разам вучыць урокі. Лявон не любіў такіх таварышаў, бо ведаў, што за гэта трэба ім рашаць задачы і пісаць чарнавікі сачыненняў. Вакол яго склалася група такіх жа беднякоў, і, сабраўшыся разам у чыёй-небудзь кватэры, яны па запісах рыхтаваліся да ўрокаў. Неабходнымі кнігамі былі задачнікі па алгебры і геаметрыі. Хлопцы купілі іх у складчыну. Таму і не сядзеў Лявон дома: папалуднуе і знікне да вечара.

Цесна было ў кватэры. Стары дрыготкі стол заўсёды быў завалены кнігамі і паперамі. У часе снедання або вячэры між кніжак і сшыткаў ставілі тры чыгункі са стравай. Як ні асцерагаліся хлопцы, а на іх падручніках часта заставаліся тлустыя плямы.

Але жылі хлопцы дружна. Не любілі аднаго Цімчука за гультайства і ліслівасць. Спачатку яны хавалі свае пачуцці ад яго, потым пачалі адкрыта іх выказваць, хоць выпадак быў такі, што Цімчука трэба было хутчэй шкадаваць, чым ненавідзець.

Але часта бывае так, што аднаго ненавідзяць за тое, за што другога пашкадавалі б. Аднойчы ноччу Цімчук сеў на ложак, пачаў плакаць, гаварыць нешта незразумелае, разбудзіў усіх хлопцаў, перапалохаў іх сваім дзікім выглядам і супакоіўся толькі тады, калі Лявон абпырскаў яго твар халоднай вадой. Тады Цімчук прачнуўся.

— Хто тут абліваецца? — запытаў ён.

— А-а! Ды ты ж, браце, луннік! — здзіўлена сказаў Пятрусь.

Цімчук моўчкі лёг і зноў заснуў. Белка стаяў ля печы і баяўся легчы поруч з ім.

— Ён жа яшчэ ўссядзе ноччу ды задушыць!

— Ну, ясна! — падхапіў Пятрусь.— Луннікі нямала людзей передушылі. Возьме за горла, і прападзеш, Белачка, ні за нюх табакі.

— Не бойся, Антось,— супакоіў Белку Лявон.— Цімчук проста хворы.

Назаўтра Пятрусь цэлую раніцу кпіў з беднага Цімчука.

— Ты ж, браце, луннік. Ты ж можаш на страху ўзлезці або на тэлеграфны слуп. Ты цяпер толькі па вадзе не можаш хадзіць. Вось удача!

У нядзелю доўга чакалі бацькоў. Чакалі, бо ва ўсіх скончыліся харчы. Алтар, адыходзячы ў лаўку, жартаваў:

— Што, хлопцы, посціце? Ну і во! Вы не ўмееце есці. А калі чаго не ўмееш, то гэта вельмі дрэнна. Трэба вучыцца, каб умець. Ну вось, напрыклад, вы: у нядзелю вечарам аб'ядаецеся, бо торбы ў вас тоўстыя, як дзежкі. У панядзелак таксама. У аўторак і сераду вы яшчэ не галодныя. У чацвер туды-сюды. У пятніцу вы толькі ашукваеце свае жываты. У суботу ў вас шчыры пост, а ў нядзелю голад. Есці, хлопцы, як і працаваць, трэба ўмець, а калі хто чаго не ўмее, то яму трэба вучыцца. Вы паглядзіце на Толю.

Ён сыты і задаволены ішоў у краму, а Ігнась глядзеў яму ўслед і думаў, што Алтар і сапраўды ўмее есці, а ён, Ігнась, не ўмее.

А ў яго жываце нешта смокча. Гэта, вядома, пустата.

Пятрусь прагледзеў вочы: ён увесь час глядзіць у акно і яшчэ не ўбачыў ні аднаго знаёмага каня. А Ігнась у думках ужо развязвае торбу. Што ж тут ёсць? Буханка хлеба, крупы, кавалак мяса, цыбуля... Ах, як хочацца есці! І ўсім хлопцам здорава хочацца есці. А на ложку ляжыць Цімчук... «Праўду казаў Алтар, што мы не ўмеем есці,— думае Ігнась.— Цімчук — гэты ўмее». Ён сёння падкарміў Белку, і той рашае яму задачы.

Лявон ідзе на рынак. Ігнась дастаў з паліцы кнігу, але не чытаецца. Праходзіць яшчэ гадзіна. Цярпенне падыходзіць к канцу. Хлопцы заварушыліся. Усім заха-

целася пайсці на рынак: няўжо дома пра іх забыліся і нічога не паслалі з суседзямі, калі самім нельга прыехаць. Але ў хату ўвальваецца Лявон з двума клункамі на плячах.

— Ну, Ігнась, нашы гумны прыехалі. Нейкі Герасімеmя Сідар усё дапытваўся, дзе жыве Алтар Сапун. Я, кажа, прывёз хлеб Марынічу. Ну, я акурат і падвярнуўся... А вашых, хлопцы, яшчэ няма?

— Няма,— з жалем адказаў Пятрусь.

Лявон спрытна развязаў клунак і дастаў некалькі блінцоў.

— Ешце, хлопцы,— сказаў ён, раздаючы галадаючым бліны, а сам скруціў адзін у трубачку і пракаўтнуў за два разы.

Ігнась дастаў з свайго мяшка сухары і таксама падзяліўся з хлопцамі.

Спагнаўшы крыху голад, усе супакоіліся, нават Пятрусь адышоў ад акна.

Лявон дастаў з кішэні лісток, згорнуты ў чатыры столкі і зашыты ніткай, пакруціў яго ў руках і зноў захаваў.

— Хадзем, Ігнась, да ракі,— сказаў ён.

Праз некалькі хвілін абодва сядзелі на плытах. Лявон дастаў той самы лісток, парваў нітку, разгарнуў і пачаў чытаць.

Ігнась глядзеў на яго і бачыў, як радасна жмурацца яго вочы і ўсміхаюцца губы. Ігнась зразумеў, што Лявон атрымаў з вёскі ліст і прыйшоў сюды, каб прачытаць яго. І ён перачытаў яго некалькі разоў.

— У мяне дома дзяўчынка ёсць,— сказаў ён,— Марынка. Марына Лосік. Прыгожая, ведаеш, дзяўчына. І дружная. Калі я бываю дома і мы спаткаемся, яна пытаецца: «Ты ўжо прыйшоў, Лявонік? А я думала, што ты забыў нашы Крывічы». А дзе там іх забудзеш, братка Ігнась!..— Ён усміхнуўся:— Сумуе яна там. Трэба будзе ў суботу дамоў выбрацца.

Ён стаў на край плыта і зірнуў на раку. Яна, ціхая і спакойная, павольна кацілася на поўдзень.

— Ты яшчэ не ведаеш гэтага?.. Дзівачок ты. Пачакай, зразумееш... Вось прыйдзе вясна, я цябе на чаўне паважу. Добра іншы раз паплаваць на чаўне, асабліва ўвечар вясной. А цяпер не варта. Вада сцюдзёная, глядзіш на яе і аж у дрыжыкі кідае...

Ігнась ішоў за Лявонам, і яму было трохі крыўдна, што Лявон гутарыў з ім, як з малым. Разам з тым Ігнась ганарыўся, што Лявон, старэйшы з іх усіх, нікому другому, а толькі яму адкрыў сваё сэрца і, вядома, што толькі для гэтага і вадзіў на раку.

На кватэры ўсе хлопцы былі па шыю сытыя. Пятрусь зноў паказваў фокусы. За дзвярыма пачуўся незнаёмы голас. Прыехаў Цімчукоў бацька. Толя саскочыў з пасцелі і пабег насустрач яму. Стары Цімчук пацалаваў сына ў лоб і запытаў у гаспадыні, ці здаровы ён, ці не хварэў. Хлопцы нічога не сказалі яму пра начны выпадак, хоць у Петруся і свярбеў язык. Стары Цімчук не бачыў у хаце нікога, акрамя свайго сына, і гутарыў толькі з ім. Белка тым часам калупаўся ля свайго клунка і ўсё старанна перакладаў у куфэрак. Ігнась думаў, чаму бацька ні разу не пацалаваў яго, як Цімчук свайго сына. Ды такую рэч ён нават не мог і ўявіць.

— Ну як, Толік, есці хапіла?

— Хапіла, тата, нават яшчэ засталося.

— Ну і добра. Можа здарыцца, што ў нядзелю я не прыеду, от табе запас і згодзіцца. «Гэта каб не даваў нікому»,— зразумеў Ігнась.

Стары Цімчук выняў з торбы слоік з маслам і панёс яго на рынак.

— Думаеш прадаваць? — шапнуў Ігнасю Белка.— Не, брат, не прадаваць. Настаўнікам возіць і сала, і масла, і мёд. Падмазвае маслам, каб сын па два гады не сядзеў у адной групе. Яны, брат, ба-ага-ата жывуць.

Толя вучыцца ў чацвёртай групе. «Колькі сала ды масла перавозіць стары Цімчук у мястэчка, пакуль вывучыць сына»,— думае Ігнась, і яму становіцца смешна.

## 14

У апошнія дні Алесь ні разу не выспаўся, як належыць. Штодзень уставаў ад першых пеўняў і малаціў на таку ў адрынцы. Людзі яшчэ спалі, толькі яго цэп будзіў суседзяў. Перад світаннем кідаў малацьбу і ехаў вазіць дровы.

Надвор'е стаяла ўдалае. Раніцамі трымаў марозік, днём свяціла сонца. Дажджу ні кроплі не выпала за цэлы тыдзень, і падсохла дарога. Сам не думаў, што

ўдасца так лёгка тыя дровы перавезці. А скончыў, другі клопат знайшоўся: сабе дроў трэба нарыхтаваць, смалякоў на зіму прывезці. Адну працу не скончыш, а ўжо другая даганяе. Так і поркаешся дзень пры дні, ды яшчэ ночы прыточыш.

Неяк у пятніцу вечарам нахмурылася. Хмары абгарнулі неба, як кажухом. «Мабыць, zадажджыцца,— думаў Алесь, едучы з лесу дамоў.— Няхай пройдзе і дождж, трэба адпачыць крыху, ды і конь зацягаўся».

Дома ўсыпаў каню мерку аўса на пачастунак.

— Еш, ды не думай, што я цябе не шкадую.

У двары быў парадак. Не любіў Алесь, каб усё валялася абы-дзе. Плуг, барана, сошка бульбу абганяць, сані — усё стаяла пад паветкаю. Туды зацягнуў і драбіны. «Будынкі ў мяне, хваліць бога, спраўныя». Падумаў і ўсміхнуўся. Нямала паездзіў начамі ў панскі лес, калі Ёдка, кінуўшы маёнтак, уцёк немаведама куды. Пагараваў, але не без карысці. Цяпер усё новае, моцнае, пастаіць паўсотню гадоў. Толькі хату трэба збудаваць, бо старая хата згніла. Спаць лёг адразу пасля вячэры і заснуў раптам. Да грудзей прытулілася дачка Волька, абняла за шыю і таксама заснула.

Арына патушыла каганец (дзе яе набярэшся, гэтай газы) і ў лучніку распаліла смалякі. Падсунула лаўку бліжэй да святла і села прасці. У хаце стала ціха і сумна. Цемра, загнаная ў куты святлом ад лучніка, то варожа насоўвалася на хату, калі ападаў агонь, то знікала, калі ён разгараўся. Сумна спявала верацёнца ў Арыніных руках. А ў вокны заглядала цёмная асенняя ноч без зор і месяца.

Арына прала і з любоўю і шчырасцю паглядала на мужа. Вось ён спіць, такі вялікі, дужы і маўклівы чалавек. І сапраўды ён маўклівы. Раніцою ўстане і без слова ідзе на ток. Прыйдзе адтуль чорны ад пылу, толькі вочы блішчаць на вусатым твары, памыецца і без слова пасядзіцца снедаць. Арыне іншы раз хочацца, каб ён пахваліў ці пахваліў снеданне, і яна дапытваецца ў яго пра гэта.

— Ну як, Алесь, капуста, ці варта што?

— М-м...— адкажа ён.— Капуста як капуста.— І болей нічога.

І ўспамінаецца Арыне дзявочае жыццё і спатканні

з Алесем. Мала ён бываў дома, усё на заробкі хадзіў. Зайздросцілі Арыне дзяўчаты.

— Многа грошай зарабляе твой Алесь,— казалі яны.

Арына чырванела і радавалася, але не грашам. Яна рада была чуць яго імя, слухаць гутарку пра любімага чалавека.

І яна чакала Алеся. Чакала ў доўгія асеннія вечары, вось так, як сёння, за прасніцай, чакала вясной на працы ў пана Ёдкі. А летам ён прыходзіў дадому. Сустракаліся яны ля рэчкі пад вербамі. У вёсцы спявалі дзяўчаты.

Ой, пайду я да млына
Да высокага,
Выбіраці каваля
Чарнавокага!

Прыгожыя былі тыя ночы: цёплыя, светлыя, пахучыя і шчаслівыя... І балота за ракою, аблітае расой, ляжала перад імі, як мора. «Цяпер от не бывае такіх начэй...» — з тугою думала Арына. Але і тады Алесь маўчаў. І Арыне здалося, што за ўсё іх сумеснае жыццё з Алесем яны ні разу не нагаварыліся як належыць. «І чаму так?!» — думала яна. Ды ўсё ж не было часу. Так як і сёння, прыйдзе дахаты змардаваны, павячэрае і лажыцца спаць. Або лапці пляце, ці майструе што-небудзь. А яна прадзе, ды з дзяцьмі няньчыцца. Жыццё!

Але тады хоць Ігнась быў дома. Хата была жывою: то чытае ён, то вершы расказвае... або з Волькай дурэе. А цяпер цішыня. Аж прывыкнуць нельга. Так, задумаўшыся, і не чула Арына, што нехта стукае ў дзверы. Схамянулася толькі тады, калі за дзвярыма нехта крыкнуў:

— Алесь! Няўжо ты спіш?

Уздрыгнула ад нечаканасці і пабегла адчыняць.

— Хто там?

— Ды я! Хіба не пазнаеш свайго суседа!

Па голасу пазнала Патапчыка і адкінула засаўку.

Патапчык зайшоў у хату вясёлы і незвычайна бадзёры. Ён, не спыняючыся, дайшоў да ложка і пачаў будзіць Алеся. Заспаны Алесь сеў і спусціў босыя ногі на дол.

— Рана ты, чалавеча, спаць лажышся,— з жартам папракнуў Патапчык.

«Лёг бы і ты, каб папрацаваў столькі»,— падумаў Алесь і адказаў:

— Нешта нездаровіцца, ліха на яго.

— Маўчы, Алесь. Мне кашаль не дае спаць. Кручуся ўсю ноч, як вужака. Толькі раніцою задрамлю на хвілінку.

— У каго кашаль, той і красен,— засмяяўся Алесь,— і ў роце не суха, і ў хаце не глуха!

— Добра табе смяяцца. А я ўжо хачу кінуць курыдла.

— Не кінеш. Я ўжо прабаваў.

— Паняволі, чалавеча, кінеш, калі за грудзі возьме... Ну, [illegible] ты што робіш цяпер?

— Работы хапае, ліха на яе. Каня ўжо задушыў: штодзень то ў лес, то па сена.

— Ну, твой Пілсуцкі не прыстане. Ён, мабыць, сібірскае пароды. Малы, а цягучы, ніякая хвароба яго не возьме.

— Цягучы, то цягучы, але ж і цягае штодзень.

Патапчык скруціў цыгарку самасаду, падышоў да лучніка, прыкурыў.

— Закуры, Алесь, махоркі хатняга вырабу. Удалы тытунь. А хто зрабіў? Сцяпан Калачык. Бадыльнік, ведаеш, у ступе стаўчэ, тады прымяшае лісту, і махорка што называецца.

Алесь надзеў порткі і кашулю.

— Ты ж, напэўна, не гуляць прыйшоў, Рыгор?

— А чаму не гуляць? — Патапчык зарагатаў.— Прыйшоў да цябе на вячоркі!.. Эх, Алесь, Алесь. А чаму і сапраўды не прыйсці пагуляць адзін да аднаго. Суседзі мы ці не? Ты б, скажам, да мяне прыйшоў, я — да цябе, дык не! Як прыпрэ што-небудзь, тады бяжыш да суседа, як, скажам, вось я да цябе сёння.

— Я ж ведаю, што не гуляць! — сказаў Алесь і падумаў: «Чаго ж гэта ён? Ужо ўскочыла нейкая скула, няйначай».

— Ці помніш, я казаў табе, што ў мяне заробак будзе?

Алесь здзіўлена агледзеў Патапчыка: «Жартуе ён, ці што?» — Пра тую гутарку Алесь зусім забыў.

— Ад заробкаў я не адмаўляюся. Але ж ці цяпер?

— Каб не цяпер, то нашто я будзіў бы цябе!

— Дык як? Цяпер, адразу?

— Ну, а чаго ж там! Абувайся, запрагай каня ды пад'язджай да майго двара.

— Конь жа мой не адпачнуў ніяк.

— Нічога з ім не зробіцца. Якая там праца! Сядзеш на воз ды паедзеш паціху.

Алесь зірнуў на Арыну. Яна ўжо кінула прасці і стаяла ля печы, прыслухоўваючыся да гутаркі мужчын.

— Не варта было б сёння ехаць, Алесь. Хіба табе дня не хапае, што трэба выбірацца ў дарогу на ноч гледзячы.

— Ты, чалавеча, у жонкі парады пытаеш?

— Не пытаю, але ж нечакана ўсё выйшла.

— Ну як гэта нечакана! — здзівіўся Патапчык.— Ці ж я табе не казаў! Чалавек ты, далібог! Якія там заробкі былі на тых дровах, а ты са скуры лузаўся і каня не шкадаваў, а цяпер, калі табе дарэмныя грошы самі ў кішэню просяцца, дык ты і заскакаў, як, скажам, верабей на калу.

«Паскакаў бы і ты! — са злосцю падумаў Алесь.— Каб горла служыла, то ўсякі б трубіў, так як ты трубіш». Але не адказаў нічога і пачаў абувацца.

— Ну дык як, Алесь? — запытаў Патапчык.— Паедзеш, скажы, што паедзеш, а не, дык я Сідара Герасіменю вазьму.

— Паеду, ліха на яго...

— Ну от і ўсё. Запрагай каня і пад'едзь да мяне.

— Не ехаў бы ты, Алесь,— сказала Арына, калі выйшаў Патапчык.— Куды ён цябе вядзе, чаму ён не скажа, куды ты паедзеш?

— Дурная баба! Хіба я не ведаю куды? Жыта ды гарэлку павязе ў Слуцак. Ноччу ж спраўней, як днём.

— Ой, не! Нешта ён дужа вясёлы сёння. Адмоўся, Алесь.

— Дзе ты бачыла, Арына! Паабяцаў, а цяпер адмаўляйся. Нядобра так.

— А ён жа ці завёз Ігнася?

— То гэта ён. А я сваім словам не гандляваў яшчэ.

Калі Алесь запрог каня і выехаў на вуліцу, пачаў ісці дождж. Хмары так абгарнулі неба, што стала цёмна, як у склепе. Лес шумеў і стагнаў. Вецер пачаў дзьмуць з усіх бакоў: куды ні павярніся — адусюль дождж ліўся на твар. Пакуль Алесь даехаў да Патапчыкавага

двара, па грудзях і па спіне яго цяклі халодныя струмені.

Патапчыкаў конь быў таксама запрэжаны і стаяў на двары ля самых варот. Алесь прывязаў да слупа Гнядога і забег у хату. Патапчык сядзеў ля стала. На стале былі талеркі з сырам, салам і гуркамі. Патапчык радасна сустрэў Алеся.

— Антоля, вытры табурэтку чалавеку сесці.

Антоля спрытна абмахнула табурэтку фартухом і падсунула яе да Алеся.

— Дзякую,— мармытнуў збянтэжаны Алесь.— Я толькі павячэраў.

— Не хлусі,— зарагатаў Патапчык,— ты толькі ўстаў. Сядай. На дварэ, кажаш, дождж! Ён нам замінаць не будзе.

Патапчык прынёс з шафы пляшку і наліў поўную шклянку гарэлкі.

— Ну, дай божа, каб усё было гожа. А што не гожа, не дай божа. Будзь здароў, Алесь,— ён перакуліў шклянку і глынуў некалькі разоў.— Бачыш — пустая! А ты пі, як я,— і ён наліў другую шклянку.

Алесь паспытаў і зморшчыўся.

— Пякучая, ліха на яе.

— А ты хочаш, каб гарэлка была салодкая. Такое яшчэ не прыдумалі. Ды не прабуй па кроплі, а адразу. Але не, пачакай. Антоля! Прынясі настоенае на чарніцах.

Антоля знікла за дзвярамі. Алесь канчаткова засаромеўся.

— Што ты, Рыгор! Хіба я госць? Я і гэтае вып'ю,— і ён узяўся за шклянку.

— Не, не. Пачакай салодкае.— Патапчык адвёў яго руку.— Антоля зараз прынясе. Ты, кажаш, не госць,— прадаўжаў Патапчык,— ты, кажаш, не госць. А што там мне госць! Той мне і госць, і сваяк, і найлепшая радня, хто добры чалавек і добры сусед. Ты крыху зазлаваўся на мяне, і дарэмна. Я табе, чалавеча, акрамя дабра, нічога не зычу.

У гэты момант з'явілася і Антоля з пляшкай у руцэ. Патапчык папрасіў у яе другую шклянку і наліў настойкі. Алесь выпіў і адчуў, як па целе разыходзіцца цяпло. Ён адламаў хлеба, узяў гурок і са смакам закусіў.

— Яшчэ па шклянцы! — прапанаваў Патапчык.

— Можа, будзе многа, Рыгор?

— Глупства. Гэта не дровы вазіць. Сядзем ды паедзем.

— Ты еш, Алесь,— прасіў Патапчык.— Ды кінь гурок. Бяры драбок сала. А можа, мёду хочаш?

— Ідзі ты, Рыгор, я ўжо нічога не хачу.

— Ну, табе лепш відаць. Як хочаш. А цяпер, чалавеча, на ды накінь на сябе гэты дажджавік. Адзежына такая, што яе ніякі дождж не праб'е.

— Не варта псаваць, Рыгор,— паспрабаваў адмовіцца Алесь.

— Пакінь ты плявузгаць абы-што. Ён жа і пашыты для гэтага. Ды башлык усцягні на галаву.

На дварэ нягода крыху супакоілася. Вецер сціх, толькі церушыўся дробны рэдзенькі дождж. Патапчык ехаў наперадзе. Ззаду, захутаўшыся ў суседаў дажджавік, драмаў Алесь. Думак не было. Цела зрабілася гарачым і лёгкім. Салодкая дрымота авалодала ім. Алесь зрэдку ўздымаў галаву і з радасцю глядзеў на Гнядога, які не адставаў ад Патапчыкавага каня. Але дрымота прайшла, і Алесь скінуў з галавы башлык. Дождж сціх, і навокал крыху павіднела. На цёмна-сінім начным небе замігцелі зоркі. Алесь успомніў, што не запытаў у Патапчыка, куды яны едуць. «Мяркуючы па дарозе,— думаў Алесь,— едзем мы да Заблужскага млына. Але чаго мы туды едзем? Напэўна ж не па мліва. Ліха яго ведае, што ён за чалавек. Яшчэ завядзе ў такое месца, што не выскрабешся. Сам-то ён выскачыць і з лазы і з балота...»

А Патапчык ехаў сабе наперадзе і нават ні разу не адазваўся. Гэта яшчэ болей хвалявала Алеся, і ён вырашыў перасесці на Патапчыкаў воз. «Не чалавек, а нячысцік,— думаў Алесь, прывязваючы лейцы да драбін,— хітрыкаў у яго, як у старое авечкі матыліц».

— Рыгор! — крыкнуў ён.— Пачакай, закурым!

— Хадзі сюды! — зласнавата адазваўся Патапчык.

«Вось табе і добры сусед... У хаце быў госцем, а цяпер хто? Парабак»...— Ён адчуў кружэнне ў галаве, ногі не хацелі слухацца, але не верылася Алесю, што ён ап'янеў ад дзвюх шклянак, і ён борзда пайшоў наперад, каб дагнаць Патапчыка. «Аднак жа я п'яны,— адзначыў ён сам сабе,— мабыць, настойваў на чарніцах самы пяршак, што так стукнула ў галаву».

— Пачакай ты курыць! — сказаў Патапчык, калі Алесь сеў у перадок яго воза.— У мяне нешта мацнейшае ёсць.

Ён засунуў руку ў глыбокую кішэню буркі. Алесь уважліва сачыў за ім, і яму здалося, што Патапчык дрыжыць, і не ад холаду. Не, не ад холаду. Такія дрыжыкі бываюць толькі ад страху. Калі ж Патапчык выцягнуў пляшку, Алесь рашуча адмовіўся піць.

— Слухай, Рыгор, я хачу пагаварыць з табою.

— Ну і малайчына. А я і чакаю, калі ты запытаеш, куды мы едзем! Але гэтая штука нам не замінае.— Ён страсянуў у руцэ пляшку.— Ты будзеш смялей пытацца, а я смялей адказваць.— Ён адаткнуў пляшку і на хвіліну прыліп да яе.— На, пацягні і ты, Алесь, а я тым часам кілбасу дастану.

Алесь нерашуча ўзяў гарэлку. «А-а, ліха на яе... праўду ён кажа, што смялей буду пытацца».

Сагрэтая ў кішэні гарэлка была вельмі горкая, Алесь з сілай яе глытаў. Яго ванітавала, але ён перамагаў гэта і піў датуль, пакуль пляшка не апусцела.

— На, заткні, чалавеча, каб не вылілася! — Патапчык падаў яму кілбасу.— Дык ты хочаш пагутарыць са мной. А ці падумаў ты, чалавеча, аб тым, адкажу я табе ці не!

— Пачакай! — Алесь адчуў у сабе незвычайную смеласць і злосць.— Не адкажаш, дык што ж! Я павярну аглоблі ў другі бок.

— А не пакаешся?

— Чаго мне каяцца! Багацця мне не схапіць на тваіх заробках, сусед, а бяду якраз за хвост зловіш!

— Эх, Алесь, Алесь. Я і казаў, што ты пасмялееш, калі вып'еш, а ты ўжо і сварыцца хочаш. Ну, куды мы едзем? Куды едзем, туды і прыедзем. Што табе да гэтага? Ты — фурман, наняты чалавек...

— Я, Рыгор, хачу ведаць, куды я еду.

— Хіба ты не бачыш дарогі?

— Чаму не бачу! Дарога вядзе да Заблужскага млына. Але ж за млыном і далей дарога ідзе... Дык от і скажы, куды мы едзем, да млына ці далей.

— Мо да млына, а мо да млынара.

— Мо і да млынара...— сказаў Алесь упаўшым голасам.

— Ну от бачыш! Думаеш, мне цяжка сказаць. Мне не цяжка сказаць, але ўсё гэта залежыць не ад мяне. Выйдзе справа ці не... Калі выйдзе, то і сам убачыш, а не, то карысней будзе, калі ты не будзеш нічога ведаць...— Ён доўга корпаўся ў кішэнях, выняў з кашалька грошы і палажыў на далонь Алесю.— Тут, чалавеча, дзесяць рублёў золата...

Алесь да болю сціснуў у руках грошы. У галаве яго шалёна мітусіліся думкі: «Грошы, золата... дзесяць рублёў золатам».

А Патапчык казаў далей лагодна і разважліва:

— Гэта, калі не выйдзе справа. А калі выйдзе, то яшчэ ўдвайне. Зразумеў?

«Зразумеў, зразумеў»,— хацеў адказаць Алесь, але раптам у рот набегла столькі сліны, што калі ён паспрабаваў загаварыць, то пахіснуўся і ледзь не ўпаў з воза. Патапчык падхапіў яго за плечы і спыніў каня.

Ён доўга яшчэ таптаўся ля воза, а Алесь ляжаў у драбінах і трымаўся рукамі за лёсткі.

## 15

Алесь не спаў. Ён ляжаў на Патапчыкавым возе, і яму было так добра, што не хацелася варушыцца. Конь трухам бег па дарозе, драбіны гайдаліся, як калыска, і Алесю здавалася, што ён плыве ў чаўне. Ён расплюшчваў вочы, і позірк яго ўпіраўся ў чыстае неба, абсыпанае зоркамі, як залатым аўсом. А яно плыло над ім і нахілялася то ў адзін, то ў другі бок, і зоры перасыпаліся ў ім. Гэта стамляла вочы, і Алесь заплюшчваў іх.

Заснуў ён нечакана.

Калі ён прачнуўся, то першым пачуццём, якое адразу дало сябе знаць, быў боль ва ўсёй галаве. Алесь сеў на воз і агледзеўся: Патапчыка не было. Абодва вазы стаялі ў ядлоўцавых кустах. Патапчыкаў конь з торбай на мызе жаваў авёс. Алесь злез з воза і са здзіўленнем убачыў, што і яго Гняды таксама сілкуецца аўсом. «Я ж не браў аўса,— падумаў Алесь і з горкай усмешкай сказаў:— Значыць, сёння мы абодва жывём за кошт добрага суседа». Ён пайшоў па кустах у бок ад вазоў і выйшаў на дарогу. Крокаў за паўтараста адсюль стаяў За-

блужскі млын. «Можа, млын абкрадваць.! Не давядзі госпадзі! — спужаўся Алесь уласнай думкі.— Дадому! — ледзь не крыкнуў ён.— Дадому! Прападзі ты, ліхадзей, са сваімі грашамі». Ён бягом кінуўся да воза, але ў гэты момант пачуў ціхі і трывожны воклiч:

— Алесь!

Алесь спыніўся і агледзеўся.

— Хадзі сюды, Алесь!

Ускрай дарогі Патапчык валок два вялізных мяхі: адзін ён трымаў перад сабою, а другі за плячамі. Алесь забраў у яго адзін мех і пайшоў поруч.

— Адкуль гэта, Рыгор?

— Не твая справа!..

— Як гэта, не мая?!

— Памаўчы, Алесь...— Патапчык спыніўся.— Нясі ты іх ды кладзі на воз. А сам выходзь на дарогу. Што глядзіш! Мо дрэннае што задумаў! Глядзі, чалавеча! — і ён знік у кустах.

«Значыць, папаўся жучку ў панскую ручку... Што ж цяпер рабіць?»

Калі Алесь паклаў мяхі і вярнуўся зноў на дарогу, там ляжалі яшчэ чатыры мяхі значна большыя і цяжэйшыя, чым першыя. «Дык ён жа не адзін іх носіць!» — здагадаўся Алесь, і смелая думка з'явілася ў яго галаве. Ён адцягнуў мяхі да драбін, выйшаў на дарогу і сеў ля куста. Неўзабаве ён убачыў чатырох чалавек, у тым ліку і Патапчыка. Яны неслі за плячамі мяшкі. «Ага! У цябе тут шмат памочнікаў». Паклаўшы мяхі, людзі зніклі ў лесе, а Патапчык пакрочыў проста да воза. Алесь чуў, як ён кашлянуў і замітусіўся ў ядлоўцах. Мабыць, яго растрывожыла адсутнасць Алеся.

Алесь, не спяшаючыся, ішоў да яго.

— Дзе ты быў? — злосным шэптам запытаў Патапчык і схапіў Алеся за грудзі. У цемры вочы яго заблішчалі, як у ката, ён цяжка дыхаў і дрыжаў так, як тады ў дарозе, але рукі яго моцна ўпіліся ў Алесеў каўнер і, здаецца, згубілі здольнасць разгінацца.

— Дзе ты быў, га? Падглядаць хадзіў?!

— Што ты, Рыгор! Пусці, а то калі чмякну, мокра будзе! Я да ветру хадзіў!

— Да ветру? Глядзі, чалавеча! Тут справа крывёю запахла, чуў? Тут справа не абы-якая! Памятай гэта... Галаву згубіць, як арэх раскусіць. Забяры мяшкі на да-

розе і кладзі на вазы... Пакуль я прыйду, каб усё было спраўна,— у голасе яго адчувалася цвёрдасць і рашучасць. Алесь зразумеў, што ён ужо не толькі Патапчыкаў парабак, а проста хатні сабака.

— Заварочвай коней да дарогі... Накрый усё сенам.

Застаўшыся адзін, Алесь пачаў складваць рэчы. Раптам яго ахапіў страх, і рукі пакінулі слухацца. Ён ледзь адвязаў вяроўку ад Патапчыкавага воза, заблытаў яе, потым доўга разблытваў. Мяхам не хапала месца. Ён запіхваў іх, таптаў нагамі, а яны ўпарта вытыркаліся і лезлі назад, як жывыя.

«Падушкі...— пазнаваў Алесь, абмацваючы рэчы.— Вопратка. А гэта нешта цвёрдае, як жалезнае... Падсвечнікі...— ён абмацаў іх. «Лейбу-млынара абрабавалі!» — І ад гэтай думкі халодны пот абліў Алеся.— А ты, значыць, удзельнік,— услых шаптаў ён і не пазнаваў свайго голасу.— Божачка, куды занесла мяне сёння нячыстая сіла! — ён адчуў, што нешта цвёрдае падкочваецца ад грудзей да горла, а з вачэй цякуць слёзы.— Ніколі я не ўлазіў у такія справы,— думаў ён, ліхаманкава круцячыся ля вазоў, увязваючы іх і накрываючы сенам.— А цяпер... Куды я ўлез!»

Патапчык тым часам ішоў па лесе, прабіраючыся між кустоў ядлоўцу. Праз некалькі хвілін ён выйшаў на паляну і ўгледзеўся ў цемру. «Тут»,— падумаў ён і ціхенька свіснуў. Збоку ў адказ яму пачуўся свіст, і Патапчык рынуўся туды.

— Ну як? — шэптам запытаў яго высокі чалавек, які з'явіўся раптам, нібы вырас з зямлі.

— Добра, пане Патржанецкі, усё добра.

— Дурань, не заві па прозвішчу... Перацягнуў усё?

— Хлопцы дапамаглі, пане... Дзякуй ім, толькі...

— Што толькі?

— Падводчык у кустах быў, калі мы прынеслі апошнія мяшкі.

— У кустах? Што ён там рабіў?

— А чорт яго ведае. Кажа, да ветру хадзіў. Я думаю, чапаць не трэба, ён жа на сваім кані, і жонка ведае...

— І жонка ведае! — ён схапіў Патапчыка за каўнер і пачаў трэсці, нібы жадаў, каб той рассыпаўся на дробныя кавалачкі.

— Не, пане... Калі ласка... Жонка не ведае, куды мы паехалі... Чалавек ён надзейны, пане...— заікаў-

ся Патапчык, цягнучыся губамі да рук Патржанецкага.

— Надзейны! Дурань, надзейнага нічога няма. На сябе толькі надзейся! Ах, быдла, быдла. Табе даверылі такую рэч, ты ўзяў столькі дабра!

— Далібог, паночку, камар носа не падточыць.

— Ах, дурніца! Ну, глядзі! Вось свісну, і ад цябе толькі мяшок костак застанецца.

У Патапчыка ўзняліся на галаве валасы.

— Усё будзе добра, паночку...

Калі Патржанецкі выпусціў яго са сваіх лап, ён усё яшчэ хістаўся і не мог устаяць на нагах.

— Ну, глядзі, Рыгор, ты мне галавою адкажаш за гэта.

— Адкажу, паночак, далібог адкажу...

— Ну вось, Рыгор, гэта табе навука. Калі патрэбны будуць фурманкі, то запрагай свае коні, а фурманы ў нас будуць.

— Не можна! — горача запярэчыў Патапчык.— Дзе вы бачылі! У якую пару ні выедзь, усё роўна нехта ўбачыць і падумае, куды ён на пары коней? А калі з другім чалавекам, ніхто нічога не падумае. Ат, паехалі па сваіх справах. Я ўжо ламаў галаву над гэтым.

— Ну, глядзі!.. А што гарэлкі падвёз — дзякую, мае хлопцы вельмі рады. А падводчыку плаці, не шкадуй.

— Пра гэта не турбуйцеся...

— Дай яму што-небудзь з адзежы, акрамя грошай. Гэта прымусіць яго маўчаць, удзельнікам яго зробіць.

— Добра, паночку... Толькі ў гэтага золата было ж...

— Эге! Табе і так немалая доля папала!

— Лахманы... Далібог лахманы.

Патржанецкі пашукаў у кішэні і высыпаў у Патапчыкаву далонь некалькі манет. Патапчык сціснуў іх у кулаку і цмокнуў руку Патржанецкага.

— За гэта выберы там мне што лепшае. Ды я сам у цябе буду, пагляджу. Ну, хутчэй едзь.— Патржанецкі нырнуў у лес і знік.

Патапчык з палёгкаю ўздыхнуў. Ён, не спяшаючыся, ішоў праз лес і не зварочваў увагі на хваёвыя калючкі, што паролі яму ў твар. «Хваробы ты ў мяне выбераш! — думаў ён.— Не ўбачыш ты ў мяне нічога лепшага, пры-

хаваю. Хіба лапсардак які возьмеш. І таму дурню нічога не дам. І так будзе маўчаць... Аднак усё гэта робіцца хітра. Пакуль там, у мястэчку, уведаюць, то іх і след прастыне». Раптам у яго з'явілася страшная думка. А што, калі адтуль, з мястэчка, ужо імчыцца міліцыя. Гэтая думка сарвала яго з месца, і ён пабег напрамкі праз карчы і вывараты. Галлё хвастала яго па твары, ён некалькі разоў паваліўся, выцяў калена аб пень, але не спыніўся. Алесь ужо выехаў на дарогу і чакаў Патапчыка. Той выскачыў з лесу і не ўскочыў, а проста ўзляцеў на воз і пугаю лупнуў каня. Конь ірвануўся і пабег на ўвесь ход. Алесеў Гняды ледзь паспяваў за ім. Так ехалі каля гадзіны. Патапчык увесь час азіраўся назад і не даваў адпачынку каню.

Ноч была халодная. «Ой, вялікія вочы ў страха, ой, вялікія! — думаў Патапчык.— Ну, хто сюды прыедзе ў гэтую цемень, у гэты лес. Дурны Лейба не захацеў жыць у мястэчку, пакваліўся на вялікі прыбытак, дык і нажыўся». Чым далей ад'язджалі яны ад Заблужскага млына, тым спакайней станавілася ў яго на душы. «Аднак хітры гэты бандзюга Патржанецкі! Выбраў месца — Заблужжа. Навокал лес, тут за ноч можна не толькі Лейбу ўкокаць, а ўвесь млын разам з паравіком перавезці. Але я падаспеў упору. Дабра ў мяне, дзякуй богу, хапае».

Алесь толькі цяпер па-сапраўднаму зразумеў, што здарылася сёння ноччу. Ён быў гатовы праваліцца скрозь зямлю або забыць пра ўсё так, каб болей не ўспамінаць. Іншы раз яму здавалася, што ён бачыць брыдкі сон, але калі ён азіраўся навокал і мацаў рукою рэчы, на якіх сядзеў, сапраўднасць уставала перад ім. «Праўду казала Арына,— думаў ён,— куды ты едзеш, Алесь? Куды ты ехаў і куды заехаў. Ліха на мяне...»

Калі пад'язджалі да вёскі, ужо чулася блізкасць раніцы. Ехалі цяпер ціха, не спяшаючыся, як з кірмашу, накупляўшы цэлыя вазы дабра. Паехалі не вуліцай, а па загуменнях. У некаторых гумнах і адрынах ужо малацілі. Праз шчыліны між бярвенняў вылазіла на двор святло ад ліхтароў. Патапчык перасеў на Алесеў воз.

— Ну што, Алесь, галаву павесіў? Ці праца не спадабалася?

— Маўчы, Рыгор... Я пра такую працу і ў сне ніколі не сніў.

— Ну і добра. Мы з табою нічога не бачылі, нічога не ведаем, нашы хаты з краю.

Вароты на сваім прыгуменні Патапчык адчыніў так, што яны нават не рыпнулі. Усе рэчы зламылі ў Патапчыкавым гумне. К гэтаму часу пашарэла цемра, і Патапчык стараўся не глядзець на Алеся.

— Гэта, чалавеча, усё не маё,— казаў ён.— Прыйдзецца яго аддаць таму, каму яно цяпер належыць. Я, чалавеча, таксама, як і ты, зарабляў. Жыць на свеце трэба, а ў жыцці ўсяк бывае: і проста, і крыва...

Алесь маўчаў, нахіліўшы галаву. «Гары ты з усім тваім дабром... Пусці хоць душу на пакаянне»...— хацелася сказаць яму, але не паварочваўся язык.

— Ну, Алесь... Што ты такі пануры? Весялей, чалавеча! Цяпер мы з табою, нібы рыба з вадою. На, каўтні на сон яшчэ раз.

— Ах, Рыгор! Які тут сон. Ніколі я не спаў днём. Не буду я піць. Я і так адурэў сёння... Абух абухом...

— Ты толькі цяпер адурэў, чалавеча. А выпіць ты павінен, бо я буду думаць, што ты маеш на мяне благое вока. А я гэтага не хачу. Ды і табе, чалавеча, не выгадна лезці ка мне ў ворагі.

— Ну што ж, давай.— Алесь узяў гарэлку і пачаў піць.

«Прадаў чорту душу,— думаў ён, жуючы кілбасу,— прадаў душу, прадаў сумленне, хто ж ты цяпер, Алесь Марыніч?»

— Ну, а цяпер табе плата... Там адзін, тут два... усяго тры круглякі. А колькі ты на дрывах зарабіў?

— Маўчы, Рыгор, не рэж сэрца...

Ён выйшаў на двор і завярнуў воз на вуліцу. Следам выйшаў і Патапчык.

— Дома, Алесь, скажы, што вазіў маю пашню... да Голанда. Так і скажы, Алесь!

Толькі Алесь выехаў на вуліцу, пайшоў дождж. Ён ліўся густы і буйны так шчодра, што, пакуль Алесь распрог каня, на двары і па вуліцы ліліся раўчукі.

«Шанцуе зладзеям, далібог шанцуе»,— падумаў Алесь.

## 16

Кожную пятніцу малодшы Алтараў сын Абрам ідзе ў краму да бацькі. Алтар аддае яму сваё крэсла, і Абрам садзіцца за прылавак. Тады Алтар вымае тоўстую канторскую кнігу і дыктуе:

— Пішы! Адпушчана аптэкару Кучынскаму шавёту восем аршын у крэдыт.— Абрам старанна піша. Алтар з задавальненнем глядзіць на яго і думае. Ён думае аб тым, што ў яго ўжо вялікія дзеці. Вунь самы малодшы Абрам, а выцягнуўся з палескага злодзея, бацьку даганяе. Дзякуй богу! Няхай даганяе. Абы даганяў! Сам Алтар яшчэ не стары чалавек, ён яшчэ не дзед! Дзеці ўдалыя! Не калекі, не дурныя, не басякі. Ого! З іх будуць людзі. Іншы раз думкі так захопяць яго, што ён забывае пра Абрама. Тады Абрам пачынае круціцца на сваім крэсле і з тугою зазіраць у дзверы. Дзякуючы гэтым рухам, бацька ўспамінае пра сына і зноў дыктуе:

— Пішы! Рывіну Залману даў паркалю трыццаць аршын, саціну трыццаць аршын і шавёту пятнаццаць аршын у крэдыт. Цяпер з новага радка пішы. У Рывіна Залмана я пазычыў пяцьдзесят рублёў зол.

— Татэ,— пытаўся Абрам.— А што такое зол?

— Зол гэта ёсць зол, і твая справа малая,— кажа Алтар, а Абрам, прыгнуўшыся, смяецца: ён добра ведае і сам, што гэта за «зол»!

У буднія дні на рынку людзей бывае мала, і гандаль мануфактурай дае Алтару невялікі прыбытак. Наогул, сяляне мала купляюць яе. Найбольш перапоўнены тыя крамы, дзе прадаецца соль, сернікі, газа, жалеза, мазь і іншыя рэчы, неабходныя ў гаспадарцы. Сяляне прывыклі да свайго саматканага адзення, а солі купляюць цэлыя вазы. Усё не верацъ, што будзе яе даволі.

У Алтара крама перагароджана на дзве палавіны: у пярэдняй ляжыць мануфактура, а ў задняй усё, што трэба: соль, сернікі, мыла, газа, нават жалеза. Абрам і спазняецца іншы раз дадому, бо запісвае ў тоўстую кнігу прыход і расход тавараў з задняе палавіны. Гэтая задняя палавіна накшталт святога святых, куды забараняецца хадзіць усім хатнім, акрамя Алтара і Леі, бо, як вядома, Алтар плаціць патэнт толькі за мануфактуру, то не вельмі і патрэбна, каб кожны ведаў заднія тавары.

Дзякуючы такой прыстасаванасці можна было б не дрэнна жыць, але замінае кааператыў. Ён займае пакуль што толькі адну краму, аднак хто ведае? Можа, ён хутка зойме дзве ці тры! Усе хадавыя тавары там, і заўсёды поўна людзей.

Цяпер у мястэчку ёсць новы начальнік — сакратар партыйнай ячэйкі Кавалёў. Уй, які ж ён пранозаваты чалавек. У Баранаўца Андрэя праз яго адабралі патэнт і з партыі выкінулі... Каваль дык каваль... Што яму трэба ад гэтых бедных гандляроў, што яны да яго маюць! Патэнт! Дык мала яму патэнту! Аддавай дзяржаве збожжа! Трэба мне вашы грошы! Я сам прадам, каму хачу, знайду, дзе збыць тую крыху таго няшчаснага збожжа. Тыя фунты... Дык не, прадавай дзяржаве, бо недзе там, у чорта лысага за гарой, не ўрадзіла... дзякуй богу, я хлеба не сею, а вы калі сееце, то няхай родзіць. А хто галодны, то хай купіць. Хіба мы не прадаем? Прадаем, купляйце...

Такія думкі наводзяць на Алтара сум і безнадзейнасць. Але Алтар не такі чалавек, што жыве толькі сённяшнім днём. У яго ёсць на плячах галава, і яна, пакуль што, не дрэнна варыць. Алтар не сядзіць, склаўшы на жываце рукі. Ён дзейнічае. «Цяпер не дзевятнаццаты і не дваццаты год, можна што-небудзь рабіць. Трэба толькі падумаць, і нешта прыдумаеш».

Грэйнім гандлюе ў краме. Няхай людзі думаюць, што ён зойме бацькава месца. Суседзі — зайздросныя людзі. Хочаш, каб у цябе быў вораг, то знайдзі сабе суседа... Але ніхто не ведае, што Грэйнім хаўруснік Ісроелевага млына. Невялікі хаўруснік, толькі чацвёртая частка яго, але ж з цягам часу можна ўлезці і ў палавіну. А там бог-бацька.

А другі сын — Довід, вучыцца ў слясарнай майстэрні латыша Клявіна. «Ах і здатны хлопец Довід! — думае Алтар, і бацькаўская гордасць падымаецца ў яго сэрцы.— Залатыя рукі ў хлопца, што ні ўзяў, тое і зрабіў. Толькі ён не такі, як Грэйнім, не, не такі. І характар не той, і камерцыі не ведае... А мо ведае, ды не хоча». І растае гордасць у бацькавым сэрцы. Нейкая трывога і прадчуванне нядобрага запаўняе нутро. «Э-э! — думае Алтар, адагнаўшы трывогу,—нічога! Няхай вучыцца. Ён яшчэ малады. Свая вош яшчэ не ўкусіла. Пасталее — паразумнее. Няхай толькі навучыцца! А тады і сваю

майстэрню не грэх будзе адкрыць. Не горшую, як у Клявіна. Мо цесна будзе ў мястэчку? Ну, каму цесна, той няхай пашукае прастору. А працы хопіць! А калі не хопіць тут, то ці мала мястэчак і гарадоў на свеце. Абы галава ды розум, свет яшчэ клінам не сышоўся».

Трэці сын — Мотэль працуе ў выканкоме на пішучай машынцы. Не бяда! Пакуль што няхай сабе і на машынцы, а потым! Потым нядоўга стаць і начальствам. Усё пачынаецца з малога, канчаецца вялікім. Свет цяпер не той. Хто мае галаву, той ідзе наперад. Усё жывое расце. Гэта закон жыцця. Дрэнна, што ён датычыцца і да каапературыва... Гэты каапературыў кожны раз наганяе на Алтара сум і клопат. Але, падумаўшы крыху, Алтар усміхаецца: «Ха! А хіба не можна ўлезці ў той самы каапературыў! У той самы каапературыў! Ха! Цяпер усё можна!»

Паддаўшыся такім марам, Алтар забывае аб усім, і пакупнікі праходзяць ля яго крамы, не зазіраючы ў яе. Пакупнікі сталі цяпер пераборлівыя. Зойдзе які-небудзь лапцюжнік,— мацае, нюхае, гладзіць... Свой фунт гатоў да неба падняць. «Я ў цябе, Алтар, толькі па знаёмству купляю. У каапературыве такі ж самы корт на цэлы фунт танней». Галоўнае: на цэлы фунт! А што гэты фунт? Мікалаеўская капейка! Забылі, ліха вашай матары, калі за аршын па два пуды давалі, а за шклянкай солі беглі б да самага Мінска. А цяпер фунтам дакараюць.

Пасля такіх мар і думак Алтару нездаровіцца. Гэта бывае тады, калі Лея, як гром сярод яснага дня, уварвецца ў краму і застане Алтара ў віры ўласных мар. Тады трымайся! Чаго толькі не прыдумае, чаго не скажа гэтая кабета! Што ў яе за язык, і чым ён там прывязаны!

«Чаго ты сядзіш, як варона пад дажджом! — ускінецца яна на Алтара.— Ах, божа мой, божа! Што гэта за гаспадар, і аб чым ён думае. Можа, ты, стары індык, задумаў нас голадам замарыць? Можа, ты прыдумаў, як зрабіць нас старцамі? У Рывіна поўная крама людзей. Кічын не паспявае мераць, нават Мармур — такая панчоха, і той прадае. Выйдзі, зірні, як гандлююць людзі». Тут яна пачынае плакаць і пералічаць сваю працу. Тады Алтару хочацца ўцячы з крамы, бо калі Лейка пачне пералічаць свае пакуты, тады дрэнная справа. Яна скончыцца толькі дома. Прытым Лейка вылічыць так добра і дасканала, што Алтар ні больш ні менш, як нуль, а са-

ма яна — усё: гэта яна трымае сям'ю на сваіх бабскіх плячах. Гэта яна корміць і адзявае старога хлуса, гультая, абібока, абжору, які толькі і думае, як бы ашукаць жонку! І калі сям'я яшчэ не голая і не галодная, то толькі дзякуючы ёй, а каб не яна, то Алтару даўно б ужо прыйшлося стаць каналупам на местачковай бойні замест Янкель-Довіда, бо на іншую працу ў яго няма здатнасці.

Ах, як цяжка ваяваць з бабамі. Алтару іншы раз страшна ісці з крамы дадому: «Што ж яна скажа мне сёння?» — думае ён пра Лейку і назнарок заходзіць да суседзяў, каб перакінуцца словам, пачуць якую-небудзь навіну, а к гэтаму часу дадому прыйдуць Довід і Мотэль. Пры іх Лейка не такая атрутная.

Мотэль — музыка. Вечарам, прыйшоўшы з выканкома, ён бярэ мандаліну і садзіцца ля грубкі ў крэсле. Сумныя і вясёлыя песні іграе Мотэль. Але болей сумныя. Вельмі добра, калі Алтар прыйдзе дамоў, а Мотэль ужо іграе. Тады Лейка маўчыць. Яна толькі зірне на Алтара так, што ў таго сэрца сціснецца, і прашыпіць: «Панчоха». І на гэтым усё канчаецца. Потым сям'я садзіцца вячэраць. Адным словам, у такія вечары можна жыць.

Сумныя песні іграе Мотэль. Ігнась стаіць з боку Мотэля і слухае. Не зразумелыя, але прыемныя матывы зачароўваюць яго. Яны прыносяць успаміны, навяваюць мары, падымаюць жаданне жыць без канца. Тады здаецца, што нешта жывое ўваходзіць у істоту і бушуе там. Як бы доўга ні іграў Мотэль, Ігнась не пакідае свайго месца. Ён нават не заўважае злосных Сіміных позіркаў, якія красамоўна гавораць: «Пайшоў адсюль!.. Што ты разумееш у музыцы».

А Мотэль сабе моўчкі іграе і ні на кога не глядзіць. Ён іграе для сябе і не ўтойвае гэтага. Аднак Довіда Ігнась паважае больш, чым Мотэля. Ён не толькі паважае яго, а і любіць. Довід — мастак. Гэта ён намаляваў партрэты Пушкіна, Гогаля, Шылера і Шэкспіра, якія вісяць у прыгожых рамах. Рамы зрабіў сам Довід.

А ля Сімінага туалетнага століка вісіць малюнак «Мора». І яго намаляваў Довід. Гледзячы на яго чорныя мазольныя рукі, нельга паверыць, што яны здольны зрабіць такую прыгажосць. Але цяпер Довід не малюе. Ён нават смяецца са свайго малявання.

— Не зайздросць, Ігнась! Па клетках намалюеш і ты. А я інакш не ўмею. Які я мастак! Я слесар!

Довід прыносіць з майстэрні напільнікі, клешчы, абломкі пілак, якімі рэжуць жалеза, і цэлыя гадзіны сядзіць за працай.

— Тэрміновы заказ. Прымушае гаспадар, хоць ноччу, а зрабі.

Ігнась любіць яго працу і наглядае за ёю. Довід не злуецца і нават просіць што-небудзь дапамагчы. А галоўнае, з ім можна гутарыць. Ён адказвае на ўсе пытанні, пытае сам і апавядае смешныя выпадкі, што здараюцца з яго гаспадаром, і ўмее вельмі ўдала перадражніваць яго. Не так, як Мотэль. Перш чым адказаць, ён паглядзіць на Ігнася, нібы бачыць перад сабой не чалавека, а так нейкае жывое стварэнне, падумае і нехаця адкажа.

Сіме жывецца лепш, як усім. Яна чытае цэлыя дні. Або цыруе панчохі. Або сядзіць за сваім столікам, глядзіцца ў люстэрка і ладзіць на галаве з валасоў розныя збудаванні. Або ходзіць гуляць. У яе няма сталага занятку, і не раз прыкмячаў Ігнась, што ёй бывае сумна. Тады яна пачынае пазяхаць і нарэшце ідзе ў спальню.

Наглядаючы жыццё Алтаравай сям'і, Ігнась зразумеў, што жывуць яны, нібы чужыя. Яны збіраюцца разам толькі есці, а ўвесь астатні час кожны заняты сваёй справай. У іх няма агульных інтарэсаў, таму няма і агульнай гутаркі.

Ігнасю падабаецца Довід і крыху Мотэль. У абодвух самастойны заробак і залежнасць ад сям'і малая.

Мотэль прыносіць у хату цеплыню і спакой, Довід смех і працу, Грэйнім сум і дзелавітасць. Ігнась не любіць яго сутулай фігуры, яго непаголенага твару, яго ржавага голасу. Калі ён пачынае гаварыць, то Ігнась ведае, што ён гаворыць пра грошы, пра гандаль, пра хлеб, пра млын. Ён ніколі не смяецца, гэты невясёлы дзелавы чалавек. І думаецца Ігнасю: як не падобны адзін на аднаго Алтаравы сыны!

## 17

Сакратар камсамольскай ячэйкі Іван Барай толькі што скончыў гарачую прамову, поўную такіх важкіх доказаў і фактаў, якім, на яго думку, нічога нельга было

супрацьпаставіць. Яго блакітныя шчырыя вочы глядзелі цяпер на Кавалёва пераможна і хітра. Ён чакаў, што калі той пачне пярэчыць, то ў яго ў запасе ёсць яшчэ аргументы, бо сваю зброю ён вылажыў не ўсю. Кавалёў сядзеў, апусціўшы вочы на стол, і, відаць, не надта слухаў прамову Івана, але калі ён зірнуў на сакратара камсамольскай ячэйкі, той адразу прачытаў на яго твары ўхвалу.

— А хто ж кажа, таварыш Барай, што камсамольцам не патрэбен клуб. Пытанне пастаўлена не толькі своечасова, але і з некаторым спазненнем. Клуб будзе ў бліжэйшыя дні. Буткевіч як старшыня выканкома пойдзе нам насустрач. Аднак я вас выклікаў зусім не па гэтай справе. Можна мець клуб і нічога не рабіць. А нам неабходна ажывіць работу камсамольскай ячэйкі. Аб гэтым была гутарка на партыйным сходзе, на якім вы былі. Да гэтага часу ўся дзейнасць камсамольцаў мала выходзіла за рамкі ячэйкі, а цяпер прыйшоў час разгарнуць сваю работу значна шырэй. Трэба працаваць з моладдзю, з насельніцтвам.

— А я хіба не аб гэтым думаў, таварыш Кавалёў! Я кожны дзень аб гэтым думаю! Мы шмат спрачаліся і гаварылі аб тым, як трэба трымаць сябе камсамольцу, а гэтым цяпер нельга абмяжоўвацца.

— Правільна. Вам вядома, што ў сувязі з нэпам саматужнікі — асноўная маса працоўнага насельніцтва мястэчка — ліхаманкава адкрываюць майстэрні. Былы працоўны саматужнік становіцца прадпрыемцам... Арганізоўваюцца не то трэсты, не то акцыянерныя таварыствы,— Кавалёў усміхнуўся,— якія аб'ядноўваюць пяць — дзесяць саматужнікаў.

— Напрыклад, у Рывіна,— сказаў Іван.

— І ў Кічына. Вам вядома іх будова? Не? Ну дык я вам растлумачу. Прыбытак яны будуць дзяліць згодна ўкладзенага ў таварыства паю. Пад выглядам вучняў яны набіраюць у майстэрні бедных саматужнікаў у якасці рабочых. Вучні прыбыткаў не ўбачаць, ім вызначаецца плата ад выпрацоўкі.

— Дык гэта ж эксплуатацыя, таварыш Кавалёў! — абурыўся Іван.

— А вы гэтага не ведалі! Таму цяпер і стаіць задача: па-першае, нешта супрацьпаставіць гэтым майстэрням. Майце на ўвазе, што яны хутка будуць не толькі

прымаць заказы, а самі купляць неабходную сыравіну, рабіць тавар і збываць яго.

— Як фабрыка!

— Невялікая швейная фабрыка. Па-другое, праводзіць агітацыйную работу сярод саматужнікаў,— прадаўжаў Кавалёў,— супраць такіх майстэрняў, за арганізацыю працоўных арцелей, бо іх мы і супрацьпаставім майстэрням. Значыць, усё зводзіцца да аднаго: трэба каапераваць саматужнікаў. Камсамол павінен нам дапамагчы ў гэтай справе.

Іван Барай доўга маўчаў. Ён сам адчуваў, што ў майстэрнях Рывіна і Кічына хаваецца нейкае зло, але не ведаў яго сутнасці. Цяпер ён зразумеў усё, акрамя аднаго, як арганізаваць арцель. Зірнуўшы на Кавалёва, запытаў:

— Як жа гэта зрабіць, таварыш Кавалёў?

— Вось мы і пагутарым. Ёсць жа камсамольцы саматужнікі?

— Ёсць, але ж яны працуюць разам з бацькамі...

— Ну дык што ж! З іх і павінна арганізавацца першая кааперацыя.

Барай зноў доўга маўчаў. Гэтая справа крыху спалохала яго.

— Таварыш Кавалёў! — нарэшце прамовіў ён,— калі б мы зрабілі такую справу, было б вельмі добра...

— Мы яе зробім, бо перавага на нашым баку. Нам дзяржава ідзе насустрач!

— З чаго пачаць, таварыш Кавалёў? У нас ёсць адна камсамолка-краўчыха Ірына Сідаровіч. З ёю трэба пагутарыць. Яна пісьменная і... такая, што зможа арганізаваць...

— Мы будзем разам пачынаць. А пагутарыць з ёю трэба зараз жа. Вы прышліце яе да мяне.

— Добра, таварыш Кавалёў. А з некаторымі я пагутару сам.

І ён шпарка выйшаў з кабінета сакратара.

На двары было асклелае асенняе надвор'е. Стрэхі, платы, тратуары з дошчак — усё было мокрае, халоднае і слізкае. Імгла дробнымі кропелькамі асядала на суконную світку, на шапку, на твар. Прыгнуўшы галаву насустрач ёй, Іван размашыстымі крокамі пайшоў па Крапівінскай вуліцы ў самы канец. Ён зразумеў, што ў жыцці і працы камсамола настаў пералом. Многа чаго будзе

незнаёмага і цяжкага. Ён прадчуваў яго і радаваўся. «Абы Ірына была дома,— думаў ён.— Мо дзе ў мястэчку». Ён уявіў хату Ірыны — старую, пакрыўленую і бедную. Успомніў гутаркі з Ірынай пра лепшае жыццё, яе скаргі, і яму стала крыху сумна. «Мо з сённяшняга дня, Ірына, пачнецца тое лепшае жыццё»,— звярнуўся ён у думках да дзяўчыны, якая, мабыць, і не ведала, якую шчырасць да яе і каханне носіць у сваёй душы Іван Барай...

Кавалёў разгарнуў паперку з павяткома і некалькі хвілін чытаў яе. «Гэта мы правялі і праводзім,— падумаў ён,— а што датычыцца выключэння з партыі Баранаўца, то зроблена правільна... Павятком таксама можа памыляцца. Яны не ведаюць, як цяжка працаваць тут, у Лясной валасці, дзе пад кожным кустом можа хавацца вораг».

Кавалёў зірнуў на гадзіннік. Прайшло толькі дзесяць хвілін, як выйшаў Барай.

Ён адсунуў шуфляду ў стале і выняў з яе кнігу Леніна. У цяжкіх выпадках ён заўсёды раскрываў гэтую кнігу. Там не было простых адказаў на яго запытанні, там нічога не гаварылася пра ўмовы працы ў гэтым мястэчку, але Кавалёў ведаў, што патрэбны адказ знойдзе. І ён нахіліўся над кнігай.

На сцяне тахкаў гадзіннік. Па шыбах шырокіх акон сцёбаў асенні дождж, і яны адгукаліся сумным, ледзь чутным звонам. Усё гаварыла аб жыцці, якое няўхільна ідзе наперад.

Пачуўся ціхі стук у дзверы.

— Зайдзіце! — сказаў Кавалёў, адрываючыся ад кнігі.

Ля парога стаяла маладая дзяўчына з вялікімі шэрымі вачамі і русымі кучаравымі валасамі. Ва ўсёй яе постаці толькі гэта і было асабліва прыкметным.

— Праходзьце, калі ласка, і сядайце.

— Дзякую. Пастаю.

— Доўга вам прыйдзецца стаяць. Я выклікаў вас па важнай справе. Мне рэкамендавалі вас як добра пісьменнага чалавека.

— Іван Барай? — засаромеўшыся, запытала дзяўчына.

— Так.

— Ён памыляецца. Я скончыла вышэйшае пачатко-

вае вучылішча і люблю чытаць... А яму здаецца, што я вельмі вучоная.

— Ваш бацька не дрэнна зарабляў, калі мог вас вучыць.

— Не ведаю. Але ў нас заўсёды чаго-небудзь не хапала. Тата быў кавалём, мама працавала падзённа, я дапамагала ёй.

— Дык вы шмат чытаеце. Што ж, напрыклад, вы чыталі? Вы сядайце, калі ласка.

— Мне здавалася, што я шмат прачытала,— адказала дзяўчына.— Я прачытала ўсіх рускіх класікаў,— яна зрабіла крок наперад.— Бальзака, Заля, Вальтэр Скота, Дзікенса,— яшчэ крок наперад,— Лондана, Твэна, Уэльса,— і яна села не на кончык крэсла, як гэта робяць начытаныя паненкі, якія заўсёды хочуць каму-небудзь падабацца, а па-мужчынску, без лішніх рухаў, і ўсё гэта выйшла вельмі натуральна.— Я шмат чытала, але цяпер няма часу.

— У вас вельмі многа заказаў?

— Вельмі мала... Я ў большасці працую падзённа на розных работах. На адным кравецтве пражыць нельга.

— Я так і ведаў. А хутка ў вас зусім не будзе заказаў. У вас ёсць машына?

— Ручная...

— Заказаў у вас не будзе. Рывін і Кічын адбяруць у вас работу.— Кавалёў моўчкі перагарнуў кнігу і зірнуў на Ірыну. У вачах яе была такая туга, што Кавалёву стала шкада яе.

— Я аб гэтым думала... Як жа тады жыць працоўнаму чалавеку? — у роспачы запытала яна.

— Змагацца, таварыш Сідаровіч. Вы чыталі раман Чарнышэўскага «Што рабіць?»?

— Некалькі разоў...

— Ну дык мы і спынімся на ім. Бо пытанне: «Што рабіць?» — стаіць сёння і перада мною, хоць, вядома, і не такое, як у кнізе. Што вы можаце сказаць пра майстэрню Веры Паўлаўны?

— Я б з ахвотай працавала ў такой майстэрні!

— Я так і думаў. Вам толькі трэба стаць Верай Паўлаўнай, вы мяне зразумелі?

— Зразумела... Гэта вельмі цяжка...

— Не лёгка, не раз-два і гатова. Але магчыма.

— Не ведаю, таварыш Кавалёў. Наўрад ці я здолею.

— Дрэнна вы аб сабе думаеце. А я веру, што здолееце. Тым больш што мы вам дапаможам. Партыйная ячэйка дапаможа, камсамол, выканком, уся дзяржава. Наша палітыка і накіравана на тое, каб аб'яднаць саматужнікаў у арцелі. Я вам Чарнышэўскага толькі для прыкладу прывёў. Вера Паўлаўна працавала адна і ва ўмовах царскай улады. Што вы на гэта скажаце?

— Я не ведаю, што вам сказаць. Мне страшна...

— Вам будзе больш страшна, калі давядзецца ісці ў вучаніцы да Рывіна ці Кічына або стаць падзёншчыцай.

— Аб гэтым цяжка і думаць...

— Ну дык вось. Рабочы павінен працаваць на сябе, а не на капіталіста. За гэта праліта кроў. Вы хочаце прымаць удзел у пабудове новага, дык вось вам поле для дзейнасці. Дапамажыце нам арганізаваць людзей, дайце прыклад, вы камсамолка. Пабачыце, як пойдзе справа! Мы ўсіх вучняў адбяром у прадпрыемцаў. Мы і за працу будзем браць танней, бо нашых прыбыткаў ніякія Рывін і Кічын не паложаць у сваю кішэню. Нарэшце, мы самі можам купляць матэрыял і расшываць яго на продаж. Ды гэта ж фабрыка! Вы зразумелі?

Ірына ўсміхнулася. Вялікія вочы яе глядзелі так весела, так ласкава, у іх было столькі надзеі, што Кавалёў сам усміхнуўся, гледзячы на яе.

— Няўжо так будзе?

— Інакш і быць не можа!

Рыпнулі дзверы, і ў кабінет паціху зайшоў Іван Барай.

— Я вам не буду замінаць? — запытаў ён.

— Не! — весела адказаў Кавалёў.

— Ірына, ты ўсё яшчэ пярэчыш! — абурана сказаў ён.— Мы і так спазніліся з гэтай справай. Я стрэў Сцяпана Юхневіча, які працаваў у Кічына вучнем. Ён хоць заўтра пойдзе ў арцель. Вучнёўскі заробак яго не задавальняе, ён жа майстра!

— Я ж не пярэчу, Іван!

— Мы ўжо дамовіліся, таварыш Барай.

Зазваніў тэлефон. Кавалёў зняў трубку і прытуліў яе да вуха.

— Хто гэта? Начальнік міліцыі? Слухаю, слухаю.

Раптам вочы яго зрабіліся вялікімі і пабялеў твар.

Ён ухапіўся рукою за стол і, не адрываючыся, слухаў паведамленне.

— Зразумеў,— нарэшце адказаў ён.— Слухай, таварыш Руткоўскі, я чакаю цябе,— ён павесіў трубку.

— У нашай воласці забілі адну сям'ю,— сказаў ён,— мо чулі пра Заблужскі млын? Мяркуючы па словах начальніка міліцыі, у воласці з'явілася банда. Вораг на кожным кроку. Вас гэта не палохае?

Пытанне было пастаўлена перад Ірынай, і яна адказала:

— Не, мяне гэта не палохае.

— Лавіць трэба іх, таварыш Кавалёў! — узрушана сказаў Іван,— знішчаць, пакуль не позна...

— Вы застаньцеся, таварыш Барай, сюды прыйдзе Руткоўскі, паклічам Гурына і Буткевіча і абмяркуем становішча.

Ён правёў Ірыну да дзвярэй.

— А з вамі мы ўбачымся заўтра.

## 18

У першыя ж дні Антось агледзеў гаспадарку. Старая хата ўжо дажывала свой век. Сцены яе патрухлявелі ўшчэнт, парні дручком — і пройдзе ён наскрозь. У двары не было ні хлява, ні адрынкі. Вакол сядзібы хоць бы кол, а не то што плот.

Два разы хадзіў Антось у сельсавет, каб пабачыць Ткачэню і старшыню камітэта ўзаемадапамогі Макарэвіча, і абодва разы сельсавет быў закрыты.

Антось зразумеў, што для яго гаспадаркі патрэбны не толькі рукі. Патрэбны сродкі і матэрыялы. І ўсё роўна адной пары ўласных рук мала, каб падняць будыніны, прыдбаць каня, калёсы, плуг і ўсё іншае, неабходнае ў гаспадарцы.

Меркаваў пакуль што дагледзець на зіму хату, навазіць дроў, а потым ісці ў воласць сустрэцца з валасным начальствам.

Першы сусед, які прыйшоў пабачыцца з ім, быў Яўхім Мядзведзь, дужы, здаравенны мужчына, заядлы паляўнічы. Ён распытваў Антося, што робіцца на свеце, але найбольш цікавіўся законамі, якія датычацца сялян. Услед за ім пачалі прыходзіць і іншыя ярэмічане. Так кожны дзень у старой Антосевай хаце былі людзі. Пры-

ходзілі ў пераважнай большасці беднякі і незаможнікі і заседжваліся да позняй ночы, гутарачы пра жыццё.

Больш за ўсіх падабаўся Антосю Яўхім Мядзведзь. З гэтым чалавекам прыемна было гутарыць. Цікаўны і надзвычайназіральны, ён умеў не толькі слухаць, але і ўстаўляць у гутарку свае заўвагі, заўсёды разумныя і трапныя.

Ужо ў першыя дні з гэтых гутарак Антось зразумеў, што Кастрычніцкая рэвалюцыя і грамадзянская вайна не абмінулі Ярэміч. Усе падзеі, якія адбыліся ў краіне, яскрава адлюстроўваліся і тут.

— Ты от скажы, Антось,— дапытваўся Яўхім.— Калі ж гэта нашых маленькіх панкоў-хутаранцаў прыцісне ўлада? Вялікіх паноў прагналі, дык за малымі ж жыцця няма.

— Прыйдзе час, дзядзька Яўхім! Не толькі ўлада, мы іх самі прыціснем.

— Мы! Дык улада ж рукі ім развязала!

— Часова гэта, дзядзька Яўхім. Дзяржаве трэба з разрухі выбрацца.

— Часова! А яны-то не думаюць, што часова... Яны б нас усіх пад сябе ўвабралі, рукі ў іх растапыраны шырока.

— Ну, гэтага ім улада не дазволіць. А самі вы ці дазволілі б?

— Я! Ты пра мяне не кажы! Я чалавек сам па сабе, не вельмі мяне залыгаеш! А шмат такіх ёсць, што дадуцца. Некаторых ужо залыгалі, от і тваю маці.

Антосю не было калі адпачываць, хоць, па сутнасці, каб ён і хацеў адпачыць, то абставіны не дазвалялі. Хату ён уцяпліў, зрабіўшы прызбу да самых акон, на столь нацягаў кастрыцы і пяску. Тады Яўхім прапанаваў яму свайго каня, каб навазіць дроў. Антосю прыйшлося схадзіць у лясніцтва, каб узяць білет на дровы.

Не жадаючы змарнаваць дзень, Антось выйшаў з дому на цямку і прыйшоў у лясніцтва раніцаю. Ён не здзівіўся, што ляснічым быў той самы Бранавіцкі, які займаў гэтую ж пасаду і пры пану Ёдку, бо чуў пра гэта ў Ярэмічах. А Бранавіцкі здзівіўся. І не то што б здзівіўся, а, як заўважыў Антось, спалохаўся, калі ўбачыў перад сабой чырвонаармейца ў шынялі з чырвонай зоркай на шапцы.

— Вы, э... э... па якой патрэбе, таварыш? — спалохана запытаўся ён.

— Я адносна дазволу на дровы, грамадзянін ляснічы.

— Ага,— твар ляснічага аж павесялеў пасля гэтых слоў.— А вы адкуль самі?

— З Ярэміч.

— З Ярэміч? Дэмабілізаваны з арміі?

— Так,— коратка адказаў Антось.

Ляснічы адарваў ад кніжкі квіток, узяў аловак і з запытаннем зірнуў на Антося.

— Маё прозвішча Галамака, Антось Андрэевіч.

— Галамака? Гэта ваш э... э... бацька...

— Так, мой бацька быў пастухом у пана Ёдкі, і яго забіў панскі бык.

Ляснічы апусціў вочы, хутка запоўніў квіток і падаў яго Антосю.

— Я вам напісаў дзесяць вазоў з Крушнікоўскай дачы. Гэта бліжэй да Ярэміч, чым з любога іншага месца. Аднак вы можаце не абмяжоўвацца дзесяццю вазамі, можаце вывезці пятнаццаць.

— Вы ўсім даеце такія парады ў дадатак да квітанцыі? — запытаў Антось.

Ляснічы сумеўся.

— Што вы! Толькі вам як дэмабілізаванаму чырвонаармейцу... Паміж іншым, дзе вы служылі?

— Шмат дзе прыйшлося паваяваць,— адказаў Антось, падзякаваў і выйшаў.

Ляснічы яму не спадабаўся.

Калі ён прыйшоў дамоў і сеў снедаць, Яўхім прыгнаў у яго двор каня, запрэжанага ў калёсы.

— Ты, Антось, у лесе рабі па-гаспадарску, з толкам,— параіў ён.— Я табе каня не на лом даю. Вазі такія дровы, каб з іх нейкае бервянцо можна было і ў сцяну пакласці. У цябе будавання шмат.

Антосю было смешна з такой парады, але ён прамаўчаў. «А што б ты парадзіў мне, дзядзька Яўхім, каб ведаў яшчэ параду ляснічага»,— падумаў ён.

Сам Яўхім знік і некалькі дзён не паказваўся ў Антося.

— Што ж гэта нас Яўхім адцураўся? — запытаў аднойчы Антось у маці.

— Дык жа ён у лес пайшоў на дзікоў паляваць,— адказала яна.

Яўхім і сапраўды быў заўзяты паляўнічы. Гэты занятак шмат адбіраў у яго часу і ўплываў на гаспадарчыя работы. Каб яму заманулася схадзіць на паляванне ў час самае гарачае работы сенакосу або жніва, то ніхто б яго не суняў. Таму і сена яго было заўсёды рудое, а ў іншыя дажджлівыя гады хлеб у дзяжы не хацеў падыходзіць і быў саладжавы.

Аб магутнай сіле Яўхіма ў наваколлі складаліся казкі. Расказвалі, што аднойчы ў часе аблавы нейкі дурнаваты вепр з перапуду ці сослепу хацеў прашмыгнуць паміж ног Яўхіма. Гэта яму не ўдалося. Яўхім асядлаў яго і зарэзаў сваім паляўнічым нажом. Але пакуль ішла гэтая аперацыя, вепр іклом распароў яму лытку да самае косткі. Пасля аблавы Яўхім два месяцы не злазіў з ложка.

Аднойчы ўвечар Яўхім з'явіўся. Ён прынёс у мяху болей пуда веправага мяса.

— Што вы, дзядзька! — здзівіўся Антось.

— А нічога. Вось свежыны прынёс.

— Яна вам дасталася недарма.

— Дарма,— прастадушна адказаў Яўхім.— Я яе не купляў і не гадаваў. Сам ён і выгадаваўся і выкарміўся ў лесе, а я толькі пайшоў ды застрэліў. Ты, Андрэіха,— звярнуўся ён да Антосевай маці,— падсмаж на патэльні, а мы па чарцы вып'ем ды свежыною закусім.

З гэтымі словамі ён выняў з кішэні пляшку гарэлкі і паставіў яе на стол.

— Прыдумалі вы, дзядзька!

— Нічога нядобрага я не прыдумаў. Даўно так трэба было зрабіць, але не было з чым... Не скажу, і свой хатні япрук ёсць, але яшчэ худы. А дзікія цяпер сытыя, на жалудах выраслі.

Выпіўшы чарку, Яўхім разгаварыўся па-сапраўднаму.

— Ты не думай, Антось, што я нічога не ведаю... У галаве я ўсё ведаю, толькі гладка выказаць не ўмею... Ты шэсць гадоў, можна сказаць, пад кулямі быў, рознага ліха нацярпеўся, каб лепшую жытку адваяваць... І яна нібы і прыйшла, тая новая жытка. Цара скінулі, паноў прагналі, усё гэта добра... А як зірнеш з другога боку, не!

Не ўсё яшчэ зроблена... Паноў няма, дык падпанкаў хапае, што зямлю панскую расхапалі... Замест валаснога старшыні Ткачэня Цімох карак ды пуза гадуе, падпанкі яго за гэта любяць... А ты, ваяка, вярнуўся дадому, а ў цябе ні кала, ні двара, як той кажа... Матцы зямлю далі, а выходзіць, што яна ўсё роўна беззямельная, бо не яна карыстаецца зямлёй, а чорт лысы... Будзе гэтаму канец ці не?

— Будзе, і вельмі хутка.

— Паверым. А цяпер скажы, як жыць будзеш, як гаспадарку думаеш узнімаць? Дровы тваё бачыў я. Не відно па гэтых дровах, што гаспадарлівы ты чалавек.

— Я, дзядзька Яўхім, яшчэ і не агледзеўся як належыць. У воласць схаджу, тады відней будзе, з якога боку за гаспадарку брацца.

— У воласць, гэта правільна. Дзеля такіх, як ты, павінна быць і ад дзяржавы не абы-якая дапамога. У цябе не гаспадарка, а, можна сказаць, голае месца. Рады адзін не дасі. Перш за ўсё дамагайся бясплатнага лесу. Каб год назад, то яно з лесам лягчэй было. А цяпер цяжка. Ляснічы ў нас, не раўнуючы, як калісь пан. Калі зловіць парубшчыка, то не даруе... Яно вядома, трэба лес ашчаджаць, бо ці мала зглумілі яго за гэтыя гады, але ляснічы залішне крыўдзіць сялян. А калі будзе лес, то і справа будзе. Дапаможам. Звычай наш даўні, але не дрэнны, хоць і даўні. Талакою наваляем, прывязем і будынкі ўздымем. Мы дапаможам, а не тыя, што тваю зямлю засяваюць.

Ён згарнуў цыгарку і прыпаліў яе.

— Дык от я і кажу: нібы і ёсць савецкая ўлада і нібы няма яе ў нас, так недзе каля краю ходзіць... Панскай зямлі далі і тым, каму трэба, гэта добра. Але ж і тым далі, у каго і сваёй па горла было, гэта нікуды не варта... Хутаранцы-шляхцюкі Плышэўскія ды Гарастовічы панскай нахапалі, а сваю ўтойваюць. Або нашы вясковыя Мацейкі ды Антанюкі... Дык і гэтага ім мала. Цяпер, кажуць, улада дазваляе, сей як мага больш, колькі можаш апрацаваць. Плышэўскі можа апрацаваць! Ён апрацоўвае, сукін сын, рукамі ды гарбамі галыцьбы, а не сам! Ну што ты на гэта скажаш! Значыцца, выходзіць, што ўлада дала волю кулаку, доўгі пакінула повад.

— Доўгі повад ды ненадоўга, дзядзька Яўхім.

— Ненадоўга...— задуменна паўтарыў Яўхім.— Каб

яны да таго часу ў сілу не ўвабраліся, тады іх не вельмі прыціснеш.

— Прыціснем, дзядзька! У нас ёсць савецкая ўлада і камуністычная партыя і надзейная апора: бядняцтва і незаможнікі, мы з вамі, дзядзька Яўхім.

— Каб на мяне, я б іх даўно прыціснуў! Я б іх так ліхадзеяў гэтых у кулак узяў, што і не піснулі б... Ты пра сваю маці падумай. Антанюк і Мацейка засяваюць яе зямлю на трацяк. Насенне яны вылічваюць так, што ёй толькі чацвёртая частка застаецца. Дык і гэтага ім мала: снапы ноччу крадуць, ашукваюць старую кругом... Я не ведаю, дзе ты будзеш вясной ярыну сеяць. Усю лепшую зямлю захапілі, гады, пад жыта. Казаў табе, Андрэіха, не давай ты ім усяе зямлі! Вясной, калі жывы будзем, ярыну пасееш, дык не паслухала ты мяне.

— Ай, Яўхім! Дзе б ты адным сваім канём дзве гаспадаркі ўправіў... Ды ці думала я, што Антось вернецца.

У гэты час бразнулі дзверы, і нехта вобмацкам прайшоў па сенцах. Праз хвіліну ў хату ўваліўся старшыня сельсавета Ткачэня. І па твары яго і па хадзе было відаць, што ён п'яны і не так сабе, а добра.

Перш чым прывітацца з Антосем, ён доўга глядзеў на яго.

— Я цябе не пазнаў бы, таварыш Галамака, каб сустрэў дзе на дарозе,— сказаў ён, паціскаючы Антосю руку.— Ну, Андрэіха, сын твой вярнуўся, цяпер зажывеш!

Заўважыўшы на стале пляшку з гарэлкай, ён зарагатаў.

— Нос мой чуе, дзе выпіўка ёсць! — сказаў і пасунуўся да стала.

— Твой нос на гэта спрактыкаваны,— і Яўхім наліў яму чарку.

Ткачэня прыняў яе без цырымоніі, нібы яна належала яму па праву.

— Ну дык за тваё здароўе, таварыш Галамака. Будзем Савецкую ўладу на месцах умацоўваць, як кажа наш старшыня выканкома таварыш Буткевіч.

Ён выпіў, выбраў на патэльні большы кавалак і ўгрызся ў яго зубамі.

— Тваё,— звярнуўся ён да Яўхіма.— Бачу, што дзічына. Добры ты чалавек, таварыш Сцешыц, а от закону не захоўваеш.

— Чаму? — здзіўлена ўскінуўшы вочы, запытаў Яўхім.

— Сам ведаеш чаму. Ты браканьер.

— Вепраў біць дазвол ёсць.

— Ведаю я тваіх вепраў. Ідзеш на вепраў, а страляеш коз.

Яўхім прамаўчаў.

— І мала таго. Ты і лес сячэш не па закону. Дазвол бярэш на дровы, а сячэш будаўнічы матэрыял. Я быў у цябе на двары і бачыў. Так мы, таварыш Сцешыц, Савецкай улады на месцах не ўмацуем, гэта раз. А каб я паведаміў у лясніцтва, якія ў цябе дровы, то гэта было б два! Ха-ха-ха! Не бойся, я пажартаваў!

Тут ён павярнуўся да Антося.

— Э-э-э, таварыш Галамака! І ты не захоўваеш закону. Я піў да цябе, а ты не п'еш.

Антось не стаў з ім спрачацца.

— Ты не ведаеш старшыні выканкома таварыша Буткевіча, таварыш Галамака? Разумны чалавек! Толькі мяне лае за тое, што гарэлку п'ю. А скажы, як не выпіць! Прыйдзеш да чалавека па справе, часта бывае што і галодны. Паставяць табе полудзень, ну і чарку дадуць. Ну што рабіць, скажы, таварыш Галамака? Не выпіць нельга, бо чалавек можа пакрыўдзіцца. Прыкладна і цяпер: прыйшоў я па справе, каб таварыша Антося Галамаку пабачыць, пагутарыць з ім, а тут і чарка на стале. Ну, як жа гэта можна, каб закуску з'есці, а чарку пакінуць!

— Вось бачыш, старшыня,— прамовіў Яўхім.— А ты мяне козамі дакараеш. Падумай жа цяпер сам: пайшоў я, скажам, у лес, каб вепра застрэліць. Іду і сустракаю казу. Ну як у яе не стрэліць, калі ты і не шукаў яе і не думаў пра яе... Яна сама на цябе наскочыла. Тут нехаця рукі засвярбяць. Ну і стрэліш. А потым і вепра выцікуеш. Або паехаў у лес па дровы. А поруч хвойка стаіць, выносістая такая, што сама ў сцяну просіцца. Ну як, скажы, старшыня, крывуліну ссекчы, а хвойку гэтую пакінуць! Возьмеш ды пусціш яе на дол.

Ткачэня, ужо ачмурэлы ад гарэлкі, доўга ўглядаўся на Яўхіма і ўсё сіліўся зразумець, што ён кажа, ды так і не зразумеў.

— Хітры ты, як чорт, таварыш Сцешыц...— прамовіў ён.— Ну дык што, налівай, хіба, яшчэ чарку.

## 19

Ігнась пачаў заўважаць, што між Лявонам і Довідам існуе нейкая непрыкметная сувязь, якую яны абодва ўтойваюць ад хатніх. Яго цікавіла, чаму Лявон і Довід, пайшоўшы з хаты па адным, варочаюцца дадому позна ўвечар разам або ўслед адзін за адным. Ігнась намякнуў пра гэта Лявону, і той з цікавасцю паглядзеў на яго.

— Ты ўважлівы хлопец...— І больш нічога не адказаў.

І Ігнась засумаваў. Пасля ўрокаў не хацелася ісці на кватэру, бо ў гаспадарскай палавіне сваркі не сціхалі. Уся сям'я падзялілася на тры лагеры: лагер наступаючых — Лейка і Сіма. У іх ёсць саюзнік — Грэйнім. Лагер абароны — Алтар. І лагер нейтральных — Довід, Мотэль і Абрам. Гэты лагер іншы раз іх прымірае.

Лодзінскае сукно ўжо адваявана. Яно цяпер у майстэрні Рывіна набывае выгляд гарнітура для Сімы. Але гэтага мала. Такая дзяўчына, як Сіма, павінна мець вопраткі колькі патрэбна.

— Колькі патрэбна! — насядае Лея на Алтара, маючы поўную надзею, што гэтых слоў досыць, каб ён зразумеў, чаго ад яго просяць.

— Патрэбна акурат столькі, колькі ёсць! — выкручваецца Алтар.

Лея з гнеўным здзіўленнем глядзіць на Алтара, і губы яе дрыжаць. З іх гатова сарвацца нешта крыўднае і абразлівае, але Лея не можа прыдумаць такога слова. Сіме патрэбны новыя хромавыя чаравікі і зімняе паліто. Алтар зноў упёрся, як бык, і хоча некага ашукаць такім нікчэмным сцверджаннем, нібы не мае за што справуляць... Няма! А чаму ж ён такі дурны і няўдалы гандляр? Хіба можна прадаваць тавар за мільёны? Хіба не гавораць разумныя людзі, што мільёнаў хутка не будзе. Яшчэ месяц, другі і яны будуць каштаваць роўна столькі, колькі каштуе папера, у якую загортвае гнілыя селядцы Мармур Бэня. Хлеб цяпер — галоўныя грошы. Ён ніколі не страціць цаны. А Алтару што? Яму нічога.

І вось Алтар, прыпёрты да сцяны жонкаю, дачкою і сынам, выходзіць з усякіх рамак, губляе ўсякую прыстойнасць, хапае стары галёш і шпурляе ў жонку. Галёш крэсліць у паветры дугу ад дзвярэй да стала і шлёпаецца падэшвай аб Лейкіну шчаку.

«Трапны стрэл...» — з жахам думае Алтар.

Лейка хапаецца рукамі за галаву, Сіма кідаецца грудзямі на стол і істэрычна ўсхліпвае: яна, бедная, нічога не хоча. Яна гатова зняць з сябе вось гэтую старую сукенку і аддаць яе ў краму. Няхай бацька і яе прадасць якой-небудзь лапцюжнай шляхцянцы... Грэйнім, гнеўна бліснуўшы вачамі, кідае бацьку слова, поўнае зняваі: «Шалёны!» — і, бразнуўшы дзвярыма, выходзіць з хаты. Алтар разгублена аглядае прысутных. Ігнась са сваёй каморкі наглядае за падзеямі.

— Ігнась! — кліча яго Лейка.— Ці твой тата б'е маму?

— Галёшам? — хаваючы смех, пытае Ігнась.— Галёшам не б'е, а лапцем іншы раз бывае!

Алтар задаволена рагоча і пытае ў сваю чаргу:

— Ігнась! А твая маці, сястра і ты таксама грызеце бацьку?

Ігнась лічыць гутарку лішняй, бо працяг яе не дасць карысці, і, апрануўшыся, ідзе на вуліцу. Мінуўшы пусты і маркотны завулак, ён выходзіць на рынак. І тут пуста і ціха, толькі хлюпае вада, сцякаючы з бляшаных дахаў. Цямнее. Недалёка мільгае агеньчык і раптам знікае. Чуваць гутарка. Ігнась ідзе туды і пазнае галасы Лявона і Довіда.

— Дома, мабыць, лаюцца? — сустрэўшыся, пытае Довід.

— Ужо не.

— А лаяліся?

— А як жа!

— Ты ведаеш,— гаворыць Довід Лявону,— мне іншы раз не хочацца ісці дамоў. Так абрыдла грызня ў хаце.

— А ты не зважай. Няма такой хаткі, каб не былі звадкі.

— Ведаю! Людзі пасварацца і зноў жывуць у згодзе, а ў нас кожная сварка — прадмова да другой, яшчэ большай.

— Аддайце Сіму замуж, і пацішэе ў хаце. Павер, што кожная маці хоча, каб яе дачка была самая багатая, прыгожая і разумная, а галоўнае — хоча аддаць яе замуж і грызе ўсіх, пакуль не аддасць.

— Не веру. Проста ў людзей у крыві плавае толькі прыбытак і страты.

— Тут вінаваты ўмовы жыцця, у якіх людзі выраслі, выхаваліся і жылі. Пераменяцца ўмовы, і ўсё гэта вытхнецца.

— А я думаю, што ніякія ўмовы іх не зменяць. Іх проста трэба ператрэсці так, каб засталіся толькі рукі, потым прымусіць зарабляць сабе хлеб гэтымі рукамі. Адабраць у іх усе лахманы... Ігнась! — раптам перамяніў ён тон.— Ты, здаецца, зайздросна паглядаў на мой ножык. На!

Ігнась адчуў у сваёй руцэ цяжкую металёвую рэч. Гэта быў ножык, зроблены Довідам. Ігнась ад радасці не падзякаваў і памчаўся на кватэру. Ён пры святле разглядаў ножык і не мог ім нацешыцца. Неўзабаве прыйшоў Янка Ткачук, і хлопцы селі рашаць задачы. У апошнія дні Пятрусь Корзун далучыўся да іх, і цяпер яны рыхтавалі ўрокі: рашалі задачы, пісалі практыкаванні і пераклады паасобку. Правяралі разам. Час праходзіў цікава. Каб не замінаць дома, хадзілі пасля заняткаў у школу. Там было яшчэ лепш, бо ім ніхто не перашкаджаў.

На кватэры Лявон толькі павячэраў і зноў сабраўся некуды ісці. Ён шапнуў Ігнасю, каб выйшаў за ім.

— Слухай, Ігнась, сёння мы з Довідам прыйдзем дамоў вельмі позна. Ты, калі пачуеш, то адамкнеш нам хату. Зразумеў?

— Добра. Я абавязкова пачую... Толькі скажы, Лявон, куды вы ходзіце? — захваляваўся Ігнась.— Я нікому не скажу.

— Ігнась, ды гэта ж зусім не таямніца. Але Довід хоча, каб хатнія пра гэта не ведалі. А паколькі гэта не мая таямніца, а Довідава, то я не маю права выкрываць яе. Зразумеў?

— Зразумеў,— панура адказаў Ігнась.

— Не злуйся, дзівачок. Прыйдзе час, табе сам Довід скажа. Вось пабачыш!

Ігнась засмучоны вярнуўся ў хату.

Тым часам дома сабралася ўся Алтарава сям'я. Там ішла трывожная гутарка. Хлопцы, звыклыя да штодзённых лаянак, не звярталі на яе ўвагі. Толькі Колька Корзун, які вывучаў яўрэйскую мову, сказаў:

— Ціха, хлопцы, там гавораць пра нейкае забойства.

Ён падышоў да дзвярэй і пачаў слухаць.

— Ведаеце што? — сказаў ён вярнуўшыся,— банды-

ты забілі заблужскага млынара Лейбу і ўсю яго сям'ю.

— Ну? — крыкнуў Ігнась.

— Чаго ты крычыш?

— Няўжо і ўсю сям'ю? — Гэтая вестка ўскалыхнула ўсю Ігнасёву істоту. Ён ведаў Лейбу. Аднойчы з бацькам ён вазіў малоць збожжа ў Заблужскі млын, і пакуль там бацька з Лейбам малолі, ён гуляў у хованкі з Лейбавым сынам Мордухам і дачкою Сарай.

— Чаго ты так пабялеў, Ігнась? — запытаў яго Ткачук.

— Я быў у Заблужскім млыне... Я ведаю Лейбу. Я гуляў з Лейбавымі дзецьмі ў тым млыне... Мы аблазілі ўсе куты і запэцкаліся ў муку... Ах, ах... Аж не верыцца, хлопцы, што няма таго Мордуха... А потым мы венікамі абабівалі адзін на адным пыл. А Сара смяялася, гледзячы, як мы лупцуем адзін аднаго...

— Так, брат ты мой...— прамовіў Янка Ткачук.

Пачалася новая гутарка пра забойствы. Многа страшных выпадкаў расказалі хлопцы, але ў вачах Ігнася ўсё стаяў Мордух і прыгожая дзяўчынка гадоў шасці — Сара.

Ткачук позна пайшоў дадому. Ігнась правёў яго на ганак. Яму было сумна. Ён прыгадаў сваю маці, сястру і бацьку. Зноў у вачах, як жывыя, стаялі Мордух і Сара.

Між разарваных ветрам хмар выглядаў месяц і абліваў зямлю жоўтым святлом. За дамамі блішчала рака, і месячнае святло купалася ў ёй, і яна несла яго на сваіх хвалях. І жаль агарнуў Ігнася. Слёзы пацяклі з яго вачэй.

— Ігнась, напішы мне пераклад...

Ігнась уздрыгнуў ад нечаканасці і пазнаў Цімчука.

— Ходзіш ты, як злодзей... Калі ты ўвайшоў?

— Толькі што. Напішы, я заплачу.

— Колькі дасі?

— Тры мільёны... я табе аддам іх, а ты мне будзеш задачы рашаць, пераклады пісаць.

— Тры мільёны?

— Тры... У мяне і яшчэ будуць, я табе іх аддам.

Ігнась заплюшчыў вочы. Тры мільёны. Грошай няма... Варта зарабіць іх. Раптам яму ўяўляецца твар Цімчука, пусты, ліслівы, сыценькі.

— Не хачу.

## 20

Чуткі пра бандытаў паплылі па ўсіх ваколічных вёсках. У Загаллі жанкі ля калодзежаў у розных варыянтах расказвалі пра забойства заблужскага Лейбы.

Патапчык насцярожыўся. Ён шныраў між людзей, прыслухоўваўся, выказваў свае думкі, але трывога грызла яго сэрца. «А што, калі дазнаюцца?»

Нарэшце ён узяў з гумна стары пагнуты прэнт і прынёс яго ў кузню.

Каваль Халімон падкоўваў коней. Ля кузні стаяла трое драбін. Выпражаныя і прывязаныя да слупа канякі панура чакалі сваёй чаргі.

— Дзень добры, суседзі! — прывітаўся Патапчык.

Ён агледзеў усіх сумнымі вачамі і паставіў прэнт ля кавадла.

— Мо б ты, Халімон, разагнуў мне гэты прэнт ды сказаў, як ён, ці трывалы?

Халімон запыхкаў люлькай, падняў прэнт, пакруціў у адной руцэ.

— Вагі хапае, пане-браце.

— Пра вагу ты мне не кажы. Я пра вагу сам ведаю. Ты мне скажы, ці моцны ён?

— Моцны, пане-браце, хоць у вятрак на верацяно!

— Напэўна, завала конскі хлеў запіраць,— сказаў нізкі мужчына з рэдкай калматай барадой, якая ніколі не бачыла брытвы. Быў ён худы, сутулы, абпэцканы сажай, у старой салдацкай шапцы, якую прынёс яшчэ з вайны. З кароткіх рукавоў яго шэрай світкі тырчалі доўгія мазольныя рукі, і ў іх адчувалася моц. Ён трымаў вялікі молат і паглядаў на Патапчыка.

— Ты ўгадаў, чалавеча. Завалу хачу зрабіць. Бачыш, якія рэчы адбываюцца навакол нас. Ужо цэлыя сем'і выразаюць.

— Бандытызма. Але што ж завала! Прыйдзе якіх чалавек дваццаць, што ты ім зробіш!

— Не палохай ты мяне, Сцяпан. А суседзі на што? Хіба ж суседзі не дапамогуць? Ну вось каб ты пачуў, хіба не прыйшоў бы!

— Ну што ты, Рыгор. Не толькі прыйшоў бы, але прыбег! Адзін за аднаго стаяць трэба. Але скажы ты, адкуль гэтая бандытызма з'явілася да нас. Адкуль яна ўзялася?

— А ліха іх ведае, чалавеча.

— Я, пане-браце, лічу, што былі і свае людзі,— сказаў Халімон.

— Усё можа быць. Азвярэў народ. Таго не хапае, гэтага не хапае. Іншы маўчыць, але думае, а падумае дый зробіць.

— Ой, Рыгор, не праўду кажаш! — запярэчыў Сцяпан.— У каго не хапае, дык той прывык цярпець. А ў каго хапала, ды не хапаць стала, таму цяжка.

— А я што кажу! Эх, Сцяпан, не зразумеў ты мае думкі, чалавеча. Нашаму брату толькі і засталося, што цярпець усякую крыўду ды немач... Маўчаць ды трапятацца, як заечы хвост... А ты што ў кузні робіш, мо засаўку?

— Нашто яна мне! Хто пойдзе да Сцяпана Калачыка? Што ў яго браць? У Сцяпана не грошы, а толькі вошы.

— Эх,чалавек,чалавек! Ты думаеш, што яны толькі па багацце прыходзяць! Не спадабаецца ім чалавек, дык па душу яго прыйдуць. Вось як бывае... А ты, мабыць, за каваля тут вучышся, ці што? Хлеб хочаш адабраць у Халімона, ха-ха-ха! — Патапчык зноў павярнуў гутарку на іншую тэму.

— Дзе ты бачыў! Мяне Халімон сам паклікаў. Тут жа ад раніцы завозу было, як калісь ля манапалькі. Той па дровы, той па сена.

— Ці не гэтым молатам ты арудуеш?

— Ды не! Гэта я, калі ўбачыў, што ты прэнт цягнеш, тады і молат узяў, ведаю, што разгінаць.

Патапчык змоўк. Халімон паклаў прэнт у горан. Сцяпан стаў каля мяха. З горна, як агнявая птушка, узляцела полымя, сыпанула іскрамі ў столь, зашумела і асвятліла кузню зыркім чырвоным бляскам. Халімон, не выпускаючы з зубоў люльку, павярнуў прэнт, потым выцягнуў яго і паклаў на кавадла. Сцяпан падняў молат, але Патапчык спыніў яго.

— Пусці мяне, Сцяпан. Не здужаеш ты.

Сцяпан з ухмылкай адышоў убок.

Кузня напоўнілася грукам і звонам: Патапчык біў молатам на ўсю сваю моц.

— Не ўмее, далібог не ўмее! — шаптаў Калачык суседзям, залiваючыся ціхім смехам.— Паглядзі, Раман, ён не па прэнту б'е, а па кувадлу!

Халімон не зварочваў увагі на Патапчыка, а пакручваў прэнт датуль, пакуль ён не ахаладзеў, а тады зноў усунуў у горан. Патапчык выцер пот.

— Што, пане-браце, нагрэўся? Аддай молат Сцяпану. Ён ужо налаўчыўся, а ты перыш у адно месца, як таўкачом у ступу.

— А чорт яго ведае. На, чалавеча, лупі ты! — Патапчык аддаў молат Сцяпану Калачыку.

— Ты, Рыгор, вядома, дужэйшы за мяне, але не ўмееш.

— Ды я ўжо бачу, што ты хутка кавалём будзеш.

— Кавалём то не, бо тут яшчэ трэба навука, але молатам біць я ўжо налаўчыўся,— і ён зірнуў на Халімона, каб той пацвердзіў яго словы. Халімон кіўнуў галавой.

— Што праўда, то праўда, пане-браце.

Калі Патапчык пайшоў з кузні, Раман Кругленя зірнуў на Халімона з прыязнай усмешкай.

— Але ж і нагрэў ты яго, Халімон, але ж і нагрэў...

Халімон задаволена кіўнуў галавой.

— А хто ж яго нагрэе! Ля цэпа або ля касы ён ні разу не нагрэўся.

— Але ж мокры стаў, як пацук...

— Ля цэпа або ля касы! — сказаў Сідар Герасіменя.— Наш пуп трашчыць на яго палосах. Калачык потам абліваецца на яго таку. Бандытаў спужаўся, абармот...

— Цяпер ён ноччу не засне! — дадаў Раман Кругленя.— Дабра ў яго ёсць! Баіцца.

— Баіцца! А чаго ён баіцца! — зазначыў Сцяпан.— Чуеш, што ён кажа! Па душу, кажа, могуць прыйсці!

— Да яго калі прыйдуць, то не па душу! — заўважыў Раман.

У гэты час да кузні пад'ехаў яшчэ адзін селянін вершам на кані. Ён спыніўся каля плота, злез з каня і прывязаў яго да жэрдкі. Разгладзіўшы шырокую бараду, зайшоў у кузню.

— Дзень добры! Памагай вам бог,— паважана прывітаўся ён.

Маленькія яго вочкі ў адно імгненне ахапілі ўсю кузню. Мужчыны адразу замоўклі.

— Казаў бог, каб ты памог! — пажартаваў Раман Кругленя.

— Эге! Мо табе, старому, так гаварыць і не можна... Нешта ж весела ў вас сёння.

— З твайго свата, Рыгора Патапчыка, рагочам,— растлумачыў Сідар Герасіменя.

— Эт, які там ён мне сват...

— Ну, не кажы, Мікалай, ён табе не толькі сват, але і без гэтага радня.

— Якая там радня! Дзесятая вада на кісялі,— нехаця адказаў Мікалай Леўчык.— Ды што ж на ім смешнае ёсць, на гэтым маім сваце?

— Бандытаў спалохаўся, прэнт зрабіў — конскі хлеў замыкаць. Баіцца, каб жарабца не вывелі.

— А што ты думаеш, Сідар! — ажывіўся раптам Мікалай Леўчык.— Няхай іх людзі не ведаюць, бандыстаў гэтых... Ці ж гэта жартачкі! Мала таго, што грабяць, дык яшчэ, як таго Лейбу, разам з сям'ёй...

Ён растрывожыўся і доўга яшчэ гаварыў пра «бандыстаў». Мужчыны яму не падтаквалі. У вёсцы не вельмі любілі Мікалая Леўчыка. Гаспадарку ён меў надта вялікую, але быў страшэнны скупярдзяй і жыў у вёсцы, як хутаранец. Хапала чаго ці не хапала, да суседзяў не хадзіў пазычаць, і да яго не хадзілі. Каб хто і прыйшоў, то не пазычыў бы ў Мікалая Леўчыка нават іржавага цвіка. Ён бы адразу распачаў гутарку пра сваю беднасць, пра недахопы, так бы сагнуўся і прыбядніўся, што хоць самому яму дай кавалак хлеба. А багацце ён меў, бо ўвесь час цягнуўся за Патапчыкам, сваім сватам. Сям'ю трымаў на нішчымніцы, хоць выкормліваў па два-тры вепрукі на год. Сам каштаваў сала толькі ў вялікія святы. Нават патэльні не меў у хаце. У чарапку ад разбітага чыгуна смажыла жонка сала. Грошы хаваў употай ад сям'і, меў крыху і золата, але шмат у яго ляжала папяровых мікалаеўскіх, думскіх і керанскіх грошай. Ён быў упэўнены, што прыйдзе час і ўсе яны пойдуць у ход.

Сям'я ў яго была невялікая, іншы раз летам, у часе сенакосу і жніва, патрабаваліся работнікі, але Мікалай нікога не наймаў. Душыўся з сям'ёй на полі і сенажаці ад цямна да цямна, а іншы раз і ноччу.

Звестка аб тым, што Патапчык зрабіў завалу, заскрэбла Мікалаева сэрца. Праўда, у яго не было такога добрага жарабца, як у Патапчыка, меў пару звычайных сялянскіх коней, вядома, лепшых, як у Алеся Марыніча або ў Сцяпана Калачыка, і не баяўся, што бандыты прыйдуць па яго коней. Ён баяўся за свіран. У свірне ста-

ялі кублы з салам, віселі кілбасы і кумпякі, ляжалі аўчыны, воўна, саматканае сукно, палотны. Там хаваў Мікалай і грошы. Свіран замыкаўся нутраным замком, ключ ад яго Мікалай заўсёды насіў пры сабе, нават спаў з ім.

Мікалай даўно зварочваў увагу на вялізны замок, можа, у паўпуда вагою, што вісеў на конскім хлеве ў свата Патапчыка. Калі Патапчык зрабіў завалу на конскі хлеў, то нашто яму замок? У Леўчыка адразу з'явілася думка пазычыць яго ў свата.

Калі Мікалай, падкаваўшы свайго каня, праязджаў па вуліцы і параўняўся з Патапчыкавым дваром, думка гэтая канчаткова ўсталявалася ў ім, хоць і здалася крыху недарэчнай. Як гэтаісці пазычаць? Няхай сабе Патапчык і сват, але ж Мікалай ведаў, што ў яго дарма і лёду зімой не возьмеш. Вечарам, калі прыцямнела, Леўчык адважыўся ўсё ж і пайшоў да свайго свата.

## 21

Патапчык нёс дамоў разагнуты прэнт і разважаў: «Ну, цяпер усе людзі скажуць: Патапчык баіцца бандытаў. Завалу зрабіў. Ніякі дурань не падумае, што Патапчык нешта ведае і пра бандытаў і пра Лейбу».

Дома ён сапраўды прыладзіў прэнт на завалу ў конскі хлеў, і гэта яму спадабалася. Конскі хлеў яго быў прыбудаваны да хатніх сянец, так што замыкаць яго можна было знутры, бо з хаты быў ход у сенцы, а з іх у хлеў. «Ліха яго ведае,— разважаў ён сам з сабою,— у гэтага Патржанецкага ўсялякія хлопцы ёсць... Барані божа, ім спадабаецца мой жарабец! А для іх жа ніякага замка няма. Але завала знутры! Паспрабуй зламі яе!»

Паабедаў ён са смакам і лёг адпачываць. Потым яму прыйшла думка схадзіць у гумно і перахаваць тыя рэчы. І гэтая думка так зарупела яму, што ён адразу ўстаў і пайшоў. Зачыніўшыся ў гумне, ён вывалак клункі на ток: «Дзе схаваць іх,— меркаваў ён, аглядаючы пустыя засеры і стаўпы са збожжам і канюшынаю.— Пакладзі далёка, чортавы мышы папсуюць усё... Пакладзі блізка — барані бог, прыедуць шукаць, адразу ўсё знойдуць».

Ён паразвязваў клункі і пачаў перабіраць рэчы: «Паліто драпавае,— шаптаў ён, адкладваючы яго ўбок,— бо-

ты хромавыя... футра на лісах... У скрыні ім месца, а не ў гумне... Боты можна будзе насіць...» Выняў некалькі пар выцяжак і падэшву, загатоўкі на чаравікі, некалькі гарнітураў. Глядзеў на ўсё і ківаў галавою. «Колькі дабра! І ўсё яно маё! Маё! Прадаваць трэба... Грошы мала займаюць месца, і ніхто іх не пазнае. А паспрабуй надзець драпавае паліто».

Развязаў апошні клунак і ўбачыў падсвечнікі. Было іх чатыры. Глядзеў на іх і думаў: «А нашто яны мне. Дзе я іх дзену! — адклаў убок. Раптам закалацілася сэрца.— Барані божа, хто ўбачыць! Адразу ж відаць, што чужое, не Патапчыкава, крадзенае... Лейбава!.. Закапаць іх, зямля нікому не скажа».

Пазвязваў клункі, укінуў іх у пустую запеpу і заваліў сенам. Сапхнуў яго цэлы воз з поўнага стаўпа: «Няхай паляжыць да часу. Усё роўна ім трэба даць парадак». Ён узяў рыдлёўку, выйшаў з гумна і агледзеўся: нідзе нікога не было. Выбраў месца пад старою грушаю-дзічкаю і пачаў капаць. Верхні пласт дзірвану парэзаў на кавалкі і адклаў убок. Выкапаў яму, тады, не спяшаючыся, пайшоў у гумно.

Падсвечнікі закруціў у мех, прынёс і выкінуў у яму. Засыпаў зямлёй, параўнаваў, а зверху палажыў дзірван. На душы зрабілася лёгка.

Накіраваўся быў да хаты, але, адыходзячы, азірнуўся і ўбачыў Алеся. Той стаяў ля сваёй адрыны. Ногі адразу самлелі.

— Алесь! — гукнуў ён.— Ідзі сюды, чалавеча! — ветліва кіўнуў і з рыдлёўкай пайшоў насустрач. Спыніліся абодва ля пералаза, які па-суседску і злучаў і падзяляў агароды.

— А ў мяне парасё здохла... Закапаў пад ігрушаю, можа, лепш уродзіць! — Ён ухмыльнуўся. «Хоць бы не бачыў гэты дурань»,— думаў праз смех і падазрона аглядаў Алеся.

— Глядзі, каб сабакі не выцягнулі!

— Ну што ты! А мой Лыска нашто! Ён чужога сабакі і блізка не падпусціць. «Не, не бачыў, але злуе, дурань... Толькі трасцы, нікому не скажаш, бо і сам там быў... Маўчун чортавы...»

— Чаму, Алесь, ні разу не зойдзеш да мяне? Па чарцы выпілі б, чалавеча, далібог.

— Часу няма, Рыгор!

— Усё табе часу няма. Усё зарабляеш. Далібог, ты, чалавек, не шкадуеш свайго здароўя. А згубіць яго нядоўга, як раз плюнуць.

Алесю хацелася стукнуць яго па сытай мордзе, і ён назнарок абняў пальцамі жэрдку, каб не сціснуць іх у кулакі.

— Праца здароўя не адбірае!

— А што ж адбірае?

Гутарка не клеілася. Так і стаялі моўчкі адзін перад адным.

— Дык заходзь, Алесь. Не мінай ты мае хаты. Вечарам падбяжы...

Разышліся не развітаўшыся.

«Не бачыў...— супакоіўся Патапчык.— Паверыў, што парасё».

У хаце ён лёг на ложак і заснуў. Прыснілася, што Патржанецкі завёў яго пад ігрушу і з ямы пачалі вылазіць падсвечнікі. Яны лезлі адзін за адным без канца і запоўнілі ўвесь прыгуменнік. Потым прыбег заблужскі Лейба і пачаў крычаць:

— Давай мае падсвечнікі! Давай мае падсвечнікі, злодзей!

А Патапчык глядзеў на тысячы падсвечнікаў і не мог пазнаць, каторыя з іх Лейбавы. А Алесь стаяў ля пералаза і смяяўся.

...Алесь пасля спаткання з Патапчыкам прыйшоў дахаты і зваліўся на лаўку, як хворы. Адчуваў нейкую слабасць, і сэрца калацілася, як ад чаду. «Падсвечнікі закопваў, сукін сын, а кажа, што парасё».

Арына з непакоем сачыла за мужам. Пасля тае язды з Патапчыкам зусім перамяніўся Алесь. Бывае, што за ўвесь дзень не пачуеш ад яго ні аднаго слова. Бадзяецца ад хаты да адрыны, есць не ў пару, думае аб нечым у часе яды.

— Чаму ты не ясі, Алесь?

— Не хачу. Прыбірай са стала...

Так і цяпер: прыйшоў і лёг на лаўку.

— Мо ты хворы, Алесь?

— Адчапіся.

— Мо б ты папалуднаваў?

— Адыдзі ты ад мяне, Арына.

— Ужо ж полудзень даўно прайшоў, Алесечка.

— Ну дык давай папалуднуем.

Пакуль Арына ставіла на стол, брыдкія думкі не пакідалі Алеся. «Падсвечнікі закопваў...» І ў галаве яго за адну хвіліну прайшла ўся ноч ля Заблужскага млына.

Пасля палудня запрог каня і паехаў у лес. Трэба было насекчы ды прывезці воз жэрдак. Ён ведаў адну мясціну, дзе рос удалы выносісты сасоннік. Усю дарогу ўспамінаў ноч ля Заблужскага млына. «Я не вінаваты, я не ведаў. Я ехаў зарабляць. Я нічога не рабіў і не бачыў... Мяне ашукаў Патапчык».

«Вінаваты,— упарта гаварыла сумленне.— Трэба было ведаць, куды едзеш. Табе і Арына казала: не едзь!»

Не хацелася працаваць. Рукі былі як чужыя. Кінуў вобземлю сякеру, пачаў капацца ў кішэні. Выняў кашалёк, дастаў нешта, закручанае ў анучку, разгарнуў — залатыя круглякі дзынкнулі ў яго руцэ. «Трыццаць... Роўна трыццаць. Столькі сама ўзяў і Юда,— жах агарнуў яго,— Юда! Ты, Алесь, Юда!»

«Кіну, затапчу ў зямлю! Зашпурну іх к чорту ў лазу».

Узняў руку, каб кінуць, але рука павісла як нежывая...

## 22

Патапчык не вельмі ўзрадаваўся, калі да яго прыйшоў сват Мікалай Леўчык. У думках ён ніколі не клікаў гэтага свата інакш, як порхаўка. Не за тое, што той быў наогул скнара, а за тое, што і для самога сябе, для сваёй сям'і заставаўся скупым гэты барадаты дурань Патапчык і сам быў скупы, умеў ірвануць з кожнага, сваё шанаваў, але любіў добра апрануцца, смачна з'есці і выпіць. А гэты аболтух ніколі добра не з'еў, не знасіў добрай адзежыны, а ў самога свіран дабра гніе. Аброс увесь, барадзішчу ўзгадаваў, падстрыгчыся да суседа не зойдзе, свіння.

Вось і цяпер: усунуўся ў хату, як старац, кажух — лата на лаце, асміну гразі прывалок на лапцях да самага стала. Шапка аблезлая, на галаву надзець страшна, толькі торбы на плячах і не хапае.

Аднак гэтага Патапчык не сказаў. Ён ласкава прывітаўся са сватам.

— Рэдка, рэдка заходзіш, сват Мікалай! Ды што я кажу — рэдка! Ніколі не заходзіш. То падыходзь, сваток, бліжэй ды сядай.

Пакуль Леўчык здымаў шапку, гладзіў бараду і выбіраў месца, дзе сесці, Патапчык угадваў: «Чаго ён прывалокся». Нават трывога кранула яго. Пасля гутаркі з Алесем Патапчык адчуваў сябе вельмі няёмка.

— Кажаш, рэдка, сват Рыгор... Цяпер такі свет, што лепш сядзець ціхенька ды не вельмі кратацца. Бандысты гэтыя кругом...

— А што чуваць? — хутка прамовіў Патапчык, які ненарокам захваляваўся.

— А што ж чуваць, сват Рыгор!.. Пра Лейбу заблужскага, мабыць, чуў?

У Патапчыка адлегла на сэрцы.

— Пра Лейбу то я чуў... А больш нідзе яны не нашкодзілі?..

— Не чуваць. У кузні быў... То там і пра цябе, сват, гутарка была.

Патапчык уздрыгнуў і пабялеў.

— А што там... пра мяне?

— Смяюцца суседзі нашы, вось што. Спалохаўся, кажуць, Патапчык, завалы робіць.

Леўчык вырашыў паспачуваць свату, можа, гэта кране яго сэрца. Але ён нават не ўяўляў, якую прыемнасць зрабіў Патапчыку. Патапчык адразу аджыў. Леўчык нават здзівіўся, што сват так узрадаваўся і павесялеў, замест таго, каб узлавацца на суседзяў.

— Спалохаўся!..— сказаў Патапчык.— А што? Хіба ж жыць не хачу! У мяне жарабец на ўсю аколіцу вядомы!.. А што, хіба ён мне дарма дастаўся! Хіба ён мне нічога не каштуе? А калі тым бандытам пра яго нехта падкажа, бо хіба няма такіх людзей, сват Мікалай? Ёсць такія людзі, што чалавеку гатовы горла перагрызці. А для мяне жарабец — усё! Бо я коней змалку люблю... Іншага багацця не маю, у мяне ў свірнах не стаяць куфры ды кублы, але мне і конь дараг!

Патапчык гаварыў і нават на нейкае каліва сам верыў у шчырасць сваіх слоў, але, зірнуўшы ў вочы Леўчыку, асекся. Леўчык у гэты час думаў: «Каб ты так дыхаў, які ты бедны. Ты мне кублы ды куфры ў вочы закінуў, а ў цябе свіран пустуе?.. У цябе і золата да халеры, такі ты хапуга ды круцель вечны».

Так зразумеўшы адзін аднаго, яны некаторы час памаўчалі.

— Дык вось жа я і кажу, сват Рыгор... Зайздросцяць людзі, выскаляюцца...

— А хіба я гэтага не ведаю! Вунь Раман Кругленя: так і гатоў зубамі рвануць. Нехта вінаваты, што ён дурань і канцы з канцамі ледзьве сточвае. А калі ў Рыгора ці ў Мікалая ёсць, то хіба ён тваё забраў!

— Добра ты кажаш! Ніхто ж мне ў засекі свайго жыта не насыпаў! Я сваім гарбом, як той кажа, і ўзімку і ўлецейка сам, як вол, варочаю, ты ні на маім полі, ні ў маім гумне ніколі не быў...

Сказаўшы гэта, Мікалай адумаўся. Пачаў быў добра, а цяпер сапсаваў усё. «Нашто было пра поле ды пра гумно гаварыць! Патапчык жа, вядома, здагадаўся, пра чыё поле ды пра гумно ён гаварыў. Вядома ж, на чыім полі і ў чыім гумне гнецца Сцяпан Калачык ды Марыніч Алесь... (Леўчык аж вылаяў сам сябе ў думках.) Цяпер пра замок лепш і не ўспамінаць».

Ён пагладзіў па звычцы бараду, і яму захацелася пазяхнуць.

— А калі б, скажам, і наняў я каго, то хіба мне гэта не каштавала б! І кармі яго, як госця, і дагаджай, як ліхой скуле, і заплаці тое, чаго ён і сам не варты.

Леўчыку здалося, што гэтымі словамі ён загладзіў крыху сваю памылку. І Патапчык адразу падхапіў:

— А што ж думаеш, сват Мікалай, хіба парабкі дарма робяць! Ты не трымаў іх, то не ведаеш, а я то ведаю! От дзе яны ў мяне сядзяць парабкі гэтыя,— Патапчык паказаў на свой карак.— Калачык малоціць у мяне, то ты думаеш за дзякуй!

— Хіба я гэтага не ведаю.

— Ведаеш, ды не ўсё! У Калачыка сем ратоў у хаце. Таго яму пазыч, гэтага пазыч, а аддача ведаеш якая... Або Марыніч. Сусед нібыта. Па-суседску, вядома, нічога не адмовіш, а калі ён табе адарэ ці адмалоціць які дзень, дык ужо і лічыць, што не ён табе, а ты яму бог ведае колькі вінаваты.

— Таму ж я, сват, і не наймаю нікога...

— А яго ж, Маўчуна гэтага, не было ў кузні? — завёў Патапчык гутарку на іншае.

— Не, не было. А Калачык быў.

— Нічога ён пра мяне не казаў?

— Не, толькі ўхмыляўся.

Такі адказ Патапчыка задаволіў. Адразу з'явілася

цікавая думка, і ён схапіўся за яе. Добра было б мець у вёсцы свайго чалавека, такога, скажам, як гэты Мікалай Леўчык. І трымаць яго ў руках. Калі на тое пойдзе, дагадзіць. Гэтакі скнара і жабрачаму кавалку жадзён будзе. А тады праз яго даведвацца аб усім, што гавораць вяскоўцы. Калі будзе неабходна, пусціць якія-небудзь чуткі. Ён хутка разнясе іх па вёсцы. Гэта і Патржанецкаму спадабаецца.

Патапчык ведаў, што большасць вяскоўцаў яго ненавідзяць. Вядома, ён багатыр, кулак, як выдумалі бальшавікі, а галыцьба вельмі ж хутка падхапіла гэтае слова. Ён для іх чужы, бо ніхто не спадзяецца дасягнуць яго багацця. А Мікалай Леўчык, ён маленькі кулачок і недалёка адскочыў ад суседзяў, таму яго не цураюцца. А сват цягнецца за ім, Патапчыкам, хоча быць такім самым багатыром. Толькі скулу! Не дапнеш!

— Нечага ж, сват, прыйшоў да мяне, то не саромейся, кажы.

Леўчык зірнуў у вочы Патапчыка і адважыўся.

— Я, сваток, хацеў... замка ў цябе пазычыць. Без справы ён цяпер у цябе.

Патапчык здзівіўся.

— Далібог, сваток, ніколі не падумаў бы! Значыцца, на свой свіран хочаш мой замок павесіць. То, можа, думаеш, што мне шкада? Бяры! Каб ты ў мяне і немаведама чаго папрасіў, то абы ў мяне было! Не пашкадую. Толькі жонкі не аддам.

Леўчык не верыў сваім вушам. Так хутка Патапчык згадзіўся даць яму замок! Ён аж збянтэжыўся. А Патапчык зірнуў на яго і казаў далей:

— Ты мяне не бойся, сват. Я ведаю, што ты хочаш жыць па-чалавечы... І я табе скажу: будзеш жыць!

Гэтыя словы былі сказаны так упэўнена, што Леўчык здзівіўся.

— Ведама ж, я з табою не параўнуюся, сват...

— Параўнуешся! — цвёрда сказаў Патапчык.— Ты нават апярэдзіш мяне, сват Мікалай. Ты чалавек ашчадны, а я і чарку люблю... Апярэдзіш! Такі час надыходзіць, што хто захоча жыць, то і будзе жыць. А гэтыя галякі няхай зубамі скрыгаюць.

Ён зірнуў на здзіўленыя вочы Леўчыка і панізіў голас. Той канчаткова быў збіты з тропу.

— А бандыты, сват, з-за мяжы да нас прыйшлі. Ды

ты і сам пра гэта чуў. У іх, мабыць, іншыя справы, чым па свірнах лазіць... Яны, можа, дарогу для некага большага рыхтуюць, от што я думаю...

— А добра ты кажаш...— усхваляваўся Леўчык.— Хіба яны вечныя тут, бальшавікі гэтыя!.. Мы ж ведаем, як у нас улада мянялася! То тыя, то гэтыя...

— Вось і я так думаю, сват... Хіба Ёдку або Булгаку ці, скажам, таму самаму Рэгелю не шкада сваіх маёнткаў? То хіба яны не прыйдуць сюды?

Пакінуўшы свата Мікалая аднаго, каб ён добра падумаў над яго словамі, Патапчык выйшаў. Ён спачатку загадаў Антолі, каб падрыхтавала закусіць, а сам зайшоў у камору.

У Леўчыка аж вочы заблішчалі, калі ён убачыў у руках Патапчыка замок вагою з паўпуда і ключ у паўаршына даўжынёй.

— На, сват. Няхай цяпер гэты сабака вартуе твой свіран.

— Ай, дзякую ж табе, сват Рыгор!.. Чым жа я табе адплачу?

— Чалавек ты! Што, хіба мы чужыя?

Узрадаваны Леўчык сабраўся дахаты.

— Не, сваток, пачакай. Ты ў мяне не быў, мабыць, ад хрэсьбін мае Рыпіны, а ёй ужо адзінаццаты гадок. То ты ўжо госць. А госць так не адыходзіць. Там жонка сасмажыць нейкую скварку, а чарку я знайду.

— Што ты, сваток, што ты!..

— Ат, нічога. Сядай, ды пакуль там смажыцца, пагутарым, развядзём бяду.

Ён пасадзіў Леўчыка бліжэй да стала.

— Я табе сам-насам гавару, бо веру табе... І от што я скажу. Хоць замок ты ў мяне ўзяў, а хоць бы сабе і не ўзяў, то не бойся, што нехта палезе ў твой свіран. Ты думаеш, што я завалу ад бандытаў зрабіў? Нашто ім мой жарабец? Яны ў Заблужжы не на аднаго каня ў кішэні паклалі. Я завалу зрабіў ад сваіх зладзеяў-канакрадаў. Ад сваіх зладзеяў і замок на свірне патрэбен. А бандыты!.. Ёсць чутка, сват, што вайна блізка, дык яны і прыйшлі сюды, каб некаму дарожку працерабіць.

Леўчык увесь час сядзеў, слухаў, вылупіўшы вочы.

Дадому ён пайшоў позна. У яго была адна думка: такога чалавека, як яго сват Рыгор, і са свечкай не знойдзеш. Падумаць, замок даў, пачаставаў, а колькі разум-

нага сказаў. Нават яму, дурному, вочы адкрыў. І папрасіў: «Заходзь часцей, сват, цяпер сваім людзям трэба трымацца адзін за аднаго». Добра ён кажа! А чаму і не зайсці! Хіба чужыя!

Патапчык лёг спакойна спаць. Ён вырашыў, што, калі спатрэбіцца фурман, возьме свата Мікалая замест Алеся. Гэты абух за капейку хоць якому богу будзе маліцца. Адно дрэнна, што зайздросны ён занадта. А зайздрасць— здрада. «Ну там далей пабачым. Памыліцца заўсёды нялозна. Пакуль хопіць і таго, што на Маўчуне апёкся...»

## 23

Настаўніца геаграфіі Наталля Васільеўна захварэла. Замест яе пачала выкладаць сухая, тонкая, як запалка, вастраносая немка Фаіна Тодараўна. Яе адразу не ўзлюбілі ўсе вучні. На кожным уроку яна крычала пісклівым голасам і кружылася па класе, як коршак, што выглядае здабычу. Яна вучыла, як трэба сядзець і паводзіць сябе на ўроках, а сама ўздыхала і мармытала па-нямецку: «Русішэ швайн».

Ключэня перад урокамі геаграфіі ўцякаў са школы і вяртаўся толькі на перапынку. Фаіна Тодараўна не заўважала гэтага, бо ні аднаго вучня не ведала па прозвішчу. Ігнасеў сусед Нічыпар Сокур на ўроках сядзеў, не ўздымаючы галавы, а настаўніца, як назло, заўсёды яго выклікала.

— Вы, у клятчатым паліто, ідзіце да карты.

Нічыпар устане, з нянавісцю паглядзіць на Фаіну і нехаця ідзе да старой абадранай карты.

— Чаго яна чэпіцца да мяне, хлопцы, на кожным уроку? — раззлаваўся аднойчы Сокур.

— Я табе скажу чаго,— адказаў Хаміцэвіч.— Гэта вінавата тваё паліто ў клеткі. Ты скінь яго і пабачыш, не выкліча. А то яно ёй у вочы кідаецца. Вельмі ж ты прыкметны.

У другі раз Нічыпар скінуў паліто і сеў на ім. Ад гэтага ён стаў крыху вышэйшы. Настаўніца зайшла ў клас, пакружылася між лавак і запытала:

— А дзе той хлопчык, што ў клятчатым паліто?

— Ён захварэў сёння. Гарачка вялікая і кашаль дзярэ, як казла,— растлумачыў ёй Хаміцэвіч.

— Ах, як шкада. Такі разумны хлопчык.

Пасля гэтых слоў клас пух да канца ўрока і, калі настаўніца выйшла, грымнуў такі выбух, што ўвесь перапынак ніхто не мог супакоіцца ад смеху.

Наогул Фаіну Тодараўну ўзненавідзелі. Калі вучань дрэнна адказваў урок, яна ўздыхала і шаптала: «Якая дзікасць! Індыйскія джунглі... О майн гот!» Часта лаялася па-нямецку, і ніхто з вучняў не ведаў, як яна абзывае іх.

— Люммель! — узвізгвала яна,— фаулензер! — і ў шаленстве тупала нагамі.

Аднойчы, калі яна аблаяла Ткачука, той запытаў у Лявона Богуша, што азначаюць словы «люммель» і «фаулензер». Лявон растлумачыў. Ткачук вярнуўся ў свой клас раз'юшаны.

— Ведаеце, як абзывае нас Фаіна? Люммель — дурань, фаулензер — гультай.

— Ого! — здзівіўся Ігнась.— Здорава!

— Дык гэта выходзіць, што ўсе мы дурні! — абурыўся Беліцкі.

У гэты момант з'явіўся Ключэня. Ён сеў на лаўку і вельмі асцярожна зняў шапку. Усе ўбачылі, што ў шапцы ён нешта прынёс.

— Хлопцы, а ці не думаеце вы, што Фаіна такая ж немка, як я кітаец?

— Не хітруй, Ключык-замочак,— сказаў Хаміцэвіч,— лепш пакажы, што ты прынёс.

— Далібог толькі шапку.

— Не хлусі, Ключык, а то я цябе патрымаю, а хлопцы самі паглядзяць! — і Беліцкі абняў яго за шыю.

— Пусці, Юзік, я пакажу сам. Разыдзіся, застрэлю!

— Рэвальвер! Ключэнечка, пакажы,— залямантаваў Пятрусь.

У гэты момант Беліцкі выхапіў у Ключэні «рэвальвер» і схаваў яго ў кішэню.

— Не хавай, Гузік, пакажы ўсім. Гэта не рэвальвер, а пугач.

— А страляць ёсць чым? — пацікавіўся Беліцкі.

— Ёсць. Пяць пробак.

— Добра. Толькі не страляй, яны нам спатрэбяцца.

— Нашто?

— Забыў аб чым мы гаварылі? — Беліцкі мнагазначна паглядзеў на Ключэню.

— Не забыў, Юзік. Толькі ціха...

— Нешта выдумалі,— сказаў Янка Ігнасю.— Юзікава галава ўжо зварыла. І дурное, от пабачыш.

Ігнась маўчаў. Яму хацелася пачуць стрэл, і разбірала злосць на Беліцкага. Ён падышоў да Ключэні.

— Чаму ты не хочаш стрэліць?

— Ёсць іншая патрэба. Давай лепш падужаемся!

— А тады стрэліш?

— Пабачым. Але ты баішся са мной дужацца!

— Гэта ты сам баішся!

— Я? Цябе баюся? Давай на другім перапынку. Згодзен?

— Згодзен.

На вялікім перапынку хлопцы выйшлі на пляц.

— Ну як, накрыжкі ці пад сярэдзіну? — запытаў Ключэня.

— Так не дужаюцца, а абдымаюцца. Давай загрудкі!

Хлопцы стаялі пасярод пляца. Ключэня стаў, шырока расставіўшы ногі. Ігнась таксама падрыхтаваўся. Ён быў вышэйшы за Ключэню, і калі ўзяў яго за грудзі, дык той не мог яго дастаць сваімі рукамі. Ён ірвануўся, каб вызваліцца, але не змог.

— Дай узяцца і мне.

Ігнась паслабіў рукі. Ключэня ўплёўся за яго грудзі і пацягнуў да сябе. Хутка хлопцы засапліся, як кавальскія мяхі, і пачырванелі. Ключэня аж успацеў. Вакол іх было шмат гледачоў.

— Мікола! Не паддайся, братка!

— Трымайся, Ключык, трымайся! Падатры яму нос!

Ключэню падбадзёрвалі, і ён намагаўся, каб апраўдаць славу асілка. Ігнася падтрымліваў толькі Янка Ткачук.

— Не здавайся, Ігнась! Пакажы ім, як палешукі мядзведзяў дужаюць!

Ігнась глянуў на яго, на натоўп вучняў, і ўпартасць бліснула ў яго вачах.

— Не, ляжаш! — шаптаў раззлаваны Ключэня.

— Ты ляжаш! І даўно б лёг, але я палажу цябе не абы-як, а модна!

— А вось пабачым! — Ключэня пачаў злавацца, напружваў усю моц, каб скрануць Ігнася з месца, а той толькі абараняўся. Ігнась бачыў, што Ключэня ўжо змогся, і цяпер яго трымае не сіла, а толькі жаданне быць наверсе.

— Пачынаю! Шырэй кола! — і Ключэня крутнуў Ігнася. Ігнась паддаўся яго націску і адступіў назад. Падбадзёраны Ключэня яшчэ мацней наваліўся на яго. Тады Ігнась кінуўся на спіну, падхапіў за ногі Ключэню і перакуліў цераз сябе. Яшчэ хвіліна, і Ігнась сядзеў на ім.

— Ну як, на лапаткі?

— На лапаткі, хай ты праваліся...

Воплескі пракаціліся ў натоўпе гледачоў.

— А цяпер стрэліш, Ключэня? — запытаўся Ігнась.

— Не, Марыніч... Можа, каб я цябе падужаў, то тады б стрэліў!

— І тады б не стрэліў, Ключык, нават не думай! — стрэл для іншай справы,— перапыніў Ключэню Беліцкі і хітра падміргнуў.

## 24

Наводшыбе ад мястэчка, на самым краі гнілога балота, стаіць смалакурны завод. Балота гэтае, як доўгі язык, адыходзіць ад ракі і паступова пераходзіць у густы яловы лес. На поўдні расце бясконцы сасновы бор. Ад мястэчка праз усё балота ляжыць грэбля да гэтага бору. Па ёй і возяць на завод смольныя карчы і калоды.

Здалёк завода не ўбачыш. Гэта невялікая, абкураная дымам будыніна, абкружаная штабелямі карчоў. Яны ўзняліся вышэй дахаў і хаваюць смалакурню. Сумны краявід адкрываецца тут вачам у познюю восень. Панура ляжыць жоўтае балота, пакрытае асакой. Гнуцца пад ветрам чорнагаловыя кіякі. Сумна шалясціць аер. Густое галлё лазняку хіліцца долу пад халодным ветрам і палошча свае верхавіны ў сцюдзёнай балотнай вадзе.

Па грэблі ў бок мястэчка ідзе чалавек. На ім просты, не першага веку шынель, падпяразаны папружкай з патранташам. За плячамі паляўнічая стрэльба і сумка. З яе тырчыць галава застрэленага цецерука. Чалавек не спяшаецца. Ён аглядае прасторы балот і далеч лясоў, і ў вачах яго свеціцца задавальненне.

Дзень хіліцца к вечару, і пакрысе цямнее панурае неба. Прайшоўшы грэблю, чалавек зварочвае з дарогі і накіроўваецца да смалакурнага завода.

У гэты час Калядка Язэп — бондар смалакурні, выйшаў з свае майстэрні, якая стаяла побач з заводам. Па хісткіх лесках Язэп залез на гару і скінуў адтуль цэлы пук роўнага тонкага арэшніку.

— Добрыя будуць абручы! — сказаў ён сам сабе, злазячы з гары.

Ён падняў пук, паклаў яго на вярстак, а сам прысеў на калодку і ўзяў сякеру. Гэта быў чалавек гадоў сарака, з мужным суровым тварам, з праўдзівымі, але непрыветлівымі вачамі. Ён выглядаў старэй за свае гады, бо сівізна ўжо ўбілася ў яго густыя чорныя вусы і пабяліла скроні. Бандарная работа прыгнула яго дзябёлую постаць, зрабіла яго гарбаватым. Ён далонню падняў угару казырок свае шапкі і адкрыў высокі закацісты лоб.

— Абручоў-то хопіць, а клёпкі трэба рыхтаваць.— Гутарыць сам-насам ён прывык даўно. Гэта былі кароткія заўвагі аб тым, што рабіў. Ён нават не заўважыў, што выказвае іх уголас.

У гэты час з-за штабеля выйшаў чалавек у шынялі. Ён пачуў гэтыя словы.

— З кім гэта ты, Язэп Іванавіч? — запытаўся ён, падыходзячы да бондара.

— Сам з сабою... Доўга ж вы хадзілі, таварыш Кавалёў. Я думаў, што вы ўжо даўно дома.

— Адпачнуў крыху, Язэп Іванавіч. Дзівосны край — наша Палессе! Тут толькі працуй, засукаўшы рукавы...

— А вы са здабычаю! — сказаў Калядка, убачыўшы цецерука.

— Там іх хоць рукамі лаві... Толькі мне нешта не даваліся. Дрэнны з мяне паляўнічы. Падстрэліў аднаго нейкага хворага, мабыць, у бальніцу ляцеў,— пажартаваў Кавалёў.

Калядка не зразумеў жарту ці зрабіў выгляд, што не разумее.

— Ну як, таварыш Кавалёў, што вы выхадзілі?

— Па праўдзе сказаць нічога. Толькі ўверыўся, што балота непраходнае. Гэты бок сама прырода ўмацавала нам.

— Але пост трэба паставіць, таварыш Кавалёў.

— Трэба. Мы яго паставім ля грэблі.

— Ля грэблі...— Калядка задумаўся.— Толькі да марозаў ля грэблі. А як закуе марозам, то па балоце будзе шлях у любы бок. Па-мойму, пост трэба ставіць тут, ля

завода. Ён будзе і завод вартаваць, і ўсё балота, як на далоні, відаць, і грэбля блізка. Бандыты, таварыш Кавалёў, не ходзяць па простых дарогах, яны любяць па кустах, па лесе... Цяпер заўважце,— ён устаў.— Пройдзем, я вам пакажу. Яны абышлі штабель і спыніліся ля заводскага будынка.— Бачыце, колькі тут бочак. Адна запалка — і ўсё гэта ўзляціць полымем у неба. Гэта ж не горш пораху — смала.

Кавалёў абышоў заводскі двор, які быў увесь застаўлены бочкамі, налітымі густой чорнай смалой. Яны стаялі радамі ўздоўж платоў, шчыльна адна пры адной. Горы пустой тары ляжалі ля свірна воддаль ад завода.

— Запоўнілі ўвесь двор. Хутчэй бы лягла зіма, вывозіць трэба, а то хоць работу спыняй. І наогул, таварыш Кавалёў, вартаваць трэба і завод. Аднаму заводскаму вартаўніку цяжка. Двух трэба ставіць, а ноччу, акрамя іх, пост. Тады было б надзейна.

— Гэта правільна, Язэп Іванавіч. І пост мы паставім тут, за заводам, пры балоце!

— Гэта будзе добра.

Яны ціхімі крокамі абышлі завод і вярнуліся зноў да бандарнай майстэрні: Калядка сеў на сваю калодачку, а Кавалёў прымасціўся на верстаку.

— У мяне ёсць думка, Язэп Іванавіч, як яна спадабаецца табе, не ведаю. У нас у мястэчку арганізавалася кравецкая арцель. Яе трэба аб'яднаць з вашай арцеллю, дадаць шавецкі і бляхарскі цэхі, тваю бандарню таксама зрабіць цэхам, даць табе вучняў-памочнікаў, каб ты іх зрабіў майстрамі, от гэта была б адзіная прамысловая арцель, пад адзіным кіраўніцтвам. З цягам часу на паўночных пясках мы б паставілі гуту. Тут, ведаеш, Язэп Іванавіч, шмат магчымасцей, толькі не лянуйся. Я абышоў гэтыя прасторы і ўбачыў іншы свет, зусім не той, які быў у маёй галаве дасюль.

— Эх, таварыш Кавалёў,— Калядка з дакорам глянуў на сакратара.— Хоць і лаялі вы мяне на сходзе, што я вузка, як вы кажаце, гляджу на нашу вытворчасць, але скажу вам не таячыся. Растапырваеце вы рукі шырока, а ці можна загарнуць усё, не думаеце. Пакуль хаця б замацаваць тое, што ёсць. Бандарны цэх, а дзе бочкі збываць? Мне аднаму хутка не будзе работы. Вунь бачылі, колькі стаіць бочак з варам. Хіба ім месца тут! Зімы

чакаем, а іх даўно трэба было вывезці. Завод стаіць, карчы ляжаць, смалакурам рабіць нечага, аб зямлі пачалі некаторыя думаць, хочуць у земляробства перайсці. Цяпер банда... Вялікая банда, таварыш Кавалёў, нашы смалакуры бачылі... Зброі ў іх хапае, французскія вінтоўкі... Пінчук бачыў нядаўна, прайшлі балотам чалавек дваццаць. Не тутэйшая банда, адтуль, з-за мяжы, падкінулі яе нам... Мо сам пан Пілсуцкі тут. Ну і наша свалата далучыцца, без гэтага не будзе... Спачатку трэба іх раструбушыць, тады пра вытворчасць думаць. Я не супроць таго, каб аб'яднаць, але ж спачатку няхай умацуецца тая арцель ды і наша смалакурня, а то абедзве ледзь на нагах стаяць.

— А калі аб'яднаем іх,— памацнеюць. Па адной яны слабыя, а разам былі б моцныя.

— Тут ёсць праўда, не спрачаюся... І пра шаўцоў і бляхароў згодзен, можна і іх у арцель, гэта такая праца, што сама сябе апраўдае і прыбытак дасць. Але цяпер, таварыш Кавалёў, усе сілы трэба кінуць на барацьбу з бандай.

— А пра ўсё астатняе забыць?

— Чаму забыць? Але няхай яно ідзе, як ішло, бо цяжка падужаць, калі брацца за ўсё разам. З нашаю сілаю цяпер не вельмі паваюеш з кожнай немаччу.

— Зноў я цябе буду лаяць, Язэп Іванавіч. Вузка ты глядзіш на нашу работу. Сіл у нас хапае, яны навакол нас. Нашы памочнікі чакаюць нас. Працуем мы з імі слабавата — гэта праўда... Часам іх абыходзім...

— Я чалавек малапісьменны, таварыш Кавалёў, можа, чаго і не бачу, але што думаю, кажу не таячыся. Няпраўду кажу — папраўце, а праўду — падтрымайце. Наконт нэпа і я ўсяк думаў. На сходзе таварыш Гурын добра растлумачыў, зразумеў я. Але ўсё роўна так далёка закідаць нельга. Трэба брацца спачатку за тое, што пад рукамі. Вы пра гуту гаварылі, я не згадзіўся, бо не хутка гэта можна зрабіць. Я сам адну штуку такую ведаю, што вытрымаць нельга, і то трымаю яе так, каб ні сабе ні людзям не назаляла.

— Якую? — Кавалёў зацікавіўся. Ён наогул любіў гутарыць з гэтым чалавекам — радавым камуністам-смалакурам, які сваімі цвярозымі разважаннямі заўсёды крыху ахаладжваў яго парывы і накіроўваў іх на бліжэйшы і больш практычны шлях.

— Дзягцярню трэба адкрыць, таварыш Кавалёў.

— Малайчына, Язэп Іванавіч! Ты таксама ўмееш закідаць далёка!

— Не, от вы паслухайце. Тут за борам вёрст за восем, а мо дзесяць ёсць дзялянка бярэзніку, дзесяцін мо трыста, калі не больш. Мы з Пінчуком у клёпкі хадзілі і напароліся на яе. І знайшлі мы там, таварыш Кавалёў, хоць верце, хоць не, некалькі сціртаў бярості. Добра, думаем. Значыць, нехта рыхтаваў яе недарэмна. Збіраўся нешта рабіць. Бярэзнік гэты, як на выспе, наўкол балоціна абягае. І знайшлі мы там зямлянку, старую ўжо, разваленую. А ў ёй медны кацёл з дзягцярні. Пазелянеў увесь, але тоўсты і цэлы. Здагадаліся мы, што нехта хацеў тут дзёгаць гнаць. Але даўно было, гадоў мо тры назад. Кацёл мы ледзь вывалаклі з зямлянкі, абцёрлі крыху і бярostай накрылі.

— І ты дасюль маўчаў. Эх, Язэп Іванавіч!

— Маўчаў, бо нашто падымаць трывогу. Катла таго цяпер адтуль не возьмеш, бярости не перавязеш, балота замінае, а зімой можна.

«Не чалавек, а нейкая знаходка»,— падумаў Кавалёў пра Калядку, які нерухома сядзеў на сваёй калодачцы і разважліва аглядаў сваю гаспадарку.

— Што ж ты думаеш пра той кацёл? — запытаў яго Кавалёў.

— Каб прыбудаваць да нашае смалакурні які трысцен, зрабіць печ, ды толькі цэглы няма ўмураваць той кацёл, перавезці бярosту, удалы выйшаў бы цэх. А майстра ёсць — той самы Пінчук. І нашы бежанцы на Вольнай вуліцы атрымалі б працу, а то ходзяць па вёсках, некаторыя ўжо ў парабкі пайшлі...

Кавалёў устаў і ўсхвалявана прайшоў па двары. Спыніўшыся ля Калядкі, ён паклаў руку на яго плячо, той узняў галаву, і яго суровы твар асвятліла лёгкая дзіцячая ўсмешка.

— Гэта мы зробім, Язэп Іванавіч, у бліжэйшыя дні. Цэглу знойдзем. А ці не лепш было б там, на месцы, пабудаваць заводзік?

— Варта памеркаваць, таварыш Кавалёў, і вылічыць, што выгадней. Ці адтуль вазіць сюды бярosту і паліва, ці на месцы працаваць.

На дварэ пачало цямнець. Пахаладнеў вецер і разагнаў крыху хмары. На захадзе праяснілася, і халоднае

неба запылала жоўтым агнём ад апошніх праменняў сонца.

Кавалёў і Калядка выйшлі з двара і спакваля накіраваліся ў бок Вольнай вуліцы. Кавалёў паціскаў плячамі ад холаду. Ён нагрэўся ад хады, а цяпер прамёрз, пакуль стаяў ля бандарні.

— Аб галоўным мы так і не скончылі, Язэп Іванавіч. Трэба, каб ты даў згоду ўзяцца за навучанне нашай моладзі вайсковай справе. Так ці інакш мы будзем вымушаны арганізаваць атрад. Я не кажу аб тым, што мы будзем наступаць на бандытаў, можа, і гэта прыйдзецца рабіць, абараняцца мы абавязаны. Чым хутчэй мы за гэта возьмемся, тым лепш. Вашых маладых смалакураў таксама мабілізуем.

— Ад гэтага не адмоўлюся. Што ўмею — навучу. У грамадзянскую ротай камандаваў... А смалакураў не толькі маладых і старэйшых можна ўзяць. Людзі свае.

— Сёння прыйдзі ў выканком, збяромся, пагутарым.

— Добра. Я нацянькі, таварыш Кавалёў, бывайце пакуль што.

— Пачакай. Забяры гэтага цацерука, а то прападзе без карысці.

— Ах вы! Сваю здабычу аддаваць!

— Кажу — бяры! Хто там мне яго абскубе ды выпатрашыць... Жыву халасцяком.

— Ну дык заходзьце заўтра, пачастую.

Кавалёў усміхнуўся: «Што б мне сказаў Калядка, каб я яму выказаў яшчэ адну думку». Ён наставіў каўнер, паправіў на плячы стрэльбу і запіхнуў рукі ў рукавы. «А ўсё-такі торфу ў гэтым балоце шмат... І вясной мы арганізуем арцель па асушцы балот з дапамогаю дзяржавы, і таннае паліва будзе. Таксама і гута. Колькі пяску — на сто гадоў хопіць!»

## 25

Ігнася спакушала Лявонава і Довідава тайна. Куды яны ходзяць, чаму яны так шчыра сябруюць. І чаму Довід не хоча сказаць аб гэтым? Ігнась прыпамінаў усе свае ўчынкі і не знайшоў ні аднаго такога, які б мог выклікаць недавер'е. І хоць ён не траціў надзеі, што з цягам часу Лявон завядзе яго на раку і там раскажа ўсё, як тады пра сваю Марынку-бульбінку, але чакаць гэтага

не хацелася. Ігнась вырашыў высачыць іх. Гэтае рашэнне ўзняло яго настрой. У школе ён расказаў усё Янку Ткачуку, і той згадзіўся прыняць удзел у гэтай справе.

Вечарам хлопцы цярпліва чакалі адыходу Лявона і Довіда, але тыя выбраліся пазнавата.

Як толькі яны выйшлі з хаты, Ігнась і Янка выскачылі за імі.

Па Надрэчнай вуліцы сачыць было добра: дамы тут стаялі густа, там-сям на агародах раслі дрэвы — болей цемнаты і завулкаў. Воддаль мігцеліся агні ад папярос: хлопцы ішлі, курылі і аб нечым разважалі. Ноч была вільготная. Белай заслонай вісеў над ракой туман.

Ігнась і Янка рухаліся моўчкі. Але Надрэчная — кароткая вуліца: яна ўпёрлася ў абрыў і скончылася. Лявон і Довід спусціліся з яго і пайшлі берагам паўз раку. Ігнась і Янка ні на адну хвіліну не гублялі іх з вачэй. Крыху прайшоўшы берагам, хлопцы павярнулі направа і зніклі за дамамі ў завулку. Ігнась і Янка прыпусціліся бягом і зноў убачылі іх. Але Лявон і Довід зніклі ў дзвярах дома, што стаяў на рагу.

— От табе і раз! — расчаравана сказаў Ігнась.

— Дурні мы з табою, а асабліва ты! — са смехам адказаў Янка.

— Чаму?

— Ды таму! Гэта ж дом Румана Механіка.

— Ну дык што?

— Тут камсамольскі клуб. Хіба ты не ведаеш?

— Адкуль мне ведаць...

— Дзівак. А я тут тады-сяды бываю! І кожны раз бачу і Лявона і Довіда.

Янка адчыніў дзверы і пацягнуў за сабою Ігнася. Хлопцы вобмацкам прайшлі доўгі цёмны калідор і апынуліся ў светлым пакоі.

— Лявон, глядзі! Ты ці не з неба ўпаў сюды, Ігнась? — здзівіўся Довід.

— Ці не вы гэта беглі ў нас ззаду? — зацікавіўся Лявон.

— Мы.

Довід падазрона агледзеў Ігнася, потым падышоў да яго і запытаў:

— Ігнась, скажы па-шчыраму: цябе не маці мая паслала сюды?

— Што ты, Довід! Я сам надумаўся і Янку сказаў.

— А чаму ж вы так патаемна?

— Таму, што ты не хочаш сказаць мне! — горача адказаў Ігнась.— Я і ў Лявона пытаў, і ён не кажа. Таму мы і ішлі за вамі.

— Пачакай, не крычы. Я на цябе не злуюся. Мне толькі дзіўна, што ты такі напорысты.

— Ты вінаваты, Довід,— сказаў Лявон,— хлопцы апярэдзілі нас. Мы павінны былі сказаць ім, уцягнуць іх у нашу агульную работу, а мы з табою канспірацыю прыдумалі.

— Ну што ж, мая віна ёсць, але мне здавалася, што трэба крыху пачакаць, каб не ўзнімаць лішняга гармідару ў хаце. Аднак я вельмі здаволены.

Радасць атуліла Ігнася. Ён адчуў сябе шчаслівейшым на зямлі хлопцам. «Ага, значыць, вы не забываліся на мяне, значыць, я не лішні тут і, можа, нават буду патрэбны».

Ён смела падышоў да стала.

У пакоі было шмат хлопцаў і дзяўчат. Аглядаючы іх, Ігнась прыпомніў, што некаторых бачыў на вуліцы і ніколі не думаў, што яны камсамольцы. Цяпер яму захацелася сказаць ім: «А я і раней вас бачыў, толькі не ведаў, хто вы, а вы таксама не ведалі, што я жыву разам з Лявонам, а цяпер мы і сустрэліся».

Настрой яго быў такі ўзнёслы, што ён гатовы быў пазнаёміцца з усімі, і яму здавалася, што ўсе тут добрыя і, безумоўна, вельмі разумныя людзі.

— Трэба навучыць нашых хлопцаў у шашкі гуляць,— прапанаваў Довід.

— Мне б кніжку якую! — папрасіў Ігнась.

— Кніжку, яшчэ лепш! Ірына,— звярнуўся Довід да кучаравай дзяўчыны,— пашукай нашым хлопцам кніжак ды цікавейшых.

Ірына адчыніла шафу і дастала адтуль кніжкі і часопісы. Ігнась з прагнасцю накінуўся на гэтае багацце.

— Кнігі, хлопцы, я вам дамоў дам, а часопісы чытайце тут,— прапанавала ім Ірына.

— Я ім кнігі сам выберу,— сказаў Лявон.

Праз кароткі час у клуб прыйшоў Іван Барай. Рыхтаваўся сход. Не хапала некалькі чалавек з смалакурні, і іх чакалі.

— Ну як твае справы? — звярнуўся Барай да Ірыны.

— Шыем пакрысе. Я хачу аб гэтым на сходзе пагаварыць. Як вы думаеце, хлопцы?

— Абавязкова! Трэба паставіць асобнае пытанне пра вашу арцель,— прапанаваў Лявон.

— Асобным пытаннем і паставім! — згадзіўся Барай.

— Заказаў у нас мала. Нясуць шыць толькі кажухі...

— Па-мойму, трэба шыць і кажухі! — сказаў Лявон.

— Вядома, трэба! — узрадаваўся Іван Барай.— Універсальная майстэрня.

Усе прысутныя пачалі ўцягвацца ў гутарку.

— Кажухі! Павер, Ірына, што заказаў вашай арцелі хопіць, толькі пачніце шыць кажухі. Усё Палессе пойдзе да вас! — сказаў Даніла Саротнік, вучань сёмае групы, сам з той стараны і, мабыць, таму высокі і дужы, як дуб.

Ірына нахмурылася.

— У нас і так заказы на кажухі ёсць... У нас майстроў няма. У нас большасць краўчых-белашвеек...

— Пераключыцца трэба,— падказаў Іван Барай.

— Ці ты разумееш што ў кравецкай справе, Іван! Пераключыцца, не ўмеючы...

— Пачакайце,— Даніла падышоў да стала.— Па гатоваму крою і Іван пашые кажух! — усе зарагаталі.— Гэта я для прыкладу... Вам, Ірына, патрэбен як яго? Закройшчык, ці што!

— Трэба ж мець хоць аднаго майстра-кажушніка на арцель.

— А Янкель Доўгін і Лейба Яхніч! — зноў азваўся Даніла.— Трэба іх уцягнуць у вашу арцель.

— Хіба толькі ўцягнуць. Паспрабуй уцягні іх... Доўгін толькі смяецца.

— А к Рывіну ён не збіраецца? — пацікавіўся Барай.

— Пры мне ён на вёскі збіраўся, кажа, што там яго хлеб.

— А ў арцелі хіба не хлеб?

— Ён думае іначай.

— Гэта не ён думае! — раззлаваўся Іван Барай.— Гэта за яго думае той самы Рывін.

— Гэта і дрэнна! — пачуўся голас ад парога.

Усе азірнуліся: Кавалёў стаяў ля дзвярэй.

— Гэта і дрэнна,— прадаўжаў ён,— што за Доўгіна і Яхніча думаюць Рывін і Кічын. Нам, таварышы камсамольцы, трэба абмеркаваць гэта. Ну дык давайце і падумаем разам: у вас сёння сход. Сабраліся ўсе?

— Смалакурні яшчэ няма.

— Смалакурня ўжо ідзе. Пра яе нам таксама трэба падумаць.

Праводзіць сход перайшлі ў другі пакой.

Ігнась не разумеў сэнсу гэтае размовы, але адно прозвішча было яму знаёма: Лейба Яхніц — кравец. Гэта ён абшываў усю іх вёску кажухамі і буркамі. Маленькі, худы чалавечак з торбай за плячамі, ён увосень прыходзіў у Загалле. Працу ён пачынаў з Патапчыка. Спачатку абшые яго, тады пачынае з канца вёскі. Там дзень, там два — тры, там за паўднёўку ўправіцца, з кажуха кажушок зробіць, з буркі світку. Адпрацуецца і пайшоў у другую вёску. А сяляне, ездзячы ў мястэчка, пакрысе адвозяць яму хлеб і бульбу.

Застаўшыся адны, Янка і Ігнась спачатку чыталі, потым пачалі гуляць у шашкі. Яны ўжо дагульвалі сёмую партыю, а сход усё яшчэ ішоў.

Калі скончылі восьмую, хлопцы ўжо хацелі спаць, а камсамольскаму сходу ўсё яшчэ канца не было.

Вечар прайшоў удала. Ігнась адчуваў, што гэта з'яўляецца пачаткам новага, цікавага жыцця, пра якое ён марыў.

Дадому ён ішоў з кнігамі і новымі ўражаннямі. На ганку Лявон спыніў яго.

— Ты цяпер, Ігнась, не толькі ведаеш усё, але і сам з'яўляешся ўдзельнікам. Таму і будзь удзельнікам. Ты мяне зразумеў?

— Зразумеў, Лявон. Аб гэтым не трэба і папярэджваць.

— Табе ўжо чатырнаццаць гадоў, Ігнась. Пахадзі к нам да вясны, а вясной мы цябе ў камсамол прымем.

— Яго і цяпер можна прыняць,— дадаў Довід.

Ігнасю хацелася абняць і пацалаваць Довіда за гэтыя словы, але ён так захваляваўся, што нічога не адказаў.

## 26

Вечарамі ў кожную пятніцу на рыначную плошчу збіраецца на адпачынак местачковая моладзь. Як толькі заходзіць сонца, Сіма і Грэйнім таксама ідуць гуляць. Потым з'яўляецца Моўша ў сваёй хромавай тужурцы і яго

сястра Рахіль. Спаткаўшыся, яны разыходзяцца: Моўша з Сімай, Грэйнім з Рахіллю.

Рахіль прыгожа смяецца, паказваючы пры гэтым залатыя зубы, а Грэйнім проста перараджаецца: ён захлёбваецца, размаўляючы, і смех так і сыплецца з яго вуснаў, іржавы непрыемны смех.

На мястэчка апускаецца змрок, ён гусцее і становіцца цемрай, а на плошчы гучыць смех і гоман. У такія вечары Ігнасю асабліва хочацца дамоў. Ён з Янкам Ткачуком таксама тут. Яны ходзяць, мараць, прытуліўшыся да слупа, на якім паблісквае ліхтарык.

Янка заўсёды выводзіць Ігнася з утрапення. Ён пачынае марыць услых, расказваць, як хадзіў з бацькам на паляванне, як вудачкай лавіў рыбу і колькі пры гэтым было прыгод. Тады яны зноў ходзяць па плошчы, мінаюць людзей, і ім не хочацца разыходзіцца па кватэрах. А на дварэ ўжо ноч. Адзіны ліхтарык ля кааператыва бліпічыць, як воўчае вока...

На кватэры Пятрусь купляе ручку, якая «сама піша», у Рувы Голанда. Гандаль доўгі, бо Рува дарагавата просіць: аловак, пяць пёрак, звычайную ручку і паўмільёна грошай.

Пятрусь усё гэта даў бы, але ў яго не хапае грошай. Ён з просьбай і надзеяй паглядае на Цімчука, але той нават не варушыцца, бо сам хоча купіць гэтую цудоўную рэч. Нарэшце Рува Голанд згаджаецца на ўсё, толькі Пятрусь павінен даць яму кілбасы. Пятрусь ад радасці бяжыць да куфэрка, але яго спыняе Колька.

— А што мы самі будзем есці? — пытае ён у Петруся.

— Заўтра ж субота! — бесклапотна адказвае той.

— Пятрусь, у нас жа застаецца адзін хлеб...

— Колька,— моліцца Пятрусь,— браточак... Я і табе дам папісаць...

Колька махае рукой. Пятрусь прымае гэты ўзмах за згоду і адчыняе куфэрак. Хлопцам цікава паглядзець, як Рува будзе есці свіную кілбасу. І Рува заўважае іх цікаўнасць.

Гандаль скончаны, і Рува есць кілбасу з такім выглядам, нібы робіць усім найвялікшую прыемнасць.

— Рува, а што б сказаў твой бацька, каб уведаў, што ты ясі свіную кілбасу? — цікавіцца Цімчук.

— Пахваліў бы! Ён і сам есць не толькі кілбасу, а і сала.

Бацька Рувы завецца Ёсіф Ізраілевіч. Ён калісьці быў купцом, гандляваў лесам, меў некалькі лесапільных заводаў, паравік, крамы ў мястэчку і магазіны ў горадзе.

Цяпер у яго нічога няма. З пяці ўласных дамоў застаўся толькі адзін, што стаіць ля рыначнай плошчы. Гэты дом глядзіць на плошчу трыма парамі акон. Польскія афіцэры ў часы акупацыі Беларусі жылі ў гэтым доме. Тут яны спраўлялі свае баляванні і п'яныя цягаліся па плошчы, узяўшы адзін аднаго пад рукі, каб не паваліцца. У цэнтры такіх працэсій нярэдка быў і Ёсіф Голанд — яўрэйскі дваранін. А цяпер дваранін збяднеў і ахамеў. Крамы пустуюць, дамы нацыяналізаваны, заводы і паравік таксама. Гандлю няма, прыбытку няма. Але і гэта не галоўнае няшчасце.

Недзе за акіянам у аўтарытэтным банку ляжаць грошы Ёсіфа Голанда. Ні многа ні мала: пяцьсот тысяч рублёў золатам. На гэтыя грошы можна нядрэнна пражыць. Ого! З імі можна разгарнуцца. Іх можна пусціць у справу... Але для гэтага трэба самому пераляцець праз акіян.

Ёсіф Голанд часта стаіць і наглядае, як плывуць у небе жоравы. І ў яго з'яўляецца смешная думка: «Чаму ён не можа быць птушкай!» І ён горка ўсміхаецца.

Такія няшчасці стамілі і састарылі Ёсіфа Голанда. Ён узненавідзеў не толькі людзей, а і зямлю, гэтую паскудную хамскую зямлю, што трапіла пад уладу галыцьбы. Паветрам тутэйшым яму цяжка дыхаць.

Іншы раз у суботу ён ідзе ў сінагогу. Ён даўно парваў з рэлігіяй, з рознымі законамі і звычаямі сыноў Ізраіля, але ў сінагогу схадзіць трэба: там ёсць уласнае месца, і, сеўшы на яго, можна шмат чаго пачуць, а калі трэба, то ўставіць і свае слова.

Ён ідзе, і рукі яго не матляюцца, як у якога-небудзь басяка, і не ў кішэнях, як у шпаны, а закладзены назад, як у самастойнага і паважанага чалавека. Сустрэчныя саступаюць яму дарогу і кланяюцца. У адказ Ёсіф Голанд ледзь ківае галавой. Ён ведае, што яго ненавідзяць. Ён і сам ненавідзіць гэтую галечу, чорную, запэцканую, якая крычыць, патрабуе, скардзіцца. «О, галыцьба! — думае Ёсіф Голанд, зайшоўшы ў сінагогу і зірнуўшы на зашмальцаваныя ярмолкі прысутных.— Вы тыя сем ка-

роў, худых і аблезлых, што зжэрлі сем тлустых кароў і не патаўсцелі». А вунь стаіць і ківае галавой, разявіўшы рот, Вэльвель Краўчык. Праз яго адабралі Голандаў паравік. «Выхвараеш, выдахнеш...» — шэпча Ёсіф Голанд, і нянавісць кіпіць і бушуе ў яго сэрцы. Ён заплюшчвае вочы і ківае галавой: няхай думаюць, што ён моліцца. Трэба цяпер быць бліжэй да іх, каб ведаць, пра што яны думаюць.

Яшчэ задоўга да імперыялістычнай вайны Голанду трэба было правесці адну гандлёвую аперацыю. Паны прадавалі лес і вельмі выгадна. Трэба было паспець купіць і ў Рэгеля, і ў Булгака, і ў Ёдкі, з чым адзін Голанд не мог справіцца. Але ён не мог і аддаць прыбытку другім купцам. Ён прапанаваў сваім братам працаваць у яго ў якасці прыказчыкаў.

— Дваццаць працэнтаў вашы,— сказаў ён.

Браты з ахвотай згадзіліся. Лес быў куплены і прададзены. Прыбытку атрымалася каля двухсот тысяч. Браты папрасілі ў Голанда свае працэнты. Ён ім нічога не даў, а паказаў фігу.

Браты склікалі трацейскі суд. У яго ўвайшлі два рабіны і поп. Голанд сказаў, што не толькі трацейскі, а і дзяржаўны суд ляжыць у яго кішэні.

— Гунд! [1] — абазвалі Голанда браты, і мянушка гэтая так і засталася за ім, як уласнае імя. Ад бацькі яна перайшла да сыноў. Старэйшага, Хаіма, у мястэчку завуць яшчэ і валацугам. Малодшага Руву клічуць сабачкам. Але мянушка глупства: яна не просіць есці. Ды хто адважыўся б абазваць Голанда ў вочы гундам!

Так быў закладзены фундамент багацця і славы Голандавай сям'і, які паступова рос. Голандавы сыны ўдаліся ў бацьку. Іх не любяць у мястэчку. Ні ў Хаіма, ні ў Рувы няма таварышаў. Хаім іншы раз заходзіць да Грэйніма — свайго школьнага таварыша, але і ў Сапуноў яго не вельмі паважаюць.

...Аднойчы, калі гаспадароў не было дома, прыйшоў Хаім. Ён зазірнуў у пакойчык хлопцаў, потым і зайшоў у яго.

— Дзе Грэйнім? — запытаўся ён і быстрымі вачамі агледзеў увесь пакой.

— Няма дома,— за ўсіх адказаў Колька.

---

[1] Гунд — сабака (*яўр.*).

— А ты адкуль? — нечакана звярнуўся да яго Хаім.
— З Дамшына.
— Корзунаў сын?
— Ага.
— Колька! — сказаў Хаім.
Усе хлопцы зацікавіліся, адкуль Хаім ведае Корзуна.
— Што табе трэба? — адказаў запытаннем Колька.
— Паскачы гапака.
Гэта яшчэ болей здзівіла Кольку, бо нават хлопцы не ведалі, што ён майстра на скокі.
— Паскачы, я заплачу.
— Як быццам ты праўду кажаш!
— От дзівак. Яшчэ не верыць!
— А адкуль ты ведаеш наш хутар?
— Я не мала вандраваў у вашых лясах. Кожную сцежку там ведаю.
— А чаго ты там быў? — запытаў Ігнась.
Хаім зірнуў на Ігнася і прамаўчаў.
— І Рымашэўшчыну ведаеш? — здзівіўся Колька.
— Там бабры водзяцца.
— І Высокі бор ведаеш?
— Як свае пяць пальцаў. І Святое возера, і Чортавы вочы, і Гнілую гаць.— Хаім канчаткова пакарыў Кольку.
— І майго дзеда ведаеш?
— Хто старога Архіпа не ведае! Я ў яго бабровую шкурку купляў. А бабу тваю завуць Аксеня, а матку Аўдоля.
— Праўда!
— Ну вось, а ты думаеш, што я хлус! Цяпер паскачаш?
— А колькі заплаціш?
— Сто тысяч.
— Ну як, хлопцы, паскакаць? — запытаўся Колька ў таварышаў.
— Скачы, от дзівак! Сто тысяч! Хаім, давай я! — Пятрусь спрытна вылез з-за стала.
— Ты не ўмееш,— адказаў Хаім.
Падбадзёраны Колька адсунуў лаўку і пайшоў у скокі. Ён спрабаваў і ўпрысядку, і дробна перастаўляючы ногі, наогул уклаў нямала мастацтва і ўмельства і скончыў стомлены і спацелы.
— Ну, цяпер плаці.

— Скачаш ты добра,— пахваліў Хаім.— Толькі ў мяне ў адной паперцы дзвесце тысяч, паскачы яшчэ раз і я табе аддам цэлую паперку.

— Давай, Колька! — сказаў Пятрусь.— А тады пойдзем сшыткі купляць. А мо б ты, Хаім сшыткамі заплаціў?

— Не, але я скажу Мармуру, каб прадаў вам сшыткі за грошы.

Узрадаваны Колька зноў пайшоў у скокі.

— Ну, болей не буду...— стомлена выдыхнуў ён.

Хаім сядзеў і ўсміхаўся.

— Давай грошы! — сказаў яму Пятрусь.

— За што? — не ўздымаючы голасу, запытаў Хаім.

— Як за што? — ледзь не заплакаў Колька.— Ты ж абяцаў.

— Так вас дурняў і вучаць!

— Я і ведаў, што так будзе! — узрушана прамовіў Ігнась. Ён увесь час сачыў за Хаімам і зразумеў, што ад яго, акрамя ашуканства, больш чакаць нечага.

— А ты чый, такі разумны?

— Я бацькаў, а ты чый?

— Што гэта за «ты»! Я ж з табою ў Загаллі свіней не пасвіў.

— А сабак ты не пасвіў выпадкова, сукін сын!

Ігнася ахапіла такая злосць, што ён аж пабялеў і гатовы быў нагаварыць шмат чаго злоснага і крыўднага.

— Гунд! — крыкнуў Колька.— Барбос ты, што ля Хемавай крамы косткі збірае.

Тут Хаім схапіў Кольку, ушчаміў яго галаву паміж ног і пачаў тузаць за валасы.

На стале стаяла Белкава чарнільніца; Ігнась схапіў яе і шпурнуў у Хаіма. Яна стукнулася аб сцяну вышэй яго галавы і рассыпалася, а чарніла вылілася Хаіму на плечы і за каўнер. Пятрусь згроб лінейку і ўдарыў Хаіма па шчацэ. Пачыналася бойка. Хлопцы ўзброіліся хто чым і стаялі напагатове. Колька, вылузаўшыся з Хаімавых рук, узяў качалку і стаў ля дзвярэй.

У гэты момант дадому прыйшоў Довід.

— Што з табою? — запытаў ён, убачыўшы ля дзвярэй усхваляванага Кольку з качалкаю ў руках.

— На сабаку паляваць хочам! — адказаў Колька і заплакаў.

— На якога сабаку? Што ты тут робіш, Хаім?

— Твае кватаранты забіць мяне хочуць,— Хаім меркаваў усё перавесці на жарт.

Ігнась расказаў Довіду, у чым справа.

— Плаці, Хаім, грошы,— загадаў Довід.

— Ты жартуеш... Падумай сам, за што плаціць? Ды ў мяне і грошай такіх няма! — па-яўрэйску сказаў Хаім.

— Без ніякіх жартаў плаці грошы, якія ў цябе ёсць! А не, дык мы здзяром з цябе світку або боты,— па-беларуску прамовіў Довід.

Хаім кінуў на стол паўмільёна, павярнуўся і шпарка выйшаў з хаты.

## 27

Алесь, чакаючы снедання, даплятаў лапаць. Ён рыхтаваўся на работу. Трэба было паставіць на зіму сажні два дроў. Ляснічы дазволіў пілаваць буралом, валеж і сухастой згодна ўмовы за перавозку дроў у лясніцтва. Сажань сухога хвойніку Алесь ужо насек, і яго хапіла б на зіму, але ён хацеў завезці з сажань у мястэчка і прадаць, бо патрэба ў грошах была вялікая.

Алесь любіў лес як сапраўдны паляшук: працуючы ў лесе, ён забываў аб усім. Акрамя таго, ён знайшоў зараснік маладога ліпняку. «Ссяку ўсё, — вырашыў Алесь, — на цэлы год хопіць». Жаданне працаваць ніколі не пакідала гэтага чалавека. Ён наперад уяўляў, як будзе здзіраць шырокія лыкавыя палосы, скручваць іх у вярчы, нанізваць на лазіну як абаранкі. «Смалякоў прывязу, — цешыўся ён, — там жа такія тоўстыя смаловыя калоды. Балонь спарахнела, а стрыжань увесь заліты смалою. На цэлую зіму лучнік паліць, і цяпло і святло будзе».

Усё дрэннае, што турбавала апошні час, адсунулася некуды ў глыбіню свядомасці. Праўда, яно яшчэ хвалявала і цяпер, але не так востра, каб стлуміць настрой, узварушыць сумленне.

Арына ўпраўлялася ля печы. Яна пякла ячменныя бліны і разам церла ў макатры мак. Завіхаючыся ля печы, яна крадком абмахвала з вачэй слёзы. З думак не выходзіў Ігнась. Хацелася, каб ён быў тут, пры ёй, з'еў бы хоць адзін блінец. «Высах, мабыць, хлопец, як таран... На сухім хлебе жыве». Жыццё надышло незразу-

мелае, небывалае... Нейкае няшчасце, як чорная хмара, павісла над сям'ёю, нейкі цяжар і туга атулілі жыццё. Быццам усё ідзе так, як трэба. Вось таксама яна паліць у печы. Алесь пляце лапці, дачка бавіцца на печы, — раніца ў хаце. Але калі ёй прыпаміналіся такія ж раніцы некалькі тыдняў назад і яна параўноўвала іх з сённяшняй, то знаходзіла між імі шмат непадобнага. Цяплом і радасцю жыцця былі авеяныя тыя раніцы, тыя часы. А сёння?..

Алесь маўчыць... Ён і тады маўчаў, але за тым маўчаннем не было нічога цёмнага, чужога, страшнага. А цяпер? Нешта душыць ды сушыць яго. А што? Ён не скажа, ніколі не скажа...

Яна не разумела перамены, якая адбылася з яе мужам. Яна толькі адчувала вялікі боль і трывогу за лёс дарагога чалавека, за дабрабыт сваёй сям'і. Толькі адно пачуццё яскрава жыло ў Арыне: нянавісць. Лютая, смяротная нянавісць да Патапчыка. Гэта ён зглуміў яе шчасце, адабраў у яе чалавека...

Вялікай нечаканасцю і для Арыны і для Алеся было з'яўленне Патапчыка. Ён зайшоў у хату вясёлы і бадзёры і замест прывітання прамовіў:

— Даўно не бачыліся, суседзі!

— Даўнавата... Сядай, Рыгор. — Алесь кінуў недаплецены лапаць пад лаўку. Арына насцярожылася: яна зняла са скаварады блін і падышла бліжэй да мужчын.

— Але, чалавеча. Хаты поруч, а стрэцца некалі. Як жывеш, Алесь?

— Жыву пакрысе. Маё жыццё — не крокі, а пядзі.

— Не гніся, Алесь, чаго там. Жывеш ты не горш за іншых. Вялікая справа розум. Чалавек умее выкручвацца.

Алесю было брыдка глядзець у бессаромныя вочы Патапчыка. «Пра розум пачаў, а чым скончыш...»

— Не надта я выкручваюся. Маю кавалак хлеба і да хлеба...

— Хіба ты мала зарабіў у мінулы раз?

Алесю здалося, што твар яго загарэўся. Ён правёў па ім далонню і зірнуў на Патапчыка.

— Конь мой зацягаўся. Каля дому яшчэ туды-сюды, а ў далёкую дарогу...

— Ды не ў далёкую! Хіба ты ў мінулы раз перагнаў каня?

—Гэтага не скажу, але сёння не паеду...

— І дарэмна, чалавеча. Варта было б з'ездіць. Заробак дам амерыканскі!

Алесь адчуваў, што яшчэ некалькі хвілін такое гутаркі, і ён, нягледзячы на ўсю сваю нянавісць, пойдзе запрагаць каня. Ён адчуваў сябе як чалавек, які топіцца і ўжо страціў надзею выбрацца з віру. «Нейкую ўладу ён узяў нада мною», — зжахнуўся Алесь.

Патапчык разумеў яго становішча.

— Ты, Алесь, сына вучыш, у людзі вывесці хочаш. Ґрошы табе, ой, як патрэбны. А яны на дарозе не валяюцца. Калі згубіў хто, то трэба ўмець знайсці.

— Я, Рыгор, не хачу шукаць валяшчых грошай.

— Смешны ты чалавек, Алесь. Я аж зразумець цябе не магу. Чаго ты ад мяне тоішся, чаго ты хаваешся? Я да цябе па-добраму прыйшоў. Сябравалі мы з табой у маладосці, у суседстве жывём, як людзі. Таму і хачу папрыяць табе, паставіць цябе на ногі.

Арына раптам апынулася ля Патапчыка.

— Не паедзе ён нікуды, ні сёння і ніколі! Хамут пасяку! — крыкнула яна, ва ўпор гледзячы на Патапчыка. У шырока расплюшчаных вачах яе Патапчык убачыў столькі злосці і нянавісці, што мімаволі адхіснуўся ад Арыны.

— Загубіў ты мне чалавека, сусед, ні за што ні пра што! Адкасніся ты ад нас, адчапіся ты ад яго, хай ён цябе не ведае.

Патапчык зразумеў, што справа яго праіграна.

— Што ты маеш да мяне, баба. Я не сілаю вяду, — сказаў ён, адступаючы да дзвярэй. У вачах яго з'явіўся Патржанецкі, і стала горача.

— Не спадзяваўся я, чалавеча, што гэтак будзе... Я цябе прымаў у сваёй хаце інакш. Мо адумаешся, Алесь?

— Я ўжо адумаўся, Рыгор: не паеду.

Патапчык, не развітаўшыся, выйшаў з хаты.

— Алесь... — Арына плакала. — Куды ён цябе вядзе гэты люцыпар?

— Маўчы, Арына, маўчы... Гэта не твая справа...

Арына паставіла на стол снеданне.

— Еш, Алесечка, ды не маўчы. Раскажы ўсё, мо лягчэй табе стане.

Яна падышла да яго, зазірнула ў вочы так ласкава, так шчыра, што Алесь адвярнуўся.

— Адыдзі, Арына... Не крой майго сэрца.

Ён адпіхнуў ад сябе жанчыну, надзеў шапку, узяў світку і выйшаў. Апрануўся на дварэ. Настрой яго зноў стаў вельмі прыгнечаны. Тое, што хавалася недзе глыбока, цяпер усплыло і ўстала, як страшная здань. Ён запрог каня і паехаў у лес.

...Патапчык ад Алеся накіраваўся проста ў гумно. Ішоў як у сне, думаў: «Хаця б гэты раз паслухаў ён мяне, сукін сын. Я б яго так закілзаў, што ён бы на павадку хадзіў... Ах ты Маўчун... А што мне скажа Патржанецкі?» Жудасць агарнула яго.

Гумно было прычынена, там малаціў Калачык. Але не стукаў цэп. Падбавіў кроку: «Мо ён там у стаўпах капаецца! Заб'ю! Адразу заб'ю гада. Вер гэтым галадранцам». Насцеж адчыніў дзверы. Сцяпан Калачык закончыў пасад і пераграбаў амеці.

— Снедаў, Сцяпан?

— Ды не, от пасад скончыў, пераграбу і пайду.

— Ідзі снедай, я сам пераграбу, — вырваў у яго з рук граблі, пачаў грэбці. Рукі дрыжалі.

— Ды ідзі ты, зараза худая! Жонка лаяцца будзе. Хіба ты не ведаеш баб?

— Не інакш з жонкай палаяўся, Рыгор! — Калачык узяў з сячкарні світку, накінуў яе на плечы і пайшоў.

Пачакаўшы хвіліну, Патапчык зачыніў гумно і кінуўся да стаўпа з сенам. Развярнуў яго. Закапаўся ўвесь у сена. Абмацаў вузлы. Замкнуў гумно і пайшоў у хату. «Дзе ж сёння Патржанецкага знайсці... Далібог заб'е ён мяне... Застрэліць, як сабаку...»

Збіраўся нядоўга: узяў стрэльбу, нож, выйшаў на загуменні і шпарка пакрочыў да лесу.

Гняды пасвіўся на сенажаці. Драбіны Алесь зацягнуў у кусты і паставіў іх аглоблямі к дарозе. Гэта каб, наклаўшы воз, не заварочвацца. Павыносіў спачатку ўсе смаловыя круглякі, потым пілаваў смаловую калоду. Пачаў рэзаць валежнік. Прывык працаваць адзін, толькі дрэннавата было, калі заціскала пілу. Хоць бы маленькая дапамога! Вось калі б прыгадзіўся Ігнась. Рэзаў бярвенні на сажань даўжынёю і складваў сцірту. Думкі круціліся вакол працы: як лепш перапіліць, падцягнуць да месца, скласці. Але к вечару заныла паясніца, засмактала нешта пад грудзьмі. Прысеў на пень і агледзеў лес, свае дровы. Недзе на сенажаці конь, у кустах дра-

біны, ля іх смалякі замест газы — усё сваё, уласнае. Недзе ў мястэчку сын, дома жонка і дачка; старая хата, адрына замест гумна. Поруч жыве сусед, ён дае добрыя заробкі. «І я ўжо зарабіў у яго». Апастылела ўсё. Працаваць не было ахвоты, ехаць дамоў таксама. Выняў нож і пайшоў у луцце. Думаў ідучы: «Чаму няма шчасця беднаму чалавеку? Ён круціцца, як скурат на агні, б'ецца, як рыба аб лёд, каб вылезці з беднасці і ніяк не вылезе... А хто многа мае, таму шанцуе. Няўжо ж ад шчырае працы не разбагацееш! Няўжо ж для гэтага трэба спачатку быць злодзеем, забойцам — чорту душу прадаць?..»

Мінуў лужок і ўбачыў зараснік ліпы. Спыніўся. Што за ліха?! Лепшыя луціны ўсе былі зрэзаны, толькі тырчалі белыя пеньчукі. «А ліха яго матары, хто ж тут быў». Пайшоў між кустоў, прыглядаючыся, мо не ўсё луцце зрэзана, і нічога не знайшоў. Лес канчаўся, і воддаль віднелася гала. Там было ўжо балота. Пайшоў туды і спыніўся ад нечаканасці: пад кустом ляжалі зрэзаныя ліпавыя пруты. Нехта нядаўна праходзіў тут, парэзаў усё і кінуў: «Сам не гам і другому не дам». Узлаваўся. Пайшоў далей к балоту. Ледзь не выткнуўся на гала, але пачуў голас. Спыніўся і прыслухаўся: «Патапчык! Далібог ён». Прысеў ля куста і разгарнуў галіны. Убачыў чацвярых. Плячамі да яго стаяў і Патапчык з нажом ля пояса. «Ага! Вось хто маё луцце паглуміў!» Супроць стаяў ляснічы з адбойным малатком. А з бакоў два незнаёмыя. Адзін быў чорны, гарбаносы і крываногі. Алесь пазнаў яго: сын Голанда, Хаім. «Няўжо Голанд зноў лес купляе? Колісь быў вялікі купец». Чацвёртага Алесь не ведаў. Гэта быў высокі дужы мужчына. «Няўдалае месца выбралі, хлопцы! Лес чуе, а поле бачыць, казалі старыя людзі». Патапчык нешта гаварыў, заікаючыся, ледзь чутным голасам, Алесь з яго гутаркі ўлавіў толькі некалькі слоў. Потым пачаў гаварыць незнаёмы.

— Я табе казаў, што ты дурань!

Алесь прыслухаўся: «Дзе я чуў гэты голас? Такі знаёмы голас».

— Не трэба было браць яго ў Заблужжа.

Алесь адчуў, як кроў адыходзіць ад яго твару і на галаве варушацца валасы. «Гавораць пра мяне!»

— Цяпер трэба асцерагацца Марыніча,— сказаў ляснічы.

— Яму трэба даць дарожку, — гэта сказаў Хаім.
— Толькі ў крайнім выпадку. Глупства зрабіць нядоўга.
— Ён можа нас выдаць, — зазначыў Хаім.
— Каго нас? Акрамя Рыгора, ён нікога не ведае. Мы яго і даручым Рыгору. Цяпер сачы за ім, бо я не буду зменьваць праз цябе воўчыя законы: дзе жыву, там не псую. Лясніцтва ад Загалля вельмі блізка.
— Добра... Я з яго не спушчу вачэй.
— Як хочаш.
Потым усе чатыры рушылі з месца ў розныя бакі. Патапчык крочыў на Алеся, потым стаў і крута павярнуў убок. Калі ён знік у гушчарніку, Алесь падняўся. Уся нуда, здаецца, раптам адвалілася ад яго. Ён памкнуўся быў засвістаць, але адумаўся. Вярнуўся да воза, запрог каня і адразу паехаў дамоў. «Што ж гэта за чацвёрты быў з імі? Дзе я чуў яго голас? А ліха ж на мяне! Ды гэта ж ён тады ехаў з Патапчыкам, як я завозіў свайго Ігната!» Уявіў незнаёмага такім, якім ён стаяў ля лазовага куста: тонкія губы, шырокі лоб... «Ды гэта ж Патржанецкі, былы прыстаў!..»
Дома Алесь з'еў за чацвярых. Не хапіла вячэры, і ён пачаў есці хлеб з соллю. Арына пайшла ў сенцы і прынесла яму драбок сала.
Жыццё зноў, як быццам, пайшло як належыць. Алесь узяўся за працу ля хаты. Паправіў стрэхі, перасыпаў плот ад Патапчыка. Але іншы раз чорная думка ўкрадвалася ў яго галаву: «Яны мяне заб'юць...» Ён рашуча адганяў яе. «Гэта мы яшчэ пабачым, хто каго. Я маўчу, але я хутчэй магу даць вам дарожку! Не аднаго Рыгора ведаю я! Усю вашу зграю я ўжо ведаю!»

## 28

— Значыць, таварыш Галамака, вырашыў узяцца за сваю гаспадарку? — запытаў Кавалёў, зірнуўшы на Антося, які сядзеў на канапе.
На дварэ свяціла сонца. Антось зірнуў у акно, усміхнуўся і адказаў не адразу.
— Якое гэта рашэнне, таварыш Кавалёў! У мяне гаспадаркі па сутнасці няма. Хата рассыпаецца, трэба ж недзе жыць! У маці ёсць карова, яна таксама зімуе амаль у хаце, значыць і хлеў патрэбен.

— Ты не думай, што я хачу цябе адгаварыць ад гэтага. Гаспадарку трэба наладжваць. І мы табе дапаможам. Адносна лесу Буткевіч напіша ў лясніцтва.

— Ужо напісаў. Паперка ў мяне.

— Добра. Падумаем мы і аб тым, каб выдзеліць табе сродкі на каня, на калёсы, таксама і на насенне.

— У нас ёсць камітэт узаемадапамогі. Насенне дадуць.

— Вельмі добра... А цяпер справа вось у чым, таварыш Галамака: ты гаварыў аб спажывецкай кааперацыі ў Ярэміцкім сельсавеце. З тваіх слоў відаць, што ў гэтым напрамку ты правёў там не малую работу і цяпер яе праводзіш.

Антось кіўнуў.

— Твой напрамак работы правільны, аднак я хачу табе зрабіць адну прапанову. Узначаль нашу валасную кааперацыю.

Антось засмяяўся.

— Арганізаваць, гэта адна справа, таварыш Кавалёў, а ўзначаліць — другая. Я шэсць гадоў быў салдатам і нават не магу ўявіць, як бы я кіраваў валаснрй кааперацыяй. Я люблю быць з народам, а не сядзець у канцылярыі.

— Той, хто умее арганізаваць справу, зможа і кіраваць ёю. А ў канцылярыі сядзець табе наўрад ці прыйшлося б. Нам неабходна кааперавАць не толькі Ярэміцкі сельсавет, а ўсю воласць. Бачыш, якое поле для дзейнасці. Калі ты дасюль не сядзеў у Ярэмічах, склаўшы рукі, то і цяпер не будзеш сядзець. Сваё месца ты, па-мойму, знойдзеш.

Ён падумаў імгненне і запытаў:

— Якія думкі ў сялян пра банду?

— З бандаю трэба змагацца, таварыш Кавалёў. Гэта не толькі мая думка, але і ўсіх сумленных сялян. Не тых, вядома, што гадуюць банду і разносяць чуткі пра новую вайну. Паміж іншым, таварыш Кавалёў, у нашым сельсавеце была няправільна размеркавана панская зямля. Шмат зямлі нахапалі тыя, у каго трэба было ўласную абрэзваць.

— Ведаю пра гэта. Такія справы адбыліся і ў іншых сельсаветах. Вясной будзем рабіць абрэзку. А цяпер у нас галоўная задача: ліквідаваць банду. Я таму і хацеў узяць цябе ў воласць, што ты вайсковы чалавек. Але ў

Ярэмічах ты больш патрэбны, бо старшыня вашага сельсавета слабы.

— Ён ужо не толькі слабы, а шкодны. Ён падпаў пад уплыў кулацтва.

— Кім яго там можна замяніць, таварыш Галамака?

— Старшыня Камітэта ўзаемадапамогі — чалавек сумленны. Калі б яму спачатку дапамагчы, быў бы нядрэнны работнік.

— Дык вось табе і заданне: рыхтуй насельніцтва да перавыбараў. Работы, як бачыш, нямала. Табе некалі будзе і за гаспадарку брацца.

— Нічога! Адно другому замінаць не будзе. Я вельмі рад, таварыш Кавалёў, з людзьмі я працаваць люблю. Мая хата цяпер стала нібы клуб. Цесна, мяркую перанесці ўсю працу ў сельсавет. Хату-чытальню трэба адкрываць, а ў нас ні памяшкання, ні літаратуры.

Ён зноў зірнуў у акно і падняў з падлогі свой клунак.

— Мне пара дамоў. Пакуль зайду — сцямнее.

— Цяжка будзе з такой ношкай.

— Нічога! Тут толькі літаратура. Мала! Я б яшчэ столькі занёс, ды няма дзе дастаць. У вас узяў, у старшыні выканкома, у камсамольскай ячэйцы... Дзе яшчэ можна дастаць літаратуры, таварыш Кавалёў?

— Пачакай! Зайдзі яшчэ да загадчыка школы Гурына. Я яму напішу.

Кавалёў адарваў лісток паперы, напісаў некалькі слоў і аддаў Антосю.

— Я пастараюся падабраць тут для цябе бібліятэку... Мне здаецца, што ў вас трэба арганізаваць камсамольскую ячэйку.

— Аб гэтым і думаю, таварыш Кавалёў. З моладдзю я працую. Ну, бывайце.

— Усяго найлепшага. Заглядай да нас часцей. А калі ў Ярэмічы прыедзе хто-небудзь адсюль, то цябе не мінуць.

Калі Антось выйшаў, Кавалёў весела прайшоўся па кабінеце. «Такога чалавека грэшна было б забіраць у воласць, — падумаў ён. — Вось хто павінен быць старшынёю Ярэміцкага сельсавета, а не Ткачэня. Пры ім і Макарэвіч будзе працаваць лепш».

У кабінет увайшоў Мотэль Сапун.

— Таварыш Кавалёў! Вось карэспандэнцыя з павета,— прамовіў ён, націскаючы на слове карэспандэнцыя, нібы ганарыўся, што не каму іншаму, а яму даручылі прынесці гэтую самую карэспандэнцыю?

— Пошта прыйшла?

— Так.

Кавалёў хацеў яшчэ нешта запытаць, але толькі зірнуў на Мотэля і сеў за стол. Мотэль пастаяў хвіліну і выйшаў.

Кавалёў прачытаў ліст і паклаў яго на стол.

Значыць, банда пачала дзейнічаць на тэрыторыі не толькі адной воласці. Яе дзейнасць ахапіла ўсю прыгранічную паласу павета і не абмяжоўваецца толькі грабяжамі. Яны спыняюць паязды, асабліва паштова-пасажырскія.

Кавалёў задумаўся. Пытанне, якое хацеў задаць Мотэлю, не выходзіла з яго галавы. Пытанне было вельмі простае: «А мне асабіста лістоў на пошце няма?» І не запытаў, бо ведаў: няма. Каб былі, Буткевіч прыслаў бы. Ён ведае, як хвалюецца сакратар партыйнай ячэйкі, не атрымліваючы трэці месяц лістоў ад сям'і з Украіны. Там засталіся жонка і трое дзяцей: два сыны і дачка. Жонка працавала ў дзіцячым доме.

Атрымаўшы прызначэнне ў Мінск, Кавалёў адразу хацеў забраць з сабою і сям'ю, але жонка не дала згоды.

— Я тут працую,— сказала яна,— мы зможам некаторы час пражыць без цябе, а куды цябе пашлюць з Мінска, невядома. Едзь, абсталёўвайся, а тады прыедзем мы.

Прапанова была слушная, і Кавалёў паехаў адзін. З таго часу прайшло каля чатырох месяцаў, як ён выехаў, а ён атрымаў толькі адзін ліст. Увесь гэты час трывога за сям'ю не пакідала яго.

Сяргей Кавалёў нарадзіўся на Гомельшчыне. Бацька яго быў беззямельны селянін, каваль. Ён выехаў з роднае вёскі, калі Сяргею было толькі пяць гадоў. Спачатку жылі вандроўным жыццём, бо сталую работу цяжка было знайсці. Гады вандроўнага жыцця не пакінулі ў Сяргеевай памяці значнага следу. Аб роднай вёсцы засталіся толькі ўспаміны: хатка па-над ракой, пясчаны двор, абгароджаны пахілым плотам, агародчык, дзе на замежку пасвілася пярэстае цялё.

У пошуках работы бацька падаўся на Украіну і спы-

ніўся ў адным гарадку ў Данбасе. Там ён паступіў на работу ў чыгуначнае дэпо.

Спачатку жылі ў вялікім халодным бараку, у якім было многа жанчын і дзяцей. Дзеці заўсёды плакалі і крычалі, а жанчыны лаяліся.

Бацьку даводзілася бачыць рэдка. Пасля работы ён будаваў уласную халупу на гразкай ускраіне чорнага гарадка.

Аднойчы бацька прыйшоў у барак вясёлы.

— Ну, збірайся, старая, пойдзем у сваю хату.

Узрадаваная маці пачала збірацца. Яна пазакручвала ў лахманы малодшых Сяргеевых сясцёр і брата. Бацька пазычыў недзе вялізную тачку, у яе пасадзілі дзяцей і зложылі сваё дабро. Бацька вёз тачку, маці прытрымлівала малых, а Сяргей, босы, пехатою хлюпаў па халоднай гразі. Была тады позняя восень, нават сняжок ужо лятаў у халодным паветры. Таму і спяшаўся бацька перавезці сям'ю да марозаў у сваю хату.

Што там была за хата! Сапраўдная халупа з дошак-гарбылёў, між якімі было насыпана пілавінне і зямля. Тут і прайшло Сяргеева дзяцінства. Скончылася яно вельмі рана. Сям'я расла, а Сяргей быў старэйшы. Ужо на адзінаццатым годзе бацька завёў старэйшага сына ў дэпо.

Спачатку Сяргей выконваў там чорную работу: ачышчаў двор і памяшканне, падвозіў вугаль, чысціў інструменты. З цягам часу стаў вучнем у бацькі, а потым кавалём.

У рэвалюцыйны рух ён уключыўся юнаком. Прымаў удзел у падзеях 1905 года, двойчы сядзеў у турме. Перад Лютаўскай рэвалюцыяй быў сасланы ў вялікі Усцюг, уцёк адтуль, і Кастрычнік сустрэў у Харкаве.

У грамадзянскую вайну на франтах супраць Дзянікіна і Урангеля ён быў палітработнікам. Так як і Галамака, лічыў сябе спачатку салдатам, нават не ўяўляў, што будзе сакратаром партыйнай ячэйкі ў прыгранічным палескім мястэчку. І спачатку было вельмі цяжка. Цяпер работа пачала наладжвацца. І вось абставіны зноў змяніліся ў сувязі са з'яўленнем банды.

Антось прыйшоў у Ярэмічы вечарам. Сонца даўно ўжо зайшло, але было не вельмі цёмна, бо ўзышоў поў-

ны месяц. На цёмна-блакітным небе не было ні адной хмурынкі. Нават крыху падмарожвала, але Антось разагрэўся ад хады.

Яшчэ здалёк заўважыў ён яркае святло, што лілося з маленькіх акон яго старой хаты. Нельга было паверыць, што гэта святло ад лучыны, і Антось прыбавіў кроку.

Калі Антось зайшоў у хату, то ўбачыў, што там поўна людзей. Пераважна моладзь, але за сталом сядзеў сам Яўхім Сцешыц. На вялікім ілбе яго блішчалі кроплі поту, твар быў вясёлы.

Каля Яўхіма сядзеў незнаёмы Антосю хлопец. Ён з цікаўнасцю зірнуў на Антося.

Над сталом вісела лямпа.

— А-а! З'явіўся-такі! — сказаў Яўхім устаючы.— А мы думалі, што заначуеш у мястэчку.

— Дзе ж гэта вы на лямпу разжыліся? — пацікавіўся Антось.

— Сабрала наша моладзь,— адказаў Яўхім.— Ты ж паглядзі, Антось, да нас ужо і з Загалля чалавек прыйшоў. Пры лучыне чужога чалавека прымаць брыдка, дык вось нашы хлопцы і сабралі: той шкло, той кнот, а я газы ўліў.

Ён уважліва паглядзеў на Антосеву торбу.

— Кніжак прынёс, дзядзька Яўхім,— сказаў Антось, заўважыўшы яго позірк.

— До-обра! Тут у куце твая ляжала, дык от Апанас,— Яўхім паказаў на загальскага хлопца,— узяў ды давай яе чытаць. Хвацкая кніжачка, і ўсё пра папоў. Як ён, Апанас? Дзям'ян, ці што.

— Дзям'ян Бедны,— адказаў Апанас і крыху засаромеўся.

Антось засмяяўся. Ён даўно збіраўся пачытаць моладзі і сялянам вершы Дзям'яна Беднага, але не было зручнага выпадку. Ён быў вельмі рады, што выпадак гэты з'явіўся, хоць і ў яго адсутнасць.

Пакуль ён вячэраў, торбу яго спаражнілі. Кожны трымаў кніжку, усе цягнуліся бліжэй да стала, к святлу. Нават Яўхім паспрабаваў чытаць, але, як відаць, гэта яму было цяжка. Нарэшце ён палажыў кніжку на стол і, уздыхнуўшы, прамовіў:

— Значыцца-такі не ўмею... Забыўся, ды годзе...

— Што забыліся, дзядзька Яўхім?

— Забыўся, кажу, чытаць. Сорак гадоў, як нічога не чытаў... Вочы не служаць. А лічуся пісьменным, умею падпісацца — «Сцешыц». Адну зімку па хатах правучыўся... А цяпер зайздросна... Пачытай ты ўголас, Антось.

## 29

Сумнае і аднастайнае Ірыніна жыццё ў апошнія дні набыло яркі і глыбокі змест. Пасля працы ў кравецкай арцелі яна спяшалася ў клуб, дзе ёй даручылі бібліятэку. Спаць клалася позна, і не адразу прыходзіў сон. Яна не магла зразумець, чаму так раптам змянілася яе жыццё. Бывала, трывога за будучае не давала спакою. Чым жыць заўтра? праз тыдзень? Бралася мыць бялізну, шыла. З запрацаваных грошай шкада было страціць лішнюю капейку. Часамі агортвала туга.

Потым яна заўважыла, што нешта новае хлынула ў местачковае жыццё, але не разумела таго новага. З цягам часу яна адчула, што і яе хата не з краю. Паменшала заказаў. Пачалі арганізоўвацца кравецкія таварыствы. Самастойныя краўцы, якія дасюль так-сяк жылі, раптам сталі вучнямі. Маці не раз прапанавала і Ірыне запісацца ў вучаніцы.

— Ты будзеш мець пэўны кавалак хлеба,— казала яна.

Але Ірына не верыла ў гэты хлеб. Яна вырашыла змагацца. І сустрэча з Кавалёвым развязала ўсе непаразуменні. Яна стала на чале новай арцелі.

Ужо ў хатах запалілі агні, калі Ірына вярнулася дамоў. Матка чакала яе, і вячэра стыла на стале. І гэта радавала Ірыну. Раней не даводзілася, каб па-людску сеў ды пад'еў, а ўсё прыхваткамі, на хаду. Спачатку было дзіўна сесці за стол і сядзець за ім, так раней было толькі ў святочныя дні, а цяпер штодзень. Потым стала неабходнасцю.

Пасля вячэры Ірына ўспомніла, што сёння ўвесь дзень то прымала заказы, то здавала гатовае шыццё, то розныя рахункі, падлікі — канцылярскія справы. «Можа, і пакрыўдзіцца хто-небудзь, што сама не шыю»,— падумала яна. Але не гэта трывожыла яе. Кажухі! Заўтра прыйдзецца шыць кажухі. Дзесяць кажухоў! Першы раз. Сапсаваць нядоўга, і рэпутацыя арцелі — не аднаго краўца, а сямі — праваліцца. Рывін і Кічын будуць паль-

цамі паказваць на майстэрню: Мацеева дачка хоча з імі змагацца!

А Доўгін і Яхніч цягаюцца па вёсках і смяюцца з усіх: з Кічына, з Рывіна і з арцелі.

А кажухі трэба пашыць добра. Вельмі добра.

Час быў ісці ў клуб. Яна накінула паліто і хустку, але ў гэты час у хату зайшлі Кавалёў і старшыня выканкома Буткевіч. Ірына ад нечаканасці адступіла назад і не адказала на прывітанне. Кавалёў крочыў проста да яе. Ён пацiснуў ёй руку і сеў на лаву. Буткевіч — сівавусы высокі мужчына ў акулярах — агледзеў хату.

— Ну як маецца наша Вера Паўлаўна? — запытаў Кавалёў.

Маці стаяла ля печы і з радасным здзіўленнем аглядала ўвайшоўшых. Ёй было дзіўна, што ў яе хату прыйшлі старшыня выканкома і Кавалёў.

Але чаму ён назваў Ірыну Верай Паўлаўнай?

— Заўтра збіраемся шыць кажухі, таварыш Кавалёў.

— Вельмі добра. Даўно трэба пачынаць.

— Мы можам зглуміць матэрыял. У нас няма майстроў-кажушнікаў. Ці не лепш аддаць назад заказчыкам аўчыны?

— Матэрыял глуміць няможна,— папярэдзіў Кавалёў.— Трэба пашыць гэтыя кажухі так, каб вашы заказчыкі... Колькі іх у вас?

— Пакуль што дзесяць.

— Каб яны яшчэ па дзесяць заказчыкаў прывялі.

Буткевіч моўчкі аглядаў Ірыну. «У гэтай дзяўчыны відаць упартасць,— думаў ён,— не, яна не паглуміць аўчын».

— Няўжо, таварыш Сідаровіч вас сапраўды так палохаюць кажухі? — запытаў ён.

— А што ты думаеш!— пажартаваў Кавалёў.— Кажухі каго хочаш спалохаюць, асабліва калі надзець іх поўсцю наверх.

Усе засмяяліся.

— А ці ведаеце, Вера Паўлаўна, чаго мы да вас зайшлі?

— Прызнацца, не ведаю.

— Я вам абяцаў дапамагчы, і вось старшыня выканкома знайшоў для вашай арцелі швейную машыну і байца аддаць напавер.

— Праўда, таварыш старшыня?

— Выбачайце, у якім сэнсе праўда? — запытаў Буткевіч.— Калі пра машыну, то праўда. Машына ў нас ёсць. А ў сэнсе таго, што напавер, то Кавалёў выдумаў. Наогул, заўважце, ён вялікі хлус і летуценнік. Машыну мы вам аддадзім пад распіску, без ніякіх павераў-напавераў. А зайшлі мы сюды, каб супакоіць вас адносна кажухоў. А то і сапраўды яны сталі нейкаю праблемаю... Сёння звоніць ка мне хто? Начальнік міліцыі. Пра што? Пра кажухі. Прыбягае Іван Барай, чаго? Кажухі шыць трэба. Смешна, сапраўды...— ён памаўчаў.— Я сам, калі хочаце ведаць, кравец-кажушнік. От і акуляры нашу па прычыне таго, што сапсаваў на кравецтве вочы.

Ірына зусім асмялела пасля яго слоў.

— Няўжо вы кажаце праўду, таварыш старшыня?

— Вядома. У майго бацькі было сем сыноў і тры дзесяціны зямлі. Кім жа я мог быць, самы малодшы? У нашай хаце былі ўсе спецыяльнасці. Мне засталося кравецтва. Машыны сваёй я не маю, а то аддаў бы яе ў вашу арцель.

— Ну ты ўжо расхваліўся.

— Не. Я падыходжу да справы. Мне, таварыш Сідаровіч, хочацца агледзець вашу майстэрню.

— Сходзім, паглядзім.

Усе трое рушылі з хаты.

Старая Марыля асталася адна. Яна села на ўслоне ля печы і заплюшчыла вочы. Сёння ўсё ёй было незразумелым. Яна пражыла шэсцьдзесят гадоў. За гэты час шмат чаго перажылося: і гора, і бяды. Сустракалася і радасць, але яна была вельмі кароткая. Ці можна было такую кароткую радасць назваць шчасцем? А мо шчасце і заўсёды такое кароткае?

Але ўсё — і радасць і гора не звальваліся як з неба. Яны прыходзілі разам з жыццём. Адно гора даганяла другое, прыходзіла радасць, але Марыля ведала, што і яна пройдзе.

У яе нараджаліся дзеці. Іх трэба было крыху вучыць. А хіба гэта лёгка! У хаце заўсёды нястача. І большасць людзей заўсёды жыла ў нястачы... Былі людзі бедныя і багатыя, няшчасныя і шчаслівыя, гаротныя і беларучкі. Яна належала да першых. Так было...

А сённяшняга вечара яна зразумець не магла. Сакратар партыйнай ячэйкі і старшыня воласці былі ў яе

хаце. Адзін з іх каваль, а другі кравец. Яны самыя большыя людзі ў воласці, і ім трэба клапаціцца аб яе Ірыне... Не, гэта зусім незразумела. Пасмяяцца з гэтага можна, а зразумець не. Ці мог раней валасны старшыня Дубіцька прыйсці ў яе халупу і размаўляць з ёю, як роўны, як сусед. Ён заходзіў да багатых, а не да беднякоў. Марыля прытулілася да печы і задрамала.

Ірына адамкнула майстэрню і запаліла лямпу.

Буткевіч агледзеў памяшканне, памераў яго крокамі ўздоўж і ўшыркі. Паківаў галавой.

— Цесна ў вас тут, таварыш Сідаровіч.

— Цеснавата.

— Трэба нешта зрабіць. Як ты думаеш, Сяргей?

— А можна знайсці большае памяшканне?

— Можна. Мы вам дадзім цэлы дом, таварыш Сідаровіч.

— Шчыра дзякую, таварыш старшыня.

— Не дзякуйце. Акрамя таго, вам патрэбен рахункавод. І рахункавода дадзім,— ён разважаў, пераглядаў работу.

Гэтыя словы ўсхвалявалі Ірыну.

Сёння мне не прыйшлося сесці за шытво. То заказы прымала, то разлікі вяла...

— Таму я і кажу пра рахункавода. Вам як кіраўніку арцелі зусім не прыйдзецца шыць. Вам і так хопіць работы. А цяпер пакажыце мне аўчыны.

Ірына прынесла іх цэлае бярэмя і палажыла на стол. Буткевіч пераглядаў адну аўчыну за другой і адкладаў убок.

— Добрыя аўчыны... Такія глуміць нельга. Пакажыце мне свае меркі хоць на аднаго чалавека.— Ірына паказала свае запісы. Буткевіч прагледзеў іх.

— Я сёе-тое забыў. Але правільна. Тут таксама ёсць матэматыка, прапорцыя... Я магу вам парадзіць адно: больш звяртайце ўвагі на тое, каб кажухі былі прасторнымі. Паляшук шые кажух не толькі, каб на кірмаш з'ездзіць ды ў свята надзець, а і для таго, каб у ім можна было ехаць па сена ды па дровы. Таму не вельмі прытрымлівайцеся мерак, асабліва ў шырыні плячэй.

— Калісь тата мой так казаў.

— А паўкажушак пашыйце шчыгульна, бо гэта не

іначай хлапец к вяселлю рыхтуецца. Ґузікі яму ў два рады на асобных палосках, кішэні пастаўце коса.

— Ты што, Сцяпан, ці не ў арцель уступіць хочаш? У іх жа акурат закройшчыка няма,— пажартаваў Кавалёў.

— А павер, Сяргей, што іншы раз хочацца пашываць, як калісь.

— Веру. А мне іншы раз хочацца пакаваць, бо я не толькі Кавалёў, я яшчэ і каваль.

На двары ўжо было зусім цёмна. Імгліла.

— Вы, напэўна, дамоў? — запытаў Кавалёў у Ірыны.

— Не, я ў камсамольскі клуб.

Кавалёў і Буткевіч моўчкі пакрочылі ў выканком.

Абодва зайшлі ў кабінет Кавалёва.

## 30

Лейба Яхніч сядзеў на мяккім крэсле і выцвілымі вачамі зрэдку паглядаў на партрэт Леніна. Ён слухаў, што гаворыць старшыня выканкома, рабіў выгляд, што верыць і спачувае, аднак не верыў. Яго, старога стрэленага вераб'я, хочуць злавіць на мякіне! Дарэмная справа!

Яму было прыемна, што з ім гавораць, як з роўным, але ён не верыў. Калі начальства пачынае так гаварыць, то гэта ў многа разоў горш, чым яно крычыць.

Калі начальства злуецца, то лёгка зразумець, па якім баку цябе вытнуць, і падрыхтаваць гэты бок так, каб не надта забалела.

— Колькі вы зарабляеце, таварыш Яхніч, за месяц?

Лейбе падабалася, што яго завуць таварышам і не тыкаюць, як у вёсках, але ён адказаў вельмі разумна:

— Я, паверце, ні разу не рабіў такіх падрахункаў. Працую, кармлю і адзяваю сям'ю так-сяк... Але не лічыў.

— Ну, прыблізна, мне не абавязкова акурат. Мне цікава ведаць ваш заработак у вёсках, для таго, каб давесці вам, што ў арцелі вы заробіце не менш, а больш.

— Паверце, я і прыблізна ніколі не лічыў.

Старшыня занерваваўся. «Не, з гэтым чалавекам абсалютна нельга весці гутарку... Ці ён дурны, ці хітры». Зазіраў у мутныя Лейбавы вочы: яны паблісквалі іранічна, разумна, але што за думкі хаваюцца ў галаве гэтага чалавека, Буткевіч ніяк не мог разгадаць.

— Таварыш Яхніч, аднак вы адзін раз хацелі запісацца вучнем у Рывінаву арцель, і цяпер гэта маеце на ўвазе.

— Я? — Лейба засмяяўся.— Вы, мабыць, лічыце мяне зусім дурным. Я меў на ўвазе запісацца к Рывіну! Ну, скажыце, таварыш старшыня валасці, што б вы сказалі такому багацею, будучы на маім месцы, калі б ён прыйшоў у вашу хату і зрабіў прапанову запісацца ў яго таварыства? Ну што б вы сказалі?

— Я б выгнаў яго з хаты.

— Будучы на маім месцы? — здзівіўся Лейба. — Не, ніколі. Вы б сказалі яму тое, што сказаў я.

— Што ж вы яму сказалі?

— Што я яму сказаў! Я яму сказаў вельмі далікатна: сядайце, пане Рывін, мы пагутарым. У мяне, пане Рывін, шмат пачатае работы. Яе трэба скончыць, а тады! А тады я пагляджу. Я запішуся ў вашу майстэрню, пане Рывін, тады, як скончу ўсю сваю работу. Вы разумееце? А ў мяне работы акурат столькі, што яе хопіць мне да самай маёй смерці! Тады Рывін і кажа: «Ты, Лейба, зможаш скончыць сваю работу ў нашай майстэрні, табе дапамогуць нашы краўцы». Але я і на гэта яму вельмі далікатна адказаў: у мяне, пане Рывін, узята наперад плата, а вашы краўцы дарма не будуць шыць. Яны захочуць платы, а я ўжо яе з'еў. Вы думаеце, што Рывін не зразумеў майго адказу? Ого, з ліхам зразумеў, але яму трэба за нешта ўчапіцца. Ну, ён і чапляецца за мае словы і цяпер хваліцца, што Яхніч запішацца ў яго арцель.

«Хітры, бэстыя,— падумаў Буткевіч.— Аднак ён абводзіць кругом пальца мяне таксама, як абвёў Рывіна».

— Вядома, што вы вельмі хітра адказалі Рывіну, але вы гэтак жа адказваеце і мне. У адносінах да Рывіна так і трэба, у адносінах да мяне — не. Рывін ваш вораг. Яму патрэбны вы не таму, што ён клапоціцца аб вас, а таму, што ён клапоціцца аб сабе. Яму трэба ваша праца, каб жыць самому. А я клапачуся аб вас як прадстаўнік савецкай улады. Я хачу давесці вам, што я выконваю важную дзяржаўную справу, калі гутару з вамі.

— Што? Вы выконваеце дзяржаўную справу? — Лейба крыху ўсхваляваўся.— Вы выконваеце дзяржаўную справу, калі гутарыце са мной?

— Безумоўна.

Лейбавы вочы палезлі на лоб, а Буткевіч прадаўжаў:

— Вырваць працоўных саматужнікаў з лап Рывінаў, Кічынаў, розных жывадзёраў, аб'яднаць іх, каб прад імі дрыжаў кожны Рывін і Кічын,— гэта важная дзяржаўная справа! Даць гэтым саматужнікам магчымасць жыць па-чалавечы, не бадзяцца па вёсках у дождж, халепу, нягоду, не баяцца, што заўтра нехта адбярэ яго кавалак хлеба,— гэта вялікая дзяржаўная справа, таварыш Яхніч. Даць ім магчымасць жыць не толькі так-сяк, карміць і адзяваць дзяцей, а і вучыць іх, гэта найвялікшая дзяржаўная справа.

Гэтыя словы кальнулі Лейбу ў самае сэрца. У яго самога сямёра дзяцей, усе не вучаныя, абдзёртыя... Але Лейба не верыў. Ды і як паверыць! Хто калі думаў пра яго ці пра яго дзяцей! Яго толькі тады клікала начальства, калі прыходзіў тэрмін плаціць падатак. Але гутаркі з ім не заводзіла. Яно патрабавала: плаці!..

І ўсё-такі Лейба не верыў. Не, ён пачакае, паглядзіць на людзей, падумае.

— Таварыш старшыня воласці, а Янкель Доўгін ужо запісаўся ў арцель?

— Янкель Доўгін чакае, пакуль запішацца Лейба Яхніч.

«Доўга ж яму прыйдзецца чакаць!» — падумаў Лейба і ўхмыльнуўся.

— Дарэмна ён чакае. У кожнага на плячах свая галава.

— Добра, таварыш Яхніч. Болей на гэтую тэму мы не будзем гутарыць. Я толькі хачу папрасіць вас...

«Няўжо не злуецца?» — думаў Лейба, паглядаючы на Буткевіча.

— Каб вы заўтра зайшлі ў нашу майстэрню і паказалі нашым краўчыхам, як кроіць кажухі. Заказаў у іх завалена, а такога добрага майстра, як вы, няма. Вы, безумоўна, атрымаеце плату за гэты дзень.

— Гэта я магу...— з тугою ў голасе прамовіў Лейба.— Гэта я зраблю для вас, старшыня...— А сам сабе падумаў: «Заўтра ў вёску трэба ісці... Змарнаваць цэлы дзень! У іх шмат заказаў...» Трывога закралася ў Лейбава сэрца: навучыць іх, каб потым самому застацца без работы.

Але ён паабяцаў, хоць і ішоў потым дадому, як у сне.

І што людзям трэба ад Лейбы Яхніча! Ён зарабляе кавалак хлеба сваім дзецям. Ён нікому нічога не вінава-

ты. Ён паціху жыў, памногу працаваў, нікуды не лез, не высоўваў далёка свайго носа...

«Вучыць дзяцей — дзяржаўная справа! Буткевіч гутарыў з Яхнічам і гэта таксама дзяржаўная справа! Ну і хітры! Каб працоўныя саматужнікі вучылі сваіх дзяцей! Ого! Гэта было б вельмі добра!»

У такі бок кіраваліся думкі ў Лейбавай галаве. «Аднак гэты Буткевіч не дурны мужык! Не, не дурны! Ён нават вельмі разумны!»

Лейба зайшоў у хату пануры і злосны, абярнуў табурэтку і тузануў за вуха Янкеля, бо яму здалося, што гэта ён паставіў табурэтку ля самага парога. Вылаяў усіх. Штурхануў Мордуха за тое, што ён нечага выскаліў зубы.

Сора мыла бялізну. Усюды на падлозе стаялі лужыны, пахла мокрым попелам, мылам, потам.

— Ну, Лейба, мабыць, ты не заплаціў падатку, і на цябе налажылі штраф? — запытала Сора.

— Што штраф! Яны просяць, каб я навучыў іх краўцоў шыць! Ты чуеш, Сора! Яны без мяне не могуць абысціся, бо ў іх няма такіх майстроў, як я.

— І на цябе не налажылі штраф?

— Сора! Ты зразумей, што цяпер зусім не той час, які быў раней. Даць магчымасць працоўным саматужнікам жыць па-чалавечы — гэта важная дзяржаўная справа, Сора!

Ён сказаў гэтыя словы і сам не мог зразумець, жартам ці сур'ёзна.

Назаўтра раніцою ён пайшоў у майстэрню кравецкай арцелі. Уражанне ад гутаркі з Буткевічам ужо знікла. Ён ішоў не вучыць, а проста пацікавіцца і адначасова выканаць абавязак.

З хаты ён выбраўся назнарок вельмі рана з надзеяй, што ў майстэрні нікога не будзе, тады б ён мог ад усяго адмовіцца з чыстым сумленнем. Але майстэрня была адкрыта. Ён зайшоў у памяшканне, зрабіўшы вельмі суровы і недаступны выгляд.

Ірына сядзела за столікам. Лейба прывітаўся і адразу запытаў:

— Ну, дзе вашы кажухі?

Ірына прынесла цэлую кучу аўчын і разлажыла іх перад Лейбам. Дастала запісы мерак. На ўсё гэта Лейба зірнуў адным вокам.

— Ты мне дай кажухі сваёй работы.

Пакуль Ірына прыйшла з кажухамі, Лейба пераглядаў аўчыны. Яго кравецкі вопыт гаварыў, што матэрыял найлепшы, і сэрца загадзе падказвала, што тут паглумілі шмат аўчын.

Ірына прынесла два кажухі і адзін паўкажушак. Лейба ўхапіўся за іх абедзвюма рукамі, разгарнуў, усмешка плавала на яго губах. Разгледзеў, падняў угору: не, нідзе няма фальшы. Скінуў свой лапсардак, апрануў кажух, прыгнуўся і глянуў уніз, потым на плечы, потым падышоў да люстра і зірнуў на спіну: не, нідзе ніякага тандэту. Скінуў кажух і сеў ля стала.

— Ну, дык чаго ты хочаш? — злосна запытаў у Ірыны.— Ты сама ўмееш шыць, што табе трэба?

— Кроіць я не ўмею.

— А гэтыя кроіла! Так крой і ўсё,— раззлаваўся ён.— Няма чаго Лейбу вадзіць за нос... Што вам трэба ад мяне?

«Дарэмна я так злуюся». Успомніў Мацея, Ірынінага бацьку. Дружны быў чалавек... Але так заняпаў і памёр без пары. Грудзі былі слабыя. Кавалю трэба мець здаровыя грудзі. У самога заныла ў правым баку. «Дарэмна я лаюся на гэтую дзяўчыну, трэба павучыць яе».

— Павесь, таварыш старшыня, маю світку ды ідзі сюды.

Праз гадзіну ён працаваў і напяваў пад нос нейкую сумную песню. Працаваў так, як у вёсцы, у хаце багатага селяніна: «Глядзі, я недарэмна ем твой хлеб».

Ірына не зводзіла вачэй з яго працы. «Як спрытна! — думала яна.— Не, я так не ўмею». Яна дзівілася, што Лейба, расклаўшы аўчыну, не размярае яе, не мяркуе, з якога боку кроіць, а, акінуўшы позіркам, бярэ нажніцы і раз-раз, гатова! Абрэзкаў у яго застаецца мала, кліноў таксама значна менш, чым у яе. Дзіўней усяго было, што, узяўшы ў рукі аўчыну, Лейба адразу ведае, куды яна пойдзе — на крыссе, на плечы ці на рукавы. Ірыне гэта цяжка. А Лейба спяваў. У яго песнях без слоў чуваць былі і гора, і жарт, і насмешка. Аднак напевы часта абрываліся. Гэта здаралася тады, калі Лейба ўспамінаў, што працуе не на сваім месцы.

Яму падабалася вандроўнае жыццё: прывык да яго. Працуючы ў адной хаце, ён цешыў сябе думкай, што заў-

тра будзе ў другой. Там будзе іншая сям'я, іншыя людзі, і хоць усе вясковыя сем'і па свайму быту падобны адна на адну, аднак Лейба ведаў, што між імі ёсць вялікая розніца. Асабліва адрозніваюцца сем'і багатых сялян. У іх пануюць зайздрасць, скупасць, недавер'е. Прыглядаючыся да людзей, Лейба ўведаў, што скупасці ўсюды багата, а шчодрасць, калі і ёсць, то паказная, толькі для чужых вачэй, і гэта асабліва прыкметна ў шляхты.

А Ірына сачыла за Лейбавай працай. Яна старалася пераняць тое, чаго сама не ведала або рабіла не гэтак. Прытым яна параўноўвала свае метады з метадамі Лейбы і вырашала, якія варта ўзяць ад яго, якія не варта.

Вечарам Лейба ішоў дадому з пустым жыватом, затое з поўнай галавой. Яго розум ліхаманкава працаваў. Нядрэнна было б так жыць і працаваць на адным месцы. Прыйсці дамоў на гатовую вячэру і павячэраць разам са сваёй сям'ёй. Так ён думаў, калі быў маладым, але гэта прайшло і сцёрлася, як пыл... Цяпер зноў з'явілася гэтая думка.

Аднак дзень прайшоў марна, без карысці...

Ну, хто зразумее жыццё! Усё ішло ціха, спакойна, раптам цябе пачынаюць круціць, варочаць на розныя бакі і ў выніку можна забыць, на якім баку ты ляжаў спачатку.

Чорт яго ведае, а мо і зусім не ляжаў, а ўвесь час круціўся!

— Слухай, Сора,— сказаў Лейба жонцы.— Заўтра я забяру з сабой Танеля.

— Бяры... Што яму дома рабіць, а там ён табе дапаможа.

— Уга! Яшчэ як! У мяне цяпер хопіць працы надоўга!

Сказаўшы так жонцы пра Танеля, Лейба супакоіўся. Яму здалося, што гэтага і не хапала, што толькі да гэтага яму і трэба было дадумацца, каб супакоіць сябе. Танель спрытна шые: ён яшчэ не сляпы. Удалы хлопец! Добры будзе з яго кравец. Ён заменіць Лейбу, калі той састарыцца.

Ад гэтай думкі ў Лейбы стала цёпла на душы. Ён памаліўся богу і лёг спаць без ніякіх турбот, як чалавек, які аддаў усе даўгі.

Але толькі ён пачаў засынаць, як нешта кальнула ў яго сэрца. Ён расплюшчыў вочы і адчуў, што ў гэтую ж хвіліну сон ад яго ўцёк немаведама куды.

І Танель тут ні пры чым, ці бяры яго з сабою, ці не бяры.

Лейба павярнуўся на другі бок. Не, сну не было. Нейкая думка круцілася ў галаве, але якая? Лейба ніяк не мог злавіць і разблытаць яе. «Божа мой! — думаў Лейба,— я, здаецца, нікому не вінаваты». А тут у вачах паўсталі Ірына і майстэрня... «Ах, колькі ў іх аўчын!»

Аднекуль з'явіўся Рывін і, узняўшы руку, пальцам пагразіў Лейбу.

— Ідзі ты! — услых сказаў Лейба і лёг ніц.

«Ах, колькі аўчын у майстэрні... І працаваць там лёгка і весела...»

«Ты, Лейба, толькі крой, крой, а шыць ёсць каму».

Янкель Доўгін хітра падміргнуў Лейбу: «Я то шыю, шыю, а ты Лейба, не шыеш. Ты, Лейба, дурны. Ты і раней быў дурны, як халява».

І цяпер Лейба зразумеў усё: ён і сапраўды дурны! Нашто браць з сабою Танеля. Адкуль Лейба ведае, што ў вёсках многа працы? Мо хутка ў майстэрню знясуць аўчыны з усяе воласці.

Эх, і хітры ж Буткевіч... Ён цяпер прадстаўнік улады, ого! І размаўляе з Лейбам Яхнічам па важнай дзяржаўнай справе...

Назаўтра раніцою Лейба раненька разбудзіў Танеля.

Мыйся! — крыкнуў ён.— Не з кубка, а з ночваў! Налі, Сора, у ночвы вады!

Танель недаўменна глядзеў на бацьку.

— Каму кажу? З ночваў мыйся! Сарочку скінь. Ды з мылам, з мылам! Вушы мый — загадваў Лейба,— а цяпер вымый шыю і за вушамі!

Сора сабрала снеданне. Яна стаяла ля Танеля і глядзела на яго сумнымі вачамі.

— Ты, Лейба глядзі, каб там яго не крыўдзілі. Ён у нас яшчэ не такі вялікі...

— Добра.— Лейба хітра ўсміхнуўся.

— Ды пільнуй, каб там ён, барані божа, не еў трафнога... Божа мой, з такіх гадоў, і ўжо дзіця ў хамут...

— Добра, Сора, памаўчы.

Паснедаўшы, Лейба апрануўся і загадаў Танелю, каб ён надзеў яго новы лапсардак.

— Ён жа мне вялікі, татэ...

— Нічога. Затое новы!

Сора глядзела на зборы мужа, не разумеючы, што ён прыдумвае.

— Ну, цяпер пайшлі, мой сын.

Праз некалькі хвілін Лейба і Танель стаялі ў майстэрні ля Ірыны.

— Ну, таварыш загадчык ці старшыня, не ведаю,— сказаў Лейба,— пакуль што вазьмі майго сына Танеля. Яму, хваліць бога, шаснаццаты год. Ён умее шыць. Глядзі, каб не гуляў. А калі не будзе слухаць, то ты цяпер у яго і бацька і маці. Бывайце здаровенькі!

Ён выйшаў на двор і з палёгкаю адчуў, што на гэты раз ён сапраўды нікому нічога не вінаваты.

## 31

Калі Раман Кругленя выйшаў з хаты, на дварэ ўжо шарэла. На вёсцы чуліся ранішнія гукі: недзе скрыпнуў калодзежны журавель, бразнулі хатнія дзверы. У адным канцы гаўкнуў Патапчыкаў сабака, і нібы ў адказ яму ў другім канцы загаласілі дзікім голасам вароты на ржавых завесах у гумне Мікалая Леўчыка.

Які ні раззлаваны быў сёння Раман, але, пачуўшы гэтыя гукі, усміхнуўся. «Сваты перагуквацца пачалі».

Каб у гэты час быў каля Рамана хто староннi, то ён пажартаваў бы з сватоў і злосць яго прайшла б. Але нікога не было і якраз жа ў тую хвіліну пачуў ён на суседнім двары голас Апанаса — сына суседкі, удавы Змітрачыхі. Апанас напяваў нешта вясёлае. «От табе і без бацькі выгадаваўся, а мой лайдак спіць і не шманае, што раніцай у гаспадарцы трэба нешта зрабіць!»

Уся яго сённяшняя злосць на гэтым і грунтавалася. Старэйшы сын Сафрон вярнуўся дадому пад раніцу. Раман ўжо выспаўся, але падымацца з пасцелі не хацеў: перад святочным днём можна і лішнюю гадзіну паляжаць. Ён чуў, як Сафрон адчыніў дзверы і зайшоў у хату, напяваючы нейкую песню. Раман яе не вельмі зразумеў, бо недачуваў, але ў песні было нешта пра папоў і кулакоў. Пра кулакоў, то ліха іх бяры, так ім і трэба, але пра папоў! Гэта Раману было непрыемна. Хацеў нават адгукнуцца, але Сафрон лёг, не запальваючы агню, і адразу захроп на ўсе застаўкі.

«Бачыш ты, якое свавольства! Ужо бацька для цябе ніхто. Каб ты, лайдак, устаў ды памалаціў ад першых

пеўняў да самага святла, а потым пасля снедання пайшоў на цэлы дзень у панскі лес, то не панесла б цябе нячыстая сіла на цэлую ноч... Бывала, бацька не пашкадуе, што ты стаміўся, што ты не выспаўся. Узгоніць з цёплай пасцелі і круці цэпам цэлую ноч... А табе цяпер што? Выгада, як панскаму бычку. Тры пасады за дзень змалоціш, а потым гізуеш, задраўшы хвост, цэлую ноч».

З гэтымі думкамі Раман рушыў да адрыны. Трэба было даць каню сена, укінуць каровам трасянкі. Ён чуў, што на сваім двары таксама да адрыны ідзе Змітрачышын Апанас. «Гаспадарлівы хлопец, нічога не скажаш,— пазайздросціў Раман,— яму некалі валачыцца па гульнях, ведама, сірата». Раману нават крыўдна стала, што яго сын горшы за іншых. Раптам ён пачуў, што Апанас спявае тую самую песню, якую спяваў і Сафрон, калі прыйшоў дадому. Пра папоў і пра кулакоў. «Ліха вашай матары! — ледзь не крыкнуў Раман,— што гэта за песні ў вас цяпер, і хто вас вучыць!»

Управіўшыся са скацінай, Раман хутчэй пайшоў у хату. Ён меў цвёрды намер падняць Сафрона з ложка ды ўзяцца за яго з усіх бакоў.

Як толькі ён увайшоў у хату, то адразу ўбачыў, што яго меншы сын Мікіта сядзіць у мыцельніку і старанна скрабе бульбу. «От з гэтага чалавек будзе», — з замілаваннем падумаў Раман. І каб выказаць нечым сваю ўвагу да сына, падышоў да яго і пагладзіў па галаве. Мікіта збянтэжыўся: па-першае, ён такой ласкі не заслужыў, па-другое, адчуваў сябе не вельмі ўжо малым. Але Раман не заўважыў гэтага.

— Маладзец, Мікіта,— сказаў ён,— трэба дапамагаць маме. Вунь, бачыш! — ён паказаў на ложак, дзе спаў Сафрон.— Той валацуга спіць і вухам не паварушыць, што трэба бацьку дапамагчы. А ты ў мяне малайцом! Я ўжо, як выберуся ў мястэчка, то гасцінца табе абавязкова прывязу.

Такі паварот справы Мікіту падабаўся. Ён зразумеў, што цяпер толькі і час выкарыстаць бацькоўскі настрой, бо такі лагодны ён бывае вельмі рэдка.

— Мне, тата, каб сшыткаў...— працягла сказаў ён з такім выглядам, нібы ад сшыткаў залежаў увесь яго лёс.

— Будуць і сшыткі, вядома.

— І алоўкаў.

— Ну гэта само сабой. А ад сябе я табе цукерак прывязу.

Мікіта быў здаволены. Маці ўхмылялася, але нічога не сказала. Беднага Мікіту яна падняла з пасцелі трапкачамі.

Раман крыху пастаяў, потым рашуча падышоў да ложка, узяў Сафрона за кучаравую чупрыну і пачаў тузаць. Той прачнуўся не адразу, мыляў губамі і ўсё нацягваў коўдру на галаву.

— Няма чаго мыляць, спаць ты сёння не будзеш. Бог чалавеку для сну дае ноч, а для працы дзень.

Сафрон пацёр кулакамі вочы, пазяхнуў і сеў.

— Ты што ж думаеш, сынок,— уедліва сказаў Раман,— што бацька цябе адзяваць ды абуваць пачне?

— Чаму, тата? Хіба я сам не ўмею?

— І паны ўмелі, але самі не абуваліся і не адзяваліся. У іх былі лёкаі.

— То хіба ж я пан? — засмяяўся Сафрон і з прагнасцю пазяхнуў, закрыўшы далонню рот.

— Ого! — здзівіўся Раман.— Табе нават весела! А чаму б табе старога бацьку не падмяніць! Няхай бы ён, стары, пакачаўся да снедання на печы, а ты б каля скаціны ўправіўся.

— То чаму, тата, мяне не разбудзіў? — зусім шчыра запытаў Сафрон і пачаў абувацца.

— Як жа цябе, валацугу, будзіць, калі ты нядаўна ў хату ўваліўся! Вунь Апанас! Ён не валочыцца, дык яго і будзіць не трэба. Я толькі выйшаў на двор, а ён ужо ў адрыну ідзе.

— Ну то і яго маці разбудзіла, бо мы разам прыйшлі.

— Разам! — здзівіўся Раман.— А дзе ж гэта вы былі?

— У Ярэмічах.

— Дык, значыцца, вас там і вучаць такія харошыя песні спяваць.

Сафрон засмяяўся.

— Ах ты, гіцаль, прайдзісвет ты! — узʼеўся Раман.— Ты мне бацюшку не руш, чуеш? Я табе пыцкі набʼю і з хаты выганю...

— Я яго не чапаю, тата.

— Цыц, смаркач.

І тут, можа б, Раман даў волю свайму гневу, каб на яго не крыкнула жонка.

— Сціхні ты! Нехта ў хату ідзе.

Раман гнеўна зірнуў на сына. Дзверы адчыніліся, і ў хату зайшоў Герасіменя Сідар.

Гэта быў малады мужчына-здаравяк. Заўсёды вясёлы і бадзёры, ён не забываў хлапечыя гады, таму часта бываў сярод моладзі. Яго загальцы выбралі членам сельскага савета і не памыліліся. Службовыя справы ён выконваў вельмі старанна, таму часта адлучаўся з дому. Абы сеў у нядзелю, каб пагаліцца, жонка адразу і ўскінецца.

— Пасаромеўся б, чалавек. Ужо дзяцей маеш, а ўсё чапурышся. Сёння зноў на вечарынку павалачэшся.

— Не на вечарынку, а ў сельсавет.

— Ведаю я твой сельсавет. А нашто ж ты голішся?

— Дурная. Я ж вусы пакідаю, каб пазнавалі, што ў мяне ўжо ты ёсць,— ён усміхаўся і, нягледзячы на жончыну звягню, ішоў туды, куды трэба.

Зайшоўшы да Рамана, ён спыніўся ля парога і прывітаўся.

— Ну, чаго там у мыцельніку стаў, праходзь сюды,— злосна сказаў яму Раман.

— Эге! Мабыць, ты сёння не з тае нагі ўстаў?

— Не твая справа, хоць ты і начальства... Сядай. Нешта ж ты рана сёння пачаў свой абход,— дадаў Раман, перамяніўшы тон.

— Калі трэба, дык трэба, такая мая пасада.

— А чаркі не чакай. Чаркі я табе не пастаўлю, я не Патапчык.

— А я і не чакаю! Ну, нейкая муха цябе сёння ўкусіла! І Патапчыкам ты мяне не папракай, бо ты не Патапчык, а я не Ткачэня.

Раман адразу падабрэў.

— Ну, то кажы, якая там у цябе служба.

— Служба такая, Рамане, што сёння трэба на сход у Ярэмічы ісці.

— На які сход? — зацікавіўся Раман і сеў насупраць Сідара.

— Гм... Вядома на які, на сельсавецкі...— Сідар гаварыў паважна і згортваў цыгарку.— Дай жа ты мне паперы людскае.

— Сваю май, ты начальства. Ты мне пра сход скажы, бо не пайду. У мяне ногі не сабачыя.

— Пойдзеш,— упэўнена сказаў Сідар. Пойдзеш,— паўтарыў ён.— Сход такі, Рамане, што нельга неісці. Не ўсе на яго і запрашаюцца.

— Ды не цягні ты, як ката за хвост, кажы хутчэй. От бо праява.

— Які ж ты нецярплівы, Рамане! Перш за ўсё краму будуць у Ярэмічах адкрываць, такую кааперацыю, як у воласці. Зразумеў?

— Я то зразумеў, але хто ж на яе грошы дасць?

— От аб гэтым і сход... Ну і яшчэ пра зямлю.

— Як гэта пра зямлю?

— Вядома, што панская зямля няправільна была размеркавана. Значыць, вясной трэба яе перадзяліць нанова. А ў тых, у каго і сваё залішняе, адрэзаць.

— О-о-о! Разумна! — Раман захваляваўся.— Пайду!

— От бачыш! А казаў не пойдзеш.

— Эге ж! Скажы ж ты мне: адкуль гэта пайшло? Няўжо наш Ткачэня прыдумаў?

— Які там Ткачэня! Антось Галамака ўсім там кіруе.

— А кім жа ён цяпер?

— Нікім. Ён камуніст, Рамане, і як відаць, то і ў воласці гэтым зацікавіліся.

— Малайцом Галамака! Галава! Чуеш, дурань, чым разумныя людзі займаюцца? — звярнуўся ён да Сафрона.

— Чую, тата. Я ўжо даўно пра гэта ведаю.

— Ад каго ж ты дачуўся? — іранічна запытаў Раман.

— Ад самаго Антося, тата. Не адзін ён узняў гэта.

— Можа, і ты яму дапамагаў?

— Можа, і я.

Раман не палічыў патрэбным размаўляць з блазнюком.

— Дык, кажаш, не ўсе запрашаюцца,— звярнуўся ён да Сідара.— Ну дык каго ж ты запрашаеш?

— Каго ж! Вядома, лепшых людзей! У мяне і спіс ёсць. От цябе, Алеся Марыніча, але ён не пойдзе, бо жонкі дома няма, Калачыка Сцяпана, Канцавога Марку, каваля Халімона, Радзівоніху і Змітрачыху.

— Радзівоніху, то яно можна... Гэтая баба хоць на-

гаворыць чаго трэба і чаго не трэба, а Змітрачыха што? Яна ж і рота там не адкрые.

— Апанас пойдзе за яе.

— Апанас? — здзівіўся Раман.— Што ён яшчэ ведае такі блазнюк!

— Не кажы, Рамане. Маладыя шмат чаго ведаюць больш за нас.

— То тады ўжо няхай Сафрон ідзе замест мяне,— пакрыўдзіўся Раман.

— І Сафрону можна. Гэта як ён хоча.

Раман адвярнуўся. «Ты і сам блазнюк,— хацеў сказаць ён Сідару.— Хоць вусы і гадуеш, а ў галаве яшчэ вецер гуляе. Толькі табе Лявоніху і скакаць на вечарынках, калі ты мяне з блазнюкамі раўнуеш». Але ў галаве яго з'явілася такое пытанне, што ён забыў крыўду.

— А Патапчыка чаго ж мінаеш? Не загадваў яшчэ яму?

— Не, Рамане. І не буду.

— То мо Мікалая Леўчыка не прапусціў!

— Прапусціў. А ці бачыў ты, Рамане, на свірне ў Леўчыка...— Сідар засмяяўся.— Замок... Патапчыкаў... Велічынёю з рэшата!..

— А каб ты скіс, Сідар,— не вытрымаў Раман і таксама зайшоўся смехам,— кажаш, з рэшата... А каб ты пачуў, Сідар, як сёння яны перагукваліся. Чую: брахнуў Патапчыкаў сабака, а потым як загалосяць Леўчыкавы вароты! Гэта ж такая скнара! Шкадуе драбок сала, каб завесы памазаць.

— Раман! Ты нічога не ведаеш! — жыва адгукнуўся Сідар.— Ён назнарок не мажа дзеля бандытаў і зладзеяў. Дык от ён і думае: як зладзеі пачнуць адчыняць вароты, а яны як залямантуюць, дык уся вёска і збяжыцца.

Раман затросся ад смеху. Смяяліся Сафрон і Мікіта, нават Раманіха ля печы.

— Няхай ты праваліся, Сідар,— сказаў, адсопшыся, Раман.— Такое прыдумаць.

— Гэта замок так цесна замкнуў гэтых сватоў, што абы вечар, дык гляджу, Леўчык ужо і пасунуўся да Патапчыка.

— Дзе там замок, Раман! А ты не бачыў, які Леўчык дамоў ідзе. Заўсёды пад чаркай. Звязаліся чорт з

д'яблам. Тут нешта ёсць. Не іначай, нечым карыстаецца Патапчык ад Леўчыка. Дарма ён яго паіць не будзе.

— Наша справа малая... Дык, значыць, Алесь не пойдзе?

— Не пойдзе. Жонка яго на хутар да сястры пайшла, дык ён адзін дома.

— Гм. А яму трэба было б ісці. Чалавек ён не абыякі. Хоць мала гаворыць, але без толку не скажа.

— Зайду я да яго. Дык ты збірайся, Рамане,— сказаў Сідар устаючы.

— Паснедаю і пайду. А дзе ж Сафрон?

— Напэўна, да Апанаса пайшоў,— зазначыў Сідар.— У іх, у маладых, Рамане, свой клопат.

— Ведаем мы іх клопат: абы згуляць ды звіляць.

— Ну не, Рамане! У папа дом адабраць хочуць пад школу, ці што.

Раман вылупіў вочы і доўга глядзеў на Сідара.

— От як...— сказаў ён, і яму адразу стаў зразумелы сэнс тае песні, якую спявалі Сафрон і Апанас.

## 32

У пятніцу вечарам Алтар прыйшоў дамоў у вельмі добрым настроі.

Лейка ў гэты дзень нешта закволілася і не была ў краме. Але Алтару было чым пахваліцца: тую трубку саціну, што ніхто не хацеў браць і праз які Лейка не раз грызла Алтара, ён прадаў і выгадна: не на мільёны, а на фунты.

За сталом сядзеў Абрам. Ён не ўзняў галавы, калі Алтар зайшоў у хату, але і Алтар не заўважыў яго, а пайшоў проста да жонкі.

Першыя грозныя ноткі ў голасе Лейкі адразу патухлі, калі загаварыў Алтар.

Лейка сказала, што ёй крыху ўжо лягчэй, і запыталася ў Алтара, ці не хоча ён перакусіць, пакуль збярэцца сям'я на вячэру. Алтар з радасцю згадзіўся. «Даўно ўжо тое было, калі ты мяне падкармлівала!..»

Ён сеў за стол і локцем адсунуў Абрамавы сшыткі і кнігі, што вельмі здзівіла Абрама, бо па прыкладу старэйшых ён не вельмі паважаў бацьку і ў другі раз, напэўна, агрызнуўся б, але цяпер, глянуўшы на маці, зразумеў, што трэба маўчаць.

Алтар у чаканні кавы адламаў кавалачак хлеба, пасаліў і пачаў жаваць.

Лейка тым часам прынесла яму кубачак кавы і стаяла ля стала ўвесь час, пакуль Алтар еў. А ён не спяшаўся: «Так і павінна быць,— разважаў ён,— я ваш бацька, галава ваша і розум. Вы без мяне пагінеце, як мухі ўвосень».

Раззлаваны Абрам злажыў свае кніжкі і сшыткі ў сумку.

Набліжаўся святочны вечар перад суботай: печ ужо была выпалена. Праз некаторы час пачала збірацца дадому ўся сям'я. Першай з'явілася Сіма. Яе мурлыканне было чуваць яшчэ на ганку, потым у калідоры. У хаце яна змоўкла: бацька за сталом з кубкам кавы, маці над ім, як слуп,— гэта здзівіла Сіму. Яна прайшла ў спальню, і адтуль таксама пачулася яе мурлыканне.

Потым з млына прыйшоў Грэйнім. Ён ужо быў падстрыжаны, паголены, па-святочнаму бадзёры, але абсыпаны мучным пылам — як звычайна, дзелавы. Довід і Мотэль затрымаліся на службе, але ім гэта можна было дараваць. Асабліва Мотэлю. Як ні кажы, а чалавек на дзяржаўнай службе, а служба, як кажуць, не родная маці, па галаве не гладзіць.

Сям'я на чале з Алтарам сабралася ў сталовай. Сёння Алтар адчуў сябе гаспадаром у хаце. Так яно і павінна быць. Ён сядзеў, важна задраўшы галаву, як гусак. «Штурхайце мяне, лайце мяне, клюйце старога бацьку, але я вас трымаю на свеце. Я! Я, калі захачу, то вы ў мяне будзеце на павадку хадзіць! Я яшчэ вазьму вас у свае рукі так, што вы будзеце пішчаць. О-о! Вы яшчэ не ведаеце Алтара Сапуна... Ён сагнуўся і маўчыць сабе. А калі захоча, то прыцісне вас так, што ўсім вам моташна стане!»

Лейка таксама маўчала і думала: «Як яму, гэтай панчосе, удалося прадаць гнілы сацін! Не іначай ашуквае. У нядзелю прыйдзецца дасканала праверыць. Няхай толькі ашукаў! Ох, і не дарую я яму гэтага! Ужо на што іншае, а на тое, каб жонку ашукаць, то ў яго хітрасці хапае». Яна выпытальна глядзела на Алтара, але ў таго на твары нічога не было відаць. «Ці ён рады, што сацін прадаў, ці што мяне ашукаў?»

Выйшла са спальні Сіма. Яе прыгожы тварык быў нечым незадаволены. Чорныя вочы гнеўна блішчалі. Яна

села на канапу з кнігай у руках, але, мабыць, ёй не хацелася чытаць.

— Мамэ! — сказала яна.— Вы не чулі, што Ірына Сідаровіч арганізавала швачак у арцель?

— Якая Ірына? — запытала Лея, сеўшы на крэсла. Яна ўжо ведала, што Рывін і Кічын арганізавалі два кравецкіх таварыствы. Але ж гэта краўцы ўсім вядомыя і ўсімі паважаныя, адзін жаночы, другі мужчынскі. А пра Ірыну Сідаровіч яна не чула.

— Якая Ірына! — здзівілася Сіма.— Дачка таго Мацея з Крапівінскай вуліцы, што кавалём быў,— Сіме было дзіўна, што маці забыла Ірыну, бо некалькі гадоў назад Сіма вучылася разам з ёю і яны сябравалі. Раней Ірына іншы раз заходзіла да Сімы, а Сіма да яе.

— Тая белая Мацеева дачка! — успомніла Лея і засмяялася. Грузнае цела яе дрыжала ад смеху, які ўрэшце перайшоў у кашаль. Алтар старанна дапамагаў жонцы. Ён аж войкаў у перапынках між смехам і кашлем і хапаўся за жывот.

— Тая белая Мацеева дачка? — пытаў Алтар, і смех пачынаўся зноў.

— Яна арганізавала арцель — смех выбухаў з новай сілай.

Даўно не было так весела ў Алтаравым доме!

Калі, нарэшце, усе насмяяліся ўволю, Лейка выцерла на вачах слёзы.

— А хто ж панясе да яе заказы?

— Заказы? — узрадаваўся Алтар.— Закажам гарнітур нашай Сіме! — і заліўся смехам ад хітрай іроніі. Сіма спачатку гнеўна зірнула на бацьку, потым зразумела жарт.

Вясёласць пачалася зноў.

— І паліто нашаму Грэйніму.

— Ого! Мы іх завалім працай!

Калі прайшлі жарты і смех, Грэйнім сказаў:

— А заказаў то ў іх хопіць... Хто дае заказы Рывіну ды Кічыну? Местачковая інтэлігенцыя. А колькі яе? А чым яны плацяць? Мільёнамі. Засцянковая шляхта выпшыкалася. А ў арцель заказваюць і кажухі, і кажушкі, і світкі, і світачкі...

Грэйнім не скончыў. На яго глядзелі тры пары такіх злосных вачэй, што ён змоўк і зірнуў на падлогу.

— Мо ты стаў адвакатам у арцелі? Мо Мацеева

дачка цябе наняла, і ты пойдзеш па мястэчку крычаць, каб неслі ў арцель шыць? — яхідна запытала Лейка ў сына.

— Ён хоча, каб Рывін трымаў мой гарнітур не шытым паўгода! — заплакала Сіма.

— Ён гэтага хоча! — закрычаў Алтар.— Хіба Рывін не пачуе, што Грэйнім брэша, што выхваляе арцель!

— Зусім шалёныя! — паспрабаваў агрызнуцца Грэйнім, але ў гэтую хвіліну прыйшоў Мотэль. Сумны і задуменны, ён сеў ля грубкі на табурэтцы і расшпіліў гузікі свайго паліто. Потым зняў мандаліну і пачаў перабіраць струны. Ціхія кволыя гукі плылі з-пад яго пальцаў адзін за адным. Але мелодыі яшчэ не было. Яна загучала нечакана для ўсіх, ціхая, сумная, але не безнадзейная.

Ігнась са свайго пакоя прасунуў галаву ў дзверы і таксама заслухаўся. Ён ужо «разумеў» музыку: Мотэль іграў вальс «Асеннія летуценні».

Час вячэры набліжаўся, але Довіда яшчэ не было. У будні вечар яго б не чакалі, але гэта быў вечар перад суботай.

Мотэль маўчаў, і ўсе маўчалі. У хаце павялося так, што, прыйшоўшы з выканкома, Мотэль расказваў розныя навіны. Няўжо іх сёння не было? А мо навіны такія важныя, што спачатку трэба падумаць, а тады расказваць. А мо зусім трэба маўчаць, бо разумны чалавек ведае, што можна сказаць, а чаго няможна. А Мотэль, безумоўна, чалавек разумны. І вось Лейка зрабіла тактычны падыход да гэтай важнай справы.

— Ну, Мотэль, ты, мабыць, сёння замарыўся.

— Не, мамэ, у мяне не так многа работы... Але з панядзелка ў мяне работы будзе вельмі многа.— Усе хатнія павярнуліся ў яго бок... Ага! От і навіна! Таму Мотэль і маўчаў, таму і музыка яго сёння была такая сумная.

— Табе, мабыць, даручылі яшчэ адну працу?

— Старшыня выканкома Буткевіч сёння выклікаў мяне ў свой кабінет. Ён мне сказаў: «Таварыш Сапун...— Алтар мнагазначна міргнуў Леі.— Таварыш Сапун, я прашу вас...— Алтар узняў угару палец,— прыняць удзел у працы нашай кравецкай арцелі».

Ва ўсіх адкрыліся раты, і Алтараў палец апусціўся ўніз.

— «Вы, таварыш Сапун, прывядзіце там у парадак рахункаводства...» Потым ён мне сказаў: «Таварыш Сапун, мне здаецца, што вы сумленны чалавек, а што вы добры работнік, то гэта я даўно ведаю.— Алтараў палец зноў узняўся ўгару.— Мне думаецца, што вам пара ўжо даручыць іншую работу, больш адказную, чым пішучая машынка. Арцель з'явіцца для вас парогам. Навядзіце там парадак. На тыдзень два дні вы будзеце працаваць там, чатыры ў выканкоме. За работу ў арцелі вы будзеце атрымліваць плату асобна». Я яму сказаў, што я згодзен, бо я павінен падпарадкавацца свайму начальству. Ён сказаў: «Ну, вось і добра. Бачыце, таварыш Сапун, у нас не хапае работнікаў, і мы павінны працаваць за дваіх і за траіх. А потым мы знойдзем сталага рахункавода ў арцель, а вам я дам іншую пасаду тут у выканкоме».

Навіна была незвычайная. Ніхто з хатніх не ведаў, ці радавацца, ці тужыць. Сам Мотэль таксама не ведаў гэтага. Таму ўсе і маўчалі. Алтар зазіраў у рот Мотэля. Ён чакаў, што Мотэль скажа яшчэ нешта, бо ён быў мастак на нечаканасці: самае галоўнае паведаміць у канцы. Але Мотэль маўчаў, бо выказаў усё.

Лейка завойкала і ўхапілася рукамі за свой левы бок. Алтар і Сіма ўзялі яе пад рукі і павялі ў спальню. Алтар, вярнуўшыся, сказаў:

— Маці хворая на сэрца, і не трэба пры ёй гаварыць таго, чаго не трэба.

Мотэль адчуў, што яго хатні аўтарытэт стаў значна меншы.

Грэйнім ухмыляўся і барабаніў пальцамі па стале: музычная жылка была і ў яго.

Але ён думаў, што Мотэлю не пашанцавала. І ён зрабіў вялікае глупства, расказаўшы аб усім дома... Дзяржаўная служба пераязджае ў арцель Ірыны Сідаровіч. Праз хвіліну з'явіўся і Довід. Ён мыўся голы да пояса, і прыемна было глядзець на яго здаровае цела, абвітае дужымі цяглiцамі. Ён дражніў свайго гаспадара Клявіна ўдала, але без злосці, толькі для вясёласці, якая і забушавала ў хаце з яго прыходам.

Ігнась і ўсе хлопцы абкружылі яго, аблівалі вадой, мылілі яму спіну і плечы і рагаталі з яго расказаў.

Потым Алтарава сям'я села за стол. Святочная вячэра праходзіла ціха, без лішніх слоў і гукаў, без смеху.

Урачыста гарэлі свечы ў медных падсвечніках. Ад гарачых страў ішоў такі смачны пах, што ў бедных кватарантаў, якія ўжо з'елі свае запасы, варочаліся і нылі пустыя жываты.

К канцу вячэры прыйшоў Лявон Богуш.

— Сёння між мястэчкам і вёскай Залужжа абрабавана пошта. Паштальён забіты,— паведаміў ён. Гэта была важная і страшная навіна. Банда набліжалася да мястэчка. Ад Залужжа да мястэчка было толькі восем вёрст.

## 33

Калі Сідар выйшаў з хаты, Алесь гатовы быў бегчы даганяць Арыну. Ведаў, што далёка яна не адышла, бо калі Сідар прыйшоў загадваць на сход, то яна толькі выйшла з хаты. Каб Сідар адразу сказаў, чаго прыйшоў, то Алесь дагнаў бы яе і вярнуў, але балбатун Сідар мінут дзесяць, калі не больш, гаварыў пра рознае глупства, пра Патапчыка і Мікалая Леўчыка, пераказаў усе загальскія і ярэміцкія плёткі, а тады ўжо сказаў, што прыйшоў загадваць на сход у Ярэмічы. Арына на гэты час адмахала болей за вярсту. Дзе цяпер яе дагоніш. Хіба толькі на кані. Алесь спачатку і ўхапіўся за гэтую думку, але адумаўся. Пашкадаваў Гнядога. Хапае яму работы і без такой дурніцы. Аднак уседзець на месцы не мог. Растрывожыўся і ўзлаваўся і на Арыну, і на Сідара. Трэба ж было надумацца ёй акурат сёння ісці да сястры! Не найшла іншага дня. «Не зліняла яна там, твая сястра,— думаў ён пра Арыну,— ніякі чорт яе не схапіў. Няхай бы яна сама прыйшла ды даведалася, як ты жывеш. Дык не, ты бяжы, бо гэтыя хутаранцы, як звяры, у лесе жывуць, толькі пра сябе і думаюць».

Хутаранцаў Алесь не любіў. Хоць швагер яго быў і небагаты чалавек, і не шэльма, не злодзей, але і на яго Алесь пазіраў коса. «Які чорт гнаў цябе з вёскі на хутар, у лес? Чаго ты там шукаў у той пушчы? — разважаў ён.— Добры чалавек не будзе адзін жыць у лесе, шукаць суседства з ваўкамі, а ты шукаў. Ну дык і сядзі там, як звер. І не трэба было Арыне ісці туды ў адведкі». Зло распальвалася ў ім усё больш. Асабліва злаваўся на Сідара. «Бабскае трапло! Нездарма па вячорках з маладымі ходзіць. Сталы чалавек на ігрышча не пойдзе.

А яшчэ вусы гадуе, нібы і ён мужчына! Трэба ж было такога пусталыгу ў сельсавет выбраць! Каб быў чалавек, то зайшоў бы ў хату і адразу сказаў: так і так, Алесь, трэба табе на сход ісці. Арына тады яшчэ з вёскі не выйшла. Выскачыў бы на вуліцу ды гукнуў. А ён вясковыя плёткі разносіць з хаты ў хату. Член!»

І да таго не сядзелася Алесю на месцы, што ён некалькі разоў выходзіў на вуліцу, вяртаўся назад і хадзіў па хаце, як непрыкаяны. У Ярэмічы яго проста цягнула. Хату кінуў бы ды пабег, але як кінеш. Арына наказала свіней пакарміць, трэба дагледзець скаціну. Ды і Волька адна ў хаце баіцца. А сход раней, чым к вечару, не скончыцца. От і рабі, што хочаш...

Алесю хацелася быць на сходзе. Не так цікавіла кааперацыя, як зямля. Усё жыццё думаў пра яе. Хоць бы дзесяцінку прыдбаць! Свае так мала, што рук прыкласці не да чаго. Кулакі, якія сваёй зямлі мелі больш, чым трэба, яшчэ і панскай нахапалі. Па пяць парабкаў кожнае лета трымаюць, ды яшчэ на жніва і сенакос работнікаў наймаюць. Даўно пара абрэзку ў іх зрабіць. Паразумнелі людзі, дадумаліся ўрэшце да гэтага, а ты праз жончыну дурнасць у хаце сядзі...

Алесь думаў, што сёння на сходзе адразу ж і раздзеляць тую зямлю, якую абрэжуць у кулакоў. А ён на сход не пайшоў, то пра яго могуць забыць. Хто там пра яго ўспомніць! Кожны хутчэй пра сябе падумае. Вядома, свая кашуля бліжэй да цела. Хіба мо Сцяпан Калачык — добрая душа слова скажа. Але што Калачык! Ён сам за сябе не пастаіць... А калі і ўспомніць нехта, то, можа, дадуць нейкі кавалачак балота або пяску... Адным словам, Алесь зусім занудзіўся і вырашыў, што тут нічога не зробіш. Такі яго лёс... Не шанцуе, ды годзе! Вось і Патапчык... Успамін аб ім пранізаў Алесева сэрца, аж у вачах цёмна стала... Ніхто з загальцаў не звязаўся з гэтым бандытам, а яго нібы чорт прывязаў да Патапчыка ў тую жудасную ноч каля Заблужскага млына...

Алесь сеў каля стала і схіліў галаву. Чорныя думкі запаланілі яго галаву. Не мілым стаў белы свет. І сход той, і зямля, і кааперацыя — усё пачало здавацца дробязным у параўнанні з тым горам, якое грызла яго сэрца...

А Волька спала на палатках салодкім дзіцячым сном.

Калі Алесь узняў галаву і ўбачыў яе прыгожы нявінны тварык, які не кранулі яшчэ ні бяда, ні гора, ні клопаты і турботы жыцця, у самога яго твар пакрысе пачаў праясняцца, і святлей станавілася на душы...

Тым часам загальскія мужчыны прыйшлі ў Ярэмічы. Уперадзе храбра крочыў Сідар Герасіменя, за ім Раман Кругленя і барадаты Канцавы Марка. Ззаду ўсіх ішла Радзівоніха.

Калі падышлі да сельсавета, Сідар, як свой тут чалавек, першы адчыніў дзверы і ўвайшоў у памяшканне. Там ужо было поўна людзей. Ярэмічане, як тутэйшыя, з'явіліся раней і занялі першыя месцы. Былі тут сяляне і з іншых вёсак і хутароў Ярэміцкага сельсавета. Загальцы прыйшлі апошнія, ім засталіся і апошнія лаўкі, якія, мабыць, пасцягалі з усіх Ярэміч.

Каля Рамана Круглені з аднаго боку прымасціўся Канцавы Марка, з другога — каваль Халімон. Сідар палез наперад, як ні кажы — начальства і не ззаду яму сядзець. Радзівоніха пастаяла, агледзелася і рашуча падалася ўслед за ім.

— От чортава баба! — упаўголасу прамовіў Канцавы Марка.— Глядзі, Раман, Радзівоніха ўперад палезла.

Раман не адказаў. Яго ўвагу прыцягнула іншае. Ён убачыў на самым перадзе свайго Сафрона і Змітрачышынага Апанаса. Яны гутарылі з маладым чалавекам у вайсковай форме. Раман здагадаўся, што гэта і ёсць той самы Антось Галамака, пра якога раніцай гаварыў Сідар. А Сідар тым часам ужо прабраўся туды і вітаўся з Галамакам. Хутка там апынулася і Радзівоніха. Галамака, як убачыў яе, то адразу аслабаніў месца. А яна і вухам не павяла, нібы так і трэба, каб бабы ўперад лезлі, села сабе на тое месца, нібы пані якая.

Раман вылаяўся і плюнуў.

— Сход!.. Назбіралі баб ды малакасосаў! — буркнуў ён незадаволена.

Сход пачаўся нечакана. Не паспеў Раман суняць сваё абурэнне, бо ён меў прывычку абурацца не толькі ўголас, але і ў думках, як пачуў незнаёмы голас.

— Пачнём сход, таварышы!

Раман узняў галаву і ўбачыў Антося Галамаку, які стаяў уперадзе каля стала. Прысутныя замоўклі.

Галамака гаварыў нядоўга, але пераканаўча. Усе і без яго ведалі, што крама ў Ярэмічах патрэбна, што да мя-

стэчка далёка, а соль, запалкі і газа неабходны кожны дзень. Ды хіба толькі гэта! А каламазь, цвікі. Усім было вядома і тое, што прыватныя гандляры бяруць цяпер утрая, карыстаючыся тым, што тавараў яшчэ не хапае. Аднак гэтыя ўсім вядомыя рэчы набылі ў вуснах Галамакі нейкае новае значэнне. Многа хто яшчэ думаў і сяк і так: крама — добра, але і без яе можна абысціся, дасюль жа абыходзіліся! Пасля Антосевай прамовы пераканаліся, што краму трэба адкрыць.

Антось растлумачыў, што карысней і выгадней купляць у кааперацыі, чым у прыватніка. Па-першае, у кааперацыі намнога танней, па-другое, грошы і хлеб пойдуць на карысць дзяржаве. Хлеб, напрыклад, патрэбны галадаючым губерням на Паваложжы, а прыватнік трымае яго ў сваіх засеках і прадае тады, калі яму выгодна.

— Я думаў, ён пра зямлю гаварыць будзе,— расчаравана шапнуў Канцавы Марка, штурхнуўшы локцем Рамана.

— Памаўчы ты, пакуль чалавек гаворыць,— злосна адказаў яму Раман.

Спрэчкі разгарэліся, калі пайшла гутарка адносна паю. Канцавы Марка не вытрымаў першы.

— Дык што ж гэта выходзіць! — выгукнуў ён.— Пай! Калі я ў Іцкі купляю, то пакрысе яму пай кладу і ў свірне маім і знаку няма, паклаў я той пай ці не. А ў кааперацыю адразу як адваліш пай, дык у засеку і дно пакажацца!

— Во! — падхапіў нехта з хутаранцаў.— Чалавек праўду сказаў!

— А калі зямлю ад кулакоў адрэжуць? — пачулася запытанне з самага пераду.

— Сёння будзем гаварыць і аб зямлі,— растлумачыў Антось.— Спачатку вырашым пытанне аб кааперацыі.

— А што яго вырашаць! — адазваўся той самы хутаранец, што падтрымаў Канцавога Марку.— Дасюль жылі!

— Жылі! — над усімі ўзнялася вялізная галава Яўхіма-Мядзведзя.— І кот жыве, і сабака жыве. Адзін на печы грэецца, другі пад плотам мерзне!

— Праўда!

— Праўду сказаў Сцешыц!

— А што яму! — выступіў нехта ў падтрымку хутаранца.— Заб'е вепра або казу, от і пай!

— А табе па вепра і ў лес не трэба хадзіць. У цябе вепры ў хляве гадуюцца,— адрэзаў Яўхім.

— А чаму ў цябе не гадуюцца?

— Мне Ёдкавай зямлі не хапіла, такія, як ты, расхапалі!

І тут нібы ўсіх прарвала. Падняўся страшэнны гармідар і шум, усе пачалі гаварыць разам, кожны хацеў выказаць сваю думку і намагаўся перакрычаць суседа.

Антось і не думаў сунімаць людзей.

Так прайшло некалькі хвілін.

І вось сярод гоману і крыку мужчын раптам пачуўся моцны жаночы голас. Раман не бачыў тае жанчыны, але голас пазнаў. Гэта крычала Радзівоніха.

— На нас, на баб звягаеце, а самі горш баб! Слова за вамі сказаць нельга!

Гоман і крык пачалі пакрысе заціхаць. Канцавы Марка зноў штурхануў Рамана і ўжо рот разявіў, сказаць нешта хацеў, але Раман зірнуў на яго так, што ён адразу супакоіўся.

— Ведаеце, якая я багатырка, між тым казала далей Радзівоніха.— Муж з вайны не прыйшоў, адна дзяцей гадую. І дастаткі мае ведаеце...

— Ведаем, ведаем! — пачуліся галасы.

Радзівоніха тым часам павярнулася тварам да сходу.

— Адна дзяцей гадую і гаспадарку сяк-так трымаю, не пракруціла я яе...

— Ведаем, малайчына баба! — выгукнуў нехта насмешліва.

— А ты не выскаляйся! — раптам выпаліла Радзівоніха, зірнуўшы ў той бок, адкуль пачуўся голас.— Каля жонкі сваёй пасмейся, а я да справы вяду.

— Ну дык і вядзі, хто табе замінае,— сказаў той жа голас, але Радзівоніха не звярнула на яго ўвагі.

— Нялёгка бабе гаспадаром быць... Я ў мястэчку мо толькі раз у месяц бываю... Солі дык ужо ўсяму Загаллю вінавата, таму шклянку, а таму дзве... А потым купіш тае солі ў Іцкі, добра калі фунт на фунт, а то яшчэ і паўтара за фунт здзярэ, аддасі даўгі, а сама зноў са шклянкай па суседзях...

— Купі, каб хапіла!

— Памаўчы, Мацейка! — галава Яўхіма зноў узнялася над усімі.— Дай удаве слова сказаць. Са старой

Галамачыхай ты не так гаварыў, як зямлю ў яе ў арэнду браў.

— Правільна, Яўхім! — выгукнула адразу некалькі галасоў.

— Гавары, Радзівоніха! — сказаў Яўхім і сеў.

— Дык от я і кажу! Падлетка не пашлеш у мястэчка, бо там яго кругом ашукаюць: і налічаць больш чым трэба, і на вазе скруцяць... А каб у Ярэмічах крама была, то я і малога не пабаялася б паслаць: збегай, сынок, мыла купі або солі...

Сход зноў пачаў ажыўляцца.

— А ў сваёй кар... карпарацыі не ашукаюць. Іцку ж вы не паставіце ў краму? — зусім сур'ёзна запытала яна.

— Га-га-га!

— Правільна!

— От табе і баба!

Цяпер ужо Раман штурхануў Канцавога Марку.

— Чуў? А ў цябе барадзішча да пупа, а розуму ў абрэз.

— Так, так, пане-браце,— азваўся каваль Халімон, які дасюль маўчаў.

— А цяпер і я скажу, таварыш! — Раман звяртаўся не да сходу, а да Галамакі Антося. Ён устаў, расшпіліў свой кажух. У памяшканні было горача, накурана, дым вісеў, як густы туман.

— І вось што я скажу, таварыш: гэтая жанчына правільна гаварыла. Яна наша, загальская, удава.

— Без цябе ведаем! — нецярпліва азваўся нехта.

— І яна хоць і жанчына, а сказала праўду. Бо яна гаспадар! Крама патрэбна! А што пра пай тут гаварылі, то яны дурні! От і наш загальскі Марка Канцавы таксама дурань!

Сход пакаціўся ад смеху.

— Такі ўжо я табе дурань! — з крыўдай у голасе, але без злосці сказаў Канцавы Марка.

— Дурань! — пацвердзіў Раман.— Ты от палічы: без запалак, солі, мыла, газы і мазі ты не абыходзішся. А жалеза на сашнік у плуг, на шыны, на восі! Каб скласці ўсе тыя лішнія фунты, што ты аддаеш у крамы, то выйшла б тры паі, а не адзін. Так я гавару, таварыш?

— Правільна! Правільна, Раман! — адказаў замест Антося сход.

Гутарак было шмат, успыхвалі сваркі, але сход адзі-

надушна ўхваліў адкрыць кааперацыю ў Ярэміцкім сельсавеце. Абралі праўленне з дзевяці чалавек. У склад яго ад Загалля ўвайшлі Раман Кругленя і Сідар Герасіменя. Праўленню даручылі скласці спіс усіх двароў і размеркаваць паі.

Перайшлі да другога пытання, самага злабадзённага і балючага: абрэзка зямлі ў кулакоў. І дарэмна Антось растлумачваў, што пытанне гэтае вырашае не толькі сход, што яго вырашаюць і ў воласці, і ў павеце, і ў самім Мінску, што сход павінен ухваліць гэтае пытанне і вызначыць тыя гаспадаркі, якія падлягаюць абрэзцы, тых гаспадароў, што ўтойваюць зямлю, сяляне патрабавалі абрэзкі зараз жа.

— Пакуль там абмяркуюць ды вырашаць, вясна прыйдзе! — крычалі самыя нецярплівыя.

— Вясной і абрэжам! — супакойваў іх Антось.

— Пакуль абрэжам, яны яе зааруць і засеюць!

— Не паспеюць!

— Паспеюць! У іх парабкі працуюць!

— Ну дык і абрэжам завораную, а засеюць, засеяную абрэжам. Людзі пачалі супакойвацца.

— Нам важна ведаць, таварышы, у каго ў першую чаргу будзем рабіць абрэзку, у каго лішняя зямля.

— Гэта ўсім вядома, Антось,— азваўся Яўхім-Мядзведзь.— Кожны вясковец ведае, колькі ў вёсцы ўчасткаў і колькі гаспадароў на адным участку жыве. Ведаем мы, па колькі панскай зямлі атрымалі малазямельныя і беззямельныя, тут фальшы няма, лішняй зямлі не знойдзеш. А каго мы не ведаем? Не ведаем мы хутаранцаў і тых вяскоўцаў, што нібы самі зямлю ў пана купілі яшчэ да падзелу яе. А ёсць і такія, што самі панскую зямлю захапілі, хто тады мог супярэчыць ім! А цяпер прыйшла пара прывесці зямельку да ладу. От вазьмі хутаранцаў: Плышэўскага, Гарастовіча, Хадыку...

— Дзічкоўскага, Андруховіча...

— Быкоўскага, Шмігельскага...

— Забелу!

Прозвішчы пасыпаліся, як гарох з развязанага мяшка.

— А нашы, ярэміцкія,— зноў азваўся Яўхім.— Вазьміце таго самага Мацейку або Антанюка...

— Ляўчэню Сяргея, Лапіцкага Змітра,— дадалі са сходу.

— А Ткачэню Хаму, брата нашага старшыні!

— Ды нешта ж няма яго на сходзе, старшыні нашага! — з вострым намёкам прамовіў нехта.

— Не ведаеш ты, дзе ён! На хутары недзе, каля самагонкі аціраецца.

— А ў Загаллі няма такіх? — звярнуўся Антось да Радзівоніхі, якая была бліжэй да яго.

— А я і не ведаю,— прызналася жанчына.— Я не ведаю, колькі ў мяне самой тае зямлі. У мужчын запытайцеся.

— Ёсць! Запішы, таварыш: Патапчык Рыгор! — сказаў Раман і падазрона зірнуў на Марку і Халімона. Што яны пра гэта думаюць. Абодва сцвярджальна кіўнулі яму.

— Больш няма?

— Няма, таварыш. Ад нас маёнтак далёка быў, панскай не нахапалі.

Радасныя і здаволеныя пачалі разыходзіцца сяляне са сходу. Са смехам абыходзілі старшыню сельсавета Цімоха Ткачэню, які, мабыць, пачуў пра сход і рашыў яго наведаць. Аднак у яго не хапіла сілы зайсці ў памяшканне. Ён стаяў на ганку, трымаючыся за слуп, каб не паваліцца. Стаяць на ўласных нагах ён не мог. Ківаючыся з боку на бок, ён мармытаў п'яным голасам:

— Так савецкую ўладу на месцах не ўмацоўваюць... Таварыш Буткевіч загадаў... усімі сіламі ўмацоўваць... савецкую ўладу... на месцах... А... а таварыш Галамака... Антось... не ўмацоўвае савецкую ўладу на месцах... Дзе таварыш Антось Галамака?.. Мы яшчэ вып'ем за ўмацаванне...

— Ну і налізаўся! — не вытрымала Радзівоніха.— Каб ты маім мужам быў, я цябе ўмацавала б!..

— Не чапай яго, жанчына,— сказаў Раман.— Ён цяпер, не раўнуючы, сам як гэты слуп, за які трымаецца.

Арына вярнулася раней, чым чакаў Алесь, аднак на сход ісці ўжо было позна. Ён выйшаў на вуліцу і ўсё паглядаў у бок Ярэміч, у надзеі, што неўзабаве адтуль будуць ісці мужчыны. Чакаць яму прыйшлося доўга, амаль да самага вечара. Пара ўжо была ісці ў адрыну даць Гнядому сена на ноч, калі нарэшце ён убачыў Герасіменю Сідара, які жыў да яго бліжэй, чым усе іншыя, хто быў на сходзе. Адразу пайшоў яму насустрач.

— Ну, як там з зямлёю, Сідар? — нецярпліва запытаў ён.— Каб ты мне раніцай адразу пра сход сказаў, то я Арыну дагнаў бы і вярнуў...

— Зямлю вясной абразаць будзем. Усіх такіх улічылі,— важна адказаў Сідар.— Гэтае пытанне ў самым Мінску вырашаецца.

— А цяпер не дзялілі яшчэ? — з палёгкаю запытаў Алесь.

— Я ж табе кажу: у Мінску вырашаецца. Абрэзваць і дзяліць вясной будзем. Галоўнае пытанне аб кааперацыі было.

— А што ж, кааперацыя добрая рэч! — ледзь не захлёбваючыся ад радасці, што без яго не падзялілі зямлю, прамовіў Алесь.

— Канешне, добрая. Праўленне выбралі.

Сідару не цярпелася, каб Алесь запытаў, каго ж выбралі ў праўленне, але ўзрадаваны Алесь зусім не цікавіўся гэтым.

— Без праўлення нельга,— абыякава адказаў ён.

— Я ж і кажу: выбралі праўленне,— паўтарыў Сідар.— Дзевяць чалавек нас. Спіс двароў зробім, пай размяркуем.

Нездагадлівы Алесь і цяпер нічога не зразумеў.

— Кажаш пай. А ці вялікі будзе той пай?

— А гэта як праўленне, мы, значыць, вырашым. Як вырашым, так яно і будзе. Нас дзевяць чалавек у праўленні, і мы будзем вырашаць.

Вось цяпер да Алеся дайшло. Ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся і запытаў, нібы нічога не зразумеў:

— А каго ж у праўленне выбралі, Сідар?

— Каго пытаешся? Ну от і мяне ад Загалля выбралі... і Рамана Кругленю... яго мне ў дапамогу... хм... Мо ў цябе, Алесь, закурыць ёсць? — раптам запытаў ён.— У Ярэмічах ушчэнт абкурыўся...

— Закуры, Сідар. Дык цябе ў праўленне выбралі... Ты цяпер вялікае начальства!

— Ну якое там вялікае! — сціпла прамовіў член сельсавета і член праўлення кааперацыі, і тут жа не вытрымаў важнага тону і зарагатаў.— Каб ты зірнуў на Цімоха Ткачэню. П'яны, як шавец! — і, зусім забыўшы, што ён вялікае начальства, пачаў расказваць пра Ткачэню.

«Зусім блазнюк,— думаў Алесь пра Сідара, ідучы

ў адрыну па сена.— Але няма чаго казаць, чалавек добры. І хадзьбы яму хапае, але не скардзіцца. Не для аднаго сябе, для ўсіх стараецца чалавек».

## 34

Аднойчы вечарам прыйшоў да Алеся Сцяпан Калачык.

Не любіў Алесь Калачыка, а за што — і сам добра не ведаў. Мо за тую беднасць, з якой ніяк не мог выскрабціся Сцяпан, а мо і за тое, што чалавек ён быў просты, праўду-матку, не сароменочыся, у вочы гаварыў.

Не хітры быў Сцяпан Калачык.

Невялікая хаціна яго стаяла на самым канцы вёскі. Ва ўсіх трох палетках яго палоскі былі крайнія. Вясковая скаціна штогод травіла яго пасевы. Не наўмысля рабілася гэта. Ну як на крайнюю палоску не заскочыць каняка або, скажам, карова, калі гоніш яе дамоў або ў поле. Тут хоць як пільнуй, не ўпільнуеш. А Калачыку шкода. І сапраўды, па адным каласку вырывай кожны дзень з аднаго месца — колькі набярэцца за лета!

І вось кожную раніцу і кожны вечар стаіць Калачык з пугаю ля свае палоскі і адганяе скаціну.

А суседзі не любяць.

— Вунь Сцяпан зноў з пугаю выйшаў!

— Што вы робіце, суседзі! — крычыць Сцяпан на сходзе.— Няўжо ж мне ў старцы ісці? Людзі вы ці нелюдзі! Як жа гэта можна, га?

Маўчаць суседзі. Той-другі нават у рукаў смяецца. Усе ведаюць, што праўду кажа Сцяпан. Але ж, які ратунак даць! Ну, загадай сваёй Рагулі, каб яна па дарозе ішла і на Калачыкаву ніву не глядзела.

— Давай выгарадзім, суседзі, прагон для скаціны! — моліцца Сцяпан на сходзе.— Адно лета пагаруем, а на дваццаць гадоў хопіць. Гэта ж выгада! Не толькі мая ніва цалейшая будзе, дык і для вас жа раскоша! Лес у нас пад бокам.

— Здурнеў ты, Сцяпан! Хто ж поле гародзіць?

— Мы загародзім, суседзі. Гэта ж не толькі мне.

— Спрадвеку ніхто поле не гарадзіў! Нідзе такога дзіва не бачылі!

Так і гаруе бедны Сцяпан: зямлі мала, сям'я — сем ратоў, кожнага накармі. Старэйшыя дзеці памерлі —

адзін работнік у хаце. Кідаецца, б'ецца Сцяпан і ў сваёй гаспадарцы ўсё пераробіць і на людзей, як вол, варочае, а ўсё роўна прыбытку ў хаце няма. Цяжка жыць на свеце, добрыя людцы!

Вось і цяпер увайшоў ён у хату і сеў ля стала. Алесь зласнавата агледзеў яго. «Скардзіцца будзе, я ведаю». Нечакана ўзбрыло ў галаву: «Чаму яго Патапчык за фурмана не возьме?.. А можа, і бярэ, ліха яго ведае».

— Алесь, дай, браце, паперы на курыдла. Павер, што іншы дзень і не закурыш ні разу: няма ў што закруціць. Усё, што было ў хаце з паперы,— пакурыў даўно.

— Адкуль у мяне тая папера, Сцяпан? Я і сам, калі хочаш ведаць, без паперы.

— Ай, Алесь, нашто таіцца! У цябе ж Ігнат вучыўся, сшыткі ды кнігі старыя, напэўна ж, паасталаліся.

— Ты б у Рыгора Патапчыка папрасіў, Сцяпан. Ён багацейшы за мяне.

Крутнуў галавою Сцяпан, зірнуў са здзіўленнем на Алеся. Памаўчаў.

— Няўжо ж ты пабяднееш, Алесь, калі мне лісток паперы дасі? Хіба ў гэтым лістку я тваё багацце з хаты вынесу. А Патапчыка ты, далібог, не дагоніш.

— А хіба я яго даганяю.

— Паскупеў ты! А калі чалавек скупее, значыць багацейшым ён стаў.

Алесь насцярожыўся: на што ён намякае? Няўжо ведае!..

— Дзе ты маё багацце ўбачыў, Сцяпан? Здаецца, на віду маё багацце.

— У тым і справа, Алесь, што на віду яно... Я да таго сказаў, што ты мяне да Патапчыка пасылаеш. Значыць, думаеш пра яго. Можа, зайздросціш Патапчыку.

Алесь раззлаваўся:

— Не зайздросны я чалавек, Сцяпан... А што раблю, як вол, то хіба гэта зайздрасць! Жыць на свеце хачу! — дастаў з шуфляды сшытак, адарваў тры лісты.

— На, куры, Сцяпан!

— Дарэмна злуешся, Алесь. Каб я так на ўсіх злаваў, даўно б ад злосці здох. От у Патапчыка малачу ў гумне, дык, паверыш, і тырчыць на таку, як скула пад носам. Сон не бярэ яго. А мо ён днём спіць. Хоць бы дапамог, дык не, рабіць не хоча. А таго тырчыць, што

баіцца, каб я ў кішэню фунт збожжа не ўзяў. На ліха яно мне! Ты мне заплаці за працу, а то каторы ўжо год не плачана.

Алесь усміхнуўся: «Не фунта жыта ён пільнуе,— падумаў,— баіцца, каб ты ў стаўпы не лез, не рыўся ў іх...» — зірнуў на Сцяпана, падабрэў.

— Праўду ты кажаш, Сцяпан, шчырую праўду. А колькі ён мне вінаваты. І ніколі не заікнецца. І за сяўбу, і за ворыва, і за малацьбу, і жонка бульбу выбірала. Ды ці за адзін год! Закуры майго, Сцяпан! Пачакай, я табе яшчэ лісты тры адарву. Куры на здароўе.

— Дзякую табе, браце.

Калачык разы тры зацягнуўся дымам, асалавеў, пасядзеў некалькі хвілін, абапёршыся на стол, тады падсунуўся да Алеся, зашаптаў ціхенька, сочачы вачамі за Арынай:

— Слухай, браце... у стаўпах у Патапчыка клумкі я знайшоў... Тхара лавіў, там такі здаравенны тхор завёўся. Нара пад сенам. Рыўся я там, нары тае шукаючы, і напароўся... Адзенне! — У Алеся заныла сэрца.— Закідана ўсё сенам... Не мужыцкае адзенне — сукно, крамнае ўсё.

У Алеся выпала цыгарка, ён не заўважыў гэтага: паднёс пальцы да губ і толькі тады ўбачыў, што цыгаркі няма. Нагнуўся, каб падняць.

— Памаўчы, Сцяпан, жонка пачуе... Хадзем на двор.

Цёмна і холадна было на дварэ. Начны халодны вецер абвеяў Алеся наскрозь.

Ахаладаў крыху Алесь, выцер мокры лоб.

А Калачык прыпаў да яго вуха і шаптаў:

— Страшна мне стала, Алесь, і ў галаву прыйшло, ці не Лейбава тут адзенне!.. У мяне падазронасць ёсць.

Алесь гатовы быў самлець, а Сцяпан, просты гэты чалавек, не прыкмячаў нічога і шаптаў горача і бесперапынна:

— Ты не чуў, Алесь, што на мястэчка Лясное бандыты нападалі? Мне Яўхім-Мядзведзь з Ярэміч расказваў. Абрабавалі многіх ушчэнт, пабілі людзей і мястэчка запалілі з чатырох бакоў. Нядаўна, дні тры назад. Рыгора тады двое сутак дома не было. На парцы коней ездзіў і назад прыехаў ноччу. Маўчы, Алесь, маўчы, браце, не ў госці ж ён ездзіў на парцы коней адзін.

— Ах зладзюга, зладзюга!..

— Які там зладзюга! Разбойнік з-пад моста! Вось як людзі жывуць ды багацеюць.

Алесь не помніў сябе. Ён зразумеў цяпер, чаго прыходзіў да яго Патапчык, на якія заробкі вёў. «Добра, што Арына мая, як коршак, налящела на яго. Ай, як добра! Дзякуй Арыне...»

— Хадзем, пасядзім у хаце, Сцяпан.

— Няма часу, Алесь. За паперу дзякую. Я проста сказаць табе прыйшоў. Не здавайся на яго ласку, Алесь, не здавайся! Мо ён табе гаварыў што? А мне гаварыў. За фурмана браў, тры разы прыходзіў. Адмовіўся я. Таго ён і пільнуе мяне цяпер, вачэй не зводзіць. Ён і табе заробкаў наабяцае. «Лёгкія заробкі». Лёгкія, але крывавыя яны! А кроў чалавечая не гіне марна, далібог не гіне.

— Праўду ты кажаш, Сцяпан... Вялікую праўду.

— Таму я і кажу: не дагоніш ты яго, Алесь!

Алесю хацелася абняць Калачыка ды прытуліцца да яго шчырай, простай душы, расказаць пра ўсё, супакоіцца... Можа, ён і зрабіў бы так, але забрахаў Патапчыкаў Лыска, пачуўся голас самога Патапчыка: «Сціхні, падла! Разбрахаўся, не выдахнеш!» І адплыло гэтае жаданне.

— Дзякуй табе, Сцяпан... Не мінай ты мяне, заходзь. Мы яшчэ пагутарым! Далібог мы з табою пагутарым, Сцяпан!

— Маўчун ты, Алесь! — Калачык завуркатаў, як голуб.— Такога, як ты, ашукаць лёгка! Ты думаеш, што ты хітры, а ты зусім не хітры.

І пайшоў Калачык Сцяпан лёгкаю вольнаю хадою з чыстым сумленнем і яснымі вачамі. Толькі лыкавыя лапці зарыпелі, як боты ў важнага пана.

І пазайздросціў Сцяпану Алесь. Ой, як пазайздросціў! І з гэтае хвіліны запанаваў Калачык у Алесевай галаве.

Цяпер ужо Алесь ведаў, што таямніца, якую ён так хавае ад усіх і нават сам баіцца думаць пра яе, цяпер ужо не таямніца. Пакуль яшчэ людзі не ведаюць, што ён ездзіў да Заблужскага млына, але ж шыла ў мяшку не ўтоіш: сарока калу, а кол усяму сялу. Прыйдзе час, і ўсе пра гэта ўведаюць. А мо Калачык і цяпер ведае. Мо ён толькі не хацеў сказаць. Цяпер ён пачаў іначай глядзець на Калачыка. Адчуў да яго павагу. Цяпер у Алеся

часта з'яўлялася жаданне стрэцца з ім. Пагутарыць ад шчырае душы, парадзіцца, прызнацца ва ўсім.

Але ў той час, калі прыходзіла думка пра Калачыка, аднекуль паўставаў Патапчык і засланяў Калачыка... Алеся не цягнула да Патапчыка: успамін аб ім падымаў толькі нянавісць, пачуццё бездапаможнасці. А цяга да Калачыка, як да роўнага, да таварыша, расла з кожным днём. Алесю часта хацелася проста ўзяць ды сходзіць да Калачыка — пакурыць, пагутарыць, пажартаваць. Ён верыў, што пасля гэтага вальней бы дыхаў. З'яўлялася нейкая патрэба ў таварыстве, у дапамозе ад другога чалавека. Алесь не раз выходзіў вечарам з хаты з цвёрдай рашучасцю дайсці да Калачыка. Але калі ён даходзіў да Патапчыкавага двара, усё раптам здавалася глупствам. Калачык стаяў перад вачамі — звычайны чалавек, бядак, лапцюжнік, галодны Сцяпан... Па вушы ў горы, бядзе, беднасці. Ці можна з ім падзяліцца яшчэ і сваім няшчасцем! І Алесь вяртаўся назад.

### 35

Тахкаў на сцяне вялікі, падобны на шафу, гадзіннік. Стрэлка набліжалася да дванаццаці. Калі яна дайшла да гэтай кропкі, у гадзінніку нешта трэснула і стала музыкай: паліліся гукі марша «Пад двухглавым арлом».

Прачнуўся кот, што ляжаў на падушцы, разявіў рот, выгнуў дугой спіну і прутам адставіў хвост. Пастаяў так хвіліну, потым зноў лёг і замурлыкаў.

Ёсіф Голанд не спаў: яго скруціла задышка. Кашаль падымаў яго ноччу з пасцелі многа-многа разоў. Калі было цяжка, уставаў, сядзеў на ложку і курыў. Або адзяваў мяккія пантоплі і паволі хадзіў па пакоі: ад дзвярэй да століка, ад століка да шафы, ад шафы да ложка і гэтак далей. Кароткі маршрут у чатырох сценах.

А думкі луналі далёка, яны заглядалі нават у Голандаву маладосць, у маленства. Але гэта былі думкі.

А сапраўднасць? Яна была тут, за дзвярамі, за вокнамі, яна абкружала Ёсіфа Голанда, яна душыла яго... Гэтая задышка таксама была сапраўднасць. Да старасці прывыкаць не трэба: кожны ўзрост мае сваю жыццёвую прыгожасць. Здаровы чалавек нават перад смерцю не думае пра яе.

А Голанд думаў. У цяжкія начныя часы прыходзіла

і такая думка. Адагнаць яе было немагчыма. Яна варочалася назад у іншым варыянце, у іншай форме, але Голанд адразу пазнаваў яе. «Няўжо ў пяцьдзесят гадоў чалавек не мае будучыні? — разважаў ён.— Няпраўда! Сталае жыццё, насычанае глыбокім вопытам, пачынаецца вось іменна ў гэтым узросце. Няхай слабее цела, а дух,— вялікая жыццёвая прагнасць, яна не слабее, яна ўмацоўваецца... І яна падтрымае цела. Я хачу жыць, і я павінен жыць. І я буду жыць, бо мой жыццёвы шлях яшчэ не пройдзены! Я не павінен зваліцца на палове дарогі, я прайду яе да канца».

Ён прысеў на мяккае крэсла. У галаву лезла рознае глупства: «Чаму я гляджу на лямпу? Таму што яна дае святло. А святло прыцягвае не толькі чалавека, а і розных істот. Не, не святло, а цяпло... Аднак вечарамі казюлькі імкнуцца да святла, напрыклад, матылі... О божа, якое глупства».

Яго ўвага ў гэты час спынілася на клапе: той поўз па сцяне ўгору, і яму, як відаць, было цяжка. «Ты выпіў маю кроў! — сказаў Ёсіф Голанд. Ён устаў і прынёс трэсачку. «Кожны занятак дае чалавеку нейкае здавальненне. Вось мудрасць, якое так не хапае ў Талмудзе».

Але стомленасць ужо адольвала яго. Спаць, спаць... А кашаль, пракляты кашаль не дае спакою. Ён перасеў на ложак, паклаў ля сцяны падушку і прылёг на яе. Але сапраўдны сон не прыходзіў, была толькі дрымота. Ёсіф Голанд і марыў і спаў. Ён быў у такім стане, калі ўсё здаецца магчымым. Каб хто ў гэты момант пастукаў у дзверы, Голанд не здзівіўся б. А ў дзверы і сапраўды пастукалі. «Ці сон, ці сапраўды?» — падумаў Голанд, не расплюшчваючы вачэй. Але стук паўтарыўся. Голанд зусім прачнуўся і ўстаў. Усе благія думкі вылецелі з галавы. Ён прайшоў у калідор, каб адчыніць дзверы.

— Ты яшчэ не спіш, татэ? — Хаім, халодны і вільготны, увайшоў у хату ўслед за бацькам.— О, дык ты, мабыць, чакаў мяне?

Прастуджаны Хаімаў голас здаваўся чужым, абросслы чорны твар таксама быў незнаёмы, але толькі на адну хвіліну: з кожнай рыскі яго твару на Голанда глядзеў Голанд.

— Аброс жа ты, мой сын...

— Як мядзведзь... татэ, са мною Патржанецкі і Патапчык.

— Пакліч іх сюды.

Хаім выйшаў. Ёсіф Голанд борзда надзеў штаны, сурдут, прычасаўся і павялічыў агонь. Калі Патржанецкі з Хаімам зайшлі, на ім не было ніякіх слядоў хваробы і начной бяссонніцы.

— Добры вечар, пане Голанд.

— Добры вечар, пане Патржанецкі, добры вечар!

— Перабілі вам сон, пане Голанд!

— Глупства, глупства! Мяне адцураўся сон. Сядайце, пане Патржанецкі, сядай, пане Рыгор.

— Я, пане Голанд, драбіны ўцёг пад паветку, а каня ўпіхнуў у хлевушок,— сказаў Патапчык.

— Добра, няхай стаіць. Распранайцеся, панове... Я зусім адурнеў, але, па праўдзе кажучы, я не чакаў вас сёння.

— Нічога! Я распрануся абавязкова,— сказаў Патржанецкі.— У хаце, пане Голанд, адразу адчуваеш сябе чалавекам. А дзе Хаім?

— А я тут, капітан! — Хаім выйшаў з другога пакоя не толькі распрануты, але і босы.

— Адразу відаць, што чалавек дома! — адзначыў Патржанецкі.

— Будзьце і вы як дома, капітан!

— Я сёння табе не капітан, а госць...

— Капітан і ў гасцях астаецца капітанам.

— У такім разе я загадваю табе ісці спаць.

— Ёсць, капітан! — Хаім выцягнуўся і казырнуў.

— Без шапкі не казыраюць, Хаім, але выпраўка ў цябе ёсць.

Голанд з радасцю глядзеў на сына: «Удалы хлопец! Здаравяк, смяльчак і не дурань... І з Патржанецкім, відаць, на кароткай назе,— перавёў погляд на Патржанецкага.— Галаваты чалавечына!»

— Ваш Хаім, пане Голанд, золата.

— Ён Голандаў сын.

— Нашы хлопцы нават пабойваюцца яго.

— Ён цяпер ваш, пане Патржанецкі. Будзьце яго начальнікам і бацькам.

— Ну, на мяне то ён не пакрыўдзіцца... Пане Голанд, нам трэба пагутарыць. У вашым доме ёсць такі пакой, дзе б мы маглі развязаць некаторыя пытанні адзін на адзін?

— Безумоўна, пане Патржанецкі.

— Тады хадзем. А вы, Рыгор Сямёнавіч, адпачніце.

Яны сядзелі поруч на мяккай канапе ў халодным пакоі.

— Да світання мы павінны выехаць, Ёсіф Ізраілевіч. Я адносна вашага ліста, што прыносіў Хаім. Я вам перадаваў, што пісаніна не патрэбна, але такой справы і на словах нельга перадаць. Хаім яшчэ малады. Справа ў тым, што на чале нашай справы толькі і ёсць вы ды я. Патапчык вельмі просты мужык, а Бранавіцкі — баба...

Голанд ухмыльнуўся:

— Вы не памыляецеся, пане Патржанецкі.

— Безумоўна, не памыляюся... Цяпер мы настолькі моцныя, што можам выканаць вашу прапанову. У Лясным мы зрабілі справу. Чарга за вашым мястэчкам. Я вам даручаю скласці план гэтае аперацыі. Вы разумееце мяне?

— Не зусім.

— Я растлумачу. Я думаю, што на мястэчка трэба напасці па двух прычынах: першая і галоўная — праліць кроў нашых ворагаў!

У вачах Голанда з'явіўся Вельвель Краўчык.

— Так, так, пане Патржанецкі.

— Вы павінны даць нам не толькі прозвішчы ўсіх камуністаў і актывістаў, а і іх адрасы... Накрэсліце план мястэчка і чырвонымі крыжыкамі адзначце ўстановы і дамы, дзе мы павінны пабыць.

— Я гэта зраблю.

— Нам некалі будзе ламаць дзверы ў кожнай хаце. Мы павінны ведаць адразу, куды ісці і дзе жывуць нашы ворагі... Другая мэта: золата. Вы разумееце?

— Разумею.

— Чорнымі крыжыкамі адзначце дамы, дзе ёсць золата.

— У такіх дамах жывуць людзі, якія спачуваюць нам.

— Ну і што ж! Мы іх не будзем чапаць. Яны аддадуць нам грошы і ўсё. Хто нам спачувае, той павінен нам дапамагаць.

— Вы разважаеце правільна. Але ў такім разе яны пакінуць спачуваць нам.

— Ёсіф Ізраілевіч, давайце будзем гаварыць адкрыта. Нам хутка не трэба будзе нічыё спачуванне. Наша місія на гэты раз канчаецца. Мы рушым за мяжу. Ці вы раздумалі?

— Божа мой! Як вы можаце пра гэта думаць! Уся мая дзейнасць накіравана на тое, каб перайсці рубеж.

— Я лічу таксама... У вас, скажам, ёсць нейкія рэсурсы, а я пайду туды голы.

— Вы памыляецеся... Вы ведаеце, дзе ляжаць мае рэсурсы... А тут я не маю нічога. І таму давайце заключым умову: колькі я атрымаю ад здабычы?

— Вы дзелавы чалавек...

— Я купец.

— Вы атрымаеце долю роўную з маёю.

— А Хаім?

— Хаім атрымае столькі, колькі выйдзе на кожнага ўдзельніка.

Голанд задумаўся: «Ага, Вельвель! Помста ідзе! Ідзе твой чорны дзень!»

— Яшчэ адзін пункт, пане Патржанецкі. Я не атрымаў долі з Ляснога.

— Хаім атрымаў.

— Ён атрымаў сваю долю.

Патржанецкі задумаўся.

— Вы атрымаеце некаторую долю і з Ляснога... Але не забывайце, мы гэта падрыхтавалі і правялі без вас. На многа не разлічвайце, пане Голанд.

— Колькі?

— Не болей пяцісот і не меней трохсот...

— Гэта ваша слова?

— Так.

Патапчык, застаўшыся адзін, прылёг на падлогу. «З Голандам сакрэты вядзе... Патапчык што! Мужык, хам... А мо б і я парадзіў нешта... Пры людзях: Рыгор Сямёнавіч, а адзін на адзін — ты, Рыгор... Пан, чалавеча, заўсёды пан, а мужык для яго хам і свіння...» Устаў і выйшаў на двор. Выняў з драбін торбу, дастаў пляшку. Выпіў да паловы і ўсунуў яе ў кішэню. Адламаў хлеба, адрэзаў сала і пайшоў назад.

«Вы там можаце шаптацца, а Патапчык выпіў і закусіў... Нашто мне лезці ў гушчу! Я і так вазьму, што захачу. Колькі мне трэба». Пасядзеў крыху, схіліўшы галаву на стол. «А мо яшчэ пацягнуць? Хоць бы Хаім не спаў, удваіх і піць весялей». Выпіў усю пляшку, з'еў хлеб і сала, палажыў рукі на стол, а галаву на рукі і задрамаў.

— Час гэтай аперацыі мы абмяркуем удвух, пане Голанд. Толькі не тут. Я паведамлю праз Хаіма. Мы спаткаемся ці ў Патапчыка ці ў Бранавіцкага. Са мною будзе Багалевіч.

— Добра. Я павінен з'явіцца з планам?

— План павінен быць у мяне не больш як праз тры дні. Вы адразу бярыцеся за гэтую працу. Нашы хлопцы павінны пабыць тут, на месцы.

— Добра. Я падрыхтую...

— Мне трэба выбірацца, пане Голанд.

Вярнуўшыся ў першы пакой, Патржанецкі штурхнуў соннага Патапчыка.

— Рыгор Сямёнавіч, трэба запрагаць.

Праз паўгадзіны яны выехалі з мястэчка. Раніца была блізка, але яшчэ не развіднелася.

Патржанецкі закруціўся ў бурку і прыціснуўся спіною да палукаша.

— А ты ўжо ўправіўся напіцца, свіння.

— Адзін я застаўся... спаць не хацелася.

— Усё выжлукціў і зжэр?

— Дзе вы бачылі! Хіба я дурны.

— Ведаю, які ты дурны! Дзе твая торба?

— Патрымайце лейцы... І вам хопіць, і я крыху падбаўлю, бо ўжо праходзіць. Тпру, зараза! Гоніць цябе нячысты дух.

Прысуняў каня і развязаў торбу.

Голанд не лёг спаць. «Дзейнічаць! — думаў ён.— Трэба дзейнічаць». Яму стала лягчэй дыхаць. Ён зайшоў у спальню і стаў ля Хаімавага ложка. Хаім спаў, раскінуўшы рукі і ногі, цяжкім сном стомленага чалавека. «Мой сын...— думаў Голанд.— Я пусціў яго па крывой дарозе. Нічога! У жыцці бывае патрэбна для дасягнення мэты ісці не па дарозе, а сцежкамі ў абход. Такіх сцежак я прататаў таксама не мала!..»

## 36

Ігнась пакрысе прывыкаў да мястэчка. Ён пабыў у яго ваколіцах, схадзіў з Ткачуком да прошчы, і цяпер усё стала знаёмым і сваім. Ён любіў марыць, але адчуваў, што мары не задавальняюць яго. Мо таму і пацягнула яго да прошчы. Раніцай у нядзелю яны схадзілі ту-

ды і абодва вярнуліся расчараванымі, асабліва Ігнась. Ён цяпер не ўбачыў там ніякай патаемнасці.

Затое само жыццё ў мястэчку стала надзвычай жывым і цікавым. Камсамольскі клуб не спыняў сваёй работы ні днём ні ноччу. У ім адкрыўся вучэбны пункт. Паўтараста чалавек мужчын і хлапцоў на чале з Язэпам Іванавічам Калядкам праходзілі кожны вечар вайсковую падрыхтоўку. У лік гэтых паўтараста ўваходзілі і камсамольцы. Ігнась і Янка, хоць і не камсамольцы, мелі да гэтай справы немалое дачыненне. Яны разам з усімі вывучалі вінтоўку, раскладалі і складалі затвор, вучыліся цэліцца. Праўда, іх не бралі на тактычныя заняткі, якія праводзіліся два разы на тыдзень, але з гэтым можна было мірыцца.

Напад бандытаў на мястэчка Лясное ўзварухнуў насельніцтва. Атрад рос з кожным днём. Па закліку камуністаў у дом Румана Механіка прыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. У большасці моладзь, але былі і пажылыя сяляне-земляробы, саматужнікі. Яны прасілі ўключыць іх у лік байцоў. Жорсткая расправа бандытаў з насельніцтвам Лясногa, дзе лягло больш ста ахвяр, ускалыхнула нават тых, хто глядзеў на ўсё скрозь пальцы і думаў паціху пераждаць неспакойны час. Да ліку такіх людзей адносіліся Грэйнім Сапун і Моўша. Пачуўшы падрабязнасці жорсткай бандыцкай расправы ў Лясным, яны абурыліся. Грэйнім моцна крычаў і махаў кулакамі. Яны паднялі такі ваяўнічы шум у хаце, што Лейка перапалохалася і захварэла. Аднак далей крыху справа ў іх не пайшла. Назаўтра Моўша паехаў па бацькавых справах у Бабруйск, а Грэйнім накіраваўся ў млын.

Калі раніцаю Довід запытаў у брата, што ён думае адносна атрада, Грэйнім адказаў яму нешта незразумелае.

— Значыць, вы толькі ваякі каля жаночых спадніц? — запытаў яго Довід.

— Не тлумі мне галавы. Улада сама павінна абараняць сваіх грамадзян ад розных бандытаў. Грамадзяне займаюцца справамі, яны даюць карысць дзяржаве... От ты, разумны, і адкажы мне.

— А што гэта за грамадзяне, што хаваюцца за чужымі плячамі? — запытаў яго Довід.

Грэйнім слухаў Довідаў адказ ля дзвярэй, але вярнуўся, падышоў да Довіда і сказаў яму з вельмі рашучым выглядам:

— Калі яны прыйдуць, я стану з сякераю каля дзвярэй сваёй хаты і хутчэй загіну сам, чым пушчу каго-небудзь за парог. А гуляць пад Калядкаву каманду, бегаць ды поўзаць па пяску і па балоце не хачу. У мяне ёсць свае справы, і я іх выконваю.

У апошнія дні Кавалёў аддаваў амаль увесь час арганізацыі абароны мястэчка на выпадак нападу бандытаў. На ўсіх канцах мястэчка былі арганізаваны круглясутачныя пасты, якія змяняліся па ўсіх правілах вайсковай службы. Былі намечаны зборныя пункты па сігналу трывогі, зроблены ўмацаванні. Язэп Калядка — камандзір атрада, уклаў сюды нямала працы. Увесь свой вопыт ад двух войнаў, імперыялістычнай і грамадзянскай, ён скарыстаў для гэтае справы.

Калі ў асноўным была закончана падрыхтоўка, Кавалёў, Калядка, Буткевіч і Руткоўскі вырашылі зрабіць праверку. Яны абышлі пасты і «пазіцыі» (так цяпер называлі ўмацаваныя ваколіцы мястэчка). Нарэшце Калядка выстраіў свой атрад. Каля двухсот чалавек розных узростаў — ад васемнаццаці да пяцідзесяці гадоў — уваходзілі ў яго. Горш была справа са зброяй — яе не хапала. І гэта не давала магчымасці павялічыць атрад колькасна. Атраднікі стаялі, узброеныя і вінтоўкамі, і абрэзамі, і звычайнымі паляўнічымі стрэльбамі. Тут былі вінтоўкі нямецкай і французскай марак — спадчына акупацый.

— Хоць гэтую спадчыну скарысталі мы! — жартаваў Кавалёў, успамінаючы словы Гурына.

— Яе скарыстоўваюць і бандыты,— хмура зазначыў Руткоўскі.

Калі праверка была закончана і атраднікі разышліся, усе чацвёра селі ля куста ядлоўцу. Воддаль за хмызнякамі бялела палоска ракі. Ад мястэчка і да самай пушчы ляжала раўніна жоўтага пяску, там-сям зарослага крывымі хвойкамі. Калядка доўга аглядаў гэтую мясцовасць.

— Я вам па праўдзе скажу,— заключыў ён.— Гэты бок мы ўмацавалі дарэмна.

— Чаму? — запытаў яго Буткевіч, праціраючы акуляры.

— Адсюль бандыты не пойдуць. Трэба не мець на карку галавы, каб ісці сюдою. А іх Багалевіч, я чуў, афіцэр. Тут голае месца. Нават ноччу можна заўважыць рух. Я думаю, што калі яны пойдуць, то толькі з Леценскага боку. Там кусты да самай Крапівінскай вуліцы.

— Вы кажаце праўду, таварыш Калядка. Асноўную сілу мы павінны пераключыць на Леценскі бок. Як ты думаеш, Сяргей?

— У Лясное яны ўварваліся з усіх чатырох бакоў. Такую тактыку яны могуць ужыць і тут. Трэба чакаць іх падрыхтаванымі.

— І гэта праўда. Аднак у нас заходні бок выключаецца, рака не малая перашкода, а за ракой балота.

— Рака замерзне, таварыш старшыня.

Руткоўскі ўвесь час маўчаў. Ён жаваў сухую метлючыну і аб нечым упарта думаў.

— Я з гэтым не згодзен! Калі мы будзем толькі абараняцца, яны нас перастраляюць па адным. Што ж гэта такое? Яны проста палююць на мяне. Чацвёрты раз!.. Яны па мне страляюць чацвёрты раз. Адкуль бы я ні ехаў, яны мяне пільнуюць,— ён страшна ўсхваляваўся, пачырванеў, зразумеў, што сказаў нешта лішняе, і разгублена змоўк.

— Чацвёрты раз! Здорава! — Кавалёў сурова зірнуў на начальніка міліцыі.— Чаму ж ты аб гэтым раней не гаварыў, таварыш Руткоўскі?

— Гэта цікава.

— Нават не хацеў гаварыць. Такія навіны ведаеш як уплываюць. Тады я ні аднаго міліцыянера не пашлю ў воласць, кожны будзе баяцца. У мяне ўчора рукаў прастрэлілі. Ды, нарэшце, каб я кожны раз пачаў гэтым хваліцца, ты сам палічыў бы мяне або хлусам, або панікёрам.

— Ні ў якім разе. А сёння я лічу цябе панікёрам.

— Няпраўда! Я толькі думаў, што пакуль мы тут робім пазіцыі, умацоўваемся, яны нас могуць перастраляць у часе нашых раз'ездаў па воласці. І ты ездзіш, і Буткевіч, і Гурын... Я лічу, што нам самім трэба рынуцца на іх. Гняздо іх знайсці можна. Неабходна арганізаваць разведку і высачыць іх... Напасці знянацку і знішчыць. Каб

мы раней заняліся разведкай, то да гэтага часу ад банды засталіся б шматкі...

— Эх, таварыш Руткоўскі! — Калядка з жалем зірнуў на начальніка. Шырокія планы ў вашай галаве...— Шырокія! А рукі нашы караткаватыя, каб абхапіць іх. Паспрабуйце сунуцца ў лясы, і ад атрада сапраўды застануцца шматкі. А тады яны мястэчка голымі рукамі возьмуць. Яны ўжо набілі руку на Лясным, і нам трэба быць гатовымі. Яны любяць лёгкую здабычу і каб адразу многа яе. А мы іх стрэнем так, як яны не чакалі, а тады і ў лес пойдзем не баючыся. Ці правільна я сказаў, таварыш Кавалёў?

— У асноўным правільна, таварыш Калядка. Я толькі вось што дадам: цяпер мы павінны найбольш актыўна праводзіць работу ў вёсках. Банда, вядома, актывізуе кулацтва, абапіраецца на яго. Наша задача ўзмацніць наш актыў. Калі хочаце ведаць, кулакі бачаць у бандзе пачатак нашага канца, яны думаюць, што ўслед за бандай сюды з'явяцца белапалякі. Трэба рассеяць такую думку. І, нягледзячы ні на што, мы будзем ездзіць па воласці, таварыш Руткоўскі. Толькі Калядка будзе тут як камандзір атрада. У дапамогу яму мы дадзім Івана Барая. А заўтра, таварышы, усе паедзеце ў вёскі. Ты, Руткоўскі, адпачнеш дзён тры. З Буткевічам мы вызначым пункты, дзе неабходна пабыць у бліжэйшы час.

— Я не буду адпачываць, таварыш Кавалёў, бо я не стаміўся. Нервы ў мяне ўзвінціліся сёння, даруйце, асабліва калі ўбачыў наш атрад. Маем такую сілу, а яны палююць на нас! Чацвёрты раз... Каб конь не рвануўся ўбок, мяне б сёння забілі ці паранілі. Заўтра паеду, толькі не верхам як дасюль, а на возе. А паміраць яшчэ рана. Спадзяюся, што Багалевіч пападзе ў мае рукі... Я з ім разлічуся!

— Добра. Я рады, што мы дамовіліся. У такім становішчы патрэбна не толькі адзінадушнасць, але і адзіная мэтанакіраванасць.— Буткевіч устаў і зірнуў у бок мястэчка.— І не забудзьце, таварышы, што людзі цяпер вераць нам і спадзяюцца, што мы іх абаронім.

З поўначы дзьмуў халодны, калючы вецер. Ён нёс адтуль абрыўкі цяжкіх хмар.

— Зіма хутка...— Калядка мнагазначна зірнуў на Кавалёва.— Праверку мы скончылі, ды не зусім. Скажу

вам па сакрэту. Сёння мы зробім поўную баявую праверку. Ноччу.

— Правільна, Язэп Іванавіч!

— От з гэтым і я згодзен! — ажывіўся Руткоўскі.— Гэта ўжо дзеянне! Даволі сядзець, склаўшы рукі!

— А гадзіны не скажу! — Хітра ўсміхнуўшыся, дадаў Калядка.

— Аднак мне трэба ў выканком, таварышы... Працы цяпер столькі, што не перадыхнуць. І асабліва з фінансамі туга і туга...

— Хадзем разам, Сцяпан! — прапанаваў Кавалёў.

## 37

Мястэчка жыло трывожным жыццём.

Удзельнікі атрада не раздзяваліся па некалькі сутак: удзень — праца, ноччу — вартавая служба. На начное дзяжурства была мабілізавана не толькі пажарная дружына, а ўсё мястэчковае насельніцтва, па чарзе, па чатыры чалавекі на кожную вуліцу.

Надвор'е сапсавалася. Набліжалася зіма, і восень перад сваім канцом не шкадавала дажджоў. Свабодны ад заняткаў час Ігнась і Янка праводзілі ў камсамольскім клубе. Там цяпер было цішэй, чым у мінулыя разы. Хлопцы чыталі кнігі, гулялі ў шашкі, слухалі грамафон. Камсамольцаў збіралася мала, толькі тыя, хто вярнуўся з паста або рыхтаваўся ісці на пост. Тут жа і спалі, не распранаючыся. Скарыстоўвалі для сну сталы і лаўкі. Нязменна кожны вечар была тут і Ірына Сідаровіч.

Усе кіруючыя работнікі воласці былі ў раз'ездах па вёсках. Тарас Гурын таксама ездзіў па бездарожжы Палесся. Іван Барай у кароткім кажушку, цесна падперазаны шырокім салдацкім поясам, апранаў брызентавы плашч і правяраў варту, змяняў пасты, наглядаў за пажарнай службай. У клубе ён арганізаваў дыспуты з камсамольцамі на розныя тэмы. Ігнась са здавальненнем адзначаў, што ў галаве яго становіцца ясней, і думкі прымаюць належны парадак.

Івану Бараю хапала працы. Ён схуднеў, аброс барадой. Ён нярэдка заводзіў гутарку аб Голандах і быў упэўнены, што яны маюць не малое дачыненне да банды.

— Падумай, Довід, дзе цяпер можа быць Хаім Го-

ланд. У мястэчку Хаім бывае рэдка. Не іначай ён у бандзе.

— Гэтага нельга сказаць без фактаў, Іван.

— Арыштуй яго, і факты знойдуцца. Пакуль ён на волі, кожны, хто ведае пра яго што-небудзь,— маўчыць, бо баіцца; а пасадзі яго за краты, і будуць факты.

— Без прычыны не можна саджаць за краты чалавека.

— Ён жа купец першай гільдыі. Хіба можа такі чалавек не быць ворагам савецкае ўлады! Эх вы! Цяпер такі час, што падобных тыпаў усіх трэба за краты пасадзіць.

— Я з табою згодзен, Іван.— Лявон у такіх выпадках заўсёды падтрымліваў Івана, бо сам меў такія ж самыя погляды на дзейнасць Голандаў.

— Люблю цябе, Богуш, за гэтыя словы.

Ігнась заўсёды спачуваў Івану. Ён зненавідзеў Хаіма Голанда пасля сустрэчы з ім.

У гэты неспакойны час Моўша паехаў у горад па бацькавых справах.

Сіма засумавала. Ад тугі яна пачала вучыцца іграць на мандаліне. Цяжка давалася ёй гэта. Смешна было глядзець, калі яна з мандалінай у руках садзілася на канапу і пачынала шукаць на струнах той ці іншы матыў. Струны пішчалі і раўлі пад яе пальцамі. Аднак гэта не замінала ёй у такт сваёй музыкі ківаць галавой.

Аднойчы вечарам паштальён прынёс ліст, адрасаваны Алтару Сапуну. Адрас быў надрукаваны на пішучай машынцы з прыпіскай: для Сімы.

Чытаць ліст сабралася ўся сям'я.

— Але цікава, дзе ён надрукаваў адрас? — дзівіўся Абрам, стараючыся перахапіць ліст з Сіміных рук. Сіма моцна яго трымала. Асцярожна раскрыўшы канверт, яна пачала чытаць. Але нечакана ліст выпаў з яе рук, і яна адкінулася на спінку канапы з сударгавым плачам. Маці збялела як палатно.

— Сіма, што такое? — запыталася яна і дрыжачымі рукамі падняла ліст.

— Я! — сказаў Абрам, схапіўшы ліст.

— Пачакай! — І Мотэль адабраў ліст ад Абрама.

Ён сам быў усхваляваны не менш астатніх, аднак не

забыўся надзець акуляры. Ён падышоў да лямпы і пачаў сам сабе чытаць. Хатнія абкружылі яго. Сіма адна ляжала на канапе, усхліпвала.

— Глупства,— усміхаючыся, сказаў Мотэль.

Яго закідалі пытаннямі.

— Ну дык слухайце: «Гэтай ноччу я перажыў вялікае няшчасце. Я ехаў у вагоне і спаў на трэцяй лаўцы. Раптам наш цягнік спыніўся. Усе кінуліся да дзвярэй, але пачалася страляніна. У вагон уваліліся бандыты і пачалі рабаваць пасажыраў. Дарагая Сіма, яны не заўважылі мяне, але забралі мой чамадан з падарункамі для цябе, бо ён стаяў унізе пад лаўкай».

— Дзякуй богу, дзякуй богу, абы сам жывы...— уздыхнула Лейка.

Алтар зарагатаў:

— Ай-яй! — жаночыя слёзы каштуюць танней, чым паркаль пры Мікалаю. Ай-яй! Як ты нас напалохала.

Мотэль схаваў акуляры і зняў з цвіка мандаліну. Ён сеў ля печы і бразнуў па струнах, але не зайграў. Розныя думкі блукалі ў яго галаве. Невясёлыя былі гэтыя думкі. «Якое трывожнае жыццё,— думаў ён.— Як трымаць сябе ў такі час? Бандыты... У мястэчка яны прыйдуць абавязкова. Яны будуць не толькі грабіць, але і забіваць савецкіх работнікаў. А я... Я ўсё-такі савецкі работнік... А ці баяцца іншыя? Хто іх ведае. Усе маўчаць... І працуюць надзвычай многа».

«Ірына Сідаровіч...— падумаў Мотэль, які ўжо працаваў адзін дзень у арцелі.— Так, так... Ірына Сідаровіч».

Чаму ён раней не заўважаў гэтай дзяўчыны? Працягваць гэтую думку далей ён не адважваўся...

Вячэралі моўчкі. Сіма зусім не села за стол. Узяўшы ліст, яна пайшла ў спальню.

Але няшчасце ніколі не ходзіць адно. Заўсёды бывае так, што ўслед за адным горам ідзе і другое. Толькі скончылася вячэра, у хату прыйшоў Руман Механік. Вялікі дужы мужчына, ён калі сеў на крэсла, дык тое аж затрашчала. Пагаварылі спачатку аб сім-тым, патужылі, што час прыйшоў цяжкі, а тады Механік паведаміў Алтару як добраму суседу і прыяцелю, што Довід камсамолец. Ён усю ноч сядзіць у камсамольскім клубе, пад які, як вядома кожнаму, забралі палову яго, Руманавага, дома. Цяпер, дзякуй богу, ужо і ўвесь забралі. «Хай ім сядзе

тысяча скул, як мне лёгка сядзець у падсуседзях у Голанда»,— сказаў Руман. А што Довід камсамолец, то гэта праўда. Ужо ўсё мястэчка ведае. І Механік, адвітаўшыся, пайшоў дадому ўпэўнены, што Довід атрымае належную кару.

Позна ўвечары, калі Довід прыйшоў дамоў, на яго напала ўся сям'я. Па старшынству першае слова атрымаў Алтар. Пакрыўджаны бацька казаў, што не вынесе сораму, які зваліўся на яго сівую галаву. Не можа таго быць, каб яго сын з слаўнае і паважанае сям'і сядзеў разам з сынамі анучнікаў і каналупаў.

Маці казала сыну, чаму ён не бярэ прыкладу з Моўшы, такога разумнага і талковага хлопца. Мотэль уздыхаў. Для яго не было навіною, што Довід камсамолец, аднак у душы ён не падтрымліваў яго. «У цяперашні час,— думаў Мотэль,— карысней усяго сядзець ціха, працаваць, дзе загадаюць, лішняга не рабіць, не гаварыць, нават не думаць. Цяпер такі час, што ўсё лішняе замінае».

Больш цвяроза разважаў Грэйнім. Ён не лаяў Довіда. «Перамелецца — мука будзе»,— казаў ён, але ўсе зразумелі, што мука будзе з Довіда. «І добрая мука!» — устаўляў Грэйнім рэплікі ў гарачыя прамовы бацькі і маці. Пад канец ён сказаў: «Не варта крычаць, бо ўсяму свой час. З Довіда выб'юць дурасць так, што яна выскачыць з яго праз абодва канцы».

Невядома толькі было, хто ж будзе яе выбіваць, але можна было зразумець, што нейкае дачыненне да гэтае справы будзе мець і сам Грэйнім.

Сіма вярнулася з спальні са слязамі. Яна, бедная, ніколі не думала, што ў яе ёсць такі брат. А што цяпер скажуць Моўша і Рахіль! І яна плакала, выціраючы кулаком слёзы. Довід моўчкі выслухаў усіх.

— Вы думаеце, што я такі маленькі і недарослы, як вашы Моўша і Грэйнім? Нянек мне ўжо не трэба,— сказаў ён.

— А хіба Моўшу трэба нянькі? — успыхнуўшы, перабіла яго Сіма, і апошнія кроплі слёз высахлі на яе шчаках.

— Я так і ведаў, што ты не плачаш, а толькі крывішся. Эх ты! Пачуцці! Вось яны, твае пачуцці! І ўсе вы такія прытваракі... Я сам зарабляю свой кавалак хлеба. Я не лезу ў вашу краму, мне моташна на яе глядзець.

Я пайшоў у камсамол, бо захацеў пайсці. Сябрую з анучнікамі, бо паважаю іх. Мы служым адной справе. А з вамі мне гаварыць болей няма аб чым. Нам цесна, і мне і вам, мы разыдземся.

— Ігнась! — гукнуў ён.— Ідзі са мною.

Ігнась апрануўся і выйшаў на ганак.

— Вось бачыш! — сказаў яму Довід.— Ужо няма ніякае таямніцы, і я вельмі рады. Даўно трэба было развязацца. Хадзем у клуб, мне сёння весела.

Лейка пачала грызці Алтара.

— Што ты за бацька? — казала яна.— Твае дзеці робяць, што хочуць, і ты не маеш над імі ніякай улады. Ты не бацька, ты... ты...— яна не знаходзіла слоў.

Алтар маўчаў і толькі зрэдку адказваў.

— Ты дурная...

Але яму здавалася, што і ён таксама дурны. І яго мала краналі жончыны словы. У яго вачах паўставала тая слясарная майстэрня, якая была ў яго ўяўленні — майстэрня Довіда. Паўставала і разбуралася ўміг, як дзіцячы домік з трэсачак.

— Ах, Довід, Довід... Ах, Довід! — шапталі яго губы.— Але ён... Але ён не грыз мяне, як грызуць гэтыя восы...

## 38

У той дзень Мотэль павінен быў ісці на працу ў арцель. Ён не хацеў прызнацца, што чакаў гэтага дня і думаў пра яго, але раніцай прачнуўся раней, чым усе мінулыя разы. Значна раней.

«Ірына Сідаровіч»,— падумаў ён, і нешта цёплае і салодкае заліло яго істоту. Ён пацягнуўся і заплюшчыў вочы: Ірына Сідаровіч сядзела за сталом і нешта кроіла...

Ён памятаў яе малою. Яна вучылася разам з Сімай. Ірына іншы раз прыходзіла да Сімы, каб пазычыць у яе падручнік, і яны разам гулялі і дурэлі. Тады ён не раз заганяў Ірыну і Сіму пад ложак.

Потым не звяртаў на яе ўвагі. Адносіны паміж людзьмі мяняюцца з узростам. Дзеці не лічацца ні з нацыянальнай, ні з сацыяльнай розніцай. Але як гэта здарылася, што ён, дарослы чалавек, забыў гэтую розніцу!

У першы дзень працы ў арцелі было так. Ён зайшоў у майстэрню і аслупянеў: бывае так, што ў чалавека рап-

там адкрываюцца вочы на што-небудзь. Тады адразу ўбачыш усё, нават такое, чаго звычайна ніколі не ўбачыў бы. Ірына Сідаровіч! Не, ён не чакаў сустрэць такую дзяўчыну і зусім інакшай уяўляў яе. Яна прынесла яму свае рахункі, але ён глядзеў на іх, як баран на новыя вароты, і нічога не разумеў. Нарэшце пачаў перабіраць паперкі: трэба ж было нешта рабіць. Ірына стаяла поруч і адказвала на яго пытанні. Мотэль адкладаў паперы адну за адной і адчуў, што ў галаве яго наладжваецца парадак.

«Але ўсё-такі я без нічые дапамогі арганізаваў там рахункаводства... Пачаў яго, даў яму толк. Хто б іншы змог гэта зрабіць! Безумоўна, у мяне ёсць здольнасці, і Буткевіч недарэмна так ацэньвае мяне як супрацоўніка выканкома».

Ірына была здаволена, калі вечарам ён тлумачыў ёй сакрэты рахункаводства. Раніцай яна вучыла яго, а ўжо вечарам ён вучыў яе.

У Ірыны прыгожыя вочы і асабліва прыгожыя, калі яна смяецца.

У яе ёсць нешта такое, чаго Мотэль не мог зразумець, але чаго нельга забыць... Што гэта?

Працавалі моўчкі ўвесь дзень, зрэдку задаючы адзін аднаму дзелавыя пытанні. Мотэль быў чэрствы, як скарынка, але сэрца яго радавалася, калі Ірына ўсміхалася. Яму таксама хацелася смяяцца. З'яўлялася жаданне скінуць з сябе кару сталага, халоднага чалавека і стаць школьнікам, як у маленстве. Але яна звярталася да яго на вы. Ён таксама зварочваўся да яе афіцыйна: таварыш Сідаровіч. Потым уляцеў Іван Барай.

— А-а! Сапун, здароў! Ты дапамагаеш нам?

«Хам... Сапун, Сапун... Ты дапамагаеш нам. Каму гэта — нам?»

— Ірына, як справы?

Потым ён зусім забыўся пра Мотэля. А яна? І яна забылася.

Ірына зусім не так гутарыла з Бараем, як з Мотэлем. Яна была шчыра рада гэтаму хамуту, які жартаваў. Барай умеў жартаваць. Нават Мотэлю было смешна, але ён сціскаў губы. А Ірына смяялася не толькі вачамі, як Мотэлю, а неяк уся.

«Хто іх зразумее гэтых дзяўчат! Яны, як павукі, стараюцца загнаць у сваё павуцінне паболей мух — простых

хлопцаў. Яны вельмі хітрыя. Хто ім больш падабаецца, на таго яны менш зварачваюць увагі... Няўжо Барай лепшы за мяне! Ва ўсякім разе гэтага не можа быць. Я сам ведаю, што мною цікавяцца многія дзяўчаты... А мяне зацікавіла Ірына Сідаровіч... У яе прыгожы голас. Толькі рукі велікаватыя. Няхай велікаватыя, але хіба можна сказаць, што яны непрыгожыя! А што сказалі б хатнія, каб ведалі мае думкі?!»

Снеданне яшчэ не гатова. Калі яны яго прыгатуюць? У хаце дзве жанчыны, а снедання не дачакаешся. Ён быў гатовы ісці на працу хоць цяпер. Ірына, вядома, ужо ў майстэрні. І яна там адна, бо краўцы і краўчыхі яшчэ не прыйшлі.

Ён памыўся і зірнуў у люстра. Так, мімаходам зірнуў. З люстра на яго глядзеў Мотэль Сапун. І Мотэль Сапун спадабаўся Сапуну Мотэлю. Нічога дрэннага не скажаш пра гэтага хлопца. Недарам гавораць, што Мотэль прыгажэйшы з усіх Сапуноў.

Нарэшце ўсе садзяцца за стол. Як марудна яны гэта робяць! Ён раптам узненавідзеў усе цырымоніі, якія трэба зрабіць перад ядою. На дварэ яшчэ цемнавата.

— Ты, Мотэль, сёння працуеш у арцелі? — нечакана запытала Сіма.

Так, ён сёння працуе ў арцелі. А што зацікавіла Сіму? Яна вельмі далёкі ад арцелі чалавек.

— Ты, мабыць, спяшаешся на працу? — зноў запытала Сіма. «Няўжо я так хутка ем!» — падумаў Мотэль.

Магчыма, што ён спяшаецца, але да гэтага нікому няма справы.

Адказ крыху жорсткі. Сіма нездаволена адвярнулася. Мотэль апранае шынель. У мястэчку пайшла на іх мода.

Мотэль зашпіліўся на ўсе гузікі і зноў зірнуў у люстра.

Праз некалькі хвілін ён быў у майстэрні. Там была толькі Ірына.

— Добры дзень, таварыш Сідаровіч!

— А-а, Мотэль! Вы ўжо прыйшлі. Дзень добры!

Ён пацiснуў яе руку. Хто казаў, што ў яе велікаватыя рукі? Глупства!

— Вам падыходзіць шынель. Хто яго пашыў?

— Кічын,— адказаў Мотэль.

— Ці не можаце вы скінуць шынель і паказаць, як ён пашыты?

Мотэль распрануўся. Ірына ўзяла шынель, паклала на стол, разгледзела, павярнула на другі бок.

— Наша арцель не шые шынялёў. Нам іх не заказваюць. Але калі закажуць, то вы, Мотэль, дазволіце пакарыстацца вашым.

— Калі ласка! Я аддам яго вам хоць на тыдзень. На месяц, калі трэба.

— От і добра. Мы ўсё робім самі. Вучымся... У нас няма майстроў.

Ах як добра пачаўся дзень! Але ў майстэрню прыйшоў Танель Яхніч, сын кажушніка Лейбы Яхніча.

— Ты, Танель, прыходзіш раней усіх.

Яна, здаецца, рада гэтаму доўгаму і тонкаму хлапчуку.

— Мне тут многа лепш, як дома! — кажа Танель.

Краўчыхі прыходзяць адна за адной. Пачынаецца працоўны дзень. Нехта спявае пад нос песню без слоў. Ці давядзецца яму сёння яшчэ пагутарыць з Ірынай? Ён застанецца пазней, знойдзе прычыну для гэтага.

Мотэль працаваў і думаў. Ужо цяпер, раніцаю, ён чакаў вечара і нават спалохаўся, калі ўспамянуў, што заўтра не будзе тут. І не толькі заўтра: цэлых тры дні! Ці можна знайсці прычыну, каб заходзіць сюды вечарамі пасля працы ў выканкоме? Безумоўна, можна!

Ён часта лавіў сябе на тым, што глядзіць не на рахунак, які ляжыць пад носам, а на Ірыну Сідаровіч.

Вось яна падышла да Танеля Яхніча.

— Танель, табе ўчора прывезлі дроў?

— Два вазы. Мама вельмі рада. Я іх, Ірына, усе папілаваў.

— Ну вось і добра.

Аб чым яны гавораць? Мотэль адчуў, што яго шыя стала даўжэйшай. Гэты Танель нешта ёй шэпча. У майстэрні шум, нічога не чуваць.

— Ірына,— шэпча Танель.— Я хачу запісацца ў камсамол.

— А што скажуць дома?

— Мама кажа, што яна нічога не ведае, і што мне лепш відаць.

— А тата?

— Яго няма дома. І тата няхай аб гэтым не ведае.

Ірына засмяялася...

І Танелю яна смяецца не толькі вачамі! «Аб чым ёй шэпча гэты хлапчук!»

— Добра, Танель, ты вечарамі прыходзь у клуб. Мы аб табе пагаворым у ячэйцы.

— Добра, Ірына! — Танель шчасліва ўсміхнуўся.— Каб ты ведала, як сумна дома!

— Я ведаю, Танель.

— А раней мне дома не было сумна.

А цяпер яна ідзе да Мотэля. Мотэль апусціў вочы. Ён заляскаў лічыльнікамі. Яна ўжо ля століка. У Мотэля дрыжыць сэрца... Не, яна не спынілася.

Мотэль перабірае рахункі, квіткі, фактуры, распіскі, разлікі, ведамасці. Тыя ў прыход, тыя ў расход. Тут сапраўднае прадпрыемства. А калі кравецкая сальецца з смалакурняй і дзягцярняй, тут будуць патрэбны бухгалтар і некалькі рахункаводаў.

Не дрэнна было б заняць тут сталае месца!

Ці кончыць ён работу да вечара? Не. Прыйдзецца застацца на вечар. Прычына прыйшла сама. Шчасліваму чалавеку шанцуе. Мотэль працуе і наглядае. Ён бачыць, што ў гэтай арцелі Ірыну ўсе паважаюць. Усе рады пачуць ад яе слова. Усе працуюць старанна, ніхто не агінаецца. Тут ва ўсіх вясёлыя твары. Ён быў у Кічына, дзе шылі яму шынель. Там зусім інакш. Там ніхто не спявае, і краўцы грызуцца між сабою. У Мотэлевай галаве з'яўляецца цікавая думка, на якой варта спыніцца.

Ці можна ўявіць, што Ірына Сідаровіч стане Ірынай Сапун. Будзем лічыць, што можна. Мотэль Сапун вечарам прыходзіць дамоў з выканкома. Ірына з арцелі, можна ўявіць, што абое з арцелі. Шчаслівы адпачынак дома. Мандаліна... Што б сказалі на гэта хатнія? Аднак жа Довід не палічыўся з хатнімі... Прыйдзецца пазмагацца!

Але ў майстэрню, як бура, урываецца Іван Барай.

«Няўжо ён кожны дзень ходзіць сюды?»

— Добры дзень, таварышы! А-а, Сапун! Здароў! Ты ўжо тут? Малайчына.

Ён падае Мотэлю руку. Мотэль з нянавісцю паціскае яе.

— Ты ідзеш з клуба, Іван?

— З клуба.

Усе пакінулі працу. Усе рады гэтаму Бараю. Да яго зварочваюцца з запытаннямі. Ён адказвае ўсім моцным праступджаным голасам.

— Іван,— пытае Танель,— а на трывозе былі ўсе камсамольцы?

— Усе,— адказвае Барай.

— Я вельмі спалохаўся, калі была трывога... Я думаў, што гэта ўжо бандыты.

— Нічога, брат Танель! Не ты адзін спалохаўся. Ну як тут у вас? — звяртаецца ён да Ірыны.

— Звычайна. Толькі Мотэлю сёння вельмі многа работы.

«Адкуль яна ведае? Няўжо яна клапоціцца аб ім, думае пра яго?»

— Нічога! — кажа Іван Барай і стукае Мотэля па плячы.— Ён зробіць.

«Якое ён мае права так да мяне адносіцца?»

А Барая ўжо няма: ён выйшаў, забыўшыся развітацца.

У Мотэля адлягло на сэрцы. Не, у яго з ёю нічога няма.

Настаў вечар. З майстэрні ўсе пайшлі дамоў. Толькі Танель Яхніч тырчаў з паўгадзіны пасля ўсіх. «Што яму тут трэба, гэтаму свінтуху?»

— Вы ў нас сёння замучыліся, Мотэль.

— Не. Я ўжо канчаю... Дзе вы праводзіце вечары, Ірына?

— У клубе. Я працую бібліятэкарам у камсамольскім клубе.

— Кожны вечар?

— Ага.

І гэтае «ага» прагучала як «аха». Ён дорага даў бы, каб чуць яго кожны дзень.

— Чаму вы, Мотэль, не ўступаеце ў камсамол? Довід наш лепшы камсамолец.

— Я аб гэтым не думаў.

— А вы падумайце! — Яна смяецца ўся! Смяецца, як Івану Бараю і гэтаму Танелю.

Шчасце набухае ў сэрцы Мотэля. Яно бушуе там і распірае грудзі.

Дадому ён ідзе, хістаючыся ад шчасця.

Цудоўны вечар на дварэ.

Якое празрыстае неба! Якія яркія зоры! Колькі іх па-

танула ў рацэ — яна блішчыць, пераліваецца. Чаму Мотэль раней не бачыў гэтага?

Дома ён перш за ўсё зняў мандаліну. Ён крануў струны, і яны ласкава заспявалі. Потым загучаў матыў і паліўся без канца, поўны шчасця і надзеі.

Ігнась адчыніў дзверы і застыў: ён яшчэ не чуў такой музыкі.

— Ах, Мотэль, ты сёння іграў лепш, чым усе разы,— сказала Лея, калі ён скончыў.

Ён сам ведаў гэта.

— Ну як у майстэрні? — зацікавілася Сіма.

— Звычайна,— адказаў ён жорстка.

— А як гэта звычайна? — ухмыльнулася Сіма.— Як там бывае звычайна?

— Людзі працуюць...

Яна замоўкла і пайшла ў спальню.

Потым прыйшоў Довід. Хатнія цяпер не размаўлялі з ім.

Ён таксама маўчыць. Бо яму цяжка! З хатніх ніхто не спачувае яму. Толькі кватаранты: Лявон Богуш і гэты палешучок Ігнась.

— Довід,— кажа Мотэль.— Табе трэба адпачыць.

— Чаму? — Довід здзіўлена глянуў на Мотэля.

І ўсе хатнія павярнулі галовы ў яго бок. «Нічога. Вы яшчэ пачуеце не гэта!»

— Ты вельмі схуднеў і пачарнеў за апошні час.

Довід правёў далонню па твары.

— Магчыма. Працы цяпер хапае, брат Мотэль.

І гэтае «брат Мотэль», як жывое, улезла ў Мотэлеву душу.

— Трэба адпачыць. Дзён тры пабыць дома.

— Ну, а гэта немагчыма!

Аднак ёсць нешта агульнае ў Довіда і ў Івана... Яны нават падобныя.

Пасля вячэры Мотэлю хацелася выйсці ўслед за Довідам, пагутарыць з ім як брат з братам. А потым ісці разам туды, у камсамольскі клуб.

Не. Ён яшчэ пачакае. Трэба пачакаць... Цяпер такі час.

Мотэль доўга не спаў і чуў, што ў суседнім пакоі не спіць Сіма.

Чаго яна так круціцца? Што за цікаўнасць сёння адалела яе? І раніцаю і цяпер.

А Сіма думала, што ёй у жыцці нечага не хапае. Чаго ёй не хапае? У яе ёсць жаніх. Ён любіць яе. Яна яго таксама. Яна будзе шчаслівай замужам. Яна будзе забяспечана ўсім. І ўсё-такі нечага не хапае.

«Людзі працуюць,— адказаў ёй Мотэль.— А яна ці ўмее працаваць!»

Шэрыя аднастайныя дні цякуць адзін за адным. Раніца не прыносіць нічога новага. Вечарам няма адпачынку. Ірына — яе сяброўка па школе — працуе. Яе цяпер ведае ўсё мястэчка. Пра яе гавораць. Адны са злосцю, другія з павагай. Яна жыве поўным, цікавым жыццём!..

І Сіма, закруціўшыся з галавой у коўдру, заплакала. Ах, як яна зайздросціла Ірыне! Сёння Мотэль быў як зачараваны. І раніцаю бягом імчаўся ў майстэрню... Сіма бачыла гэта праз акно сваёй спальні.

## 39

Падыходзіла зіма. Сыпаўся калючы сняжок, і сівер наганяў холад. У такія дні бразгаталі ў школе аконныя шыбы і ў незалатаныя дзіркі ўрываўся вецер.

Зяблі рукі. На пісьмовых уроках ручка вывальвалася з пальцаў.

Хвядос Іванавіч прыходзіў на заняткі ў адной камізэльцы.

— Мне здаецца, што не так і холадна сёння. Крыху ветрык ёсць, дык гэта ж адно глупства.

І здавалася, што і сапраўды не так холадна, і вучні скідалі світкі, каб вальней было пісаць.

Урокі ён даводзіў да канца, упарта насядаючы на праграму, і трэба сказаць, што прадметы, якія ён выкладаў, вучні ведалі лепш за іншыя. У адсутнасці загадчыка ён вёў матэматыку, калі не было Фаіны Тодараўны, геаграфію, і вучні палюбілі брытагаловага настаўніка. Не толькі гаварыць, нават дрэнна падумаць аб ім было вялікай здрадай. І гэта стала няпісаным законам школы.

У такія халодныя дні Фаіна Тодараўна зусім не прыходзіла на заняткі. А вучням таго і хацелася. Яны ведалі, што ўрок геаграфіі правядзе Хвядос Іванавіч.

Вось у адзін з такіх дзён у пятым класе адбылося незвычайнае.

Пасля вялікага перапынку павінна была быць геаграфія, і ўсе чакалі Фаіну Тодараўну. Стол быў вымыты,

дошка блішчала. Крэсла стаяла на сваім месцы, на стале чарнільніца і ручка з пяром. Беліцкі бегаў па класе і аддаваў загады.

— Званок быў ці не? Быў. Значыць, трэба сядзець і не рыпацца. А калі хто рыпнецца, то во! Бачыце! — ён паказваў усім свой важкі кулак і махаў ім ля насоў больш неспакойных хлопцаў. Але як жа здзівіўся Беліцкі, калі замест Фаіны Тодараўны ў клас увайшоў Васіль Андрэевіч. Ён памкнуўся быў нешта сказаць, але пераглянуўся з Ключэнем і сеў на сваё месца.

Настаўнік агледзеў клас і задаволена ўсміхнуўся.

— Хто сёння дзяжурны?

— Я! — Беліцкі, як на пружынах узляцеў над партай.

— Цішэй, галубок, а то галавой столь праб'еш! — пажартаваў Васіль Андрэевіч.

— Фаіны Тодараўны няма, таму замест геаграфіі правядзём прыродазнаўства. Ну, хто хоча адказаць урок? Ніхто. Ну, вы.

Рудзеня Зміцер стаяў ля дошкі. Ён маўчаў, нібы набраў поўны рот вады.

— Ага, галубок! А можа, ты мне скажаш, якія асаблівасці мае вадарод?

— Вадарод — ён гарыць.

— Добра. А гарэнне падтрымлівае?

— Падтрымлівае.

— Падтрымлівае? Навіна! А колькі табе гадоў?

— Чатырнаццаць.

— Ну то ідзі на месца, галубчык.

Прыжмурыўшы вочы, настаўнік спыніўся на Беліцкім.

— Скажыце, голуб, у якіх станах бывае вада?

— Вада бывае ў трох станах...

— Будзе. Сядайце. Вы, галубок, сёння малайчына! А хто мне скажа, у якіх іменна трох станах. Ну, вы, галубчык! Вам, здаецца, нечага смешна.

На гэты раз галубчыкам аказаўся Ігнась.

— Вада бывае ў трох станах. Звычайная вада рэк, азёр і іншых вадаёмаў заўсёды бывае ў вадкім стане. У цвёрдым — гэта лёд. Спачатку пры холадзе вада згушчаецца, потым ператвараецца ў лёд. Калі вада пераходзіць у лёд, то яна расшыраецца, таму лёд і лягчэй вады, ён заўсёды знаходзіцца на паверхні...

Васіль Андрэевіч не чакаў такога адказу. Ён заміла-ваўся і вырашыў сесці хвіліну адпачыць. Паволі, па-старэчы сеў ён на крэсла.

— Бу-б-бух! — нібы бомба ўзарвалася пад настаўнікам. Клубок дыму падняўся з-пад крэсла і паплыў па класе.

Васіль Андрэевіч памкнуўся ўстаць, ды так і не ўстаў. Замест слоў з губ яго сарвалася: «А-а-а!» Некалькі хвілін было ціха. Настаўнік памалу падняўся і, хістаючыся, пайшоў з класа.

— Не выдаваць, хлопцы, нікога! Выжыве Галубок! — папярэдзіў усіх Беліцкі.

Янка Ткачук перасеў на парту Ігнася.

— Помніш, Ігнась, пробкі ад пугача? Яны тут пад крэслам. Я тады яшчэ казаў табе, што хлопцы прыдумаюць фокус.

— Ціха, Ткачук! У класе павінна быць цішыня! — крыкнуў Беліцкі.

Ігнась устаў. Ён вылез з-за парты, падышоў да Беліцкага.

— Эх ты! Свіння ты рабая!

— Не забывайся, Марыніч, я табе кажу...

— Мы з табою разлічымся, Беліцкі! Помні, я дарэмна не гавару. Я з цябе зрабіў бы цеста, нічога, што ты доўгі, але не хачу паскудзіць клас. А пасля ўрокаў ты не ўцячэш!

Ён сеў на месца, і злосць бурліла ў ім, як кіпень.

— Не хвалюйся, Ігнась,— шапнуў яму Янка.— Навучыць яго трэба, не ўцячэ!

Ніхто не чакаў Хвядоса Іванавіча, а ў клас прыйшоў ён.

Ён падняў крэсла, і ўсе ўбачылі, што ў ножкі яго забіты цвікі, а на іх надзеты пробкі ад пугача.

— Ніколі я не чакаў такога ад пятага класа. Вось табе і пяты клас! Вам вядома, што я замяшчаю загадчыка? Ну, дык я гавару з вамі як загадчык. Чыя гэта работа?

— Хвядос Іванавіч! — Ігнась устаў. Але Беліцкі махнуў яму рукою: сядзь! — і падняўся над лаўкай, чырвоны ад сораму.

— Мая.

— І мая,— Ключэня не пакінуў сябра ў бядзе.

— Значыць, вы. Хадзем. Няхай на вас паглядзіць уся школа.

Адбыўся вучнёўскі сход. На парадку дня стаяла адно пытанне: учынак вучняў пятага класа Беліцкага і Ключэні.

Сход адкрыў старшыня вучкома Васіль Бажко. Ён прачытаў рашэнне школьнага савета аб тым, што Беліцкі і Ключэня за злосны антывучнёўскі ўчынак выключаюцца са школы.

Пакуль Бажко чытаў, усе маўчалі і ўважліва слухалі, але калі ён скончыў, у натоўпе вучняў прабег шумок. Хвядос Іванавіч не спускаў вачэй з грамады, нібы разгадваў сэнс гэтага шуму.

— Дзеці! Цікава паслухаць, што скажаце вы самі адносна паводзін Беліцкага і Ключэні. Бажко, вядзіце сход.

— Хто хоча гаварыць?

— Я! Дай мне слова, Васіль! — да стала прабраўся вучань сёмага класа Гардыенка Фоці, сын дзяка.— Я лічу і думаю, што многія так лічаць, што рашэнне школьнага савета правільнае. Але трэба дадаць, выключыць без права паступлення ў іншыя школы. Раней за такія рэчы давалі воўчы білет.

— Не тыкай ранейшым! — крыкнуў нехта ззаду.

— Гэта табе не белапалякі! — адазваўся другі.

— Гаварыце па чарзе! — папярэдзіў Бажко.

— Мне слова! — папрасіў Айзенштат, таксама вучань сёмага класа.— Я згодзен з Гардыенкам, так і павінна быць!

— Выключыць, правільна! Гнаць вон! Не месца такім у школе! — крычалі з розных кутоў.

— Цішэй! Гаварыце па адным! Што гэта за сход, калі ўсе гавораць разам, а слова не просяць! — супакойваў Бажко вучняў.

— Гаварыць няма аб чым! — адгукнуўся з самага заду Грыневіч Лёнік.— Адмяняць рашэнне школьнага савета ніхто не хоча.

— Многія вучні кураць! — крыкнуў нехта ззаду.— Вон са школы курцоў!

— Слова мае Богуш Лявон! — абвясціў Васіль, і ўсе прыціхлі.

— Таварышы! Трэба папрасіць сюды Васіля Андрэевіча. Ён тут неабходны.

— Просім, просім! — закрычалі вучні.

Хвядос Іванавіч пайшоў у настаўніцкую і вярнуўся з Васілём Андрэевічам. Васіль Андрэевіч ішоў ззаду. Ён ні на кога не глядзеў. Сагнуты, худы і сівы, як сапраўдны голуб, ён яшчэ больш пастарэў і сагнуўся.

— Таварышы! Мы, камсамольцы, згаджаемся з рашэннем школьнага савета. Мы ўсе супроць хуліганства, супроць хуліганаў... Але якую выхаваўчую працу вядзе школьны савет сярод вучняў малодшых класаў? Ніякай. А ці вядома вам, як некаторыя настаўнікі вядуць урокі? Я для прыкладу назаву Васіля Андрэевіча і Фаіну Тодараўну. Яна абзывае вучняў свіннямі. І хто паручыцца, што і яе не «ўзарвуць»? Трэба ўлічыць і тое, што пяты клас малодшы ў другой ступені. Хлопцы прыехалі з вёсак. Каб гэта было зроблена Гардыенкам або Айзенштатам, то мы б зачынілі за імі школьныя дзверы.

— Якія цікавыя прыклады! — выгукнуў Айзенштат.

— Не збіваць прамоўцу! — папярэдзіў Васіль.

— А тут, таварышы, трэба падумаць. Я прапаную даць слова Беліцкаму і Ключэні.

Воплескі былі яму дружным адказам і знакам згоды.

Беліцкі ішоў да стала страшна ўсхваляваны. Ён глядзеў на свае ногі і, мабыць, не бачыў іх. А Ключэня злажыў губы ў трубачку, нібы хацеў свіснуць на ўсё. Аднак хлопцы заўважылі, што гэта толькі фанабэрыя, а ў душы Ключыка-замочка віруе цэлая бура.

Беліцкі стаў ля стала і выпрастаўся. Ён адшукаў вачамі Ігнася і глянуў на яго.

— Я дурань і рабая свіння,— сказаў ён.

Ніхто не мог вытрымаць: ні хлопцы, ні дзяўчаты, ні старэйшыя, ні малодшыя. Нават Хвядос Іванавіч засмяяўся. Толькі Васіль Андрэевіч стаяў, як каменны.

Бажко пачаў званіць, каб супакоіць сход.

— Я таксама...— сказаў Ключэня.

— Што таксама? — запытаў яго Бажко.

— Дурань і...

— Рабая свіння! — гуртам адказаў сход.

Наогул сход стаў надта вясёлы, трэба было прывесці яго ў парадак.

— Гэтага мала, Беліцкі,— сказаў Богуш,— вельмі мала.

— Я сам ведаю, што мала,— панура адказаў Беліцкі.— Няхай Васіль Андрэевіч на нас не злуецца. Мы

вінаваты... Гэта я прыдумаў такі фокус... Толькі са школы я нікуды не пайду... Хоць і выганіце.

— Дазвольце мне! — Васіль Андрэевіч выйшаў наперад. Ніхто гэтага не чакаў, і ўсе сціхлі: не толькі руxаў, дыхання не было чуваць. Ігнасю здавалася, што Васіль Андрэевіч скажа: «Галубчыкі, даволі займацца глупствам!» — Але адбылося іншае.

— Дзеці! — сказаў Васіль Андрэевіч.— Я прашу школьны савет і сход пакінуць Беліцкага і Ключэню ў школе. Галубчыкі, бываюць памылкі... Мы памыліліся. Школьны савет зрабіў памылку, і сход хоча памыліцца. Нам усім цяпер не мала дастаецца. Я дарую хлопцам... Эх, дзеці! Я быў нядрэнным выкладчыкам калісь... Галубчыкі, тут толькі і ёсць тры вінаватых: я, Беліцкі і Ключэня... Мы паправімся! — ён глянуў на Беліцкага і Ключэню.

— Абавязкова, Васіль Андрэевіч! — сказаў Беліцкі.— Толькі няхай не выключаюць. Куды я пайду са школы?

Нехта пачаў апладзіраваць. Праз хвіліну заапладзіравалі ўсе.

Тады ўзяў слова Хвядос Іванавіч.

— Усё гэта добра,— сказаў ён.— Я не чакаў гэтага. Аднак без пакарання Беліцкага і Ключэню школьны савет не пакіне. І не можа пакінуць. Дараваць такі ўчынак нельга. Мы абмяркуем гэтае пытанне яшчэ раз, улічым усё. Сваю думку я выкажу наперад: выключыць Беліцкага і Ключэню ўмоўна да канца вучэбнага года. Няхай яны помняць, што яшчэ адно хуліганства і ім не бачыць школы, як сваіх вушэй. Васіль Андрэевіч кажа, што ўсім цяпер цяжка. Праўда, не лёгка. У цяжкія часы і неабходна ўзмацняць дысцыпліну. Наша краіна перажыла не такія цяжкія гады, а цяпер мы выходзім на светлую дарогу і з тымі, хто нам замінае, не будзем лічыцца.

Пасля сходу заняткаў не было. Вучні ішлі дадому гурткамі, і кожны гурток горача абмяркоўваў тое, што адбылося на сходзе.

Гардыенка, Айзенштат, Грыневіч і Барысевіч, вучні сёмага класа, ішлі асобна.

— Вось і паглядзелі камедыю! — гаварыў Гардыенка.— Тэатра ў мястэчку няма, а тут дармавое відовішча.

— Аж сорамна было слухаць! Ідылія! — дадаў Грыневіч.

— Васіль Андрэевіч, далібог, ужо здзяцінеў! — засмяяўся Барысевіч.

Беліцкі дагнаў Ігнася на рыначнай плошчы.

— Пастой, Марыніч! — крыкнуў ён. Ігнась спыніўся.

— Ну, на, зрабі з мяне цеста!

— Ты што, жартуеш, Беліцкі?

— Не.

— Дык што ж — даць табе пад вуха?

— Калі хочаш, дай, і памірымся.

— Мы з табою яшчэ не ваявалі, Юзік, а сябраваць з табою я і так згодзен.

Пасля сходу ўрокі прыродазнаўства пачалі праходзіць зусім інакш. Вучні паверылі, што Васіль Андрэевіч сапраўды добры выкладчык. Асаблівую павагу ён здабыў за доследы здабывання вадарода і кісларода. У пошуках прэпаратаў ён абышоў усё мястэчка, але доследы ўдаліся.

Фаіна Тодараўна пакінула абзываць вучняў і баялася крэсла, як агню.

Вучні старэйшых класаў шкадавалі, што загадчык часта ездзіць у вёскі. Ён быў патрэбен школе не толькі як загадчык, але як выкладчык матэматыкі. Вучні адставалі па алгебры і геаметрыі. І вось выручыў усіх ні хто іншы, як Васіль Андрэевіч. Ён даў згоду выкладаць матэматыку. Вучні ажылі. На першым жа ўроку аказалася, што ён вельмі добра выкладае. Аб гэтым пайшлі гутаркі. Васіль Андрэевіч разагнуў згорбленую постаць і ўпэўнена хадзіў па школе.

Гардыенка распусціў чуткі, што Тарас Ігнатавіч сам не ведае матэматыкі, а загадчыкам яго паставілі таму, што ён камуніст.

І вось на ўроку геаметрыі Васіль Андрэевіч выклікаў да дошкі Гардыенку. Гардыенка ля дошкі прастаяў слупам. Тады Васіль Андрэевіч устаў з крэсла.

— Малады чалавек! — сказаў ён, твар яго пабялеў і скрывіўся.— Здаецца, вы распускаеце чуткі, што наш загадчык зусім не настаўнік. Хм... Вы можаце, напрыклад, сказаць, што і я не настаўнік, бо сённяшняе маё тлумачэнне нічога вам не дало. Хм... Вы не прыкмецілі на сабе, што ў некаторых людзей язык працуе значна лепш, чым галава? Не прыкмецілі? Шкада! А з Тарасам

Ігнатавічам мы разам канчалі Глухаўскі інстытут. У некаторых школах і працавалі разам. Ён ды і я, не хвалючыся, лічыліся неблаганадзейнымі. Тараса Ігнатавіча не раз і арыштоўвалі... Сорамна, малады чалавек з малымі ведамі і доўгім языком...— ён прайшоў па класе, зірнуў на Гардыенку, як страус на куранё, і сказаў любімае: — Сядайце, галубчык!

Вучні сёмага класа казалі, што ў гэты момант яны перажылі страшную кару: іх распірала ад смеху, а смяяцца было няможна. І ўсё-такі яны вытрымалі.

## 40

Раніца была на дварэ. Сонца яшчэ толькі ўзышло. На платах, на зямлі, на стрэхах ляжаў іней. Ён вісеў на дрэвах, запушыўшы кожную галінку.

Бранавіцкі ліхаманкава круціўся па двары. «Дзе падзеўся Змітрок?»

Ляснічы абышоў кантору, хлявы, гумны, аблазіў усе будынiны і куты. Змітрака нідзе не было. «Што ён, растаў?» Яшчэ ўчора вечарам быў дома, пасля вячэры падрыхтаваў пасцелі, потым у сваёй каморы плёў лапці, а сёння згінуў без следу.

Бранавіцкі задумаўся: трывога ахапіла яго. І задумацца было над чым. Ён даўно ўжо прыкмеціў, што Змітрок засумаваў і пачаў забывацца. Гэта здарылася пасля Ляснога. «Трэба ж было мне браць яго туды!» І ўсё гэта Багалевіч і Патржанецкі... «Трэба ж было забіць столькі людзей, і каго? Не толькі камуністаў і яўрэяў, жанок, дзяцей... На вачах у Змітрака. Забіць па чарзе, аднаго за адным і чым? Даўбнёй». Сам Бранавіцкі не мог глядзець на такую расправу, а Змітрок!.. Ён састарыўся там, пасінеў і аслабеў да таго, што не мог стаяць. «А ўсё гэты Багалевіч... Ён сам арудаваў даўбнёй...» Забітых скідалі ў пусты зруб, напхалі яго поўны.

Не, Бранавіцкі не спачувае такім метадам барацьбы. Ён супроць такіх метадаў. Але ён павінен маўчаць... Ён яшчэ хоча жыць. У гэтых малойчыкаў расправа вельмі кароткая. Патржанецкі сапраўдны звер і д'ябал. Багалевіч — тыгр. І тыгр пашкадуе хутчэй, чым ён... І гэтыя звяры спяць сёння ў Бранавіцкага. З імі тры памочнікі — сапраўдныя разбойнікі. Яны прачнуцца і захочуць

жэрці. Прачнуцца позна, бо ў Бранавіцкага можна адаспацца, нікога не баючыся.

«Дзе Змітрок?» Бранавіцкі яшчэ верыў, што ён з'явіцца. Мо ён пайшоў у лес. Бранавіцкі спыніўся ля варот і зірнуў на дарогу: там нікога не было відаць. Сонца паднялося, яно злізала іней, толькі ў цяньку ён яшчэ бялеўся. Бранавіцкі кінуўся да ракі. Човен гойдаўся на вадзе, прывязаны да слупа.

Бранавіцкі пабрыў у дом. «Не трэба хвалявацца»,— думаў ён, адчыняючы дзверы.

Патржанецкі, ужо абуты, стаяў пасярод пакоя. Бранавіцкі пераступіў парог белы як абрус.

— Што з вамі, Іван Бенедыктавіч?

— Бяда... бяда, Іван Аляксеевіч...

Твар Патржанецкага перакасіўся.

— Што?

— Змітрака няма. Уцёк....

— Я не разумею вас!..

— Кухара майго няма... Уцёк ноччу ці раніцай.

— Андрэя Сінічкі?

— Андрэя... Змітрака...

— Ага! — Патржанецкі схапіў ляснічага за грудзі і адпіхнуў ад сябе ўбок. Бранавіцкі чмякнуўся на канапу і стукнуўся галавой аб люстра. Шкло дзынкнула, і на ім паказаўся даўганогі павук.

— Свіння аблавухая... баба!..— Ён ірвануўся да дзвярэй,— Багалевіч! Трывога!

Бандзюкі ўскочылі з ложкаў. Разаспаныя, з распухлымі тварамі, яны кінуліся да сваёй вопраткі і абутку. Багалевіч першы чортам вылецеў з спальні і выцягнуўся перад Патржанецкім.

— У чым справа, капітан?

— Здрада, Багалевіч! Здрада... Кухар ляснічага ўцёк немаведама куды... Ён пайшоў прадаваць нас!..

— Дагонім, капітан!..

— Колькі ў цябе коней, ляснічы?

— Тры.

— Падрыхтаваць!

Ляснічы і бандыты выскачылі з пакоя.

— Сам паедзеш, Багалевіч?

— Сам, капітан.

— Ты тут ведаеш усе дарогі. Вазьмі з сабой Старэцкага і Сасноўскага Казю. Стася пашлём у лагер к Плы-

шэўскаму, каб быў напагатове. Калі зловіце, жывога не пускайце. Папярэдзь усіх.

— Добра, капітан. А калі не зловім?

— Назад сюды, колькі сілы.

— Ёсць, капітан.

— З богам!..

Патржанецкі, як кажуць, ірваў і кідаўся. Аднаго бандыта даслаў у лагер, і толькі тады крыху супакоіўся, калі стук капыт замёр у далечыні.

Бранавіцкі ішоў ад хлява да канторы, як п'яны. Ён не разумеў, што робіцца ў яго галаве. «Канец... Як нечакана ён прыйшоў». Ён убачыў Патржанецкага ля ганка свайго дома і зразумеў, што не толькі яму канец. Ён абвёў позіркам сядзібу лясніцтва, і яму здалося, што ён бачыць яе апошні раз. Яго агарнуў жаль. Ён не ведаў, чаго яму стала шкада, ці сябе, ці гэтага прыгожага месца, якое стала яго радзімай. Потым жаль прайшоў і з'явілася злосць. Ён рашуча закрочыў туды, дзе стаяў Патржанецкі.

— Ну, што, пан ляснічы, той, каму вы верылі, як сабе, здрадзіў.

Бранавіцкі зірнуў на яго з нянавісцю і адказаў:

— Ідзіце к усім д'яблам, пан прыстаў.

Патржанецкі не паверыў сваім вушам.

— Што вы сказалі, Іван Бенедыктавіч?

— Ідзіце к усім д'яблам!

Патржанецкі бліснуў вачамі, але ў іх засвяціўся жах: «Няўжо і гэты прадасць?!»

— Вы кінуліся ў істэрыку... Глупства... Справа яшчэ не праіграна! — Ён узяў Бранавіцкага пад руку і павёў яго ў пакоі.

...Змітрок не спяшаўся. Ён памалу ішоў па лясной дарожцы. Куды? Бог яго ведае куды... У белы свет. Ці знойдзе ён сабе прытулак, каб дажыць апошнія гады свайго жыцця. Наўрад... Можа, прыйдзецца мераць палескія дарогі ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара. Тут дзень, там ноч. А памерці ўсюды можна. Але жыць у лясніцтве хопіць. Ён зненавідзеў гэты куток, які быў яго турмой на працягу многіх гадоў.

На белым свеце нешта робіцца.

Нейкі туман стаяў у яго галаве. Праз гэты туман

адзін за адным праходзілі ўспаміны яго жыцця. Яны праскакалі і нічога не пакінулі ў душы. А што робіцца на белым свеце? Няўжо толькі грабяжы і забойствы? Мала ведаў аб жыцці Андрэй Сінічка.

Горкае сіроцкае дзяцінства. Бадзянне па вёсках са сляпым лірнікам. Манастыр з турэмным ладам для маладых паслушнікаў.

Жаночую ласку ён уведаў у сорак гадоў. Ён нават забыўся, як звалі тую жанчыну. Ён толькі адзін раз бачыў яе мужа. У тую ноч, калі забіў яго. Забіў нехаця, абараняючыся, бо сам хацеў жыць.

А што робіцца на белым свеце?

Ён верна служыў ляснічаму. Ён сцярог яго ад бяды і немачы, паважаў і любіў, як сына... А ляснічы лічыў яго забойцам.

І ў тую ноч, у тую страшную ноч у мястэчку Лясным, Сінічка ўзненавідзеў ляснічага.

Мабыць, Сінічку ўзялі туды за ка́та. Эх вы! У яго не выходзілі з галавы тыя забітыя ў Лясным людзі. Яны з'яўляліся да яго начамі не адзін раз... І тая жанчына, якая цалавала Патржанецкаму боты і маліла яго, як бога, каб ён падараваў жыццё яе дачцэ. Прыгожай дзяўчынцы дванаццаці гадоў. Звер адпіхнуў яе нагою. Божа мой! Дзяўчынку пхнулі ў зруб. Там ля парога стаяў Багалевіч... з даўбнёю!

Гэты гук і цяпер стаіць у яго вушах... Ірады! Калі ёсць на зямлі ўлада, вы будзеце пакараны. Сінічка вырашыў знайсці закон. Ён пойдзе ўперадзе тых, хто прыйдзе караць забойцаў.

Маўчаў асенні лес.

Хто я? Змітрок ці Андрэй? Не, я больш не буду Змітраком. Як звалі майго бацьку?

А лес маўчаў. Бязгучна варушыліся галіны дрэў. Ці я адвык ад хадзьбы, ці вельмі стары?

Сонца ўзышло. «Святое сонейка ўсіх грэе аднолькава».

Ажыў лес. Мацней загойдаліся галіны, зашумелі. Завуркала вавёрка на высокай сасне, і адтуль пасыпаліся лускі аб'едзенай шышкі.

Андрэй Сінічка не спяшаўся. Лямкі ад торбы крыху церлі плечы: «Я ўжо старэўся...» На дарогу выскачыў заяц, сеў на заднія лапы, паварушыў вушамі. Потым ірвануўся і знік у лесе. Заяц — дрэнная прыкмета.

Нешта робіцца на белым свеце. Нешта новае. Яно нават адчувалася і ў лясніцтве. Іначай глядзяць сяляне. Смялей, весялей. Не гнуцца. А калі гнуцца, то нехаця.

Андрэй Сінічка адышоў глыбей у лес, сеў на выварат і зняў торбу. Пачаў даставаць хлеб, і раптам нейкі жаль агарнуў яго сэрца. І ён заплакаў. Ці таму, што снеданне сёння не дома... Ці таму, што ніколі не меў свайго дома... Бядак павінен памерці бедаком... І плакаў Андрэй Сінічка над торбаю з хлебам. Плакаў да стомы і задрамаў на вывараце, прытуліўшыся плячамі да гнілога пня.

Сасноўскі Казімір не ўмеў ездзіць верхам. Ён тросся ў сядле і думаў, што капітан зрабіў памылку, паслаўшы яго ў пагоню. Пад яго рост яму далі самага большага каня — дужую ўбоіну велічынёю з слана, на якім не верхам ездзіць, а толькі гаршкі вазіць на продаж. Так думаў пра свайго каня Сасноўскі, але ён памыляўся, вінават быў не конь, а сам яздок.

Калі Багалевіч даў яму напрамак, ён крыху праехаў рыссю, потым даў каню адпачынак і пусціў яго ціхаю ступою. Ён не верыў, што каму-небудзь з іх траіх удасца нагнаць Змітрака. Будучы капітанам, ён проста прыдушыў бы ляснічага, гэтую бабу ў штанах, і выбраўся б адсюль назаўсёды, у лес, у лагер, дзе няма ніякіх баб, а ўсе хлопцы, як агонь. Але ў капітана з гэтым ляснічым нейкая палітыка... Спыніўшыся на такіх думках, ён забыў паганяць каня. Дарога вяла лесам, на ёй амаль не было слядоў, відаць, гэта быў зімнік, а не летняя дарога. Ліха іх ведае, гэтыя дарогі ў чортавым Палессі. Сасноўскі быў палявік і не любіў лясоў.

— Так можна і заснуць! Но, воўчае мяса!

Конь перайшоў у рысь, раптам шарахнуўся ўбок, і Сасноўскі ледзь не выскачыў з сядла.

— А, зараза! Купіны баішся! — ён перацягнуў каня бізуном, але конь упарта павярнуў убок і памчаўся па лесе без ніякай дарогі.

— К-куды, падла! — ён з усёй сілы цягнуў за повад, каб выехаць на дарогу, але здаровы ў мызе конь падагнуў морду к шыі і не слухаў повада. Сасноўскі здагадаўся, што трэба яго зацугліць.

— Тпру, падлюка! — Галлё біла яго па твары, ней-

кім суком разадрала да крыві шчаку, а конь не спыняўся.

— А з-зараза, дык на ж табе,— ён лупянуў каня раз і другі, той спачатку не слухаў і бізуна, потым ірвануўся ў галоп і імчаўся па рэдкалессю, як віхор. Сасноўскі, ухапіўшыся за луку, нeміласэрна тоўк сядло і думаў толькі аб тым, як зберагчы вочы. Ён зажмурыўся і толькі зрэдку паглядаў уперад, каб не стукнуцца галавой аб галіны.

Гала мільгнула ў яго вачах. Ён яшчэ раз выцяў каня і адчуў, што адрываецца ад сядла. «Можна забіцца...» — падумаў ён, і рукі яго па плечы залезлі ў нешта рэдкае, мокрае і халоднае. Шапкі на галаве не было. Ён сунуўся тварам у балота, і ў гэты момант нехта з сілай ірвануў яго на ногі. «Страмёна... ногі ў страмёнах...» Смяротны жах агарнуў бандыта. Па чэрава загрузшы, конь рабіў страшныя патугі вылезці з багны. У галаве Сасноўскага стаяла адна думка: як вызваліць са страмён ногі? Адзін рух, і конь падамне яго пад сябе. Нарэшце конь вызваліў пярэднія ногі і скочыў, але ў тую ж хвіліну заднія яго ногі залезлі яшчэ глыбей у багну, і гэта выратавала бандыта: з правай нагі ўпала стрэмя. Ён перапоўз на другі бок, ледзь вызваліў нагу і зразумеў, што смерць толькі пажартавала з ім.

Конь трапятаўся і ўздрыгваў. Нельга было і думаць аб тым, каб выратаваць яго. «Здохні тут, падла».

Бандыт папоўз да лесу на жываце, як гад. Адчуўшы пад нагамі цвёрдую зямлю, ён памалу падняўся. Балела ўсё цела. Левая рука ў кісці не гнулася.

Толькі цяпер ён па-сапраўднаму зразумеў усё, што здарылася з ім. «Куды ж цяпер ісці?» Вось на гэтае пытанне не было адказу. Знайсці тую дарогу, адкуль звярнуў конь, і пехатою даганяць таго праклятага дзеда? Глупства... Ісці назад у лясніцтва? Патржанецкі застрэліць... Ён сунуў руку ў кішэню: рэвальвера не было. Яму стала горача. Ён успомніў, што і шапка яго засталася ў балоце, і заскрыгатаў зубамі ад злосці і адчаю. Вярнуцца назад у тую твань? Не, ніколі... Ён шпарыў па лесе, як лось, не выбіраючы дарогі. У лясніцтва. Каб толькі знайсці туды дарогу. Патржанецкі наб'е морду, перацягне шомпалам...

Сонца паднялося не высока, але здаецца, што прамінуў цэлы век. А лесу не было канца. Ні дарогі, ні сцежкі.

Але ў гэты час ён убачыў такое, што выгнала і страх і адчай: на вывараце ля пеньчука сядзеў Змітрок.

«Жывога не пускаць! А чым жа яго прыкончыць? Ага!» — Бандыт зарагатаў. Андрэй Сінічка спалохана здрыгануўся і ўстаў. Ён убачыў бандыта.

— Здароў, дзядок! А я даўно цябе шукаю. Толькі не варушыся, старая шэльма!

Ён кінуўся да Андрэя Сінічкі, подскакам, як драпежнік.

Бранавіцкі, раскісшы і заслабелы, сядзеў у крэсле і вачамі праводзіў Патржанецкага ад кута да кута. Той крочыў па пакоі без адпачынку. Спыняўся і зазіраў у акно. Далонямі цёр галаву. Гаварыў адрывіста і са злосцю.

— Вось да чаго прывяла ваша неасцярожнасць. Вы думаеце, што гэта жарт!

— Я нічога не думаю.

— Дрэнна. Калі б вы думалі, гэтага не здарылася. Мо вы лічыце...

— Я нічога не лічу. Мне здаецца, што з сённяшняга дня трэба кідаць гэты прытулак і разам з вамі выбірацца ў лес.

— Магчыма. Вось пачакаем, што скажуць нам пасланцы. Мо і ў лесе нам месца не будзе...

— Яны не дагоняць яго. Лес, лес, лес... Чалавек у лесе, як іголка.

— Не хвалюйцеся. Вып'ем яшчэ па чарцы.

У сенцах нехта бразнуў дзвярамі, зашкроб ботамі па падлозе, грукнуў у дзверы, і яны адчыніліся насцеж абедзвюма палавінамі. Бранавіцкі ўсхапіўся з месца. Патржанецкі ў кішэні ўзвёў курок рэвальвера. Але ў дзверы ўлез Казімір Сасноўскі без шапкі, увесь у гразі і крыві, але з шырокай ухмылкай на твары.

— Біце мяне, капітан... Я ўтапіў у балоце каня, згубіў рэвальвер і шапку і павесіў яго.

— Каго?

— Таго дурнаватага дзеда... Змітрака.

— Божа мой! — застагнаў Бранавіцкі і сеў каля крэсла на падлогу.

Патржанецкі абняў мурзатага бандыта і пацалаваў яго ў губы.

## 41

Нечакана па мястэчку паплылі жудасныя чуткі. Ніхто не мог сказаць, адкуль яны ўзяліся, але з вуліцы на вуліцу, з хаты ў хату перадаваліся чуткі аб тым, што бандыты маюць намер напасці на мястэчка. Не ўсе аднолькава ўспрымалі гэтыя паведамленні. Багацейшая частка насельніцтва пачала рыхтавацца да выезду з мястэчка. Першымі далі прыклад Рывін і Кічын. Яны адправілі свае сем'і ў Слуцк і, безумоўна, не пакінулі дома даражэйшых рэчаў і грошай. Есіф Голанд кусаў губы ад злосці. Пры сустрэчах ён даводзіў перапалоханым жыхарам, што такія чуткі — глупства. Брахнуў нейкі сабака, а другія падхапілі. Ён ведаў гэтага сабаку. Ён сам быў той сабака. Ён толькі намякнуў дурному Кічыну, што такая рэч можа адбыцца, а яны і разбрахалі па ўсяму мястэчку. Не, ніколі не рабі дабра людзям! Ты зрабі дабро, а табе за гэта напаскудзяць. У той жа дзень ён накіраваў Хаіма да Патржанецкага. А назаўтра бандыты абрабавалі вазы Брадоцкага, які, па прыкладу Кічына і Рывіна, накіраваў у Слуцк сваю жонку разам з грашамі і адзежай. І рух у Слуцк спыніўся, Голанд быў рады: «Ага, так і трэба! Вы будзеце сядзець тут, як у пастцы»,— думаў ён са здавальненнем.

У школе было толькі тры ўрокі. На перапынках усе разважалі пра бандытаў. Сярод вучняў старэйшых класаў былі такія, якія ў часы польскай акупацыі перажылі не адзін пагром.

Вельмі дзейна паводзіў сябе Гардыенка Фоці. Яго амаль адначасова можна было бачыць ля некалькіх гурткоў. Ён з вёрткасцю яшчаркі шныраў туды і сюды. За ім валачыўся гультаяваты Грыневіч Лёнік.

— Мабыць, будуць арганізоўваць атрад! — нібы пытаў, нібы абвяшчаў Гардыенка.

— Ну, а як жа! Самаабарона! Я помню, у дваццатым арганізоўвалі самаабарону ад пагромаў,— насмешліва прамовіў Ганчар Сямён.

— Ну і што ж?

— А нічога. Самаабарона так самаабаронаю і засталася, а пагромы былі, ды яшчэ якія! Мяне памылкова ледзь за яўрэя не палічылі, але выкруціўся.

— Як жа ты выкручваўся? — зацікавіўся Фоці.
— Вельмі проста: адбарабаніў «отча наш» на памяць. Цяпер я ў яўрэя ніколі на кватэру не стану.
— Аднак, хлопцы, у атрад запісацца трэба! — ухмыляючыся, дражніўся Гардыенка.
— Запісацца! — рагатаў Васькоўскі Алесь.— Я так запішуся, што к вечару дома буду.
— Ну? — прытворна здзівіўся Фоці.— Табе, вясковаму, добра. А што ж рабіць нам, местачковым.
— Дзівак! У вёску! Ка мне ў Зацішша! — прапанаваў Грыневіч.— Ніякі чорт не дастане.
— Усе ж у тваё Зацішша не паўцякаюць! — шкадаваў Гардыенка.
Ігнась, сціснуўшы кулакі, слухаў гэтую гутарку. Гардыенка, Грыневіч, Васькоўскі і Ганчар баяцца бандытаў! Кулакі і паповічы! Яны назнарок агітуюць вучняў, каб уцякалі з мястэчка.
Да гуртка падышоў Богуш Лявон.
— Вось Богуш, дык гэты запішацца! — насмешліва сказаў Грыневіч.
— Куды? — запытаў Лявон.
— Куды ж! У атрад, бандытаў ліквідаваць.
— А я ўжо запісаны. І табе параіў бы, але цябе не прымуць.
— Чаму? — пакрыўдзіўся Грыневіч.
— Паповіч ты. А Васькоўскі — кулаковіч. Дзе ж вам бандытаў ліквідаваць.
— Эх, пралетарыя! — са злоснай насмешкай прамовіў Гардыенка.
— А што ты думаеш. Працоўны чалавек, а не такі пупсік, як ты.
— Што ты, Богуш, задзіраешся? — з пагрозаю сказаў Гардыенка.
— Не, з пупсікам я не задзіраюся. Але я чую тваю гутарку, Гардыенка, і разумею, да чаго яна вядзе. Нават тое разумею, чаго ты не выказваеш.
— Адносна кулаковіча ты, Богуш, асцярожней, ты гэтага не дакажаш! — сказаў Васькоўскі.
— Ён думае, калі ён камсамолец, дык яму ўсё можна,— прабурчаў Грыневіч.
— Як гэта ўсё можна? Ты ці разумееш, што кажаш. Гэта ваша зграя лічыць, што ёй усё можна. Вы забыліся,

што ў нас савецкая ўлада, не забываеце белапалякаў! Толькі па-вашаму не выйдзе.

Лявон пайшоў. Ігнась убачыў Ткачука Янку і падышоў да яго. І там была гутарка пра банду. Грыневіч і Гардыенка ўжо апынуліся тут.

— Яўрэі многія запішуцца ў атрад,— гаварыў Грыневіч Гардыенку.— Бо туга ім будзе.

— Ды вось такія камсамольчыкі, як Богуш, бо і ім будзе тугавата таксама.

— А табе, дзячок, не будзе тугавата? — запытаў Ігнась, і чырвань заліла яму твар.

Усе засмяяліся.

— Адкуль гэтая пстрычка? — пацікавіўся Фоці.

— Богушаў сабачка,— адказаў Грыневіч.

— А вы чые сабакі? — абурана запытаў іх Ткачук.

— Яны сабакі тых, хто па лясах ходзіць! — адгукнуўся Беліцкі.— Хіба ты не чуеш, пра каго яны гаўкаюць?

— У Богуша да чорта падбрэхічаў! — сказаў Гардыенка.

— Уся школа, акрамя вас! — гэта сказаў Мікола Кудравец, вучань шостага класа.

— Ага,— вымавіў Грыневіч.— Хадзем, Фоці.

Пасля ўрокаў Хвядос Іванавіч правёў сход.

Ён сказаў, што чуткі пра напад на мястэчка не маюць пэўнай падставы, але рыхтавацца да гэтага трэба. Працоўнае насельніцтва на чале з камуністамі ўжо даўно вядзе падрыхтоўку, школа таксама не будзе збоку. Вучні старэйшых класаў павінны прыняць удзел у агульнай справе.

Аднак умовы прыёму ў баявы вучнёўскі гурток аказаліся даволі жорсткімі. Прымалі толькі дзяцей працоўных і не маладзей шаснаццаці гадоў. Такім чынам, Ігнасю і Янку не прыходзілася і думаць пра гурток. З добраахвотнікаў было адабрана дваццаць хлопцаў пераважна шостага і сёмага класаў.

Ігнась дадому ішоў адзін. Яму хацелася плакаць. Крыўдна было, што Лявон не закінуў за яго слова.

На кватэры ён не мог знайсці сабе месца. Хацеў ісці дамоў у Загалле, але ўспомніў Грыневічава Зацішша.

Пятрусь забыў пра свае фокусы. Ён адчыніў куфэрак і калупаўся там, як вавёрка.

— Ты ці не ад бандытаў хаваеш свой скарб? — звярнуўся да яго Ігнась.

— Не. Я адну рэч шукаю. Ты не ведаеш, дзе наш Лявон?

Слова наш было сказана ім упершыню. Мабыць, і Пятрусь цяпер ганарыўся, што Лявон вось іменна іхні, свой.

— Не ведаю.

Цімчук хіхікнуў.

— Чаго ты выскаліўся, луннік? — запытаў яго Пятрусь.

— Дадуць ім дралавіцы!

— Каму?

— Каму ж? Лявону, Довіду і ўсім, хто ў атрадзе.

Пятрусь замахнуўся і ўдарыў Цімчука. Той уткнуўся галавой у падушку і заплакаў.

— Дай яшчэ! — крыкнуў Колька і кінуўся да Цімчука. Ігнась пераняў яго.

— Хлопцы,— хуценька загаварыў Колька.— Ён паклёпнік, хлус, усякія глупствы гаворыць пра нас настаўнікам...— і заплакаў. Мабыць, злосць на Цімчука даўно кіпела ў яго сэрцы.

— Эх ты, луннік! — Пятрусь выняў Ключэнеў пугач і замахаў ім ля носа Цімчука.

— Не прынялі нас у баявы гурток, Ігнась. А мы б пайшлі!

Ігнась уздыхнуў. Пятрусь канчаткова здзівіў яго. Махляр, фокуснік і спекулянт і ўсё-такі добры хлопец. І Ігнась адказаў па-таварыску:

— Нічога, Пятрусь! Мы таксама паваюем.

Пад вечар прыйшоў дадому Лявон. Ён папрасіў у Ігнася есці. Той моўчкі прынёс яму хлеб і міску поліўкі.

— Што з табою, Ігнась?

— Якая твая справа да Ігнася? — злосна адказаў Ігнась.

— Ага, і ты злуеш.

— Нашто табе з дзецьмі гутарыць,— зазначыў Пятрусь.

— Ага, і ты злуеш.

— Балазе ты не злуеш. Ты ж такі добры, хоць у вуха кладзі.

— Ой, і дзівакі ж вы, хлопцы! — смяяўся Лявон.— Ніхто не кажа, што вы дзеці. Такія дзеткі! Але ж інструкцыя — закон. Да шаснаццаці гадоў прымаць немагчыма. Ды ці разумееце вы, таўкачы вы гэтакія, што гурток

не жарт. От я іду на цэлую ноч. Мо спаць? Не, браткі, не спаць! На пасту буду стаяць, мерзнуць.

— І мы гэта можам.

— Ох, і ўпартыя ж вы.— Лявон махнуў рукою і пайшоў.

Пайшоў і Ігнась да Янкі Ткачука.

Янка маляваў. На паперы лажыліся крывулінкі, лініі, потым яны афарміліся ў фігурку Фаіны Тодараўны ў выглядзе коршака. Малюнак быў вельмі ўдалы.

— Я і цябе магу намаляваць,— пахваліўся Янка, гледзячы на Ігнася бліскучымі вачамі.— Магу сапраўды, пачакай, брат ты мой.

Праз некалькі хвілін на паперы сядзеў мала знаёмы Ігнасю хлапец: даўганосы, таўстагубы, з глыбока запалымі вачамі і віхром на галаве.

— Хіба я такі?

— Паглядзі ў люстра.

Ігнась зірнуў і паверыў, што на малюнку не хто іншы, як ён. Хлопцы разгаварыліся, і неяк прыемна было гутарыць у цяпле.

— Я, брат ты мой, адразу не намалюю, але я вучуся. Напрыклад, цябе я ўжо мо дваццаць разоў маляваў, і ўсё не ты выходзіў: то губы не твае, то нос чужы, то вочы. А цяпер навучыўся і магу маляваць не гледзячы. У кожнага чалавека, брат ты мой, ёсць такія асабістыя рыскі на твары, і калі схопіш іх, тады намалюеш, а не схопіш, нічога не выйдзе. А самае галоўнае, брат ты мой, вочы. Чалавек з чужымі вачамі на сябе не падобны.

Ігнась слухаў Янкавы словы і зайздросціў яму. Але разам з зайздрасцю нараджалася і іншае пачуццё, пачуццё гонару за таварыша.

Калі Ігнась прыйшоў дадому, Мотэль аж здзівіўся. Ён прынёс навіну. У мястэчку было забаронена хадзіць па вуліцах пасля васьмі гадзін вечара.

## 42

Кавалёў прачнуўся ад тых гукаў і рухаў, якія падымаюць гаспадыні раніцай, упраўляючыся ля печы. Гукі гэтыя ледзь чутныя: зазвініць кволым голасам патэльня, загрукалі чапяла, вусілка на вядры.

Кавалёў расплюшчыў вочы: у пакоі было яшчэ цёмна, толькі палоска святла вылезла праз шчыліну дзвярэй з

суседняга пакоя і лягла на падлогу доўгай вузкай стужкай. Першым пачуццём, якое адразу дало сябе знаць, была стома, першым жаданнем — сон. Паспаць бы яшчэ гадзіны дзве, ускінуўшы коўдру на галаву. Але разбуджаны раз, ён не мог ужо спакойна заснуць зноў. У галаву прыходзілі клопаты і трывогі новага дня, розум пачынаў працаваць, і сон адступаў.

На гэты раз ва ўяўленні паўстаў учарашні вечар у старшыні выканкома. Фядос Іванавіч Дубоўскі добрымі падслепаватымі вачамі праз акуляры пакрыўджана глядзіць на Буткевіча і гаворыць з такім дакорам: «Мы ўжо не пярэчым, што вы забралі ў нас загадчыка, спраўляемся без яго... Самі. Дык вы ж нам не даеце дроў. Ваша кватэра апальваецца, таварыш старшыня?» Буткевіч разгубленым позіркам таксама глядзіць праз акуляры і адказвае: «Апальваецца, вядома»... «Кожны дзень?» — «Кожны, безумоўна». «Паспрабуйце паліць яе праз два дні на трэці і ў дадатак выбіце хоць адну шыбу ў акне. А мы от так і палім...»

Што можна паставіць супроць гэтага? Кавалёў чырванееў. Яму і цяпер брыдка. Школа і выканком знаходзяцца ў адным двары. Ён яе бачыць кожны дзень. «Не бойся, на загадчыка не забыўся. Чалавек па твайму загаду ў раз'ездах цэлую восень... А просьбы яго прайшлі між вушэй».

Ён сказаў Дубоўскаму, што заўтра ў школе будуць дровы. У крайнім выпадку хоць на адзін месяц. Буткевіч нездаволена скрывіўся і паківаў галавою. Калі Дубоўскі пайшоў, Буткевіч узяў Кавалёва ў пераплёт. «Дзе ж гэта твае дровы, Сяргей? — пацікавіўся ён.— Нашто абяцаць тое, чаго не можаш зрабіць! Сказаў бы да нядзелі і мы змаглі б...» — «Калі паабяцаў, то павінны быць дровы»,— адказаў яму Кавалёў. І заўтра ўжо стала сягоння. І выхаду няма. Грошы, якія былі, Буткевіч пусціў на дзягцярню. І выхад трэба знайсці...

Кавалёў устаў і пацягнуўся рукой па вопратку. Дастаў гімнасцёрку, і калі адзяваў, з кішэні нешта выпала. Запаліў святло і нагнуўся. На падлозе ляжала маленькая брошка з слановай косці, якая мела форму ружы. На міг цеплыня і шчырасць залілі істоту. Асцярожна падняў яе, паднёс да губ і пацалаваў. Брошка была доччына. Здараецца, што простая рэч становіцца дарагім сувенірам. Так было і з брошкаю. Дачка Валя — сямігадовая дзяў-

чынка, бавячыся з ім, палажыла брошку ў кішэню яго гімнасцёркі. Праз некалькі дзён яго адкамандзіравалі на працу сюды ў Палессе. Брошка так і засталася ў кішэні. Знайшоў яе выпадкова, таксама выпала з кішэні. І з таго моманту не забываў. Нават бярог, каб не згубіць. Яна ўвайшла ў жыццё, як дарагі ўспамін аб далёкай сям'і.

Ён на хвіліну ўявіў раніцу ў сваёй сям'і. І так яскрава паўсталі малюнкі гэтае раніцы, так міла вырысоўваліся родныя твары, што аж забыў, што не дома.

«Вось мы і пабачыліся, мае дарагія...» — прашаптаў ён, ахоплены шчырасцю і любоўю. У дзверы пастукалі. Зайшла гаспадыня з лістом у руцэ.

— Я пачула, што вы не спіце, Сяргей Міхайлавіч. Учора ліст вам прынеслі, а вас дома не было. А ў мяне ж такая памяць, як паклала лісток у стол, дык і забыла. А калі прыйшлі вы — я спала.

Кавалёў з нецярпеннем узяў ад яе ліст, зірнуў на адрас, пазнаў родны почырк. Пісала жонка. Сеў ля стала, падсунуў лямпу і ўглыбіўся ў чытанне.

Застагнаў... Галава апусцілася на стол. Памутнела ў вачах. Сутаргавата сціснуліся рукі. І ўсё паплыло... Не адчай, нешта большае і страшнейшае запаланіла істоту.

Праз хвіліну ён сядзеў і пустымі вачамі глядзеў перад сабой. І ў душы было пуста і холадна. Дачка памерла. І гэта быў не першы ліст з паведамленнем. Першых не атрымаў. Іх перахапіла банда. Гэта яшчэ больш умацоўвала боль душы. І яго лісты, ні адзін з яго лістоў не дайшоў туды.

Праз некалькі хвілін ён выйшаў у цемру раніцы і доўга, да самага світання, хадзіў па змрочных вуліцах, па слізкіх тратуарах, адзін са сваім горам, напоўнены ім да краёў.

Світанне ён сустрэў ля смалакурнага завода. Мо наэнарок сюды прыйшоў. Не, аб гэтым не думаў. Ногі самі вадзілі яго па больш знаёмых мясцінах. У вільготнай шэрані перад ім вырысоўваліся будынкі смалакурні, бандарні, новая будоўля дзягцярні. На варотах двара вісеў яшчэ замок.

Кавалёў навокал абышоў завод. Пастаяў ля сцірты карчоў. Потым сеў ля яе проста на зямлю. Такое душэўнае стомы ён яшчэ не перажываў. Галава лягла на калені, і ён на некалькі імгненняў забыўся на ўсё.

Калі ён падняўся, было ўжо светла. З новага коміна дзягцярні валіў густы цяжкі дым. Ён слаўся над зямлёй клубамі і рассяваўся ў халодным паветры.

Кавалёў абышоў сцірту і зайшоў у двор завода. Ля бандарні стаяла падвода, у самай бандарні нехта стукаў. Праз хвіліну адтуль выйшаў Калядка. Ён здзівіўся, убачыўшы Кавалёва тут у такі ранні час.

— Нешта важнае здарылася, таварыш Кавалёў? — трывожна запытаў ён, аглядаючы змучаны твар сакратара.

— Вельмі важнае, Язэп Іванавіч,— ён паспрабаваў усміхнуцца, але твар сутаргава перакасіўся.— Вельмі важнае. Ты дапаможаш мне, Язэп Іванавіч!

— А як жа, таварыш Кавалёў! Я па клёпкі сабраўся, то нічога, пашлём Пінчука. Што ж у вас такое?

— Школа без дроў. Я ўчора даў слова, што дровы будуць. Мы падлічылі ўсе рэсурсы з Буткевічам. На сённяшні дзень у нас ніякіх сродкаў...

— А я лічыў, што асабіста вам дапамагчы... Бо нешта вы сёння, як хворы...

— Не выспаўся... Што ты мне можаш параіць, Язэп Іванавіч?

— Над гэтым падумаць трэба... Дровы ў нас ёсць.

— Вашых дроў браць няможна. Яны нарыхтаваны заводу. Гэта не парадак перакідаць з месца на месца. Сёння школа без дроў, а заўтра і завод стане. Справа не ў тым. Дапамажы мне арганізаваць суботнік. Нам патрэбны людзі і дзялянка.

— Ага! Так вы і скажыце! Акрамя ж таго, і фурманкі трэба?

— І фурманкі.

Калядка сеў на драбіны і, ссунуўшы на патыліцу шапку, пачасаў галаву.

— Задачу вы далі такую... Дзялянка, скажам, ёсць, наша дзягцярня.

— Вось бачыш, ужо адно ёсць.

— Таварыш Кавалёў, усё ёсць! І фурманкі ёсць, і рабочыя. Але ж тады трэба завод спыніць, бо рабочых мала. Калі пілаваць і вазіць, то мала. Возчыкаў хопіць, а пілаваць няма каму.

— Завод павінен працаваць. Збяры сваіх возчыкаў — пагутарым. А пільшчыкаў я знайду, дапаможа Барай са

сваёй камсамоліяй, выканкомаўскіх супрацоўнікаў мабілізуем на адзін дзень, пойдзем самі.

— О, тады справа на мазі! — узрадаваўся Калядка.— А возчыкаў і клікаць не трэба, хутка прыйдуць. Я і сам паеду, там клёпак у мяне ёсць вазы два, заадно забяром.

— Кажаш на мазі! Дык я табе даручаю пагутарыць з возчыкамі. Растлумач ім пра гэты суботнік, каб людзі ведалі, што за сённяшні дзень ніхто ім не заплаціць... У школе ні палена дроў.

— У гэтым не сумнявайцеся. Тут кожны — бацька, ва ўсіх дзеці ў школе. А хто не бацька, то будзе бацькам! Я гэта ім растлумачу, не бойцеся.

— Вельмі добра, Язэп Іванавіч... Растлумач. А я пайду мабілізаваць пільшчыкаў. Збяромся ўсе сюды, няхай твае возчыкі пачакаюць.

І ён пайшоў ад завода ўпэўненай хадою, цвёрда і бадзёра, толькі галава была пахілена кнізу.

## 43

Тарас Ігнатавіч Гурын прыехаў у мястэчка пад вечар. Не заходзячы на кватэру, пайшоў у выканком, трэба было пабачыцца з Кавалёвым і Буткевічам, расказаць аб выніках сваёй паездкі і заглянуць у школу, падрыхтавацца да ўрокаў. Ён вырашыў цвёрда: гэтыя дні не ехаць нікуды. Ён засумаваў без школы, без вучняў, без той работы, якой аддаў большую і лепшую частку свайго жыцця. Па сутнасці ён лічыў сябе старым. Не хацелася прызнавацца, але старасць ужо ўваходзіла ў яго побыт. Гэта адчувалася і ў хадзе — не мог хадзіць так, як год назад, пачаў горбіцца, галава і грудзі ўсё яшчэ імкнуцца ўперад, а ногі ўжо здаюць і застаюцца ззаду, і падэшвы ботаў шоргаюцца па зямлі. Зрабіць лішні рух — цяжка. Не тое што цяжка, а не хочацца. Не хочацца сагнуцца лішні раз, павярнуцца, а сеўшы, не хочацца ўставаць. І гэта стала прыкметным асабліва ў апошнія дні. Значыць, трэба адпачыць. Мо таму і ў выканком ідзе цяпер, што з дому пасля вячэры было б цяжка выбрацца...

На школьным двары ён убачыў дровы. Левы вус заварушыўся, і ўсмешка здавальнення схавалася пад ім. «Хвядос Іванавіч раздабыў!» Ён абышоў і абмацаў рукамі тоўстыя палены, якія пахлі пілаваннем і смалой. Пілаванне было ўжо і на двары, яно ляжала ля вялікіх

козлаў. Тут жа валяліся два нерасколатыя чурбакі. Падняў іх, паклаў на сцірту. «Нічога не прыбяруць! А заўтра дзеці выкацяць іх на вуліцу». Радасна стала на душы. Радасна, што заўтра будзе цёпла ў школе, і ён зойдзе ва ўтульны клас, сядзе за столік, і пачнуцца заняткі нармальна і цікава.

Ён правёў ужо нязлічана шмат урокаў, але заўсёды ў кожным знаходзіў нешта і новае і цікавае, тое, што адрознівала адзін урок ад другога. Нават цяпер, маючы за плячамі такі вялікі вопыт, ішоў у клас з радасным трапятаннем сэрца. А першы свой урок не забудзе ніколі. Малады настаўнік сельскай школы, ён прыйшоў на першы ўрок у першы клас. На партах па двое сядзелі дзеці. Яны глядзелі на яго светлымі позіркамі чыстых дзіцячых вачэй. Адны з павагай, другія з замілаваннем, трэція з цікаўнасцю, але ва ўсіх вачах ён бачыў шчырасць і дзіцячую непасрэднасць.

А калі па яго загаду яны раскрылі сшыткі і ўзялі алоўкі, ён здзівіўся. Якія маленькія, якія кволыя рукі! І яму было смешна, калі які-небудзь хлопчык, выводзячы адзінку, старанна дапамагаў языком, а потым задаволена крактаў, любуючыся сваёй працай...

У выканкоме яго сустрэлі Буткевіч і Кавалёў. Яны ўжо збіраліся дамоў на вячэру. Гурын затрымаў іх.

— Бачыў дровы? — запытаўся Буткевіч.

— Бачыў.— Ён сеў на канапу.— Гэта вельмі добра. Дубоўскі пастараўся?

— Ён у цябе маладзец, Тарас Ігнатавіч,— прамовіў Кавалёў.

— А мне, прызнацца, і крыўдна крыху... Усё, што робіцца ў школе новае і карыснае, робіцца без мяне. Я толькі канстатую факт: зроблена, вельмі добра...

— Спачуваю табе, Тарас Ігнатавіч. Мы ўсе былі крыху адарваліся ад школы. Ну, цяпер адносна дроў месяца паўтара можна быць спакойным.

— Безумоўна. Як твае поспехі ў Ярэмічах, Тарас Ігнатавіч? — зацікавіўся Буткевіч.

— Аб гэтым і пагутарым. Перш за ўсё я там узяў на сябе такія функцыі, якіх па сутнасці не меў права браць.

— Якія? — гэтыя словы зацікавілі Кавалёва.

— Прагнаў старога старшыню.

— Ткачэню?

— Ткачэню. І паставіў новага.

— Цікава. Ты хоць раскажы падрабязна, а то проста, як абухом,— захваляваўся Буткевіч.

Вусы Гурына спачатку насцярожыліся, потым заварушыліся.

— Ткачэня — п'яніца. Работу сельсавета не толькі разваліў, а проста закінуў. П'янствуе па хутарах у кулакоў. Я яго ледзь знайшоў. Чалавек дапіўся да таго, што апух. Камітэт узаемадапамогі не працуе. Макарэвіч сам па сабе чалавек добры, але ім трэба кіраваць. У саміх Ярэмічах я правёў сход. Без Ткачэні. Прысутнічаў толькі Макарэвіч. Наладзілі работу камітэта, сабралі хлеб у дапамогу галадаючым. Заўтра сюды прыйдзе абоз з Ярэміч.

Трэба знайсці месца, куды сыпаць, або адразу адправіць у Слуцк. Сяляне згодзяцца везці і да Слуцка, у кожнага ёсць патрэбы. На гэтым жа сходзе выявілася, што Ткачэня, як старшыня, чалавек не толькі непатрэбны, а шкодны. Некаторыя з выступаючых проста патрабавалі выгнаць яго. Назаўтра я правёў сход беднаты. На гэтым сходзе мы яго і выгналі.

— Правільна!

— Пачакай. Бедната выбрала другога старшыню Антося Галамаку.

— Антося Галамаку? Вельмі добра! — сказаў Кавалёў.— Ты проста адгадаў маю думку наконт Галамакі. Своечасова зроблена, Тарас Ігнатавіч. Вітаю!

Буткевіч паморшчыўся.

— А ў мяне была думка назначыць яго загадчыкам фінаддзела.

— Тарас Ігнатавіч зрабіў лепш. За Ярэміцкі сельсавет цяпер можна быць спакойным.

— Аднак гэта супярэчыць агульным правілам. Старшыню павінен быў выбраць агульны сход.

— А я лічу твае дзеянні правільнымі, Тарас Ігнатавіч! Ты павінен быў прыняць там нейкае рашэнне, і ты яго прыняў...

— А ўсё-такі гэта ненармальна...— сказаў Буткевіч.

— Нічога. На сённяшні дзень важней тое, што сельсавет сядзіць не без галавы. Што б ты сказаў, каб у Ярэмічах Гурын пакінуў тое, што застаў. Старшыня п'янствуе, сельсавет закрыты, ніякай работы няма. Тарас Ігнатавіч, правільна! Мы працуем не ў нармальных умо-

вах, некаторыя фармальнасці трэба часам абыходзіць, абы была карысць для справы.

— Я так і лічыў, што ты мяне падтрымаеш. А цяпер, што тут у вас?

— Нічога новага за гэтыя дні, калі не лічыць тое, што мы ўвялі ў мястэчку некаторы рэжым. Кантралюем выезд і ўезд, пасля васьмі гадзін вечара забараняем усякі рух.

— А гэта трэба было даўно зрабіць. Аб нашай падрыхтоўчай рабоце ведае ўся воласць, трэба думаць, што і банда ведае. Гэта і добра і дрэнна. Добра, бо актывізуе насельніцтва, дрэнна, бо бандытам вядомы нашы сілы. Цяпер вось што: людзі чакаюць, калі мы пойдзем у паход на бандытаў. Я, прызнацца, не абвяргаў такой думкі, але і не падтрымліваў. Лічу, што трэба прасіць дапамогі ў павеце. Банду неабходна ліквідаваць хутчэй, гэтага чакае насельніцтва.

— Так.

— Я выеду ў павет сам.

— Ага! — успомніў Гурын.— У Ярэмічы заўтра раніцай трэба даслаць чалавек дваццаць добра ўзброеных хлопцаў для аховы абозу. Так мы дагаварыліся з Галамакам і Макарэвічам. Магчыма, што банда паспрабуе абрабаваць яго.

— Вельмі правільна. Як бы гэта нам сюды Калядку выклікаць.

— Я пашлю па яго дзяжурнага,— сказаў Буткевіч.

— І Руткоўскага.

— Ды ўжо за адно і па Руткоўскага зойдзе.

Буткевіч на некалькі хвілін выйшаў з кабінета.

— Ты, Сяргей Міхайлавіч, вельмі дрэнна выглядаеш,— сказаў Гурын, зірнуўшы на Кавалёва.— Вельмі дрэнна. Я не кажу, што гэта ад бяссонніцы... Не, у цябе тэмпература.

Рука Кавалёва пацягнулася да кішэні гімнасцёркі, дзе ляжала маленькая брошка, і, не дацягнуўшыся, апусцілася ўніз.

— Справа ў тым, Тарас Ігнатавіч, што ў мяне... памерла дачка.

## 44

Арына з любоўю аглядала кажушок, пашыты Ігнасю.

— Далібог, Алесь, вялікі! Ён жа будзе яму па пяты.

— На падрост. Няхай будзе на падрост! — Лейба Яхніч не любіў, калі ганілі яго працу.— Чаго ты, кабета, хочаш! Шыў без меркі... Колькі яму, кажаш, гадоў?

— Чатырнаццаць.

— Ён малодшы за майго Танеля. А майму Танелю ён быў бы акурат.

— Зносіць! — Алесь мала цікавіўся кажухом. Кажух пашыты, што больш трэба! Яшчэ застаецца справіць боты, і хлопец будзе адзеты на зіму не горш людскіх дзяцей.

А Арына думала іначай: «Хоць бы не смяяліся там з Ігната. Можа, там вучні паліто носяць...»

— Кажух, кабета, як кажух, а што велікаваты — невялікая бяда. Гэтыя хлопцы растуць, як грыбы ў дождж. Сёння велікаваты, а заўтра будзе акурат, а паслязаўтра малы. Майму Танелю шаснаццаць гадоў, а ён перарос ужо мяне.

Яхнічу хацелася гаварыць пра свайго Танеля. Расказаць гэтым людзям, што яго сын працуе ў кравецкай арцелі, што ён, Лейба Яхніч, ужо мае памочніка, што яшчэ мо год, мо два, мо пяць, але не больш, як пяць, ён паходзіць па вёсках, а тады стане дзедам і нікуды не пойдзе: будзе ляжаць на печы і грэць свае плечы. Бо па праўдзе сказаць — плячам яго дасталася нямала. Можа, нават больш, чым трэба, дасталася ім. Але ў гэтых людзей ёсць свой Ігнась, і яны наўрад ці слухалі б пра Танеля. Мужчына мо і слухаў бы, а кабета не. Яна думае пра Ігнася. Таму Лейба маўчаў.

— Зносіць. Не на год жа яго шылі. Не набярэшся кожны год хлопцу кажухі шыць. Павесь ты яго, Арына. У нядзелю завязу Ігнату.

Але Арыне не хацелася вешаць кажуха. «Ігнатаў жа ён, Ігнатаў!» — думала яна і бачыла перад сабой сына ў новым кажусе.

— Ну, колькі ж ты возьмеш за працу, Лейба?

— А што, хіба мы сёння паміраем? — усміхнуўся Лейба.

— А што ты думаеш! От вазьму ды памру,— жартам адказаў і Алесь.

— Не дай бог! Але калі ты памрэш, то няхай прапа-

дзе мой заробак. Я яго не пашкадую, Алесь! Няхай ён прападзе!

— А калі ты памрэш, Лейба?

— Не дай бог! Але няўжо ты, Алесь, не завёз бы маім дзецям які пуд бульбы або фунтаў дзесяць жыта?

— Што ты, Лейба! Няўжо я ашукаў бы сірат!

— І я так думаю, Алесь. Сіроцкім не нажывешся!

— Пакіньце ўжо! Знайшлі пра што гаварыць,— сказала Арына.

— Ну я пайду, Алесь. Пайду дадому. Там жа я ведаю — няўпраўка. Ой, якая няўпраўка! Мабыць, дроў ужо ні палена.

— Ты б, Лейбачка, з'еў чаго на дарогу.

— Пакуль я з'ем, то тры вярсты прайду.

Яму зарупела дамоў. Ён забраў свой мяшочак і кій.

— Ну, бывайце здаровы!

— Пачакай хвіліначку, Лейба! — Арына пайшла ў сенцы і вынесла мерку грэцкіх круп: — Няхай жонка зварыць кашу дзецям... Ды от хлеба булку.

— Няхай табе дапамагае бог, кабета, хай ён не забывае цябе, як ты не забыла маіх дзяцей.— Лейба засунуў ў мех хлеб, высыпаў крупы...— Я цяпер дадому не зацягнуся.

— Не вялікі цяжар. Не мы хлеб носім, а ён нас.

— Шчырая праўда, кабета. Ну, я пайшоў.

Алесь правёў Лейбу да варот і вярнуўся ў хату з намерам папалуднаваць. Яму было смешна з гэтага Лейбы. Колькі за працу плаціць, не кажа, ведае, што Марыніч не ашукае. «Ты б прывёз маім дзецям які пуд бульбы або фунтаў дзесяць жыта». А хіба Марыніч будзе важыць! Кашоў тры ўсыпле ў мех, а там не пуд, а добрых два. Ды рэшата жыта, так і ведай — паўпуда. У гэтых баб ніякага розуму няма: круп насыпала. Але няма чаго і на Лейбу казаць: новы кажух пашыў, усе старыя палатаў...

Пасля палудня, толькі выцягнуў драбіны, каб памазаць восі, зірнуў, аж і мазі няма. Пачаў лапаткай вышкрабаць у каробцы, назбіраў-такі крыху, а тут і Сцяпан Калачык прыйшоў. У Алеся зашчымела ўсярэдзіне. «Ну, зноў нешта скажа...» Але выгляд у Сцяпана быў нейкі вінаваты. «Няйначай папросіць нечага»,— зразумеў Алесь і ўзрадаваўся. Адразу вырашыў: «Чаго ні папросіць — дам».

— Дзень добры, Алесь.

— Дзень добры, браце.
— Збіраешся некуды ехаць?
— Ды не. Хацеў калёсы памазаць. А тут мазі чорт мае. Шкроб, шкроб ды ўжо і не шкрабецца. Рэдка ты да мяне ходзіш, Сцяпан,— сказаў і паверыў, што і сапраўды ён чакаў Сцяпана.
— Я да цябе рэдка, а ты да мяне ніколі.
— Не раз думаў зайсці, ды ўсё не магу выбрацца.
— А я от прыйшоў, Алесь... Прыйшоў прасіць цябе, мо ты б дапамог мне лесу наваліць. Дазвол маю на лес. Сенцы хочу прыбудаваць. Сам ведаеш, як без сенцаў жыць... Мне каб толькі наваліць. Сякераю не высеку.
— Дык што ж, дапамагу! — Алесь занёс у свіронак мазь, вярнуўся назад з пілою.— А пілу я сваю вазьму. Піла ў мяне такая, што сама піліць! — засмяяўся. Не жарту свайму, а ад радасці, што от чалавек яго дапамогі шукае, што не пайшоў Калачык ні да каго іншага, а да яго. Бо ведаў, што Алесь дапаможа.
— Хадзем, Сцяпан! Да вечара мы не толькі на сенцы, на гумно лесу навалім.
— Дзякуй табе, Алесь... Думаў я, думаў... Жонку з сабою ўзяць. Ну куды ж ты яе возьмеш! Схаджу, думаю, папрашу Алеся.
— Чалавек ты! Прыдумаў жонку ў лес браць. Пайшоў бы адразу да мяне... Навалім, а заўтра возьмем склюты ды пачэшам, пашкурым.
— Гэта я і адзін! Мне абы наваліць!
— Што там адзін! Ля дрэва адзін не работнік: і павярнуць трэба, і падняць.
— А чым жа я табе плаціць буду?..
— Дзівачэ, дзівачэ! А хіба я забыў, як ты мне дапамагаў хлявы будаваць! Вось як упадзе снег, я табе і вазіць дапамагу.
— Дзякую табе, Алесь...— неяк у нос сказаў Сцяпан і выцер рукавом вочы. Раз выцер і другі. Потым прысунуўся і закрыў іх далонню.
— Нешта ў вока заскочыла? — запытаў Алесь.
— Мабыць, асцюк... У гумне быў...— не сваім голасам адказаў Сцяпан і пайшоў ззаду Алеся. А ў гумне ён не быў. І асцюк не ўскочыў у яго вока. Проста горна стала. Горна ад таго, што от чалавек ідзе яму дапамагаць. Калі гэта было? Ніколі гэтага не было: Сцяпан Калачык дапамагаў усім, а яму ніхто. А от жа знайшоўся чалавек,

што ўспамянуў і Калачыкаву дапамогу. «Не ўсе людзі дрэнныя, далібог не ўсе,— думаў Сцяпан.— Яно, вядома, дрэннае ў чалавека хутчэй убачыш, а добрага пашукаць трэба!..» Мо б так і доўга разважаў Сцяпан, бо прывык, працуючы адзін, разважаць сам з сабою, але Алесь перабіў яго думкі.

— Калі адарвецца кавалак часу, то я табе і будаваць дапамагу. Толькі ты пашлі дзяцей, каб моху надралі.

— Дзякуй табе, Алесь. А моху я ўжо даўно надраў.

## 45

Лейбе Яхнічу было пра што думаць у дарозе. Перш за ўсё пра Буткевіча, потым пра арцель, пра Янкеля Доўгіна. І ён думаў пра ўсё адразу.

Танеля ён аддаў у арцель. Праз каго аддаў? Праз Буткевіча і Ірыну? Не. Мо Лейба пашкадаваў арцель, што там няма кажушнікаў? Не, не пашкадаваў. Ён аддаў сына ў арцель, каб зарабляў хлеб. А от Лейба прыйдзе дамоў, забярэ свайго сына і пойдзе з ім у вёскі. Назнарок так і зробіць. Яшчэ, хваліць бога, у вёсках зарабляць можна. Вось Янкель Доўгін, той не дурань. Як сцягнуўся з мястэчка, дык і дамоў не ідзе.

Добры кажух пашыў Лейба Марынічаваму хлопцу. А Танель, напэўна, у лапсардаку і цяпер ходзіць. Святочны Лейбаў лапсардак. Танель жа не беражэ яго. Напэўна, ужо і локці прашмараваў. Ах, ах, спраўляй цяпер другі.

«Эх ты, Лейба Яхніч! Колькі ты кажухоў пашыў добрым людзям, а сам у такіх дранцах ходзіш. Новага кажуха не знасіў за век. І дзеці твае носяць старыя лахі. Твае абноскі. Добрыя бацькі такім сынам, як твой Танель, ужо гарнітуры спраўляюць, а ты па сваім лапсардаку плачаш! Я аб ім і не плачу! Ён ужо згніў, гэты лапсардак, лежачы ў скрыні, не дзіва, калі і прашмараваў яго Танель».

Лейба Яхніч зірнуў на сонца: яшчэ высока! Да захаду прыйду дамоў. «Колькі вёрст прайшоў я за свой век! Мо больш за тысячу? Каб усе гэтыя вёрсты стачыць ды расцягнуць, было б да самае Амерыкі. А мо яшчэ далей!» Успомніў Амерыку таму, што ў маладосці хацеў ехаць туды. Хацеў, ды грошай не было. «Дурань, а каб пайшоў пехатою, ужо б даўно там быў!» — засмяяўся сам сабе.

«Як там Сора ды дзеці? Мо хворыя?» Думка пра хваробу кожны раз закрадвалася ў галаву, калі Лейба ішоў дадому. Нічога горшага няма, чым хвароба. А яна амаль не вылазіць з хаты. То адно ляжыць, то другое, а то і адразу двое або трое. А сам жывеш сабачым жыццём, увесь век у дарозе ды ў чужых людзей. А дадому прыйдзеш — ні госць, ні гаспадар: таго няма, гэтага няма... Няўжо толькі ў зямлі адпачынак для гаротнага чалавека. Праз гэтыя невясёлыя думкі паблісквала нешта светлае, радаснае, але неяскравае. І за яго ніяк не мог ухапіцца Лейба. Мо гэта быў Танель — Лейбаў памочнік цяпер і намеснік у будучым. Старэйшы сын. А мо і не Танель...

Ідучы па Слуцкай вуліцы, яшчэ здалёк убачыў Моську Бірга. Ён ішоў па тратуары, махаў рукамі і нешта ўголас гаварыў. Неўгамонны чалавек. Таксама кравец. Ён першы пабег у работнікі да Рывіна. Чаго ж ён так размахаўся, гэты Моська? Мабыць, нешта дапякло. А ён такі, што і сам з сабою палаецца.

— З кім гэта ты гаворыш, Моська?

Моська зірнуў на Лейбу, памаўчаў і раптам узрадаваўся.

— А, гэта ты, Лейба?

— А ты ўжо і суседзяў не пазнаеш?

— Я? Не, я пазнаў цябе, Лейба.

— Ну, дык здароў!

— Здароў, Лейба, як ты маешся?

— Дзякаваць богу, а як ты, Моська?

— Я? — Моська азірнуўся і махнуў рукою.— Бог пакараў мяне, Лейба, адабраў у мяне розум, і сеў я, як муха ў бруд, думаючы, што там мёд... А мёду там і не было, Лейба... Гэты скнара Рывін ведаеш што робіць? Не? Ну дык паслухай: я кажу яму: «Пане Залман, у мяне ўжо няма мукі, мо б вы далі мне разлік за паўмесяца, бо мне трэба хлеб. І мо б вы, пане Залман, зволілі мяне ад працы на адзін дзень, бо мне трэба знайсці фурманку ды прывезці дроў». Ну, што я сказаў? Скажы, Лейба, што я дрэннае сказаў? А ён выскаліўся на мяне, як сабака на крупы, і пачаў крычаць, як шалёны: «Мы разлічваем нашых рабочых адзін раз у месяц, тады, як палічым, колькі хто зарабіў, а табе, Бірг, усё мала, ты кожны дзень плявузгаеш нашым рабочым, што Рывін іх ашуквае. Нашто я цябе браў у таварыства! Я табе зрабіў добра, даў

табе кавалак хлеба, а ты такая гнюсата, не толькі дзякуй не скажаш, а яшчэ, як сляпіца, у вочы лезеш!» Ты чуеш, Лейба! Ён мне даў кавалак хлеба! І ён кажа, што я гнюсата! Ну, якая ж я гнюсата, Лейба?

Лейба паціснуў плячамі: «Ага,— падумаў ён,— Лейба не дурань, не палез у таварыства».

— Або якая ж я сляпіца! Ты мяне ведаеш, Лейба, хто на мяне скажа дрэннае слова. Добрыя людзі ведаюць Моську Бірга: ён нічога не ўкраў, нікога не ашукаў, ён гарэтны чалавек... А ты ведаеш, што я яму сказаў? Не? Ну дык паслухай. Я кажу: «Ідзіце вы, пане Залман, к ліхой матары з вашым таварыствам разам!» Што? Моська Залманаў парабак? А фігу яму! — і я паказаў яму фігу.— А скулу яму! Моська заробіць кавалак хлеба сваёй сям'і і без вашага таварыства! Моська будзе рабіць, а Залман будзе лічыць! А трасцу яму! Моська сам заробіць і сам палічыць. А там былі Гірш Нахмановіч і Рува Хініч і ўсе такія дурні, як я, і яны пачалі ківаць галовамі і ўхмыляцца ў рукавы. А калі Рывін пайшоў, яны сказалі: «Ты, Моська, сказаў Рывіну праўду, усе мы дурныя, як бот з левае нагі». Але я не захацеў слухаць, як дурні каюцца і стукаюць сябе кулакамі ў грудзі... Слухай, Лейба, пазыч мне фунтаў дзесяць мукі. Заўтра, хваліць бога, шабас і няможна мне разгарнуцца. А паслязаўтра я, далібог, аддам табе.

— Адкуль у мяне тая мука! Я не ведаю, ці будзе чым мне павячэраць!

— Ну, Лейба! Твой Танель з тае арцелі толькі ўчора прынёс, мабыць, пуда паўтара, але там было і добрых два! Мая жонка бачыла!

— Мой Танель? Прынёс! З тае арцелі! — у Лейбы соладка заныла сэрца.— Слухай, Моська. Сонца яшчэ не зайшло... Ты вазьмі мяшочак або торбачку, я табе пазычу...

— Няхай табе дапамагае бог, Лейба!

І Моська пабег дамоў, махаючы рукамі.

Вечар набліжаўся, і яўрэі ішлі ў сінагогу. У святочных гарнітурах, паголеныя, памытыя, яны ўрачыста крочылі па тратуары і міналі Лейбу Яхніча.

І Лейба думаў, што ён вельмі грэшны чалавек. Людзі ідуць маліцца богу, а ён яшчэ толькі ідзе з працы, і ў галаве яго няма святых думак. Вось ён, напрыклад, думае: «А далібог, Лейба не дурань! Розуму ў яго хапае, у гэта-

га Лейбы. Не абдурыў Лейбу скнара Рывін». Але тут у вачах з'явіўся мех, а ў ім два пуды мукі. І нясе гэты мех яго сын Танель, і адкуль нясе? З тае арцелі. А ці не дурань ты, Лейба! А што нясеш ты? Мерку круп і буханку хлеба... Як старац! «Добра, добра! — злуецца Лейба,— мне чалавек прывязе! Я яшчэ, хваліць бога, зарабляю!»

Ён адчыніў дзверы сваёй хаты, і чарада дзяцей абкружыла яго і пачала тармашыць. Ён скінуў з плячэй торбу і ўзяў на рукі маленькую Хану. Мордух стаў яму на ногі спераду і абняў. Янкель ззаду пазасоўваў рукі ў халявы яго ботаў. І Лейба хадзіў па хаце, і трое маленькіх душ хадзілі з ім разам, трымаючыся за яго. А Сора выйшла з самым маленькім Юдалем і так ласкава ўсміхалася, што ў Лейбы стала вільготна пад вачамі і ён падумаў: «Далібог, я шчаслівы чалавек!»

— Не мучце, дзеці, бацьку,— прамовіла Сора.— Няхай ён адпачне. Ён так змарыўся.

— Няхай, Сора, няхай. Яны засумавалі без мяне, а я без іх.

Потым прыйшоў Моська пазычыць мукі. І Лейба сказаў, каб Сора пазычыла, калі ў яе ёсць мука. І Моська быў вельмі рады.

Потым Лейба пачаў збірацца ў сінагогу, і Сора прынесла яму святочны лапсардак. Ён быў цэлы і пахнуў нафталінам, мабыць, ляжаў увесь час у скрыні. У Лейбы адкрыўся рот, каб запытаць, што носіць Танель, але Янкель такі ж упраўны хлопец...

— Татэ,— сказаў упраўна Янкель.— Танелю ў арцелі пашылі такую світку! І яе кроіла сама — тая Ірына! І, татэ, нам прывезлі два вазы такіх добрых сухіх дроў! Праўда, мамэ? І, татэ, учора Танель прынёс такой белай пшанічнай мукі. Праўда, мамэ, ты казала, што ў нас такой мукі яшчэ не было. І, татэ, от слухай, татэ! Наш Моўша ўжо ходзіць у школу, а я яшчэ малы!

Лейба прыціснуў да губ голы жывоцік маленькае Ханы, і яна смяялася і дрыгала ножкамі, бо доўгая барада і вусы казыталі яе. А Лейбе хацелася плакаць, бо ён адчуў сябе поўным-поўным ад нахлынуўшага шчасця.

Вечарам ужо ў пасцелі ён думаў і думаў. Перш за ўсё перажываў усе навіны, якія яму расказвалі жонка і дзеці. Навіны былі добрыя. Танель зарабляе. У хаце пахне хлебам. Ёсць дровы, мука! Адзін сын ужо вучыцца. Танель справіў сабе світку. Сам справіў, без бацькі. Сора кажа,

што Танель хваліўся: «Мамэ, Ірына казала, што на зіму мне пашыюць кажух». Так можна жыць! Буткевіч — не дурны мужык! Ён дзяржаўная галава...

А Танеля няма дома цэлы вечар. Ён запытаў у Соры: «Сора, дзе наш Танель?» А яна ўздыхнула і кажа: «Ай, Лейба, што ты пытаеш у мяне пра Танеля? Ён у нас ужо вялікі. Дзе хоча, там і ходзіць». Дурная баба! Лейба ведае, чым тут пахне. Тут пахне камсамол. Бо Мацеева дачка — камсамолка. Хоць Танель і вялікі, але, зняўшы папругу, можна яшчэ гэтаму вялікаму ўсыпаць крыху, каб памятаў, што ў яго ёсць бацька. А то цяперашнія дзеці вельмі хутка вылузваюцца з бацькаўскіх рук. Назаўтра пасля снедання ў Лейбы свярбелі рукі, хацелася правучыць Танеля, але пашанаваў свята... Адклаў на заўтра. А Сорка ці здагадалася, ці не, але падсунулася да Лейбы.

— Чуеш, Лейба, сын Алтара Сапуна Мотэль, той, што ў выканкоме працуе, ты чуеш, Лейба, ён цяпер рахункавод у арцелі.

— Ну?

— Чуеш, Лейба, а другі Сапуноў сын Довід — такі камсамолец, такі камсамолец. Танель кажа...— і тут Сора прыкусіла язык.

— Ну? А што кажа Танель?

— Танель кажа, што Довід такі камсамолец...

— Ага! — Лейба ўхмыльнуўся: «Дурная баба ўсё расказала».

«Цікава,— падумаў Лейба.— Алтар Сапун — чалавек не абы-які, няма чаго казаць. Але ці біў ён свайго Довіда? Скажам: біў, але ж Довід усё роўна камсамолец! Так і Танель: бі яго ці не бі, а ўсё роўна ён будзе камсамолец. А калі Алтар не біў? Няўжо ты, Лейба, разумнейшы за Алтара, што будзеш біць свайго сына! Калі хочаш быць разумным чалавекам, то бяры прыклад ад разумных людзей і рабі тое, што робяць яны. Ніколі не стой упоперак дарогі свайго дзіцяці. Табе здаецца, што гэтая дарога дрэнная, а мо яна добрая. Навошта табе збіваць з дарогі людзей ды весці іх па сваёй? Хіба твая прывяла цябе да шчасця? Можа, на нашых дзяцей будзе ярчэй свяціць сонца. Цяпер, дзе ні паслухай, усюды кажуць: Ленін, Ленін! Можа, і тваё сённяшняе шчасце, Лейба, прыйшло ад Леніна! Буткевіч казаў: вучыць дзяцей працоўных саматужнікаў — вялікая дзяржаўная справа! А хто галава нашай дзяржавы? Ленін!»

А Танель, такі лайдак, падышоў да бацькі і палажыў яму руку на плячо.

— Татэ! Хадзем заўтра ў нашу майстэрню. Там, татэ, вельмі добра, і мы ўдваіх столькі запрацуем! — Лейба азірнуўся: і Сора, і Танель, і Янкель, і Моўша, і Мордух упрашальна глядзелі на яго, на свайго бацьку.

— Слухай, Лейба, ты ўжо стары цягацца па свеце... Паспрабуй хоць на адзін тыдзень. А, Лейба?

— Татэ, татэ! — мо дзесяць ручак, маленькіх дарагіх ручак яго родных дзяцей, пацягнуліся да яго, пачалі гладзіць лапсардак, а маленькая Хана ўжо лезла на яго калені, і Лейба ўскочыў з лавы і закрычаў:

— Ідзіце вы! Ідзіце вы ад мяне!

А сам думаў, што яны гавораць якраз пра тое, аб чым ён думаў у гэтую хвіліну. «Ну, куды ты ўцячэш ад сваіх дзяцей, Лейба! Дзе ты схаваешся ад свайго шчасця, калі яно само цябе ловіць!»

І ў гэтую ж хвіліну стала такім яркім і яскравым тое светлае і радаснае, за якое ніяк не мог ухапіцца Лейба ў дарозе. А мо і тады ведаў пра яго Лейба, толькі не хацеў прызнацца самому сабе, што ведае.

У панядзелак Лейба думаў адпачыць. Але калі Танель пайшоў у майстэрню, у душы яго стала пуста, і гэтае рашэнне адпала. Ён пахадзіў па хаце, потым ускінуў на плечы світку і выйшаў. На рынку яшчэ было пуста, і ён прамінуў яго. Ён ішоў і сам не ведаў куды. Проста так пахадзіць, адпачыць. «Навошта ты, Лейба, ашукваеш сам сябе! — гэтыя словы ён сказаў уголас ужо ля дзвярэй майстэрні.— Ты ж і збіраўся сюды».

Ён зайшоў у памяшканне і адразу ўбачыў Моську Бірга. Ён сядзеў за машынай і шыў.

«І машыну сваю забраў ад Рывіна»,— здагадаўся Лейба.

— Здароў, Моська! Што, ужо разгортаешся?

— Разгортаюся, Лейба! Разгортайся і ты!

— Прыйдзецца! — адказаў Лейба і распрануўся.— Дзе ў вас тут цвікі?

— Які ты хуткі! Схадзі спачатку да старшыні, каб прынялі.

— А мяне ўжо даўно прынялі! — Лейба кіўнуў галавой у бок Танеля.

Танель смяяўся, сціснуўшы зубы і не адкрываючы рота: хіба можна наогул смяяцца з бацькі!

46

Мінулае забываецца. Алесь адчуваў, што падзеі ля Заблужскага млына ўспамінаюцца, як брыдкі сон, але ўжо не трывожаць. Пачуццё віны пачало вытыхацца з яго душы. З Патапчыкам ён амаль не сустракаўся. Той больш не заходзіў у яго хату. Алесь быў упэўнены, што ён цяпер не толькі ездзіць за бандай, каб падбіраць абрабаванае, а, напэўна, і сам рабуе і забівае людзей. Так яно і павінна было здарыцца. Алесь верыў, што і яго хацелі зрабіць бандытам. Ён радаваўся, што выслізнуўся з гэтых абцугоў... Мучыла толькі адно: ля Заблужскага млына быў і ён. І баяўся, што Патапчык можа яго забіць. Такія думкі прыходзілі рэдка, аднак Алесь вырашыў быць ніжэй травы, цішэй вады, пакуль не прыйдзе канец бандзе. А што канец будзе, ён таксама быў упэўнен, толькі не ведаў, што і сам ён будзе мець нейкае дачыненне да гэтага канца.

Цяпер на Алеся ўплываў Калачык. І яму хацелася расказаць Калачыку аб усім. У першы дзень, калі яны валілі лес, Алесь не раз адкрываў рот, каб распачаць пра гэта размову, але мімаволі гаварыў аб іншым. Вечарам пасля працы ён цвёрда вырашыў заўтра ж пагаварыць на гэтую тэму, але зноў прамаўчаў увесь дзень. Язык стаў калом, ды годзе. І Калачык маўчаў.

Дадому ішлі не поруч, а адзін за адным.

— Ну вось, лес у цябе гатовы.

— Гатовы! — Калачык ажывіўся.— От што, браце, значыць улада. Так бы і звекаваў Сцяпан без сянец, каб не яна.

— Чаму ты так кажаш, Сцяпан?

— А так, што праўда гэта. Паклікалі мяне ў Ярэмічы на сход беднаты. Прыйшоў я. Пачаўся той сход. Нейкі чалавек з воласці на тым сходзе быў. Зда-ровы такі чалавек, але без рукі. І немалады ўжо. Вусы ў яго такія раскошныя.

— Круглатвары?

— Але.

— То гэта ж загадчык школы.

— Не ведаю. Але разумны чалавек! Ён там на сходзе ўсё і кіраваў. Ткачэню па баку! Бо зап'янстваваўся і, як казаў той бязрукі, толькі з кулакамі сябруе.

— Вось як! Дык Ткачэню, кажаш, скінулі! А каго ж паставілі?

— Галамаку Антося. Калі ведаў таго Андрэя, што ў Ёдкі пастухом быў ды бык забіў яго, калі ў памяці табе, то вось таго Андрэя сын.

— Ведаю.

— Ён з арміі нядаўна прыйшоў. З мазгамі хлопец, і прыветлівы, і пагаварыць умее. Макарэвіча, што старшынёю камітэта... ну, дапамогі, от жа забыў толькі якой, прабралі добра, што не дапамагае беднякам. А Макарэвіч і сам мала ад нас адскочыў, пык-мык, не ведаў, кажа, я гэтага, а Ткачэня, кажа, толькі гарэлку ў хутаранцаў п'е... Папала там Ткачэню, колькі ўлезе. Гэта мы тут, як у казіным розе, сядзім, нічога не ведаем, а людзі ўсё ведаюць. Там і пра голад гаварылі, што недзе быў на Паваложжы, што людзям дапамагчы трэба, насення ім даслаць. У Ярэмічах ужо і сабралі. А потым пасля сходу той бязрукі распытаў у мяне, адкуль я, і сям'я якая, і зямлі колькі, ну, пра ўсё падрабязна. А потым на Макарэвіча ўскінуўся, чаму ж, кажа, вы беднякам не дапамагаеце. От, кажа, і таварышу Калачыку (гэта ён пра мяне так сказаў) дапамога трэба. «У чым,— кажа ён да мяне,— таварыш Калачык, вы маеце патрэбу?» А я кажу: ні ў чым. А Макарэвіч кажа: «У цябе ж сянец няма, Сцяпан!» А я, браце Алесь, зусім і забыў пра сенцы... Скажы ж ты, як гэта я прывык не па-людску жыць!.. Вядома ж, так не па-людску ўвесь век... Няма сенцаў, а мне і не трэба. Ды і далі мне паперку на бясплатны лес для сенцаў. От што, браце Алесь, савецкая ўлада, выходзіць, і паклапацілася, каб у Сцяпана сенцы былі.

Нязкладная, але ўсхваляваная прамова Калачыка не толькі зацікавіла Алеся, але ўзяла яго за жывое. Ён быў рады слухаць яе. Значыць-такі ўлада, сама ўлада хоча падняць чалавека, паставіць яго на ногі. І, каб разварушыць Калачыка, прымусіць яго гаварыць, ён запытаў:

— Дык, кажаш, бязрукі?

— Але, браце Алесь, той бязрукі. Галава ў яго не абы-якая. Наслухаўся я нямала...

— А што ж ён яшчэ гаварыў, Сцяпан?

— Ой, браце Алесь, я таго і выказаць не магу. Толькі зразумеў я, што сядзім ў цемры-цьмушчай, і нічога мы не ведаем, і тыкаемся мы насамі, як сляпыя шчаняты, невядома куды, нібы нам і прытуліцца няма да каго.

А ўлада, то яна ўсё ведае, толькі далёка мы ад улады, і лянуемся мы паварушыцца, ляжым як каменне ў жвіры... А Патапчыкі розныя — блізка от, мы да іх і тулімся... А ўлада, браце Алесь, далібог, усё ведае. Наша гэта ўлада, твая ды мая... Калі пачаў той бязрукі гаварыць на сходзе, далібог, я наплакаўся, як бабёр... Акурат ён тое гаварыў, што я думаю...

— Пра што, Сцяпан?

— Пра ўсё на свеце. А галоўнае, што жыццё цяпер пойдзе не так, як ішло раней. Зусім не так. Працоўны чалавек павінен жыць па-людску, і ўлада стаіць за нас, працоўных людзей... Ай, Алесь, ці ж я табе раскажу! От, здаецца, і ўсё ведаю, а як пачну расказваць, дык і не выходзіць. Каб ты бязрукага паслухаў!

— Праўда, Сцяпан. Языкі нашы, як калоды неабчэсаныя: ты яго вернеш-вернеш, а ён там за зубы, як за пні, чапляецца...

— Вось жа яшчэ, Алесь. І пра бандытаў ён гаварыў.

— І пра бандытаў?

— Але... Улада, браце Алесь, і пра бандытаў усё ведае. Толькі цяжка ёй цяперачы без дапамогі нашай... Так той бязрукі і сказаў, што мы — усе сумленныя людзі — павінны дапамагаць уладзе. Павер, што Патапчык так і круціўся на маім языку... але адумаўся я.

— Пасядзім, пакурым, Сцяпан...— у Алеся раптам самлелі ногі і сэрца затрапяталася, як пад нажом.

— Добра ты кажаш, давай пасядзім.— Яны прыселі на куп'і ўзбок дарогі.— А чаму адумаўся я? Таму, што цябе ўспомніў... Ці не лепш было б нам паціху шапнуць начальству.— У Алеся дрыжалі пальцы, але Калачык нібы не бачыў гэтага.

— Што ты скажаш, Алесь, на гэта, га?

— Слухай, Сцяпан...— Алесь уплёўся за плечы Калачыка, прыцягнуў да сябе: — Слухай, Сцяпан... Я тады да Заблужскага млына з Патапчыкам ездзіў... Тое адзенне, Лейбава, мы да Патапчыка прывязлі...

— А я гэта даўно ведаю, Алесь...

— Браце Сцяпан... Далібог, маё сумленне чыстае, як перад богам кажу табе. Нічога я не ведаў.

— Ды я ж веру, Алесь!

— І жонка мяне не пускала... Яна і цяпер нічога не ведае. І вось зарабіў я...— ён выцягнуў з кашалька анучку, раскруціў: тры жоўтыя круглякі бліснулі на далоні.—

Вось што я зарабіў... Трыццаць, роўна трыццаць, як таму Юдзе... Зашпурнуць, я іх хацеў у балота.

— Нашто шпурляць! Няхай будуць, толькі не траць да часу...

— Перахварэў я, браце Сцяпан... І жонка перахварэла, на мяне гледзячы.

— От бачыш, Алесь, як лёгка нас ашукаць. А чаму? Ды таму, што цемната мы... Святла мы не бачым. А святло ёсць... Паўстала світанне над нашай зямелькай, Алесь. Мы ў людзі выйсці хочам, заробкаў шукаем, на Патапчыка век гаруем і не ведаем, што ў нас жа ўлада ёсць. Такая ўлада, што сама гаротніка ў людзі выводзіць. Той бязрукі вочы мне адкрыў. Я кажу яму, што насення ў мяне на вясну не будзе, дык ён Макарэвічу ды Галамаку кажа: «Глядзіце, каб насенне беднякам было. Трэба камітэту старацца збіраць насенне. Сходы ў вёсках правядзіце. Добрыя, кажа, людзі самі дадуць, а кулакоў прыцісніце. Не будуць даваць — мы дапаможам прыціснуць». Чуў, Алесь? А я ўсё да Патапчыка бегаў: «Пазыч пудзік на насенне». А ён ломіцца ды бедніцца — няма. А калі дасць, дык Сцяпан гаруй яму цэлае лецейка...

— Няхай бы ж той бязрукі і да нас прыехаў.

— Прыедзе! Калі не ён, то нехта другі.

Цяпер Алесь зразумеў, што не трэба хавацца ад такіх людзей, як Калачык. І прыхіліцца трэба да ўлады, і дапамагаць ёй. Ён успомніў, як сустракаў першы чырвонаармейскі атрад, які заехаў у Загалле пасля таго, як выгналі белапалякаў. Амаль уся вёска выйшла з хлебам і соллю. «Нашы прыйшлі! — крычалі людзі.— Нашы прыйшлі!» І ён радаваўся і крычаў разам з людзьмі. А Патапчык дзе быў тады? Ён па палескіх сцежках-дарогах выводзіў апошні польскі атрад, ратаваў яго ад Чырвонай Арміі.

Сцяпан маўчаў. Ён бачыў, што Алесь думае, і думаў сам: «Думай, думай, чалавек! Новыя думкі ў цябе, чалавечыя, а не воўчыя».

Сонца ўжо заходзіла. Вечар прыйшоў, ціхі і халодны. На захадзе пачало выпагоджвацца: разгарнуліся аблокі, і зірнула на зямлю празрыстае сіняе неба. І гэты празрысты блакітны прагалак увачавідкі расшыраўся і цямнеў ад наступаючай ночы. Потым выкаціўся на неба залаты сярпок месяца і паплыў, падняўшы ўгару рогі.

— Хадзем дамоў, Алесь. Нагаварыліся колькі ўлезе.

— Маўчы, Сцяпан. Я б цэлую ноч гутарыў так. Сэрца маё перанылa ды перабалела за гэтыя часы.

Алесь яшчэ не скончыў вячэраць, калі ў хату зайшоў член сельсавета Герасіменя Сідар.

— Ну, Алесь, пусціш у хату сход?

— Які сход? — не зразумеў спачатку Алесь.

— Ну, вясковы сход, не ведаеш хіба? З Ярэміч Галамака Антось прыехаў і Макарэвіч Сямён.

— Дык што ж! Хіба я не пускаю. Як ты думаеш, Арына?

— Няхай прыходзяць людзі! Хіба хаты шкада. У Патапчыка ж большая хата, Сідар.

— У Патапчыка! Не трэба нам Патапчыка хата. Ну, дык я пайду загадваць.

— Падмяці, Арына, падлогу,— сказаў Алесь, калі Сідар выйшаў.— Ды лямпу трэба запаліць. А ты, Волька, лезь на печ.— Алесь прылёг на лаве і пацягнуўся. «Бывала, у каго сход? У Патапчыка. У яго хата вялікая. Да каго начальства едзе? Да Патапчыка. У яго ёсць чым пачаставаць. А цяпер — на табе! У Патапчыка начальства не хоча спыняцца. І хата яго не трэба, і пачастунак. Тут, як відаць, не ад хаты залежыць. Ад чалавека. Вось як! У Патапчыка няможна сход збіраць, а ў Марыніча можна! Значыць, Марыніч не горшы за Патапчыка, а лепшы. Вось што я скажу!» Арына вымела хату, падрыхтавала лаўкі, збегала да суседак, назносіла ўслонаў. Паставіла іх у парадак. І хустку новую завязала. Алесь зірнуў на хустку і падумаў: «Я ж не купляў такое. Сама купіла ў Шмойлы. Я бо думаю, што пакінула мне гаварыць, калі ў мястэчка еду,— купі, Алесь, хустку... Ну, вядома, збожжа не аддала. Анучы, яйкі, лён — от чым бабы гандлююць. Грашыць няма чаго, з маёю бабаю можна жыць». Зірнуў на Арыну — памаладзела яна ў новай хусце, папрыгажэла.

— Што, ужо дала зарабіць Шмойлу?

— Надакучыла прасіць цябе. Узяла ды сама купіла.

— Ну і добра. Адным клопатам менш.

Пачалі збірацца людзі. Першыя прыйшлі жанкі: Сідарыха ды ўдава Радзівоніха. Селі з Арынаю ля печы і пачалі: шу-шу-шу. «І заўсёды ў іх нейкія сакрэты!»

Потым прыйшлі Галамака і Макарэвіч. Прывіталіся за руку і селі ля стала. Зірнуў на Галамаку Алесь і адразу зразумеў, што гэта не Ткачэня. Той, бывала, не вылазіў ад Патапчыка і ніколі цвярозы на сход не прыходзіў. А гэты хоць малады, але сур'ёзны.

— Ты ці не ў лесе быў, Алесь? — запытаўся Макарэвіч.

— У лесе. Сцяпану Калачыку бярвенні часалі на сенцы.

— А, таму Калачыку, што камітэт узаемадапамогі лес даў? — запытаў Галамака.

— Таму самаму.

— Вось бачыш, Макарэвіч, якая ўзаемадапамога. Нават сусед суседу дапамагае, а ты казаў, што нічога ў нас не выйдзе,— ён павярнуўся да Алеся.— Мы, таварыш Марыніч, сход у вас правядзем. Трэба сабраць хлеб у дапамогу беднаце і галадаючым на Паваложжы. А Макарэвіч сумняваецца, кажа, што ў Загаллі наўрад ці што выйдзе.

— Чаму не выйдзе? — узлаваўся Алесь.— Што, хіба мы звяры? А калі, барані бог, пажар, ды, скажам, пагарэльцы! Дзе ж такому чалавеку ўзяць?

— У тым і справа, што на выпадак пажару сярэдні селянін можа без насення і без хлеба застацца. Вось у такім выпадку камітэт дапаможа.

— Добра, далібог, добра. Ніхто не адмовіцца. Людзі нашы нядрэнныя. Вядома, цёмныя мы, прыхіліцца не да каго,— Алесь зразумеў, што ён кажа Калачыкавы словы. Аднак яму здалося, што ён іх прыдумаў сам,— але супроць улады не пойдзем, бо наша яна. Чакалі мы яе, калі польскія паны душылі нас. Сустракалі мы яе з хлебам-соллю...

— Праўду кажаш, таварыш Марыніч. Але цемнату гэтую мы ж самі і выганім. Нядоўгая яна госця ў нас. Цяжкавата, таварыш Марыніч. Бандыты замінаюць нам. На два франты ваюем: і з бандытамі, і з цемнатою. А тут яшчэ людзі ёсць, што спрыяюць бандытам, хаваюць іх ды кормяць. А дзе цемнату прагонім, там, глядзіш, і бандытаў няма.

— Далібог, праўда, таварыш старшыня...

— Вядома, праўда.

— Так і Ленін кажа? — перабіў яго Алесь.

— Ленін? Безумоўна, што так кажа і Ленін.

У хату ўжо сабралася шмат людзей. Жанкі таўкліся ля печы, мужчыны ішлі бліжэй да стала, каб паслухаць, што скажа начальства. Закурылі хто люлькі, хто цыгаркі, дым, як хмара, стаяў да самай столі. Павесь сякеру — не ўпадзе.

Раман Кругленя пачуў пра Леніна, падсунуўся бліжэй.

— А ці не бачыў ты часамі Леніна? — нават жанкі прыціхлі ля печы.

— Не, не бачыў.

— Вось скажы! Не даводзіцца стрэць чалавека, каторы Леніна бачыў бы.

— Нашто табе той чалавек! Прыдумаеш ты, Раман,— сказаў Сідар Герасіменя.

— Як нашто? Ён бы нам расказаў пра Леніна, які ён сам, што ён гаварыў. Гэта ж самы большы наш начальнік. Галава наша. Што ён думае пра нас, значыцца, пра сваіх людзей.

— Думае ён аб тым, як жыццё наладзіць, як беднага селяніна на свае ногі паставіць, каб незалежны ён быў ад кулака. Бачыш сам, цяпер у нас усяго не хапае. Такую вайну перанеслі мы на сваіх плячах. Трэба гаспадарку ладзіць. А хіба адзін наладзіш!

— Дзе ты бачыў! Адзін і ля кашы невялікі ваяка.

— Гуртам трэба.

— Можна сход пачынаць! — шапнуў старшыні Сідар.

— Пачнём. Ну, дык, таварышы, хачу запытаць у вас, як жывеце, ці хлеба хапае, ці насенне будзе.

Сход памаўчаў. Ад печы адышла ўдава Радзівоніха, адпіхнула Мікалая Леўчыка, што стаяў на дарозе, выйшла на сярэдзіну хаты.

— Адкуль тое насенне, старшынька! Пра хлеб — маўчым: і хопіць — не хопіць, перакідаемся неяк на бульбе, на тым-сім... А без насення, дык хоць ляж ды памры.

— Без насення смерць,— адгукнуўся Сцяпан Калачык.

— Трэба сход пачынаць! — зноў шапнуў Сідар старшыні.

— А мы яго пачалі ўжо,— адказаў старшыня, і Сідар, развёўшы рукамі, сеў.

— То ж і бяда, што вы свайго насення ніколі не маеце,— з папрокам сказаў Мікалай Леўчык.

— А што! Хіба я яго прапіла або прадала ды прагуляла! — крыкнула Радзівоніха.

— Насеннейка трэба берагчы... Недаеш, папасці, але беражы! — зноў азваўся Леўчык.

Барадатыя мужыкіківалі галовамі: што праўда, то праўда.

Алесь раззлаваўся: заразы, багатыры такія знайшліся. Сам ледзь канцы з канцамі сточвае, а другога вучыць. Каб разявіла сямёра душ сем галодных ратоў, як у Калачыка, пабачылі б, як ты збярог бы насенне. Рызыка, што ён да Патапчыка ў старцы не ходзіць.

Старшыня ўстаў.

— Вы пра Леніна пыталі, а я не даказаў вам, перабілі мяне. Дык даказаць хачу. Ленін даў такую параду сялянам — зрабіць камітэты ўзаемадапамогі. Такі камітэт і ў нас ёсць. Але чым ён дапаможа бедняку? Ну, лесу дасць на будоўлю. А насенне дзе ён возьме? А ў вас, таварышы, у некаторых насенне ёсць. Вось у цябе, дзед,— ён звярнуўся да Мікалая Леўчыка,— мабыць, і лішняя пудоўка знойдзецца.— Мікалай апусціў галаву.— А ў цябе, жанчына, і хлеба не хопіць.

— Праўда, старшынька, далібог, праўда! — прамовіла Радзівоніха.

— Не гніся, Мікалай, чаго там! — штурхануў Раман Леўчыка.

— Цяпер — голад. Чулі, мабыць, што на Паваложжы ўраджай увесь ад спёкі загінуў, людзі там ад голаду паміраюць. Наш брат — селянін, такі самы, як мы ўсе, земляроб прападае. Нічога няма, ні хлеба, ні насення на будучую вясну. Вось Ленін і даў параду, каб усе, хто лішнюю пудоўку, паўпуда, хто колькі мае, слалі ў камітэт. Частку трэба на Паваложжа адаслаць, а частку ў сваім камітэце пакінуць. Скажам, у цябе, таварыш, не хапіла насення. Ідзі ў камітэт і бяры. Восенню зноў аддай, без ніякага адработку. Хіба кепскую параду Ленін даў сялянам? Толькі так яны ў старцы да кулака не пойдуць.

— Парада добрая, няма чаго казаць,— сказаў Мікалай Леўчык.— Але ж тады ад гэтых беднякоў адбіцца нельга будзе. Нашто яму рабіць? Прыйшоў у камітэт, набраў ды еш. Тады і я бедняком стану!

— Эх, Мікалай, Мікалай! — Калачык выпхнуўся наперад.— Ці менш я за цябе раблю? Толькі праца мая

зламанага гроша не варта... У цябе ёсць лішні пуд, але ж ты хочаш прадаць яго з выгадаю.

— Мой пуд, а не твой! — крыкнуў Мікалай.— Што захачу, тое і зраблю з ім.

Раман Кругленя моўчкі ківаў галавою.,

— Хачу — гарэлкі наганю! — прадаўжаў Леўчык.— А соль хіба не трэба? А запалкі, а мыла, а мазь, а жалеза? Дзе мы яго бяром? Усюды наш пуд!

— Праўда, праўда! — сход стаў гармідарам. Усе, хто меў лішні пуд, падтрымлівалі Мікалая Леўчыка.

— Ну што ў вас тут, кірмаш, ці што? — Алесь асмялеў: у сваёй хаце і куты дапамагаюць.— Што вы звяры ці людзі? Вам чалавек — наш старшыня, пра Леніна гаварыў, растлумачваў, як трэба на свеце жыць, што людзям дапамагчы трэба, не толькі сваім, ды і тым далёкім, што галадаюць, а вы, як лісіца хвастом, сваім пудам накрыліся. А я дам. Колькі магу — дам. Два пуды аўса, паўпуда ячменю, паўпуда проса... як ты думаеш, Арына, мо і жыта паўпуда?

— А ты лепш ведаеш, Алесь,— адгукнулася Арына,— ты гаспадар.

— Ну дык і жыта пуд. Няхай тым галодным.

Сход разявіў раты: «Як Алесь Марыніч не шкадуе чатырох пудоў! Невялікі багатыр, а расход у яго вялікі... Сына ў мястэчку трымае, а гэта ўсё роўна, як другая сям'я...»

— Пішы, Макарэвіч: Марыніч Алесь — два пуды аўса, па паўпуда ячменю і проса і пуд жыта. А сам папругу падцягну цясней, каб чэрава не вісела, як у Патапчыка. А не хопіць, сам прыйду ў камітэт. А вам Патапчыка шкада, што не будзе ў яго Калачыка — дармовага работніка на круглы год.

І тут устаў Раман Кругленя.

— Што ты нас лаеш, Алесь! Хто ж казаў, што не дасць? Ніхто гэтага не сказаў. Так сабе людзі гавораць, што цяжка ім, разважаюць. А наш брат не ўмее разважаць, каб не крычаць. Вось і ты: вельмі разумна сказаў, наўрад ці хто другі так скажа, а ў канцы ўзяў ды накрычаў на ўсіх.

Алесь засмяяўся, і сход заліўся рогатам.

— І я дам! — працягваў Раман.— Ад цябе не застануся, Алесь. Пішы і мне Сямён, тое, што Алесю. І вось я вам скажу, вяскоўцы. Разумна прыдумаў Ленін. Аку-

рат так і трэба. Нібы ён ведаў, што ў Загаллі Патапчык ёсць. А цяпер на табе, Патапчык, фігу!

Сяляне смяяліся весела, шчыра, ад усяе душы.

— Пішы і мяне, Сямён! — сказала Радзівоніха.—Пуд аўса і паўпуда грэчкі. А жыта, далібог, няма... вымакла.

— І мяне! І мяне! — пачалі выкрыкваць з кутоў. Многія падыходзілі да стала.

— Пачакайце! — Сідар Герасіменя адабраў у Макарэвіча спіс, доўга яго чытаў, аж да таго, што змакрэў, усе сціхлі, чакаючы, што ён скажа. Ён кінуў спіс на стол і зірнуў на Макарэвіча так, што той аж спалохаўся.

— Чаму ж ты мяне не запісаў, галава твая дубовая! — ускінуўся ён на Сямёна Макарэвіча.

— Бо ты ж нічога не казаў!

— Я ж член! Ты сам павінен ведаць. Я ж павінен быць першы, а цяпер ты мяне пад ніз напішаш, га? Ну дзе ж твая галава?

— А каб ты скіс, Сідар!..— зарагатаў Раман.— А я думаў, чаго гэта трэба пачакаць?

Усе збіліся ля стала, каб запісацца.

А Алесь думаў, што і сапраўды ён дарэмна крычаў, што Раман Кругленя разумны і хітры і што ў Загаллі людзі нядрэнныя... Ён нават не ведаў дасюль, што ў Загаллі такія людзі.

## 47

Хлопцы босыя сядзелі ў сваім пакойчыку, збіўшыся гуртам на Корзунаў ложак. Каганец патушылі. За вокнамі была ноч, чорная як сажа. Хлопцы па чарзе расказвалі страшныя казкі пра мерцвякоў і разбойнікаў. Час ішоў памалу, і спаць ніхто не думаў. Казкі наводзілі такі страх, што і ў слухачоў і ў апавядальніка варушыліся на галаве валасы. Гэта было падобна на гіпноз. Гіпнатызавалі адзін аднаго словамі, рухамі, страхам, напружанасцю пачуццяў. Варта было б каму-небудзь крыкнуць, і некаторыя з іх страцілі б прытомнасць. І раптам знікла цішыня: на двары ўзняўся вецер, скавытнуў у коміне печы, зашалясцеў па страсе, страсянуў аканіцу і бразнуў яе аб сцяну.

— Бандыты! — ледзь чутна прашаптаў Цімчук.

— Дурніца, луннік! Гэта вецер! — адказаў Пятрусь.

— Не луннік, а лунацік! — паправіў Ігнась. Ён нядаўна ўведаў, як правільна гаварыць гэтае слова.

— Усё роўна! — адказаў Пятрусь і пачаў расказваць пра Цімчука, дабаўляючы ад сябе болей паловы.

— Я ж не выходжу на вуліцу і нікуды не лажу...— апраўдваўся Цімчук.

— Пакуль што ты яшчэ не выходзіш і нікуды не лезеш, бо мы цябе тут трымаем. Але як мы не прачнёмся, то ты пойдзеш, і занясе цябе дурніца на царкву, а адтуль ты паляціш вобземлю, і на нашай кватэры будзе адно вольнае месца. Тады ты, Янка, пяройдзеш да нас.

Тую ноч хлопцы праспалі не раздзетыя.

Наогул жыццё страціла належны парадак: усе чакалі нападу бандытаў, як няшчасця, якое ні ў якім разе не міне. У мястэчку значна пацішэла і паменшала прыезджых людзей. Новы распарадак спыніў рух. У школе вучняў засталося не больш паловы. Значная частка вясковых разышлася дамоў. Некаторыя з мястачковых выехалі ў горад.

Фоці Гардыенка і Грыневіч Лёнік распускалі чуткі, што школу закрыюць зусім. Гэта было падобна на праўду, бо ўрокі праходзілі без ніякага раскладу. Настаўнікаў не хапала. Тарас Ігнатавіч звычайна рэдка бываў у школе, Наталля Васільеўна хварэла, Фаіна Тодараўна выехала ў Слуцк. Болей за ўсіх працаваў Хвядос Іванавіч. Праца і жыццё паклалі след на ўсю яго постаць. Ён згорбіўся, схуднеў, твар пажаўцеў, як воск, рухі сталі павольнымі, але праз акуляры глядзелі ўсё такія ж вясёлыя, бадзёрыя і ласкавыя вочы...

У сувязі з ненармальнымі заняткамі заставалася шмат вольнага часу, і Ігнась з Янкам праводзілі яго ў камсамольскім клубе. Гэта станоўча ўплывала на развіццё абодвух хлапцоў. Ігнась зразумеў, што грамата — гэта не толькі ўменне чытаць і пісаць, што ёсць другая грамата, якая вывучае класы людзей, апісвае барацьбу класаў, прадугледжвае яе вынікі, і ведаць гэтую грамату неабходна. Ён з дапамогаю Янкі па прыкладу камсамольцаў пачаў наладжваць дыспуты ў класе. Такім чынам, пятаму і шостаму класам быў растлумачаны нэп. Большасць вучняў цяпер ведала не толькі, што гэта новая эканамічная палітыка, але разумела і яе сутнасць.

У сувязі з Ленінскім планам электрыфікацыі ў школе шмат гаварылі аб электрычнасці.

План электрыфікацыі! Цяжка было ўявіць электрычнае святло ў гады разрухі, нястачы і бандытызму ды яшчэ ў такім далёкім палескім мястэчку, дзе нават і газы не хапала.

У Алтаравай сям'і зноў пачаліся гарачыя спрэчкі, бо Моўша вярнуўся дамоў у новым гарнітуры. Сіме цяпер стала патрэбна футра, бо хутка павінна было адбыцца вяселле.

У Алтаравым куфры ляжыць футра: унутры лісіцы, зверху цюлені. Лея заводзіла Алтару, што з яе трэба пашыць дзве футры: адну Сіме на лісіцах, другую Грэйніму на цюленях. Але Алтар маўчаў. Лея не ведала, аб чым ён думае, але ёй неабходна было гэта ведаць. І яна дапытвалася аб гэтым рознымі метадамі, у розных месцах, у любы час сутак.

— Заўтра трэба аддаць тваю футру краўцу Рывіну, чаго яна будзе ляжаць.

Алтар маўчаў.

— Ты, мабыць, аглух?

— Не, я ўсё чую.

— Я сама аднясу яе заўтра.

— Паспрабуй!

Ну, і яму папала за гэтае слова.

— Ратуйце, добрыя людзі, ад гэтае скнары! — закрычала Лея.

Такім чынам, к вяселлю рыхтаваліся дзейна. Яно павінна было быць такім, каб ні да яго, ні пасля яго такога не было.

У панядзелак будынак школы аж стагнаў ад вучнёўскіх ног. Усе вучні з вёсак вярнуліся ў школу. Гэтаму паспрыяла тое, што бандыты не напалі тады, калі іх чакалі. Гэта ўнясло супакаенне, і жыццё ўвайшло ў звычайнае рэчышча.

Цікавымі былі цяпер узаемаадносіны вучняў.

Старшыня вучкома Васіль Бажко страціў сваю рэпутацыю. Тыя вучні, якія ўдзельнічалі ў атрадзе, патрабавалі перавыбараў. Іх падтрымлівалі цалкам пяты і чацвёрты класы. Кандыдатам на новага старшыню высунулі Лявона Богуша.

Гардыенка згуртаваў вакол сябе цэлую групу багацейшых вучняў, якія заўсёды трымаліся разам. Нехта з атраднікаў трапна ахрысціў іх — «ганчакі святога Фоція». Гэтая назва так і засталася за імі. Ганчакі не раз-

лучаліся і на перапынках. Яны меркавалі выставіць старшынёю вучкома Гардыенку Фоція. Настаўніцтва падтрымлівала Богуша.

Між варожымі групамі часта ўзнікалі спрэчкі. Лявон не прымаў у іх удзелу, а гледзячы на яго, маўчаў і Гардыенка. Ён толькі шпігаваў сваіх ганчакоў, і яны стараліся.

У часе такіх спрэчак можна было шмат чаго пачуць.

— Ну як, многа перабілі бандытаў? — пытаў Грыневіч у Саротніка Данілы.

— Шкадуеш? — усміхаўся Даніла.

— Гэта ты шкадуеш, ні аднаго не забіў.

— Як ні аднаго! — Грыневіч лічыў сябе майстрам вострага жарту.— А вунь ля смалакурні чалавек дваццаць ляжыць! Гэта так наш баявы гурток арудуе!

— Ну-у!

— А як жа! У іх Кузьма Кручкоў — Богуш Лявон.

— Эх, Грыневіч! Ну хто б пасмяяўся, ды не ты!

— Чаму? Няўжо Даніла лепшы за Грыневіча.

— Ва ўсякім разе не горшы. А што мы не раўня, то факт.

— Чаму ж гэта?

— Ганчаком ты стаў, Грыневіч, вось у чым бяда.

На дапамогу Грыневічу прыйшоў Фоці.

— Хлопцы, дзе тыя бандыты? Міраж у пустыні! Сон рабой кабылы. Самі выдумалі бандытаў, каб падзяліць вучняў на нашых і вашых. Богушу, мабыць, шкада, што мы ў школе вучымся. Уся тут і хітрасць.

— Ну ты, Фоці, зусім дурны! Такая бязглуздзіца! Як гэта можна сказаць, што бандытаў няма.

— Пачакай. Ну, няхай яны ёсць, ну, няхай ёсць. Дык вы ж у школе на іх класавую палітыку пабудавалі.

— Ну, а як жа! Вось ты калі сумленны чалавек, то хоць быў бы лаяльным, а ў цябе гэтага няма. Адразу відаць, каму ты аддаеш сімпатыі.

— Мо бандытам?

— Магчыма.

— Дазволь, дазволь, Даніла. Я не замінаю вам. Ваюйце, калі ласка, біце бандытаў, але нашто дзяліць вучняў: гэты добры, гэты дрэнны. Ну, чым я горшы за цябе?

— А хто ж табе казаў, што ты горшы.

— Лепшай аб'явы не трэба: тых прыняць, тых не прыняць.

— Дык ты ж нават не выказаў жадання ўступіць у гурток?

— Бо пасля той аб'явы выкажаш...

Ганчакоў Фоці адвёў у клас, каб даць інструкцыю, што можна гаварыць, што не.

На сцяне ў агульнай зале з'явіўся контррэвалюцыйны верш. Убачылі яго раніцай вучні шостага класа. Ён быў напісаны правільным каліграфічным почыркам. У канцы яго стаяў подпіс «ТВГ». Спачатку падумалі, што гэта ініцыялы аўтара, але хто быў бы такі дурны, што паставіў бы свае ініцыялы!

Патаемнае ТВГ трэба было разгадаць.

Так захвалявалася школа.

## 48

Патапчык нічога не згубіў, але ў душы яго раптам стала пуста. Упоўдня ён прыехаў з лясніцтва. Усю дарогу меркаваў, што заваліцца спаць на цэлыя суткі. Нават цешыўся ад такой думкі. Зацягаўся да рэшты. Ужо і гарэлка не падбадзёрвала. Цяпер ад яе кідала ў сон. Толькі адпрог каня і ўсунуўся ў хату, Антоля наляцела на яго, як коршак.

— Дакруцішся ты, чалавек! Далібог, дакруцішся!

— Чаго ты, баба,— ён зірнуў на жонку і зразумеў, што нешта здарылася.— Чаго ты крычыш, ты скажы па-чалавечы.

— Па-чалавечы і кажу! Ты вунь паглядзі, што на вёсцы робіцца, што людзі гавораць.

— А што там робіцца? — запытаўся Патапчык і адчуў, што сэрца яго сціснулася.

— Што робіцца! А тое, што ўчора сход быў, а сёння збожжа збіраюць!

— А няхай ты трэснi! Напалохала толькі...— ён сеў на лаву і з палёгкай уздыхнуў.— А Ткачэня ж быў у нас?

— Які там Ткачэня. Няма твайго Ткачэні. Галамака нейкі на яго месцы. Вунь Сцяпаніха-Калачыха хваліцца, што не захацеў новы старшыня сход у Патапчыкаву хату збіраць. Бо Патапчык — кулак. Мне Леўчыкава Мікалаіха расказвала...

— А дзе ж быў сход?

— У суседа ў твайго, калі хочаш ведаць, у Алеся.

— Ага...

— А сёння мне Арына і дзень добры не дала. Такая ўжо рызыка, што сход у яе хаце быў.

— А пра што ж быў той сход?

— То я ж табе кажу: збожжа збіраюць. У камітэт нейкі ды галодным, каб яны ніколі не наеліся... А Раман Кругленя кпіў з цябе: фігу, кажа, Патапчыку, не будзе ў яго дармовых работнікаў.

— А ты ж дала збожжа?

— Нічога я ім не дала! Прыходзілі сюды, казалі: пятнаццаць пудоў! Жартачкі!

— Давай мяхі! — закрычаў Патапчык.— Давай хутчэй мяхі, няхай яны задушацца маім хлебам... Куды яны звозяць тое насенне?

— Да Алеся,— адказала Антоля і выйшла ў сенцы па мяшкі. Патапчык з возам прыехаў на Алесеў двор. Узваліў на плечы мех і зайшоў у сенцы. Ускінуў мех на вагу і прывітаўся.

— Дзень добры вам. Я насенне, ці збожжа, ці як... прывёз. Жонка мая... Вось зараза, без мяне дык і нічога не ведае.— Пашукаў вачамі Алеся, але яго не было. Ля вагі стаялі Макарэвіч Сямён і Кругленя Раман. На лаве сядзеў незнаёмы чалавек. Патапчык здагадаўся: новы старшыня.

— Ваша прозвішча? — запытаўся ён.

— Патапчык Рыгор.

— Вам пятнаццаць пудоў.

— Ведаю! — пайшоў на двор па мяхі, думаў: «Хоць бы не мала было. Захлынецеся вы маім збожжам...»

Наважылі шаснаццаць з фунтамі.

— Можаце адсыпаць лішняе,— сказаў старшыня.

— Адсыпаць! Не буду я адсыпаць! Я заўсёды рады даць уладзе. Вядома, вялікага лішку няма, але гэты пуд, можа, каго з бяды выцягне... Ну, бывайце здаровы.

«Адбыў павіннасць, ліха вашай матары! — думаў ён, распрагаючы каня.— І лішні пуд аддаў. Гарэлкі выгнаў бы, а то Патржанецкаму ўсё мала. П'юць і п'юць...» Але супакаення не было. Хадзіў, як непрытомны, па прыгуменні, пастаяў пад грушаю, дзе закопваў падсвечнікі, паглядаў на Алесеў двор, думаў убачыць яго. «Што ён думае цяпер, гэты Маўчун? Няўжо развяжа язык?.. А мо ўжо развязаў?..»

Цвёрда вырашыў: на выпадак бяды, кінуць усё, ісці ў лес да Патржанецкага, а потым за мяжу. Але не верыў,

што так зробіць. Мо толькі для супакаення прыйшла гэтая думка.

Зайшоў у гумно, зірнуў на стаўпы са збожжам. «Малаціць, малаціць трэба... Парабкаў трэба наймаць. Калачык сенцы будуе. Дармовых работнікаў не будзе». І Маўчун адкінуўся ад яго, і ўсе сяляне, як звяры. Вунь Раман, як зірнуў, дык нібы рубля даў... Добра, што яшчэ Мікалая Леўчыка здагадаўся на аброць узяць і цуглі даў у зубы... Цяпер як на прывязі ходзіць.

Залез у самы кут гумна, доўга рыўся там. Выцяг чыгунчык. «А цяжкі, чорт!» Радасць такая нахлынула, што аж засмяяўся. Вось дзе багацце! Тут не адна гаспадарка ляжыць! Як жар, бліснула золата. «У Польшчы маёнтак купіць можна».

Потым дастаў біклагу, адарваў тоўстую саломіну, стаў на калені, уваткнуў саломіну адным канцом у біклагу, другі канец узяў у рот і пачаў смактаць. Доўга смактаў, аж дух захапіла. Сеў, адпачнуў і зноў прылажыўся. Калі ўстаў — гумно хадуном хадзіла ў яго вачах. «От як гарэлку п'юць». Зайшоўшы ў хату, адразу зваліўся на ложак і супакоіўся.

Адправіўшы Патапчыка з лясніцтва, Патржанецкі і сам думаў адпачнуць. Апрыкрыў Бранавіцкі — такі зануда. Ён не даваў спакою. Асмялеў і тачыў Патржанецкага, як іржа бляху.

Патржанецкі лёг на канапу, і позірк яго ўпаў на люстра. Даўганогі павук сядзеў на ім нямым сведкам не вельмі даўніх падзей. «Цікава, ці быў у ляснічага гуз на галаве. Разбіць такое шкло»,— падумаў Патржанецкі ўсміхаючыся.

Аднак зануда часткова правы. Адсутнасць Змітрака доўга не схаваеш. У лясніцтве часта бываюць людзі. Некаторыя пытаюць пра Змітрака. Пасля такіх пытанняў Бранавіцкі ходзіць, як ашалелы, хоць бяры ды самога вешай. Вельмі добра, што Бранавіцкі здагадаўся ў той жа дзень зняць Змітрака з пятлі і пахаваць. Палешукі наскрозь ведаюць лес і ходзяць па ім штодзень.

Лясніцтва трэба закрыць, гэта факт. На некаторы час неабходна перабрацца ў лес да Багалевіча. Там і цішэй, і спакайней, а на ўсякі выпадак ёсць чым і з кім абараняцца. А пакуль не зроблена галоўная аперацыя, трэба

быць тут, каб падрыхтаваць яе. Няхай звягае Бранавіцкі, колькі хоча. Голанд нядрэнна зрабіў план мястэчка. Хлопцы ўжо вывучылі яго, і тыя, каму трэба, у большасці пабылі там, у мястэчку. Кожны дом, кожная кватэра на прыкмеце. Трэба спяшацца. У мястэчку ідзе падрыхтоўка, як паведамляе Голанд. Цэлы атрад. Але гэта глупства. Горш усяго тое, што яны ездзяць па вёсках. І ўсюды, дзе яны бываюць, адчуваецца іх агітацыя. Хлопцы даносяць, што цяпер у вёсках трэба бываць з аглядкаю. Нават у знаёмыя хаты заходзіць небяспечна. І ні аднаго агітатара не ўдалося прыкончыць. У начальніка міліцыі стралялі чатыры разы. Гурын праскоквае непрыкметна. Буткевіч і Кавалёў не сустрэліся на дарозе.

А мужыку верыць нельга... Патапчык ходзіць, як недапечаны. Гэты не здрадзіць, але пры выпадку нож у спіну ўсадзіць. Мужык любіць ласкавасць, толькі гладзь яго па галаве, як сабаку, і абяцай што-небудзь. А ледзь адвярнуўся, і ён укусіць руку, што яго гладзіла.

Ён насцярожыўся: у калідоры рыпнулі дзверы. Ён на ўсякі выпадак стаў ля шафы і пачаў чакаць. Хутка ён пачуў галасы: прыйшлі свае. Тады ён сеў ля стала.

Праз хвіліну перад ім стаялі Плышэўскі і Сасноўскі.

— Вы з лагера, хлопцы? — запытаў Патржанецкі, з трывогаю ўглядаючыся ў вочы Плышэўскага.— Ці з добрым?

— Не, капітан. Нас паслаў Багалевіч... Можна сесці, капітан?

— От дурні, сядайце.

— Справа ў тым, капітан, што з лагера ўцякло тры чалавекі.

— О-о! — Патржанецкі яшчэ не ведаў, у чым справа, але бачыў па тварах, што ў лагеры нешта адбылося.

— Дваіх мы нагналі і прыкончылі, а Старэцкі ўцёк!

— Старэцкі ўцёк?.. Старэцкі здрадзіў! Пачакайце... Па-мойму, тут памылка...

— Ніякае памылкі няма, капітан. Вам вядома, што з лагера выйсці без дазволу атамана нельга. Яны проста ўцяклі. Прытым, мы за імі сачылі ўжо два дні... За Наўроцкім і Беразоўскім сачылі, бо хлопцы падслухалі іх размову, а пра Старэцкага ніхто і не думаў. Ён уцёк адзін... Дапамагаў нам лавіць...

Патржанецкі збялеў ад гэтай навіны. Потым чырвань пачала заліваць яго твар. Ён стукнуў кулаком па стале.

— Задрыпы вы, а не ваякі! Бабскія андаракі! Здраднікі былі сярод вас, а вы? Вы іх з рук выпусцілі!

— Мы не вінаваты, капітан. Старэцкаму і вы верылі. Нават падумаць было нельга. Беразоўскі і Наўроцкі прагаварыліся, а ён маўчаў.

— Што яны гаварылі?

— Чутка пайшла па лагеры, што ўлада амністыруе тых, хто сам з'явіцца з пакаяннем. Бандыт не родзіцца, а зробіцца,— вось што яны гаварылі.

Патржанецкі зморшчыўся і ткнуў пальцам у грудзі Плышэўскага.

— Дык што? Ты і сябе бандытам лічыш?

— Што вы, капітан! Барані бог!..

— А хто ты? — пытанне было пастаўлена ва ўпор. Плышэўскі не ведаў, што адказаць.

— А яшчэ ў гімназіі вучыўся. Вы не бандыты, аслы такія! Вы салдаты! Зразумеў? Ты салдат. Я цябе памочнікам Багалевіча паставіў, ты павінен быў растлумачыць хлопцам, што яны не бандыты, хоць іх так і называюць бальшавікі, а змаганцы за ідэю... За новы парадак. Няхай Багалевіч ведае толькі мардабой, а ты ж пісьменны.

— Вось гэта вялікая памылка, капітан! Чаму вы не сказалі раней? У нас амаль усе лічаць сябе бандытамі. Так, Стась?

— Безумоўна, так! А тут сходы ў вёсках, пане капітан. Камуністы тлумачаць мужыкам рознае такое... а яно і да нашых хлопцаў даходзіць... А як вядома, пане капітан, у кожнай чарадзе аўца з матыліцамі ёсць.

— А наогул, што ў вас у лагеры? Як іншыя... хлопцы? — хацеў сказаць салдаты, але зразумеў, што перад гэтымі хлопцамі не варта прыкідвацца.

— Чужых думак не прачытаеш, капітан. І цяпер многія лічаць, што ён прадасць.

— Добра, хлопцы. Ідзіце, падсілкуйцеся. Там Казімір вас накорміць. А потым будзем варушыцца.

Адзін ён доўга хадзіў з кута ў кут. Думаць многа не любіў. Рашэнне дзейнічаць прыходзіла раптам, але цяпер яго не было. Падзеі пасыпаліся, як з развязанага мяшка. Ён не баяўся вайсковай сілы, бо ведаў, што ў лясах яго не знойдуць. Але з'явілася іншая сіла, і супроць яе ён быў нішто. Банда рассыпаецца. Гэтыя трое — толькі пачатак. Дзе пачатак! Патржанецкі зразумеў, што разлажэнне

з'явілася з самага пачатку яго дзейнасці. Тады яно было непрыкметна. А цяпер сходы, гэтая агітацыя няспынна точыць яго зграю. І падтачыла. Цяпер засталося адно: ударыць на мястэчка. І як можна хутчэй.

Ён не чуў, што ў суседнім пакоі звіняць шклянкі і пляшкі, не чуў рогату сваіх «салдатаў». Ён стаяў ля акна, глядзеў у яго і, шчыльна стуліўшы губы, маўчаў. Па лясной сцежцы да канторы крочыў Бранавіцкі. «Ну, гэтага песенька спета... Стары і трухлявы стаў, як грыб!» — падумаў Патржанецкі, наглядаючы за ляснічым, які дробнымі крокамі па-старэчы клыпаў па сцежцы, згорблены і худы да таго, што паліто мяшком вісела на яго плячах.

Ён пачакаў, пакуль ляснічы зойдзе ў кантору, потым гукнуў у дзверы:

— Іван Бенедыктавіч, на адну хвіліну зайдзіце сюды.

«Сапраўды, ён падобны на свайго кухара...» — мімаволі параўнаў Патржанецкі, калі ляснічы сеў на канапе і пустымі вачамі глянуў на яго.

— Іван Бенедыктавіч, трэба сёння вызваць сюды Патапчыка.

— Ён жа быў тут сёння!

— Абставіны перамяніліся, Іван Бенедыктавіч, вецер дзьме з іншага боку. Патапчык тут неабходны. Мы яго пашлём у мястэчка, па Голанда. Вы разумееце маю думку?

— Збольшага. Вы вырашылі ажыццявіць Голандаў план.

— Вось іменна. І вельмі хутка.

— Я пашлю Казіміра.

— Дайце яму каня.

— На маю думку, Патапчыка сюды клікаць не трэба. Няхай адтуль, з Загалля, проста і едзе па Голанда.

— Справядліва... Да вечара ён будзе там, а ноччу з Голандам прыбудзе сюды. Вы яшчэ не абедалі? Хадзем далучымся да нашых хлопцаў. Што вы так сагнуліся! Трэба не траціць бадзёрасці, Іван Бенедыктавіч, і падтрымліваць жыццёвы тонус, ці як там пішуць у кнігах! Ха-ха-ха!

Ён падхапіў Бранавіцкага за плечы і павёў яго ў суседні пакой.

Хаім Голанд нёс ад бацькі паведамленне Патржанец-

каму. Стары Голанд даводзіў да ведама капітану бандытаў, што трэба спяшацца.

— Скажы яму, Хаім, што трэба спяшацца. Раскажы пра атрад і пра ўсё. Скажы яму, што цяпер мне нельга вырвацца з мястэчка. Раскажы пра распарадак. Хай мяне не чакае. Я не ведаю, як ты выйдзеш адсюль, яны ж пільнуюць.

— Нічога, татэ. Я дарогу ведаю ў абход,— ён засмяяўся.— Я выйду з Біргавага паравіка, а адтуль у кусты!

— Ну, дык вось. Скажы яму: хай спяшаецца. Ён сам ведае, куды і што.

— Добра, татэ.

— Сцеражыся, мой сын... Дзе знайсці Патржанецкага, ты сам ведаеш.

— Не бойцеся, татэ, не першы раз.

Хаім ішоў і думаў, што ён выконвае вельмі сумныя абавязкі: хадзіць. Толькі хадзіць. Ён носіць паведамленні, якіх сам іншы раз не разумее. А сапраўднай справы не бачыў. Яму далі зброю, і яшчэ ні разу не давялося яе скарыстаць. Рэвальвер прадраў яму не адну кішэню і намуляў абедзве нагі. Па сутнасці нашто яму рэвальвер, калі нельга яго скарыстаць. Хоць бы раз пабачыць сапраўдную бойку, даказаць тым бандзюгам, што і ён умее валодаць зброяй. Вось чаго хацелася Хаіму Голанду.

Ён ішоў па лясной дарозе, і яму быў знаёмы кожны кавалак яе, кожная паваротка. Ён ведаў усе пні паабапал яе, прыкмеціў многія дрэвы, вываратні, карэнні. Сумная дарога. Надакучыла яе таптаць. Але як лоўка прашмыгнуў ён з паравіка ў кусты. Проста за плячамі ў нейкага смалакура.

Ён мінуў гразкую грэблю, прайшоў масцік і ўбачыў наперадзе чалавека. Ён ішоў насустрач яму. Ішоў паволі, не спяшаючыся, апусціўшы галаву, нібы нечага шукаў на дарозе.

«Вельвель Краўчык!» — здалося Хаіму. Шалёная думка ўскочыла ў яго галаву. Хаім сеў пад куст ядлоўцу і пачаў чакаць.

— Стой! — крыкнуў ён, калі чалавек параўняўся з кустом.

Чалавек уздрыгнуў, узняў галаву і зірнуў на Хаіма поўнымі жудасці вачамі. Ён убачыў халоднае вока рэвальвера супроць сваіх грудзей і задрыжаў.

— Янкель Доўгін! — вырвалася ў Хаіма.

— Янкель Доўгін... Я Янкель Доўгін, Хаім... Я Янкель Доўгін... Ты мяне ведаеш, Хаім... Ты, мабыць, мяне не пазнаў, Хаім... Я табе нічога не зрабіў... Мяне і твой бацька ведае...— ён гаварыў, як дзіцяня, і язык яго заплятаўся ад страху.

«Што я зрабіў!» — з жахам падумаў Хаім. Ён апусціў рэвальвер і зразумеў, што такую памылку нельга паправіць.

— Я пажартаваў, Янкель...

— Я ведаю, што ты пажартаваў, Хаім... О, я адразу гэта ведаў...

— Я хацеў цябе напалохаць...

— Уй, як ты мяне напалохаў!..— Янкель паспрабаваў усміхнуцца.— Ты мяне так напалохаў, што ў мяне, далібог, няма сэрца...— ён прылажыў руку да грудзей.

— Ну, Янкель, ты пра гэта нікому не скажаш!

— Няхай адсохне мой язык, калі я каму намякну...

— Ну ідзі, Янкель...

Янкель недаверліва глянуў на Хаіма.

— Ідзі, Янкель, ідзі... Я сам дурань, я думаў, што гэта нейкі паляшук, а не ты.

— Гэта я, Хаім, гэта я... Няхай табе дасць бог здароўе.

Ён адышоў некалькі крокаў і азірнуўся. Хаім яшчэ стаяў. «Голанд-бандыт! Голанд-бандыт...» — круцілася ў Янкелевай галаве. Ён паскорыў крокі, ён хацеў бы ўзняцца птушкай і паляцець, але нешта цвёрдае і гарачае стукнула ў яго спіну між лапатак. Ён падскочыў і, раскінуўшы рукі, паляцеў. Янкель Доўгін не чуў стрэлу. Ён упаў на дарогу, адышоўшы ад Хаіма не болей як на пятнаццаць крокаў. Сунуўшы ў кішэню рэвальвер, Хаім памчаўся ўперад. Яму хацелася быць далей ад гэтага месца.

### 49

Амаль кожны дзень невядомыя злачынцы раскідалі ў школе антысавецкія лістоўкі. На сценах агульнага зала за подпісам ТВГ знаходзілі пасквілі на баявы гурток і Лявона Богуша. Многія здагадваліся, што гэта работа «Ганчакоў святога Фоція», але яны прыціхлі, і некаторыя ўголас абураліся супроць пісулек.

Камсамольская ячэйка даручыла Богушу правесці ў школе сход вучняў. Лявон звярнуўся да Васіля Бажко,

як да старшыні вучкома, але Васіль адмовіўся: «Які я старшыня, Лявон! Я табе дапамагу толькі як вучань». Богуш махнуў рукою і звярнуўся да Хвядоса Іванавіча.

Сход паказаў яшчэ раз, што большасць вучняў ідзе за камсамолам, але злачынцаў не выявіў. Потым правялі пасяджэнне вучкома з удзелам актывістаў. На пасяджэнні выбралі агітатараў. Ігнась Марыніч і Янка Ткачук сталі агітатарамі пятага класа.

Аднак і настаўнікі і вучком лічылі, што гэтага недастаткова. Параіцца ж не было з кім: загадчык школы раз'язджаў па воласці, Кавалёў быў у павеце.

Таго ж самага дня Коля Корзун з патаемным выглядам паведаміў Богушу, што Гардыенка даваў Цімчуку нейкую паперку, якую той схаваў у сваю сумку. Што паперка ў сумцы, Коля быў упэўнены. Заставалася адно: справадзіць Цімчука на рынак. За гэтую справу ўзяўся Пятрусь. Праз некалькі хвілін яны крочылі ўдвух купляць запісныя кніжкі. Петрусёва выдумка была вельмі ўдалая. Запісная кніжка з паркалёвай вокладкай хвалявала не адну вучнёўскую істоту. Застаўшыся адны, хлопцы даручылі Кольку абследаваць Цімчукову сумку. Пасля доўгіх пошукаў лісток знайшлі ў пенале. На ім быў намалёваны чалавек з растапыранымі рукамі, збоку прыпісана: «Угадайце, што за ён? Гэта Богуш Лявон...» і восем радкоў антысавецкага верша. На канцы стаяла «ТВГ». Але невядомае і патаемнае «ТВГ» было ўжо выкрыта.

Калі Цімчук вярнуўся, Богуш звярнуўся да яго з запытаннем:

— Толя, аб чым ты гутарыў сёння з Гардыенкам?

Цімчук пачырванеў.

— Я з ім не гутарыў...

— А якую паперку ён табе даваў?

Цімчук зірнуў спачатку на Кольку, потым на Петруся і кінуўся да пенала. Ён адкрыў яго і выпусціў з рук. Потым сціснуў кулакі і рвануўся да Петруся.

— Гэта ты... ты...

Пятрусь адным узмахам адкінуў яго ад сябе.

— Я табе пакажу запісныя кніжкі, луннік!

— Супакойся, Толя. Тая паперка ў мяне,— сказаў Лявон.— Цябе ашукваў Гардыенка. Табе толькі трэба будзе аб усім шчыра прызнацца.

Цімчук узняў галаву і адказаў:

— Я не ведаю ніякай паперкі. У мяне ў пенале былі грошы! Вы іх укралі!

Ігнась сціснуў зубы: як? Цімчук — гультай і тупіца, які не развяжа самай простай задачы, перахітрыў іх!

— Ты... паскуда...— ён не знаходзіў слоў, каб выказаць сваё абурэнне, і хацеў вытнуць Цімчука.

Лявон у гэты момант схапіў яго за руку.

— Эх ты! Можа, кулаком і агітаваць будзеш!

— Лявон, дык ты ж зразумей! Хіба мы яго абакралі?

— Дзівак! Нас жа пяць чалавек! Хто яму паверыць. І паперка ў нас. Чуеш, Цімчук! Ты падумай, ды добра падумай, калі хочаш застацца ў школе.

Мотэль Сапун ішоў у выканком. Ён убачыў ля бальніцы гурт людзей і падводу. Мотэль Сапун быў чалавек нецікаўны, але яму здалося, што гэтых людзей апанавала нейкая трывога, і ён падышоў да гурта. Ля падводы стаяў загадчык школы Тарас Ігнатавіч Гурын, абкружаны цесным колам людзей. Мотэль спачатку не зразумеў, аб чым ідзе гутарка, і вырашыў прыцягнуць увагу на сябе.

— Добры дзень! — сказаў ён моцна, але ніхто не павярнуўся ў яго бок.

Тады Мотэль штурхнуў Вельвеля Краўчыка і запытаў у яго:

— Што тут такое, Вельвель?

— Няшчасце, Мотэль... Загадчык ехаў з вёскі і знайшоў на дарозе забітага Янкеля Доўгіна.

— А-а-а! Зусім забітага?

— А хто яго ведае... Вялікае няшчасце для Доўгінавай сям'і. Як яны будуць жыць?

— Гэта адно,— сказаў Мотэль.— А другое...— пра другое ён не мог ясна сказаць, але ў галаве заварушылася страшная думка: «Бандыты. Зноў бандыты!» Ён пралез праз натоўп да загадчыка.

— Скажыце, Тарас Ігнатавіч, ён зусім забіты?

— Па-мойму, ён яшчэ жывы. Прастрэлены ў грудзі навылёт... Вельмі многа выцекла крыві.

— Дзе вы яго знайшлі?

— За тычынскай грэбляй. Я ехаў з Грабава. Толькі павярнуў на нашу дарогу і праехаў не болей ста крокаў, бачу, ляжыць... А вы адкуль і куды, Мотэль?

— Я з арцелі іду ў выканком.

— Адвядзіце, калі ласка, маю фурманку ў двор Румана Механіка. Няхай адпрагуць каня. Мне трэба зараз быць у адным месцы.

— О, вельмі добра! — Мотэль узяў лейцы і паехаў!

Гурын пайшоў у выканком, а натоўп людзей ля бальніцы не разыходзіўся. Наадварот, ён яшчэ рос. Тарас Ігнатавіч ішоў і думаў, што цяпер трэба выклікаць у мястэчка Кавалёва. Калі тэлефон не працуе, пасланць у пачарнага. Ён адчуваў, што гэтае забойства павінна праліць нейкае святло на бандыцкую зграю. Якое святло? Магчыма, што Доўгін ведае свайго забойцу. Каму ён быў патрэбен, гэты маленькі, бедны чалавек? Толькі асабісты вораг мог яго забіць. Хаця бандыты могуць забіваць для жарту... Магчыма, Доўгін і ведае свайго забойцу. Калі ён яшчэ жывы. І ці хопіць у яго сілы расказаць аб гэтым. Можа, ён сканае, не расплюшчыўшы вачэй. Мо ён ужо сканаў.

І Тарас Ігнатавіч павярнуў назад. Ён уварваўся ў бальніцу і затармасіў доктара.

— Таварыш Рагачэўскі, трэба зрабіць усё, каб Доўгін застаўся жыць.

— Я не бог, Тарас Ігнатавіч. Уваскрэснуць ён не можа.

— Што, ён сканаў?

— Ён яшчэ жывы. Адна іскра жыцця.

— Трэба яе раздзьмуць, Рагачэўскі.

— Паспрабуем. Надзеі мала. Я сам вазьмуся за гэтую справу.

— Вось іменна сам! А мы яшчэ прыйдзем сюды.

З бальніцы Гурын накіраваўся ў выканком да Буткевіча. Буткевіч радасна стрэў яго.

— Вельмі добра, што ты прыехаў. Я ўжо зусім заездзіўся, і ты мне дапаможаш.

— Магчыма... За тычынскай грэбляй я знайшоў застрэленага Янкеля Доўгіна і прывёз яго ў бальніцу.

— Што ты кажаш! Янкеля Доўгіна, таго кажушніка!

— Таго самага... Прастрэлены навылёт. Рагачэўскі кажа, што ён яшчэ жывы, але надзеі няма.

— Што ты аб гэтым думаеш?

— Думаю, што яго забілі бандыты, і мяркую, што Доўгін ведае забойцу. Каб ён апрытомнеў...

— Ты яшчэ не паведамляў міліцыі і атраду?

— Не. Я з бальніцы проста сюды. Калі прыедзе Кавалёў?

— Ён ужо едзе.

— На маю думку, Буткевіч, нам не трэба чакаць Кавалёва. Перш за ўсё ўмацаваць пасты, асабліва начныя. Затрымліваць кожнага, хто ідзе або едзе ў мястэчка ці з мястэчка. Не пакінуць ніякіх шчылін...

— Правільна.

Ён падышоў да тэлефона і пазваніў.

Хаім Голанд бег. Ён змакрэў, як пацук, але не адчуваў стомы. Ён жадаў аднаго: хутчэй дабегчы да лясніцтва. Кароткія адпачынкі ён рабіў у кустах, стоячы, баючыся, каб не прыстыць да месца.

«Мо ўжо ёсць пагоня. Так блізка ад мястэчка адбылося ўсё гэта».

Калі ж з-за лясной павароткі выехала фурманка насустрэчу яму, Хаім скочыў у бок дарогі і прысеў у зарасніках. Ён расхіліў галіны і пачаў сачыць, хто ж гэта едзе. «Хто ні едзе, ён знойдзе Янкеля Доўгіна...»

Але раптам Хаімаў рот адкрыўся сам сабою:

— Рыгор! Пачакай, Рыгор!

Патапчык спыніў каня і не пазнаў Хаіма, які кінуўся да воза.

— Назад, Рыгор, назад...— шаптаў Хаім, узваліўшыся на воз, як мех.

— Што з табою, Хаім! Я еду па твайго бацьку.

— Не трэба, ужо не трэба! — ён вырваў лейцы з Рыгоравых рук і павярнуў каня.— Я сам іду ад бацькі.

Патапчык зірнуў на дзікі Хаімаў твар, на мокрыя раскудлачаныя валасы, на дрыжачыя яго рукі і забраў лейцы.

— Паганяй, Рыгор, паганяй!

Патапчык хвастануў каня.

— А што я скажу Патржанецкаму, Хаім?

— Я сам скажу, што трэба.

— Нейкае няшчасце?

— Потым скажу. Дай мне закурыць...

Гладкі Патапчыкаў конь, як віхор, імчаўся па дарозе,

Пішучая машынка адказвала кароткімі стрэламі на кожны ўдар Мотэлевых пальцаў. Мотэль друкаваў. Па сутнасці яму ўжо трэба было ісці дадому, бо працоўны дзень скончыўся, але што дома?

А сёння Мотэль увабраў у сябе так многа ўражанняў. Забойства Янкеля Доўгіна. Падзеі ідуць. Яны насоўваюцца, як хмара. І жыццё ідзе наперад. Што такое жыццё?. Праца, каханне, трывога, радасць, сум. Жыве той, хто з галавою акунаецца ў падзеі, стварае іх, а не той, хто стаіць збоку і наглядае. Гэтая думка не першы раз прыходзіць у галаву Мотэля.

Ён залажыў у машынку лісток паперы і стукнуў пальцам у літару «Д», потым «а», потым «р»...

Не, не так. Хто яму даў права зварочвацца да яе з такім словам. Ён падагнуў лісток і стукнуў па літары «і», потым «р», потым «ы». І зноў падагнуў лісток. Так будзе вельмі фамільярна. Выкінуў лісток і залажыў другі. Цяпер працаваў упэўнена і спакойна.

«Таварыш Сідаровіч!» Працаваў пальцамі і галавой.

«Я даўно хачу пагаварыць з Вамі адносна Вашай прапановы». Не, не прапановы... Няхай. «Вы ў мяне пыталі, чаму я не ўступаю ў камсамол. Сёння я вырашыў даць Вам адказ. Я хачу быць разам з Вамі, з Довідам і Іванам».

«Хачу быць у першых шэрагах»... якіх шэрагах? «Барацьбітоў за новае жыццё. Спадзяюся, што Вы мяне падтрымаеце ў ячэйцы, бо як работніка Вы мяне ведаеце лепш за іншых. З павагай: Мотэль Сапун». Нічога лішняга. Абсалютна нічога лішняга. Не будзем гаварыць аб пачуццях...

Потым залажыў другі лісток і надрукаваў наступнае:

«С-кай комсамольскай ячэйцы ад Сапуна Мотэля.

*Заява*

Прашу ячэйку КСМ прыняць мяне ў члены Вашага Саюза. Абавязуюся выконваць усе абавязкі, якія будуць на мяне ўскладзены...»

«Абавязуюся, абавязкі»... Так можа напісаць кожны. Мотэль Сапун мог бы напісаць лепш. Аднак, што можа быць вышэй выкананых абавязкаў! Няхай так і будзе. «Хачу прыняць актыўны ўдзел у пабудове новага жыцця пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі. Сапун Мотэль».

Паставіў дату і паклаў абодва лісткі ў бумажнік,

Сцямнела. Прыйшла вартаўніца, каб запаліць лямпу на яго стале.

— Не трэба,— сказаў Мотэль.— Я ўжо скончыў працу.

Ён успёрся локцямі на стол і, палажыўшы галаву на далоні, доўга сядзеў адзін у цемры. «Кожны крок у сваім жыцці трэба дасканала абдумаць, і я абдумаў. Дарогі назад няма і не будзе. Адна дарога — уперад!»

Ён крочыў па Крапівінскай вуліцы дадому. У хатах ужо гарэлі агні, і прыемна было ісці ў тумане і вільгаці і ўдыхаць свежае паветра поўнымі грудзьмі.

На рынку ён сустрэў начальніка міліцыі. Ззаду яго з вінтоўкамі наперавес ішлі два міліцыянеры. Між начальнікам і міліцыянерам пасярэдзіне ішоў невялікі чалавек, апусціўшы галаву. Мотэль заўважыў яго апошнім з усёй групы.

«Есіф Голанд! Значыць, Янкель Доўгін апрытомнеў!»

Пасля вячэры Мотэль пайшоў у камсамольскі клуб.

## 50

Назаўтра ў школе не было заняткаў. На шумным і бурным вучнёўскім сходзе выключылі з школы «Ганчакоў святога Фоція». З ганчакоў на сходзе прысутнічалі толькі Гардыенка і Грыневіч. Астатнія паўцякалі ў свае вёскі. Гардыенка спрабаваў апраўдацца, але яго асвісталі. Грыневіч заплакаў і, не прычакаўшы канца сходу, пайшоў дамоў.

Цімчука пакінулі ў школе ўмоўна.

Пасля сходу вучні не хацелі разыходзіцца дамоў. Спацыравалі парамі, гурткамі ў абдымку па зале, па класах, па школьным двары.

Лявон, Саротнік Даніла, Мікола Кудравец, а з імі Ігнась, Янка, абодва Корзуны, Белка цэлым гуртам хадзілі па зале.

— Чысцей у нашай школе стала! — смеючыся, сказаў Лявон.

— Аж дыхаецца вальней! Нават паветра пасвяжэла! — сказаў Даніла і дыхнуў на ўсе грудзі.

— А ці няможна было раней гэтак зрабіць? — запытаў Ігнась.

— Мабыць, няможна, Ігнась.

— А мне здавалася, што можна.

— Здавалася — гэта адно, а факт іншае. Знайшоўся факт — і Голанд за кратамі. Знайшоўся другі — і ганчакоў выгналі.

— А каб я быў самы старэйшы,— сказаў Ігнась,— то адразу, як толькі пачаў угадваць злачынца, так і ўзяў бы яго за шкірку!

Хлопцы засмяяліся.

— І ніякае памылкі не было б! — дадаў Янка Ткачук.

— А нядрэнныя хлопцы хутка ўступяць у нашы рады, Даніла!

— Ого! З такімі хлопцамі хоць на край свету!

За сталом прэзідыума сабраліся дзяўчаты з усіх класаў і пачалі спяваць. Даніла Саротнік стаў ля іх, і хутка яго юнацкі басок аздобіў песню мужчынскім голасам. Дзяўчаты далі Данілу месца ў сваім гурце. За Данілам пацягнуліся і іншыя, хто прыняць удзел у спевах, а хто паслухаць.

Дадому разышліся позна.

Прыехаўшы з павета, Кавалёў сабраў да сябе партыйны і камсамольскі актыў. Акрамя Буткевіча і Руткоўскага, былі тут Гурын, Калядка і Барай.

— Становішча наша, таварышы, на сённяшні дзень такое, што чакаць дапамогі ў бліжэйшыя дні няма адкуль,— сказаў Кавалёў.— Так мне сказалі ў павеце... Адносна Голанда я званіў у павятовую ЧК. Заўтра, а магчыма і сёння, сюды прыедуць следчыя. Голанд павінен быць поўнасцю ізаляваны ад сям'і. Ясна, што мы тут ухапілі банду за хвосцік, хоць і дорага гэта каштуе. Я мяркую, што мы павінны весці старую лінію: самаабарона і агітацыя. Як думаеце вы?

— Я з табой згодзен! — сказаў Буткевіч.

— Ясна,— зазначыў Руткоўскі.

— Дазволь мне, Кавалёў,— левы вус Гурына адтапырыўся, як штык.— Я ўношу прапанову ўвесці ў мястэчку ваеннае становішча.

— Ці хапае ў нас для гэтага прычын? — падумаўшы, запытаў Кавалёў у прысутных.

— Хапае. Я абгрунтую сваю прапанову. Бандыты і іх агенты дасюль мелі магчымасць хадзіць у мястэчка і з мястэчка амаль у любы час. Распарадак толькі крыху абмяжоўвае гэта. Мы не ўпэўнены ў тым, што ў мястэчку

быў толькі адзін агент — Голанд. У нас у школе завёўся Таямнічы вучнёўскі гурток — ТВГ, які да сённяшняга дня распаўсюджваў контррэвалюцыйныя лістоўкі. Гэты гурток, вядома, меў нечую апеку. Прапаную сёння ж арыштаваць Гардыенку і ўсіх бацькоў удзельнікаў ТВГ. Прыедзе ЧК, няхай разбіраецца. Гэта першае. Далей, гэтым мы ўзмацнім самаабарону, наш атрад будзе заўсёды напагатове. І трэцяе. Мы гэтым узнімем пільнасць усіх тых, хто нам спачувае, і запалохаем ворагаў.

— Падтрымліваю цалкам! — узрадавана сказаў Руткоўскі.

— З свайго боку таксама падтрымліваю прапанову таварыша Гурына,— прамовіў Буткевіч.

— Значыць, аднагалосна,— канстатаваў Кавалёў.— Руткоўскі, пішы загад. Падпішаш сам і Калядка.

Руткоўскі кіўнуў і ўзяў ліст паперы.

Праз гадзіну Мотэль друкаваў на машынцы тэкст загаду і думаў, што падзеі ўжо разгарнуліся.

А яшчэ праз гадзіну насельніцтва чытала загад, які быў расклеены па ўсіх вуліцах у самых людных месцах.

Тарас Гурын ад раніцы не быў на кватэры. Хацелася перакусіць і хвіліну адпачыць.

— Ваш полудзень ужо астыў,— сказала яму гаспадыня.

— Давайце яго сюды.

Ён падсунуў да сябе міску поліўкі, разгарнуў кнігу і пачаў абедаць. Прывык есці з кнігай. І прывычка гэтая была народжана неабходнасцю. Не застаецца часу на чытанне.

Лёг на ложку, апусціўшы ногі на дол. Думаў, што ў жыцці мала давялося адпачываць. У юнацтве прабіваў дарогу да навукі. Будучы студэнтам у павятовым горадзе, жыў заработкам. Галадаў. Потым працаваў настаўнікам у гарадскіх вучылішчах. Нідзе не мог затрымацца надоўга. Удзельнічаў у марксісцкіх гуртках. Як крамольніка і сацыяліста, звальнялі з працы. Цяжка пражыта жыццё, але не марна. А цяпер скончыцца барацьба, і ён аддасца зноў любімай справе: школе, дзецям. Прывязе сям'ю, наладзіць нармальнае жыццё. Як там жыве сям'я? Уявіў жонку, кволую жанчыну з глыбокімі вачамі, заўсёды бадзёрую і ласкавую. Вось яна ідзе ў школу, з кніжкамі ў руцэ. Яна выкладае мову ў гарадской сямігодцы. Нядаўна атрымаў ад яе ліст. Піша, што жывуць добра,

а калі іншы раз няма чаго зварыць, то адкладаюць да другога разу. У яе заўсёды знойдзецца жарт. Такая не сагнецца і не заплача. Старэйшы сын скончыў Магілёўскае ваенна-фельчарскае вучылішча і цяпер служыць у Чырвонай Арміі. Піша бацьку, што рыхтуецца ва універсітэт. Малодшыя — сын і дачка — жывуць разам з маці.

«Дзецям шырока адчынены дзверы ў жыццё. Ці не мы іх адчынялі! Кропля маёй працы ёсць у гэтай справе. Гэтым можна ганарыцца». Успомніў вучнёўскі сход у школе. «ТВГ! Тут, аднак, хаваецца нешта глыбейшае... У некаторых выпадках мы дзейнічаем нерашуча. А неабходна, каб падтулілі хвасты ўсе, хто чакае банды, спрыяе ёй».

— Вам рыхтаваць вячэру? — запытала яго гаспадыня.

— На ўсякі выпадак рыхтуйце.

Над палескай вёскай павіс халодны змрок.

Алесь зачыніў адрыну, ускінуў на плечы рэзгіны з сенам і паволі пайшоў да конскага хлява. Арына прынесла ў хату два вядры вады, і хутка ў вокнах заблішчала святло: яна запаліла лучнік. Паклаўшы ў жолаб сена, Алесь пагладзіў Гнядога і замкнуў хлеў. Выйшаў на вуліцу. Патапчыкаў Лыска пачуў шорах і забрахаў. Кінуўся да вулічных варот, уткнуўся ў іх мордай, потым сеў на заднія лапы і завыў сіпла, жаласна і безнадзейна.

«Чыю ж ты пагібель чуеш? Сваю ці гаспадарову?» Алесь падняў з зямлі ламачыну і шпурнуў яе ў Лыску. Той адскочыў да хаты, сеў супроць акон і зноў завыў.

Алесь мінуў Патапчыкаў двор і пайшоў па гразі ў другі канец вёскі. Лыскава выццё не сціхала.

Сідар Герасіменя ўбачыў Алеся і выйшаў з свайго двара.

— Добры вечар, Алесь, ты куды?

— Да Сцяпана Калачыка. Чуеш, як Патапчыкаў Лыска завыў?

— Чую і думаю: нейкую хваробу пачуў сабака. Хоць бы не на пажар... Ды нешта не відаць Рыгора гэтыя дні.

— Яго, браце Сідар, нячыстая сіла водзіць. А ты што цяпер парабляеш?

— Пагульваю! То ў Ярэмічы, то з Ярэміч. Праца мая вясёлая.

— Сідар! — гукнула жонка.— Ідзі вячэраць.

— Іду, іду! — Сідар заспяшаўся і пайшоў у хату.

Алесь застаў Калачыка з рыдлёўкаю ў руках. Той расчышчаў месца для сянец.

— Дня табе не хапае, Сцяпан! — жартам папракнуў яго Алесь.

— Не хапае, Алесь! — ён уваткнуў рыдлёўку ў зямлю і сеў на бервяно.

— Добра ты кажаш,— рука па прывычцы пацягнулася ў кішэню па тытунь. Сеў поруч з Калачыкам.— Па справе я да цябе прыйшоў, Сцяпан...

— Гуляць ты не ходзіш.

— Справа такая... Нутро маё перабалела... Не магу больш трываць... Ведаць ды маўчаць — вялікі грэх перад людзьмі... Хоць галавой аб шуло бі... Ты казаў: да ўлады прытуліцца, а я па кутах туляюся, як сабака.

— Так, так, браце Алесь...

— Не адмоўся, Сцяпан! Паедзь заўтра са мною ў мястэчка... Пойдзем шукаць улады. Усю іх зграю аддамо разам з лясніцтвам, каб яно выгарала, пекла гэтае... Бо там уся іх зграя.

— Што ты кажаш, Алесь!

— Выглядзеў я ўсё. Учора і Голанда маладога прывезлі. Не адмоўся, Сцяпан... Адраблю я табе гэты дзень, што са мною змарнуеш.

— Хіба ж я адмаўляюся! Чалавек ты!

— Каню аўса ўсыплю. Ноччу выедзем. Пабуджу цябе, каб на світанні там быць.

— А хіба я сам не ўстану?

— Дзякую табе... супакоіў ты маю душу. Пасля таго сходу як дурны я хадзіў.

Зусім сцямнела на дварэ, і ў гэтай цемры чуваць было выццё сабакі.

Чуеш, як Патапчыкаў Лыска завыў?

Калачык устаў і замест адказу голасна засмяяўся.

## 51

Іншыя ночы Ігнасю сняцца страшныя і дзівосныя сны: ён вандруе па рэках і азёрах, пераходзіць кладачкі і масты. Лазіць ён на маяк і абрываецца з самага верху. Часта яму сніцца вёска і сястрыца Волька, і калі ён прачнецца, любоў і шчырасць агортвае яго душу. Круглы

тварык сястры, сінія вочы з доўгімі вейкамі паўстаюць перад ім у цемры.

Але ў тую ноч цяжкі і кашмарны сон авалодаў Ігнасём: ён адзін у кватэры. Перад ім Цімчукоў куфэрак. Ігнась ладзіўся адчыніць яго, бо ведаў, што там шмат лістовак ад Гардыенкі. Але куфэрак не адчыняўся. Ігнась сякерай узламаў замок, і жудасць ахапіла яго. У куфэрку ляжыць зарэзаная яго сястра Волька. Нехта стукнуў у дзверы, але Ігнась аслупянеў ад жаху. Ён прыгледзеўся і ўбачыў, што гэта не Волька, а Лейбава Сорка з Заблужскага млына. Ігнась паспрабаваў і сам улезці ў куфэрак, але зразумеў, што прыехаў бацька, трэба адамкнуць дзверы, аднак не мог крануцца з месца: Сора глядзела на яго дзікімі алавянымі вачамі і смяялася. «Ды гэта ж Цімчук!» — здагадаўся Ігнась. А Цімчук узяў яго за горла і пачаў душыць. «Гэта сон!..» — зразумеў Ігнась, але і сапраўды не мог паварушыцца. Нарэшце ён расплюшчыў вочы. Позірк сустрэў цемру. «Яшчэ ноч»,— падумаў Ігнась. На яго лбе выступіў халодны пот, і сэрца стукала незвычайна хутка.

Страшны грук у дзверы выгнаў з яго рэшту сну.

— Рраз! — і яшчэ і яшчэ: — Ббух! Хрруп!

— Бандыты! — страшнае слова ўварвалася ў Ігнасёву свядомасць, і, нібы ў адказ яму, грук паўтарыўся — адзін, другі, трэці. Ігнась пачуў, як трэснулі дзверы. Скрыгочучы, яны ссунуліся з завес і гулка ўпалі на падлогу. За сцяной у гаспадароў лямант і плач. Без гукаў усхліпваў Абрам, мітусіўся па хаце Алтар, жадаючы нешта схаваць. Але спалох адабраў у чалавека памяць і розум: не знайшоўшы, куды схаваць кашалёк, ён з горкай усмешкай паклаў яго ў кішэню.

У пакойчык зайшоў Абрам. Ён сагнуў сваю доўгую постаць і залез пад Корзунаў ложак. У сенцах грукат крокаў і святло. Праз шчыліны ў дзвярах яно доўгімі вострымі іголкамі лягло на падлогу. Зарыпалі хатнія дзверы, расшырылася святло. На яго ляглі цені людзей, адна... дзве... тры...

Ігнась ускочыў з ложка і палез услед за Абрамам. У вуха яму соп Цімчук: ён і тут выбраў сабе лепшае месца — ля сцяны. Крануўшыся яго, Ігнась адчуў, што агіднасць выгнала страх з яго істоты, і ён адсунуўся ад Цімчука.

За сцяной ішло катаванне.

— Золата давай! — чуўся хрыпаты голас.— Кажы, дзе тваё золата.

— У мяне няма золата.

— С-с-сь! — узвізгнуў шомпал.

— Б'юць! — шапнуў Цімчук.

— Гады! — уголас сказаў Ігнась і вылез з-пад ложка.

«Схаваўся пад ложак разам з Цімчуком! Як табе не сорамна... Агітатар...» Зноў свіснуў шомпал.

— Панок! Што вы робіце! За што б'еце старую жанчыну! — крыкнуў Алтар.— Яна зусім хворая!

— Ну, дык на табе. Дзе ты схаваў золата? Давай золата, калі хочаш жыць.

— Няма золата... Няма ў мяне золата...

Ігнась адчуваў, што ў яго гарыць усё нутро ад крыўды, сораму і злосці.

Па падлозе затупала некалькі пар ног. У пакой зайшоў вусаты бандзюк. Ён запаліў запалку.

— Ага, і тут нехта ёсць!

Ігнась ускінуў на яго вочы, поўныя нянавісці, і маўчаў, сціснуўшы губы.

Бандыт, сагнуўшыся, зірнуў пад ложак.

— Ды тут цэлая сінагога! — сказаў ён.— А ну вылазьце!

Хлопцы вылезлі па адным. Цімчук апошні. Ён спрытна расшпіліў сарочку і падсунуў да самага носа бандыта крыжык, што вісеў на шнурочку ў яго на шыі.

— Мы беларусы, беларусы...— заікаючыся, лепятаў ён, рукі яго дрыжалі, і смяротны жах скрывіў яго твар.— Толькі вось гэты... адзін! — і паказаў на Абрама.

— Малайчына! — бандыт выскаліў зубы і ўзняў шомпал.

Абрам увесь скурчыўся ад жаху.

— Хто беларус, хай пакажа свой крыжык!

Усе, акрамя Цімчука, стаялі моўчкі.

— Ага! камсамолія! Ну дык на памяць!

Бандыт узняў шомпал...

На пасцелі, скурчыўшыся ад болю, плакалі Колька і Пятрусь. Белка ўткнуўся галавой у сцяну, стагнаў, баючыся паварушыцца.

У Ігнася гарэла спіна, але сухія яго вочы былі гнеўна прыкаваны да Цімчука. Той зарыўся ў падушку і маўчаў.

— Вось што з цябе выйшла, луннік! — злосна прашаптаў Ігнась.

Бандыты развярнулі пасцелі, шаблямі рэзалі падушкі і высыпалі пух. Пушынкі кружыліся па хаце, як белыя матылі. Бандыты ўзломвалі куфры і скрыні, выкідалі адзенне, выбіралі лепшую, астатнюю таптаді і глумілі.

Пятрусь рашуча выцер кулаком вочы і пакінуў плакаць.

— Чаму ты не паказаў крыжыка? — сыкнуў ён на Кольку.

— Хваробу яму, гаду! — усхліпваючы, адказаў Колька. Ён сарваў з шыі крыжык і кінуў яго на падлогу.— Трасцы яму, ідалу! Я не Цімчук!

Хрыпаты бандыт катаваў Алтара. Ён узяў за бараду збялелага і пастарэлага за гэтыя хвіліны чалавека і адрэзаў яе шабляй. Малады бандзюк абняў Сіму. Вырваўшыся, яна кінулася ў акно і адтуль, як мех, паляцела на падлогу.

Ігнась зразумеў, што на двары стаіць бандыт, які пільнуе вокны. Ён ударыў Сіму па галаве, калі яна паімкнулася выскачыць праз акно.

Дзікая думка ўспыхнула ў Ігнасёвай галаве. Ён ціха выйшаў у гаспадарскі пакой, шмыгнуў у сенцы, адтуль на двор. Цёмная асенняя ноч схавала яго і атуліла свежым халадком. Яшчэ не разумеючы, што трэба рабіць, ён знайшоў дзірку ў плоце і вылез праз яе ў агарод. Пайшоў уздоўж плота. Жаданне помсты авалодала ім. У вачах стаяў Алтар і бандыт з касмыком яго барады ў руцэ.

Ігнась наступіў нагою на нешта цвёрдае і ледзь не паваліўся. Ён нагнуўся і абмацаў кучу камення. Іх падрыхтавалі на зіму парыць бялізну. Ён выбраў замашны камень і стаў ля вугла хаты. «Цяпер бандыт ходзіць па вуліцы,— думаў Ігнась,— але ён захоча паглядзець і на вокны, што выходзяць на агарод. Уцячы мне дапаможа плот. А калі пацэлю! Ах, каб пацэліць! Не хутка б ён ачухаўся».

Праз хвіліну ён заўважыў чорную постаць чалавека, які стаяў на прызбе па другі бок хаты і глядзеў на агарод. Ігнась з усёй сілы кінуў камень у чорную постаць. Камень аж загуў у паветры, а бандыт з нямым крыкам зваліўся з прызбы. «Пацэліў у храпу!» — мільганула ў галаве Ігнася, і ён куляй памчаўся да дзіркі ў плоце, праз хвіліну апынуўся ў завулку, а потым на суседнім двары.

Ля плота стаяў хлявок. Не доўга думаючы, Ігнась

улез у яго і зачыніў дзверы. Цяпер ён пачуў стрэлы. Ці былі яны раней, ці не, тады не заўважаў.

Пачалася частая страляніна недзе за мястэчкам.

«Значыць, атрад жыве! Гэта наш атрад!.. Трэба ісці ў клуб».

Узняўшы галаву, ён заўважыў святло, якое лезла ў шчыліны. «Няўжо дзень?» Ігнась выйшаў з свайго прытулка, і страшны малюнак адкрыўся яго вачам. Паўночны бок мястэчка гарэў, заліты зарывам пажару, а на поўдні цёмная грозная ноч паўстала, як цяжкая хмара. І адтуль з цемры чуліся частыя стрэлы.

Жудасць навісла над мястэчкам.

Яна праццяла Ігнасёва сэрца і ўмацавалася там, бо не чуваць было ні аднаго чалавечага голасу, нібы вымерлі ўсе людзі, і няма ў цэлым свеце ні адной жывой істоты, акрамя Ігнася. Агню не было відаць за панурымі зданямі дамоў, але зарыва шырылася, глытала цемру.

Ігнась пакрочыў па завулку, не ведаючы, куды і па што.

«Дадому...— падумаў ён. Не, у камсамольскі клуб! Туды, дзе страляюць!»

«Званіць! Званіць трэба!» — раптам здагадаўся ён і пабег да званіцы.

Здалёк віднелася старожка з адчыненымі дзвярамі. Ігнась думаў, што Мацвей — пажарны вартаўнік, уцёк.

Ля самай званіцы ляжаў чалавек без галавы і трымаў вяроўку ад звона. Рукі яго былі распластаны адна направа, другая налева, і гэта рабіла безгаловую фігуру падобнай на літару Т.

Мусіць, яму адсеклі галаву ў тую хвіліну, калі ён схапіў вяроўку, каб пазваніць.

Ігнась ступіў у лужыну крыві і забраў вяроўку з нежывой Мацвеевай рукі. Уплёўшыся за яе адранцвелымі пальцамі, Ігнась разгойдваў язык звона.

Ужо па завулку бегалі людзі, пажарнікі ў бліщчастых медных шлемах адчынялі хлеў і вывозілі машыну. А Ігнась усё званіў і званіў. І яму здавалася, што гэта зусім не ён, а нехта іншы, а звон звоніць сам...

Нехта і сапраўды забраў вяроўку з Ігнасёвых рук.

Высокі дзядзька ўзяў Ігнасёвы рукі ў свае і нешта сказаў па-яўрэйску.

Дзядзькавы рукі гарачыя, цяпло ад іх пераліваецца ў Ігнасёвы жылы.

— Уй-юй! Ты, хлопец, зусім, як лядзяк... Дзе ты жывеш?

Раптам пацямнела ў вачах, галава налілася нечым цяжкім, падагнуліся ногі, і Ігнась паваліўся на пруткія рукі незнаёмага чалавека.

— Яго трэба ў бальніцу,— сказаў чалавек і падняў Ігнася, як дзіця.

### 52

Ігнась апрытомнеў днём. Сонца ліло ў вокны яркія снапы праменняў, і святло сляпіла вочы. Ігнась памкнуўся ўстаць, але не мог крануцца з месца. Позірк яго сустракаў белыя сцены. Ля іх стаялі два рады ложкаў, на якіх ляжалі людзі, усе вастраносыя, жоўтыя, падобныя адзін на аднаго. На адным ложку з-пад коўдры відаць была знаёмая галава. Густыя рыжыя вусы закрылі губы. Твар сіні. Нешта блізка знаёмае ёсць у гэтых вусах, у брывах. Аж крыўдна, што нельга ўспомніць. Ігнась стараўся лепш прыгледзецца, але балелі вочы, ныў лоб... «Дзе я? Чаго я тут?»

У пакой зайшоў нізкі вяртлявы чалавек. Ігнась пазнаў, што гэта доктар Рагачэўскі, і зразумеў, што ён у бальніцы. Доктар падышоў да яго і палажыў на яго галаву халодную далонь. Ён заўважыў, што Ігнась ляжыць з расплюшчанымі вачамі, і ўсміхнуўся.

— Ну, як адчуваеш сябе?

— Баліць галава, доктар... А хто гэта? — кіўнуў Ігнась у бок знаёмага чалавека.

— Загадчык школы.

— Тарас Ігнатавіч! — ускрыкнуў Ігнась, і разам са словамі з грудзей яго вырваўся хрып. Доктар затуліў яго рот рукой.

Ігнась ужо ўспомніў усё: усю ноч да тае хвіліны, калі той незнаёмы чалавек узяў яго на рукі. Яму захацелася распытаць доктара аб усім, але стомай налілося цела і стала цёмна ў вачах.

Калі Ігнась зноў расплюшчыў вочы, ля ложка яго стаяў бацька.

Дарагі, родны тата!.. Як даўно яго не бачыў Ігнась. Не, ён не змяніўся. Такі ж самы. Суровы з выгляду, заўсёды пануры і маўклівы. Але які добры!.. Гэта ведаў толькі Ігнась. І пісяга ад бізуна відаць... Мілы родны твар! Дарагі тата!

— Тата,— шапнуў Ігнась.

Бацька схіліўся над ім, узяў яго за плечы шурпатымі мазольнымі рукамі, прыціснуўся калючымі губамі да яго лба. Родны тата!.. Цяпер няхай бачаць усе... Ніяк не сорамна, што яго цалуе бацька!

Ззаду, стоячы, плакаў Сцяпан Калачык.

— Папраўляйся, сынок,— Алесь разагнуўся, губы яго ўздрыгнулі, з вачэй выкаціліся дзве слязіны. Ён рашуча выцер іх кулаком, зноў нахіліўся і пацалаваў сына ў губы.

— Папраўляйся, мой сын...— і паволі пайшоў да дзвярэй.

— Папраўляйся, Ігнась, папраўляйся, хлопча! — ад парога сказаў Сцяпан Калачык.

Мужчыны з бальніцы пайшлі запрагаць каня.

Пасля ночы перамянілася мястэчка. На Невалоскай вуліцы дымілася папялішча. У некаторых дамах латалі фанерай і картонам выбітыя вокны, рамантавалі і настаўлялі выламаныя дзверы.

Алтар хадзіў па хаце, апусціўшы рукі. Лея і Сіма ляжалі ў ложках.

— У мяне ў хаце шпіталь...— сказаў Алтар Алесю.

— Спазніліся мы, Алтар,— адказаў яму Алесь.

— Што? Памёр Ігнась? — зжахнуўся Алтар.

— Дзякуй богу, жывы. Але мы спазніліся...

Калачык запрог каня і гукнуў Алеся.

— Ну, бывай здаровы, Алтар. Няхай папраўляюцца нашы хворыя, і паведамі мне пра Ігнася, калі што якое...

Сеўшы на воз, Алесь забраў у Сцяпана лейцы.

— Эх, Сцяпане, Сцяпане... Спазніліся мы, браце.

— Спазніліся... І бязрукі паранены, і колькі людзей загінула.

— Маўчы, Сцяпане... Аб гэтым і я думаю... Я сам сябе з'есці гатовы... Чаму я дасюль маўчаў? Вось гэта мяне рэжа... І следчы ў мяне пытае: «Чаму вы дасюль маўчалі?» Я кажу: «Сам не ведаю... Баяўся, кажу. Бандытаў баяўся і ўлады. Думаў, што і мяне пакараюць за той млын». А ён кажа: «Цяпер то вас варта пакараць, бо вы паглыбілі сваю віну». Я кажу: «Карайце, таварыш, бо такіх дурняў трэба вучыць». Усміхнуўся ён. А ў мяне мо на сэрцы адлягло б, каб у турму мяне ўсунулі... Вось што, Сцяпане...

— Ён і мне казаў, што дурні мы з табою... Паганяй, Алесь, нам жа дадому трэба. Туды ж міліцыя паехала. Можа, дапамога ім спатрэбіцца.

— На табе лейцы ды паганяй сам.

Алесь абапёрся спінаю да палукаша. Думаў і думаў. «Цемнавата. Палессе? Якая тут цемната! Не трэба і быць вельмі светлым, каб адрозніць злачынства ад добрай справы. Не, не цемната, вось што я табе скажу... Дурасць! Не, і не дурасць. Няма чаго таіцца, чалавек... Трыццаць рублёў золата згубілі цябе».

— А я, Сцяпан, тыя трыццаць рублёў аддаў следчаму. Наце, кажу, заробак мой, магчыма, да следства згодзіцца. Засмяяўся следчы: «Нічога, кажа, не згодзіцца. Бярыце сабе ваш заробак».

— А ты?

— А я кажу: не магу я іх у кішэні насіць. Дзявайце іх, дзе хочаце. І пакінуў на стале. Ён мне на іх нейкі квіток выпісаў. Паганяй, Сцяпане!

Дваццаць чалавек коннікаў на чале з Руткоўскім і Калядкам пад'ехалі да Загалля. Не даязджаючы да вёскі, Калядка спыніў атрад.

— Трэба абмеркаваць становішча,— сказаў ён.

У ліку коннікаў быў і Лявон Богуш. Ён з цікаўнасцю аглядаў ваколіцы палескай вёскі, дзе нарадзіўся Ігнась. Лес стаяў навакола. Лес і балоты, перакрэсленыя вузкімі гразкімі грэблямі. Яны падыходзілі да самай вёскі, асабліва з паўднёвага яе боку.

— Ты тут быў, таварыш Руткоўскі. Выкажы сваю думку.

— Я думаю, што абкружыць вёску з нашымі сіламі нельга, але захапіць усе дарогі і выхады мы абавязаны.

— Добра. Тады падрыхтуйце зброю, таварышы. Богуш, Барай і Баранчык займуць увесь заходні бок, а Сцяпурка, Рымаш і Вялічка — увесь усходні. Такім чынам, мы возьмем пад кантроль абодва бакі.

— І па два чалавекі неабходна паставіць на загуменнях,— дадаў Руткоўскі.

Праз некалькі хвілін ад атрада адлучылася частка коннікаў, рэшта накіравалася ў вёску.

Рыгор Патапчык у гэты час у гумне перахоўваў грошы. Трэба было быць напагатове. Ён высыпаў іх з

чыгунка ў скураную торбу, якую паклаў у кадаўб, што стаяў у пустой тарпе ля сцяны.

Яму страшна хацелася спаць. Цэлую ноч ён правёў з бандытамі каля мястэчка, ляскаў зубамі ад страху і нічым не пажывіўся. Страляніны ён баяўся да таго, што ледзь не здурнеў. Яму здавалася, што на яго ляцяць усе кулі. Ён быў рады, калі ў Леценцы Патржанецкі пакінуў Багалевіча на сваім месцы, а сам сеў у Патапчыкаў воз і сказаў: «Паганяй!»

У лясніцтва яны прыехалі світаннем. Паснедалі стоячы, выпілі па шклянцы, і Патржанецкі пачаў адразу збірацца ў лес. Вось гэта і растрывожыла Патапчыка. Значыць, ёсць небяспека, і яна блізка.

Патапчык прыехаў дамоў і таксама не лёг адпачываць. Ён пачаў рыхтавацца. Куды, ён добра не ведаў. Мо нікуды. Можа, усё пройдзе, сціхне, супакоіцца... Хіба няможна жыць у Загаллі з тым дабром, якое ляжыць у яго гумне і ў свірне. З такімі грашамі! Каму патрэбен Рыгор Патапчык — мужык!.. Будуць шукаць Патржанецкага, Бранавіцкага, Голанда...

Але такія думкі не супакойвалі. «У лес трэба»,— думаў ён. Аднак спыніцца на гэтай думцы, пайсці ў лес ён не мог. Пайсці ў лес, гэта значыць кінуць усё дабро. А хіба яно застанецца цэлае! Яго ж расцягаюць да рэшты. Валасы на галаве ўздымаліся ад такой думкі. Нашто ж тады было столькі гараваць, не спаць, дрыжаць, баяцца кожнага суседа, хавацца ад сустрэчных людзей. Ці за тым ён так верна служыў Патржанецкаму, каб цяпер ісці немаведама куды? Не, не затым. Ён ствараў свой дабрабыт, хацеў, каб усяго хапіла да смерці, хацеў жыць, як пан.

А жонка і дзеці. У іх усё адбяруць... «Старцамі яны будуць, старцамі!» — Патапчык сеў на заперу і закурыў. «Пакуль што ціха. Ніякі дурань не паедзе ў Загалле. Там у мястэчку, можа, баяцца выткнуць на вуліцу галаву. Хто гэта сюды паедзе! Кожны баіцца і не хоча падстаўляць лоб пад кулі».

З такімі думкамі ён выйшаў з гумна і замкнуў яго.

Хто там спыніўся ля яго двара? Ён убачыў асядланага каня, аднаго, а потым і другога. Кроў адышла ад твару. Слабасць і млявасць пацяклі па жылах. «Па мяне!.. Грошы...» Ён рвануўся ў гумно. «Ах, і гумно замкнуў... Прапаў...»

— Стой! Рукі ўгору!

Ад хаты да яго беглі ўзброеныя людзі.

Патапчык прыгнуўся, скочыў убок і пабег па загуменні. Прагучаў стрэл. Куля завыла вельмі блізка. Ён пераскочыў плот. Зноў стрэл. Нешта апаліла руку ў пля-чы. Цяпер ён імчаўся па ржышчы проста ў лес. Да яго было крокаў сотня. «Памажы, божа, памажы, божа...»

Ён не глядзеў па баках, яго пагляд быў прыкаваны да лесу. А з заходняга боку наперарэз яму імчаўся коннік. «Вазьму жывога! Вазьму жывога, чорта!» — радасна думаў Лявон Богуш, набліжаючыся да Патапчыка.

Патапчык убачыў яго крокаў за дваццаць ад сябе. Калядка і Руткоўскі, якія беглі ззаду, пакінулі страляць. Было ясна, што Богуш пярэйме ўцекача.

Патапчык спыніўся, выхапіў з кішэні рэвальвер і, не цэлячыся, стрэліў. Конь з ходу грымнуўся на зямлю. Богуш пераляцеў праз яго галаву.

Патапчык памчаўся да лесу, адчуўшы новы прыліў сілы і надзеі на выратаванне. Пачалася страляніна. Кулі рвалі адзежу. Адна апякла лытку.

Патапчык ускочыў у гушчар і, прабегшы сажняў дзвесце, ад стомы зваліўся на купіну. Дыхаць не было чым. З пляча і лыткі цякла кроў. Ён не зважаў яе. Усхапіўшыся, ён дзіка азірнуўся і зноў пабег.

Нарэшце сілы пакінулі яго. Ён зваліўся пад куст і ляжаў без руху значны час. Потым падняўся і сеў. «Няўжо я жывы». У лесе стаяў глухі асенні шум. Не хацелася верыць, што ўсё гэта адбылося ў сапраўднасці. Нядаўна ён быў гаспадаром, а цяпер хто? Страх ахапіў яго, і ён зноў кінуўся бегчы ў глыб лесу. Забіўся ў такі гушчарнік, што нельга было ісці.

Прысеў на паваленую яліну і пачаў плакаць. «Куды цяпер падзецца?.. А грошы пакінуў у гумне...» Сашчапіў кулакі і зароў немым звярыным голасам.

«Няўжо ж гэта не сон! Куды ж ісці?»

Пакрысе прыходзіла супакаенне. «А мо і цяпер грошы ляжаць у кадаўбе. Толькі выбраць час і прыйсці забраць».

І пакрочыў праз вывараты, але ўжо ведаў куды: да Патржанецкага ў лагер.

53

Калі Алесь з Калачыкам прыехалі з мястэчка, іх сустрэлі ўсе вяскоўцы.

Прыезд міліцыі быў не малой падзеяй у жыцці палескай вёскі. Калі ж пачалася страляніна, людзі баяліся выйсці на вуліцу. Але атраднікі зайшлі ў некалькі хат, растлумачылі прычыну іх прыезду, знайшлі члена сельсавета Герасіменю, папрасілі на дапамогу людзей.

Навіна, як маланка, праляцела ад канца да канца вёскі.

Руткоўскі і Калядка з шаснаццаццю атраднікамі паехалі ў лясніцтва. Богуш і тры міліцыянеры засталіся рабіць вобыск у Патапчыка. Амаль усе дарослыя вяскоўцы запоўнілі Патапчыкаў двор. Толькі Мікалай Леўчык выйшаў быў на вуліцу, прайшоў крыху з гуртам людзей, але, дайшоўшы да Патапчыкавага двара, непрыкметна вярнуўся дамоў.

Ніхто з вяскоўцаў не ведаў, якое багацце меў Патапчык. Калі ж узламалі дзверы ў свірне, Герасіменя Сідар, Кругленя Раман пачалі выносіць адтуль мяхі і скрыні з нарабаваным дабром, людзі схапіліся за галовы.

— А божухна мой! — Радзівоніха ўспляснула рукамі.— А падзівіцеся, людцы, што тут ёсць!

Раман Кругленя зірнуў на кучы мяхоў, скрынь і чамаданаў і сказаў:

— Бачыш, якая халера жыла сярод нас, Сідар!

— Халера! Якая там халера! Тут і слова патрэбнага не прыдумаеш!

— Уцёк! Скажы ж ты, уцёк забойца, разбойнік.

— Не ўцячэ! — пачуўся голас з двара: Алесь прабіраўся да дзвярэй.— Хіба мы не зловім яго, мужчыны!

— Далібог, зловім!

— Зловім, пане-браце! — Халімон пыхкаў люлькай.— Скрозь зямлю ён не праваліцца.

— Грэх будзе вам, мужчынкі, калі вы пусціце яго ў свет! — сказала Змітрачыха.

Ад свірна пайшлі ў гумно. Мужчыны развярнулі стаўпы сена і збажыны. Клункі і мяхі клалі на таку ў адно месца.

Адкапалі падсвечнікі пад грушай. Алесь нёс іх і смяяўся.

— Вось, мужчыны, тое парасё, што здохла ў Патапчыка.

Лявона Богуша зацікавіў кадаўб. Палявік, ён ніколі не бачыў такой тоўстай калоды, выдаўбленай унутры, з дзіркай убаку. Лявон паспрабаваў яго павярнуць, але не скрануў з месца. Ён зазірнуў унутр і падзівіўся: там можна было схавацца дзесятку людзей. Тады ён улез у яго і наступіў на нейкую рэч. Прысеў і абмацаў: торба з грашамі. Падняў. Якая цяжкая!

Вылез і панёс да людзей, але людзі рынуліся з гумна. Пабег за натоўпам і сам. На прыгуменні атраднікі прывязалі коней да яблынь і груш. Натоўп людзей збіўся на двары. Руткоўскі ішоў насустрач Лявону.

— Што нясеш, таварыш Богуш?

— Золата, таварыш начальнік. Знайшоў у нейкай дзяжы.

— Кажаш, золата... А Бранавіцкага знялі з пятлі. Не пашанцавала... Патржанецкі ўцёк, а Бранавіцкага асталі ўжо адубелага. Ты не вельмі тады вытнуўся?

— Крыху плячо баліць.

— Усё абшукалі?

— Усё. Хіба што ў зямлі ёсць.

— Трэба збірацца назад.

Атрад Калядкі і Руткоўскага і некалькі фурманак выехалі з Загалля. Мужчыны праводзілі іх. Руткоўскі ехаў ззаду і размаўляў з сялянамі.

Алесь Марыніч і ўсе мужчыны, нават старыя дзяды, ішлі за атрадам. За ім ішла моладзь, цэлы гурт жанок, а ззаду ўсіх грамада дзяцей.

— Вы, далібог, усё Загалле павялі за сабой! — смяяўся Раман.— Вунь, зірніце, толькі тыя, што ў калысках, засталіся дома.

— У тым і моц наша, таварышы, што мы ўсе гуртам,— адказаў Руткоўскі, зірнуўшы назад.— А Патапчыка праваронілі...

— Мы праваронілі, мы і зловім... Быць не можа, каб ён выйшаў з нашых рук! — Алесь зірнуў на мужчын.— Як думаеце, мужчыны?

— Хіба ён у лесе здохне ці падасца куды далёка,— зазначыў Раман Кругленя.

— А ўсё-такі не забывайце, аб чым я вам казаў: абавязкова вартуйце вёску і пастаўце варту каля яго хаты. Глядзі, таварыш Герасіменя, адказнасць ляжыць на табе. А людзі ў цябе надзейныя.

— Ніхто не здрадзіць, таварыш начальнік! — сказаў Сідар.— А варту мы з сённяшняга дня паставім.

Калі Руткоўскі адвітаўся, загальцы вярнуліся назад. Алесь быў вельмі ўсхваляваны падзеямі дня і не сказаў Арыне пра Ігнася. «Скажы ёй, дык завые і захоча ў мястэчка ехаць,— падумаў ён.— А хіба яе сунімеш? Возьме ды паедзе». А ехаць у гэтыя дні ніяк не выпадала. Алесь верыў, што зловіць Патапчыка, і не нехта іншы, а ён сам зловіць таго бандыта... Трэба пахадзіць у лесе, пашукаць нары, дзе адседжваецца гэты злодзей. А без жонкі ён не мог пакінуць хату.

Мужчыны ішлі па гразкай вуліцы адзін за адным.

— Можа, да мяне збяромся, мужчыны? — прапанаваў Алесь.

Разам з мужчынамі ў хату набілася поўна жанок.

— Далібог, вам, бабы, трэ ўпраўляцца ісці. Хіба вы не чуеце, як свінні вашы вішчаць, есці хочуць, аж дзверы грызуць,— звярнуўся да жанок Кругленя Раман.

— Няхай вішчаць, не падохнуць! — адказала Радзівоніха.— Думаеш, толькі вы нешта варты, а мы не! Мы яшчэ лепш прыпільнуем таго гіцля.

— Ды ўжо ж вечар, ліха на вас! — нездаволена сказаў Алесь.

— Памаўчы, Алесь,— супакоіў яго Сідар.— І вось, таварышы, сход наш ужо адкрыты. Самі ведаеце, які сход. Патапчыка нам злавіць трэба. Чулі, што казаў начальнік міліцыі: праваронілі... Ці праўду я гавару?

— Вядома, праўду, Сідар, чаго там. Мы ўжо і самі гэта ведаем.

— Ну, дык няхай яшчэ нехта гаворыць, бо я галоўнае сказаў.

— Нічога ты не сказаў, Сідар,— азваўся Алесь.— Я скажу. Каб злавіць, то трэба лавіць, а седзячы, склаўшы рукі ды разявіўшы рот, толькі мух можна налавіць. Сёння ўжо хутка сцямнеецца, дзе цяпер яго шукаць. Начальнік міліцыі сказаў, што трэба вартаваць, дык я мяркую так: сённяшнюю ноч ля хаты будзем вартаваць мы са Сцяпанам, а заўтра хай вызначае Сідар. Па два чалавекі на кожную ноч. Ці хопіць?

— Мала па два, Алесь,— сказаў Раман,— чатырох трэба: два з аднаго канца, два з другога. І акрамя таго, мужчыны, лічу я, што Мікалая Леўчыка зволім ад варты.. Патапчыкава радня. Бачыце, няма ж яго сярод нас.

— Праўду кажаш, Раман,— падтрымаў Калачык Сцяпан.

І ўсе мужчыны з імі згадзіліся.

— А хто будзе вартаўнікоў да Патапчыкавай хаты вызначаць? — запытала Радзівоніха.

— Вядома ж хто: Сідар,— растлумачыў Раман Кругленя.— А на сённяшнюю ноч вызначаны Алесь ды Сцяпан.

— Дык і мяне вызначайце! — крыкнула Радзівоніха.— Я даўно на яго зубы вастру! Я не задрамлю.

— Вызначым і цябе,— заспакоіў яе Сідар Герасіменя.

— Ну то і добра. А цяпер пайду парасё пакармлю.

Услед за Радзівоніхай разышліся ўсе жанчыны. На дварэ і сапраўды вечарэла, час быў даглядаць скаціну. Мужчыны яшчэ засталіся на сходзе, каб канчаткова ўстанавіць парадак варты.

— Вось што, Сідар,— сказаў Раман Кругленя.— Ты ў нас за старшага, дык і ведай, што ты старшы. А то ты, браце, такі, што куды цябе пхнеш, туды ты і сунешся...

— Дарэмна ты так кажаш, Раман. Мяне не так лёгка пхаць, як ты думаеш, бо я на нагах моцна стаю і вачамі бачу, куды ісці трэба. Каб ты ведаў, куды мяне Патапчык пхаў! А я вось з вамі сяджу ды яго злавіць думаю, а ён пад кустамі сядзіць ды зубамі скрыгоча.

Мужчыны пачалі збірацца дадому.

— Пачакайце,— сказаў Раман.— Вартаваць трэба не абы як, скажам, ноч адбыў і бывайце здаровы. Ён жа можа вёску падпаліць. Дык от ведайце, што не толькі Патапчыка, а і сябе вы вартуеце.

Калі ўсе разышліся, Алесь сеў вячэраць, і думкі яго круціліся вакол Патапчыка.

Пра Ігнася ён сёння зусім забыў. Вячэраў, як пасля касьбы. Адно жаданне авалодала яго душою: злавіць Патапчыка. І калі Арына запытала, як там жыве Ігнась, не ведаў, што адказаць.

— Жыве, як і трэба,— нарэшце прамовіў ён.

— Мабыць, вельмі схуднеў!

— Вядома ж не паправіўся,— успомніў жоўты вастраносы твар сына, гарачыя яго губы і лоб, і жаль сціснуў сэрца. Сорамна было, што ашуквае жонку, і, каб крыху зменшыць сваю віну, сказаў: — А вось, калі хочаш, то запрагу каня, з'ездзі, паглядзі.

Сцяпан Калачык стукнуў у акно.

— Іду! — адказаў Алесь.

Ён надзеў кажух, падперазаўся, усунуў за пояс сякеру і пайшоў.

## 54

Патржанецкі ўсё яшчэ не верыў, што Бранавіцкі застанецца ў лясніцтве. Ён вырашыў не пакідаць яго тут ні ў якім разе. Трэба было забраць яго золата і знішчыць самога. У лесе зрабіць гэта зручней. Як выкрыты шпіён, Бранавіцкі ўжо быў не толькі непатрэбны, а шкодны. На следстве ён мог даць паказанні, якія выкрыюць усю арганізацыю. А Патржанецкі быў упэўнены, што, па загаду цэнтра, яму яшчэ давядзецца пабыць у гэтых мясцінах.

— Іван Бенедыктавіч! Я зразумеў бы Патапчыка. Я і не прапанаваў бы яму ісці са мною. Ён мужык і прырос да сваёй гаспадаркі і не кіне яе. Але вы! Што вы, уласна кажучы, думаеце?

— Я думаю застацца тут, пане Патржанецкі...

— Няўжо вы лічыце, што ніхто не ўведае пра ваш удзел у гэтай гісторыі? Ці вы спадзяецеся, што вам даруюць? Магу вас запэўніць, што і Патапчык не выслізнецца. Тут хутка пойдзе такое следства! Усе, хто нават не прымаў удзелу, а толькі ведаў, будуць пасаджаны ў турму. Вы разумееце, што такое чэка?

Бранавіцкі моўчкі схіліў галаву і не адказаў.

— Быць на чале такой гісторыі і застацца ў лясніцтве! Ды вы і сапраўды здурнелі. Я не думаў, што вы зробіце такое глупства...

Бранавіцкі сядзеў на канапе насупраць Патржанецкага, які стаяў ля дзвярэй. У апусцелых вачах ляснічага не відаць было ніякіх пачуццяў.

— Я нікуды не пайду адсюль.

— Паслухайце. Калі вы не пойдзеце, я застрэлю вас.

— Калі ласка. Вы гэта зробіце так ці інакш, каб абрабаваць мяне.

— О, чорт. Я толькі марную час. Ну?

— Я не пайду.

Патржанецкі зрабіў некалькі крокаў наперад і, нацэліўшы рэвальвер у лоб Бранавіцкага, загадаў:

— Давай сюды золата.

Бранавіцкі пакорліва ўзняўся з канапы, адамкнуў ніжнюю шуфляду, выняў з яе першае дно і дастаў пояс, падобны на патранташ.

— Калі ласка...

— Тут усё?

— Усё.

— Кладзі на стол. А цяпер давай зброю.

Бранавіцкі выняў маленькі браўнінг.

— Вось мая адзіная зброя. Вы можаце мне паверыць, што гэта так. Я чалавек цывільны і не люблю зброі.

— Веру. Кладзі на стол.

Потым ён драпежным рухам згроб са стала пояс і браўнінг.

— А цяпер прынясі вяроўку.

— Вы мяне хочаце павесіць? — з жахам у голасе запытаў Бранавіцкі і стаў белы, як абрус.

— Ты павесішся сам на маіх вачах.

— У такім разе... Вы лепш застрэльце мяне..— прамовіў Бранавіцкі і ўзняўся з месца. Ён глядзеў памярцвелымі вачамі на Патржанецкага, які цяпер нагадваў раз'юшанага звера, і склаў рукі на грудзях.— Іван Аляксеевіч... Прашу вас...— ён стаў на калені.— Лепш...

— Здраднікаў не страляюць, а вешаюць. Дзе вяроўка?

Калі Бранавіцкі прымацаваў да бэлькі пятлю і ўбачыў Змітракоў услон, твар яго сутаргава скрывіўся. «Мо гэта лёс памерці з ім адною смерцю». Усе загады, якія даваў Патржанецкі, ён выконваў механічна, нібы загіпнатызаваны. Стаў на ўслон і сунуў галаву ў пятлю. Патржанецкі нагою выбіў з-пад яго ўслон.

А праз некалькі хвілін два Бранавіцкія віселі ў петлях: адзін сярод хаты, а другі ў люстры.

Патржанецкі прыйшоў у лагер ужо вечарам. Ніхто не сустрэў яго. Ніякіх застаў, ніякіх вартавых не было. «Паскуднікі!.. Адна няўдача, і як хутка пачалі адвальвацца...» Ён скрыгануў зубамі.

На палянцы між зямлянак гарэў агонь. Каля дзесятка бандытаў грэлася ля яго, і ніхто з іх не прывітаў свайго капітана.

— Дзе Багалевіч і Плышэўскі? — запытаў ён.

— У зямлянцы,— панура адказаў адзін бандыт, не ўздымаючы вачэй. Ён забінтоўваў параненую руку. Астатнія маўкліва адвярнуліся ўбок.

Патржанецкі адчыніў дзверы і ўбачыў сваіх памочнікаў. Абодва сядзелі ля стала і аб нечым размажалі. Мабыць, з'яўленне Патржанецкага зрабіла на іх вялікае ўражанне, бо абодва здзіўлена зірнулі на яго.

— А, капітан! — Багалевіч пайшоў яму насустрач.— Сказаць па праўдзе, мы не чакалі вас.

— Чаму?

— Мы думалі, што вы знайшлі сабе дарогу адзін.

— Ты так думаў, Багалевіч! Як ты смееш гэта казаць!

— Так думалі ўсе, капітан,— умяшаўся Плышэўскі.— Мы тут без вас абмяркоўвалі наша становішча і ні да чаго не прыйшлі.

— Чаму?

— Таму, капітан,— Багалевіч махнуў рукою Плышэўскаму і пачаў гаварыць сам,— што многія нашы хлопцы з-пад мястэчка не вярнуліся. Частка ёсць забітых, а многія проста ўцяклі. Сярод іх ёсць такія, што могуць выдаць. Яны ж ведаюць, дзе знаходзіцца лагер. Можна чакаць нападу... гэта адно. А другое, у нас мала людзей...

— Як гэта мала?

— А так, што менш паловы... Не больш трэцяе часткі. І ў тых настрой вельмі дрэнны, капітан. Ёсць чуткі, што ў мястэчка прыехала чэка.

Патржанецкі маўчаў, сціснуўшы зубы. Канец яго справе прыйшоў раней, чым ён думаў. Адна апошняя аперацыя, якую трэба было правесці, каб уцячы адсюль жывому, магла праваліцца. Ён пачаў хадзіць па зямлянцы.

— Багалевіч, Плышэўскі, што думаеце вы?

Плышэўскі схіліў галаву, Багалевіч смела зірнуў на капітана.

— Трэба канчаць гэтую музыку, пакуль не адляцела галава ад плячэй,— сказаў ён.

— Без цябе ведаю, асёл! Але як канчаць? У мяне быў план вывесці атрад за мяжу, перайсці рубеж, зразумеў? А ты кажаш: у нас мала хлопцаў... Дык пойдуць яны за намі? А самі вы пойдзеце?

— Нам адна дарога, капітан... Куды вы, туды і мы... А ў хлопцаў трэба запытаць. Думаю, тыя, што засталіся, пойдуць.

— Ну, дык збяры ўсіх, пагутарым.

— Ідзі, Сымон, дай сігнал,— загадаў Багалевіч.

Плышэўскі выйшаў. Праз хвіліну завыла труба, і бандыты пачалі збірацца ля зямлянкі Багалевіча.

— Хадзем, капітан. Ваша прысутнасць уздыме іх настрой.

Патржанецкі выйшаў з зямлянкі. Натоўп расступіўся і даў яму дарогу. Ён прайшоў з Багалевічам і Плышэўскім да сярэдзіны натоўпу і спыніўся. Ноч была ў лесе. Полымя ад кастра асвятляла палянку. Панура выглядалі абрысы зямлянак.

Бандыты стаялі моўчкі.

— Ну, арлы! Чаго засмуціліся? Вышэй галовы! Хто казаў, што я ўцёк! Вось я перад вамі!

Натоўп заварушыўся.

— Што, задумалі разбягацца? Хто аб гэтым думае — калі ласка! Мы не трымаем. А дарога такім адна! У чэка на расстрэл!

Натоўп забушаваў, загуў. Патржанецкі быў задаволены: яго словы зрабілі такі ўплыў на бандытаў, які ён хацеў.

— А хто хоча жыць, той пойдзе са мной! За рубеж! Там нас чакаюць і дадуць дапамогу! Згода ці не?

— Згода! Згода!

— А калі згода, загадваю! Сёння падрыхтаваць зброю. Потым на адпачынак. Заўтра раніцай мы рушым у дарогу.

Палянка апусцела. Дагараў агонь, і на бандыцкі лагер насунулася цемра.

Патржанецкі, Багалевіч і Плышэўскі запакавалі ў мяхі сваё золата, паперы і карты, падрыхтавалі вінтоўкі, гранаты і компас. Плышэўскі паставіў на стол вячэру. Не паспелі яны сесці, як прагучаў стрэл, потым другі. Багалевіч і Плышэўскі без шапак выскачылі з зямлянкі. Пачуліся галасы і лаянка. Патржанецкі ўзвёў курок рэвальвера і чакаў.

— Глупства, капітан! — Плышэўскі ўлез у зямлянку.— Сасноўскі Стась застрэліў Малюшыцкага. Той украў Стасева золата і хацеў уцячы. Багалевіч там наводзіць парадак.

— Ґэта не ґлупства, Сымон...— сказаў Патржанецкі шматзначна.

Багалевіч вярнуўся злосны і ўсхваляваны.

— Ці не паставіць варту, капітан? За ноч некаторыя ўцякуць.

— Не трэба, Багалевіч... Уцячэ той, хто нам не патрэбны... Будзем вячэраць. А вось тут, у нас, варта патрэбна. Будзем спаць па чарзе.

Прыйшла раніца. У апусцелы бандыцкі лагер прыпоўз Патапчык. Ноч ён правёў у лесе, акалеў як сабака. Зґаладаўся, змучыўся, абадраўся, лазячы на вываратах, змок у балоце і перадрыжаў ад страху.

Убачыўшы, што ў лагеры нікога няма, паваліўся на зямлю ад адчаю.

— Спазніўся... Божа мой, я спазніўся!..

Усе яго надзеі зніклі. Ён пачаў поўзаць па зямлі. У адной зямлянцы знайшоў зацвілы акраец хлеба і адразу сунуў у рот. Тут жа валялася нейкая дзяруга. Адлажыў яе ўбок. Падабраў у куце кацялок, у ім была каша. Браў яе жменяй і еў. Абышоў усе зямлянкі, назбіраў таго-сяго, крыху сагрэўся.

Сабраў усе анучы, рваннё і злажыў на нары ў Багалевічавай зямлянцы. Абматаў анучамі лытку і плячо. Раны былі неглыбокія, але моцна балелі.

Ухутаўшыся дзяругай, Патапчык лёг на нары.

## 55

Кавалёву здавалася, што яму цяпер лягчэй дыхаць. Праўда, працы хапала. У глухіх палескіх сельсаветах пасады старшынь займалі чужыя людзі, калі не кулакі, то падкулачнікі ці вельмі далёкія ад палітыкі людзі. Камуністаў у воласці было мала. Разгарнуць шырэй партыйную і камсамольскую работу, умацаваць на месцах савецкую ўладу — вось задача, якую неадкладна трэба было праводзіць у жыццё. Поплеч з гэтым ішла другая работа: арганізацыя дапамогі галадаючым, барацьба з кулацтвам і гандлярствам, умацаванне кааперацыі саматужнікаў. Аднак усё гэта ўжо не здавалася такім цяжкім, як тады, калі банда тэрарызавала воласць.

Аб гэтым і думаў Кавалёў, калі ішоў у памяшканне міліцыі, куды яго выклікаў следчы чэка Ружанін, які

знаходзіўся ў кабінеце Рутkoўскага. Туды і пайшоў Кавалёў.

— Сядайце,— прапанаваў яму Ружанін.

Ён зняў акуляры і паклаў іх на стол. Вялікія яго вочы зажмурыліся ад святла.

— Дзякую. Апошнія дні мне мала прыходзіцца сядзець.

— А мне вельмі многа. Аднак и прывык. Вось нядаўна я дапытваў аднаго блазнюка з ТВГ і даў загад арыштаваць астатніх членаў. Справа ў тым, таварыш Кавалёў, што ТВГ карміўся ад двух матак. Вясковую частку выхоўвала кулацтва і банда, а местачковую — сіянізм.

— Тут, у гэтым мястэчку, сіянізм?

— Вось іменна. Цэлая арганізацыя, таварыш Кавалёў.

Кавалёў усхваляваўся. Жыць і працаваць у мястэчку на працягу паўгода і нават не адчуваць, што існуе цэлая контррэвалюцыйная арганізацыя, якая праводзіла сваю працу ў яго пад носам... Гэта ж недаравальна! Сорам...

Ружанін з усмешкай зірнуў на яго.

— Вы гэта прынялі надзвычай блізка да сэрца, таварыш Кавалёў.

— Мне сорамна, таварыш Ружанін...

— Ворагі працуюць хітра... Да таго ж у вас было працы па вушы. Я вам скажу шчыра: вамі шмат зроблена. Местачковы калектыў камуністаў паклаў пачатак ліквідацыі банды. А сіянізм — гэта ж падпольная арганізацыя. У вас і сродкаў не ставала ахапіць усё... Але майце на ўвазе, што рэшткі яшчэ засталіся. Ды і банда толькі знікла, але не разгромлена.

— Разумею... і скажу вам шчыра: мы мала аддавалі ўвагі палітычнай рабоце сярод насельніцтва.

— Вось аб гэтым я хачу пагутарыць з вамі і даць параду: адкрыйце ў мястэчку народны дом. Я выклікаў Буткевіча, але ён недзе ў камандзіроўцы.

— Ён сёння прыедзе.

— Вы пагутарыце з ім. Гэта вельмі важная справа, чым хутчэй зробіце, тым лепш. Людзей трэба выхоўваць.

— Дзякую за параду. Народны дом мы абавязкова адкрыем.

— Вось і добра.

Ужо на ганку Кавалёў адчуў подых зімы, а калі выйшаў на вуліцу, аж спыніўся ад нечаканасці: снег ляжаў на зямлі і на стрэхах. Ён падаў буйнымі хлоп'ямі, вільготны і цяжкі.

Кавалёў крочыў па тратуары ў выканком, і снег наліпаў на яго боты так, што цяжка было ісці.

Каля выканкома ён сустрэў Буткевіча. Той, відаць, ішоў дадому.

— Добры вечар, Сцяпан! Ты ўжо прыехаў!

— Толькі што вярнуўся. Пайду павячэраю. А ты ўжо вячэраў?

— Не.

— Ну, дык хадзем разам павячэраем і пагутарым.

— Хадзем.

Вечар быў зусім белы. І вуліцы, і дамы, і дрэвы вырысоўваліся на цёмным фоне неба яскрава, як на малюнку. І снег падаў бесперапынку.

— Ну, як з'ездзіў?

— Вельмі добра. Дарогі ж, скажу я табе, у нашым Палессі. Замучыўся і сам і каню папала. Трэба правіць гэтыя грэблі.

— Нічога, Сцяпан. Асушым балоты, і на іх будзе расці збажына. Пракладзём шасэ, мо нават чыгунку. Тут ля мястэчка пабудуем шкляны завод, ля смалакурні паставім электрастанцыю на торфе.

— Ты любіш летуценні, Сяргей. Гэта — яшчэ мара.

— А сённяшні дзень хіба не быў мараю?

— Быў. Але ж мы рыхтавалі яго.

— А хіба да гэтага не імкнемся? Гэта ж наша галоўная задача.

— Галоўная, але да яе яшчэ далёка, Сяргей. А грэблі рамантаваць — задача сённяшняга дня. Напрыклад, у Ярэмічах. Я ж быў і там, Сяргей, крыху крук зрабіў, але нічога. Галамака маладзец, Гурын не памыліўся... Шкада, Сяргей, Тараса... Проста цяжка. Там у Ярэмічах успамінаюць яго.

Кавалёў пацягнуўся рукой да кішэні гімнасцёркі, абмацаў у ёй маленькую брошку і схіліў галаву. Успамін аб Гурыну і ўласная страта сціснулі грудзі, апалілі сэрца болем.

— Так, Сцяпан...— успомніў, што першаму Тарасу сказаў пра смерць сваёй дачкі.— А лістоў няма... Няма мне лістоў...

— Аб чым ты, Сяргей?
— Лістоў мне няма з дому ад сям'і.
— Лісты, Сяргей, будуць. Пошта працуе нармальна. Табе трэба забраць сям'ю адтуль. Цяпер твой дом тут.
— Думаю аб гэтым, Сцяпан.
Яны стаялі ля дзвярэй Буткевічавай кватэры і выціралі ногі.
— Ну, заходзь,— Буткевіч адчыніў дзверы.
У хаце было цёпла і ўтульна.
— Распранайся, Сяргей,— прапанаваў Буткевіч.— Дай мне павячэраць, Аксеня,— сказаў ён жонцы, немаладой, але яшчэ прыгожай жанчыне, якая паліла грубку.
Абодва селі за стол над міскамі гарачай капусты.
— Вось у чым у нас недапрацоўка, Сяргей... у многіх сельсаветах ляжыць хлеб для Паваложжа, яго ж трэба адпраўляць у Слуцк і як мага хутчэй.
— Што ты зрабіў на месцах?
— Я загадаў прывезці зерне сюды. Заўтра і паслязаўтра хлеб будзе тут, адсюль будзем адпраўляць, але ж фурманкі!
— Гэта прасцей, Сцяпан. Мабілізуем балаголаў, мястэчковых сялян, нарэшце, многія з тых, хто прывязе яго сюды, згодзяцца везці і да Слуцка. У мяне складанейшая справа. Нам патрэбен будынак для народнага дома.
— Гэта складаней. Ты зноў сядзеш мне на шыю і пачнеш пілаваць.
— А калі я табе дапамагу? — смеючыся, запытаў Кавалёў.
— Як ты мне дапаможаш?
— У нас жа ёсць Голандаў дом! Вось яго і возьмем.
— Пагаворым на гэтую тэму мы больш падрабязна ў выканкоме...— сказаў Буткевіч.
— Абавязкова. Ну, дзякую за вячэру.
Калі яны выйшлі з хаты, на дварэ завіхаўся сіварок. Ён разагнаў хмары, і халоднае неба па-зімоваму зірнула на зямлю. Снег рыпеў пад нагамі.

56

Добра ўзброеная банда на чале з Патржанецкім і Багалевічам мела намер перайсці граніцу. Ухвалена было прабірацца па адным. Месцам для збору быў вызна-

чаны хутар аднаго кулака-кантрабандыста, з якім Патржанецкі ўвесь час трымаў шчыльную сувязь. Цераз яго ж перадаваў за мяжу і шпіёнскія зводкі. Тэрмін для збору Патржанецкі абмежаваў адным тыднем.

Вырашана было таксама, што ў гэты час ніхто з бандытаў ні пры якіх абставінах нідзе не ўздыме трывогі. Гэта было небяспечна, асабліва цяпер, перад апошняй аперацыяй, як казаў Патржанецкі. Трэба ціха, непрыкметна сабрацца ля граніцы, знянацку напасці на кардон, знішчыць пагранічнікаў і перайсці мяжу.

Бандыты разышліся. Застаўшыся адзін, Патржанецкі раптам адчуў страх і бездапаможнасць. Якраз такое пачуццё было ў яго і тады, калі ён адзін ішоў у лагер пасля нападу на мястэчка. Але ў той час хоць была надзея, што ў лагеры яго сустрэнуць, што там ён будзе сярод сваіх. А цяпер і яе не было. Адчуванне адзіноты ўстрывожыла яго сэрца. Упершыню за ўсе гэтыя месяцы ён адчуў такі вялікі страх і безнадзейнасць. Ці збяруцца хлопцы? Магчыма, кожны пойдзе сваёй дарогай... Каму ахвота рызыкаваць жыццём! Пад мястэчкам, дзе былі толькі атраднікі, а не чырвонаармейцы, і то больш паловы бандытаў уцякло, не прыняўшы бою. Вядома, Багалевіч і Плышэўскі прыйдуць. Ім больш няма куды ісці, толькі за граніцу. І Патржанецкі пашкадаваў, што не пакінуў іх з сабой. Усё-такі ўтрох і смялей і весялей.

Саротнік Даніла жыў у невялічкай вёсцы каля самай граніцы. Туды было не меней трыццаці вёрст. І вось здарылася так, што яму прыйшлося ісці дахаты сярод тыдня. Маці праз суседа паведамляла, што захварэў бацька, і клікала сына дамоў хоць на адзін дзень. Гэтую невясёлую вестку Данілу сказалі ноччу, калі вярнуўся з камсамольскага клуба. Ён усхваляваўся і ледзь прычакаў канца ночы.

Назаўтра ў часе заняткаў Даніла папрасіў у Хвядоса Іванавіча дазволу і пасля другога ўрока пайшоў дамоў.

Калі ён мінуў апошнюю местачковую хату, адразу пачалася грэбля, што вяла праз балота да самага лесу. Па ёй цяжка было ісці, бо між груд мёрзлай гразі, прысыпанай снегам, тырчалі галлё і зламаныя калёсамі бярвенні. Тады Даніла звярнуў з грэблі і пайшоў па балоце напрасткі.

У лесе ён вальней дыхнуў. Адразу адчуў сябе, як дома, у роднай вёсцы, закінутай на выспу, паpослую магутным борам. Тут і дарога была гладзейшая. Ён весела пакрочыў па ёй, і толькі тое, што яго чакае хворы бацька, замінала яму заспяваць.

Стаялі самыя кароткі дні. Да дому заставалася яшчэ каля пяці вёрст, а пачалася ўжо ноч. Акрамя таго, Даніла стаміўся і прагаладаўся. І, як назнарок, за ўсю дарогу не дагнаў ні адной падводы. Шкадаваў, што не зайшоў ні ў адзін хутар, а іх па дарозе сустракалася шмат. І куды б ні завітаў, усюды яму далі б кавалак хлеба. А ён шкадаваў часу, хацеў хутчэй прыйсці дадому.

Наперадзе вярсты за дзве быў яшчэ адзін хутар, але туды Даніла не зайшоў бы, каб нават паміраў з голаду. Жыў там багаты хутаранін, пра якога хадзілі чуткі, што ён займаецца кантрабандай. У гэтага кулака Даніла некалькі гадоў пасвіў жывёлу, але і тады гаспадар шкадаваў яму хлеба. «Вытрымаю! — падбадзёрваючы сябе, падумаў Даніла.— Не маленькі. Да дому не так далёка».

Калі ён падышоў да кулацкага хутара, яго здзівіла надзвычайная цішыня. Бывала тут за кіламетр прахожага або праезджага сустракала страшэнным брэхам цэлая гання сабак. І хоць яны былі на прывязі да тае пары, пакуль гаспадары не лягуць спаць, але ў маленстве Даніла далёка абыходзіў хутар, калі даводзілася ісці па гэтай дарозе.

«Нешта нейкае...» — зноў падумаў Даніла і суцішыў крок. Можна было чакаць нападу знянацку. Кінецца з двара сабачышча велічынёй з ваўка і не адбаронішся. Таму Даніла ішоў па ўзлеску крыху далей ад хаты, каб не прыцягнуць на сябе сабачай увагі.

Раптам ён спыніўся ад нечаканасці. Рыпнулі і адчыніліся дзверы, і з хаты пачалі выходзіць узброеныя людзі. Колькі іх, пералічыць было нельга, яны стаялі гуртам.

— Кліч астатніх — пачуўся голас, відаць, галоўнага з гэтай зграі. «Астатнія ў хляве ці ў гумне...» — здагадаўся Даніла. Яму ўсё стала зразумела. Гэта, пэўна, была рэшта банды, недабітай каля мястэчка, якая, мусіць, рыхтуецца перайсці граніцу.

І стома і голад — усё адразу знікла. Даніла асцярожна, каб нават не трэснуў сучок пад нагамі, адступіў назад у лес і колькі было моцы пабег да пагранічнай

заставы. Там у Данілы былі знаёмыя сябры-пагранічнікі.

Пагранічнікі сустрэлі бандытаў на подступах да граніцы, што з'явілася вялікай нечаканасцю для Патржанецкага і яго зграі. Болей паловы іх было знішчана, частка ўзята ў палон, і толькі некалькі чалавек на чале з Плышэўскім уцяклі назад, каб зноў бадзяцца па лясах.

Такім чынам, у асноўным была ліквідавана апошняя банда — рэшткі балахоўшчыны.

## 57

Патапчык аджыў. Адагрэўшыся і выспаўшыся, ён вырашыў прабыць тут некаторы час. А каб жыць, трэба варушыцца. Ён прыняўся за працу: прыбраў у зямлянцы і пачаў ладзіць страху. Нацягаў яловага галля, густа залажыў ім дзірку на страсе і засыпаў зверху зямлёй.

Адно было гора: балелі плячо і лытка, прытым мучыў голад, але выйсці далёка ў лес баяўся: усё думаў, што ў ім поўна міліцыянераў. Ад зямлянкі не адыходзіў. Нават ноччу выскакваў з логава, як ашалелы, і дрыжаў у холадзе, у цемры, баючыся адчыніць дзверы. Але асабліва было страшна, калі ноччу неслася з лесу воўчае выццё. Звярыная песня прыносіла такі адчай, такую безнадзейнасць, што Патапчык плакаў ад страху і тугі.

Ён счарнеў ад дыму і сажы, пачалі гнаіцца вочы, распух твар, валасы збіліся ў лямец, вопратка абарвалася і вісела на ім, як лахманы.

Але дзень за днём усё настойлівей цягнула яго дамоў. «Марыніч! Марыніч — гад удаў мяне... Каб не ён, хто б ведаў! Не трапіў ты, чортаў маўчун, у мае лапы! Але яшчэ пападзешся»,— так не адзін раз думаў адзічэлы бандыт.

Дадому ён выбраўся пасля поўдня: надта захаладала на дварэ і ўсё, што было можна з'есці, з'еў.

Перад адыходам праверыў рэвальвер. Тры патроны былі ў запасе.

І павалокся. Меркаваў падысці да вёскі ўвечары, пачакаць у лесе, пакуль усе заснуць. Тады забраць у гумне грошы. Ён усё яшчэ думаў і верыў, што грошы цэлыя. Потым зайсці ў хату. Наесціся, набраць торбу харчоў, адзежы... А потым запаліць праклятага маўчуна! Запаліць! Няхай пойдзе ўсё агнём і дымам.

Ён дайшоў да вёскі, калі яшчэ было светла. Лёг у кустах і зірнуў на сваё гумно. Відна была толькі страха. Заныла сэрца. Так хацелася дамоў, што проста хоць устань і ідзі...

Ну як вытрымаць! Вось свой двор, свая хата — рукой падаць, а паспрабуй пакажыся... Чуваць, як рыпаюць вароты ў гумнах, рыкаюць каровы. Вось запеў певень... «На мароз пяе, на мароз...» Холад пранізваў наскрозь, ныў жывот, і ўсё цела ахапілі дрыжыкі.

У гэты час загальскія мужчыны ішлі са сходу з Ярэміч. Уперадзе крочыў Сцяпан Калачык.

Герасіменя Сідар гукнуў яго:

— Пачакай, Сцяпан! Аднак ты тут, то каб мне не бегаць да цябе, адразу загадаю: сёння твая з Маркам чарга на варту.

— Не буду я вартаваць Патапчыкаву сядзібу, каб яго жонку нехта не ўкраў,— злосна адказаў Марка.

— Як гэта не будзеш! Мы ж на сходзе прыгаварылі!

— Не буду, бо ён не прыйдзе. Далібог, ён падаўся ў тую банду, а мы тут, як дурні, штоноч яго платы падпіраем.

— А калі прывалачэцца ды падпаліць вёску? — запытаў Калачык.

— Ай, ідзі ты, Сцяпан! Смехаўё, ды годзе. Каб ён быў жыў, то ўжо прыйшоў бы.

— Значыць, не пойдзеш? — злосна запытаў Алесь, падступаючы да Марка.— Не ідзі. Цяпер, каб ты і пайшоў, табе веры няма... Я пайду, Сідар, замест Марка.

Алесь рашуча пайшоў наперад. Ён усё яшчэ верыў, што зловіць Патапчыка. Цэлымі днямі хадзіў па лясах, спадзеючыся напаткаць яго там. Нават у тыя ночы, калі была не яго чарга вартаваць, ён выходзіў на вуліцу, на прыгуменне, прастойваў цэлыя гадзіны, угледаючыся ў цемру і прыслухоўваючыся. І сёння вырашыў вартаваць таксама.

У часе вячэры запытаў у жонкі.

— А сёння да Патапчыхі ніхто не прыязджаў і не прыходзіў?

— Ніхто.

— Ты добра глядзела?

— Адыдзі, Алесь... І так ты мяне заганяў... Не работа, а толькі турбота.

— Ну, добра. Хату не замыкай і сёння.

Толькі апрануў кажух — у хату ўваліўся Сцяпан Калачык, увесь у снезе. Абтросся ля парога.

— Калі павячэраў, Алесь, то пойдзем.

— Пойдзем, Сцяпан. Я ўжо гатовы.

На дварэ было холадна. Патыхала сіверам з поўначы, і снег пакінуў сыпацца.

Мужчыны пастаялі на Алесевым двары, ля плота перад хатаю Патапчыка. Выйшлі на вуліцу і тут пастаялі.

— Асцярожна трэба, Алесь. Сёння і нам дрэнна, і яму нязручна. Вельмі ж бела навокал.

— Маўчы, Сцяпан. Хадзем на прыгуменне, з вуліцы ён не пойдзе.

Пайшлі па Алесевай сядзібе да адрыны. Сталі за сцяной ад ветру. Доўга стаялі моўчкі. У гэты час у Алеся з'явілася думка: «А што калі Патапчык будзе ісці па сваім прыгуменні». Пакуль яны дабягуць да яго, Патапчык абодвух застрэліць і ўцячэ.

— Хадзем, Сцяпан, на яго прыгуменне, станем ля яго гумна. Тут небяспечна.

— Добра ты кажаш. Аб гэтым і я падумаў.

Ля Патапчыкавага гумна пад страхою ляжаў тоўсты дуб на шулы. На ім стаялі кулі адзін ля аднаго ў рад. Сам Сцяпан, калі малаціў у Патапчыка, паставіў іх, бо ў гумне не было месца. Мужчыны і селі між кулёў, рассунуўшы іх так, каб зрабіць сабе мясціну.

На дварэ выпагадзілася. Пачало па-сапраўднаму марозіць. Вецер дзьмуў з поўначы, але між кулёў цёпла было сядзець.

Алесь быў пэўны, што Патапчык сёння абавязкова з'явіцца дахаты. Надышла зіма, без кажуха, валёнак і харчоў у лесе не ўседзіш.

Жыццё ў вёсцы заціхла. Навокал ні гуку, ні шораху.

Раптам хруснуў снег. Пачуліся крокі. Алесь штурхнуў Сцяпана і паказаў у той бок, дзе хруснуў снег.

Прабіраючыся каля сцяны, проста да іх ішоў Патапчык. Ён ступаў асцярожна, трымаючыся рукою за сцяну, прыгнуўшыся, паволі, крок за крокам.

«Сам у рукі ідзеш! — падумаў Алесь.— Ідзі, ідзі!» Радасць перапаўняла яго сэрца, хацелася зарагатаць

проста ў вочы бандыту. Але маўчаў, сціснуўшы ў руцэ паляшуцкі нож.

Патапчык дабраўся да кулёў, крануў іх рукою — зашамацелі. Ён спыніўся на адно імгненне і зноў пакрочыў.

Калі ён не дайшоў да мужчын толькі пяць крокаў, Алесь выскачыў, схапіў бандыта за грудзі, а Сцяпан за рукі і закруціў іх назад. Тады яны паваліді яго на снег.

— Звяжам, ці што, Алесь?

— Рукі звяжам. На мой учгур.— Алесь хутка распеpackаўся і аддаў Сцяпану пояс.

Патапчык завыў.

— Сціхні, гад, не палохай людзей! Уставай!

— Забіце мяне тут...— загаласіў Патапчык.

— Памаўчы, крывапіўца!

Алесь паднёс кулак да яго носа. Патапчык сплюнуў крывёю і сціх.

Праз некалькі хвілін у Алесеву хату збеглася ўся вёска.

Патапчык сядзеў на лаве ля сцяны. Вочы яго адзічэлі, як у звера.

— Дайце мне есці, добрыя людзі,— ныў ён.

Алесь дастаў з яго кішэні рэвальвер.

— Есці просіш, гад!

Ён цяпер адчуў поўную радасць і супакаенне.

— Арына! — сказаў ён.— Заўтра з'ездзіш да Ігната.

## 58

Мястэчка пачало жыць іншым жыццём. На вуліцах з'явіліся ліхтары. Вечарамі нардом ззяў усімі вокнамі. Тут працавалі гурткі, рыхтаваліся пастаноўкі.

Моладзь абсталявала залу для спектакляў. Самі зрабілі сцэну, прыбудавалі касірскую будку.

На двух галоўных вуліцах, што выводзілі на рынак, паставілі драўляныя аркі. Іх абвілі гірляндамі.

У нардоме адкрылі бібліятэку. Мястэчка ажыло і зашумела, як малады лясок пасля доўгай зімы.

Ігнась вучыўся хадзіць па палаце, і гэты занятак даваў яму вялікае здавальненне. Прыемна адчуваць сябе жывым, здаровым, годным да дзейнасці і працы.

На вуліцы ўжо ляжаў снег. Пушысты і мяккі, ён абсыпаў платы і хаты, накрыў зямлю і павіс на дрэвах. Гледзячы ў шырокае бальнічнае акно, можна было бачыць нязмерную гладзь, што ляжала за ракой. Далёка віднеўся зубчаты краёк лесу.

Вечарам на тратуарах хруст снегу клікаў на холад. А ў вялізным памяшканні бальніцы было ціха і сумна.

Ігнась усцешыўся бадай да слёз, калі прыехалі маці і сястра Волька. Маці зірнула на белы сынаў гарнітур і аблілася слязьмі, а Волька радасна і бесклапотна засмяялася. Яна кінулася да Ігнася, ледзь не збіла з ног і павісла на шыі. Яна ўзялася за гузік яго белага халата і зірнула ў твар вялікімі сінімі вачамі.

— Ты, Ігнаська, як белы поп,— засмяялася яна.— Непрыгожы ты стаў: нос востры, як ножык...— Яна пацалавала яго ў твар, у шыю, у галаву і зашчабятала, як ластаўка, без адпачынку.

— А я к Сідаравай Лідзе гуляць хаджу, у яе лялька ёсць вялікая-вялікая... А мне тата буквар купіў, толькі я не ўмею чытаць... Ты, Ігнаська, дадому едзь, у нас цяпер мяса ёсць! Тата цялушачку зарэзаў... І так мне шкада яе, так шкада...

Ігнасю і смешна і радасна: гэты дзіцячы шчэбет напомніў яму родны дом, родную вёску, ціхае вясковае жыццё.

— Ой, як я без цябе сумавала, Ігнаська... А ці хутка ты прыедзеш дамоў? — пыталася сястрыца.

— Тады, Волька, як навучуся добра хадзіць.

— А хіба ты забыўся? — дзівілася яна, і васільковыя яе вочы свяціліся сумам.

— А ведаеш, што мы табе прывезлі? — патаемна запытала яна.— Не кажыце, мама, што прывезлі яму боты!

І, зразумеўшы сваю памылку, яна доўга смяялася разам з Ігнасем і маці. Потым пабегла да дзвярэй і дастала з меха жоўтыя, ледзь не чырвоныя, боты.

— Цялушку зарэзалі,— растлумачыла маці.— Перадок і скуру прадалі, боты табе справілі.

— А мне тата чаравічак не купіў, кажа, што грошай не хапіла.

Маці моўчкі сядзела, слухала шчэбет дачкі і не спускала вачэй з сына. У гэтых вачах столькі цеплыні і ласкі, што словы былі б лішнія.

А Ігнасю весела. Весела, што ўбачыў маці і сястру,

што на дварэ зіма і што хутка ён будзе здаровы. І ў яго ёсць новыя боты! Вось цяпер ён скіне бацькоўскія атопкі і надзене першы раз у жыцці новыя, зусім новыя боты, шытыя не каму-небудзь, а яму! Мусіць, бацька не хацеў, каб сын быў горшы сярод людзей.

— А дзе наш бацька? Так позна, а яго няма,— сказала маці.

— А хіба вы з таткам прыехалі?

— Не, мы прыехалі адны, а ён з мужчынамі Патапчыка прывёў у мястэчка.

— Як гэта прывёў?

— Злавіў і прывёў. У бандзе быў Патапчык.

Гэтая навіна ўразіла Ігнася. Што Патапчык бандыт — не дзіва, але што бацька злавіў гэтага бандыта, гэта дзіва. Значыць, і ён змагаўся з бандытамі.

Ад усхваляванасці Ігнась прылёг на ложак.

— А цяпер і ў Загаллі дзяцей вучаць па хатах.

— А хто?

— Нейкі дырэктар.

— І Мікіта Кругленя вучыцца?

— Вучыцца. І Герасіменяў Грышка. Уся дзятва ходзіць.

Цяпер Ігнасю захацелася дамоў. Успомніў усіх таварышаў, усе гульні, усе прыгоды. Нібы ўчора ўсё было. Кругленя Мікіта! Лепшы Ігнасёў таварыш. Ці хоць раз успомніў яго Ігнась да сённяшняга дня. Можа, забыў зусім? Не, але іншае напаўняла галаву і душу, больш значнае, чым вясковыя гульні.

Бацька прыйшоў пад вечар. Выгляд у яго быў надзвычай бадзёры і, як здалося Ігнасю, ганарлівы. Ён вышэй трымаў галаву, постаць яго распрасталася, паходка стала паважнай.

— Ну, здароў, Ігнась!

Ён, як дарослаcard, пацінуў сыну руку. Ігнась зірнуў на яго і засаромеўся.

— Хутка выпішашся з бальніцы?

— Хутка, тата.

— А ён жа, Ігнаська, да ўчарашняга дня не сказаў мне, што ты хворы,— паскардзілася матка.— Пакуль Патапчыка не злавіў, маўчаў. Ах, злыдзень, злыдзень.

— Ну, дык што ж! Ты ж бы не дала мне жыцця... А цяпер — глядзі: жывы! Нават падрос! А Патапчыка мы злавілі, мой сын! Помніш, як я цябе ў мястэчка пры-

вёз? Ён тады галоўнага бандыта ад Голанда забраў. Цяпер мы іх зноў у адно месца збіраем.

Ён прысеў на ложак і пасядзеў хвіліну. Ігнась агледаў бацьку і маўчаў. «Нават вочы яго змяніліся,— думаў ён,— нейкая рашучасць з'явілася ў іх».

— Папраўляйся, сын, ды за навуку. Усе мы вучымся на свеце жыць. Час такі прыйшоў. Ну, старая, паедзем... Дома ў нас Сідарыха за гаспадыню засталася,— растлумачыў ён Ігнасю. А я яшчэ буду тут на гэтых днях, зерне павязем у Слуцк.

Ігнась правёў да дзвярэй сваіх родных, і яго агарнуў жаль. Сеў бы ў сані і паехаў, хоць на хвіліну, хоць адным вокам зірнуць на родную вёску.

Пачало цямнець. Зноў зарыпалі тратуары.

Ігнась прымераў свае новыя боты: вялікаватыя, на падрост пашытыя... Ну што ж, на зіму і добра.

Цэлую ноч сніў Загалле і раніцай пашкадаваў, што так хутка прачнуўся.

Настаў снежань, прынёс сонечныя празрыстыя дні, зорныя марозныя ночы.

У акно закрадалася сіняе світанне. Ігнась абуваўся, закручваючы на ногі ўсе анучы, якія прывезлі з дому... Боты былі зусім вялікія.

Усе спалі, акрамя дзяжурнай сястры. Яна з усмешкай пaглядала на Ігнася.

— Ты пойдзеш, Ігнась?

— Абавязкова,— адказаў ён і апрануў кажух.

— Доктар казаў, каб без снедання не пускалі.

— Не хачу. Прыеўся мне ваш кісель ды чай.

На дварэ сінь. Паветра, снег, неба — усё заліта сінню. А на ўсходзе — чырвань. Неўзабаве выкаціцца халоднае зімняе сонца, пырсне залатым святлом і прападзе сінь. Мароз памацнее і палезе за каўнер кажуха...

Ігнась выйшаў з бальніцы і паволі спусціўся па прыступках з ганка.

Чубатыя дымы з каміноў узвіліся над мястэчкам кашлатым фантастычным лесам. Рыпалі вароты, калодзежы.

Свежы халодны вецер уварваўся ў Ігнасёвы грудзі. Ён не паспяваў выдыхаць яго. Хацелася ісці хутчэй, але млелі ногі.

Гандляр Мармур Бэня адамкнуў краму. У левай руцэ

ён трымаў каробку з мукой, у правай ключ. «Дзівак, ён, мабыць, не ведае, што я іду з бальніцы і мне надта весела». Ігнасю нават хацелася сказаць Бэню пра гэта, але той злосна і падазрона зірнуў на Ігнася.

Ігнась павярнуў на Надрэчную вуліцу. На ёй усё як і было раней: дашчаныя плоцікі, заскарузлыя дрэвы на агародах... і звычайная цішыня.

З Алтаравага дома смачна пахла гусіным салам і смажанаю бульбаю. Ігнасю вельмі хацелася есці. Толькі не кісялю з журавін. І не чаю. Хлеба з бульбай і кашы!

Ігнась узлез па прыступках на ганак. Іх толькі пяць, а як замарыўся. На ганку ён адпачыў і зайшоў у хату.

— А ты ўжо прыйшоў! — кінуўся да яго Лявон і абняў.— А я толькі збіраўся ісці па цябе. Бачыш, ужо адну нагу абуў. Ты, як відаць, не дачакаўся да тэрміну, не вытрымаў і ўцёк.

— Не ўцёк, а проста сабраўся і пайшоў. Тэрмін быў пасля снедання.

Прыход Ігнася разварушыў усіх: прачнуўся Колька і Пятрусь, Антось Белка. Хлопцы радасна віталі Ігнася. Нават Абрам заскочыў на хвіліну.

— Ну, з'явіўся! Здароў, Ігнась! Ідзі з'еш, там маці падрыхтавала табе.

— Дай жа мне распрануцца, Абрам. Я яшчэ не мыўся.

— Ідзі, ідзі, там і памыешся.

Коля надзеў кашулю і пачаў расказваць школьныя навіны.

— Потым, потым, Коля,— папярэдзіў яго Лявон,— ідзі, Ігнась, снедай.

Лея паставіла на стол і смажаную на гусіным сале бульбу, і міску поліўкі з мясам, і кубак кавы. Ігнась вырашыў з'есці ўсё, але не з'еў і паловы. Аднак, каву ўсё-такі выпіў. Выпіў і падумаў: «Глупства гэтая кава, жалудамі здорава пахне». А яна і была з жалудоў.

59

Алтар сагнуўся і схуднеў. Аброс барадою, і ў ёй значна прыбавілася сівых валасоў. Скажыце, добрыя людзі, ці не хопіць на аднаго чалавека аднаго няшчасця? Ну, двух? Хопіць! Два нават залішне... Але калі іх звaліцца сто два, што тады рабіць?!

Алтар нічога не думае пра ўладу. Няхай ёй бог дасць здароўе, яна ведае, што робіць. Вось і ў хаце вялікае начальства — следчы чэка Ружанін. Добры чалавек... Усё маўчыць... Але, дзякуй богу, пры ім маўчаць Лейка і Сіма. Цішэй стала ў хаце... Алтар падышоў да дзвярэй пакоя следчага і зазірнуў у шчылінку: «Няма...» Алтар апусціў галаву. Хацелася, каб у гэты час Ружанін быў. Сто два няшчасці... Ці даўно давалі Алтару заданне здаць у Памгол збожжа? Не, на мінулым тыдні. Ці Алтар брыкаўся, ці ён крычаў? Не, ён здаў збожжа, і адкасцецеся вы ад мяне. Але ці яны адкаснуліся? Сёння ў краму прыйшла камісія. А хто ў камісіі? Родны сын... родны сын... І яны палезлі ў задпюю палавіну...

— Вы, Сапун, гандлюеце не па патэнту.

Хто гэта сказаў? Сын гэтага не сказаў. Гэта сказаў нейкі прахвост з выканкома. А сын кажа: «Пішы. Прыйдзецца павялічыць плату за патэнт і даць новае заданне на збожжа ў Памгол». І запісалі. А каб не запісалі, то хіба яны забудуць! Не. Добра, што Лейкі не было. А каб была! Яна б завыла, залямантавала, вылаяла б увесь свет, а потым усю віну ўспёрла б на Алтара, зґрызла б яго, як сабака костку.

А яны пайшлі па ўсіх крамах. І ўсюды яны лазілі ў заднія палавіны. І ўсім павялічылі плату за патэнт і далі новае заданне на збожжа... А цяпер людзі тыкаюць пальцамі на Алтара: «От сынка выгадаваў Сапун!»

І цяпер трэба расказаць пра ўсё Лейцы... Яна ляжыць, хварэе, ці дурэе, ліха яе ведае, але паспрабуй ёй сказаць! Яна адразу ўстане і ўздыме вэрхал на ўсю хату... І Ружаніна дома няма...

Але ж ці гэта ўсё!

Пад вечар у лаўку прыбягае млынар Ісроэл... Прыбег, засопся, бурчыць... А калі пачаў гаварыць, то можна было падумаць, што ён хутка ротам страляць пачне.

— Пане Алтар, м-м-м. Сёння ў млын прыйшла камісія, м-м-м, а ў той камісіі твой Довід, і, м-м-м, твой Довід кажа: «А Грэйнім на сваю частку атрымаў заданне?» Я кажу, што млын цэлы, і ён адзін (цяпер Ісроэл і мыкаць пакінуў) і што збожжа мы здалі за цэлы млын. Але яны ўсё роўна далі заданне і на Грэйнімаву частку. І цяпер, пане Алтар, мой млын ужо не адзін, а з чацвёртаю часткаю... І гэта ўсё, м-м-м, праз твайго Довіда.

І пра гэта трэба расказаць Леі... А Ісроэлеў Моў-

ша — Сімін жаніх. І Лейка адразу ачуняе і пачне лаяць Алтара...

Вось і гадуй сыноў... Нават самы малодшы нос убок адверне і з бацькам гаварыць не хоча. Датуль яны добрыя, пакуль твой хлеб ядуць, на тваёй шыі сядзяць, а як узрастуць, дык і напаскудзяць бацьку поўную шапку... А дачка дурнее — замуж хоча, а жонка дурнее... ліха яе ведае, чаго яна дурнее... А ты, Алтар, за ўсіх вінаваты. Алтар стаў ля сцяны, паглядзеў на яе, нічога не думаючы, але тут жа і падумаў, што ён і сапраўды здурнеў і робіць немаведама што. Хіба на сцяне нешта напісана! Потым ён зірнуў на столь, але і там нічога не было напісана. А не дрэнна было б, каб хто напісаў на сцяне ці на столі, што гаварыць з Лейкай. Аднак Ружаніна няма, і, можа, ён прыйдзе пад поўнач. Алтар рашуча пайшоў у спальню да жонкі. Яна не спала і даўно прыслухоўвалася, што гэта там мармыча «панчоха» і чаго ён так рана прыйшоў з крамы. Яе так і цягнула ўстаць ды ўзяць яго на цыгундар, але не хацелася паказвацца здаровай. А вось ён і сам прыйшоў. Паслухаем, што ён скажа.

— Лея... Нам прыбавілі патэнт і далі новае заданне на збожжа ў Памгол.

— Што? — Лея адразу села.

— Я кажу, што патэнт і збожжа прыбавілі ўсім, усім...

— Хто прыбавіў?

— Валаснное начальства... Камісія...

Лея схапілася рукамі за валасы і пачала стагнаць. Алтар пастаяў і памаўчаў. І калі Лея крыху супакоілася, дадаў:

— І на Грэйнімаву частку млына таксама прыбавілі збожжа ў Памгол. У мяне быў Ісроэл, ён хоча, каб за гэтую частку плаціў я.

— Ну і што? — закрычала Лейка.

— Нічога, Лейка, нічога... Я сказаў, што падумаю... А ў той камісіі быў наш Довід,— Алтар уздыхнуў, бо сказаў самае галоўнае. Лея ўскочыла з ложка. Дзе толькі дзявалася яе хвароба! Яна пачала крычаць. Яна сказала, што Алтар дурань, панчоха, лапаць, свіння, гультай і ануча...

Але ў гэты час грукнулі дзверы — у хату нехта зайшоў.

— Т-о-о-о,— сказаў Алтар,— гэта Ружанін.

І Лея адразу сціхла, пачала шукаць грабянец, бо валасы яе так раскудлаціліся, што яна была падобна на страшыдла.

Алтар выскачыў са спальні, каб стрэць Ружаніна, але ў хаце стаяў Алесь Марыніч з Загалля.

— Добры вечар, Алтар.

— Добры вечар, Алесь... Няхай дасць бог, каб ён быў добры.

— А чаму, Алтар?

— Цяпер такі час, Алесь, што не ведаеш, што прыйдзе. Чакаеш добрага, а прыйдзе дрэннае.

— Усяк бывае, Алтар. Я хачу пераначаваць у цябе ноч, калі пусціш.

— Начуй, што ты! Хіба ў хаце цесна. А каня ты распрог?

— Распрог. Хамут кінуў у сенцах.

— Няхай ляжыць. Ніхто яго там не возьме. Садзіся, Алесь, ды адпачывай.

— А дзе Ігнась?

— Дзе Ігнась? Гэтага я не скажу. У мяне чатыры сыны, але запытайся ў мяне, дзе яны ходзяць, то я не ведаю... Дзе твой Ігнась? Мо дзе ў камісіі ходзіць.

— Што ты сказаў?

— Эт! сказаў так сабе... А ты распранайся, Алесь.

Лейка зірнула са спальні, прывіталася і зноў схавалася. «Лягла»,— падумаў Алтар.

— А ты куды едзеш, Алесь?

— У мястэчка прыехаў. А заўтра зерне павязём у Слуцк.

— Ага! І табе загадалі везці.

— Не толькі мне, усёй вёсцы. На Паваложжы голад быў, збожжа там патрэбна і на яду і на насенне. Вясной мужыку без насення хоць ваўком завый.

— Ну, але, гэта праўда, Алесь, гэта праўда. А плацяць па казённай цане?

— Казалі па казённай.

— Ну, як жывецца, Алесь?

— Памаленьку. Неяк ясней на свеце стала. Палёгкі вялікае няма, але нашто грашыць! Запалкі ёсць, соль, газа. Кавалёў прыязджаў да нас, растлумачваў: яшчэ лепш будзе. У нас у Ярэмічах пры сельсавеце каапэратыў адкрываюць. Чаму не палёгка! І за дваццаць вёрст ехаць не трэба і танней у каапэратыве.

— У кааператыў, Алесь, трэба пай класці! А ў Алтара ты без паю купляеш. Ды яшчэ па знаёмству табе Алтар паўфунта спусціць.

— Ну, што ж пай! Паложыш пай адзін раз, а не кожны раз. А Алтар паўфунта спусціць, а фунт прыбавіць. Дык і выходзіць, што яму кожны раз пай кладзеш.

— А-я-яй! Алтару дык, па-твойму, трэба задушыцца або ў палонку ўкінуцца. Многа ты ў Алтара купляў, многа ты яму паю наўкладаў. Ай, Алесь, Алесь...

— Ты што ж, пакрыўдзіўся на мяне, Алтар, за праўду! Таму мала купляў Марыніч, што не меў за што купляць. Але ж не ад патапчыкаў ты жыў, бо патапчыкаў не так многа, а марынічаў поўная воласць.

— А ты не хацеў бы мець такога багацця, якое было ў Патапчыка? — Алтар хітра ўсміхнуўся.

— Не. Мне Патапчыкава багацце не трэба.

— Не Патапчыкава, а сваё такое, як у Патапчыка.

— А хіба ў Патапчыка было сваё? Што Патапчык сам рабіў? Загальскія лапці на яго рабілі, Калачык ды і Марыніч. Зямлі, не скажу, малавата і ў мяне, магу апрацаваць больш. Даў бы прыбытак і дзяржаве і сам бы крыху разагнуўся. Не бегаў бы па заробках, высалапіўшы язык.

«Глядзі ты,— падумаў Алтар,— загальскі Марыніч пра дзяржаву думае! Пачакай жа».

— Слухай, Алесь. А каб табе даць больш зямлі, ты б і скаціны захацеў больш, а потым бы малатарню купіў, жняярку. Людзей бы наймаў, і праз тры гады — Патапчык! Куды там Патапчык! Ты б апярэдзіў яго.

— А вось і няпраўда, Алтар! Каня я купіў бы і лішнюю карову ды свінню выгадаваў, бо гной трэба і грошы. І рабіў бы я лягчэй: араў бы і баранаваў на парцы коней. Замест адрынкі паставіў бы гуменца. Сын бы меў свае кніжкі. У хаце паліў бы лямпу, пашыў бы святочную вопратку і абутак, каб было ў чым у людзі выйсці, і смялей бы з'еў дроб сала. А малатарня або жняярка для аднаго селяніна нявыгадная рэч, бо ў яго няма чаго жаць ды малаціць імі. А гуртам купіць малатарню, на гаспадарак дзесяць, выгадна. Гутарылі нашы сяляне аб гэтым. У сельсавеце сказалі, што калі адчыняць кааператыў, то і малатарні будуць... А на пай можна сабраць капейку, затое і сам удзельнік у той краме будзеш.

— Ого-го! — Алтар пачаў рагатаць.— Пабачым, як

мужыкі гандляваць будуць! Пабачым! — ён адкінуў назад галаву і аж завойкаў ад смеху.— Мо цябе яшчэ ў краму пасадзяць: гандлюй, Алесь! — потым ён пакінуў смяяцца і пачаў злосна гаварыць: — Мужык думае: а што там гандаль! Прывёз тавар, сеў у краме і прадавай. Грошы кладзі ў кішэню і зноў купляй тавар, вось і ўсё. Не з мужыцкаю галавою за гандаль брацца.

— Ты думаеш, што калі мужык, дык толькі і ўмее гной вазіць або араць. А больш яму і думаць няма пра што... А гаспадарку весці, дык, па-твойму, і галавы не трэба мець, аднымі рукамі ўправішся. Паспрабуй! Мужык сваім фунтам усе дзіркі затыкае, а дзірак тых, што ў рэшаце.

У спальні пачуўся кашаль Лейкі. «Яна не спіць, яна ўсё чуе...» — падумаў Алтар, і настрой яго адразу сапсаваўся.

— Распранайся, Алесь... А то мы з табою адразу гыркацца пачалі, нібы спадчыну дзелім... Усім цяпер нялёгка: і селяніну і гандляру. У цябе дзірак, як у рэшаце, а ў мяне, як у сіце. Кругом дзіркі, дзіркі, дзіркі...— ён узяўся за галаву.— Я нават думаю, што ў галаве ў мяне дзірка...

Алесь выйшаў на двор, каб паглядзець каня, і стрэў на ганку Ігнася і Лявона.

Прывітаўшыся, Алесь запытаў у сына:

— Дзе ты быў? І калі ж ты ўрокі вучыш?

— А я, тата, урокі і вучыў. Мы ўтраіх вучым, бо сваіх кніжак няма.

— Ага...— Алесь падсунуў Гнядому сена і меркаваў, купляць сыну падручнікі ў Слуцку ці не. Падручнікі купіш, на восі не хопіць. Вырашыў не купляць. Сам не просіць, то значыць можа абысціся.

— Ну, хадзем, павячэраем, хлопцы,— прапанаваў Алесь, распрогшы каня, і ўсе трое пайшлі ў хату.

## 60

Пасля смерці Тараса Ігнатавіча Гурына часова выконваць абавязкі загадчыка школы пачаў Хвядос Іванавіч Дубоўскі.

Ужо ў першыя дні ён убачыў, што гэтая праца адбірае ўвесь той час, які ён аддаваў раней заняткам з гурткамі і вучнёўскай самадзейнасці.

Ён цярпліва чакаў, калі з павета прыедзе сталы загадчык, які возьме ў свае рукі кіраўніцтва школай, усе гаспадарчыя клопаты, але не дачакаўся: загадчыкам сямігодкі павет назначыў яго. Дубоўскі захваляваўся. Гаспадарка школы была такая бедная, што не было да чаго прыкласці рук: ні бібліятэкі, ні падручнікаў. Крэйды і тае няма...

А самае галоўнае — паліва ў школе канчалася.

Зіма стаяла снежная: снег валіў штодзень, а тым часам набліжаліся канікулы. Дубоўскі задумаўся над гэтым. Чакаць канікулаў, каб нарыхтаваць дроў, было нявыгадна, занадта многа будзе ў лесе снегу. Акрамя таго, не хапала сродкаў.

У часе вялікага перапынку, праходзячы па школьным двары, ён убачыў, што Саротнік Даніла і Богуш Лявон за хлеўчуком пілуюць дровы. «Як зладжана ідзе ў іх работа»,— усміхнуўшыся, падумаў Хвядос Іванавіч. Ён некалькі хвілін стаяў і любаваўся хлопцамі. І тут у яго з'явілася цікавая думка. З ёю ён і пайшоў у выканком.

У гэты дзень і Буткевіч і Кавалёў былі дома.

Зайшоўшы ў кабінет да старшыні, Дубоўскі застаў там і Кавалёва. Той стаяў ля сцяны і ўважліва разглядаў карту воласці.

Буткевіч, як і звычайна, сядзеў за сталом, крыху прыгнуўшыся, з акулярамі на самым кончыку носа і нешта чытаў.

— Што табе, Хвядос? — разагнуўшыся, запытаў ён.

— Дровы,— коратка адказаў Дубоўскі.

— Дровы, дровы і дровы...— задуменна сказаў старшыня.— Мне цяпер на лес няма ахвоты глядзець... Абы гляну — дровы ўспомню. Хіба ў цябе ўжо зусім няма?

— Канчаюцца.

— Кавалёў адышоў ад карты.

— Гэтую праблему мы павінны вырашыць, Сцяпан,— сказаў ён.— Ад самай восені дровы ў нас, як кажуць, самае вузкае месца.

— Вырашыць! Каб я гэта мог зрабіць, махнуўшы рукою, то, безумоўна, гэтага вузкага месца ў нас ужо не было б... Хіба толькі школа! А іншыя ўстановы! Сёння ў мяне Рагачэўскі быў, проста за горла бярэ. Прыеду, кажа, забяру ўсе дровы з выканкома. Кажу — прыязджай, тут іх таксама кот наплакаў.

— Грошай няма?

— Адкуль, Сяргей! Каса фінаддзела пустая...

— Выслухайце, таварышы, спачатку мяне,— сказаў Дубоўскі.— Вы нам дзялянку адвядзіце, вам праз лясніцтва гэта зрабіць лягчэй, а дровы мы нарыхтуем самі. Я ўздыму на гэтую справу ўсю другую ступень. Вось у нядзелю і ўздыму. Я ўпэўнены, што ўсе пойдуць. Толькі вывазка, гэта цяжэй.

— Нічога, таварыш Дубоўскі. Вы мне падказалі адну думку. Вывезці дапаможам мы. Ды, нарэшце, і нарыхтаваць дапаможам. Мабілізуем камуністаў, камсамол. Так, Сцяпан?

— Згодзен.

— Гэтую праблему мы вырашым да будучага года не толькі па школе, але і па ўсіх установах. Толькі майце на ўвазе, таварыш Дубоўскі, у часе канікулаў вы дапаможаце нам. Выберам найгоршы сельсавет і аддадзім вам: навядзіце там бальшавіцкі парадак.

— З радасцю, таварыш Кавалёў, толькі чаму ж найгоршы!

— Без агаворак, таварыш Дубоўскі. А цяпер падыдзіце сюды. Вам добра вядома валасць? — ён падвёў загадчыка да карты і, акрэсліўшы алоўкам нейкую мясцовасць, запытаў: — Ці нельга даць рады вось гэтым балотам?

Хвядос Іванавіч працёр пенснэ і прыгледзеўся.

— Ага! Ды гэта ж Ёдкава балота! Тут, наколькі мне вядома, пласт торфу ад двух да чатырох метраў. Пачакайце, я, здаецца, пра гэтую справу нешта чуў.— Ён пацёр скроні і прысеў на крэсла.

— Ну, вядома, мне Тарас Ігнатавіч расказваў, што сам пан Рэгель хацеў яго асушыць, толькі нешта яму замінала... Што, хіба вы думаеце...

— Ён думае! Ён усё думае,— падхапіў Буткевіч.— Ён думае гуту будаваць, чыгунку пракласці, Рэлегеўшчыну асушыць, і яшчэ чорт яго ведае, што ён думае... А забяспечыць дрывамі ўстановы ў нас сродкаў няма, нядзельнікі арганізоўваем.

— Пачакай, Сцяпан... Разважце нас, таварыш Дубоўскі. Мы са старшынёю яшчэ не біліся, але надзея на гэта ёсць, бо ён не разумее самых простых рэчаў. У нас ёсць дзесяткі сем'яў бежанцаў, якія так-сяк кормяцца ад смалярні і дзягцярні. Кормяцца часова, бо гэта не такія вялікія прадпрыемствы, каб даць ім сталы заробак. Мес-

тачковае сялянства ў большасці малазямельнае, ды якая тут зямля! Цяпер улічыце, колькі ў мястэчку саматужнікаў. У іх не хапае работы. Што ж адсюль вынікае? А вось што: трэба арганізаваць арцель па асушцы балота. Гэта ж багацце! На месцы балота будзе ворная зямля. І людзі на гэта пойдуць. Ёсць на Крапівінскай вуліцы селянін Мікалай Ломаць. Ён і падказаў мне такую думку... Нялёгка будзе. Але ж улічыце, што першыя асушаныя дзесяціны мы будзем апрацоўваць калектыўна. Ці ж гэта не крок да сацыялізма! А торф! Тут можна думаць і аб электрычнай станцыі. Як думаеце, Хвядос Іванавіч?

Дубоўскі адказаў не адразу. Ён глядзеў на бліскучыя вочы Кавалёва і думаў, што ў словах яго нейк дзіўна сплятаюцца і мара, і сапраўднае жыццё.

— Не ведаю, таварыш Кавалёў...— няўпэўнена сказаў ён.

— На пачытай, што пішуць з павятовага выканкома,— злосна азваўся Буткевіч.— «Першачарговая задача — умацаванне савецкай улады на месцах». Першачарговая! — з націскам паўтарыў ён.— А намі яшчэ мала зроблена ў гэтым напрамку... А хіба не тое самае пішуць табе з Укома, Сяргей? А рэшта бандытаў, якія ўцякалі з-пад граніцы? Табе ж вядома, што яны дзейнічаюць, хоць і не так смела, як раней.

— Вядома,— нахмурыўшыся, прамовіў Кавалёў.— Вядома, Сцяпан... Руткоўскі паведаміў: учора абрабавалі аднаго селяніна з Тычынскіх хутароў. Сляды вядуць у Ярэміцкі сельсавет. Быў у мяне Антось Галамака. Кажа, што некаторыя сяляне бачылі бандытаў у лясах.

— Вось бачыш! У першую чаргу трэба зусім знішчыць бандытаў. Вылавіць іх і пакараць. Даць дапамогу Руткоўскаму, няхай дзейнічае. Людзі чакаюць ад нас рашучых мер, а ты балоты асушваць сабраўся.

— Дык ты думаеш выконваць дырэктывы па пунктах: спачатку адзін, потым другі, трэці. Памыляешся, Сцяпан. На тое мы і камуністы, каб ісці наперад адзіным фронтам. І рэшту банды ліквідуем, гэта цяпер лягчэй, і арцеллю будзем займацца.

Ён памаўчаў некалькі хвілін, і мужны твар яго асвяціўся ціхай радасцю.

— Праз некаторы час, таварыш Дубоўскі, у вашу школу прыйдзе новы вучань — мой сын. Да мяне едзе сям'я.

— Сям'я! — Буткевіч ускочыў і ледзь не сціснуў кулакі.—З табою не лаяцца, а біцца трэба, летуценнік ты... Чаму ж ты раней мне пра гэта не сказаў, га? — Ён вылез з-за стала і падышоў да Кавалёва.— Электрычныя станцыі ды заводы будуеш! А куды сям'ю пасадзіш? У тую каморку, дзе сам жывеш?

— Чаго ты ўз'еўся на мяне, Сцяпан?

— Вядома, уз'еўся! Колькі ў цябе чалавек?

— Са мною будзе пяць.

— Вось бачыш! Зірні на яго, Хвядос! Яму ж патрэбна сапраўдная кватэра, а не пакоік, а ён маўчаў. Ну, што мне з табою рабіць!

Абурэнне старшыні выканкома было такое шчырае, што Дубоўскі мімаволі ўсміхнуўся. Ён з цікавасцю наглядаў за гэтымі двума чалавекамі — шчырымі сябрамі ў жыцці, якія заўсёды спрачаліся, але не маглі б і жыць, каб не сустрэцца кожны дзень.

— Гэтай праблемы ты, таварыш старшыня, без мяне не вырашыш,— зазначыў Дубоўскі.

— А як ты мне дапаможаш?

— Вельмі проста. Вазьму таварыша Кавалёва на сваю кватэру.

— А сам?

— Дык я ж адзін. Два пакоі аддам Сяргею Міхайлавічу, адзін пакіну сабе, а кухня будзе агульная.

— Ну, дзякую табе, Хвядос! — уздыхнуўшы з палёгкай, сказаў Буткевіч.

— Гэта я павінен сказаць дзякуй Хвядосу Іванавічу, Сцяпан...

— Ага! Нарэшце-такі здагадаўся.

Буткевіч з дакорам зірнуў на Кавалёва.

## 61

Загалле — невялікая палеская вёска з трох дзесяткаў хат. Сядзібы тут вузкія, хаты маленькія, большасцю трохаконныя, з землянымі падлогамі. Імшарнікі, тарфяныя балоты, лясы і лагі абкружаюць яе.

Калі Ігнась прыйшоў на канікулы дамоў, вяскоўцы дзейна рыхтаваліся да каляд. Жанкі бялілі хаты, вешалі на абразы новыя ручнікі. Мужчыны ездзілі ў млын, маholі солад, куплялі дрожджы, ладзілі самагонныя апа-

раты. На вуліцы стаяў пах ад смаленых парсюкоў, парсючкоў і парасят. Здабытае месяцамі цяжкай працы, постам, недаяданнем вёска рыхтавалася з'есці і прапіць на працягу некалькі дзён.

Перад калядамі Алесь выцягнуў за вушы з катуха падгладжанага парсючка і закалоў.

— Сала наша, Ігнась, худаватае. Каб да вялікадня пакарміць, то пудоў сем-восем важыў бы,— сказаў ён, заганяючы ў ранку ад швайкі завостраную палачку.

— Збегай, Ігнась, у адрыну, прынясі саломы, смаліць будзем.

Кабана палажылі на двары, абклалі яго саломай, і бацька са здавальненнем запаліў запалку. Сіні трывожны агеньчык спачатку знік, потым нечакана з'явіўся і бадзёра пабег па саломе.

— Ванючкі чортавыя, а не запалкі,— вылаяўся Алесь,— што за дурань такія прыдумаў? — Ён пакруціў салому, каб лепш гарэла.

З хаты выбегла Волька пастаяць ля агню. Яна здзівілася, чаму кабанчыку ў рот палажылі камень, навошта палачку загналі ў грудзі і для чаго яго абсмальваюць.

— У яго шчаціна доўгая. Хіба ты сала са шчацінай ела б?

— Але ж, доўгая! — дадаў Алесь.— Ну і дурань я... Ай-яй, якая ж я дурніца безгаловая...

Ігнась не зразумеў, у чым справа.

— Стары, а горш малога дзіцяці... Волька, пайшла дахаты! — крыкнуў ён,— нечага тут пад рукі лезці ды замінаць.

— Чаго вы, тата? — здзівіўся Ігнась.

— Ідзі ты к чортавай матары!.. Шчаціну забыў вырваць! На хрыбце ж на пядзю была, кавалак мыла ўзяў бы ад Шмойлы. Не дапамога ад вас, а толькі безгалоўе.

Ён агледзеў ужо абсмаленага парсючка.

— Зусім няма... Ах ты!..

Волька прыціхла. Яна са страхам і здзіўленнем зірнула на бацьку і сказала:

— А кабанчыку не баліць?

Ігнась засмяяўся. Алесь злосна зірнуў на дзяцей і сам ухмыльнуўся.

Па вуліцы ішоў Сцяпан Калачык. Ён спыніўся і нібы запытаў, нібы так заўважыў:

— Кажаш, к калядам! Добрая справа. То той, то другі ды глядзі па кабанчыку і заціснулі. А Сцяпан і піліпаўку пасціў, і мясаед пасці...
— Які гэта кабан! Каб да вялікадня пакарміў, то было б сала...
— То ж бо то. Сала нам не есці. Абы скварка была закрасіць. От Патапчыха абваліла пудоў на дзесяць.
Алесь скрывіўся і махнуў рукою.
— Пачакай, браце! Чорны дзень яе ўжо прыйшоў. Няхай хоць сала пажарэ на астатку. Мне Антось Галамака казаў, што абрэзку зямлі зробяць у яе на вясну.
— І даўно трэба! І сваёй па горла меў, і панскай нахапаў. І ўсё гэты Ткачэня вінават, што старшынёю быў... Слухай, Алесь, як жа з Патапчыка плату ўзяць за працу сваю. Усяк я думаю: ну, няхай сам у турме, але ж гаспадарка яго цэлая! А колькі я папрацаваў на яго.
— І мне ён не плаціў, але я рукою махнуў. Нажраўся ён ужо. Неяк, як быццам, брыдка, ці ліха яго ведае... А як падумаю з другога боку: за што ж я яму рабіў? У мяне ўжо і калёсы адслужылі, і жарабё купіць трэба.
— Тата! Чаго ж брыдка свой заробак патрабаваць! За гэта і ўлада заступіцца!
— Не ўтыкайся, калі дарослыя гавораць! — узлаваўся Алесь.
— А чаму? Ён жа праўду кажа! Цяпер да малодшых прыслухоўвацца трэба, Алесь. Яны лепш ведаюць. А Ігнась твой, сам жа ведаеш, ён вучоны.
— Я вам, дзядзька, заяву на Патапчыка напішу ў суд. Суд спагоніць з Патапчыка за вашу працу.
— Сціхні, бо па зубах дам, не пагляджу, што ты вучоны.
— Не лайся, Алесь. Далібог, ён праўду кажа.
— Няхай сабе і праўду, але я не люблю, каб яйкі курыцу вучылі, такіх упраўных не люблю, што ўтыкаюцца ўсюды.
— Я ж не ўтыкаюся, тата. А вы колькі на Патапчыка рабілі, а мама! А колькі ён вам заплаціў?
— Я рабіў ды маці, а не ты,— сказаў Алесь.
— А я цябе, нябож, папрашу,— сказаў Сцяпан,— папрашу цябе напісаць такую заяву. Не мала я падараваў яму, няхай хоць за год заплаціць.
— Добра, дзядзька, я напішу.
— А ты не сярдуй, Алесь.

— Я не сярдую. Ідзі ў хату, Ігнась, скажы, няхай маці ваду нясе.

Ігнась пайшоў. Арына наліла ў цэбрык вады і з Ігнасём прынесла да Алеся.

Кабанчыка вымылі, паскраблі касой, потым накрылі саломай і толькі тады, як дарагога і доўгачаканага госця, панеслі ў хату. Палажылі яго на стале. Алесь закасаў рукавы і пачаў свежаваць. К вечару ўсё было гатова.

Арына паклала ў міску кавалак сала, кавалак мяса і лычка кілбасы. Накрыла ўсё ручніком.

— Занясі, Ігнаська, Сцяпанісе. Не закалоў Сцяпан да калядд.

— Каго ён заколе! — панура адказаў Алесь.

Вечарам, калі клаліся спаць, Алесь зірнуў на Ігнася.

— Ты слухай, хлопец... Заяўку напішы не толькі ад Сцяпана, а і ад мяне. Нечага дараваць злыдню.

— Добра, тата, заўтра напішу.

Да каляд заставалася два дні. Назаўтра раніцаю Алесь паехаў вазіць бярвенне Калачыку на сенцы, а Ігнась сеў пісаць заяву. Пачатак удаўся вельмі добра, а працяг не выходзіў, таму што Ігнась не ведаў, колькі часу працаваў Сцяпан у Патапчыка. Адлажыў пісаніну ў стол і ўзяўся за чытанне. Стала так сумна, што і чытаць не хацелася. Пагуляць выйсці няма куды: усе таварышы вучацца ў «дарэктара». Гэты тыдзень чарга Леўчыка Мікалая. У яго хаце і ідзе вучэнне. «Схадзіць хіба туды,— падумаў Ігнась.— А калі той «дарэктар» возьме ды выганіць». І пайшоў Ігнась да Сцяпана Калачыка, каб даведацца, колькі часу той працаваў у Патапчыка...

Прыйшлі каляды. Святкавалі іх весела, з песнямі і гоманам. На вуліцы гучаў гармонік, смех і вясёлая гутарка.

Ігнась стаяў на сваім двары каля варот. Па вуліцы ішла грамада моладзі. Раманаў Сафрон на гармоніку вытылінкваў прыпеўкі. Яму падпяваў малады і звонкі голас:

Ой, пайду я да млына  
Да дзіра-вага  
Выбіраці каваля  
Кучара-вага.

Дзяўчаты дружна падхоплівалі песню.

Ой, пайду я да млына  
Да нізень-кага  
Выбіраці каваля  
Маладзень-кага.

Уперадзе ішлі Раманаў Сафрон і Маркава Надзея. Ігнась высунуўся з двара. З'явілася жаданне ўліцца ў гурт, падхапіць напеў, заспяваць самому. Але ці можна камсамольцу з п'янымі...

Ой, донцю мая,  
Чаму цесна світа?  
Ой, мамцю мая,  
Не на мяне шыта.

Ігнась прыстаў да месца, а ногі цягнулі да моладзі.

Ой, донцю мая,  
Хто па двары ходзіць?  
Ой, мамцю мая,  
Каваль каня водзіць.

Ззаду ўсіх Герасіменя Сідар. Ён увязаўся ўслед за моладдзю і, не ведаючы, куды дзяваць сваю прыткасць, узяўся ў бакі, тупаў на адным месцы і падпяваў:

Дзе ж ты быў, дзе ж ты быў,  
Як я цябе ждала,  
Усю ноч, усю ноч  
На краю ляжала.

Моладзь параўнялася з Ігнасём. Сафрон стуліў гармонік, ён раўнуў усімі галасамі апошні раз і сціх.

— Эй, Ігнась! Не хочаш да нас? Заганарыўся, мабыць!

— Чаму не хачу? — Ігнась рашуча рвануўся ад варот. Яго абкружылі. Маркава Надзея ўзяла пад руку, з другога боку абняў сын Канцавога Марка Змітрок. Надзея заспявала, моладзь падхапіла песню. Ігнась зірнуў навокал і заспяваў сам.

Моладзь спынілася ля двара Рамана Круглені. Сафрон адвёў Ігнася ўбок.

— Табе бацька не даў выпіць?

— А я і не прасіў. Не хачу я піць.

— Чаму?

Сафрон здзівіўся. Сам ён быў добра падпіўшы. Вочы гарэлі задзірыста, з-пад шапкі выбіўся чуб рыжых кучаравых валасоў. На нагах ён стаяў так, нібы ў каленях яго былі спружыны.

— Слухай, а калі хочаш, то хадзем ка мне ў адрыну. Я дзве пляшкі ад бацькі ўкраў...

— Не хачу, Сафрон. Камсамолец я.

— Камсамо-о-олец! Ага... Ну, як хочаш.

Сафрон расцягнуў гармонік, прабег пальцамі па ўсіх галасах і зноў стуліў.

— Кажаш, камсамолец... А хіба нельга тут у нас сваю камсамольскую ячэйку арганізаваць!

— Не ведаю, Сафрон. Па-мойму, у Ярэмічах ячэйка будзе. Трэба аб гэтым пагаварыць у мястэчку.

Сафрон пастаяў і падумаў.

— Пасля свят пагутарым, Ігнась, як належыць. Тут нашы хлопцы многія пра камсамол думаюць.

— Сафрон! — гукнулі яго з гурту.— Чаму ж ты не іграеш?

— Ды дайце ж адпачыць. Ад раніцы іграю.

Дзяўчаты павялі яго ў грамаду. Ён жартам упіраўся, але праз хвіліну зноў зайграў гармонік, а за ім палілася песня.

Ігнась стаяў і рос ад радасці, як на дражджах. Там у мястэчку яго яшчэ і дасюль лічаць падлеткам. Так яно ў сутнасці і ёсць... А тут, у вёсцы, хлопцы, старэйшыя за яго на чатыры-пяць год, гутараць, як з дарослым. А ці даўно і тут ён быў яшчэ малы! Зусім нядаўна! Яшчэ ўвосень ці паклікаў бы яго ў гурт моладзі гэты самы Сафрон. Ну, а Надзея не стала б і гутарыць. Што ж на гэта ўплыло? Вядома, школа.

Уся моладзь увалілася ў Сідараву хату. Пачалася вечарынка...

Ігнась дамоў прыйшоў позна, але яшчэ ніхто не спаў. Бацька сядзеў на лаве п'яны, як шавец, і тлумачыў маці:

— Бога, Арына, няма. Зразумела? Не верыш? Ну, то запытай у Ігнася. Ігнась, праўду я кажу?

— Праўду, тата.

— Чуеш, Арына? От, мой сын, як я рад, што ты ў мяне ёсць! Праўда, Арына? І ты рада?

— Праўда, праўда, Алесь.

— Ну, то дай нам павячэраць.

— Ты ж нядаўна вячэраў з мужчынамі.

— А з сынам не вячэраў... Быў Раман, Сідар, Марка, Сцяпан, Халімон, а сына не было. Праўда, Арына?

— Праўда, праўда.

— А Ігнася ж не было, праўда?

— Адчапіся ты са сваёю праўдаю.

— Ну, то дай нам павячэраць. Мы з Ігнасём па чарцы вып'ем. Праўда, Ігнась?

— Не, тата, не будзем піць. Вам ужо хопіць.

— Хлусіш! За маці стаіш! Мяне паважаць не хочаш.

— Я вас паважаю, тата. Дайце нам, мама, вячэраць.

— Малайчына, мой сын! Давай, Арына, хутчэй, не сядзі там, як верабей у веніку.

Пакуль Арына ставіла на стол вячэру, Алесь зваліўся на лаву і заснуў.

## 62

Цэлых тры дні бушавала вёска.

Ігнась за гэты час напісаў заявы і Калачыку і бацьку. Чакаў выпадку, каб прачытаць ім і аддаць, але мужчыны гулялі. Сам Ігнась амаль нікуды не выходзіў. Ісці да моладзі, піць з імі гарэлку і хадзіць п'янаму па вуліцах было брыдка.

Сядзеў у хаце і ўспамінаў, як некалі разам з таварышамі да поўначы цягаўся па вуліцы і вынаходзіў розныя глупствы: падпіраў у хатах дзверы, каб назаўтра гаспадар не мог выйсці на двор, забруджваў мякінай калодзежы, пад вокнамі палохаў людзей. Трэба ж было дадумацца, як усцягнуць Калачыкавы сані на страху яго ўласнага хлява. Аж цяпер брыдка... А тады нават ганарыўся гэтым...

Прайшлі каляды. Зноў пачалося жыццё, поўнае працы і турбот. Бацька ездзіў па сена, па дровы. Ігнась дапамагаў яму. Калі быў вольны час, чытаў кнігі, якія прынёс з мястэчка.

Аднойчы маці прала, а Ігнась чытаў уголас. Арына спачатку не зварочвала ўвагі на чытанне, потым падсунулася бліжэй і заслухалася.

— Ты бацьку пакажы гэтую кнігу,— параіла яна.— Ён жа пісьменны.

Ігнась не верыў, што бацька зацікавіцца кнігай, але аднойчы пасля вячэры падсунуў яму зборнік. Алесь разгарнуў і прачытаў некалькі старонак.

— Алесь, ты ўголас пачытай,— сказала яму Арына.

Ён зірнуў на жонку са здзіўленнем і смехам.

— Зусім ты здзяцінела, Арына, а яшчэ не надта старая. А ты заявы напісаў? — звярнуўся ён да Ігнася.

— Напісаў.

— І мне і Сцяпану?

— Абодвум.

— Ну, то прачытай.

Ігнась прачытаў. Алесь моўчкі праслухаў.

— Добра. Давай сюды,— скруціў іх у трубачку, перавязаў ніткай і палажыў за абраз.— Заўтра Сцяпан у мястэчка пойдзе, то занясе... А не дурная рэч пісьменнасць... Толькі нашаму брату не да яе было.

Назаўтра пасля вячэры Алесь узяў кнігу. Спачатку чытаў без увагі, потым зацікавіўся і прасядзеў гадзіну.

— Добрая кніга, тата,— сказаў Ігнась.

— Глупства,— але Ігнась убачыў, што бацька кажа няпраўду.

З гэтага часу кніга стала для Алеся неабходнай рэччу. Калі яе не было на стале, ён моўчкі шукаў вачамі. Ігнась дагадваўся, у чым справа, і даставаў з шуфляды зборнік.

Аднойчы пасля абеду Ігнась выйшаў на двор. Стаяў хмуры зімовы дзень. Мароз адлёг, і нават зрэдку пакапвала са стрэх. Ігнась крочыў у адрыну, каб пакарміць каня.

Наклаўшы рэзгіны сена, ён зайшоў у хлеў, напхаў поўны жолаб, а самому не хацелася ісці ў хату. Выйшаў з хлява і ўбачыў ля варот Сафрона, які, мабыць, чакаў яго.

— Выйдзі сюды, Ігнась! — Сафрон махнуў яму рукою.

Ігнась зачыніў хлеў і пабег на вуліцу.

— Твой бацька дома? — запытаў Сафрон.

— Дома, палуднуе.

— Ну і мой акурат дома... Тады хадзем да мяне ў адрыну. Справа такая ёсць, не трэба, каб хатнія ведалі. Я малачу ў адрыне, там і пагутарым.

Перайшлі вуліцу, зайшлі ў адрыну, і Сафрон зачыніў вароты. На таку ляжаў пасад ячменю. Апошні пасад, малацьба канчалася.

— Сядай тут на саломе... Я даўно хачу пагутарыць з табой. Ты, праўда, камсамолец?

— Камсамолец, Сафрон.

— Добра. Справа ў тым, што ў нас у Загаллі ёсць такія хлопцы, якія таксама хочуць быць камсамольцамі... Напрыклад, я, Змітрачышын Апанас, Радзівонішын Змітрок і...

— І хто яшчэ?

— Ну, калі пачаў, то скажу: дзяўчына адна.

— Маркава Надзея?

— Няхай будзе па-твойму... Чацвёра нас пакуль што. Можа быць ячэйка?

— Малавата.

— Гэта на пачатак. А знойдуцца і яшчэ, толькі потым. Але мы не ведаем, як пачаць. Цяпер — бацькі. Твой бацька ведае, што ты камсамолец?

— Я яму не казаў.

— Значыць, не ведае. А мой бацька, ды і Змітрачыха, ды і Марка, я ж ведаю, на дыбкі стануць. Патапчыка лавілі, дык нас, маладых, блізка не пускалі. Нават на варту не ставілі... Каб не твой бацька з Калачыкам, нарабіў бы ён тут бяды ў вёсцы... Што за людзі!

Сафрон усхваляваўся. Рыжы чуб да рэшты вылез з-пад шапкі, раскудлачыўся, у яго поўна набілася асцюкоў. Расчырваненіся шчокі, ён пачаў гаварыць уголас.

— Ну што за людзі! Прывыклі трымаць нас, як калісь іх бацькі трымалі. Твой бацька крыху разумнейшы і то! Ужо ж не сляпыя, бачаць, што канец старому прыйшоў, як таму Патапчыку, а ўсё роўна трымаюцца... за старызну гэтую, за нэндзу, за беспрасветную цемру. Калі ты малады, дык дурань... А бандытаў каля граніцы не ўсіх знішчылі. І цяпер яшчэ валачацца па лесе. Мой бацька, калі з Ярэміч ішоў, сам бачыў, як дарогу адзін пераходзіў у напрамку да хутара Плышэўскага Міхаіла. Хіба не трэба змагацца з імі нам самім! Я Галамаку казаў пра гэта.

Ігнась слухаў яго ўсхваляваную гутарку і думаў, што ў гэтага хлопца, мабыць, здорава перабалела душа.

— А бацькі думаюць, што мы нічога не ведаем! А Апанас яшчэ да каляд у Ярэмічах быў. А потым мы туды ўдваіх хадзілі. Там камсамольцаў чалавек дванаццаць. Збіраюцца разам, кнігі чытаюць, спектаклі ставяць. Антось Галамака там усім кіруе. Раздолле, а не

жыццё. Вельмі ж нам спадабалася. Калі пачалі расказваць на вячорках, дык нашы дзяўчаты прасці кінулі... А ў мястэчку камсамольцы таксама спектаклі ставяць?

— Ставяць.

— А мы тут збяромся ўвечар, дык толькі карты, або ручайкі ў дзяўчат блытаць, або яшчэ горш — кужаль у прасніцах паліць... Абрыдзела. Ты малодшы за мяне, але я табе зайздрошчу, што ты святло бачыш. Але мы яшчэ пазмагаемся тут і з кулакамі, і з панамі, і з бандытамі. Толькі ты дапамажы ячэйку ў нас зрабіць.

— Трэба з ярэміцкімі пагутарыць, з Антонам Галамакам, прасіць, каб вас прынялі ў камсамол і ячэйку ў нас арганізавалі.

— Правільна, Ігнась. Ты нам заявы напішаш.

— Братка Сафрон, з вялікай радасцю!

— Пішы ад нас чацвярых, мы цвёрда вырашылі. Сёння напішы і вечарам прынясі. Прыйдзі сёння вечарам да мяне, мы падпішам. А як прымуць нас, тады і з бацькамі пазмагаемся. Сіла сілу ломіць! — упэўнена сказаў Сафрон, і ў вачах яго бліснула рашучасць.

— Эх, Сафрон, каб я ведаў пра гэта раней! — усхвалявана прамовіў Ігнась.

— Нічога, яшчэ не позна. На лета дамоў прыедзеш — разам будзем. Ды вось што, не забудзь вечарам кнігу тую ўзяць, што з Мікітам чыталі. Ён казаў, вельмі цікавая. Прынясі — пачытаем, бо я ведаю, што сёння да мяне ўся моладзь збярэцца.

— Прынясу, Сафрон, абавязкова прынясу.

— А ў цябе ёсць кніжка, што па ёй спектаклі ставяць?

— Няма, але ў мястэчку дастану.

— Абавязкова дастань і прышлі. Паспрабуем і мы. Толькі каб пра папоў ды кулакоў была.

Рыпнулі дзверы, і ў адрыну ўсунуўся Мікіта, Ігнасёў аднагодак, крыху ніжэйшы за Ігнася, і такі ж рыжавалосы, як Сафрон.

— Ты чаго тут? Цябе ж бацька вучыцца адправіў.

— Сафрон...— узмаліўся Мікіта.— Не праганяй мяне... Я ж усё чуў, што вы гаварылі, і нікому не скажу... Далібог! Толькі і я хачу ў камсамол.

— Ідзі, бо цэпам дам!

— Сафрон, братачка... калі ласка!

— Ну, там паглядзім...— Сафрон падабрэў.— Толькі ж язык трымай за зубамі!

— Ну, хіба ж я дурны! Толькі ты мяне з адрыны не праганяй...

Ігнась ішоў дадому, не чуючы пад сабою ног. Знікла нуда, радасць ахапіла ўсяго. Толькі крыўдзіўся на самога сябе, што дасюль не пагутарыў з Сафронам. З нецярпеннем чакаў вечара. «Як марна прайшлі першыя дні канікул,— шкадаваў ён.— Але нічога, часу яшчэ хопіць!»

## 63

Прайшлі канікулы, і Ігнась з радасцю і жалем пакінуў родную вёску. З радасцю, бо засумаваў па хлопцах, па школе. Хацелася ўбачыць таварышаў, падзяліцца ўражаннямі, думкамі, надзеямі, расказаць свае прыгоды, акунуцца ў шумнае местачковае жыццё. З сумам, бо шкода было кідаць вёску, сваіх вясковых хлопцаў, простых малапісьменных хлопцаў, такіх прагных да новага жыцця. Кнігі пакінуў ім: не паспеў прачытаць у апошнія вечары. Няхай дачытваюць самі.

Ігнась прыехаў апошні. Хлопцы паспелі ўжо размясціцца як належыць.

— Ну, як адпачываў, Лявон? — запытаў Ігнась, бо яму самому хацелася расказаць пра сваё жыццё ў вёсцы.

— Працаваў я, Ігнась, як чорны вол. Перш за ўсё ячэйку арганізаваў у нашым сяле, але гэтая работа не ў лік, бо яна адбывалася вечарамі, а ў асноўным малаціў у багатых мужыкоў. Хлеба зарабіў і цяпер магу вучыцца. І то бацька ўпіраўся, не хацеў пускаць.

Ігнасю хацелася распытаць яго пра Марынку-бульбінку, але, зірнуўшы на схуднелы і змардаваны твар Лявона, Ігнась палічыў, што такое пытанне зусім не к часу.

— Дык ты ячэйку арганізаваў...

І Ігнась расказаў пра Сафрона, пра загальскую моладзь.

— Малайчына, Ігнась! Значыць, і ты шмат чаго зрабіў,— узрадаваўся Лявон.— Паставім тваю справаздачу на сходзе камсамольцаў.

— А дзе Довід? — пацікавіўся Ігнась.

— Вядома дзе, у майстэрні. Ён там і жыве. Мне акурат трэба пагутарыць з ім наконт сходу. Калі хочаш, сходзім.

— Сходзім, Лявон.

Па дарозе Лявон расказаў Ігнасю, што арыштаваны

Моўша, рабін і кантар і яшчэ некалькі чалавек за прыналежнасць да сіяністкай арганізацыі, якая таксама была звязана з бандытамі.

У майстэрні скрогат жалеза і гарачыня. Довід з закасанымі па локці рукавамі адрэзваў іржавую жалезную трубу. Ён мурзаты, як камінар. Убачыўшы хлопцаў, ён адразу кінуў працу і пайшоў ім насустрэчу.

Довід апрануў світку і ўжо на вуліцы сказаў:

— Падабаецца мне слесарская работа. Цяжкая, але люблю. Бярэш кавалак жалеза і адчуваеш нейкую задаволенасць. Ведаеш, што з яго выйдзе тая рэч, якую ты хочаш зрабіць. І яна будзе зіхацець ад бляску.

Хлопцы зайшлі ў Довідаў пакой і гутарылі там болей гадзіны. Вырашылі прапанаваць бюро ячэйкі, каб заўтра сабрала сход камсамольцаў.

У гаспадароў сум. Усе хадзілі, як у жалобе. Сіма вечарамі плакала і ціхенька, як кошка мыючыся, выцірала кулаком вочы. Мотэля лаялі за музыку. Прыйшоўшы з працы, ён ціхенька здымаў мандаліну і хаваўся ад хатніх у пакой хлопцаў.

Вось і цяпер зайшоў ён да іх з мандалінай у руках і сказаў:

— Прыйдзецца і мне кватэру пашукаць, як Довіду.— Заўважыўшы Ігнася, горача паціснуў яму руку.— Ці ты вырас, ці мне так здаецца? — ён уважліва зірнуў на Ігнася.— Ты нашы хатнія навіны ведаеш?

— Ведаю.

Мотэль кіўнуў галавой.

— Паслухай, Ігнась, новую музыку, якую развучвае музычны гурток.

Такая ўвага з боку Мотэля крыху збянтэжыла Ігнася, але прыкідвацца надта задаволеным ён не ўмеў.

— Паслухаю...

Мотэль крануў струны. Яны заспявалі спачатку глуха, потым гукі павольна паплылі адзін за адным і запоўнілі ўвесь пакой. Ігнась заслухаўся. «Падвучыўся Мотэль у музычным гуртку»,— зразумеў ён. Доўга іграў Мотэль, мабыць, сам не мог задаволіцца.

— Ну як?

— Не магу нават сказаць, Мотэль... Як завецца гэтая музыка?

— Гэта, брат, з Чайкоўскага. Ён вялікі кампазітар.

Зразумеўшы, што Ігнась не ведае, хто такі кампазітар, Мотэль растлумачыў:

— Кампазітар, Ігнась, такі чалавек, які сам прыдумвае матыў да песні. А я нават па нотах чытаць не ўмею. Цяпер вучуся,— ён палажыў мандаліну на калені і задумаўся.— Вучыцца ўсім нам трэба, хлопцы, але мы падчас лянуемся, а падчас у галаве зусім не да навукі.

Ігнась зразумеў, што гэта Мотэль кажа пра сябе. Нешта, мабыць, ёсць у яго галаве, калі адтуль вылецеў гонар і ён размаўляе з Ігнасём і з хлопцамі як з роўнымі.

— У клуб пойдзеш, Мотэль?

— Пайду. Сёння ў нас музычны гурток.

На гэты раз Ігнась зайшоў у школу не як чужы чалавек, а як паўнаўладны гаспадар, і нават зірнуў на яе пагаспадарску. Старыя парэзаныя нажамі вучняў парты, вокны з кавалкаў шкла — усё чакала рамонту і аднаўлення. Вучні стрэлі Ігнася як старога прыяцеля, з якім ужо тое-сёе пражыта. Абкружаны таварышамі, Ігнась прабіраўся ў клас.

Янка Ткачук сядзеў за партай і маляваў. Дзяўчаты хацелі паглядзець на яго малюнак. Ён закрываў паперку рукавом і лаяўся, але, убачыўшы Ігнася, кінуў малюнак і памчаўся насустрэчу сябру.

— Здароў, Ігнась! Значыць, з'явіўся, брат ты мой!

— З'явіўся, а як жа! Здароў, Янка. Ты ўжо малюеш.

— Але... А ў нас на каляды дзесяць гаспадарак згарэла... На трэцяй хаце ад нашай агонь спыніўся, а каб не спыніўся, не бачыць бы мне школы, як сваіх вушэй.

— Падпаліў нехта?

— Як табе сказаць... Ёсць у нас Язэп Верабей, самагоншчык. На прыгрэбіцы самагонку гнаў, дык, мабыць, напіўся першаку і заснуў. Прыгрэбіца загарэлася, ён сам, брат ты мой, ледзь адтуль выпаўз. А вёска і пачала гарэць.

У калідоры дробна зазвінеў званок, і прыемна было хлопцам пасля трох тыдняў адпачынку пачуць яго вясёлы голас.

Увесь гэты дзень быў клапатлівым. У класах, у калідорах на кожным перапынку вучні запісваліся ў гурткі, знаёміліся з раскладам іх заняткаў. Пасля ўрокаў на

агульным сходзе выбралі рэдакцыйную калегію школьнай насценгазеты. У склад яе ўвайшоў і Янка Ткачук, як лепшы мастак.

Лявон Богуш аб'явіў усім камсамольцам, што вечарам у клубе адбудзецца камсамольскі сход. Ігнася ён папярэдзіў, каб падрыхтаваўся да справаздачы.

## 64

Перад полуднем Арына пайшла да Сідарыхі, а Алесь прылёг на ложак гадзіну адпачыць. Ведаў, што Арына вернецца не так хутка, бо калі збярэцца двое жанок, то ў іх абавязкова знойдзецца і аб чым пагутарыць. Асабліва ў Сідарыхі. Як жонка члена сельскага савета яна ведае ўсе аколічныя навіны і не вытрымае, каб не вылажыць іх усе да адной перад Арынай. Алесь хацеў задрамаць, але не паспеў заплюшчыць вачэй, як Арына вярнулася дадому.

— Палуднуй, Алеська, хутчэй ды ляці ў Ярэмічы,— гукнула яна мужа.

— Чаго я там не бачыў?

— Газы купі ды мыла! Кааперацыю ўжо адкрылі. Сідар цэлую торбу солі прынёс... Усё, кажа, ёсць: і запалкі, і газа, толькі крамніны яшчэ няма.

Гэтая навіна зацікавіла і Алеся. Ён устаў з ложка і сеў за стол.

— Давай перакушу крыху ды пайду, а то газу разбяруць... А хто прадае?

— Агейчык Андрэй.

— Агейчык, то добра, лад будзе. Чалавек ён сумленны.

Папалуднаваўшы, Алесь вырашыў не ісці, а ехаць, і запрог Гнядога ў сані. Гняды ўжо тыдзень стаяў у хляве, і калі Алесь выкіраваў яго на вуліцу, не чакаючы пугі, пабег па гладкай дарозе. «Вось што значыць адпачынак! — здаволена разважаў Алесь.— І мой Гняды хвост угору задраў, нібы стаеннік які!» Дарога вілася па лесе, над ёю, нізка апусціўшыся пад цяжарам снегу, звісала галлё ялін і бяроз. Дуга кратала іх, і снег сыпаўся ў сані і на галаву Алеся. «Колькі снегу наваліла,— дзівіўся Алесь,— цяпер у лес і ўбіцца нельга...» Успамянуў, што трэба перавезці ў мястэчка сажань дроў, заплаціць Алта-

ру за кватэру, а рэштку каму-небудзь прадаць, і пашкадаваў, што крыху спазніўся з гэтай работай.

Яшчэ не даехаўшы да Ярэміч, Алесь заўважыў ажыўленне на вуліцы гэтага ціхага сяла. Мужчыны і жанкі ішлі то ў бок кааператыва, то ад яго, хто з пляшкай газы, хто з торбачкай солі, хто проста з кавалкам мыла ў руцэ. Алесь падагнаў Гнядога і ўжо рыссю ехаў па вуліцы, бо баяўся, каб не спазніцца.

— Не спяшайся, хопіць і табе! — крыкнуў яму нехта з сустрэчных, аднак Алесь не пазнаў хто. Але каня суняў. «Сапраўды ж брыдка... Нібы на вяселле! Людзі скажуць: які зайздросны загальскі Марыніч!» І яму стала крыху сорамна. Солі ў яго яшчэ пуда паўтара стаіць, прывёз са Слуцка, калі збожжа туды вазіў... І газа ёсць. Мыла ды запалкі, гэта трэба. І, спыніўшыся каля крамы, што стаяла насупраць царквы і змяшчалася ў папоўскім свірне, ён назнарок доўга прывязваў да слупа каня, палажыў яму ахапак сена, потым пастаяў на ганку, пагутарыў з мужчынамі і толькі тады ўжо зайшоў у краму. Там было столькі людзей, што праціснуцца да прылаўка было цяжка. На прывітанне Алеся адказала адразу чалавек дзесяць, знаёмыя павярнуліся, пачалі паціскаць руку.

— Па соль прыехаў? — пацікавіўся Яўхім-Мядзведзь, які быў у шапцы-вушанцы, што вісела на адным вуху, адкрыўшы другое, вялізнае, як лапаць.

— Не то што б па соль...— пачаў Алесь, але Яўхім перапыніў яго.

— На людзей паглядзець! Я таксама, чалавеча! Далібог, не купляў яшчэ, стаю і дамоў ісці не хочацца. Новая жытка грукнулася ў нашы дзверы. Ну, скажы, нашто я буду купляць соль сёння, калі заўтра па яе зноў фурманкі ідуць... А некаторыя бяруць. Бяруць, чалавеча, па тры разы ўправіліся ўзяць...

Такое красамоўства з боку Яўхіма крыху здзівіла Алеся, і, зірнуўшы ўважліва ў яго вочы, ён пазнаў, што Яўхім ужо добра глынуў, але і той, хітры, дагадаўся, аб чым думае Алесь.

— Ты, браце, мабыць, думаеш, што я нашча прычасціўся... Было крыху... Мы тут гуртам сабраліся і адсвяткавалі нашу краму...— тут ён прыгнуўся да Алесевага вуха і зашаптаў: — Заскочым ка мне на хвілінку, Алесь... У мяне яшчэ адна пляшка ёсць.— І ён пацягнуў Алеся

за сабою. Той спрабаваў упінацца, але гэта можна было зрабіць толькі адарваўшы руку, за якую ўплёўся Яўхім.

— Браток Яўхім, як жа гэта ў будзённы дзень! — узмаліўся ён ужо на двары.

— Які будзённы. Святы, а не будзённы! Новая жытка, Алесь, чалавек ты! Калі гэта было, каб у Ярэмічах наша мужыцкая крама была!

Ён усё яшчэ трымаў Алеся за руку і вёў яго па вуліцы, як бацька непаслухмянага сына. Нарэшце яны апынуліся ў Яўхімавым двары, потым і ў хаце, усё ў такім жа стане: Яўхім уперадзе, цягнучы за руку Алеся.

Яўхімава жонка Настуля здзіўлена сустрэла і госця і гаспадара. Яўхім нават не зірнуў на яе. Ён пасадзіў Алеся на лаву, кінуў позірк на паліцу і памчаўся ў сенцы. Аднак адтуль ён вярнуўся не хутка і з вельмі засмучаным выглядам. Ён вінаватымі вачамі зірнуў на Алеся і адразу звярнуўся да жонкі:

— Настуля, а дзе тая пляшка?

— Якая пляшка? — здзіўлена запытала Настуля.

— Ну тая, што засталася...

— Вы ж усё выжлукцілі з мужчынамі.

— Хлусіш, я сам бачыў яе вось тут, на паліцы, як адыходзіў з дому.

— Табе п'янаму здалося... Ці ж ты забыўся, што сам забраў яе з паліцы і паставіў на стол.

Яўхім вылупіў і без таго вялікія вочы.

— Што ты мяне хрысціш? — закрычаў ён.

— А ты сам не ведаеш, што робіш, толькі людзей зводзіш. Сам гарэлку высмактаў, а чалавека частаваць няма чым, дык цяпер Настуля вінавата...

— Не трэба, братка Яўхім, не трэба,— узмаліўся Алесь, які ўвесь гэты час сядзеў, як на баране.

Яўхім развёў рукамі.

— Ну, не крыўдзься, Алесь... Вінаваты я...

Ён правёў Алеся на двор.

— Няўжо ж такі мы яе выпілі? — з недавер'ем гаварыў ён.— Ну, братка Алесь, даруй... Хацеў я ад чыстай душы чарку з табою выпіць...

— А я ўжо нібы і выпіў, Яўхім, далібог, нібы мы ўжо і выпілі,— расчулена адказаў яму Алесь.

Апынуўшыся на дварэ, Алесь быў надта задаволены, што так хутка вылузаўся ад Яўхіма. За чаркай, безумоўна, засядзеліся б, а за гэты час усё б раскупілі. І ён

прыбавіў кроку. Толькі ля самага ганка спыніўся і ўзняў галаву, бо трэба было падымацца па прыступках. Тут яго стрэў старшыня сельсавета Галамака Антось.

— А-а! — шырока ўсміхаючыся, сказаў ён.— Таварыш Марыніч! Дзень добры! А мы ўсё паглядаем, што загальцаў нашых няма.

Алесь не паспеў адказаць яму на прывітанне, але ён і не чакаў адказу, а адразу павярнуўся і пайшоў наперад, нібы даваў Алесю дарогу. Так і прайшлі яны праз натоўп да самага прылаўка.

— Таварыш Агейчык,— звярнуўся Галамака да прадаўца.— Ты ж не забывай, што ў нас пайшчыкі не толькі ў Ярэмічах. Вось і з Загалля таварыш Марыніч прыехаў, ты ўжо яго як-небудзь без чаргі забяспеч.

Пакуль Алесь вылічваў, што яму трэба купіць, ды яшчэ з такім разлікам, каб засталося на крамніну, Агейчык наважыў яму солі, адлажыў кавалак мыла і пачак дзесяць запалак.

— Давай пасуду на газу.

— А, братачка, пачакай, пасуда мая ў возе.

Ён збегаў да саней па пляшку, дзівячыся, які разумны Агейчык Андрэй і як спраўна ён прадае, не горш за Алтара, што хваліўся сваёй камерцыяй.

У краме ён запакаваў свой тавар і даўгавата пастаяў ля прылаўка, любуючыся работай Агейчыка, перакідаючыся словамі з прысутнымі. Нейк весела і лёгка было на душы. Прыемна адчуваць сябе ўдзельнікам вось гэтае крамы, дзе за прылаўкам стаіць свой чалавек, а не мехляр які, каб выдурыць ад цябе фунт ці капейку, ласкава ўсміхаецца і стукае кулаком у грудзі, заглядаючы ў вочы сялян. Алесь бачыў, што і ва ўсіх такія ж самыя думкі і адчуванні.

Аднак вечар набліжаўся, трэба было ехаць дамоў, і Алесь, як яму ні хацелася яшчэ пабыць у людзях, рашуча накіраваўся к выхаду. Ён павольна праціскаўся між людзей і думаў, як рада будзе Арына, што ў краму прывязуць мануфактуру і можна будзе купіць танней, чым у Алтара. Але як толькі ён саступіў з апошняга прыступка, яго зноў злавіў Яўхім-Мядзведзь.

— А братка ты мой родны! Я ж цябе даўно чакаю! — радасна сказаў ён, хапаючы Алеся за руку.— А ты ўжо і купіў, што трэба, як добра атрымалася! — Тут ён перахапіў з Алесевых рук торбу з соллю, паспра-

баваў запіхнуць яе ў сваю шырокую кішэню, але не палезла, тады сунуў яе пад паху і, цягнучы Алеся за сабой, гаварыў:

— А каб ты, братка, ведаў, якая хітрая мая Настуля, ну, чыстая, братка, цыганка: хлусіць і не смяецца... Ты ведаеш, дзе яна пляшку схавала? Звалакла ў адрыну ды ў сена ўвапхнула... Як пайшоў ты, думаў я, думаў, няўжо выпілі мы яе? Дадумаўся: не. Прыстаў да яе: дзе, кажу, схавала ты тую пляшку. Як прыстаў, як прыстаў, ідзі, кажа, у адрыну, каля сцяны у сене стаіць. Я туды: аж там, братка, дзве! Гэта, значыць, яна яшчэ адну ў мяне ўкрала, але раней, ды забылася! Дык я іх абедзве і знайшоў!

Яўхім засмяяўся на ўсю вуліцу.

— І тут яны ў мяне абедзве,— ён паказаў на свае кішэні.

Алесь гатовы быў плакаць ад такога выпадку: не хацелася ісці зноў у хату, дзе так непрыветна стрэла яго гаспадыня першы раз. А Гняды ўжо з'еў сена і будзе цяпер стаяць галодны, і, самае галоўнае, пара была ехаць дамоў. Але хітры Яўхім уміг разгадаў Алесевы думкі.

— А Гнядога твайго я сам прывяду ў свой двор і сена яму падкіну. Завяду цябе ў хату, пасаджу за стол і пабягу... А жонка мая, не бойся, ужо сала смажыць: кажа, з кім, а з Алесем піць, хай вас халера возьме, вось якая яна, га? Але сала то смажыць... А сваёй жонцы скажаш, што ў Яўхіма-Мядзведзя быў, а яна ж сама ведае, што з мядзведзевых лап ніхто не вырвецца!

Алесю стала смешна з апошніх яго слоў, бо звычайна Яўхім не любіў, калі яго клікалі ў вочы Мядзведзем, хоць пад гэтай мянушкай ён быў больш вядомы навокал, чым па сваім прозвішчы.

— Хай ты праваліся, Яўхім, ты і мядзведзя ўгаворыш,— смеючыся, сказаў ён у тон.— Ды не трымай ты мяне за руку, я і сам пайду.

Настуля ў хаце сапраўды смажыла сала.

Выпілі моцна. У галаве кружылася ад выпітай гарэлкі, але весела было не толькі ад яе. Пасля першай шклянкі Яўхім назваў яго таварышам Марынічам, а ён у сваю чаргу Яўхіма таварышам Сцешыцам, і як прыемна было ім абодвум чуць гэтае выдатнае слова.

Так Алесь і заначаваў у Яўхіма-Мядзведзя.

Антось Галамака толькі пад вечар зайшоў у сельсавет. Спачатку быў у кааперацыі, потым з'ездзіў на Ярэміцкія хутары. За час работы старшынёю сельсавета не раз там быў, але сёння вынес адтуль зусім іншае ўражанне. Абнаглелі кулакі-хутаране. Антось ведаў прычыну гэтага. Дачуліся, што вясной пройдзе абрэзка зямлі.

— Без мяне ніхто не прыходзіў, Тэкля? — запытаў ён у вартаўніцы, невялічкай дзяўчынкі-сіраты, якая і жыла ў памяшканні сельсавета.

— Прыходзілі! Вось паперкі вам пакінулі, дзядзька Антось. Заявы.

— Дзядзька Антось! Я вось табе пакажу дзядзьку! — пажартаваў Галамака.— Знайшла дзядзьку. Я ж яшчэ малады.

— Нічога вы мне не зробіце! — гарэзліва адказала Тэкля.

— Пабачыш! Вазьму ды ажанюся з табой.

— Ай, ідзіце вы... прыдумалі...— чырванеючы, адказала дзяўчына і адвярнулася.

— Не, не гневайся, цётка Тэкля. Жаніцца мне пакуль часу няма, так што не бойся. Давай сюды тыя заявы.

— А я і не баюся! — горача адказала дзяўчына, зірнуўшы на Антося прыгожымі блакітнымі вачамі.

Антось не заўважыў яе позірку. Ён забраў заявы і пайшоў у другі пакой. Яго зацікавіў ліст, заклееены хлебным мякішам. Антось расклеіў яго і пачаў чытаць. Вочы адразу бліснулі гневам, чырвань заліла твар. Выклікаў Тэклю.

— Хто табе даў гэтую... заяву?

— Заклееную?

— Так.

— Я не ведаю таго чалавека, першы раз убачыла. Ён прыходзіў пасля полудня, я адна была. Такі, як і ўсе: нестары яшчэ, ў лапцях. Толькі ўсё ўважліва агледзеў і хацеў у ваш пакой зайсці, ды замкнуты ён быў. «На,— кажа,— аддай свайму старшыні, калі вернецца з хутароў».

— Так і сказаў: «калі вернецца»?

— Так і сказаў. А што такое, дзядзька Антось? — спалохана запытала дзяўчына.

— Нічога такога, цётка Тэкля... Схадзі ў клуб, пакліч Сафрона сюды, а адтуль зайдзі да Яўхіма Сцешыца, скажы, што я клікаў.

— Да Яўхіма-Мядзведзя, дзядзька Антось?

— Які ж ён мядзведзь? Ён такі мядзведзь, як я дзядзька. Ты ж хоць не назаві яго там мядзведзем.

— Хіба я не ведаю!

Калі Тэкля выйшла, Антось задумаўся. На лістку была напісана пагроза. «Не хадзі, Галамака, па хутарах, а то ногі паламаем. Не мерай зямлю, бо накормім мы цябе ёю. Поўнае горла насыплем, задушышся».

«Значыць, ворагі сочаць,— разважаў Антось,— ведаюць, куды еду і іду, што раблю і збіраюся рабіць. Ну што ж, папярэдзілі і добра».

Яго развыжанні перапыніў Сафрон, які ўвайшоў у пакой расчырванелы ад марозу.

— Ты мяне клікаў, Антось?

— Так, Сафрон. Ліст атрымаў, на пачытай.

Сафрон прачытаў і нахмурыўся.

— Хто табе яго даў?

Антось расказаў, у чым справа.

— Табе, Антось, трэба асцерагацца. Вельмі ты смела па хутарах ходзіш, і прытым адзін. Застрэляць яшчэ па лясной дарозе.

— Не буду ж я сядзець, замкнуўшыся ў хаце. Трэба арганізаваць справу так, каб не мы іх баяліся, а яны нас.

— Што ты мяркуеш рабіць?

— Перш за ўсе лепш вартаваць нашу краму. Думаю, што сёння ты не пойдзеш у сваё Загалле. Застанешся тут і станеш на варце. У дапамогу возьмем Яўхіма Сцешыца. Я па яго паслаў Тэклю.

— Добра. Мы тут утраіх з Загалля: я, Апанас і Змітрок. Можам усе стаць на варту.

— Што ў вас сёння ў клубе?

— Хочам сход правесці. Яшчэ не ўсе сабраліся.

— Добра. Ідзі ў клуб. Я таксама туды прыйду. Пагутарым.

Калі Сафрон выйшаў, Антось выняў сшытак і пачаў хутка пісаць, распырскваючы чарніла. Пісаў Кавалёву і Буткевічу, прасіў, каб каторы-небудзь прыехаў у Ярэмічы. Пытанне аб абрэзцы зямлі неабходна было вырашыць зараз. Цяпер гэтага, вядома, зрабіць нельга, але

падрыхтавацца можна, напрыклад, абмераць усю зямлю ў хутаранцаў-кулакоў.

У дзверы зазірнула Тэкля і нечакана залілася смехам.

— Што з табой, Тэкля? — здзівіўся Антось.

— Ой, дзядзька Антось, не магу вытрымаць... Зайшла я да Яўхіма-Мядзведзя, а ён з загальскім Марынічам сядзяць і гарэлку п'юць. Я кажу: «Дзядзька Яўхім, вас Антось у сельсавет клікаў». А ён устаў, такі важны, падышоў да мяне... Ой, дзядзька Антось, не магу... І кажа: «Таварыш Тэкля...— дзяўчына зноў залілася смехам.— Таварыш Тэкля, скажы таварышу Галамаку, што не магу прыйсці. У мяне госць — таварыш Марыніч». Ой, дзядзька Антось... А потым... а потым кажа: «Скажы Антосю, што яго Яўхім-Мядзведзь кліча ў госці ў сваю бярлогу». Настуля і тая смяялася...

— Што, ён дужа п'яны?

— Не, толькі вясёлы, я такога яго ніколі не бачыла.

— Добра, Тэкля.

Антось зноў пачаў пісаць, але Тэкля не адыходзіла ад дзвярэй. Калі Антось узняў галаву, то ўбачыў, што дзяўчына сарамліва глядзіць на яго, і зразумеў, што яна хоча яшчэ нешта сказаць.

— Заходзь, Тэкля сюды.

— Дзядзька Антось, што я хацела запытаць...

— Дык чаго ж ты там каля дзвярэй стаіш!

— Як весела цяпер у паповым доме!.. Камсамольцы чытаюць, спяваюць песні... Сафрон на гармоніку іграў. Баюся я вам сказаць...— і яна далонню закрыла вочы.

Антось зацікавіўся. Ён устаў, падышоў да Тэклі, узяў яе за руку і падвёў да стала.

— Дурненькая! Чаго ж ты мяне баішся?

— Дзядзька Антось, ці можна мне ў камсамол?

Гэтае запытанне прагучала ў вушах Антося так, нібы яго ўдарылі па шчацэ. Каторы час ён працуе ў сельсавеце, кожны дзень гэтая дзяўчынка ў яго на вачах і хоць бы раз падумаў пра яе... Жартаваў, як з падлеткам.

— Тэкля, родная! Ды не толькі можна, а неабходна нават!

— Дык там жа няма дзяўчат, я адна... Смяяцца будуць...— з сумам сказала яна.

— Чаму ж няма! У Загаллі ёсць камсамолка — Мар-

кава Надзея. У Ярэмічах будзеш ты. А праз месяц, от паглядзіш, колькі будзе камсамолак.

— А я саромеюся сказаць пра гэта Сафрону, дзядзька Антось...

— Ах ты, цётка Тэкля! Хадзем разам, у клубе сёння камсамольскі сход.

Калі яны выйшлі з сельсавета, на дварэ змяркалася.

Антось позна ішоў дадому. Вёска ўжо спала глыбокім сном. Пасля сходу ў камсамольскім клубе Антось яшчэ сядзеў у сельсавеце. Падрыхтаваў пакеты ў воласць і заўтра меркаваў адправіць іх з нарачным да Кавалёва і Буткевіча. Наогул быў задаволены сённяшнім днём.

Нягледзячы на ананімку, адчуваў сябе бадзёра і ўпэўнена. Каапературацыю, акрамя сталага вартаўніка, сёння вартуюць яшчэ Сафрон і Апанас. Усе ўтраіх узброеныя хоць і паляўнічымі стрэльбамі, але зараджанымі не шротам, а кулямі.

Ціха было навокал. У хатах даўно патушылі агні. Толькі ў Яўхіма-Мядзведзя яшчэ блішчала святло. «Адзначаюць мужчыны адкрыццё каапераціі»,— падумаў з усмешкай Антось. І ў гэтае ж імгненне ў начной цішыні заляскаталі стрэлы.

— Бандыты! — крыкнуў Антось у акно Яўхімавай хаты і, выхапіўшы з кішэні рэвальвер, пабег з усёй сілы ў бок крамы.

Стрэлы гучалі адзін за адным. Яўхім-Мядзведзь без шапкі, але затое са стрэльбай, выскачыў з сянец і імчаўся па вуліцы, склікаючы людзей. За ім з сякерай у руках бег Алесь.

Зарыпалі ў хатах дзверы. Мужчыны хапалі ў рукі ўсё, што трапляла на вочы: сякеры, вілы, ламы, у каго была стрэльба — стрэльбу. І, не раздумваючы, беглі да крамы.

Бандыты, каб запалохаць вёску, адкрылі спачатку шалёную страляніну па сельсавеце, які знаходзіўся поруч з крамай.

Калі Антось прыбег туды, у памяшканні сельсавета не было ні адной цэлай шыбы. Шкло пабліскваля на прызбе.

Заўважыўшы рослага бандыта, які бег да крамы, Антось стрэліў. Бандыт кульнуўся, але падхапіўся на ногі. Антось стрэліў яшчэ раз. Бандыт зноў кульнуўся і болей не ўстаў.

На бандытаў узнялася ўся вёска. Сяляне натоўпам беглі па вуліцы. Пачуўшы іх галасы, бандыты паспрабавалі адыходзіць у бок лесу, але ад крамы напярэймы іх білі Сафрон, Апанас і вартаўнік.

— Біце гадаў!

Яўхім-Мядзведзь быў ужо тут. Адзін з бандытаў, прыгнуўшыся, адбег далёка. Яўхім злажыўся і стрэліў са сваёй дубальтоўкі. Бандыт схапіўся за бок і рухнуў на снег. Гэта быў Плышэўскі Сымон. Але ён быў не забіты, а паранены. Цяпер ён думаў толькі аб тым, каб выратавацца. Скарыстаўшы тое, што на яго, як на забітага, не звярнулі ўвагі, ён папоўз. Папоўз, як змоўж, у начную цемру, фарбуючы снег уласнай крывёю. Потым устаў, затуліў рану рукой і, хістаючыся, пайшоў. Гэта быў адзіны бандыт, які астаўся жывым пасля нападу на Ярэмічы.

Раз'юшаны народ абкружыў астатніх бандытаў і без жалю і літасці знішчыў іх. Ужо не было стрэлаў. Чутны былі толькі крыкі, стогны ды ўдары.

Пачалося світанне. Ля крамы, сельсавета і воддаль ад іх на снягу пластамі ляжалі бандыты.

І вось тады Антось успомніў Тэклю. Думка аб ёй апякла яго сэрца, як агнём. Ён рынуўся ў сельсавет.

— Тэкля! Тэкля — з жахам, без надзеі на нешта добрае, крыкнуў ён.— Тэкля! Адгукніся!

— Ой, Антось, як жа я напалохалася!..— пачуў ён поруч шчыры і такі мілы голас.— Як жа я напалохалася...

Неймаверная радасць ахапіла Антося.

— Жыва! Тэкля, родная!

## 66

Упершыню пасля смерці Наталлі Васільеўны ў старым доме Хвядоса Іванавіча вечарамі ва ўсіх пакоях ярка гарэлі лямпы, чуўся вясёлы смех і гоман дзетвары.

Хвядос Іванавіч горача любіў дзяцей, але сам іх не меў. Так складалася жыццё. Настаўнік гарадскіх вучылішчаў Хвядос Дубоўскі да рэвалюцыі не заседжваўся падоўгу на адным месцы. Ад прыроды спакойны і добры, ён, аднак, не мог мірыцца з той руцінай, абыякавасцю,

якія панавалі ў школах. На гэтай глебе ўзнікалі нелады з начальствам і спрэчкі з калегамі.

Перад самай рэвалюцыяй яго перавялі ў гэтае мястэчка. Тут ён сустрэўся з Наталляй Васільеўнай. Абое ўжо немаладыя і адзінокія людзі, яны палюбілі адно аднаго моцным, але роўным пачуццём. Той час быў цяжкі. Асабліва для людзей без сродкаў і маёмасці.

У часы белапольскай акупацыі і ён і Наталля Васільеўна адмовіліся выкладаць у школе і засталіся без работы. Прыйшлося перажываць не толькі голад, але і розныя здзекі акупантаў. «Чырвоны», — клікалі яго польскія паны-афіцэры. Аднак яны крыху памыляліся. Хвядос Іванавіч не ўмешваўся ў палітыку, ён толькі спачуваў бальшавікам, будучы зусім далёкім ад якой-небудзь дзейнасці. Але і гэтага было даволі для таго, каб дзесяткі разоў быць на допытах у камендатуры.

Домік, у якім жыў Дубоўскі, быў пабудаваны бацькам Наталлі Васільеўны — старым настаўнікам местачковага народнага вучылішча, адзінага на ўсю воласць. За доўгія гады работы Васіль Пратасеня пад старасць пабудаваў гэты дом і пакінуў у спадчыну сваёй адзінай дачцэ.

Незадоўга да прыезду сям'і Кавалёў перайшоў да яго, каб сустрэць жонку і дзяцей у сапраўднай кватэры. Гэта было немалой падзеяй у жыцці Дубоўскага. Застаўшыся адзінокім, ён цяжка перажываў страту жонкі. У доміку ўсё напаміналі аб ёй: і кветкі ў вазонах, пасаджаныя і дагледжаныя ёю, і фіранкі на вокнах, вышытыя яе рукамі, і любімыя кнігі на этажэрцы, і шмат іншых дробязей, якія ўвайшлі ў побыт.

У першыя дні Хвядос Іванавіч старанна падтрымліваў той парадак, які быў заведзены Наталляй Васільеўнай: акуратна паліваў вазоны, прыбіраў яе пакой. Але работы было столькі, што, выйшаўшы з дому раніцай, прыходзіў дамоў позна ноччу і, не палячы грубкі, лажыўся ў халодную пасцель. Ад холаду загінула частка кветак. Заўважыўшы гэта, Хвядос Іванавіч доўга стаяў каля іх і папракаў сябе за нядбайства. Вельмі шкадаваў фікуса, які дарос да самай столі. Ім ганарылася Наталля Васільеўна. І не хацелася выкідаць яго.

Калі Кавалёў перайшоў да яго на кватэру, жыццё стала цікавейшым. Заўсёды бадзёры і нястомны, Сяргей Кавалёў удыхнуў гэты настрой і ў таварыша. Дубоў-

скі адчуў, што жыццё яго набывае стройнасць і прыгажосць.

Седзячы над працай за вялізным сталом, калі навокал была глыбокая ноч і цішыня, Хвядос Іванавіч лавіў сябе на тым, што раз-поразу паглядае на гадзіннік, каб ведаць час, калі прыйдзе з работы Кавалёў.

Звычайна той прыходзіў вельмі позна. Хвядос Іванавіч з радасцю адрываўся ад стала. Потым яны вячэралі і ўдвух лажыліся на адзін ложак, каб было цяплей. Гутарылі яшчэ доўгі час.

Хвядос Іванавіч здзіўляўся, слухаючы разважанні Кавалёва. Колькі ў яго мар і праектаў! У першы час Хвядос Іванавіч па прыкладу Буткевіча ледзь не абазваў Кавалёва летуценнікам, аднак потым адкінуў такую думку. Аб гутарцы пра асушку Рэгелеўшчыны Дубоўскі забыўся. І як жа здзівіўся ён, калі Кавалёў накрэсліў яму цэлы план ажыццяўлення гэтага мерапрыемства.

Яшчэ праз некаторы час Дубоўскі пераканаўся, што гэта не беспадстаўныя летуценні. Усёй сваёй дзейнасцю Сяргей Кавалёў набліжаў час выканання сваіх планаў.

Сям'я Кавалёва прыехала ў нядзелю. У Дубоўскага гэта быў законны дзень адпачынку, а Кавалёў толькі вярнуўся з камандзіроўкі. Даведаўшыся, што яго сям'я ўжо ў Слуцку і Буткевіч учора адправіў па яе падводы, Кавалёў усхваляваўся.

— Скажы, Хвядос, як мне не шанцуе. Я марыў сам паехаць у Слуцк, стрэць сям'ю, і мая мара не здзейснілася... Яны могуць падумаць, што я забыў іх... А што калі я паеду насустрач?..

— Я лічу, што яны ўжо на Слуцкай вуліцы ў мястэчку. Падводы пайшлі ўчора раніцай.

І нібы ў пацвярджэнне гэтых слоў, нехта на вуліцы выгукнуў:

— Тпру! Прыехалі!

Дубоўскі зірнуў у акно і пазнаў балаголу Варшала Ёську. Кавалёў ужо быў на двары. За ім без шапкі выйшаў Дубоўскі.

— Ага! Ты ўжо дома!

Насустрач Кавалёву ішоў Буткевіч.

— А я лічыў, што ты яшчэ ў Мелкавічах, і вырашыў правесці іх, дапамагчы ўладкавацца.

У Дуброўскага на імгненне ўспыхнула злоснае пачуц-

цё да Буткевіча. Няўжо ж бы ён сам не дапамог Сяргеевай сям'і, калі б не было Сяргея. Але гэтае пачуццё адразу адышло, ён зразумеў, што Буткевічам кіруе тое самае пачуццё, якое кіруе ім: дапамагчы таварышу, паклапаціцца аб яго сям'і.

Потым ужо Дубоўскі адчуў, што гэтая сустрэча назаўсёды застанецца ў яго памяці. Ён бы дорага даў, каб самому перажыць такую сустрэчу. Дзеці, убачыўшы бацьку, зляцелі з воза так, нібы іх адтуль здзьмула ветрам, і павіслі на яго шыі. Ён абхапіў іх рукамі, усіх траіх, нахіліўся і на імгненне застыў. А самая меншанькая дзяўчынка, як потым даведаўся Дубоўскі, яе звалі Надзя, цалавала і цалавала бацькаў твар, галаву, шыю і грудзі, і не магла ад яго адарвацца. А невысокая жанчына гадоў сарака з вялікімі ласкавымі вачамі стаяла насупраць і, усміхаючыся праз радасныя слёзы, гаварыла:

— Ах, дзеткі... Дайце ж і мне прывітацца з вашым бацькам...

Буткевіч неяк незвычайна крэкнуў і, адвярнуўшыся, пачаў вымаць з воза чамаданы. Дубоўскі праз акуляры нічога не бачыў, акрамя белай вадзяністай плямы. Ён пацягнуўся за хустачкай і выцер не акуляры, а вочы...

Потым усе зайшлі ў дом.

— Мама, а гэта будзе наша кухня? — пытала тая самая Надзя, спыніўшыся каля печы. Большы сын, Алег, вучань пятага класа, быў вельмі задаволены, убачыўшы поўную этажэрку кніг.

— Эх, мама! Ну і пачытаем мы!

Малодшы, Коля — выліты Сяргей Кавалёў — з цікаўнасцю разглядаў карціны на сцяне. Кавалёў, нахіліўшыся да жонкі, запытаў глухім шэптам:

— А Валі нашай...

— Няма...— адказала жанчына і залілася слязьмі.

— Не трэба, Маруся... Не трэба...— шаптаў Кавалеў, прыгарнуўшы да сябе жонку.

Буткевіч кіўнуў Дубоўскаму і выйшаў з ім у другі пакой.

— Хвядос...— сказаў ён збянтэжана.— У яго ж, мабыць, няма чым сям'ю пакарміць з дарогі...

Пры гэтым ён расшпіліў паліто і дастаў з пад пахі скрутак, загорнуты ў паперу.

— Тут кілбасы круг і сала кавалак... Я мо сам бы не здагадаўся, але мая Аксення малайчына... Кажа: вазьмі. Ён у камандзіроўцы, ды і наогул... Вы абодва бабылі... Толькі не кажы яму, а то ён мяне потым вылае. А я, ведаеш, пайду...

— Пачакай, Сцяпан... Не ідзі. Наваселле мы справім, хоць і бабылі, у мяне і па чарцы ёсць,— усміхаючыся, адказаў Дубоўскі.

— Ага! Тады іншая справа.

— Яшчэ ад таго... засталася... ад таго дня...

— Разумею, Хвядос... Я застануся,— адказаў Буткевіч, зразумеўшы, што Дубоўскі хоча сказаць аб тым дні, калі пахавалі Наталлю Васільеўну і Тараса Ігнатавіча Гурына.

І вось з гэтага часу ажыў ціхі домік Хвядоса Іванавіча Дубоўскага. Як прыемна было пасля працы прыйсці дамоў, пабавіцца з дзецьмі, успомніўшы сваё, праўда не вельмі вясёлае, маленства.

Усе дробныя гаспадарчыя клопаты перайшлі ў рукі Сяргеевай жонкі, якая наладзіла парадак у хаце і невялікай гаспадарцы. Жыць яны пачалі дружна, як адна сям'я, і Хвядос Іванавіч быў вельмі рады, што ў яго шмат застаецца часу для работы ў школе.

67

Ігнасю хацелася быць дарослым. Ён заўважыў, што і Лявон, і Довід ставяцца да яго іначай, не так, як дагэтуль, нават прыслухоўваюцца да яго слоў. Але не раз Ігнась лавіў сябе на тым, што дзіцячага ў яго яшчэ хапае і яно іншы раз возьме ды вылезе на паверхню.

Недалёка ад яго сядзела Зося Ахрамовіч, прыгожая дзяўчынка, дачка настаўніцы першай групы. Пышныя русыя валасы яе былі заплецены ў чатыры касы, і кожны раз, зірнуўшы наперад, Ігнась бачыў яе галоўку. Яму рэдка даводзілася гутарыць з Зосяй, аднак ён пачаў заўважаць, што цікавіцца ёю. Нават не цікавіцца, а проста, зірнуўшы ў бок дзяўчынак, першай заўважае Зосю. Так між імі ўзнікла нейкая дружба.

Аднойчы, будучы ў вельмі добрым настроі, Ігнась скакаў, абапіраючыся на парты рукамі, і знячэўку выліў чарніла Лазоўскай Анелі. Яно разлілося на задачнік і сшытак. Анеля схапіла чарнільніцу, абмазала пальцы

і расплакалася. Збянтэжаны Ігнась стаяў і не ведаў, што рабіць ад сораму.

— Такія хуліганы...— плакала Анеля,— колькі не зрабі чарніла, усё выльюць...

«І чаго мяне панясло на яе парту,— думаў Ігнась,— мабыць, і сапраўды я нягодны хлопец». Ён апусціў галаву і сеў за парту. Брыдка было самому, што расскакаўся, як першакласнік... Добра, што хоць Янка не бачыў, а то проста сорам... А Анеля не супакойвалася:

— Заяўлю Хвядосу Іванавічу, няхай ведае, які яго «любімчык»!

Ігнась пачырванеў ад крыўды. Значыць, ужо і любімчык! А за што! За тое, што перапісаў Хвядосу Іванавічу спіс членаў літаратурнага гуртка. Проста несумленна назваць за гэта любімчыкам... Ён хацеў ужо абурыцца, але яго апярэдзіла Зося.

— Ну, расплакалася,— сказала яна Анелі.— А сама хіба не разліваеш! Які ён «любімчык»! Глупства якое пляцеш, аж слухаць няма чаго!

— А чым я буду пісаць на ўроку?

— Якая вялікая бяда! Маім будзеш пісаць.

Ігнасю стала зусім брыдка: дзяўчынка так рашуча і шчыра заступілася за яго.

— А ты чаго расскакаўся, як певень,— сурова звярнулася яна да Ігнася.— Вы, хлопцы, не можаце пасядзець на адным месцы.

— А вы, дзяўчынкі, не можаце абысціся, каб не паплакаць праз глупства ды яшчэ выдумаць на чалавека глупства,— панура адказаў Ігнась.

— Ох, як цябе, беднага, пакрыўдзілі! — з усмешкай адказала Зося.— Аж галаву апусціў! Скачы сабе, колькі ўлезе, а калі хочаш, стань дагары нагамі.

З гэтага моманту Ігнася не пакідала адна думка: напісаць Зосі пісьмо. Растлумачыць ёй, што яна добрая дзяўчына, што дзяўчаты ў большасці плаксы і без прычыны ненавідзяць хлопцаў, а хлопцы ў большасці задзіры, аднак выключэнні ёсць... Напрыклад, ён хоць і «хуліган», як казала Анеля, а Зося хоць і дзяўчына, аднак яны могуць сябраваць. Абы толькі было ў яе такое жаданне. У яго яно ёсць... Ігнась не раз абдумваў такое пытанне, «сяброўства,— думаў ён.— Я сябрую з Янкам Ткачуком. А якое сяброўства можа быць у мяне з Зосяй?» Ігнась думаў, што калі ён напіша такое пісьмо, то абавязкова

павінен паказаць яго Янку і прызнацца ва ўсім. Але ў чым прызнацца! Гэтага Ігнась па-сапраўднаму не разумеў. Нават не ведаў, з якога канца распачаць з Янкам гутарку. Паказаць жа яму пісьмо і нічога не казаць — нельга. Па-першае, Янка задасць яму сотню пытанняў, па-другое, пачне смяяцца. Ды ці толькі смяяцца! Ён проста адкіне Ігнася ад сябе: навошта яму такі сябра!

Часта Ігнась садзіўся за стол і пачынаў пісаць. Але выходзіла ўсё не тое, што трэба, і пісьмы ляцелі ў печ. Нарэшце, падумаўшы яшчэ раз, ён вырашыў, што, атрымаўшы такое пісьмо, Зося пакажа яго дзяўчынкам, і тая ж самая Анеля прыдумае на яго нешта яшчэ горшае, чым любімчык. І ён можа стаць пасмешышчам усяго класа.

Ігнась хацеў прагнаць такое жаданне, але яно не пакідала яго. І вось на ўроку ён выканаў пісьмовую работу задоўга да званка і, дастаўшы лісток паперы, пачаў пісаць. К канцу ўрока ў яго атрымаўся вершык:

Я верш напісаў.
Ён мне дзіўным паказаўся:
У ім многа я налгаў,
А ён праўдай называўся!

Прыпісаў у канцы І. М., скруціў і кінуў адрасату. К вялікаму яго задавальненню, лісток трапіў па прызначэнню. Зося разгарнула яго, прачытала і з удзячнасцю зірнула на Ігнася. К канцу другога ўрока ён атрымаў адказ:

«Ігнась!

Вы вельмі добры хлопец і вучыцеся лепш за ўсіх. Я Вас вельмі паважаю, і ўсе дзяўчаткі таксама. Вы будзеце вялікі *паэт* і *філосаф* (так і было падкрэслена). Я Вам дзякую за верш. Вы нікому не паказвайце майго пісьма, а я Вашага нікому не пакажу. І яшчэ я напішу Вам штонебудзь на памяць. У мяне дома ёсць альбом, і я туды перапішу Ваш слаўненькі вершык. З. А.»

Ігнась прачытаў адказ і ад шчасця і ўсхваляванасці адчуў сябе на сёмым небе. Куды падзелася тое дзяцінства! «Гэтыя дзяўчынкі заўсёды прыдумаюць нешта прыгожае, напрыклад: «слаўненькі вершык». Я ніколі не змог бы так прыгожа пахваліць рэч,— думаў Ігнась.— Я ска-

заў бы: нішто сабе верш, добры верш або важнецкі, або складны, а слаўненькага ніколі не прыдумаў бы».

Дома ён разоў дваццаць прачытаў пісьмо і нарэшце такі зразумеў да канца! Значыць, ён можа таксама напісаць ёй. І яна нікому не пакажа яго пісьма! Эх, Ігнась, які ж ты быў дурань дасюль!.. Так між імі завязалася перапіска. Яны, спаткаўшыся ў калідоры адзін на адзін, моўчкі, страшэнна саромеючыся, абменьваліся пісулькамі, не гаворачы пры гэтым ні слова...

З таго часу Ігнась лажыўся спаць і ўставаў з думкай аб Зосі. І думка гэтая не замінала яму вучыцца і працаваць. Наадварот, яна натхняла яго. Толькі адно трывожыла яго сумленне: усё гэта ён старанна хаваў ад Янкі. Хаваў міма сваёй волі, бо хацелася, вельмі хацелася расказаць Янку пра ўсё. І ён не раз збіраўся зрабіць гэта, але калі прыходзіла магчымасць, то язык яго дзеравянеў. І так пры кожнай сустрэчы з Янкам Ігнась адчуваў сябе вінаватым...

Ноччу, калі заснуць таварышы і супакояцца за сцяной гаспадары, да яго прыбягалі мары. Легкакрылыя, радасныя, яны запаўнялі Ігнасёву істоту. У галаве разгортваліся незвычайныя падзеі: бойкі, змаганне, пабудова небывалых дасюль гарадоў, вандраванне ў далёкія краіны, рэвалюцыі ва ўсім свеце, і ў цэнтры ўсіх падзей — Ігнась Марыніч і Зося Ахрамовіч. Немалую дапамогу ім аказваюць Янка Ткачук, Лявон, Довід, Пятрусь, усе таварышы. Іх, безумоўна, няможна было пакінуць у баку ад такіх важных падзей...

Часамі Ігнась успамінаў Лявонаву Марыну. «Дзівачок, ты яшчэ не ведаеш гэтага...» Памыляешся, Лявон, калі і цяпер так думаеш? Помніш, як ты паказваў пісьмы ад Марыны. Цяпер ты іх чытаеш Довіду, бо я яшчэ «дзівачок, нічога не ведаю...».

**68**

Язэп Калядка прачнуўся рана. Ён наогул рана ўставаў, але сёння яшчэ не пара была ўставаць.

У маленькай яго хаціне было цёпла і ўтульна. Зімняя месячная ноч паглядала ў вокны. Свяціў поўны месяц, і праз акно відаць былі стрэхі смалярні, пакрытыя бліскучым снегам, і агароджа, што абкружала заводзік. Усё навокал іскрылася інеем. «Вось і добра, што не

ўставіў падвойных рам у вокны»,— падумаў Язэп. І яму прыпомніліся першыя месяцы жыцця на гэтым месцы.

Вярнуўшыся з бежанства ў Беларусь, ён асеў у мястэчку, якое сваімі аколіцамі нагадвала родную Піншчыну, і пачаў шукаць сродкаў для жыцця. У той час, час разрухі, яму, рабочаму, знайсці іх было нялёгка. Нейкі, праўда нядоўгі, час прыйшлося заняцца сезоннай работай у кулакоў. Нязвыкла было яму, сыну бондара і самому бондару, малаціць цэпам збажыну ў палескіх кулачкоў, аднак умовы вымагалі гэтага.

У той час прыйшлося жыць у падсуседзях у местачковага селяніна. Калядка адразу звярнуў увагу на смалакурны заводзік, апусцелы і закінуты пад самае балота на канец мястэчка. Таму і будавацца пачаў тут, бо меў пэўную надзею, што з цягам часу заводзік аджыве.

Пакрысе Язэп збудаваў халупу, падобную на лазню. Вельмі ж маленькай яна выглядала, асабліва знадворку. Нельга было ўявіць, што ўнутры можа змясціцца печ, ложак і стол. Большая хата і не была патрэбна. Двое дзяцей памерлі зусім малымі ў часе блуканняў у бежанстве, і цяпер, калі падыходзіла старасць, ён лічыў, што яму з жонкай хопіць і такога кутка.

Пасяліўшыся каля завода, Язэп вырашыў вярнуць яго да жыцця. Нямала намаганняў патраціў ён, каб прывесці яго ў дзейнасць. Шмат чаго не хапала з абсталявання, печы неабходна было капітальна рамантаваць. Прыйшлося ўкласці сюды шмат працы, і толькі дзякуючы дапамозе, якую адразу аказалі яму партыйная ячэйка і выканком у асобе Буткевіча, удалося пусціць заводзік у ход, даць заробкі некалькім сем'ям такіх жа беззямельных бежанцаў-пінчукоў.

Па сутнасці хата служыла яму толькі месцам адпачынку. Большую частку сутак ён праводзіў на заводзе, у сваёй бандарнай майстэрні. Ён любіў сваю працу, а за час станаўлення заводзіка палюбіў і яго, як сваё кроўнае дзіця, і не мог уявіць, што яму прыйдзецца працаваць на іншай рабоце.

Аднак прыйшлося.

Язэп запаліў лямпу. Старыя ходзікі кульгава чыкалі на сцяне. Язэп зірнуў на іх: было чатыры гадзіны. Рана. Але Язэп адчуваў, што больш не засне. Ён закурыў, смачна зацягнуўся дымам і прысеў ля стала.

Змена, якая адбылася ў жыцці, была незвычайная і крыху выпхнула Язэпа з каляіны. Гэта не важна, што зламаўся распарадак рабочага дня. Распарадак дня ламаўся і ў тую трывожную пару, калі ён узначальваў атрад па барацьбе з бандытызмам. Але ён ведаў, што будзе рабіць. Тады былі іншыя ночы, і зусім не даводзілася спаць, але не было ні разгубленасці, ні стомы, наадварот, ён адчуваў сябе спакайней, бо верыў, што даручаную справу ён выканае. Акрамя таго, ён заўсёды адчуваў дапамогу старэйшых таварышаў: Қавалёва, Буткевіча, Руткоўскага... А цяпер яму здавалася, што ён стаіць на вельмі зыбучай глебе.

Справа ў тым, што партыйная ячэйка даручыла яму арганізацыю арцелі па асушцы Рэгелеўшчыны і кіраванне ўсёй работай.

Язэп не спалохаўся. Ён нават не адмаўляўся, бо ведаў, што партыя даручае яму надзвычай важную справу.

— Таварышы,— сказаў ён,— я падпарадкуюся партыйнай дысцыпліне, буду старацца і аддам усе свае сілы, але ж я толькі бондар, просты рабочы. Ці змагу я апраўдаць ваша давер'е? Можа, мы ўсе памыляемся: і вы, ускладаючы на мяне такія абавязкі, і я, прымаючы іх... я ж толькі просты рабочы.

— І гэта вельмі важна, таварыш Қалядка,— адказаў яму Қавалёў. Рабочы клас у Расіі нізрынуў уладу цара, памешчыкаў і капіталістаў, узяў яе ў свае рукі, разграміў інтэрвентаў і здолее пабудаваць сацыялізм.

— Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, таварыш Қавалёў,— дадаў Қалядка.

Қавалёў засмяяўся сваім асаблівым смехам.

— А хіба ты застаешся адзін, Язэп Іванавіч! Хіба камуністычная партыя аддае табе арцель у арэнду? Ды яна ж — камуністычная партыя — будзе заўсёды з табою і навучыць і дапаможа.

І Язэп узяўся за работу. Нялёгкая яна была. Гэта была нават не адна работа, а тысяча, якія павінен быў ахапіць Язэп Қалядка — просты рабочы. Адным справам трэба было даць напрамак, другія паскорыць, трэція спыніць, чацвёртыя перадаць каму-небудзь, а за некаторыя брацца самому, закасаўшы рукавы.

Нават у самыя цяжкія хвіліны. Язэп не бянтэжыўся, не траціў надзеі на перамогу. Ён ведаў, што барацьбы без цяжкасцей не бывае. Трэба перамагчы ўсё, як тады

перамаглі банду. Хіба змаганне з разрухай, з беднасцю і малазямеллем не з'яўляецца своеасаблівым працягам барацьбы з такімі ворагамі савецкай улады, якімі былі бандыты? Язэп Іванавіч быў упэўнены, што гэта іменна так.

Калі аднойчы ён сказаў Кавалёву, што іншы раз не ведае, за што прыняцца, той яму адказаў:

— Навучышся, Язэп Іванавіч. Гэтая навука называецца ўменнем кіраваць.

І вось пакрысе Язэп Калядка вучыцца кіраваць. І сёння прачнуўся рана, бо ёсць у галаве клопат, які не дае спаць.

Арганізацыя арцелі па асушцы Рэгелеўшчыны ўзняла вялікі шум. Мястэчка, якое знаходзілася на жоўтых пясках, было населена малазямельнымі сялянамі. У самыя лепшыя гады яны не маглі пракарміцца са сваіх ураджаяў. Гэта прымушала людзей кідацца ў розныя бакі ў пошуках заробкаў. Мястэчка пастаўляла парабкаў у памешчыцкія і кулацкія гаспадаркі. Людзі знаходзілі не толькі паўночную, але і паўднёвую Амерыку.

Не ўсе аднолькава сустрэлі такую навіну. Былі такія, што бачылі ў гэтым збавенне ад малазямелля, але некаторыя не верылі, што з гэтага нешта выйдзе. Многія меркавалі, што асушаная зямля будзе раздадзена ў прыватнае карыстанне.

І партыйная арганізацыя на чале з Кавалёвым і сам Калядка добра ведалі гэта. Іх не здзівіў паток заяў у арцель, які паступаў штодзень. Трэба было растлумачыць людзям, што асушаная зямля будзе апрацоўвацца не аднаасобна, а арцеллю. І ў выніку значная частка людзей адскочыць убок, застануцца толькі тыя, хто паверыць у моц калектыву.

Вось гэтыя думкі і ўзнялі Калядку з пасцелі не ў пору... Сёння адбудзецца першы сход тых, хто падаў заявы. Да яго трэба добра падрыхтавацца... Трэба растлумачыць людзям мэту, з якой арганізуецца арцель, давесці ім, што дзяржава бярэ на сябе толькі частку выдаткаў, што большую частку работы трэба будзе зрабіць самім, сваімі рукамі. Калядка адчуваў, што сёння дапамога партыі яму неабходна, як ніколі, і ён вырашыў, як толькі пачнецца світанне, ісці да Кавалёва.

Ідучы дамоў, Ігнась убачыў падводу, якая стаяла ля Алтаравага дома, і пазнаў, што яна з Загалля. Па кані пазнаў. Конь быў Рамана Кругляні. «Мабыць, харчы мне прывезлі»,— здагадаўся Ігнась. Але як ён узрадаваўся, калі на ганку яго сустрэў Сафрон. Даўно Ігнась хацеў пабачыць яго, але ўсё не выпадала схадзіць дамоў.

— Здароў, Сафрон! Як ты трапіў сюды?

— Прыехаў. Здароў, Ігнась! Па справе прыехаў, не абы-чаго. Табе торбу прывёз ды чакаю, калі ты з'явішся, а то б я паехаў ужо.

— Хадзем у хату.

— Не. Мне трэба хутчэй дадому, а то звечарэе... Аднак давай зойдзем ненадоўга.— Ён выняў з саней торбу, аддаў яе Ігнасю, і абодва пайшлі ў хату.

— Ну, як там у вас? — запытаўся Ігнась.

— А вось і буду хваліцца. Чуў, як мы бандытаў з Ярэміч прыкончылі?

— Чуў, Сафрон, і нават зайздрошчу вам.

— Зайздросціць няма чаму. Мала мы яшчэ зрабілі. А я ж, ведаеш, сакратар ячэйкі. Затым і сюды прыехаў. Кніг набраў болей паўсотні, і п'есы ёсць. У Ярэмічах у папоўскім доме клуб сабе зрабілі, малюнкі туды вязу, а то пуста ў ім. Чытаю, брат Ігнась, так, што аж галава трашчыць. Спачатку трашчыць, але як прачытаю ды зразумею, адразу святлей зробіцца ў ёй... А колькі моладзі да нас збіраецца! За дзесяць вёрст ходзяць. От і жыццё ў нас пачалося!

Ігнась слухаў і радаваўся не менш, чым сам Сафрон.

— Лоўка выйшла, Сафрон! Так лоўка!

— Пачакай! Яшчэ лаўчэй будзе!

— А спектаклі ставілі?

— Дзе ты бачыў! Часу яшчэ не было. Але цяпер паставім. Ахвотнікаў жа на гэтую справу больш чым трэба.

— Ты мне столькі нарасказваў, што аж дамоў захацелася.

— А ты прыйдзі калі-небудзь. Ты, Ігнась, не адрывайся ад нас... Ага, я ж табе пісьмо прывёз, наш Мікіта піша табе! — ён дастаў з кішэні ліст.

Ігнась разгарнуў яго і прачытаў наступнае:

«Добры дзень, Ігнась, гэта я пішу табе, Мікіта Кругленя, твой таварыш. Жыву я цяпер, можна сказаць, што

дрэнна, бо сумна мне тут і ўспамінаю цябе. А Сафрон наш такі ганарысты стаў і са мной не вельмі гаворыць, а я хачу ў камсамол, каб разам з ім у Ярэмічы хадзіць, а ён кажа — ты малы. Ты скажы Сафрону, каб ён запісаў мяне ў камсамол, бо я мала малодшы за цябе, а ты ўжо камсамолец. Прашу цябе, Ігнась. Кругленя Мікіта».

Ігнась прачытаў ліст і ўсхваляваўся: Мікіта стаяў у вачах, хлапчына-падлетак, з гарачым жаданнем прымаць удзел у сапраўдным жыцці... Гэтае маленькае пісьмо дало Ігнасю нават больш, чым Сафронаў расказ. Ён цяпер яскрава ўявіў тое новае, што пачало ламаць палескую глуш, клікаць яе да лепшага жыцця.

— Слухай, Сафрон, чаму ж ты яго не пускаеш на вашы сходы?

— Каго, Мікіту? Дык ён яшчэ малы!

— На будучы год будзе камсамолец. Няхай прывучаецца. І я камсамольцам не быў, а ў камсамольскі клуб хадзіў.

— Па праўдзе табе сказаць, не я не пускаю яго, а бацька. Ён і на мяне аскірзаецца ды злуецца, іншы раз гатоў і па карку даць.

— А ты пагавары з ім, як сакратар камсамольскай ячэйкі.

— Эх, Ігнась! Паспрабуй ты з ім пагутарыць, калі ён не даецца на гэтую гутарку. «Э-э-э,— кажа,— блазен ты яшчэ мяне вучыць...» У вёсцы, Ігнась, не тое, што ў мястэчку. Цяжка ў нас працаваць. Папа з хаты перасялілі ў меншую, дык бабы грызуць: бязбожнікі вы... Кулакі таксама... За дапамогу галадаючым колькі мы пазмагаліся! Хто бядней, дык ад сябе рве ды дае, а хутаранцы — кулач'ё гатова зубамі цябе за горла схапіць... Ну, братка Ігнась, прыходзь да нас, не цурайся, а я паеду.

— Я цябе правяду, Сафрон.

Ужо цямнела, калі Ігнась, правёўшы Сафрона, ішоў дамоў. Ён думаў, што Сафрон, як камсамолец, зрабіў ужо больш за яго. Значна больш... Яму хацелася самому быць удзельнікам таго змагання, якое цяпер ідзе ў Ярэміцкім сельсавеце. І адначасова другая думка трывожыла яго: чым бы ён дапамог там? Мала ў яго ведаў, няма вопыту, і Сафрон у многа разоў болей ведае аб вясковым жыцці, чым ён.

Вечар наступіў марозны і зорны. Ігнась пайшоў па тратуары, і прыемна было чуць хруст снегу пад нагамі.

## 70

Міхал Плышэўскі адчуваў, што свет для яго пачаў сыходзіцца клінам. Такое адчуванне з'явілася даўно, пасля таго дня, калі прыехаў Патапчык і забраў з сабою Сымона. Але ў той час гэтае адчуванне не так пякло. Тады была надзея на лепшае.

Сымон прыходзіў дадому рэдка і заўсёды ў начны час, але настрой яго быў бадзёры і ваяўнічы. Пазіраючы на сына, Міхал і сам падбадзёрваўся, нават ухмыляўся ў доўгія шляхецкія вусы. Прабаваў распачаць гутарку з сынам, але той гаварыў мала, затое шматзначна.

Міхал чуў аб рабаваннях і забойствах, аб нападзе на Лясное, добра ведаў, што да ўсіх гэтых спраў мае немалое дачыненне і яго сынок, аднак лічыў гэта неабходным, заканамерным і зусім не злачынным. «Эт, хамаўё кажа: бандыты забілі, бандыты абрабавалі... Хіба мой Сымон бандыт! Гадаўё! А каб да вас трапіў Патржанецкі або, крый божа, мой Сымон, то хіба вы іх па галаве пагладзілі б! Уга!»

Аднак час ішоў, і таго, другога, чаго так чакаў Міхал, не было. І ў яго пачало балець сэрца. Некалькі разоў ён хацеў пагутарыць з Сымонам, распытаць яго, калі ж, нарэшце, пачнецца сапраўдная вайна, дакуль жа будуць чакаць паны, калі, нарэшце, рынуцца яны на бальшавікоў. Адновяць старую ўладу з панамі, з маёнткамі, са свентым касцёлам? Але Сымон не даваўся на гутарку.

Ужо тады з'явілася ў Міхала горкая думка: Сымон і сам нічога не ведае... І Патржанецкі не ведае... Ды хіба так рыхтуюцца да вайны! Мужыкі звяррэюць, няхай толькі з'явяцца паны, дык усе за сякеры схопяцца...

Сказаў пра гэта Сымону, але ён махнуў рукой і агрызнуўся:

— Не твая справа, татусь.

І ўсяк пасля таго думаў Міхал: «Свенты пан Езус, а можа, так трэба. А можа, сам пан Пілсудскі меў наконт гэтага размову з панам Патржанецкім...» Ад такіх думак святлей рабілася на душы. Калі ж аднойчы Сымон, з'явіўшыся дадому, высыпаў бацьку ў прыгаршчы цэлую жменю золата, Міхал ледзь не абамлеў ад шчасця. Ён увесь закалаціўся і гатовы быў пацалаваць сынаву руку.

Пасля таго калі Сымон з'яўляўся дадому, Міхал пасабачы заглядаў яму ў вочы, і рукі мімаволі складваліся ў прыгаршчы. Але грошай ад сына Міхал больш не бачыў. Аднак з пустымі рукамі сын не прыходзіў. Ён прынасіў дарагія гадзіннікі, бранзалеты, пярсцёнкі, партабакі, прыгожыя скрыначкі, хром і падэшву, шоўк і сукно. Міхал ведаў, адкуль Сымон бярэ такое багацце, але сумленне ні разу не кранула яго душы. Ён чакаў яшчэ лепшага, марыў пра ўласны маёнтак.

І прыйшоў час, калі ўсе яго мары разляцеліся ў пух і прах.

Аднойчы ў познюю ноч глуха і злавесна шумеў лес. Міхал сядзеў над кантычкай адзін пры каганцы. Сям'я ўжо спала, а яго не браў сон. Вецер біў у аконныя шыбы, на даху стукала адарваная дошка, на страсе хлява шалясцела салома. Упершыню за ўсё жыццё на хутары Міхал адчуў не толькі адзіноту, але і страх. Раптам праз усе гэтыя гукі ён пачуў шкрабанне каля дзвярэй на ганку. Яго мімаволі нешта ўзняло з месца і павяло на ганак.

Адчыніўшы дзверы, Міхал адразу пачуў стогн. Ён нагнуўся і хутчэй адчуў, чым пазнаў, што гэта Сымон. Абарваны і растрапаны, ён качаўся каля парога і не мог устаць.

Міхал так-сяк завалок яго ў хату. Ён хацеў пасадзіць сына на лаве, але той абсунуўся, як мех, і страціў прытомнасць.

Толькі цяпер, пры цьмяным святле каганца, Міхал убачыў, што Сымон паранены.

Калі ён апрытомнеў, то дзікімі вачамі абвёў пакой і страшна крыкнуў, але, убачыўшы перад сабою бацьку і маці, абвяў і прашаптаў:

— Ратуй, татусь... Хавай мяне, дзе хочаш... Усяму канец...

Вось ад гэтага часу і пацягнуліся жахлівыя дні. Ужо назаўтра Міхал уведаў, што ў Ярэмічах забілі бандытаў і што паранены Сымон вярнуўся адтуль.

Сымона пасялілі ў склепе. Насілі туды вуголле ў вялікім чыгуне, каб было цёпла. Лячылі дамашнімі лекамі. Раны загойваліся памалу, гнаіліся і распухалі.

Сымон, нарэшце, падняўся на ногі, пачаў хадзіць. Са склепа перабраўся ў хату і хаваўся ў склеп тады, калі на хутары з'яўляўся чужы чалавек.

Пануры, злосны і заклапочаны, ён ні з кім не гута-

рыў. Але еў, то дай божа! Замкнуўшыся ў пустым пакоі, праседжваў там цэлыя гадзіны. Міхал праз замочную шчыліну не раз падглядаў, што ён там робіць. Бачыў: раскладае Сымон дарагія рэчы, што нарабаваў у людзей. Упершыню так і падумаў Міхал: нарабаваў. Перакладае іх з месца на месца, запакоўвае. У другі раз бачыў, што чысціць рэвальвер.

Спачатку Міхал хацеў вылаяць, але калі сустрэўся позіркам з сынам, то сэрца яго скочыла ў пяткі. Такімі халоднымі, драпежнымі вачамі зірнуў на яго Сымон, што бацька адчуў: баіцца сына. Баіцца ўласнага сына!

І з кожным днём у яго расла злосць на Сымона. І не толькі таму, што баяўся. Ненавідзеў сына за тое, што той убіў у яго галаву дзікую надзею на ўласны маёнтак, а потым без жалю знішчыў яе. І не толькі таму. Сын цяпер быў у хаце дармаедам, лішнім чалавекам, які замінаў Міхалу, атручваў яго жыццё.

Ужо не пра маёнтак думаў Міхал. Уласны хутар стаў цяпер для яго даражэйшым, чым быў. Як зберагчы, як апрацаваць. Трэба было пахадзіць па вёсках, загадзя наняць парабкаў, але як прывесці іх у хату, куды дзяваць Сымона?

Апанаваны такімі думкамі, Міхал адважыўся і запытаў сына:

— Дык як жа ты думаеш жыць? Так і будзеш хавацца ўсё жыццё?

Сымон, мабыць, чакаў такога запытання. Ён халоднымі вачамі зірнуў на бацьку і адказаў:

— Я ўжо і сам бачу, што я тут лішні.

— Лішні, як пан буг свенты! — крыкнуў Міхал.— Мне работнікі патрэбны, дзе я цябе дзену!.. Ты мне маёнтак абяцаў, а цяпер сам на мой карак сеў. Мне маёнтак не трэба, дай, свенты буг, хутар зберагчы!.. Даведаюцца пра цябе — усё лясне і сам на старасці год у турме згнію...

Сымон крыва ўсміхнуўся.

— Не бойся. На тваім карку сядзець не буду. Я сабе знайду дарогу. Шукай ідзі парабкаў.

Ён устаў з-за стала і накіраваўся ў склеп.

Потым, калі Міхал рваў на галаве валасы, то ўспомніў і гэты момант. Чаму ён тады не палез за сынам у склеп! Дык не, ён узрадаваўся і пайшоў у Ярэмічы.

Аднак не дайшоў. Не паспеў адысціся за паўвярсты, як сустрэў свайго суседа, таксама шляхціца-хутаранца Герастовіча.

Не паспеў Міхал сказаць: дзень добры, пане Герастовіч, як той ужо запытаў:

— У цябе яшчэ не абмяралі зямлю, пане Плышэўскі?

— Як гэта: абмяралі, пане Герастовіч! — здзівіўся Міхал і нават хацеў пажартаваць.

Але жарты былі малыя. Герастовіч сказаў, што ва ўсіх хутаранцаў і нават у некаторых вясковых сялян абмяраюць зямлю, а вясной лішнюю абрэжуць. Не толькі панскую, але і сваю, калі яе замнога.

Міхала закалаціла ад такое навіны.

— А хто ж... а хто ж абмяраў, пане Герастовіч? — запытаў ён, заікаючыся.

— Вядома ж хто: яны! Галамака ярэміцкі, нейкі камсамольчык з Загалля і Яўхім-Мядзведзь, каб на іх скулы... А гэты ж Мядзведзь, ліха матары яго!.. Усе паляначкі ведае, усе куточкі... Дык у цябе яшчэ не былі? А ў мяне ўжо былі. Чакай, сёння і да цябе прыйдуць.

Міхал колькі было моцы памчаўся на хутар. Трэба было сказаць Сымону, каб не вылазіў са склепа.

Калі ён, задыхаючыся, ускочыў у хату, Сымон толькі выбраўся са сваёй схованкі. Міхал не заўважыў адразу, што ён ужо гатовы ў дарогу, і крыкнуў:

— Хавайся хутчэй!.. Ах, свенты пан Езус!.. Прапаў мой хутар...

— Чаго ты, татусь? — спалохана запытаў Сымон.

— Зямлю абмяраюць... Хутка сюды з'явяцца Галамакі тыя... Зямлю адбіраюць, маю, крэўную...— і ён заплакаў.

Сымон бліснуў вачамі.

— Зямлю адбірае? — запытаў ён.— Галамака?.. Ну, дык бывай, татусь, мне пара...

— Ты зусім? Узяў бы кавалак на дарогу...

— Знайду ўсё, што мне трэба!

Толькі цяпер заўважыў Міхал клунак на плячах сына. Сымон, не развітваючыся з маці і меншымі, выйшаў на двор і знік у лесе.

Некалькі хвілін Міхал стаяў, як аслупянелы. Ён не мог зразумець, як хутка і нечакана ўсё адбылося. Чаму Сымон ні з кім не развітаўся? Раптам страшная зда-

гадка асвяціла яго галаву. Ды ён жа і з ім не думаў развітацца! Ён хацеў выйсці патаемна, пакуль бацькі не будзе дома, бо калі Міхал нечакана вярнуўся, то ён ужо быў гатовы ў дарогу. Гэтая здагадка выклікала другую, і Міхал, як ашалелы, кінуўся ў склеп. Вось там ён і ўхапіў сябе за валасы. Выявілася, што сын разам са сваім скарбам прыхапіў і бацькаў. Час, які ён праводзіў у склепе, не прайшоў дарэмна. Ён знайшоў бацькаву схованъ.

Як апантаны, выскачыў Міхал са склепа. З дзікімі вачамі, пачарнелы, раскудлачаны, ён ужо быў падобны не на ваўка, а на д'ябла...

## 71

Зіма падыходзіла к канцу. Трымалі яшчэ марозы, і падаў снег, але ўдзень так прыгравала сонца, што ў зацішках раставала. Першыя кволыя сасулькі павіслі пад стрэхамі. Былі яны вельмі тонкія, кароценькія, але падрасталі з кожным сонечным днём. Паглыбела неба, вечарамі гэта асабліва было прыкметна. Цёмна-сіняе, яно пачало адліваць нейкім зялёным адценнем. Папрыгажэлі ранішнія зоры, нібы памаладзелі, і пачалі ярчэй ззяць. Адмяк вецер і патыхаў прыкметнай вясенняй вільгаццю.

Ніхто так не адчувае набліжэння вясны, як дзеці. Іх ужо ад раніцы нешта кліча на двор. І хоць гульні яшчэ старыя, зімнія, але праходзяць яны жвавей і весялей.

Цікавы і вясёлы час, калі няма яшчэ ні цеплыні, ні вясны, але прырода ўжо адчувае іх надыход і цягнецца ім насустрэчу.

Калі пачынала цямнець, Ігнась з таварышамі ішоў на раку. Каталіся на каньках да ночы, пакуль не пачынала засынаць мястэчка.

Сход пачаўся ў дзесяць гадзін раніцы, а скончыўся толькі пад вечар.

Язэп Калядка пасля сходу ішоў дамоў. Дзень быў хмуры. З раніцы павеяў заходні вецер, нагнаў хмар і прынёс адлігу. Са стрэх лілося цурком. Абмерзлыя дрэвы скідалі са свайго галля не толькі кроплі вады, але і ледзяную кару. Гэтыя ледзячкі звонка падалі на тратуары. «Блізка вясна»,— думаў Калядка. У яго ўяўленні

паўставала работа, якая прыйдзе сюды разам з вясной.

Нетаропка крочачы па слізкім тратуары, Язэп нанава перажываў той сход, які толькі што адбыўся. Ён баяўся сходу і прызнаўся аб гэтым Кавалёву. Заспакоены, першым прыйшоў у тэатр, бо нават не надта быў упэўнены, што, акрамя бежанцаў-пінчукоў, нехта сюды прыйдзе.

Аднак людзі пачалі збірацца. Яны ішлі і групамі, і па адным. Ішлі паважна і не спяшаючыся, спыняліся ля дзвярэй, доўга глядзелі на аб'яву, нібы хацелі вычытаць у ёй нешта незвычайнае, закурвалі на ганку і ўжо тады заходзілі ў памяшканне.

На пярэдніх лаўках было пуста. Тыя, што прыходзілі раней, займалі заднія, але і тут выбіралі месцы ў кутках, далей ад акон. У гэтых людзей Калядка не верыў. Іх сюды прывяла цікаўнасць: калі наклюнецца нешта добрае, то можна ўступіць у арцель, а калі не, то яны адразу пакажуць пяткі. Сабраўшыся групамі, яны ўпаўголасу вялі размовы, але не аб арцелі. Кожны думаў: «Ат, пасяджу, паслухаю, а там будзе відаць. Лёгка ўпрагчыся, надзець на сябе хамут, але як потым будзе распрагацца».

Аднак былі і іншыя. Калядка адразу звярнуў увагу на высокага селяніна ў латаным паўкажушку і ў салдацкіх чаравіках, немаладога веку. У вачах яго разам з задуменнем было нямала злосці. У памяшканні ён адразу пайшоў да сцэны і сеў на самую пярэднюю лаўку.

Услед за ім прыйшлі яшчэ некалькі сялян, потым яшчэ, і ўсе яны ішлі наперад і садзіліся каля першага.

Потым цэлай групай прыйшлі пінчукі — землякі Калядкі. Яны абкружылі Язэпа, пачалі гутарыць і смяяцца, адразу ўнеслі ажыўленне ў залу. Яны і селі разам, заняўшы першыя месцы. Вось у іх і быў упэўнены Язэп. Не многа, дваццаць тры сям'і, але іх Калядка лічыў асновай арцелі.

К пачатку сходу пярэднія і самыя заднія лаўкі былі заняты людзьмі, а сярэднія пуставалі.

Пасля выступлення Кавалёва некаторы час было ціха. Аднак цішыня стаяла нядоўга. Нехта крактануў у самым куце, нехта шырока пазяхнуў, так, як пасля сну, нехта кашлянуў. Нарэшце, з самых задніх радоў пачуўся голас:

— Значыць, камуна, таварыш Кавалёў?

— Не камуна, а арцель,— паправіў Кавалёў.

Заднія рады заварушыліся, зашумелі.

— Адзін будзе балота сушыць, а другі сам на сонейку сушыцца!

За гэты кароткі час тыя, што сядзелі ззаду, прыгнуўшыся, па адным знікалі за дзвярамі.

Пінчукі нахмурана маўчалі. Сяляне з пярэдніх лавак горача гутарылі між сабой, размахвалі рукамі. Толькі селянін у латаным паўкажушку адказваў на запытанні, якія яму задавалі суседзі, роўным, спакойным голасам.

— Можа, папярэдзіць, каб не выходзілі? — шэптам запытаў Калядка ў Кавалёва.

— Не трэба,— коратка адказаў той.

Больш трэцяй часткі прысутных пакінулі сход. Частка сялян з задніх лавак пачала паволі набліжацца да пярэдніх і запаўняць сярэдзіну. Заднія лаўкі апусцелі.

Сярэдзіна паводзіла сябе вельмі дзейна. Колькі меркаванняў і прапаноў выносіла яна! Усе былі згодны, што Рэгелеўшчыну трэба асушыць, але, асушыўшы, раздаць кожнай сям'і па ліку едакоў. Частка і з гэтым была не згодна. Калі раздаваць, то не на едакоў, а на рабочых.

— А мо я адзін зраблю больш, чым трое? Як гэта на рабочых! — з абурэннем запытаў дужы, яшчэ малады чалавек.

— Вядома! Хто больш зрабіў, таму больш і даць,— падтрымалі яго.

І вось тады падняўся селянін у латаным паўкажушку.

— Тыя ўжо паўцякалі! — з абурэннем сказаў ён, паказаўшы рукой на пустыя заднія лаўкі.— А вы сюды падсунуліся... Вам трэба арцель, каб да сваёй зямлі кавалак Рэгелеўшчыны дадаць! Яшчэ не асушылі, а ўжо гатовы на кавалкі парваць. А мне трэба жыць! Каб дзеці мае жылі па-людску... У мяне няма да чаго дадаваць тае Рэгелеўшчыны... Мы згодны! Таварышы Калядка і Кавалёў, мы тут усе з Крапівінскай вуліцы згодны! — ён абвёў позіркам сваіх суседзяў.— Ад пінчукоў не адстанем. Калі дзяржава дапамогу дае, дык што ж! Значыць, думае аб нас наша ўлада. Так я кажу ці не, суседзі? — звярнуўся ён да сваіх сяброў.

— Так, Мікалай, так! — падтрымалі яго.

— А яшчэ пытанне ў нас адно ёсць. Кожны з нас мае па кавалачку зямлі, то яна як? Таксама агульнай стане?

— Вядома, таварыш,— растлумачыў Кавалёў.

— Ну, вось, я так вам і казаў. Значыць, я правільна зразумеў тое, аб чым гаварыў таварыш Калядка. Цяпер яшчэ адно пытанне. А пакуль будзе ісці асушка, то мы сваёй зямлёй будзем карыстацца самі?

— Будзеце карыстацца аж датуль, пакуль не здымеце першага ўраджаю з арцельнай зямлі.

— Дык я ж вам так і казаў,— зноў растлумачыў ён свайму таварыству.— А асушыць — асушым! Не за год, дык за два! І не будзем рваць на кавалкі ды цягнуць да сябе, а свае кавалачкі, хоць і невялікія, дадамо да яе!

— То ж бо табе не шкада, што невялікія! — адказаў яму нехта з сярэдніх крыкуноў, знікаючы за дзвярамі.

Вынікам гэтага сходу было тое, што з двухсот чалавек, якія падалі заявы, засталіся толькі восемдзесят пяць.

Сядзець дома Калядку не было часу. Заадным паабедаўшы і павячэраўшы, ён адпачнуў не больш паўгадзіны і пайшоў на бюро партыйнай ячэйкі, якое павінна было адбыцца ў кабінеце Буткевіча.

## 72

Грэйнім увайшоў у хату цёмны і пануры, як асенняя ноч. Хатніх дома не было, толькі ў спальні чуліся крокі маці. Грэйнім хацеў зайсці туды, але, падумаўшы хвіліну, махнуў рукою. Тую непрыемную навіну, якую ён прынёс, трэба было спачатку расказаць бацьку.

Так, навіна была непрыемная. Гэта была нават не навіна. Гэта была навала, няшчасце, гора, бяда — усё ў адной торбе.

«А-а, Ісроэл Бірг! — са злосцю і адначасова з жалем думаў Грэйнім.— Ты разумны! О, ты вельмі разумны!.. Калі табе што-небудзь скажа Грэйнім Сапун, то ты надзьмешся, як сем індыкоў, і крычыш: «Што ты мяне вучыш! Каго ты вучыш! Ідзі павучы свайго бацьку! Я тут большы гаспадар за цябе...» Гаспадар! Цяпер ты гаспадар, Ісроэл Бірг... Калі табе сказаў Грэйнім Сапун, што гарнцавы збор трэба здаваць ў тэрмін, то ты скасабочыўся і сказаў: «Сапуны ўсе бальшавікі і бязбожнікі. Калі хочаш, то здавай сваю чацвёртую частку, я цябе за рукі не трымаю...» А калі табе сказаў Грэйнім Сапун, што трэба вывезці збожжа з паравіка, бо цяпер такі свет, што ўсё можа здарыцца, то ты зашыпеў, як гусак: «О-о, ты ра-

зумны, як вучоны сабака, ты ведаеш усё, што можа здарыцца! Бяры сваю чацвёртую частку і высып яе ў Случ». А збожжа сабралася шмат, больш чым паўтары тысячы пудоў... А сёння, на табе: тыц у паравік камісія з воласці... Гэтыя басякі, ліха іх матары, як яны ўсё ведаюць, адразу папрасілі ключ ад кладовай. Вось тады ты быў гаспадар, Ісроэл Бірг... Тады ты стаў такі белы, што нават мучны пыл быў непрыкметны на тваім твары... Ты падаваў ключы, і рукі твае дрыжалі, як у стогадовага дзеда...»

Успомніўшы гэта і тое, што адбылося далей, Грэйнім устаў і нервова прабег па пакоі. Чым жа гэта скончылася!.. Ах, чорт!.. Гэта скончылася тым, што Ісроэл Бірг застаўся без паравіка, а Грэйнім Сапун без чацвёртай яго часткі... Млын нацыяналізавалі... Ідзі, паспрабуй, пажалься! Яны мелі падставы: не заплачана пяцьсот пудоў гарнцавага збору і знойдзена больш тысячы пудоў збожжа, з якіх чацвёртая частка Грэйнімава! 260 пудоў! У цяперашні час гэта багацце. А заўтра прыйдуць фурманкі і павязуць збожжа ў Слуцк. Толькі Ісроэл Бірг і Грэйнім Сапун не пакладуць у свае кішэні грошай... А маглі б пакласці... Грэйнім застагнаў. Ён цяпер мог нават заплакаць. Дасюль ён лічыў сябе самастойным чалавекам. Ён еў свой хлеб, меў уласны прыбытак, меў справы са слуцкімі купцамі, ён лічыўся не абы-якім дзялком... Калі б пайшло на поўны раздзел ад сям'і, то ў яго руках была свая ўласная справа, ён ужо меў давер'е ад паважаных у гандлёвым свеце людзей. Слуцкія купцы Мойшэ і Мордух далі б яму крэдыт. Ён бы мог разгарнуцца, нават не маючы грошай столькі, колькі патрэбна. Бо ён меў сваю ўласнасць, чацвёртую частку паравіка, які не толькі малоў муку, але і пілаваў дошкі, драў крупы і валіў сукно... Цяпер гэта ўсё паляцела к чорту... гэта раз. Цяпер яму трэба шукаць новай справы... якой справы?.. Гэта два. Пакуль яму ўдасца знайсці яе, прыйдзецца сесці на бацькаў карак... У бацькі ёсць грошы, але ўзяць іх ад яго нялёгкая справа... гэта тры. Раней, седзячы за сталом, Грэйнім адчуваў, што на ім ёсць і яго кавалак хлеба. А цяпер гэтага кавалка ўжо не будзе. Ён проста стане дармаедам у бацькі... гэта чатыры. Злажыўшы ўсе гэтыя чатыры разам, Грэйнім зноў застагнаў.

Калі адчыніліся дзверы і ў хату ўвайшоў бацька, Грэйнім не мог узняць галавы. Бацька, мабыць, не заўважыў яго. Ён прабег да дзвярэй спальні, спыніўся, па-

думаў і махнуў рукой. Калі ён павярнуўся тварам да Грэйніма і яны паглядзелі адзін аднаму ў вочы, то Грэйнім зразумеў, што бацьку ўжо усё вядома.

— Ну? — запытаў Алтар, і з вачэй яго пасыпаўся такі агонь, якога раней Грэйнім не заўважаў у бацькі. Ён упершыню ад дзяціных гадоў адчуў сябе такім малым, прытым вельмі вінаватым хлапчуком, якога бацька возьме за вуха і закруціць так, што прыйдзецца зморшчыцца ад болю і стаць на пальчыкі...

— Ну? Дакруціліся вы з Ісроэлем?

— Я яму казаў, тата...

— Ён яму казаў? Вы чуеце, ён яму казаў! А я табе не казаў? А я табе не казаў: забяры, Грэйнім, сваю долю з паравіка! А-а-а! Дык табе Ісроэл быў больш бацька за мяне!.. Хаўруснікі!.. Колькі?

— Дзвесце шэсцьдзесят пудоў...

— Дзвесце шэсцьдзесят пудоў! — Алтар схапіўся за галаву.— Ха! Гэта ж грошы, аболтух ты, гэта ж хлеб! Гэта ж золата! — закрычаў ён.— Дай мне дзвесце шэсцьдзесят пудоў, я табе зраблю гешэфт, і ты заўтра пачнеш справу!

Грэйнім схіліў галаву. Бацька выказваў яму тую праўду, якую, на жаль, ён вельмі добра ведаў і сам.

— О-о! — Алтар узняў угару ўказальны палец і памахаў ім каля самага Грэйнімавага носа.— Вы разумныя, ліха вашай матары! Вы разумныя, толькі бацька дурань... А цяпер ты зноў сядзеш на мае плечы!.. На мае плечы! На плечы старога чалавека! — закрычаў ён.— І будзеш хапаць мяне за горла! Душыць мяне! Каб я табе даў грошы! Якія ты ўтопіш, як утапіў чвэрць паравіка!

Ад злосці ён ужо забыў пра Лейку і крычаў пісклівым бабскім голасам, які на самых высокіх нотах зрываўся і пераходзіў у злы шэпт.

— А-а! Калі вы пакінеце душыць і тузаць мяне?!

Ён сарваў шапку і кінуў яе вобземлю.

У гэты момант са спальні выйшла Лейка. Яна чула, што ў сталовай ідзе нейкая спрэчка, што адбылося нешта нядобрае, бо звычайна Алтар крычыць такім голасам толькі тады, калі яго дапякло так, як ніколі.

Зірнуўшы на Лейку, Алтар сціх. Ён зларадна зірнуў на яе: вось, любуйся сваімі сынкамі! Гэта ты іх выгадавала такіх...

— Што, Алтар? — запытала Лея лагодна, але зірну-

ла так, што Алтар зразумеў: яна ў любую хвіліну гатова кінуцца на яго, як драпежны звер. Таму ён адразу збавіў тон.

— Што? Ты запытай у сына! Няхай ён табе раскажа...

Прысутнасць маці падмацавала Грэйніма. У яго з'явілася надзея з яе дапамогаю надзець на бацьку аброць. І ён падрабязна расказаў аб усім, што адбылося сёння.

Лейка схапілася за левы бок, але трымалася за яго толькі імгненне.

— Ах, ах...— сказала яна і прысела на канапу.

Гэтая жанчына прывыкла ва ўсім лічыць вінаватым мужа. Яна і цяпер, не маючы ніякіх падстаў, была ўпэўнена, што ва ўсім вінаваты «панчоха», хоць ён і крычыць, як вясковая баба. Але ведала, што чапаць яго сёння небяспечна. Гэты чалавек здольны ператварацца ў нямка і на працягу тыдня можа быць слупам, з якім бескарысна гаварыць. Таму яна вырашыла падысці да справы асцярожней.

— А можа, яны толькі напалохалі!

— Напалохалі! — закрычаў Алтар.— Напалохалі так, што Ісроэл прыбег да мяне ў краму такім, нібы ў яго поўныя калашыны...

— Што ён табе казаў?

— Што ён мне казаў! Ён падпісаў тую паперку. Ён ужо без млына! Ён прыбег да свінні Сапуна прасіць...

Грэйнім ажывіўся.

— Чаго прасіць, тата?

— Прасіць мяне, каб я прасіў Буткевіча, Кавалёва, Довіда і Мотэля. Каб Довід і Мотэль таксама прасілі! Каб Ісроэлю Біргу і Грэйніму Сапуну вярнулі паравік!

— Гэта глупства,— сказаў Грэйнім,— паравіка не вернуць... Гэта не паравік, гэта заводзік... Яны не дурні, яны з яго возьмуць добрыя прыбыткі, калі паставяць разумнага загадчыка... Мне, тата, трэба пачынаць новую справу...

— Так, так.. Табе трэба зноў пачынаць...

— Я ўжо думаў. Мне трэба заняцца гандлем...

— Так, так... Табе трэба заняцца гандлем! Ты прадай тыя дзвесце шэсцьдзесят пудоў!

— Ах, тата,— горка сказаў Грэйнім,— ты не дурны чалавек...

— Ого! Я сёння вельмі разумны чалавек! Я сёння міністр фі-нансаў! Ха-ха-ха!..

— Табе, Алтар, трэба дапамагчы Грэйніму, пакуль ён стане на ногі...

— Што? — крыкнуў Алтар і падскочыў, як уджалены.— Што? На ногі? Дакуль жа ён не будзе стаяць на ўласных нагах! Трыццаць гадоў чалавеку, пане мой!

— Ты яму пазычыш, а ён табе аддасць...

— Што? Зноў грошы! Што, у мяне банк?

У Лейкі гнеўна заблішчалі вочы, і яна паднялася з месца. Але Алтар, калі справа датычылася грошай, станавіўся ўпартым і цвёрдым, як камень.

— Не дам! — крыкнуў ён і, вылаяўшыся самымі брыдкімі словамі, бразнуў дзвярамі так, што задрыжалі вокны, і выйшаў з хаты.

Некалькі дзён Грэйнім хадзіў, як недапечаны. Бацька на ўсе спробы загаварыць з ім не адказваў. Грэйнім думаў: «За што ўхапіцца?» — і не знаходзіў адказу. Для таго каб гандляваць, патрэбны грошы. З тымі, якія ён меў, можна купляць і прадаваць толькі анучы. Але і для гэтага неабходны конь. Можна было накупляць дробязі — шыла-мыла, ехаць па вёсках і ашукваць палескіх баб. Але які тут гандаль!

Раптам у яго з'явілася думка, якой ён нават спалохаўся. А ці нельга паступіць на працу ў той самы паравік? Стаць дзяржаўным работнікам! Паравік — не проста млын, туды кожнага няўмеку не паставіш. А паравік павінен працаваць. Яны зацікаўлены таксама, каб паравік працаваў. Прасіцца падмельшчыкам, рабочым, хоць лысым чортам, абы ўзялі. Каго б ні паставілі загадчыкам, Грэйнім, спадзяваўся, што з цягам часу падбярэ ключы да яго сэрца і сумлення. А тады! Якія гешэфты можна рабіць у паравіку.

Аднак гэтую думку ён адкінуў. Адразу не прымуць, як уласніка таго ж самага паравіка.

Усхваляваны і разгублены, ён спачатку не зварочваў увагі на гутаркі пра арцель па асушцы Рэгелеўшчыны. Але пасля сходу іначай зірнуў на гэтую справу. Падышоў да яе з іншага боку. Усё-такі яна хоць часткова субсідзіруецца дзяржавай. Можна сюды. Нават добра было б сюды!

Грэйнім быў чалавекам дальнабачным, ён умеў глядзець наперад. Усе гэтыя гандлі — часовая справа. Хіба

не відаць, куды накіроўваецца палітыка савецкай улады! Усім гандлярам і прадпрыемцам прыйдзе капут, як Ісроэлю і Грэйніму.

А ў арцелі, калі чалавек з галавою, то хіба няможна рабіць гешэфты! Ого! І ніхто не падточыць носа!

Грэйнім Сапун намнога пакуль што не разлічваў: абы ўбіцца! Хоць бы, скажам, якім-небудзь дробным служачым...

Добра было б пагутарыць з бацькам, але да яго няма прыступу... Тады Грэйнім вырашыў пахадзіць сярод людзей, разнюхаць тое-сёе.

І вось аднойчы пасля полудня Грэйнім з'явіўся да Калядкі. Часовай канторай новай арцелі быў невялікі пакоік у кравецкай майстэрні. Калі Грэйнім адчыніў дзверы і хутка прабег між краўцоў, якія з цікаўнасцю глядзелі на яго, то раскаяўся ў сваім учынку. Аднак не разгубіўся. У яго спачатку мільганула думка даць Ірыне заказ, ну, скажам, на гімнасцёрку, і ісці назад. Але ўбачыў шыльдачку, дзе было напісана: «Старшыня арцелі».

Ён адчыніў дзверы і апынуўся перад сталом, за якім сядзеў Язэп Калядка і, нахіліўшыся, чытаў нейкую паперку. Зірнуўшы на высокі лоб гэтага бондара, на разумныя вочы, якія глядзелі на яго праз акуляры, Грэйнім сумеўся. «Ён падобны на інжынера»,— падумаў са здзіўленнем.

Калядка адлажыў паперку і запытаў:

— Вы па справе?

— Так...— нялоўка ўсміхнуўшыся, адказаў Грэйнім.

— Сядайце.

— Я на некалькі хвілін, таварыш Калядка. Я хачу прапанаваць арцелі свае паслугі.

— Якія? — запытаў Калядка такім тонам, нібы чакаў гэтай прапановы.

— Вам, я ўпэўнены, патрэбны работнікі.

— Работнікі нам патрэбны.

— Напрыклад, вам патрэбен будзе табельшчык.

— Так.

— Вам патрэбен спецыяльны чалавек для раз'ездаў па ўрэгуліраванню розных спраў, касір...

— Абавязкова.

— Урэшце, вам патрэбен рахункавод. Я б мог узяць рахункаводства ў свае рукі.

Калядка падняў акуляры на лоб, зірнуў вясёлым позіркам на Грэйніма Сапуна і запытаў:

— А рыдлёўку ў свае рукі вы не хочаце ўзяць, грамадзянін Сапун?

Як Грэйнім апынуўся на вуліцы, не памятае. У вушах стаяў гучны смех краўцоў і краўчых, якія чулі ўсю размову...

Калі Грэйнім выйшаў, Калядка шырока ўсміхнуўся. Усмешка гэтая зрабіла надзвычай прыгожым і па дзіцячы шчырым яго твар. «Пяты рахункавод, сёмы табельшчык, адзінаццаты касір і пятнаццаты агент для раз'ездаў! — падумаў ён.— За чатыры дні гэта вельмі многа... Адкуль яны, аднак, ведаюць, што мне цяпер трэба мець агента?»

Довід, пасля таго як перайшоў на кватэру да Клявіна, ні разу не быў дома. Ведаў, што там яго не вельмі чакаюць і не вельмі ласкава прымуць. Аб тым, што робіцца дома, ён ведаў праз Мотэля і Лявона, з якімі сустракаўся кожны дзень, і Абрама, які іншы раз забягаў да яго, ідучы са школы. Цяпер ён па-сапраўднаму адчуў, што з сям'ёй яго не звязвае нішто, дарогі іх разышліся назаўсёды.

Нялёгка жылося ў Клявіна. Працаваць прыходзілася ад цямна да цямна, і хоць Довід любіў слясарную справу, але яму пачала надакучаць аднастайная дробная работа. Штодзень адно і тое ж: сапсутыя замкі, расколатыя патэльні, дзіравыя чыгуны, разбітыя прасы. Зрэдку самавары і прымусы. Увесь час толькі свідруй дзіркі для заклёпак, накладай латкі на перагарэлы чыгунны посуд.

Увішны гаспадар не адставаў ад жыцця. Калі заказаў у майстэрню пачало паступаць менш, як Плюшкін, валачыўся па мястэчку, збіраў жалезны лом, цягаў яго дадому і прымушаў Довіда рабіць клямкі, шпінгалеты для акон, нутраныя і вісячыя замкі розных памераў, завесы для куфэркаў, чамаданаў, складныя і сталовыя нажы і іншую дробязь. Усё гэта ён складаў у каморы і, падміргваючы Довіду, гаварыў: «Мы зробім гешэфт! О! У нас пойдзе справа на лад». Довід не разумеў, аб якім гешэфце вядзе гутарку гаспадар, ён нават не цікавіўся гэтым, але ўвечары канчаў работу стомлены. Адпачынку не хапала.

Сталаваўся Довід у гаспадара. Якім скупым ні быў стары латыш, але работнікам сваім даражыў, і не хацеў

яго страціць. Мяса ў поліўцы падавалася кожны дзень, хоць і было тое мяса старое, худое і цвёрдае, як падэшва. Хлеба і чаю з цукрам таксама не шкадаваў. Сам ён садзіўся за асобны столік над патэльняй са смажаным салам і, усміхаючыся, гаварыў Довіду: «Шкада, што ты не ясі сала. Дурны ваш закон. Зусім дурны! О! Дурны чалавек выдумаў такі закон!» Довіду хацелася сказаць яму: «Давай сюды сваё сала, стары хрэн! Давай яго сюды і ты пабачыш, умею я яго есці ці не».

За харчаванне гаспадар вылічваў большую частку зарobку. За рэштку, якую Довід атрымліваў на рукі, пры цэнах таго часу нельга было купіць нават паркалю на бялізну. А час ішоў, і Довід абнасіўся. Часта пасля работы ён замыкаўся ў сваім пакоі і сядзеў з іголкай і ніткай у руках, накладаючы латкі на парваныя калашыны штаноў і рукавы кашулі. Знасілася і бялізна. Кожны тыдзень, атрымаўшы грошы, Довід адкладаў іх у свой куфэрак, каб сабраць патрэбную суму і купіць што-небудзь з адзення.

Аднойчы вечарам да яго прыйшоў Абрам. Ён з патаемным выглядам дастаў з-пад полы скрутак, загорнуты ў паперу, і паклаў на стол.

— Што гэта? — запытаў Довід.

— Паглядзі сам! — радасна ўсміхаючыся, адказаў Абрам.

Довід разгарнуў скрутак. Там быў паркаль на бялізну і корт на штаны і кашулю.

— Адкуль гэта?

— Татэ даслаў,— азірнуўшыся, ціха адказаў Абрам.

— Аднясі яго назад тату,— рашуча прамовіў Довід.

Абрам спалохаўся.

— Што ты, Довід! Няможна! Ніяк няможна, Довід! — горача паўтараў ён.— Мама пра гэта не ведае... Я сёння ў краме запісваў падлікі, што рабіў татэ, і ён кажа: «Абрам, ты не бачыў, якія падраныя штаны ў нашага Довіда. Яны зусім падраліся і старыя... На каленях латкі, ззаду латкі, кругом латкі.» І ён уздыхнуў, Довід. І ён доўга стаяў і нешта думаў і забыў, што я ў краме. Потым зірнуў на мяне, адрэзаў паркалю і корту і сказаў: «Аднясі Довіду і не кажы маме»...

— Аднясі назад, Абрам.

— Слухай, Довід,— умольным голасам прамовіў Абрам.— Татэ сказаў: «У іх свая арцель, няхай пашые

бялізну, штаны і кашулю... А ты не кажы маме, бо я табе дам! Вы яшчэ не ведаеце мяне! Я вам пакажу!» І ён паглядзеў на мяне вельмі злосна. «Вы ўсе,— сказаў ён,— не варты Довідавага пальца з левай нагі...»

Довіду хацелася засмяяцца, але ён загарнуў скрутак і падаў Абраму.

— Аднясі тату і скажы, што Довід не жабрак.

Абрам гатовы быў расплакацца.

— Довід, Довід! Куды я яго панясу? Крама зачынена, дзе я дзену гэты скрутак? Як я аддам яго тату, і дзе ён яго схавае? А калі даведаецца мама, ты ведаеш, што будзе! Добра табе, ты не ведаеш і не чуеш, што робіцца ў нашай хаце...

Довід задумаўся, потым адамкнуў куфэрак, выняў свае зберажэнні і аддаў Абраму.

— Грошы да заўтрашняга дня ты і сам можаш схаваць у сваёй сумцы. А заўтра аддасі тату і няхай паведаміць цераз цябе, колькі яшчэ не хапае. Праз тыдзень аддам рэшту.

— Тата пакрыўдзіцца, Довід,— сказаў Абрам, беручы грошы.

— Не бойся, за грошы ён не пакрыўдзіцца!

Алтар не сказаў, колькі недаплаціў сын, але і грошай назад не вярнуў.

Між тым надыходзіла вясна. Падаўжалі дні, пакарацелі ночы. Клявін быў рады, што ў майстэрні можна абыходзіцца без газы. Стары латыш забягаў у майстэрню і ад задавальнення паціраў рукі.

— Скора мы зробім гешэфт,— паведамляў ён.

Сам Клявін апошні час зусім не браўся за працу. Ён увесь час аб нечым клапаціўся, некуды хадзіў і, нарэшце, прывёў Довіду двух памочнікаў.

— Вось вам майстра,— сказаў ён, паказваючы на Довіда.— Яму падпарадкуйцеся.

Аднойчы Лявон прапанаваў Довіду схадзіць да яго ў вёску, пазнаёміцца з жыццём і працай вясковых камсамольцаў. Довід быў рады прапанове і папрасіў дазволу ў гаспадара. Той з ахвотай згадзіўся.

— Два дні,— і дадаў сваё нязменнае: — Хутка мы зробім гешэфт.

Довід вярнуўся ў панядзелак і не пазнаў дома свайго гаспадара. Над дзвярамі вісела шыльда: «Скабяная крама Крыстыяна Клявіна». Довід адчыніў дзверы і

ўбачыў, што невялікі пярэдні пакой, які дасюль служыў калідорам, ператвораны ў краму. Гаспадар прымайстраваў да сцен паліцы і расклаў на іх тавары, зробленыя рукамі Довіда. Сам ён сядзеў за столікам і ўсміхаўся.

— Гешэфт! — сказаў ён і дадаў: — Ход у дом з двара, цераз кухню.

У Довіда пацямнела у вачах ад злосці. «Вось які гешэфт ты зрабіў з маёй працы!» — падумаў ён. Крыўдна было да болю. Ад бацькі пайшоў праз гэтыя гешэфты, а тут... сам зрабіў гешэфт для гаспадара... У той дзень работа валілася з яго рук. Ён ледзь дачакаўся вечара і пайшоў у клуб, каб сустрэцца з Лявонам.

Лявона спаткаў на рынку, той таксама ішоў у клуб.

— Я кідаю свайго гаспадара,— адразу паведаміў ён таварышу.

— Чаму?

Довід расказаў, у чым справа.

— Дзе ты дзенешся?

— Пайду ў арцель да Калядкі.

— Што ты там будзеш рабіць?

— Працаваць у кузні. Арцель без кузні не абыдзецца. Сякеры буду вастрыць, рыдлёўкі.

— Там яшчэ кузня не патрэбна.

— А я не сёння кідаю майстэрню.

— Пагутарым у ячэйцы, Довід,— прапанаваў Лявон.

— А я па гэтай прычыне туды і іду.

Язэп Калядка змучыўся на сваёй новай працы. Клопатаў аказалася больш, чым ён чакаў. Дома сядзець амаль не прыходзілася. Кожны дзень трэба было кудынебудзь ехаць або ісці: то ў павет па грашовых справах, то ў лясніцтва, дзе рыхтаваўся лес, то ў былы Ісроэлеў паравік, дзе гэты лес распілоўваўся на дошкі, то за мястэчка да ракі Случы, дзе ішло будаўніцтва часовых летніх баракаў для немясцовых рабочых. Не хапала матэрыялаў, не хапала грошай, многія з членаў арцелі неахвотна ішлі на працу, многія зусім не ішлі. Надыходзіла вясна, і кожны, хто меў кавалак зямлі, рыхтаваўся да сяўбы. Аднаму ўсюды паспець і ўсё прывесці да парадку было амаль немагчыма. Патрэбен быў памочнік, шчыры і пісьменны чалавек, добра пісьменны, каб яму можна было даверыць любую справу.

Калядка звяртаўся за дапамогай да Кавалёва, да Буткевіча, прасіў чалавека. Кавалёў прапанаваў Мікалая

Ломаця, але той рашуча адмовіўся, спаслаўшыся на сваю непісьменнасць. «Мяне кожны ашукае,— сказаў ён.— З рыдлёўкай або сякерай я буду работнік, а на такія справы не годны». Гэта была праўда. Але была і іншая прычына, пра якую Ломаць не сказаў. Ён увесь час працаваў па нарыхтоўцы лесу, а цяпер надыходзіла вясна, Ломацю трэба было засеяць сваю зямлю, некалі было яму клапаціцца аб арцельных справах.

Буткевіч адказаў коратка:

— Шукай чалавека.

Лёгка было яму сказаць, але знайсці такога чалавека аказалася не так лёгка. Праўда, «чалавекі» накшталт Грэйніма Сапуна прыходзілі да яго штодзень, але Калядка гатовы быў сам працаваць дзень і ноч, абы не бачыць такіх «чалавекаў» і не карыстацца іх паслугамі.

Калі Довід прыйшоў у кантору арцелі, Язэп Калядка рыхтаваўся ехаць у Слуцк і пераглядаў дакументы. Ён радасна прывітаў Довіда і падняўся яму насустрач.

— Даўно я цябе не бачыў, ой, даўно! Лічы, што з таго часу, як бандытаў білі каля мястэчка.

— Так, таварыш Калядка, з таго часу. Я таксама вас не бачыў. Увесь дзень у майстэрні.

— Ты ўсё ў таго Клявіна?

— Пакуль што там.

— Ну і як?

Довід падрабязна расказаў аб майстэрні, аб скабяной лаўцы.

— Вось гешэфт, які я яму зрабіў, таварыш Калядка,— горка закончыў ён.

Калядка ўсміхнууся.

— Нічога дзіўнага няма, Довід. Каб ты менш налягаў на работу, а больш наглядаў за сваім гаспадаром, то даўно зразумеў бы яго гешэфт, які сам рыхтаваў. Сам кажаш, што і раней ён табе гаварыў пра гэта. Што ты цяпер думаеш рабіць?

Довід чакаў гэтага запытання.

— Хачу да вас, у арцель. Пайду на любую работу. А потым кузню адкрыем...

— Ты ж слесар, Довід,— усміхаючыся, сказаў Калядка.

— Кавалю цяжэй стаць слесарам, чым слесару кавалём. Будзем гаварыць не пра кузню. Якая цяпер ёсць у вас работа, самая пільная, патрэбная і хуткая?

Калядка загадкава зірнуў на Довіда. Усхваляваная гутарка юнака, сумны яго твар кранулі нешта бацькоўскае ў сэрцы Язэпа Калядкі.

— Колькі ты скончыў класаў, Довід?

— Я скончыў вышэйшае начальнае вучылішча, таварыш Калядка. Тады яго называлі яшчэ і гарадскім, а цяпер школа другой ступені.

— Добра! — сказаў Калядка і паклаў на стол абедзве далоні сваіх вялізных мазольных рук. Паклаў так, што здрыгануўся стол.— Добра, Довід. Будзеш маім памочнікам.

— Таварыш Калядка... Я слесар, кавалём магу быць... Сякеру дайце або рыдлёўку, я з імі спраўлюся...

— А я, бондар, Довід, і аб гэтым гутарка скончана. Заўтра з Мікалаем паедзеш у Слуцк. Туды пойдзе дзве падводы. Забярэш рыдлёўкі і сякеры для нашай арцелі. Выбірай добрыя, каб не было браку, ты майстра, павінен выбраць. А самае галоўнае — забярэш інжынераў. Пара пракладаць трасу магістральнага канала. І гэта яшчэ не ўсё. Там ёсць катлы для кухні, і грошы няхай пераявядуць. Усе дакументы атрымаеш заўтра. Вясна ідзе, Довід, час прымацца за галоўную работу.

— Я яшчэ з Клявіным не разлічыўся.

— Глупства. Разлічышся потым. Нам няма калі чакаць... Вялікай платы не абяцаю. Буткевіч вечна скардзіцца, што каса фінаддзела пустая. Сёння вечарам сходзім да яго, з Кавалёвым пагутарым.

Калядка выйшаў з-за стала, падышоў да Довіда і абняў яго за плечы.

— Ну чаго ты засмуціўся, дзівак! Не справішся? Не веру! Такія, як ты, горы могуць варочаць.

— Што горы, таварыш Калядка!.. Горы лягчэй... Я проста баюся.

— Пасаромейся, Довід! Да мяне прыходзяць «чалавекі», якія нічога не баяцца. Яны бяруць у свае рукі рахункаводства, касу, забеспячэнне, і з ахвотай узялі б усю арцель. Але баюся я іх! Нават брат твой прыходзіў, прапанаваў свае паслугі.

— Грэйнім?

— Ён. А я прапанаваў яму рыдлёўку, і ён ўцёк, як ашпараны.

Довід засмяяўся.

— Ён дзялок, таварыш Калядка. Чаму вы не далі яму па карку?

— Ты, вядома, даў бы.

— Даў бы.

— А чаму ж Клявіну не дасі?

— Хочацца.

— Значыць, умееш трымаць сябе ў руках. Гэта добра. Прыйдзе час, Довід, і мы іх іначай ударым. Не кулакамі, не. Ты чытаеш Леніна?

— Вучу, таварыш Калядка.

— А палітык з цябе, пакуль што, няўдалы.

Калядка замоўк і праз хвіліну сказаў:

— У цябе, Довід, кватэры няма. Клявін прагоніць цябе з хаты. Дзе будзеш жыць? Да бацькі пойдзеш?

— Не, таварыш Калядка, да бацькі я не пайду. Знайду дзе-небудзь куток.

— Куток! Куток не кватэра. Калі ты не супраць, то будзеш жыць у мяне. Хата мая невялікая, але ж мы там будзем толькі начаваць.

— Я буду вельмі рады, таварыш Калядка, але, але... можа, ваша жонка...

— Жонка нам заўсёды снеданне ўпору падрыхтуе, бялізну памые, гузік прышые і дзірку залатае ў нагавіцах.

Назаўтра раніцай, яшчэ да ўсходу сонца, Довід з Ломацем Мікалаем выехалі ў Слуцк. На дварэ было свежа і вільготна, але ціха. Пасля цеснай і душнай майстэрні Клявіна, дзе заўсёды ў спёртым паветры плаваў пыл іржавага жалеза і чадзілі горны, Довіду здавалася, што грудзі яго напаўняюцца цяпер нечым незвычайным, салодкім і магутным, што надае сілу і бадзёрасць усяму целу. Мікалай Ломаць ехаў на пярэдняй падводзе, і Довіду хацелася быць разам з ім, гутарыць, спяваць. Такога ўздыму ён яшчэ не адчуваў.

У Слуцку прыйшлося затрымацца. Дадому вярнуліся на трэці дзень, але Довід быў задаволены: даручэнне ён выканаў. Прывёз рыдлёўкі, сякеры, кухонны кацёл. Быў і другі кацёл, але Довід яго забракаваў. Прыехаў і інжынер з двума памочнікамі.

Праз некалькі дзён Довіду даручылі новую работу.

Была яна цяжкая, адказная, але цікавая. Кожны дзень ён з інжынерамі мераў балота, пракладаў трасу магістральнага канала.

## 73

Прыйшла вясна. Яна адчувалася ўсюды: нават вераб'і і тыя аджылі і весела скакалі па чорных вуліцах, шукаючы сабе пажывы. Чорныя гракі на голых суках дрэў вырысоўваліся яскрава, як нейкія невядомыя плады, і напаўнялі паветра крыкам. Ля кожнага дома на доўгіх жэрдках або на дрэвах віднеліся шпачыныя хаткі. Па вуліцах ліліся жвавыя раўчукі, яны тачылі снег і, прабраўшыся да ракі, ліліся ў яе з высокага берага тысячамі маленькіх вадаспадаў. У палях растаў снег. Толькі пад лесам ён яшчэ бялеў у нізінах між купін.

Вучэнне пачало надакучаць. Званок на ўрокі падоўгу клікаў вучняў, якія разбягаліся па школьным садзе і, як жывы плот, стаялі на абодвух берагах невялічкага раўчука.

Разлілася рака. Яна выйшла з берагоў і заліла балонь на левым беразе аж да лесу.

Вечарам Ігнась пайшоў глядзець ледаход.

У цішыні вясенняга вечара мацнеюць гукі і шум ракі. Стоячы на беразе, чуваць плюханне і скрогат плывучых крыг. Аднекуль здалёк чуваць гром вадаспада. Ігнась стаў на беразе ля слупа, да якога прывязваюць чаўны. Няспынны рух вады стамляў позірк, і Ігнась заплюшчыў вочы. Уявіўся той нябачны вадаспад: праз высокі парог магутнай стромай коціцца вада. Яна пакрыта пенай. Пена белая, як вата. Угару ляцяць сярэбраныя пырскі і звоняць, падаючы ў ваду. Ігнасю здавалася, што чуваць гэты звон: ён пявучы і кволы.

Уздоўж берага стаяць людзі: дзеці, моладзь, пажылыя мужчыны, жанкі, нават старыя сівыя дзяды. Вясна! Хто яе не любіць! Каго не кранаў яе жывы бадзёры подых! Усе маўчаць і глядзяць на магутную і грозную раку, якая праз некалькі дзён стане невялікай рэчкай, перасечанай перакатамі.

Нехта падышоў ззаду і ўзяў Ігнася за галаву. Ігнась кранууся яго гарачых рук і пазнаў сябра.

— Пусці, Янка!

— Ігнась, ці ты любіш прыроду?

— Не стаяў бы я тут, каб не любіў!

— Брат ты мой, а я! Я магу прастаяць тут цэлую ноч.

Янка натхніўся, вочы яго заблішчалі, голас гучаў урачыста.

— Ну, зірні, Ігнась, зірні! Ты бачыш тыя кусцікі? Яны ледзь відны. Паслухай, як яны скардзяцца на халодную ваду, што затапіла іх, на крыгі, што абломваюць іх галінкі. Няўжо ты не чуеш іх шуму! А вунь плыве белая крыга. Табе чуваць яе голас?

Не, Ігнась не чуў шуму далёкіх кусцікаў і голасу белай крыгі. Ён толькі чуў шум і хваляванне вады.

— Ігнась, паслухай, як раве вадаспад! Давай сходзім туды, паглядзім.

— Туды няма цяпер дарогі, Янка.

— Чаму? А мы без дарогі.

— Ты бачыш, як разлілася вада па балоце. А абысці кругом ночы не хопіць.

— Як шкада. Слухай, ці можна намаляваць такую карціну? Не, брат ты мой, ніколі. Карціна — толькі адно імгненне, а прырода, гэта ж няспынны рух. Тут мяняецца прыгажосць з кожнай хвілінай. Адна прыгажосць ідзе на змену другой, не паспееш налюбавацца адным, наплывае другое і так без канца. Але я ўсё роўна буду маляваць, брат ты мой! І вось пабачыш, прыйдзе час, я намалюю гэтую раку, бяскрайнюю, як мора, кусты на балоні, затопленыя вадой, белыя крыгі, ноч, неба, аблокі, туман, дамы, людзей і нас з табой, Ігнась, і над намі месяц поўны і прыгожы. Толькі трэба, каб малюнак гучаў, каб чуцен быў і гоман вады, і подых ветру, і голас таго далёкага вадаспада.

Ён спыніўся, Ігнась абняў яго, і моўчкі яны пайшлі па беразе, абмінаючы людзей.

— Як весела жыць, Янка! І не толькі прырода, наша жыццё таксама ідзе наперад. І нельга прапусціць гэтага жыцця, каб яно не ўцякло ад нас, нават аднаго імгнення прапусціць нельга. Глянь, а вунь той самы завулак, куды заварочвалі Лявон і Довід, калі ішлі ў камсамольскі клуб. Помніш, як мы іх прыпільноўвалі?

— Можа, зойдзем у клуб?

— Сходзім.

Яны мінулі некалькі домікаў і ўбачылі, што ў клубе цёмна.

— Ну, дык што ж! Тады хадзем дамоў. Я, ведаеш, брат ты мой, прыйду і пачну маляваць. Засяду на цэлую ноч. Хочацца, брат ты мой, папрацаваць. Такі сёння дзіўны настрой. Ну, бывай.

Ігнась таксама пайшоў на кватэру. Было яшчэ не позна, і ён вырашыў засесці на ўсю ноч, як Янка, і пісаць.

Ён выйшаў на Надрэчную вуліцу. Не хацелася ісці ў хату. Хлопцаў там яшчэ няма, яны ля рэчкі, прыйдзеш, толькі возьмешся за аловак, а тут з'явяцца хлопцы, пачнуць вячэраць, гаманіць, стукаць, смяяцца, і натхненне развеецца, як дым. Гэтыя непрыемныя думкі ўжо адбілі ахвоту пісаць, і Ігнась пайшоў яшчэ цішэй.

Недалёка ў тумане відаць была чалавечая постаць. Параўняўшыся з ёю, Ігнась пазнаў Зосю Ахрамовіч.

— Марыніч, добры вечар! Ты куды?

— Дамоў.

— Як табе не сорамна! Сёння ўсё мястэчка ля ракі. Калі хочаш, хадзем на бераг.

— Мы ўжо там былі з Янкам Ткачуком.

— Што вы там рабілі?

— Глядзелі на раку і марылі.

— Аб чым жа вы марылі? Два дзівакі!

— Мы марылі, Зося, аб жыцці.

— Аб жыцці! А нашто аб ім марыць! Жыві сабе...

— Жыві сабе! Сказала!.. Трэба не толькі абы жыць, але і думаць, як жыць.

— Гэта праўда, Ігнась...

— Зося... Ты паслухай мяне, калі ласка, га?

— Ну што?

— Я ўжо быў каля ракі... Мы пройдзем па беразе, ўсё далей і далей. Я там ніколі не быў. Там, мабыць, лепшыя віды...

— Які дзівак! Хадзем, калі хочаш... А просіш ты як шчыра.

— Лепш не ўмею, Зоська.

І яны пайшлі. Нечакана перад імі паўстала горка, парослая хвойнікам.

— Тут брацкія магілы, Ігнась... І тата мой тут... І Тарас Ігнатавіч, і Наталля Васільеўна, і ахвяры белапольскіх пагромаў.

Абое спыніліся і стаялі моўчкі.

Ігнась успамінаў Тараса Ігнатавіча і тую страшную ноч.

— Чаму ты маўчыш? Ты любіш чытаць кнігі?

— Люблю, але ў мяне мала кніг.

— А ў мяне многа. Ёсць цікавая кніга «Айвенга». Пра даўнія часы, пра рыцараў.

— Пра рыцараў? Я прачытаў бы такую кнігу.

— Там апісваецца пра аднаго рыцара Айвенга. Як яго любіла адна дзяўчына, а ён яе не, бо любіў другую... Там шмат пра што пішацца. Можна ўведаць пра старажытныя звычаі і законы.

Ігнась задумаўся над словамі «старажытныя звычаі» і не адказаў.

— Хадзем дадому. Ты сумны хлопец. Тут гразка, трэба абысці.

Яна паслізнулася і ледзь не ўпала ў гразь, але Ігнась упору падтрымаў яе.

— Я зусім не сумны. Я падумаў крыху пра тую кнігу.

— Як ты можаш думаць пра тое, чаго не ведаеш! І ты заўсёды так думаеш?

— Заўсёды.

— Цікавы ты хлопец, калі так. Мабыць, недарэмна так многа думаеш.

— А хто ж дарэмна думае!

— І то праўда... А чытаеш ты шмат?

— Колькі магу, але прачытаў яшчэ вельмі мала.

— А ці чытаў ты творы Дзікенса?

— Першы раз чую.

— А Аляксандра Дзюма?

— Не. У мяне няма такіх кніжак. Дзе я іх вазьму?

— Які дзівак, у мяне вазьмі! Я не пашкадую, у нас шмат кніжак.

— Заўтра прынясі ў школу, а на кватэру да цябе я не пайду.

— Чаму? Вось ужо і глупства. Прыйдзеш, мама табе выбера і дасць.

— Я, Зоська, баюся тваёй мамы.

— Яна не кусаецца. А кнігу выбера якую трэба. Спачатку распытае, што ты чытаў. Ну ды я сама цябе заўтра прыцягну.

Ігнась толькі цяпер больш уважліва зірнуў на Зосю. Яна такая невялікая, тоненькая. З пргожымі блакітнымі вочкамі, кірпатым носікам... І так шмат чытала, і ведае яна аб усім намнога больш за яго... А з-за лесу выплыў вялізны-вялізны месяц і адразу ўсё афарбаваў у

жоўты колер. І ад гэтага паглыбела рака і пасінела неба «І лобік у яе блішчыць»,— падумаў Ігнась, агледзеўшы Зосю яшчэ раз.

— Хадзем дадому,— сказала яна пасля нядоўгага маўчання.

— Хадзем. Зноў берагам?

— Берагам прыгажэй. Вясна ідзе, Ігнась. Як весела вясною!

— Весела. Мы з Янкам Ткачуком прыроду любім.

Зося спачатку нічога не сказала, потым нечакана спынілася і стала насупроць Ігнася.

— Ты вельмі сябруеш з Янкам?

— Вельмі. Іначай нельга.

— А ты раскажаш яму, што мы з табой на раку хадзілі?

— Магчыма, Зося.

— Вось яшчэ не хапала, каб ты адразу пахваліўся. Можа, заўтра на ўвесь клас закрычыш. Гэтакі хвалько!

— Што ты, Зося! Як ты можаш так думаць.

— А чаго ж ты: магчыма, скажу. Зусім не трэба гаварыць і пры гутарцы і без гутаркі.

— Чаму? Што ж тут дрэннага?

— Не трэба!

— Вось ты дык дзівачка...— ён зірнуў на яе нахмураны твар. Раптам яна ўсміхнулася і ласкава зірнула на Ігнася.

— Таму, што з нас смяяцца будуць, Ігнаська...

— Янка нікому аб гэтым не скажа!

— Усё роўна не трэба, Ігнаська... Няхай аб гэтым ведаюць толькі два чалавекі.

— Хто?

— Ты ды я...

Ён прыцягнуў яе да сябе, абняў за шыю і пацалаваў.

— А гэта і зусім не трэба.— Яна адштурхнула Ігнася.— Ах, які ж ты дзівак. Што з цябе робіцца!..— з сумам сказала яна памаўчаўшы.

— Ты не будзеш на мяне злавацца, Зоська?

— Ну, вядома ж не... Толькі каб гэтага больш не было. А па кніжкі я цябе ўсё роўна прыцягну!

І яна пабегла адна, пакінуўшы Ігнася.

Ігнась адчуў, што ад гэтай хвіліны з ім адбылося нешта незвычайнае, важнае, незразумелае, але радаснае.

Ён крочыў па лужынах, не пільнуючыся сцежкі, проста да мястэчка, адчуваючы магутны прыліў бадзёрасці і сілы, і каб яму загадалі цяпер кінуцца ў раку і пераплысці яе, ён, не задумваючыся, зрабіў бы гэта.

У цішыні вясенняй ночы было чуваць бесперапыннае гучанне ракі...

**74**

Сонца яшчэ не ўзышло, калі Раман Кругленя прачнуўся. Крэкчучы, нацягнуў на ногі штаны. Надзеў кашулю і пасядзеў на ложку хвілін дзесяць. Пасядзеў так сабе. Ні аб чым не думаў, толькі пазяхаў... На дварэ ўжо было амаль зусім светла. Раман падняўся, прайшоў па хаце, выцягнуў з-пад лавы лапці і пачаў абувацца.

У хаце ўсе спалі. Соладка хроп Сафрон. Дрэнна спіцца старым, а маладых і гарматамі не разбудзіш, але Раман чуў: ноччу Сафрон гаварыў праз сон. Некалькі разоў гаварыў. Раман нават думаў запомніць тыя словы, каб раніцай пасмяяцца з сына і от, забыў! «Што ж ён гаварыў? Не... Забыўся, ды годзе...» Малодшы Мікіта пацмокаў губамі, павярнуўся на другі бок, спіць і не шманае. Не ведае, што бацька хутка яго падыме з ложка. «Яно няхай сабе і паспаў бы, малы яшчэ, недаростак, такім ох як соладка спіцца раніцамі, асабліва вясной ды летам, але што ты зробіш! Сеяць пара, гной трэба вазіць пад ярыну, пад бульбу... А старэйшы Сафрон ужо тыдзень толькі начуе дома. Як пойдзе раніцай, дык дамоў вяртаецца позна ўвечар, калі сцямнее... От і трэба меншага будзіць. Як ні кажы, а і ён памочнік, і гной на калёсы ўскінуць і на ніву завезці. Ды і сам не згуляеш, як пры Сафрону. Той, калі возьмецца за якую работу, ці гной накідаць, ці касіць, то яна гарыць у яго руках. Пры ім і бацьку лягчэй. Вядома малады, дужы. А за Мікітавы плечы не схаваешся, блазен. Самому трэба напінацца...» Вось за гэта крыху і злаваў на Сафрона Раман. Не жарты цэлы тыдзень дома не быць. Людзі ўжо аруць, хутка сеяць пачнуць. Некаторыя і пачалі ўжо. Заднім быць не хочацца... Але нічога не зробіш. Не для аднаго сябе Сафрон стараецца. Раман хоць і злаваўся, але злосці сваёй не паказваў. Трэба хадзіць! Зямлю абразаюць у кулакоў Антось Галамака, Яўхім-Мядзведзь і Сафрон. Людзі іх выбралі. З павета маладога каморніка прыслалі, от

яны ўчатырох і ходзяць з дня ў дзень. Тут па праўдзе кажучы, і злавацца нечага. Дзесяціну прырэзалі і Раману. Мабыць, ікаецца Патапчыку на тым свеце. Яго ж зямлю атрымаў і Раман, і Калачык Сцяпан, і Алесь Марыніч, і Радзівоніха. Сем дзесяцін лішняй знайшлі ў шэльмы. Гэта толькі пахаці, а сенажаці яшчэ больш. А зямля добрая! Акурат пад бульбу, ячмень ды лён. Павінна вырасці. Не будзе больш жонка бедаваць, што лён па мышынаму хвасту вырас. Ні церці, ні трапаць нельга, бо ў рукі нечага ўзяць.

Раман абуўся і пачаў шукаць світку. У гэты момант прачнуўся Сафрон. Ён сеў на ложку, пацёр кулакамі вочы, як маленькі, і запытаў?

— Яшчэ не позна, тата?

— Ды не, рана яшчэ. Мог бы і паляжаць, пакуль маці карову падоіць.

— Не, тата, буду ўставаць. Калі засну другі раз, то, цяжка будзе прачынацца.

Ён шырока пазяхнуў, потым ускочыў з ложка, кінуўся да мыцельніка, набраў кубак вады і пачаў мыцца, фыркаючы, як кот.

— Ты ж бы надзеўся спачатку,— сказаў яму Раман.

— А я яшчэ не мыюся, тата, гэта я толькі твар палашчу, каб санлівасць прагнаць. Як абальешся вадой, адразу свяжэй становіцца, сон як рукой здыме. Гэта мяне Антось Галамака навучыў.

Раман хмыкнуў. «Навучыў ён цябе добра, няма чаго казаць. От і прачынацца навучыў да ўсходу сонца, дзякуй яму. Учора позна прыйшоў, а сёння будзіць не трэба, сам прачнуўся і з ложка саскочыў, як заяц. Для людзей стараешся, здароўя не шкадуеш... Каб ты і на сваю работу такі праворны ды ўдалы быў. А я ж ведаю, як толькі скончыцца абрэзка, то цябе з ложка кіем трэба будзе падымаць. Сам от так не ўскочыш ды не пабяжыш твар паласкаць, каб санлівасць прагнаць ды, запрогшы каня, на ворыва ехаць. Я ведаю!» Аднак уголас не сказаў гэтага.

Зірнуў на сына і шкада яго стала. Трывога нейкая пякучая ўскочыла ў сэрца. А Сафрон тым часам паспеў ужо надзецца і абуцца. Шкада, што новыя боты па лясных дарогах трэпле. Па карэннях ды па каменнях... Але нічога не зробіш. На такую работу не ў лапцях ісці, каб кожны шляхтун-хутаранец пальцамі паказваў ды зубы

выскаляў: «Вунь галадранцы-лапцюжнікі зямлю мераць прыйшлі!» Зірнуў на сына яшчэ раз: высокі, плячысты, ладны, валасы рыжыя, кучаравыя. «У каго ён такі ўдаўся! У маім раду не было такіх. Няўжо ў жончынага брата, таксама Сафронам зваўся. Таму, мабыць, жонка і захацела даць сыну братава імя. А брат яе такі ж самы ўдалы быў. Рыжы і кучаравы. Прыгажун! Матросам служыў». І зноў стала шкада сына. Шкада да болю, аж сэрца сціснулася... І трывога нейкая незразумелая, але нязносная запаланіла ўсё нутро...

— Ці скора вы скончыце гэтую абрэзку, мой сын?

— Сёння апошні дзень, тата. Засталіся толькі Гарастовіч і Плышэўскі Міхал. А заўтра сам за работу вазьмуся. У мяне ўжо і то рукі свярбяць! Мы з Мікітам і без вас абыдземся. І гною навозім, і зааром. Вам толькі засеяць застанецца. Хіба я не бачу, што цяжка вам! Стары ды малы, якая гэта работа!

Упершыню так шчыра гаварыў сын з бацькам, і расчуліўся на старасці год Раман Кругленя. Адвярнуўся, каб вочы выцерці, і адказаў сыну:

— Не ў тым справа, мой сын... Не ў тым справа... За шыю яшчэ не капае, і ад людзей мы ззаду не засталіся. Не столькі ў нас тае работы, каб праз яе вельмі галаву ламаць. Я хачу табе сказаць... Сцеражыся, мой сын!

Сафрон здзіўлена зірнуў на бацьку.

— Чаго сцерагчыся, тата?

— Сцеражыся, мой сын,— настойліва паўтарыў Раман.— Не ведаеш ты ваўкоў-хутаранцаў. Кулаччо гэтае, разбойнікі! Ім чалавека забіць, як раз плюнуць. А за зямлю яны цяпер гатовы кожнаму ўласнымі зубамі горла перагрызці. А хто ж бандытаў гадаваў, калі не яны! Ды хіба толькі гадавалі! Самі бандытамі былі. І зброі ў іх хапае... А хто ведае, мо і цяпер недзе па хутарах бандыты хаваюцца!

— Бандытаў мы ў Ярэмічах прыкончылі, тата.

— А хто лічыў, колькі іх прыходзіла! Хто іх там лічыў! Можа, каторыя ўцяклі. Усё можа быць...

— Гэтага не можа быць, тата. Ніхто з іх з Ярэміч не ўцёк. От бачыце: нідзе больш не чуваць ні рабаўніцтва, ні забойства. Усюды ціха.

— Ну няхай сабе прыкончылі... Добра, што прыкончылі. Дык я ж табе кажу: самі хутаранцы-кулакі не лепшыя за тых бандытаў... Сцеражыся, Сафрон! Яны

і на мяне зубы востраць толькі за тое, што я бацька твой... а ты ў камсамол запісаўся, зямлю абразаць ходзіш.

— Не вельмі лёгка напасці на нас.

— Я табе кажу: сцеражыся! Такія ваўкі не нападаюць. Не ў іх гэта модзе. Яны паціху, з-пад куста...

— Кінь ты плясці немаведама што, стары груган! Бяды яшчэ ў хату не наклікаў! — азвалася ад мыцельніка Раманіха, якая, пакуль мужчыны гутарылі, паспела і ўстаць, і надзецца, і ўжо мыла дайніцу.

— А ты не лезь у мужчынскую гаворку. Вунь сонейка ўзыходзіць.— Раман зірнуў у акно.— Ідзі карову падаі, няхай хлопец з'есць і ідзе па сваёй справе.

Раманіха, не адказаўшы, узяла дайніцу і выйшла.

— Не прыслухоўвайся да бабскіх гаворак. Яна хоць і маці твая, але дзе яна была, што бачыла, што яна можа ведаць. Яна, вядома, рада, што табе людзі такую вялікую справу даверылі!.. Я таксама рады... Але сцеражыся, мой сын.

— Тата! Я ж не буду ім сваю галаву падстаўляць!

Раман нібы не чуў яго слоў і ўсё паўтараў:

— Сцеражыся, Сафрон! Ідзіце і аглядайцеся... прыслухоўвайцеся! Так і Антосю скажы...

— Добра, тата.

Сафрон з'еў кубак малака з тварагом, узяў у кішэню лусту хлеба на полудзень і накіраваўся ў дарогу.

Калі сын выйшаў на вуліцу, Раман стаяў каля варот і доўга глядзеў яму ўслед. Ён сам не ведаў, што з ім сёння робіцца. І ў мінулыя дні Сафрон таксама хадзіў на абрэзку, але тады Раман не праводзіў яго. Не глядзеў услед... І сэрца яго не грызла туга. Ён нават жартаваў з сына, падчас злаваўся, што боты топча і дома не дапамагае. А сёння ліха яго ведае, што гэта такое... Ные нешта ўсярэдзіне, не дае спакою... Па вуліцы прайшоў статак кароў у поле. Раман выгнаў і сваіх карову ды цялушку, тады, каб супакоіцца, падцягнуў калёсы да кароўскага хлява і ўжо хацеў разбудзіць Мікіту, але адумаўся: «Няхай паспіць. Першы воз адзін накідаю, каня запрагу, тады разбуджу». І, ўзяўшы сахор, пачаў накідаць у драбіны гной.

Сафрон выйшаў з дому, калі толькі ўзышло сонца. Над лясамі і балотамі клубіўся густы халодны туман. Буйная раса не толькі вісела на прыдарожнай траве, яна

так змачыла пясок і раллю, што здавалася ноччу, быў дождж. Над полем, у недасяжным блакіце нябёсаў жаўранкі спявалі свае чароўныя вясновыя песні. Сонца яшчэ не відаць было за лесам, але праменні яго ўжо ўздымаліся ў вышыню, пранізвалі хвалістыя воблакі, якія нібы назнарок сабраліся на ўсходзе, каб сонца апаліла іх сваім жыватворным агнём.

Сафрон хутка перайшоў поле. Не такія вялікія палі ў Загаллі, каб па іх доўга ісці. У лесе яго апырскала дажджом халоднай расы, што пасыпалася з маладога лісця бяроз і алешын. Сафрон не звярнуў на гэта ўвагі. Ён думаў пра бацьку. «Што з ім сёння!» Вечна злосны, вечна нездаволены, ён заўсёды гыркаўся, лаяўся без дай прычыны, усё было не па ім. Ніхто яму не мог дагадзіць: ні маці, ні сам Сафрон. Нават малодшы Мікіта мала бачыў ад яго ласкі. Крок ступіш не так, як яму хацелася, і ўжо гатовы па карку даць. За камсамол ледзь не заеў... А сёння і пра камсамол успомніў без злосці, за вароты на вуліцу правёў, і колькі гутарыў — слова дрэннага не сказаў. «Сцеражыся, кажа». Не, тата! Цяпер няхай яны сцерагуцца, хутарскія ваўкі-кулакі!» Сафрон бачыў, якімі вачамі яны глядзяць на іх, на камісію па абрэзцы зямель. Бацька праўду казаў, што з'есці гатовы, на кавалкі разарваць, але трасцы! Рукі кароткія. Глядзіць, як змей, з вачэй іскры сыплюцца, а з языка мёд цячэ. «Можа б, панове, зайшлі перакусілі? І па чарцы можна зрабіць». Не, не заманіш, воўк, у сваё логава!

Калі Сафрон прыйшоў у Ярэмічы, сонца ўзнялося над лесам. У сельсавеце чакалі яго Антось Галамака, Яўхім Сцешыц і каморнік Міша, малады хлопец у гарадскім касцюме і форменнай інжынерскай шапцы. Яўхім сядзеў са сваёй неразлучнай дубальтоўкай. У Антося і Мішы былі рэвальверы. Сафрону Антось прынёс сельсавецкую бярданку.

— Да каго першага пойдзем? — запытаў Антось.

— Да Гарастовіча. Па дарозе будзем ісці, крышку ўбок адскочым. Там панскага поля кавалак дзесяцін на дзесяць. Усё Гарастовіч жытам засеяў.

— Убок адскокваць не будзем, пойдзем проста на хутар, няхай сам паказвае сваю зямлю. А ён не пакажа, дык мы яму пакажам,— адказаў Антось.

Сафрону хацелася адазваць Антося ўбок, расказаць яму пра бацькаву перасцярогу, але пасаромеўся. «Яшчэ

падумае Антось, што я спалохаўся. І вырашыў маўчаць».

Пуста было на лясной дарозе. Нават трава, якая буйна пайшла ў рост пасля цёплых дажджоў і сонечных дзён, не была прымята ні адным следам. З усіх бакоў ліліся песні лясного птаства, і нельга было здагадацца, дзе пахаваліся яны, гэтыя спевакі.

Гарастовічаў хутар займаў вялізную паляну, з усіх бакоў абкружаную лесам. Месца было надзвычайна прыгожае. Сям-там на ўзмежках стаялі старыя ігрушы-дзічкі, каля сядзібы рос магутны дуб. Уся сядзіба была абнесена высокай агароджай з тоўстых дубовых калоў, завостраных уверсе. Замест варот — брама. Антось паспрабаваў адчыніць яе, але дарэмна. У адказ на яго намаганні з сядзібы данёсся брэх сабачай ганні. Ён быў такі залівісты і нахабны, што хлопцам, каб пачуць адзін аднаго, трэба было моцна крычаць.

Яўхім, доўга не думаючы, некалькі разоў грукнуў у браму прыкладам сваёй дубальтоўкі. Хутка за брамай нехта зашкробся і адчыніў яе. Гэта быў сам гаспадар Гарастовіч, дробны чорны чалавек з хітрымі глыбокімі вачамі. Убачыўшы Антося, ён гыркнуў на сабак, выскаліўшы белыя зубы так, што сам стаў падобны на сабаку. Гання, падтуліўшы хвасты, рынулася наўцёкі пад свіран, да хаты, да гумна.

— Заходзьце, заходзьце,— мяккім голасам гаварыў Гарастовіч, але Сафрону здавалася, што той сабачы аскал так і застаўся на яго твары.

— Зойдзем у хату. Можа, не снедалі яшчэ, то проша, панове.

— У хату некалі нам ісці, грамадзянін Гарастовіч, прытым мы ўжо снедалі. Мы прыйшлі абмераць вашу зямлю.

Твар Гарастовіча збялеў, губы скрывіліся ў драпежную злосную ўсмешку.

— Зямля мая даўно абмерана,— сказаў ён.— От мой хутар...

— Гэтая паляна ўся належыць вам?

— Уся...

— Колькі тут дзесяцін?

— Дванаццаць... Купляў яе яшчэ мой бацька. Даўно было... Можа, прырасла ад таго часу,— злосна пажартаваў ён і ўсміхнуўся агіднай усмешкай.

— Праверым.
— Правярайце...
— Ідзіце, таварышы,— загадаў Антось.— Ваша прысутнасць таксама неабходна, грамадзянін Гарастовіч.

Антось застаўся, каб пазнаёміцца з хутарам Гарастовіча. Ён адразу зацікавіў яго. Гэта быў не хутар, а сапраўдны фальварак. Дом на шэсць акон у пярэдняй сцяне, вялізны свіран з таўшчэзных бярвён. І дом і свіран крыты цынкавай бляхай. Аборы для жывёлы галоў на пяцьдзесят. Два гумны, адно большае, другое меншае. І гумно і аборы пад гонтай. Вялізны сад на сотні дзве дрэў. Цэментавы калодзеж, цэментавы склеп і яшчэ з паўдзесятка будынін, прызначэння якіх Антось не ведаў. «Жыве чалавек,— падумаў Антось.— Не пан, а падпанак сапраўдны. Цікава, колькі парабкаў ён трымае і дзе яны сёння? Напэўна, пачуўшы пра абрэзку зямлі, адаслаў некуды». Антось пастаяў некалькі хвілін з надзеяй убачыць каго-небудзь з тых, хто абрабляе гэтую зямлю, даглядае жывёлу і сад. Але на ўсёй сядзібе не відаць было ні аднаго чалавека. Антось вырашыў ісці да таварышаў. Не паспеў ён зрабіць і кроку, як з дома на ганак выйшла маладая дзяўчына. Такая ж чарнявая, як і бацька, але не ў параўнанне яму: высокая, з раскошнай чорнай касой, з пякучымі крыху нахабнымі вачамі, прыкрытымі доўгімі вейкамі. Яна сапраўды была прыгожая.

— Чаго вы тут адзін сядзіце, таварыш? — яна ўсміхнулася Антосю, як старому знаёмаму.— Хадзем у хату!

— Выбачайце. У хату мне ісці некалі,— адказаў Антось, з цікаўнасцю аглядаючы гэтую прыгажуню. Яна смела глядзела яму ў вочы і ледзь усміхалася, нібы хацела сказаць: глядзі, якая я! Няўжо я табе не падабаюся!

— Ужо і некалі! — гарэзна прамовіла дзяўчына.— Гарыць недзе, ці што! А я чула, што вы нежанаты! Вялікая радасць па лясах ды па балотах хадзіць! У нас грамафон ёсць, пласцінак многа. Пасядзім, паслухаем. Яны няхай мераюць, а вы ж начальнік!

— Памыляецеся, паненка, я не начальнік. Зайду калі-небудзь у другі раз, а цяпер мне трэба ісці да таварышаў.

Ён ускінуў на плячо Сафронаву бярданку і пайшоў з двара. Дзяўчына злосна скрывілася і, адвярнуўшыся, ціха свіснула. Антось ледзь паспеў зачыніць браму, як з усіх бакоў, з-пад свірна, з-пад гумна, з-за хаты са страшэнным брэхам рынулася сабачая ганьня. Вялізныя дра-

пежныя псы высоўвалі свае аскаленыя морды праз падваротню, і Антось незнарок азірнуўся некалькі разоў.

Тым часам абмер хутара быў закончаны. Насустрач Антосю ішлі Сафрон і Яўхім, за імі Міша, а ўслед за ім Гарастовіч.

— Скончылі, таварыш старшыня,— выгукнуў Міша і сеў на замежак.

— Колькі намералі?

— Зараз падлічу.

Гарастовіч глядзеў на Мішу сумным позіркам, так, як глядзіць сабака, калі хоча, каб яму кінулі костку або скарынку хлеба.

Міша спрытна рабіў падлікі.

— Васемнаццаць дзесяцін,— сказаў ён, падаючы свае падлікі Антосю.— Правер сам, і гаспадар няхай праверыць.

— Выходзіць, прырасло, грамадзянін Гарастовіч? — запытаў Антось, падаючы падлік гаспадару. Той узяў лісток і нават не зірнуў на яго.

— Дзіва што,— панура адказаў ён,— столькі гадоў... Там кусцік вырвеш, там дрэўца выкарчуеш... От і прырасло...

— У вас больш ворнай зямлі няма?

— Ну, як сказаць... Ёсць яшчэ кавалачак, што ў пана Ёдкі купіў...

— Колькі?

— А ліха яго ведае... Дзесяцін мо тры, чатыры...

— Вядзіце на той кавалачак.

Гарастовіч правёў Антося з таварышамі на «кавалачак» па нейкай малапратаптанай сцежцы, але яна амаль напалову скараціла дарогу.

Калі прамяралі той кавалачак і зрабілі падлік, у ім аказалася цэлых дзесяць дзесяцін. Увесь ён быў засеяны жытам. Густая рунь так разраслася, што не было відаць зямлі.

Гарастовіча біла нейкая сабачая трасца. Рукі яго калаціліся, збялеў твар. Ён з нянавісцю зірнуў на Мішу, потым на Антося і ў знямозе сеў проста на раллю.

— Выходзіць, і тут прырасло,— сказаў яму Антось.

Гарастовіч не адказаў.

— Больш у вас ворнай зямлі няма?

— Няма! — рашуча адказаў Гарастовіч і адразу стаў на ногі.

— Пачакай, Гарастовіч,— сказаў Яўхім.— А тая паляна каля Высокага бору, што ў мінулым годзе была засаджана бульбай.

— Якая паляна? — упаўшым голасам запытаў Гарастовіч.

— Ну, ты не прыкідвайся. Я там у мінулым годзе вепра застрэліў. Панадзіліся былі вепры ў тваю бульбу. Памятаеш, ты яшчэ дзякаваў мне, што напалохаў іх.

— Эх, Яўхім, Яўхім... Там лапінка, далонню накрыць можна...

— Аднак жа на той лапінцы ў мінулым годзе ўся твая бульба была. Каля хаты ты колькі садзіў? Не больш паўдзесяціны.

— Вядзіце на тую лапінку, грамадзянін Гарастовіч,— загадаў Антось.

Гарастовіч пастаяў з хвіліну і панура паплёўся ўперад.

У лапінцы аказалася чатыры дзесяціны.

— Цяпер усё? — зноў запытаў Антось.

— Усё.

— Ну як жа ўсё! — Яўхім зрабіў выгляд, што здзівіўся.— Няўжо ты свае зямлі не ведаеш? Адсюль жа крокаў за сто яшчэ паляна ёсць. Там у цябе ў мінулым годзе грэчка была.

Гарастовіч плюнуў і вылаяўся.

— Калі ты ведаеш маю зямлю лепш за мяне, то ты і вядзі!

— А ты не скачы на ражон, Гарастовіч, бо прапарашся. Я паляўнічы, і ўсе вашы хутарскія паляны ведаю, якія вы ад улады хаваеце, каб падаткаў не плаціць.

— Ты! Ты, хамула! — Гарастовіч сціснуў кулакі, выскаліў зубы і гатовы быў кінуцца на Яўхіма. Сафрону зноў здалося, што яго твар нагадвае сабачую морду.

— Ты цішэй, Гарастовіч,— спакойна сказаў Яўхім.— Не забудзь, што я мядзведзь, а ты супраць мяне заяц.

— Супакойцеся, Гарастовіч. Так ці іначай вашу зямлю мы ўсё роўна знайшлі б.

— Я нічога, старшыня... Але чаго ён лезе!.. Я не яго зямлю заараў...

— Вы зааралі дзяржаўную зямлю. Вядзіце на тую паляну.

Гарастовіч нехаця пайшоў напраскі цераз лес. Як і казаў Яўхім, не прайшлі яны і ста крокаў, як апынуліся

на другой паляне. Яна была меншая за першую, але і тут намералі дзве з паловай дзесяціны.

Гарастовіч зусім апусціў нос.

— А цяпер хоць рэжце мяне. Усё... Колькі вы намералі?

— Ворнай трыццаць чатыры дзесяціны,— адказаў за Антося Міша.

Гарастовіч уздыхнуў.

— Колькі вы ў мяне абрэжаце? — запытаў ён абы-якім голасам, стараючыся не паказаць пачуццяў, якія рвалі яго душу.

— Мы яшчэ не ведаем, колькі ў вас сенажаці, грамадзянін Гарастовіч.

Пазеляняелы ад злосці Гарастовіч павёў камісію на сенажаць.

Пакуль абмяралі і абразалі Гарастовічаву зямлю, сонца пераваліла за поўдзень. Усе страшэнна замарыліся, акрамя Яўхіма, які не супраць быў адразу ісці на хутар Плышэўскага Міхала.

— Не, дзядзька Яўхім,— запярэчыў Антось.— Трэба папалуднаваць. Назнарок адпачываць не будзем, а пакуль перакусім, то і адпачнём.

Прайшоўшы крыху па дарозе ў напрамку хутара Плышэўскага, выбралі вышэйшае месца, сышлі ў бок дарогі і селі на мяккі мох. Яўхім Сцешыц выцягнуў з торбы амаль цэлага глушца, пачалі даставаць і іншыя свае прыпасы. Міша між тым расказваў:

— І на кожным хутары адно і тое ж. Спачатку прапануюць снедаць, потым намагаюцца купіць. Гэта Гарастовіч, пакуль мералі яго хутар, увесь час хадзіў услед за мной і ўсё шаптаў: налічыце дванаццаць дзесяцін... налічыце дванаццаць дзесяцін... Пяцьдзесят рублёў золата дам. Потым павялічыў стаўку да ста, потым да ста пяцідзесяці. А калі скончылі мераць, дайшоў да двухсот. Купіць ім не ўдаецца, тады пачынаюць звярэць, як і гэты Гарастовіч сёння. Я часта думаю: што каб гэтыя людзі раптам узялі ўладу і сілу! Яны б з нас жывых скуры паздзіралі... Жах...

Антось Галамака маўчаў. Ён-то ведаў, што, акрамя подкупу, у іх ёсць і іншыя метады. Яны, не задумваючыся, прадалі б сваіх жонак і дачок, абы не страціць багацця. Сафрон намагаўся расказаць аб перасцярозе свайго

бацькі, але ў гэты момант Яўхім расклаў усе харчы, якія ў іх былі, і прапанаваў:

— Ешце, хлопцы. Сядзець няма калі. Калі і ў Плышэўскага столькі праваландаемся, то толькі ўпоўнач прыйдзем дамоў.

Пасля абеду захацелася спаць. Сонца стаяла высока і грэла горача. Рэдкая хвоя стромкіх сосен не давала ніякага ценю. Мох сагрэўся і быў мяккі, як падушка. Сафрону хацелася расцягнуцца на ім і спаць, спаць... Ён быў упэўнены, што да вечара нават не паварухнуўся б. Такое жаданне было і ў Мішы. Абодва маладыя, яны зацягаліся за гэты тыдзень. Не хапала сну. Але Яўхім падняўся і ўзяў сваю дубальтоўку. Устаў і Антось.

— Падымайцеся, хлопчыкі,— загадаў ён.

— А ці далёка да таго Плышэўскага? — пацікавіўся Міша.

— Дваццаць мінут дарогі,— супакоіў яго Яўхім.

Спачатку ісці было цяжка, але з кожным крокам стома і вяласць праходзілі. Некаторы час ішлі моўчкі. Яўхім крочыў уперадзе роўнай хадой старога паляўнічага. Ён спыніўся, каб паведаміць, што хутар блізка, як раптам пачуўся недалёкі стрэл. Сафрон схапіўся левай рукой за правае плячо і са стогнам абсунуўся на зямлю.

## 75

Ігнась адчуў, што пасталеў. Не то каб падрос, зрабіўся старэйшым, зусім не. Такога адчування не было, але цяпер ён зусім інакш глядзеў на жыццё, чым тады, калі ўпершыню пераступіў парог школы і клуба камсамольскай ячэйкі. Цяпер ён навучыўся наглядаць, думаць, асэнсоўваць з'явы жыцця, рабіць свае вывады з назіранняў, правільна ацэньваць падзеі. Адным словам, думкі яго атрымалі належны парадак, яны ўжо не блыталіся без толку, калі нельга знайсці пачатак адной і канец другой, а цяклі паступова і лагічна. Цяпер Ігнась быў упэўнены, што і ў вёсцы ён быў бы нядрэнным памочнікам Сафрона Круглені, з якім сустракаўся амаль штотыдня. Сафрон, па справах Ярэміцкай ячэйкі і даручэннях Антося Галамакі, часта бываў у мястэчку і кожны раз наведваў Ігнася. Ён паведамляў яму ўсе вясковыя навіны, і Ігнася іншы раз цягнула дамоў.

Пасля сустрэчы каля ракі ў час разводдзя Ігнасю не

ўдавалася больш пагутарыць з Зосяй адзін на адзін. Зося змянілася пасля той сустрэчы. У адносінах іх, здаецца, і не было змен. Зося прыносіла яму кнігі, часта жартавала і смяялася з яго і Ткачука, называючы Ігнася Іванам Іванавічам, а Янку Іванам Нікіфаравічам, адказвала на лісты, якія Ігнась не мог не пісаць, да яе, але і ў лістах, і пры гутарцы ў гэтай дзяўчынкі адчувалася нейкая стрыманасць, упартасць і нават запалоханасць. Калі ён сустракаў яе на вуліцы або ў школе і хацеў спыніць і пагутарыць, яна глядзела на яго спалоханым злосным позіркам і не толькі не спынялася, а хутчэй уцякала. Каб абмяняцца лістамі, трэба было чакаць зручнага выпадку і месца, у пустым калідоры ці класе, пры раптоўнай сустрэчы на ганку або на вуліцы, калі паблізу нікога няма.

Аднак усё гэта не адбівалася на настроі Ігнася. Ён прыкмеціў, якім шчырым ласкавым позіркам глядзіць на яго Зося, калі думае, што ён не бачыць гэтага позірку. З Янкам Ткачуком Ігнась сябраваў па-ранейшаму, не мог без яго абысціся, але глыбока хаваў ад сябра сваю шчаслівую таямніцу. З Лявонам Богушам ён, як і раней, і еў, і спаў разам, аднак адчуваў: Лявон аддаляецца ад яго. «Што за прычына? — думаў Ігнась.— Мабыць, розніца ва ўзросце... Але ж Сафрон сябруе са мной, а ён жа Лявонаў аднагодак... Значыць, не розніца ва ўзросце, а тое, што мы ў розных класах...» І ўсё ж такі Ігнась памыляўся. Лявон канчаў сямігодку і напружана рыхтаваўся да экзаменаў. Гэта забірала ўвесь яго вольны час. Яго інтарэсы цяпер выходзілі далёка з рамак школьнага жыцця. Ён ужо адчуваў сябе ў школе і мястэчку госцем і думаў пра будучыню. Што рабіць, калі ён скончыць сямігодку? Заставацца ў вёсцы ці паступаць вучыцца далей? Што пра гэта скажа бацька? Дзе ўзяць грошай? Вось такія думкі трывожылі і хвалявалі Лявона. Ён адчуваў, што хутка адарвецца ад школы, ад роднай камсамольскай ячэйкі і дзе апынецца?..

Аднойчы ў пятніцу вечарам, калі ў гаспадароў у хаце ўжо адчувалася свята і на стале ў высокіх падсвечніках з ціхім патрэскваннем гарэлі свечкі, Лявон вярнуўся дадому не па-звычайнаму змрочны і задуменны, а ажыўлены і вясёлы.

— Гэй! — адразу гукнуў ён хлопцам, адчыніўшы дзверы ў іх пакой.— Чаго вы зашыліся ў гэтую нару? Плыты прыйшлі. Гайда да ракі, на плыты!

Яго весялосць і бадзёрасць адразу перадаліся хлопцам, якія моўчкі сядзелі хто з падручнікам, хто, сагнуўшыся, над сшыткам. Яны не чулі пра плыты, не ведалі, адкуль яны прыйшлі, але ўсе падхапіліся з месца. Пятрусь Корзун самы праворны, не прамакнуўшы, склаў сшытак, Белка кінуў кнігу на ложак, радасна ўсміхнуўся Коля. Ігнась здзіўлена зірнуў на Лявона.

— Згортай кнігу, Ігнасёк! — сказаў, усміхаючыся, Лявон, і сам забраў падручнік з Ігнасёвых рук.— Плыты прыйшлі!

Праз некалькі хвілін хлопцы ўжо былі каля ракі. Там сапраўды, прыткнуўшыся да мястэчковага берага, стаялі плыты. Іх было некалькі дзесяткаў, звязаных з тоўстых смаловых бярвён. Яны гойдаліся пад нагамі, пакручваліся, як жывыя, вада з плюханнем абмывала іх.

— Адкуль гэтыя плыты? — запытаў Ігнась у Лявона, які стаяў на самым крайнім плыце і з задуменнай задаволенай усмешкай глядзеў на раку.

— З лясніцтва. Гэта плыты арцелі па асушэнню балота.

— Лявон,— сказаў Ігнась, якога цяпер цікавілі не плыты, а сам Лявон.— Ты сёння не такі...— ён больш не знайшоў, што сказаць, і падумаў, што можа, не варта гаварыць.

— Сядзем, Ігнась,— адказаў Лявон і сеў на самае тоўстае бервяно. Ігнась прымасціўся каля яго.

— Ты памятаеш той дзень, калі я прывёў цябе да ракі восенню? У гэтым самым месцы стаяў плыт.

— Помню. Ты тады быў не такі...

Лявон усміхнуўся.

— Вядома, Ігнась. Я тады толькі пачынаў вучыцца ў сёмым класе, а цяпер канчаю яго. А ты хіба такі самы, як і тады быў.

— Зразумела, што не... Але я ад цябе не хаваюся, не пазбягаю...

— Дык ты думаеш, што я пазбягаю цябе? Дзівак! У мяне цяпер многа іншых клопатаў і думак... Такіх, у якіх ты мне нічым не падсобіш, нічога не парадзіш... Табе яшчэ два гады трэба вучыцца, каб скончыць сямігодку. У цябе і думак не можа быць іншых, як пра вучобу. Летам будзеш з камсамольцамі працаваць, дапамагаць бацьку і чакаць восені, каб зноў сесці за школьную лаў-

ку. А ў мяне ўжо іншая справа, Ігнась. Можа, ты думаеш, што сямігодка гэта і ўсё, што патрэбна чалавеку?

— Я так ніколі не думаў.

— І не думай! Нам трэба многа ведаць, Ігнась. Каб перамагчы старое, каб пабудаваць новае жыццё, трэба многа ведаць. А без вучобы ведаў няма. Яны самі не прыходзяць. І мне было пра што думаць, Ігнасёк, у апошнія часы. І не вельмі вясёлыя былі тыя думкі. Ну, скончу сямігодку, а тады што? Заставацца ў вёсцы? А што я новае прынясу туды? Па прыкладу бацькі пачну сахой зямлю корпаць ды на кулакоў працаваць! Ты не думай, што я сялянскай работы не люблю і панам ужо стаў... Зусім не тое! Я хачу прынесці ў вёску новае, светлае, шчаслівае жыццё. А як жа я прынясу, калі сам яго не ведаю!...

— Вучыцца трэба, Лявон...

— Вось мы да гэтага і падышлі. Каб усё ад мяне аднаго залежала, я не ламаў бы галавы. Гаспадарка наша бедная, свайго хлеба не хапае. Бацька чакае, што я пасля сямігодкі памочнікам яму стану, зарабляць буду... А якія ў вёсцы заработкі... Там будзеш не зарабляць, а толькі сёе-тое на гаспадарку даваць ды адрабляць бацькавы даўгі. Калі я паступлю вучыцца, то бацька, каб і хацеў, нічым мне не дапаможа. Няма адкуль... А трэба ж нешта на сябе справіць, рубель у кішэні мець хоць на першы час. Вось што не давала мне спакою.

— Ну дык што ты будзеш рабіць, Лявон? — запытаў Ігнась, якога да болю ў душы кранулі Лявонавы словы.

— Цяпер я ўжо нічога не думаю. Таму мне і весела сёння, Ігнасёк!

Ён раптам ускочыў з месца, аберуч схапіў Ігнася, падняў яго і пачаў кружыцца па плыце.

— Закіну на сярэдзіну ракі! Пакупайся крыху, паляшук! Дапамажыце, хлопцы! — гукнуў ён.

Хлопцы не прымусілі сябе доўга чакаць. Першы прыбег Пятрусь і асядлаў Лявона ззаду, потым падляцелі Коля і Белка, і праз хвіліну на плыце ўтварылася «куча мала». Пад нізом быў Лявон.

— Дык вы ж не мне дапамагаеце, шэльмы! — крычаў ён, раскідаючы нездагадлівых памочнікаў.

Потым усе стомленыя, але ўзрушаныя і вясёлыя сядзелі і адпачывалі.

— Ты ж не скончыў, Лявон. Чаму ты цяпер не думаеш пра вучобу? — запытаў Ігнась.

— Хто табе казаў, што не думаю! Я толькі ад Калядкі прыйшоў. З Довідам у яго былі. Усё лета ў арцелі праваць буду! Экзамены здам і дамоў не пайду. Цяпер дзяржава поўнасцю забяспечвае нашу арцель усімі сродкамі і матэрыяламі. І бацьку дапамагу, і сабе застанецца! Зразумеў?

Ігнась не адказаў нічога. На душы яго было лёгка і светла. Ён радаваўся за Лявона так, як радаваўся б сам за сябе.

Між тым на двары зусім сцямнела. Цёплай вільгаццю веяла ад ракі. Ярка блішчалі агні з акон местачковых хат.

— А я вам галоўнага і не сказаў. Проста забыў.

— Аб чым тваё галоўнае? — зацікавіўся Пятрусь.— Мы і негалоўнага не чулі.

— Заўтра, хоць і субота, нікому дамоў не ісці. Пасляз заўтра нядзельнік. Але заўтра аб гэтым у школе будзе сход.

— Які нядзельнік? — не зразумеў Ігнась.

— Траса магістральнага канала пракладзена,— растлумачыў Лявон.— Местачковыя камуністы і камсамольцы вырашылі зрабіць у нядзелю першы выхад на трасу. Пойдуць рабочыя і служачыя ўсіх устаноў. Вось які нядзельнік. А хіба мы, вучні працоўнай школы, адмовімся?

— Ніхто не адмовіцца,— упэўнена адказаў Пятрусь.— У нас ужо і харчоў мала, але мы дамоў не пойдзем. Праўда, Коля?

— Праўда то праўда,—адказаў Коля,— але каб ты менш гандляваў, то харчоў бы ў нас хапіла...

— А давайце, хлопцы, усе харчы, якія ў нас яшчэ засталіся, складзем разам,— прапанаваў Ігнась.— У нядзелю мы хоць і не вельмі сыта наядзімся, але і галодных не будзе.

— Правільна, Ігнась,— адазваліся ўсе.

— Во! — узрадаваўся Лявон.— Сапраўдныя камунары! А на нядзельнік, хлопцы, і Уладзімір Ільіч хадзіў.

Далёка за ракой над лесам узнялася вялізная чырвоная куля поўнага месяца. Навокал стала так прыгожа, што не хацелася ісці ў цесную і душную кватэру.

У нядзелю, як толькі ўзышло сонца, хлопцы былі на нагах. Дзень выдаўся ясны, вясёлы і ціхі. Калі Ігнась выйшаў на ганак і ўбачыў раку, а за ёй далёкі бераг лесу, яму адразу захацелася дамоў. Не, не такія былі вясновыя раніцы ў яго родным Загаллі. Там яшчэ да ўсходу сонца з усіх бакоў ліліся цудоўныя спевы птушак, пахла першымі кветкамі, прэлым лісцём і маладой травіцай. Пахла вясной! А тут мала расліннасці, мала і птушак. Толькі чырыкаюць вераб'і, іх тут хапае, ды ў нягоду нудна каркаюць вароны... Аднак такія думкі не сапсавалі Ігнасю настрой. Ён ужо зрадніўся з мястэчкам і палюбіў яго такім, якое яно ёсць.

Збор на нядзельнік быў назначаны на восем гадзін каля будынка валвыканкома. Пасля поснага і скупога снедання хлопцы накіраваліся туды. Прыйшлі яны не першыя. Там ўжо было шмат людзей, і дарослых і школьнікаў. Ва ўсіх быў узняты святочны настрой, аднак ніхто з дарослых не стаяў з пустымі рукамі. Большасць трымалі рыдлёўкі, рэшта сякеры. На гэта і звярнуў увагу Ігнась.

— А мы што ж, будзем там стаяць, склаўшы рукі? — запытаў ён у Лявона.

— Улічана,— адказаў яму Лявон.— Мы атрымаем інструмент на месцы, са склада. Довід выдасць.

Праз некаторы час прыйшлі Кавалёў, Буткевіч, Калядка, Руткоўскі і Барай. Правялі кароткі мітынг і пачалі строіцца ў калоны. Толькі цяпер заўважыў Ігнась людзей з бліскучымі меднымі трубамі. Іх пастроілі асобна. Гэта быў духавы аркестр пажарнай дружыны.

І нарэшце пайшлі.

Уперадзе аркестр.

За ім камуністы, камсамольцы, члены арцелі, супрацоўнікі ўстаноў, местачковая моладзь. Усе, нібы са стрэльбамі, з лапатамі і сякерамі на правых плячах.

Шэсце замыкала школа.

Аркестр грымнуў «Смело, товарищи в ногу!». І Ігнасю здавалася, што ён не ідзе, а плыве ў паветры. Ногі самі нясуць яго ўперад!

Калі замоўк аркестр, з пярэдніх радоў пачулася песня. Яна хутка ахапіла ўсю калону і запаланіла мястэчка.

На складзе, які стаяў каля доўгіх дашчаных баракаў на самым беразе, Ігнась узяў сякеру. Сам папрасіў яе ў Довіда. Гэтаксама зрабілі Янка Ткачук, Пятрусь, Коля,

Белка і іншыя вучні. Іх усіх паслалі высякаць густыя лазовыя кусты, што раслі па трасе канала і па яго баках.

І ажыло балота. Людзі дружна ўзяліся за работу. На дрыгве, пакрытай жоўта-зялёным мохам, пачалі з'яўляцца мокрыя груды чорнага торфу. Спачатку яны былі маленькія, рэдка раскіданыя адзін ад аднаго, але паступова раслі і зблiжаліся.

Школьнікі не адставалі ад дарослых. Ігнась не мог нацешыцца з сякеры. Ён пад самыя карэнні падсякаў лазовыя кусты, адцягваў іх убок, а потым звальваў у кучы.

К полудню пачала адчувацца стомленасць. Нылі рукі. Тым болей, што сонца стаяла высока і пякло па-летняму горача. А самае галоўнае, хацелася есці. Калі аб'явілі перапынак на абед, хлопцы затужылі зусім. У кішэнях іх ляжала па маленькаму кавалачку хлеба. Яны з'елі яго, не адчуўшы смаку.

Пасля адпачынку зусім не хацелася падымацца з месца. Страшна было падумаць аб тым, што трэба брацца за сякеру. Вось у гэты цяжкі час да іх падышоў Довід.

— Атрымайце новы загад, сябры,— сказаў ён.— Даволі секчы, трэба спаліць тую лазу, што ляжыць у кучах. Пакуль балота мокрае, гэтая работа зусім бяспечная, торф не загарыцца. Трымай, Ігнась, запалкі.

— Толькі мы будзем паліць? — пацікавіўся Ігнась, які і рады быў такому павароту справы і адначасова крыўдзіўся, што яго з таварышамі, мабыць, лічаць малымі.

— Чаму толькі вы? Уся пятая група, а ў дапамогу вам усе дзяўчынкі. Нават з сёмага класа.

Ігнась хваравіта скрывіўся, і Довід заўважыў гэта.

— Ты прызначаешся старшым,— сказаў ён.— Работа адказная, улічы. Усе сякеры і рыдлёўкі, якія будуць, складзіце ў адно месца, а вечарам здадзіце мне. Ты і за гэта таксама адказваеш, Ігнась.

Цяжка было распаліць першы касцёр. Не было бярэсты і смалякоў, але хлопцы сабралі ўсю паперу, якую хто меў, наламалі сухіх лазовых галінак, і ў хуткім часе касцёр разгарэўся.

Праз некаторы час уздоўж трасы магістральнага канала запалалі кастры. Цікавае і вясёлае было відовішча. Усе забылі пра стомленасць і голад. Гэта ўжо была і не

работа, і нават не адпачынак, а цікавая гульня, ад якой цяжка адарвацца.

Дамоў ішлі хоць і стомленыя, але вясёлыя. Сонца стаяла яшчэ высока, да вечара можна было і адпачыць, і пачытаць, і падрыхтаваць урокі.

Ігнась затрымаўся на складзе, пакуль Довід прыняў ад яго сякеры і рыдлёўкі. Потым ён яшчэ пагутарыў з Довідам, а галодныя хлопцы пабеглі дамоў з надзеяй, што там іх чакаюць харчы, якія прывезлі з дому.

Застаўшыся адзін, Ігнась вырашыў ісці дамоў не дарогай, а берагам ракі. Хацелася ўбачыць, як выглядаюць тыя мясціны, па якіх ён хадзіў з Зосяй у той незабыўны вечар у час разводдзя. Прайшоўшы некалькі крокаў, ён зразумеў, што тут яны з Зосяй не былі. Уперадзе віднелася горка з брацкімі магіламі, але ў той раз яны падышлі да яе з боку мястэчка, а не балота. Вяртацца назад не хацелася, і Ігнась рушыў наперад. Хутка перад ім паўстала невялікая горка, на якой расло болей дзесятка тоўстых раскідзістых сасён. Ігнась падняўся на яе. Брацкая магіла знаходзілася ў самым цэнтры. Каля яе стаяў вялікі каменны помнік з пяцікутнай зоркай уверсе. І магіла, і помнік былі агароджаны драўлянымі штакетамі, афарбаванымі ў чырвоны колер. І каля гэтай прыгожай агароджы стаяла Зося. Яна вялікімі здзіўленымі вачамі непрыязна глядзела на Ігнася, але ён не заўважыў непрыязнасці. Слёзы ён убачыў у яе прыгожых вачах.

— Што ты тут робіш, Зося? — запытаў ён незнаёмым для сябе голасам.

— Я часта сюды хаджу і не толькі адна, а з мамай... Мы тут будзем садзіць кветкі! А ты чаго сюды прыйшоў?

— Я проста... хацеў прайсці берагам ракі...

— Ілжэш! Ты падглядаў, куды я пайду!

— Што ты, Зося!.. Хлопцы пакінулі мяне на складзе... А я ўспомніў, як мы тут хадзілі тады, і вырашыў прайсці яшчэ раз... — у голасе яго гучала шчырасць.

— Гэта праўда? — запыталася яна.

— Калі я лгаў, Зося?

— Ну дык чаго ты там стаіш на тым баку, ідзі сюды.

Яны і сапраўды стаялі на процілеглых баках плоціка, адно насупраць другога.

— Ты помніш свайго тату? — запытаў Ігнась, падышоўшы да Зосі.

— Вядома, помню... Усё помню...— голас яе задрыжаў.— І як білі яго... і як з хаты пацягнулі ледзь жывога... А потым яшчэ білі, але я ўжо не бачыла...

Яна заплакала і больш не магла гаварыць.

— Зося... Зоська... Ну не плач...— супакойваў яе Ігнась, як умеў, але яму хацелася пагладзіць яе прыгожую галоўку, выцерці вочы, прытуліць да сябе... У гэтую хвіліну ён шкадаваў яе так, як шкадаваў бы сваю сястрыцу Вольку, такую ж сінявокую, як яна.

— Яны і маму маю білі...— праз слёзы прамовіла яна.

— Не трэба, Зоська. Не трэба пра гэта. Хадзем лепш дамоў.

Ён мімаволі падаў ёй абедзве рукі, і яна ўзяла іх у свае.

Цяпер яны ўжо ішлі той самай сцежкай, якой ішлі тады, калі разлілася рака, і на ёй плылі апошнія крыгі.

Зося паступова супакоілася, і Ігнась з радасцю ўбачыў лёгкую ўсмешку на яе вуснах.

— Ты не пішы мне больш такіх лістоў,— нарэшце сказала яна.

— Якіх?

— Ты пішаш, як дарослы... Глупства ўсякае такое... выдумляеш...

— А хіба я маленькі! — пакрыўдзіўся Ігнась.

Зося змерыла яго позіркам ад галавы да ног.

— Ох, які вялікі! — і залілася смехам.

Ігнась адчуў сябе зусім нікчэмным.

— Ну і кіслы ж ты стаў...— праз смех сказала яна.— І чаму гэта ўсе хлапчукі хочуць быць дарослымі!

— А ты, мабыць, і цяпер у лялькі гуляеш,— злосна адказаў Ігнась.

— А чаму б і не! — яна крыху памаўчала.— А ты не казаў Янку, што мы тады з табой па беразе хадзілі?

— Яшчэ пытаецца!

— Затое пахвалішся цяпер?

— Няма чым хваліцца.

Гэтыя словы крыху кранулі Зосю.

— Ты мо думаеш, што я з табой і па вуліцы пайду?

— А чаму б і не! — адказаў ён яе словамі.

— Ну дык бывай здаровенькі!

Яна рванулася з месца і памчалася па сцежцы ўперад.

— Не ўцячэш! — крыкнуў Ігнась і, забыўшыся на стомленасць, рынуўся за ёю. Праз хвіліну ён ужо схапіў яе за плечы. Яна крута павярнулася да яго тварам.

— Пусці! — у вачах яе ўспыхнуў такі знаёмы Ігнасю ўпарты агеньчык.

— Хіба я цябе трымаю! Я цябе толькі злавіў! — прастадушна адказаў ён.

Зося зноў засмяялася.

— Ну от бачыш, дарослым сябе лічыш, а бегаеш, як малы.

— Ты таксама бегаеш,—панура адказаў Ігнась.

— Дык я ж і ёсць малая! Выходзіць, што мы абое малыя. А малым жа можна па вуліцы хадзіць, і хлопчыкам і дзяўчынкам разам! Хадзем, Ігнаська! Зойдзем да мяне, я табе пакажу свае лялькі.

І яны пайшлі.

## 76

Расцвіло Палессе. Першыя подыхі маладой вясны павеялі на векавыя бары, на старыя дубровы, у глуш і нетру балот і імшарнікаў. Як тонкі і кволы дымок, акутала маладое лісцейка бярэзнікі і алешнікі. Вербы, абсыпаныя мяккімі пушыстымі каткамі, стаялі пад веснавым сонцам нерухома. Маладая травіца ў лясах упарта цянулася ўгару праз старое лісце і хвою. Расцвіла ў балотах лотаць, і ляглі гэтыя балоты, як жоўтае мора, бясконцыя і бяскрайнія.

У Ігнася скончыліся харчы, і ён вымушаны быў ісці дадому. Выйшаў з мястэчка ў поўдзень, калі сонца стаяла высока ў небе. За мястэчкам разуўся і босы пакрочыў па гарачым пяску. Здалёк віднелася прошча. Падышоўшы бліжэй, убачыў, што за прошчай, паміж кустоў, арэ чалавек. Мабыць, расчысціў ад зарасніку кавалак хмызняку і думае тут нешта пасеяць. Пустая зямелька — пясок, жарства... Не хапае зямлі. Ляжыць яна навокал то балотамі, то лясамі, то вось такой пусткай — жоўтым пяском.

І ўспомніў Ігнась, як сакратар партыйнай ячэйкі Кавалёў гаварыў на камсамольскім сходзе, што прыйдзе час, калі на гэтых балотах будзе расці збожжа ў чалавечы рост, а на пяску паўстануць фабрыкі і заводы, з горада пракладуць да мястэчка чыгунку. І той час ужо набліжаецца. Камуністы адновяць гэты сумны край. І не

хто іншы, а камсамольцы-моладзь пойдуць у першых шэрагах барацьбітоў за лепшае жыццё.

Мінуўшы прошчу, Ігнась перайшоў уброд і выйшаў на паляну. Тут таксама аралі сяляне. Некаторыя вазілі гной. Муж з жонкай падважвалі смаловы пень, каб выдраць яго з зямлі, каб не замінаў ён плугу рваць дзірван. Кучы такіх пнёў ляжалі ля самай дарогі. «Усе яны пойдуць на смалакурню»,— здагадаўся Ігнась.

Дарога была знаёмая. Ігнась пазнаваў некаторыя дрэвы, якія бачыў тады, яшчэ восенню, калі першы раз ехаў у мястэчка. Але тады ўвесь краявід выглядаў сумна, панура, змрочна, а цяпер памаладзеў, аджыў і расквітнеў.

З горкі Ігнась убачыў маяк. Ён нібы раставаў у празрыстым паветры. Да яго Ігнась схадзіў бы. Маяк цягнуў: хацелася залезці на самы яго верх і агледзець прасторы, уявіць іх такімі, якімі яны стануць праз дзесяць — пятнаццаць гадоў.

У Загаллі было пуста. Сяляне працавалі ў палях. Па вуліцы Раманаў Мікіта вёз гной. Ён здалёк яшчэ усміхнуўся Ігнасю, і той ледзь не пабег насустрэчу таварышу.

— Ігнась, братка, ты прыйшоў! — радасна сказаў Мікіта.

— Толькі на адзін дзень.

— Наш Сафрон успамінаў цябе.

— А дзе ён?

— Наш Сафрон? Няма яго дома другі дзень. Зямлю ў кулакоў абразаюць ды беднякам даюць.

— Вечарам сустрэнемся, Мікіта.

Мікіта падагнаў каня, потым павярнуўся і крыкнуў здалёк:

— А я хутка ў камсамол запішуся, Ігнась!

Мікіце рупіла адразу сказаць пра гэта, яшчэ ў тую хвіліну, калі ён заўважыў Ігнася здалёк, толькі яму не хацелася хваліцца.

Вароты ад вуліцы былі адчыненыя, і Ігнась зайшоў у свой двор. Ля хлява стаялі драбіны, і бацька накідаў гной.

— Якраз у пару! — прывітаў ён Ігнася.— Маладзец, чалавек, дапаможаш мне гной вазіць!

— Дайце мне сахор, я дапамагу накідваць.

Ігнасю захацелася адразу ўзяцца за работу, бо засумаваў па ёй.

— Не спяшайся. Ідзі адпачні ды тым часам перакусі. Да вечара яшчэ далёка,— сказаў бацька, высунуўшыся з хлява і зірнуўшы на сонца. Але да вечара было зусім недалёка, і Ігнась зразумеў, што бацька ўзраваўся не таму, што Ігнась дапаможа яму вазіць гной, ды і ці дапаможа яшчэ, бо сонца хіліцца к захаду, а проста рад, што ўбачыў сына, рад сустрэчы.

Выйшла з хаты маці, за ёю, як куля, вылецела Волька, кінулася да Ігнася і павісла ў яго на шыі.

— Ты мяне задушыць хочаш, Волька!

— Ой, Ігнаська, як жа ты груба пачаў гаварыць! — здзівілася Волька, а бацька ўткнуў згрэбач у гной і ўсміхнуўся. «Сталее сын. Далібог, голас стаў грубейшы, як у мяне... І выцягнуўся, як дубок». А маці стаяла збоку і выцірала фартухом вочы.

— Мо ты есці хочаш, Ігнаська?

— Не, мама. Я хачу гной вазіць. Павячэраем разам.

— Ты не мудруйся, Ігнась, з дарогі перакусіць не замінае,— сказаў бацька,— а гною я і сам наважу. Да вечара акурат упраўлюся.

— Не, тата, дайце мне сахор.

— Ну, калі так у цябе засвярбелі рукі, то бяры мой. Я сабе з адрыны другі прынясу.

Да самага захаду сонца Ігнась вазіў гной. Таптаў старыя дарогі і радаваўся. І пах сырой раллі, і кволы водар далёкіх лугоў урываўся ў яго грудзі, уздымаў вялікую радасць і надзею на тое, што гэтыя прасторы чакае яшчэ лепшы час. А над балотамі паўставаў туман, ад вясенняй вільгаці ледзь прыкметна курыліся лясы, і вячэрні ветрык быў ужо крыху свежаваты.

Едучы дамоў, сустрэў Калачыка Сцяпана. Ён вёз у поле воз гною. Убачыў Ігнася і спыніў каня.

— Добры вечар, нябож! Далібог, не пазнаць цябе.

— Што вы, дзядзька. А мне здаецца, што я такі самы.

— Дзе ты бачыў! Маладыя растуць, а мы ніжэй да зямлі хілімся.

— Чаму ж так позна, дзядзька? Ужо на адпачынак пара!

— Маўчы, нябож! Зямлі мне прырэзалі, каб свой хлеб сеяў ды еў.

— Добра, дзядзька, вельмі добра!

— Так ужо добра, што і выказаць нельга! Здаецца,

што іншы свет кругом паўстаў. Ты от кажаш: позна, а ў мяне, нябож, душа спявае! Работнікаў у мяне, сам ведаеш колькі, а тут жонка нешта прыхворвае, дык я сам дзень надточваю то раніцаю, то вечарам, каб ззаду не застацца ў людзей! Цяпер ты мае хаты не пазнаеш, сенцы прыбудаваў, новай страхою ўсё накрыў, кулі ад Патапчыхі спагнаў за парабкоўства сваё... А цяпер Калачык па-людску жыць пачне. Едзь на адпачынак, нябож, ды дзякуй табе, бо і ты крыху адчыніў вочы нашым людзям.

Па вуліцы ішла чарада кароў, за ёй уварваўся статак авечак. У паветры патыхнула звычайным вясковым пахам — малака, дыму і гною.

Ігнась распрог каня, і ён трухам пабег да калодзежа. Бацька сабраў збрую і занёс яе ў адрыну. Маці выйшла на ганак і гукнула мужчын на вячэру.

Скончыць вячэру так і не прыйшлося. У хату ўбегла Волька і, не зачыніўшы дзвярэй, крыкнула:

— А татачка, Раманавага Сафрона забілі!

Услед за яе словамі ў хату ўварваўся шум і лямант з вуліцы. Ігнась без шапкі рынуўся на двор, за ім кінуўся Алесь і Арына. Па вуліцы ішла фурманка, а за ёю ішла грамада людзей.

Раманіха, схапіўшыся рукамі за галаву, галасіла:

— А сын ты мой... А што ж з табой зрабілі.

Маркава Надзея выскачыла з двара і кінулася да воза. Убачыўшы Сафрона, яна крыкнула і павалілася на зямлю. Жанкі падхапілі яе і панеслі дамоў. Раман без шапкі, белы як палатно, паўтараў толькі адно:

— Я і ведаў, што так будзе... Я і ведаў...

Старшыня сельскага савета Галамака супакойваў Раманіху.

— Цётка, ён будзе жывы, яго толькі паранілі. Адразу ж павязём яго ў бальніцу. Ён паранены, а не забіты, зразумейце вы гэта.

Натоўп на вуліцы рос і бушаваў.

— Кулакі! Вось што робяць кулакі!

— Кулакі-хутаранцы, тыя, што бандытаў кармілі!

— Кулакі! Тыя, што зямлю ад абрэзкі ўтойваюць.

Ігнась, распіхваючы людзей, падышоў да воза. На саломе ў палукашы ляжаў паранены Сафрон. Твар яго быў белы і вочы заплюшчаныя.

У Ігнася сціснуліся кулакі ад гневу і жаласці.

Сафрон расплюшчыў вочы і пазнаў Ігнася. Ён памкнуўся ўсміхнуцца яму і прашаптаў:

— Барацьба, Ігнась.

— Так, так. Барацьба...

Не спыняючыся ў вёсцы, Сафрона павезлі ў мястэчка. А людзі не хацелі разыходзіцца. Мікіта, абняўшы Ігнася за шыю, плакаў горка, зусім па-дзіцячаму, і Ігнась не мог супакоіць яго.

— А што, калі ён памрэ?

— Не памрэ!

Гэта Ігнась сказаў з такой верай і рашучасцю, што Мікіта зірнуў яму ў вочы і супакоіўся.

# апавяданні

## СВОЙ ЛЕС

Клеманс Свірыд навязаў да слупка карову і, прыжмурыўшыся, зірнуў на ўсход. Проста перад ім ляжала вялікае возера. Хвалі адна за адной з кволым плёскам аблізвалі нізкі бераг. Чырвоныя праменні толькі ўзышоўшага сонца, як у люстры, адбіваліся ў воднай роўнядзі і сляпілі вочы. Ледзь чутна шумелі чароты. Над імі праляцела адзінокая кнігаўка і знікла ў ранішняй смузе, што ледзь прыкметна вісела над возерам.

Раніца была свежая, і буйная раса шчыпала босыя ногі. Клеманс павярнуўся да каровы і сказаў ёй па-сяброўску:

— Грызі, грызі...

Ён выняў вялікі капшук з тытунём, скруціў цыгарку, узяў яе ў губы, але задумаўся і, не прыпаліўшы, павольна пайшоў па поплаве ў бок да лесу, што стаяў недалёка нерухомы, нібы сонны.

На душы было неспакойна.

А чаго?!

Клеманс не адразу разабраўся ў гэтым складаным пытанні.

Доўгія выцвілыя вусы яго натапырыліся, пасівелыя бровы ўзняліся і перасунуліся на лоб, нібы ад здзіўлення, але ў вачах свяціліся бездапаможнасць і разгубленасць. Ведаў, што сёння нядзеля, дома жонка пячэ аладкі, трэба ісці снедаць... Але ногі, от каб ты спрахла,

мімаволі пацягнулі да лесу. А мо гэта была прывычка, от так кожны раз, навязаўшы карову, зайсці ў лес, паглядзець, ці ўсё там у парадку, пацешыць сваё сэрца.

Прывычка. Ох, і многа ж да чаго прывыкае чалавек у жыцці. Ох, і многа... І як цяжка бывае адвыкаць...

— Бом... Бом...

Нуднае дзынканне з касцёла напомніла яшчэ аб адной прывычцы, і ў Клемансавай галаве ўсё канчаткова пераблыталася. Ён выплюнуў з рота замусоленую цыгарку, але адчуў, што ўсярэдзіне ляжыць нешта такое горкае і пякучае, чаго ніяк нельга выплюнуць.

— Бом... Бом...

«Ах, даруй, святы божа... Ужо два тыдні, як не быў у касцёле. Учора вечарам цвёрда рашыў, што сёння сходзіць, і от...»

І цяпер яму ўсё стала ясна і зразумела.

«Ах, божа мой».

Клеманс стаяў перад ім — сваім лесам. Маўклівы, нерухомы, ён нібы вабіў Клеманса да сябе. Не густы, але малады. Невялікі, але так спраўна дагледжаны...

«Божа мой, божа... У мяне быў лес».

Але справа не ў тым, што ён быў. Справа ў тым, што яго ўжо няма... І ніколі не будзе. І гэта Клеманс зразумеў па-сапраўднаму. Цяпер ужо ён — наш...

Гэта ж учора Харэвічава Луцэя паказвала пальцам на Клемансаў лес і гаварыла такой самай халеры, як сама:

— Дык што ж, калі ссельвацца? А то жывём, як ваўкі. Калі якое бервяно і прыгніло, то замяніць можна, вунь жа наш лес!

«А каб табе бельмы павылазілі! Убачыла ты «наш лес». Чаму ты не бачыла яго тады, як я на паўтары дзесяцінах круціўся, а ты на цэлых трох раскашавалася. Па заробках валачыўся, а не зглуміў ляска, збярог... А ён цяпер табе ў вока ўлез...»

Можа, гэтыя Луцэіны словы і прымусілі Клеманса востра адчуць сваю страту. У калгас ён уступіў разам з усімі, зімой. Аднак да гэтага часу ён не задумваўся над тым, што яго лес стаў цяпер калгасны. Пра гэта не было гутаркі. Калі патрэбен быў возік дроў, то Клеманс не шукаў леснікоў, не пытаў дазволу на дровы з казённага лесу, а запрагаў каня і ехаў у свой лес.

Тады не было гутаркі аб будаўніцтве. А цяпер бабы ды маладыя ўсе вушы пратрубілі аб ссельванні. Ужо і

план новага пасёлка складзены. Ужо калгас будуе конны двор. Сын казаў, што ўчора на праўленні гаварылі аб пабудове тока. «Ліха ж на іх... у іх ад гутаркі да справы вельмі коратка. Учора пагаварылі, а сёння пачнуць будаваць...» Усё гэта і падняло трывогу ў Клемансавай душы: «Дабяруцца яны да майго лесу, як пан бог святы...»

І вось ён стаіць пры лесе, а сэрца яго млее ад нэндзы. Ногі яго дрыжаць і падгінаюцца.

Клеманс паціху ступіў у лес. Спыніўся. Задраў галаву, аж шапка з'ехала на патыліцу. Папраўдзе, не трэба было так задзіраць, бо не вельмі ўжо высокія дрэвы раслі ў гэтым гайку, але Клеманс заўсёды яе задзіраў, калі спыняўся ля дрэва, якое пераганяла другіх у сваім росце.

Добра... Нейкім салодкім цяплом на хвіліну абліло́ся сэрца.

Клеманс нагнуўся, падняў сухую галінку і панёс перад сабою. Выцяў нагу аб пянёк, але нават не зірнуў на яго. Падняў другую галінку... і раптам спыніўся: галінкі пападалі з рук. «О, маці божа... Хто ж гэта так нашкодзіў...» Зложанае ў кучу ля свежага пеньчука, ляжала такое ж самае свежае галлё. І пянёк, абліты смалою, нібы жаліўся на сваю горкую долю.

Клеманс стаяў, як укопаны.

— Бом... Бом...

«А, халера... хоць вушы затыкай...»

Але такая благая думка спужала Клеманса, ён скоранька перахрысціўся і зрабіў замілаваны твар, палажыў далонь на далонь і пачаў шаптаць «Ойча наш». Аднак не скончыў малітвы: далоні сціснуліся ў кулакі. «Хто ж гэта нашкодзіў?..»

Клеманс пачаў перабіраць суседзяў і спыніўся на Болесю Сурвіле. Ён яшчэ і за старым ладам краў Клемансаў лес. «І заўсёды выбера лепшае дрэва, каб яму рукі пакруціла...»

І тут ён заўважыў прагалак. «Не, такіх прагалкаў не было ў маім лесе». Клеманс ведаў лес, як сваю хату. Ён хацеў яшчэ не верыць, што і там, у гэтым прагалку, парубка... Але калі падышоў бліжэй, млявасць агарнула яго сэрца, перад вачыма залёталі мухі... Тры пні...

Клеманс у знямозе апусціўся на зямлю і, нахіліўшы

галаву, заплюшчыў вочы. Дык, значыць, нездарма балела сэрца... Яно чула гэтую бяду.

І ў яго галаве паплыло ўласнае жыццё, ад тых часоў, калі ён стаў уласнікам лесу.

Чацвёра было іх у бацькі братоў ды тры сястры. А зямлі на ўсіх дзве дзесяціны. Раскашэльвайся як хочаш, каб не абдзяліць сыноў.

Пара ўжо было жаніцца Клемансу, але не было куды жонку прывесці. Дома ніколі не жыў, усё парабкаваў у маёнтках. У пана Скірмунта, у пана Драздоўскага, у пана Скурскага... Нават забыў усіх паноў, на якіх аддаў свае маладыя гады. Зашмат іх было... паноў гэтых...

Жаніцца, каб і жонка парабкавала... Ды хто ж пойдзе за дзецюка, у якога ні кала ні двара. Хіба такая самая парабчанка... І была такая, калі па праўдзе сказаць... Мо праз яе і на нядзелю не прыходзіў дадому Клеманс. Аднойчы ў суботу вечарам меншая сястра прыбегла ў Шэметава з бацькавым загадам.

— Тата клікаў, Клеманс. Трэба, каб ты сёння прыйшоў.

І Клеманс прыйшоў. Але вечарам нічога не сказаў бацька. У нядзелю пасля снедання запытаў:

— А ці не пара ўжо табе, хлопча, сваю гаспадарку заводзіць?

Клеманс здзіўлена зірнуў на бацьку:

— Чаго вытрашчыўся! Я кажу, што табе жаніцца пара.

Клеманс успомніў Юзю з Шэметава, што працуе ў сыраварні пана Скірмунта, і падумаў, што бацькава прапанова не дурная і яму па душы... Але, агледзеўшыся, ён усміхнуўся горкай усмешкай. А дзе ж дзенеш жонку? Хіба на павадку за сабой вадзіць? Хата біткам набіта, аж дзверы не зачыняюцца. Днём яшчэ нічога, а на ноч як збяруцца дзевяць душ, дык хоць ілбамі стукайся...

— Ты не выскаляйся. Я табе справу кажу.

— Якая гэта справа, тата! Так сабе, глупства, а не справа. Хто за мяне, за голага, пойдзе?

— Ты маўчы! Я ведаю, што кажу! Вунь Тарэза Шпакова...

Клеманс не даў дагаварыць бацьку:

— Кульгавая Тарэза... Кумельган...

— А ты хто? Ты голы! А стары Шпак пасаг дае: паўтары дзесяціны пахаці і паўтары лесу! — і бацька падняў угару палец.

Гэта навіна як абухом па лбе выцяла Клеманса.

Тарэза Шпакова — перастарак, кульгавая, адна нага карацей за другую. За тое і празвалі яе Кумельганам... Ніхто не сватаўся да яе, хоць бацька і даваў добры пасаг.

— І яшчэ патаргуюся,— цвёрда гаварыў бацька,— карову дасць, каняку... Нідзе не дзенецца, і грошай дасць, бо Шпачыха ўжо шыю яму перагрызла з гэтай Тарэзай... Гаспадарка адразу! Далібог!

— Не, тата... Гэтага не будзе.

Бацька ссутуліўся, гнеўна зірнуў на сына.

— Не хочаш? Век парабкаваць думаеш?.. А мо там якая дворная лайдачка знайшлася? Што ж, самая будзе пара. Парабкуй. Я Вінцэся ажаню на Тарэзе. (Вінцэсь быў Клемансаў брат, маладзейшы на два гады.)

— Няўжо Вінцэсь дурней за мяне?

— Разумней.

Такім чынам Клеманс стаў гаспадаром...

Не лёгка гэта зрабілася. І калі бацьку было цяжка ўломваць старога Шпака, каб даў коніка, ды кароўку, ды грошай на гаспадарку, ды даводзіць дурному Клемансу, што шчасце само лезе ў яго рукі, то Клемансу было ў сто разоў цяжэй. Пакутавала яго душа ў доўгія начныя часы, рукі не браліся за работу днём. І ўсё-такі гэта адбылося.

Паўтары дзесяціны пахаці і паўтары лесу. Кароўка з трыма цыцачкамі і кульгавы пярэсты конь-ламачына, падобны да сталюгі...

— Няўжо ў твайго бацькі ўсе такія коні? — запытаў у жонкі Клеманс, прывёўшы гэтую сталюгу ў свой двор.

— Гэтую падлу прывёў да нас Іцка перад самым вяселлем... — ціха адказала жонка, коўтаючы слёзы. І яна яшчэ нешта хацела сказаць, але не пасмела і, закрыўшы далонямі твар, паціху пайшла дахаты. Клеманс зірнуў на яе так, што здалося самому — агонь пасыпаўся з вачэй. «Кумельг, Кумельг... Знарок падстроіў Шпак: аддаў кульгавую дачку і ў дадатак да яе трохногую здыхляціну». І зразумеў Клеманс, што затанна праменяў ён сінія Юзіны вочы... Яны на міг зірнулі на яго з такім страшным дакорам, што захацелася заплакаць...

Усё гэта дайшло да яго цяпер, як далёкі-далёкі сон. Аднак зжылося. І жонка папалася нядрэнная — цiхая і працавітая. Ніколі не пярэчыла, усё старалася дагадзіць.

І шмат яшчэ чаго ўспомніў Клеманс. Колькі папрацавана, ды не сабе, колькі пераношана на гарбу, ды не ў сваю хату. Уся маладосць па панскіх маёнтках раскідана, уся сіла растрэсена там. Бо хіба гаспадарка — паўтары дзесяціны? А пакуль пабудаваўся, пакуль купіў ладную каняку, бо пасажная не дажыла да зімы. І ніколі не бачыў чалавечага жыцця... І ўсё-такі нешта было, што хоць крышку дапамагала жыць. Гэта быў лес. Ён заняў Клемансава сэрца і ніколі не выходзіў з думак...

Як ён бярог і даглядаў яго. Як прыемна было думаць, што ён, Клеманс Свірыд, калі захоча, то палову яго зрэжа і прадасць. А то ўздумае і ўвесь зрэжа, і тады ў яго ўдвая будзе пахаці, і тады па баку заробкі.

Але нашто зводзіць лес! Няхай ён расце і радуе людскія вочы. Бо нічога прыгажэйшага няма на зямлі, як лес.

І як прыемна было, калі чалавек запытае ў суседа: «А што гэта там за гаёк, па-над возерам?» І сусед адкажа: «Гэта лес Клеманса Свірыда».

Клеманс на дровы і на іншую патрэбу ссякаў толькі самыя заскарузлыя дрэвы. Падцярэбліваў знізу, збіраў на доле ламачча. Якія гэта былі шчаслівыя хвіліны, калі Клеманс мог сказаць у гурце мужчын:

— Але ж развялося зайцоў у маім лесе, проста з-пад кожнага куста скачуць.

Або:

— Толькі я заехаў у лес, а мне насустрач нешта шэрае... Гляджу — воўк. Мабыць, недзе логава зрабіў у маім лесе.

Ухмыляліся мужчыны. Болесь Сурвіла рагатаў:

— Ох і пушча ж у цябе, Клеманс! Ты паглядзі, мо там і мядзведжая бярлога ёсць, то аблаву зробім!..

На такія словы Клеманс не зважаў... «Эт, ведама, людзі зайздросцяць». Бывала, у нядзельку любіў Клеманс з кошыкам схадзіць у лес. Там казлячок, там сыраежка, а іншы раз і баравічок. Тады Клеманс хваліўся: «У маім лесе столькі нарасло баравікоў, што проста хоць возам вазі».

І не ў тым справа, што баравікоў там было толькі

два, а зайцоў і зусім не было, толькі след іх убачыў Клеманс, і воўк ліха яго ведае адкуль ішоў... Ды ці воўк гэта быў? Надта ён быў падобны да сабакі... Справа ў тым, што Клемансу хацелася, каб усё гэта было. Але хутка прыйшоў чорны дзень.

У 1914 годзе пачалася імперыялістычная вайна. Казна спілавала ўвесь Клемансаў лес на акопы, на дротавыя загароды... Замест лесу тут застаўся маладнячок, які не годны быў нават на калы.

Гэта быў не толькі чорны дзень. Гэта былі чорныя гады. Мо ўзараў бы з тугі гэты лясок Клеманс Свірыд, але прыйшлося ісці на фронт.

І калі вярнуўся дахаты праз тры гады з прастрэленым плячом, то ўбачыў: падраўняўся маладнячок, падрос.

І зноў надзея ажыла ў сэрцы. Гадаваў лясок. І па меры таго як ён рос, расла і радасць.

У Айчынную вайну зусім бы пагібель прыйшла Клемансаваму лесу, каб не партызаны. Хадзіў тут з сваім атрадам Станіслаў Урбан, цяперашні старшыня калгаса. Паспрабавалі было немцы наскочыць сюды, але скора вылецелі з пабітай мордай...

А цяпер!..

Клеманс устаў і паціху рушыў назад.

«Цяжка прывыкаць да новага... Можа, яно і добра будзе, калі прывыкнеш, а пакуль прывыкнеш... От і конік. Калгасны, але нібы свой. Калі на працу куды, то свайго запражэш. І нораў яго ведаеш, і дагледзіш як трэба...»

Ад возера віднеліся хутары, раскіданыя між палёў і пералескаў. З коміна яго хаты ішоў дым. Дзіўна было, што яшчэ рана, бо ў лесе, калі перадумаў усё сваё жыццё, здавалася, што прайшлі гады. Нібы нанава іх перажыў. Прыйшла думка аб ссельванні і нібы кавалачак радасці прынесла: «Весялей будзе ў гурце, бо не так адчувацьме чалавек сваю адзіноту».

Прайшоў па сцежцы, ні на што не звяртаючы ўвагі, і спыніўся ля зруба новай калгаснай канюшні. Спыніўся і плюнуў: «Куды гэта нячыстая сіла мяне водзіць! Такі круг зрабіў». Агледзеў зруб гаспадарскім вокам. «Спраўна робяць, няма чаго казаць! Але ж і веліч! Ох, і веліч... Як пан бог святы, большая, як у Скірмунта! Дзе там, у два разы! О, гэта ж наша канюшня! Мой сын яе будуе!..»

Нават радасць на нейкае імгненне адбілася на твары. Але зноў спахмурнеў Клеманс Свірыд. «Скора кончаць... От тады і каня не замкнеш у свой хлеў».

Ён абышоў наўкруг увесь зруб, і погляд яго спыніўся на бярвеннях. Чатыры хвоі... Свежыя, толькі з лесу, але ўжо абкораныя і гладзенькія, як свечкі. «Мае!» — пазнаў Клеманс.

Нарэшце ён апынуўся на сваім прыгуменні. Зірнуў на адрыну, і яшчэ большы жаль агарнуў яго. «Дурань, дурань... Як бот, як палена... Бярог, гадаваў лес. На адрыну толькі слупы паставіў, а сцены прутамі ды голлем перавіў. Пляцень зрабіў, а не сцены... Хата ўжо старая, краніся перасыпаць, дык уся, як парахня, пасыплецца. Не ўмеў паставіць новую... І чалавек меў свой лес...»

Праўду казаў пан ксёндз... Казаў: «Не лезь, пане Клеманс, у калгас. Пачакай крыху. Туды шырока адчынены дзверы, ніколі не спознішся». Не паслухаў. А ўсё праз сынка. «Брыдка нам быць ззаду, тата». Ну от, цяпер наперадзе...

І ўжо дарогу да касцёла пачаў забываць...

У хаце ён адразу ў знямозе апусціўся на лаву. Сын сядзеў за сталом, чытаў газету.

— Тата, у Карэі пачалася вайна,— паведаміў ён бацьку.

Клеманс адвярнуўся ад сына. Жонка стаяла ля печы.

— І дзе ты быў цэлую раніцу! Увесь дзень у печы паліцца. Цяпер жа не зіма, каб па два разы дроў у печ закідаць.

— Палі, не шкадуй гэтых дроў...— выціснуў Клеманс.

Жонка падышла да шафы, выняла масла, паставіла на стол.

— Снедай, Клеманс, а то аладкі пастынуць.

— Палі, кажу, не шкадуй... Шкадаваў лішняе палена ў печ закінуць... А цяпер лес сякуць, не пытаюцца ў Свірыда, ці можна...

Сын усміхнуўся і зірнуў на бацьку. Клеманс узʼеўся:

— Зубы прадаеш, кпіш з бацькі!

— Калгасны лес, тата.

— Ага, калгасны! Дзякую, сынок, за навіну. Каб таму рукі пакруціла...

— Гэта я ссек чатыры хвоі. Неабходны былі на будаўніцтва.

— Ты ссек!

От гэта і сапраўды была навіна... Ён думаў, што ў сваёй сям'і ён стрэне спачуванне. Разам з ім пабядуюць ды патужаць яго родныя. Аж яно, бачыш, як выходзіць... Сын крутануўся і ўжо за дзвярыма, дачка да люстры прыліпла, хоць аддзірай, а жонка нават не абазвалася

І адчуў Клеманс вялікую тугу ў сваім сэрцы. Ён не дакрануўся да аладак. Выйшаў у сені і прылёг на ложак...

— Бом... Бом...

Успомніў, як хараша іграе ў касцёле арган, як урачыста льецца напеў святой музыкі... На душы тады становіцца так цёпла і соладка, што аж цела робіцца лёгкім і імкнецца ўгару, нібы спадае з яго ўвесь цяжар і бруд пакутнага чалавечага жыцця...

* * *

Сонца падбіралася на поўдзень, калі Клеманс выйшаў з дому. У руках яго быў кіёк, на нагах салдацкія чаравікі, праслужыўшыя Клемансу з чатырнаццатага года. Мала насіў іх на нагах, усё больш у руках.

Штаны надзеў таксама другія — вынашанае афіцэрскае галіфэ, страціўшае колер, з такімі вузкімі калашынамі, што трымалі лыткі, як у абцугах. Напрамак Клеманс узяў на Шэметава. Не ў касцёл. Бо які дурань ідзе ў касцёл, калі людзі ідуць з касцёла.

Дарога вяла праз яравы палетак між хутароў, што стаялі воддаль у зялёным аўсяным моры. І па гэтым моры цёплы вецярок ганяў бясконцыя хвалі. Клеманс бяздзельна паглядаў на акаляючае хараство і багацце. Ён не заўважаў, што авёс ужо закаласіўся, што пышныя венічкі каласкоў скора нальюцца буйнымі зярнятамі і нахіляцца долу сваімі залатымі пацеркамі. І тады іначай заспявае пад ветрам неабсяжны яравы палетак. Кволейшыя і танчэйшыя гукі будуць чутны ў яго шуме.

Раптам увагу яго прыцягнула невялічкая раслінка з трыма круглымі лісцікамі. Ён нагнуўся да яе і сарваў. «Канюшына!»

Клеманс цяпер зусім забраўся ў авёс. Ён уважліва ўглядаўся ўніз, і губы яго шапталі: «Канюшына! Канюшына! Узышла ж такі... І густа ж, густа...» Ён разагнуўся і ўздыхнуў з нейкай палёгкай. Зірнуў наўкол сябе: палетак разгарнуўся перад ім, нібы бясконцы зялёны абрус.

«Абшар...— прашаптаў Клеманс.— Як у Скірмунта! Як святы пан бог — больш! І лепш! І канюшына! А ксёндз...» Клеманс успомніў, як гэты тоўсты і круглы чалавек з гладка выбрытым тварам казаў яму: «Пане Клеманс! Наша зямелька родзіць... Дзенькуе пану богу... Але от пабачыце, як пасее калгас! Нічога не вырасце... Сам пан бог не даруе гэтага людзям і дае такую прыроду... І ўсё гіне марна. Бо не ўгодна пану богу такая праца...»

А от жа расце! Нібы нешта з зямлі яго пхае! І канюшына ўзышла. А ў яе, у гэтую канюшыну, не верыў і сам Клеманс, бо насенне прывезлі ліха ведае адкуль. З нейкага ўсходняга калгаса. Ксёндз, пачуўшы пра гэта, ухмыляўся: «Яшчэ толькі пачаўся калгас, і ўжо ў даўгу па вушы... І чым вы аддасце гэты доўг?..»

А выйшла рослае! Не ашукалі, дзякуй ім.

Ах, і канюшына! А на будучы год! І Клеманс уявіў гэты палетак, пакрыты густой пахучай канюшынай.

Ён цяпер ішоў выпрастаўшыся, і калі падышоў да гасцінца, спыніўся і яшчэ раз агледзеў аўсяны палетак.

«Наша!»

І ў гэтую ж хвіліну успомніў лес.

— На-а-ша... — сказаў ён уголас, стараючыся прыдаць гэтаму слову знявагу.

І, крута павярнуўшыся, ён пацягнуўся па абсаджанаму бярозамі гасцінцу, проста да касцёла, які віднеўся здалёк.

Ксёндз жыў насупраць касцёла ў цагляным доме. У часе вайны згарэў быў гэты дом з усімі мэтлахамі, засталіся толькі цагляныя сцены. Пасля вайны ўся парафія аднаўляла яго. Цэлы тыдзень працаваў тут Клеманс ды яшчэ і ахвяраваў сёе-тое. А цяпер не пазнаць доміка. Нібы новы. У адной палавіне яго і размясціўся ксёндз. Другая была не закончана і пуставала. Поруч з касцёлам стаяла драўляная званіца, якая крыху нагадвала пажарную вышку. Яна нахілілася ўбок, нібы падрыхтавалася паваліцца, і здавалася, што нехта нябачны ўпёрся ў яе плячом і затрымаў. Клеманс зірнуў на яе і падышоў да ксяндзовага дома. Ля дзвярэй затрымаўся. Як і заўсёды, спыніў яго страх, адчуванне свае мізэрнасці. Бывала, такім чынам ён заходзіў у гміну да панскага аканома. І ведае, што ні ў чым не вінаваты, а калені дрыжаць, і сэрца калоціцца, як заечы хвост. Але ўсё

адбылося вельмі добра. Адчыніла яму нейкая жанчына. У першым пакоі сядзелі яшчэ дзве жанчыны, з такімі поснымі тварамі, што Клемансу стала надта сумна. Ён стаў ля парога і скамечыў у руках шапку.

— Сядайце, пан, ось тут,— тая, што адчыніла дзверы, падсунула яму зэдлік.

— Дзенькуе, пані...

Ён прысеў на кончык зэдліка, і той пагражаюча зарыпеў. Клеманс пачаў чакаць. Цяпер яму здалося, што ён дарма прыйшоў сюды. Гэтыя бабы, што нахіліліся над кантычкамі, як нейкія чорныя птушкі, канчаткова сапсавалі яго настрой. Адкуль яны? Раней ксёндз жыў адзін. Клеманс надзеў шапку на кіёк, палажыў на шапку рукі і абапёрся на іх барадой. Вусы яго апусціліся, і бровы насупіліся так, што закрылі вочы. Але ў другім пакоі пачулася шарканне ног. Клеманс падняў галаву. Увайшоў ксёндз, выціраючы хустачкай тоўстыя чырвоныя губы.

— А-а, пане Клеманс! Дзень добры.

— Дзень добры, пане ойча!..— Клеманс усхапіўся і пацалаваў ксяндзову руку.

— Праходзьце, пане Клеманс, да майго кабінета.

— Дзенькуе, пане ойча...— Клеманс зірнуў на свае запыленыя чаравікі.

— Нічога, прошу,— і, падпіхваючы Клеманса ў плячо, ксёндз завёў яго ў чысты, па-панску абсталяваны пакой з адным акном, завешаным цёмнага колеру бліскучай фіранкай.

Клеманс сеў у мяккае крэсла. Насупраць яго ўсеўся ксёндз. Ён паглядзеў на Клеманса такімі разумнымі і хітрымі вачыма, нібы ведаў, што робіцца ў таго на душы.

— Ну, што новага, пане Клеманс?

— Эт... Усё новае, пане ойча, і ўсё старое...

І, хвалюючыся, ён расказаў ксяндзу пра ўсё сваё гора і тугу.

Ксёндз слухаў моўчкі і ўважліва, зрэдку нахіляў круглую галаву, але не падтакваў. І калі Клеманс кончыў і зірнуў на ксяндза, чакаючы яго слоў, той доўга маўчаў. Нарэшце ён устаў і пачаў хадзіць па пакоі, лёгка шоргаючы мяккімі пантофлямі.

— Дык жа пан Клеманс — калгаснік?

— Так, пане ойча...

— То чаго пан Клеманс хоча? — з ледзь прыкметным абурэннем запытаў ксёндз.— У пана Клеманса цяпер нічога няма свайго, а толькі вшыстко наша! І лес сякуць і будуць секчы...

Клеманс вохнуў.

— Я гэта ведаю, пане ойча...

— ...І ссякуць увесь!

— Увесь? — перабіўшы, запытаў Клеманс і зразумеў, што пытанне яго крыху неразумнае.

— То як ім захочацца! — ледзь усміхнуўшыся, адказаў ксёндз.

Ксёндз сеў на канапу і раўнадушна зірнуў на ўсхваляванага парафіяніна.

— Пан Клеманс сёння не быў у касцёле.

— Збіраўся... Ды от жа гэты лес...

— Пан Клеманс стаў скнараю. Ён лес любіць больш, як пана бога.

— Зусім не, пане ойча, зусім не так...

— Пан Клеманс забыў, што ў горы трэба зварочвацца да бога. У яго трэба прасіць дапамогі і ўцехі. Пан Клеманс стаў бязбожнікам!

Клеманс уздыхнуў. Ціхае зло паўставала ў яго душы на гэтага тоўстага ксяндза за яго жорсткія, несправядлівыя словы.

— Пане ойча...

— Я нічым не магу дапамагчы вам, пане Клеманс. Трэба маліцца богу, і ён дасць вам уцеху. Ён дапаможа вам,— тут пан ксёндз закаціў вочы пад лоб, зірнуў на столь і пачаў шаптаць незразумелыя лацінскія словы.

Клеманс зірнуў на духоўнага пастыра, бухнуўся на калені перад фарфоравай маткай боскай і таксама пачаў маліцца. Ксёндз нездаволена перавёў вочы ўніз на калматую Клемансаву галаву, што старанна біла паклоны, бо вымушаны быў прадаўжаць модлы. Так яны маліліся некаторы час, пакуль ксяндзу не надакучыла. Ён сеў і шырока пазяхнуў, адвярнуўшыся ў кут.

Тады падняўся і Клеманс.

— Ну, пане Клеманс, палягчэла?

— Як пан бог святы, палягчэла...— адказаў Клеманс, адчуваючы, што робіць яшчэ адзін страшны грэх — хлусіць.

— От, пане Клеманс, і ўся ўцеха, якую я вам мог даць...

Клеманс зразумеў, што ксёндз яго праганяе. Ён намацаў у галіфэ памятую дзесятку і падумаў: ці варта гэткая ўцеха дзесяткі, ці не, і паглядзеў на дзверы. Аддаць дзесятку ксяндзу было шкада. Але ксёндз не хацеў так хутка адпускаць парафіяніна. Ён запрасіў яго пасядзець крыху, і Клеманс зноў угруз у мяккае крэсла.

Цяпер загаварыў ксёндз:

— Лес, пане Клеманс, цяпер вам не належыць... Ваш калгас, як я чуў, разгортвае вялікае будаўніцтва. Яны, пане Клеманс, любяць разбураць і будаваць. Такі маёнтак быў у пана Скірмунта! А дзе ён цяпер? Затое яны будуюць аборы, на якія пойдзе ўвесь ваш лес. Але вам не трэба шкадаваць яго...— Ксёндз гаварыў ціха, але пераканаўча і ласкава, заглядаў у вочы Клемансу, і Клеманс падумаў, што ксёндз, як чалавек без дрэнных думак, памаліўся і атрымаў уцеху. А ён, чалавек з нячыстым сумленнем, не ўцешыўся і пасля модлаў, і ксяндзовы словы на яго таксама не ўплываюць.

— Таму, пане Клеманс, лес цяпер шкадаваць не трэба. Душу сваю трэба шкадаваць, каб не мела яна вечных пакут там, дзе мы ўсе будзем пасля смерці... Пан Клеманс бачыў маю сям'ю? — ён кіўнуў на дзверы.— Сёстры... Дзве родныя, адна стрыечная... Сіраты, няма да каго прыхіліць галавы. Забраў да сябе. Мо і карову маю бачыў? Там навязана ля цвінтара. Без кароўкі цяжка... Апошняе аддаў... А от хлеўчука і не маю... І кватэрка цеснаватая, трэба было б і другую палову дома ў парадак прывесці...

«Ага, от у чым справа!» — падумаў Клеманс і рашуча намацаў у кішэні дзесятку. Ён выцяг яе нарэшце з кішэні.

— Пане ойча...

— Не, не, не! — сказаў ксёндз, заўважыўшы дзесятку ў Клемансавай руцэ. Ён зрабіў рух, нібы адпіхае ад сябе і самога Клеманса, не толькі яго грошы.

— Дык, пане ойча. Я ж ад шчырага сэрца.

— Не, не, не...

— Ну, я ўжо не ведаю, чым я магу...

— Я вам зараз растлумачу, пане Клеманс... Я вам растлумачу... Я, пане Клеманс, ад вас нічога не хачу, толькі два-тры вазы лесу... Толькі два-тры возікі. Я, пане Клеманс, магу і ад парафіі патрабаваць, але ж цяпер усюды калгасы. Камсамольцы могуць уперціся... Ці не

заўважылі, пане Клеманс, што маладыя цяпер да новага прыліпаюць...

Так, так... Клеманс гэта заўважыў сёння на сваім уласным сыне. Аднак ён нічога не адказаў, бо гэтыя два-тры возікі аднялі ў яго язык. А ксёндз працягваў:

— Настаўнікі... Яны скажуць, што лес патрэбен для рамонту школы. Дык нашто падымаць такую смуту, пане Клеманс? Хіба ў маёй парафіі не знойдзецца пяць-шэсць такіх сумленных людзей, як пан Клеманс, якія дапамогуць мне? Па два-тры возікі... А хіба мне многа трэба...

— Пане ойча, у мяне няма лесу.

Ксёндз вылупіў вочы:

— А пра які гэта лес гаварыў пан Клеманс?

— Дык хіба ўкрасці...

— Красці свой лес, пане Клеманс?

— Пан ойча мне цвёрда сказаў, што лес цяпер мне не належыць.

— Ах, пане Клеманс, як вы не хочаце зразумець. Афіцыйна ён не ваш, а фактычна ён ваш.

Клемансу хацелася сказаць, што от якраз ён ужо фактычна не яго, бо яго ўжо сякуць і высеклі чатыры хвоі.

— Не ведаю, пане ойча... На старасць гадоў яшчэ і злодзеем стану...

— Ну як вы разважаеце, пане Клеманс!.. Пасля працы вы запрагаеце свайго каня і едзеце да свайго лесу.

— Гэта ўжо будзе ноч.

— Так, гэта ўжо будзе цёмна.

— Пане ойча...

— Я разумею. Вам шкода свайго лесу, пане Клеманс... Але я вам скажу... як чалавеку, які не забыў пана бога і святога касцёла, што вы нічога не згубіце, вы набват знойдзеце... Пане Клеманс...— Ён азірнуўся па баках, нібы ў сваёй хаце баяўся некага, нахіліўся да Свірыда і загаварыў: «Не ўсё трывала на гэтым свеце, і ў Карэі пачалося...» Вы, напэўна, чулі пра гэта самі. І калі вы аддасце два-тры возікі, я гэтага не забуду, як бога кохам, не забуду пана Клеманса тады, калі... Ну, вы самі разумееце...

* * *

Клеманс выйшаў ад ксяндза ў нейкім тумане. Ён не памятаў, калі мінуў пахіленую званіцу, і першая думка, якая прыйшла ў галаву, была думка аб тым, ці паабяцаў ён ксяндзу «два-тры возікі», ці не. Здаецца, што не. А дзесятка пераехала-такі ў ксяндзову кішэню.

Апошніх слоў гутаркі з ксяндзом ён не памятаў. Ксендз нешта чоўп пра «аўтаматную» бомбу, пра вялікую Польшчу.

«Здаецца, не паабяцаў... Ліха яго ведае, а мо і памыліўся...» І над гэтай думкай ён біўся датуль, пакуль не прайшоў значны кавалак дарогі.

«Начмуціў пан ойча, як чараўнік... Нагнаў столькі туману, што бедны Клеманс ледзь не захлынуўся ў ім. То лес не твой, то лес твой. Тры сіраты! Добрыя сіроткі, эге!» І Клеманс усміхнуўся першы раз за ўвесь дзень. І дзіўна было, што думка пра лес адышла назад і не так востра пячэ ў сэрцы. «Два-тры возікі» пякуць больш. І не таму, што шкада іх, але таму, што справа нейкая брыдкая і нялюдская. «Ах, ах... Ну сказаў бы: прывязі мне, Клеманс, воз дроў». Ды я табе сярод белага дня назбіраў бы ламачча такога, якім сам палю, і завёз. І ніхто б на мяне пальцам не паказаў. Ніхто! Бо кожны ведае, што Клеманс Свірыд стары чалавек, ён моліцца богу. Няхай моліцца. Гэта нікому не замінае. А ноччу ўзяць каня, а гэты конь цэлы дзень нешта рабіў, ды ноччу ехаць у лес, а адтуль да ксяндза! Няхай пан бог ратуе... Бо хто ж ноччу едзе на працу, калі гэта толькі не зладзейская праца...

Аднак Свірыд яскрава разумеў, што ў іх гутарцы і гэта не было галоўнае. Галоўнае было, што ксёндз нечага не забудзе тады, калі... Чаго ж гэта ён не забудзе і калі? Ага, дык гэта ён аддзякуе Клеманса за два-тры возікі тады, калі пачнецца вайна... От як! Не, не трэба. Не хачу вашай падзякі, пане! Ён мне аддасць за два-тры возікі! Не хачу! Клеманс і сам сёе-тое ведае. От і сёння сын хацеў нешта пачытаць, толькі Клеманс яго не слухаў. А раней слухаў... Ага! Сын жа казаў нешта пра вайну! Дык прабачце, пане ойча. Клеманс не хоча вайны. І ён напісаў сваё поўнае імя і прозвішча на той адозве, што супроць вайны і тае «аўтаматнае» бомбы. Напісаў шчыра, ад усяе душы. Бо ён ведае, што такое вайна, нават без «аўтаматнае» бомбы.

Ён перажыў тры вайны. З нямецкай вярнуўся прастрэлены, а два браты палажылі там галовы. З польска-нямецкай у 1939-м не вярнуўся старэйшы сын... А ў сорак першым... Не давядзі бог зноў гэта бачыць, не толькі перажыць. Ён бачыў, як падалі на людскія галовы простыя, не «аўтаматныя» бомбы і што яны нарабілі. Ён бачыў, як гінуць не толькі дарослыя, але і малыя дзеткі... Такія малыя, што трэба было звар'яцець, бачачы іх пакутную смерць... Ён бачыў, як адкормленыя фашысцкія людажэры палююць на бяззбройных цывільных людзей... І ён падпісаў адозву. І калі спатрэбіцца, падпіша яшчэ тысячу разоў. Пане ойча, а ты хіба не падпісаў адозвы? Мо ты не бачыў, што такое вайна? У тым і справа, што падпісаў... Дык нашто ж ты мне шэпчаш пра вайну?! Дык от які ты, пане ойча... Падпісаўся за адно, а чакаеш другога. Святы пан ойча! Ці не найвялікшы гэта грэх? Бо ты марыш аб людской крыві...

І Клеманс успомніў, што перажыў і царскую ўладу, і нямецкую, і літоўскую, і польскую, і яшчэ раз нямецкую. Ён іх усіх перажыў, бо ўсе яны дбалі пра нейкую вялікую Літву, вялікую Польшчу і вялікую Германію. Яны былі тоненькія, а праглынулі б увесь свет. Яны крычалі аб вайне, яны пачыналі войны і не дбалі аб простым чалавеку. А просты чалавек праклінаў гэтыя войны. Яны не цікавіліся, аб чым думае от такі Клеманс Свірыд. І тады Клеманс Свірыд не падпісваў ніякіх адозваў. «А цяпер, шаноўны пан ксёндз, аб гэтым Свірыда запыталі, і ён шчыра сказаў сваё слова. І ён не прадасць таго, аб чым думае, за два-тры возікі... Бо ён не такі, як ты».

Калі ён падняў вочы, то ўбачыў, што стаіць каля свае хаты. «А ліха ж на мяне, калі ж гэта я паспеў прыйсці дадому». Ён сеў на прызбу і зірнуў на свой лес, што відзен‹ быў з-за адрыны. Нешта зашавялілася ў яго сярэдзіне. Але не так, як раніцою.

Ён пачаў думаць, што змянілася пры калгасе ў яго жыцці. Хата на месцы, адрыны ніхто нікуды не звёз, хлявоў таксама. І сядзібы ніхто не адабраў, нават яшчэ прырэзалі вясной, колькі не хапала па калгаснаму статуту... Ага, а лес!.. І зноў заныла яго сэрца.

І Клеманс пачаў курыць, бо ўспомніў, што не курыў увесь дзень. Патрымаў у зубах папяросу тады ў лесе і тую выплюнуў, не прыкурыўшы.

«А куды ж ты едзеш па дровы, калі не ў той самы лес. Хіба цябе адтуль праганяюць? А куды ідзеш у грыбы?.. Ага, табе хочацца глядзець на гэты гаёк. Ну дык глядзі!»

«Дзівак жа ты, Клеманс, а поле, што было тваё, хіба яно пустуе? Ці не твой сын араў той яравы палетак, ці не ты сам хадзіў па ім з сяўнёй, калі рассяваў канюшыну, а потым за сеялкай, калі сеялі авёс. Таксама і тут.

Ты быў дурны і нават не будаваўся, а калгасныя гаспадары разумней цябе, яны адразу распачалі будаўніцтва».

Не, гэтыя развагі не давалі супакою. А па дарозе хадзіла моладзь, прыбраная ў новыя касцюмы, і далёка недзе іграў гармонік, і ласкава свяціла сонца, і ў садку гулі шчолы, і цвілі краскі ля хаты ў гародчыку. А вунь ідзе па вуліцы яго сын, той гіцаль, што ссек чатыры хвоі... Ён ні аб чым не шманае, і не баліць яго душа за гэты лес. А поруч ідзе дзяўчына. І, прыгледзеўшыся, Клеманс пазнаў дачку Болеся Сурвілы — настаўніцу. Вось яны заходзяць у двор, і гэтая сінявокая прыгожая дзяўчына ветліва ўсміхаецца і кажа Клемансу: «Дзень добры». Але Клеманс не адразу адказаў, бо ў гэты час думаў, што яго сыну бацька не будзе выбіраць жонку з пасагам. І напэўна ён ужо сам яе выбраў і не прамяняе не толькі на паўтары, але нават на тысячу дзесяцін лесу...

«Тады такое было жыццё...» — у апраўданне сабе думаў Клеманс.

— Тата! Старшыня прасіў, каб вы прыйшлі ў праўленне.

— Сёння нядзеля.

— То хіба старшыня гэтага не ведае? Ён жа працуе, хоча з вамі пагаварыць. Папрасі, кажа, калі дома, то няхай прыйдзе.

І Клеманс пайшоў у праўленне.

* * *

У праўленні сядзелі Болесь Сурвіла і старшыня калгаса Станіслаў Урбан. Старшыня сядзеў з навушнікамі ад дэтэктарнага радыёпрыёмніка, нахіліўшыся над лістком раскрэсленай паперы, што ляжаў на стале.

Клеманс прывітаўся і сеў на другой лаве, бо заўсёды непрыемны яму быў Болесь Сурвіла, які любіў востра

пажартаваць з Клеманса. Клеманс зірнуў на старшыню. Ён сядзеў, нізка нахіліўшы галаву, і першы раз Клеманс па-сапраўднаму разгледзеў гэтага чалавека, хоць ведаў яго даўно, з самага маленства. У старшыні сівая галава, але валасы густыя і пышныя. Не стары чалавек старшыня і па свайму ўзросту мог быць сынам Клеманса. Ён быў парабкаў сын і ніколі не меў свайго лесу. Не толькі лесу — кавалка зямлі, каб пабудаваць сваю хату, за панамі не меў чалавек. Сям'ю яго — жонку і двое дзяцей — спалілі фашысты за тое, што Станіслаў Урбан быў партызанскі камандзір.

— Дзе гэта ты хадзіў сёння, Клеманс? — запытаў, падыходзячы да Клеманса, Болесь Сурвіла. Ён гасцінна працягнуў яму капшук з тытунём, скамечаную паперку і сеў поруч.

— Схадзіў... Паглядзеў нашу ярыну.

— Эге ж! Бачыў я, як ты канюшыну вырваў ды панюхаў, мабыць, не верыў, што яна!

— Нюхаў! — чырванеючы, адказаў Клеманс.— Хіба ж яна пахне? Галава ты, я проста паглядзеў.

— Я ж кажу, што ты не верыў, пакуль не памацаў... А добрая ярына, Клеманс, расце як на драждэках.

— Найлепшая, як пан бог святы. За маю памяць такой не было... Нават у Скірмунта не было.

— У Скірмунта! Хіба Скірмунт сам сеяў! Скірмунту ты сеяў ды я. А цяпер таксама сеялі ты ды я, толькі не Скірмунту, а сабе,— от у чым справа, Клеманс.

«А разумна ж ён кажа!» — радасна падумаў Клеманс.

— Як пан бог святы, праўда...— Клемансу раптам захацелася пагутарыць, бо прыемна было, што яго паклікалі ў кантору, і Болесь Сурвіла сам падышоў да яго, сам гутарку распачаў, і разумную гутарку, а не пустыя жарты.

— А канюшына густа ўзышла... От скажы ты, Болесь, колькі я, бывала, галаву ламаў, каб дзе хоць гонейку канюшынай засеяць... І ніяк не выходзіла. Зірнеш на Скірмунтаў палетак — душа баліць... а самому няма на чым разгарнуцца. Выбраў бы ты на сваім надзеле гонейку пад канюшыну, то і зубы на паліцу палажыў бы.

Старшыня разагнуўся і прыслухаўся, паправіў навушнікі.

— Што там новенькае, старшыня? — запытаў Болесь.

— Пра Карэю.

— Эге ж!..

Клемансу хацелася запытаць, што ж там такое ў гэтай Карэі, але нельга было перабіваць, і ён глядзеў, як паступова хмурнее твар старшыні, як робіцца суровым яго погляд, і калі нарэшце ён зняў навушнікі, Клеманс нічога не запытаў. Але старшыня зразумеў яго погляд.

— У Карэі вайна, дзядзька Клеманс,— паведаміў ён.

— Чуў я пра гэта... Сын раніцою казаў. І каму яна трэба, вайна гэтая!

— Не ведаеш каму? — адазваўся Болесь.— Панам ды капіталістам розным!

— Каб ім пагнула рукі! — горача прамовіў Клеманс.

— Простаму народу яна не патрэбна...— пачаў старшыня.

— Я ўжо зразумеў,— перабіў яго Клеманс.— Простаму народу не патрэбны паны — ні свае, ні чужыя, а панам патрэбен народ — і свой, і чужы. І панам вялікая крыўда, калі іх праганяюць.

— Эге ж! Добра ты кажаш, Клеманс! Як жа не праўда. Яны ж падохнуць без простага народа.

Гутарка распачалася. Клеманс са здавальненнем прымаў у ёй удзел. Ён адчуваў, як пакрысе праясняецца ў яго галаве пасля ксяндзовай уцехі.

— Ну, дзядзькі,— сказаў старшыня,— мы зусім не пра тое гаворым. Я вас паклікаў па другой справе. Параіцца хачу, дзе нам ток будаваць,— ён схіліўся над паперамі.— Мы ўчора раіліся на праўленні і рашылі будаваць ток на Гірцы! Вось тут,— ён тыцнуў алоўкам у паперу.— Гэта план нашага паселішча... На плане яно нішто, амаль сярэдзіна нашых палёў, але я сёння збегаў на тую Гірку. Дрэнна. Няма паблізу вады.

— Эге ж на Гірцы! Хто гэта прыдумаў на Гірцы! — абурыўся Болесь.— Там жа калі непагода, такая калатуша, што пустых калёс не вывалачаш, а не то што са снапамі...

— А дзе вы думаеце?

— На Навозах, ля Харэвіча. Там і вада блізка, бо раўчук цячэ.

Старшыня нагнуўся над планам, пашукаў тых Навозаў і задумаўся.

— Не вельмі спраўна, дзядзька Болесь. Адно поле застаецца зусім збоку.

А Болесь ужо нагнуўся над планам, абмёў яго сваёй барадой, як венікам.

— Па-мойму, тут праходзіць вуліца, Станіслаў Іванавіч.

— Вуліца. Яна вось тут загінаецца каленам, каб болей ахапіць хутароў. Менш будзе зноскі.

— Зноскі! А мая сядзіба ўсё роўна збоку.

— Нічога не зробіш.

— Эге ж! Як гэта не зробіш! Нешта ж зробім! Важымся на новую сядзібу! Праўда, Клеманс?

— Мой сын дык і сёння гатоў, толькі скажы, як святы пан бог.

Старшыня ўсміхнуўся.

— Мы, дзядзькі, зноў убок паехалі.

— Нічога, старшыня, я ўжо дадумаўся. Для тока самае лепшае месца ля Варашылак. Акурат сярэдзіна нашых палёў, і канава пад бокам. А што дарогі няма, то дарогу людзі робяць. Ты праехаў ды я — от і дарога. А месца высокае, калатушы не будзе. І, дарэчы, лес рукой падаць на будоўлю.

— Добра... Значыць, тут.— Старшыня пачаў нешта вымяраць алоўкам.— На плане вельмі добра, дзядзька Клеманс, зірніце.

— Нічога я не ўбачу на тваёй паперы. Калі хочаш, то сходзім да Варашылак, там паглядзім.

Яны ішлі па дарозе — старшыня ззаду, а Клеманс і Болесь уперадзе — і разважалі. Разважаць было аб чым, бо кругом ляжала калгасная зямля, на якой рос багаты ўраджай.

— Ты зірні на лубін, Клеманс, ды падумай, што яго прэ з зямлі!

— Як святы пан бог, ён вырасце з каня, як яго заарэш?

— Эге ж! Да плугоў прыйдзецца гіры прывязваць.

— Папросім гусенічны трактар у МТС,— сказаў старшыня.

— Толькі трактар і самне.

— Эге ж, ён і прыгорне! Толькі, старшыня, трэба раней заворваць, каб зямля добра злеглася да сяўбы.

— Ты добра кажаш, Болесь. На ім зямля не скора зляжацца.

Потым яны выйшлі на бульбянае поле. Роўная, як падстрыжаная, расла бульба, уся тоўстакалівая,

разгалістая і такая густая, што не прыкметны былі і разоры.

— І ток трэба, і бульба расце на славу, скляпы трэба,— зазначыў старшыня.

— Не ўсё адразу, старшыня, неяк упарадкуем і бульбу.

— У бурты ссыплем, ды зверху саломай і зямлёй.

А здалёк ужо быў відаць блакітны палетак зацвіўшага льну. І не вытрымаў Клеманс, калі прыйшоў да яго: вырваў жменьку і прымераў да нагі.

— Зірні, Болесь, вышэй калена на цэлую пядзю. Панясу пакажу сваёй Тарэзе.

— Яна без цябе ўжо была тут. З маёй Амеляй бегалі, эге ж!

Калі выйшлі да Варашылак, у паветры пасвяжэла. Ад возера падзьмуў вецер і прынёс духмяны пах прыбярэжных лугоў.

Старшыня аглядаў мясцовасць. Ён быў задаволены і задумліва ўсміхаўся, але ў гэтай усмешцы яшчэ відзен быў нейкі смутак і жаль.

— Дзякуй, дзядзька Клеманс... Я сам не дадумаўся б да Варашылак, бо няма сюды дарог. А месца ладнае.

— Месца трэба выбіраць не на адзін год, а навек.

Ён глядзеў на Станіслава Урбана, на яго сівыя валасы і думаў: «Яму няма адпачынку, гэтаму чалавеку, а яго хата пустая і адзінокая. І мо ў гэты час, калі ён так смутна ўсміхаўся, ён успомніў сваю малую дачку ці сына... І вось ён клапоціцца, думае, каб адбудаваць новае, добрае жыццё, каб ніхто не быў бедны... А сам застаўся без самага большага багацця... без сваёй сям'і».

І сорамна стала Клемансу Свірыду.

Яны ішлі дахаты і зноў разважалі аб розных гаспадарчых справах. Старшыня казаў, што як толькі паставяць на канюшні кроквы, уся брыгада пяройдзе на Варашылкі, на будаўніцтва тока. Толькі адно пытанне яшчэ не вырашана: няма добрага лесу на кроквы.

Болесь Сурвіла крануў за локаць Клеманса і, калі той спыніўся, сказаў:

— Эге ж! — і паклаў руку на Клемансава плячо.— Што ж гэта я хацеў?.. Эге ж! У дрэнны час мы нарадзіліся, Клеманс... Прыйшло сапраўднае жыццё, а мы з табой ужо старыя... Ты вунь ужо з кіёчкам ходзіш...

— Як святы пан бог, не такія мы ўжо старыя, Болесь,— і яму захацелася закінуць свой кіёк к чорту ў лазу.

Калі Клеманс зноў зірнуў са свайго двара на лес, у яго галаве мільганула цікавая думка, але ён не паспеў за яе ўхапіцца.

Ён са здавальненнем лёг у сенцах на начны адпачынак, але не адразу заснуў, бо сённяшні дзень быў незвычайным днём у яго жыцці.

Клеманс думаў. Думаў аб тым, што не вельмі многа аддаў у калгас. Нават мала. У многа разоў менш, чым атрымаў ад калгаса. Ён успомніў яравы палетак, лубін, бульбу, лён, новую абору для коней, тыя палі, гаі і пералескі, лугі і паплавы, што аздабляюць гэты прыгожы, мілы сэрцу край. І на ўсё гэта ён мае права сказаць: наша. Так, як учора сказала Луцэя пра яго лес. Бо не мела яна свайго лесу і от з гонарам выказала цяпер: ёсць! Наш лес.

І яму здалося, што ўсё сваё жыццё ён глядзеў толькі пад ногі і не бачыў таго, што было далей уласнага носа. А чалавек без грамадства не можа жыць. Грамадства без аднаго чалавека абыдзецца, а чалавек без грамадства — не.

Толькі тую думку, што мільганула на двары, ніяк не мог злавіць Свірыд Клеманс.

* * *

Ён прачнуўся і, навязаўшы карову, зайшоў у свой лес. Абышоў яго некалькі разоў, падоўгу стаяў ля некаторых дрэў, нібы абдумваў, на што яны могуць быць прыдатнымі.

Пасля снедання ўзяў сякеру і разам з сынам пайшоў на будаўніцтва коннага двара. Старшыня ўжо быў там. Ён сядзеў з брыгадзірам цесляроў на бярвенні і гутарыў пра ток. Цесляры падыходзілі адзін за адным.

— Ты от кажаш хутчэй, Станіслаў Іванавіч,— гаварыў брыгадзір.— А я кажу, дай мне кроквы і праз тры дні накрывай страху. Тады я прымуся за ток.

— Вы яшчэ зруб не кончылі, гэта раз. А адносна крокваў, то сёння я дамоўлюся ў лясніцтве. Заўтра пачнём рыхтаваць.

— Доўгая песня з лясніцтвам! — папярэдзіў брыгадзір.

— А нашто ў лясніцтве, хіба ў нас такога лесу няма? — запытаў Клеманс.

— А дзе ты яго знайшоў, дзядзька Клеманс? — зацікавіўся старшыня.

— А вунь дзе! — ён паказаў у бок возера на свой лес.— Ці ён не наш, па-твойму?

— Мы думалі пра гэта, дзядзька Клеманс, але ж шкода, ладны лясок. На кроквы не доўга паглуміць, толькі пачні. А мы ж перабудоўвацца будзем, хаты на пасёлак пераносіць. А хаты ўсякія ёсць. У вас таксама хата — адна труха. Дзе тады возьмем такога роўнага лесу?

Клеманс падумаў:

— Нічога, старшыня. На кроквы можна выбраць танчэйшага. А хіба на кроквы так многа пойдзе, гэта ж лічаныя штукі.

— А добра кажа Клеманс! — падхапіў брыгадзір.— Гэта ж бы мы на некалькі дзён раней управіліся.

Старшыня падумаў і сказаў:

— Ну добра, дзядзька Клеманс... Толькі там не надта раскашуйся!

— Не бойся, я лішняга не ссяку, толькі я забягу за Болесем Сурвілам.

Гэта і была тая думка, якой учора адвячоркам не мог успомніць Клеманс.

*1950*

# ЛЯСНАЯ БЫЛЬ

## 1

Васіль Балкаў прыйшоў на лесараспрацоўкі ў Янеўскі лесапункт з палявога раёна. Да гэтага часу ён працаваў у калгасе. Васіль быў дужы дваццацігадовы юнак, чорнавалосы, як цыган, з цяжкімі мускулістымі рукамі, рослы і шыракаплечы.

У Янеўскі лесапункт уваходзілі лясныя масівы па абодвух берагах ракі Янеўкі. Уся драўніна, якая нарыхтоўвалася тут у летні і асенне-зімні сезон, вясной сплаўлялася па Янеўцы да Віллі.

Кантора, сталоўка, пякарня і дамы для рабочых стаялі на самым беразе ракі. Гэта быў прыгожы рабочы пасёлак. Васіль прыбыў сюды і здзівіўся: такое ажыўленне можна было бачыць толькі ў горадзе. У магазіне, у сталоўцы, у канторы — усюды было поўна людзей.

Стаяў лістапад. Зіма яшчэ толькі пачыналася. Снег ледзь прыкрыў зямлю, але ўжо коўзалася на санках дзетвара, аматары-лыжнікі прабавалі лыжы.

Васіль здзівіўся, калі даведаўся, што тут ёсць школа, клуб, дзіцячы сад, медпункт і нават пошта. Ён думаў, што заедзе ў такую глуш, адкуль нават і пісьма не дашлеш. Аднак на сэрцы ў яго было неспакойна, хаця для гэтага непакою ён не меў асаблівых прычын. На яго проста ўплылі новыя абставіны, новае месца і новыя людзі, якіх ён сустракаў на кожным кроку.

На складзе Васіль атрымаў лучковую пілу, ці лучок, як з ласкавай павагай называюць яе рабочыя, і сякеру. Сякера яму спадабалася, а лучок, на яго думку, не заслугоўваў павагі. Усёй сваёй формай ён нагадваў сталярскую аднаручку, і Васіль думаў, трымаючы яго ў руках: «Ці можна ім зваліць тоўстае дрэва? Безумоўна, не. Перапіліць жэрдачку — можна...»

Ён панёс інструмент на кватэру з поўнай упэўненасцю, што заўтра верне лучок назад парваным...

У бараку для мужчын яму адвялі невялікі пакойчык. Тут былі ложак, стол, табурэтка і тумбачка. Загадчык гаспадаркі выдаў яму матрац, падушку, просціны і коўдру.

Стомлены пасля дарогі, Васіль рана лёг спаць, але заснуў не хутка. Неяк адразу адчулася адзінота. Хоць бы адзін таварыш... І работа новая, незнаёмая...

Ці добра ён зрабіў, што прыехаў сюды? Ці не лепш было сядзець дома, у родным калгасе, выконваць тую работу, да якой прывык з маленства. Хто яго адтуль гнаў? І здрадніцкая думка, як злодзей, укралася ў яго галаву: а хіба позна? Аддаць заўтра ўсе гэтыя цацкі і падацца дадому!.. Але ад гэтай думкі стала сорамна, і ён адагнаў яе.

Раніцой, узброіўшыся лучком і сякерай, Васіль пайшоў нарыхтоўваць лес. Майстар лесанарыхтовак дзядзя Саша завёў яго ў дзялянку і паказаў дзялок. Кашлаты ельнік панура стаяў у дзялянцы. Агледзеўшыся, Васіль падумаў, што па ім ён тут будзе стаяць вечна. Гэткай дурніцай (так ён у думках называў лучковую пілу) хіба можна яго паваліць?

Майстар узяў пілу, агледзеў:

— Добрую пілу выбраў, хлопец.

— А я не выбіраў. Якую далі, такую ўзяў.

— Значыць, добрую далі, хаця, папраўдзе, рэдкія з іх бываюць дрэннымі. Ну што ж, пачнём!

Ён падышоў да першага дрэва, стаў так, нібы хацеў абняць яго, сагнуўся, прыціснуўся да дрэва адным каленам, і засяваў лучок, з кожным рухам усё глыбей угрызаючыся ў ствол. Не паспеў Васіль агледзецца, як дрэва з грукатам паляцела на дол. Васіль здзівіўся.

— Дайце мне, таварыш майстар!

— Калі ласка.

Васіль узяў лучок. Сяк-так, з дапамогаю майстра, яму ўдалося зваліць адно дрэва. Але што гэта была за работа! Жах, а не работа. Васіль адчуваў, што другога дрэва без дапамогі яму не спілаваць...

Майстар вучыў яго больш за гадзіну. Васілю ўжо здалося, што ён спазнаў хітрасць лучковай пілы. Мабыць, так падумаў і майстар.

— Ну, а цяпер сам. Галоўнае: не хвалюйся, не спяшайся, а я да цябе інструктара прышлю.

Дзядзя Саша пайшоў, а Васіль горача прыняўся за работу. Аднак ён пачынаў пілаваць пятае дрэва, але ні аднаго не зваліў. Піла ішла не глыбей палавіны ствала, а далей — хоць разарвіся... Рэз выходзіў крывы, нават фігурысты, пілу заціскала ў ім так, што ні ўперад, ні на-

зад. «О, халера,— стагнаў Васіль, увесь абліты потам,— які чорт мяне сюды прынёс...»

У яго зноў з'явілася думка ўцячы адсюль, і гэта ўжо была не думка, а жаданне. Ён зноў агледзеў лес. Высокія тоўстыя яліны нібы дражніліся з ім, і шалёная злосць уздымалася ў Васілёвай душы. «Праклятыя... Я вас тут не садзіў, не паліваў...» Але гэтыя хвілінныя ўспышкі злосці праходзілі, бо з усіх бакоў даносіліся да яго вясёлы гоман лесарубаў, стук сякер, а галоўнае, раз за разам падалі на зямлю дрэвы, зваленыя такім самым лучком. «Няўжо ж я горшы за ўсіх? — упарта думаў Васіль.— Не можа быць!» — і ліхаманкава браўся зноў за працу.

Інструктар прыйшоў пасля поўдня. Васіль зірнуў на яго і не паверыў вачам. Інструктар быў у сукенцы, у шарсцяным берэце і ватоўцы. Дзяўчына зірнула на Васіля, і яму здалося, што ў яе блакітных вачах няма дна... «Яна зараз убачыць, што я яшчэ не спілаваў аніводнага дрэва»,— з жахам падумаў Васіль і адчуў, што чырвание ад сораму за сваё няўмельства і ад таго, што яго будзе вучыць дзяўчына.

— Ну, як справы, таварыш? — запытала яна, і Васіль заўважыў у яе вачах жаночую цікаўнасць.

Ён насцярожана зірнуў на яе і наўмысна строга сказаў:

— Маё прозвішча Балкаў.

— Тады будзем знаёмы. А маё — Галавач. Мяне прыслаў да вас дзядзя Саша.— Яна крыху памаўчала і дадала: — Відаць, замарыліся, таварыш Балкаў?

Васіль вушанкай выцер пот і падумаў: «Кожнаму дурню відно, калі на твары цэлыя пацёкі»,— і не адказаў.

— Сядайце, пакурыце,— прапанавала інструктар.

— Дзякую,— адказаў Васіль, здзівіўшыся, што яна адгадала яго жаданне.

— А я тым часам на ваш лучок зірну. Мабыць, не хоча пілаваць?

Яна ўжо заўважыла напалову падпілаваныя дрэвы, але ў голасе яе не чуваць было насмешкі, і насцярожаны агеньчык у вачах Васіля адразу патух.

— Не хоча, таварыш інструктар, хоць трэсні... Пачынаў-пачынаў і нічога не кончыў.

— Маё прозвішча Галавач,— усміхнуўшыся і неяк

загадкава зірнуўшы на Васіля, адказала яна,— так вы мяне і завіце.

— Добра, таварыш Галавач,— ён таксама ўсміхнуўся.

Яна прысела поруч на зваленую дзядзем Сашам елку і сказала:

— Не ўмееце, таварыш Балкаў. А гэта бяда невялікая.

— Самая найбольшая бяда.

— Вы палявік?

— Палявік.

— Я таксама з палявога раёна. Вам ужо захацелася дадому? — нечакана запытала яна, уважліва зірнуўшы яму ў вочы.

— Адкуль вы гэта ўзялі? — са здзіўленнем адказаў Васіль.

— Па сабе ведаю. Два гады таму назад і ў мяне з'яўлялася жаданне пакінуць лесапункт,— коратка адказала яна.

— З'яўлялася? — перапытаў Васіль і адчуў, што чырванее.— І ў мяне яно з'явілася,— прызнаўся ён нечакана для сябе.

— Ганіце яго прэч.

Яна цярпліва дачакала, пакуль Васіль дакурыць папяросу, і так сказала, як і дзядзя Саша:

— Ну што ж, пачнём!

Праз некаторы час Васіль ужо без дапамогі інструктара зваліў некалькі дрэў, хоць рэз і атрымліваўся касы. Тады Галавач растлумачыла, на якія асартыменты распрацоўваць драўніну, дала некалькі парад па тэхніцы бяспекі, паабяцала прыйсці заўтра раніцай і параіла:

— З сённяшняга дня запісвайцеся ў тэхнічны гурток. Гэта абавязкова.

І пайшла.

Застаўшыся адзін, Васіль пазайздросціў таму, каго пойдзе інструктаваць гэтая глыбакавокая дзяўчына-інструктар.

## 2

Майстэрства лесаруба-лучкіста ішло да Васіля памалу, і пакуль яно ішло, Васіль аддаваў рабоце ўсю сваю сілу. І ніхто не ведаў, як стамляўся Васіль у пер-

шыя дні. Вечарам ён спяшаўся хутчэй павячэраць, тады адпачываў да заняткаў тэхнічнага гуртка і, адседзеўшы гадзіну на занятках, адразу лажыўся спаць.

Ён ведаў, што ў клубе працуюць і іншыя гурткі, ёсць бібліятэка, можна пагуляць у шахматы, у більярд. І хаця ён быў вялікі аматар да ўсяго гэтага, але стомленасць проста прыкоўвала яго да ложка.

Першы, з кім адразу пасябраваў Васіль, быў Мікола Кудзелін — прыёмшчык лесу і баяніст. Па другой сваёй спецыяльнасці ён быў вядомы ў наваколлі значна шырэй, чым па першай. Не толькі лесапункт, увесь леспрамгас ведаў рыжага Міколу — прыгажуна баяніста. Ён належаў да ліку тых людзей, якія ніколі не тужаць, у якіх заўсёды знойдзецца вясёлае слоўца і востры жарт.

Ён з'явіўся да Васіля ў дзялок на трэці дзень са складным метрам і з кнігай-даўгушай у кішэні.

— Значыцца, дзялок Балкава,— весела сказаў ён,— а цябе, браток, здаецца, завуць Васілём? Пачакай, я зірну ў сваю памінальніцу.

— Не глядзі. Ты не памыліўся.

— Значыцца, памяць у мяне яшчэ нядрэнна працуе.

Ён з цікаўнасцю агледзеў Васіля і запытаў вельмі сур'ёзна:

— А ў цябе ў радні не было цыганоў?

— Чаму?

— Ды хіба ж ты не ведаеш? Ты ж, браток, выліты цыган.

— А ў тваёй, выпадкова, бараны не вадзіліся?

— Ну, што ты!

— А ты ж — выліты баран, толькі масць нейкая не авечая.

Мікола страсянуў кучаравай галавой.

— Ну, браток, ты даў мне адпор,— сказаў ён, разгортваючы свой метр,— значыцца, ты Васіль, а я Мікола — не будзем сварыцца ніколі... Бяры, браток, метр ды замярай, а я буду запісваць. Як гэта робіцца — я навучу. Мераць трэба дыяметр таўшчыні ў верхнім адрэзе. Пачакай, пачакай... Ідзі сюды. У цябе, браток, ад камля ўсюды касы рэз. Па-сапраўднаму, я павінен прымусіць цябе адкамляваць усе гэтыя бярвенні, але, улічваючы, што ты навічок, зраблю табе скідку.

— Скідкі ты мне не рабі, я адкамлюю. Гэта работа першага дня.

— За гэта дзякую, я думаў, што ты спрачацца пачнеш, аднак ты малайцом.

Прыёмка цягнулася доўга, бо Мікола часта спыняў Васіля і рабіў свае заўвагі.

— От тут ты сапсаваў добрае дрэва, пусціў яго ў дровы. Гэта, браток, называецца брак.

— Чаму ж добрае? Яно гнілое!

— Толькі ад камля. Трэба было адпілаваць на два метры вышэй, і ў цябе выйшаў бы будаўнічы матэрыял, а гэтыя два метры я прыняў бы ў дровы.

— Улічу.

— У цябе дзядзя Саша бывае?

— Сёння не было. Ён мне гаварыў пра такія выпадкі, але бачыш...

— Разумею. Навучышся, браток. Цябе інструктуе Галавач?

— Галавач.

— Вучыся ў яе, Васіль, толькі лішняга не дазваляй.

— Ну, што ты!

Дамоў яны ішлі разам. Усю дарогу Мікола расказваў Васілю пра жыццё на лесапункце, а распытваў пра ўсё на свеце.

— Значыцца, кажаш, што ты гатовы быў паказаць нам пяткі. Бывае, браток, і гэтак. Памыліцца лёгка, раз-два — і гатова. Але, можа, ты там дзяўчыну маеш?

— Не, брат, не маю.

— Не бяда. Тут у нас дзяўчат даволі, і ўсе не абы-якія, а ты хлопец відны. Тут мы цябе і ажэнім. Прыедзеш дамоў з жонкай.

Васіль засмяяўся.

— Не смейся, браток, тут жарты малыя. У мяне ўжо і сёння пыталі пра цябе.— Ён падміргнуў Васілю.— Ды хто, ды які, ды адкуль, ды як завуць, ды ці жанаты. Ну я ім першыя звесткі даў. А знаёміцца, кажу, буду на прыёмцы.

— Адкуль ты ведаеш пра мяне? Якія звесткі ты ім даваў? — крыху спалохаўшыся, спытаў Васіль.

— Не бойся, браток. Я сказаў чыстую праўду: па-першае, кажу, не цыган, а беларус, завуць Васілём Андрэевічам, прозвішча Балкаў, узрост 20 гадоў, не жанаты, камсамолец, ну і твой дакладны адрас. А звесткі я ўзяў з анкеты. Яна ў бухгалтэрыі на стале ляжала, а я чалавек цікаўны: узяў ды прачытаў.

Васіль не вытрымаў і засмяяўся.

— Ну і дзівак ты, Мікола!

— А я, браток, нічога дрэннага не казаў.

З гэтага дня яны сустракаліся не толькі на прыёмцы. Мікола кожны вечар заходзіў да Васіля, каб ісці разам у клуб, і кожны вечар Васіль адмаўляўся. Мікола не сердаваў. Ён расказваў Васілю ўсе навіны, а ў клуб ішоў адзін.

Алена Галавач штодзённа наведвала Васіля на працы. Іншы раз зусім нядоўга, некалькі мінут пабудзе яна ў яго дзялку, але Васіль адчуваў, якую карысць дае яму гэта, нават кароткае, наведванне. Маленькая заўвага, парада назаўсёды заставаліся ў Васілёвай памяці, узбагачалі яго вопыт рабочага-лучкіста.

Яна прыходзіла заўсёды сур'ёзная, раіла яму пакурыць і пыталася:

— Як справы, таварыш Балкаў?

Іначай яна ніколі не клікала яго, і Васіль нават крыўдзіўся. У яго ўжо шмат з'явілася знаёмых, якія звалі яго проста Васілём, дзяўчаты, з якімі сустракаўся, клікалі Васем. Гэта было не толькі прыемна, Васіль адчуваў, што ўрастае ў дружную сям'ю лесарубаў.

Праз два тыдні яна яму сказала:

— Калі так пойдзе далей, таварыш Балкаў, я вас выклічу на сацспаборніцтва. Дзённы графік вы выконваеце.

— Што вы, таварыш Галавач!

— І болей я да вас не прыйду, будзьце ласкавы, самі прыйдзіце ў мой дзялок. Ён тут недалёка ад вашага.

Яна зірнула сваім загадкавым позіркам, і ўжо не простую жаночую цікаўнасць убачыў у ім Васіль. Нешта большае свяцілася ў яе блакітных вачах.

Алена і Васіль некаторы час маўчалі.

— Дарэчы, вы ж, таварыш Балкаў, камсамолец?

— Камсамолец.

— І да гэтага часу не сталі на ўлік у нашай арганізацыі. Вось гэта нікуды не варта. А я тут камсорг.

«Эх,— падумаў Васіль, калі яна пайшла,— лучок так заганяў мяне, што я аб усім на свеце забыўся»,— і ён стаяў і думаў пра гэтую дзяўчыну.

З першага дня сустрэчы між імі ўстанавіліся строгія, афіцыйныя адносіны. Можа, на гэта ўплывала Аленіна інструктарства. Ён не мог забыць таго дня, калі яна падышла да яго, маладога, разгубленага, па-свойму ня-

шчаснага, як старэйшы таварыш, падтрымала не толькі словамі, але і справай. І гэта замінала яму зірнуць на яе як на роўню сабе.

У той жа вечар ён стаў на ўлік.

Алена прыняла яго ў сваім невялічкім, але ўтульным кабінеціку, які змяшчаўся ў клубе. Васіль зірнуў на яе і не пазнаў. Дзе дзелася Алена-інструктар. Інструктар у тоўстай ватоўцы, у ватніх штанах... У лесе яна была падобнай на тумбу, а тут перад ім стаяла высокая, стройная дзяўчына ў чорнай шарсцяной сукенцы. Валасы яе былі прыгожа зачасаны назад. Толькі вочы былі тыя самыя: блакітныя і бяздонныя, як неба.

Васіль спыніўся ў разгубленасці. Яна ўсміхнулася, і Васіль заўважыў радасць у гэтай усмешцы. І яму стала сорамна. Ён проста ў рабочай вопратцы ўваліўся ў яе кабінет.

Яны доўга гутарылі, ён расказваў пра дом, па якім сумаваў, і яму прыемна было ўспамінаць яго. Яна ўважліва слухала. Васілю здавалася, што яна слухае з вялікай цікавасцю, нібы хоча болей пра яго ўведаць. Калі ж ён пачаў гаварыць аб самадзейнасці, якую наладзіла іх камсамольская арганізацыя ў калгасе, аб спартыўных спаборніцтвах, яна ўсміхнулася зноў.

— А чаму ж вы тут такі дзікун, таварыш Балкаў? Выбачайце, але, апрача тэхнічнага гуртка, вы больш нікуды не ходзіце.

— Прызнацца шчыра... мне яшчэ патрэбен поўны адпачынак пасля працы.

— Стамляецеся? Паспрабуйце займацца фізкультурай.

— Паспрабую. Магчыма, і дапаможа.

Калі ён выйшаў з клуба, то адчуў, што ўвесь цяжар, які прыгнятаў яго цела, раптам знік. Ён хуткім крокам дайшоў да кватэры, пераапрануўся і, напяваючы, накіраваўся ў сталоўку. Вячэраў ён адзін, бо сталоўка хутка павінна была закрыцца. Адтуль, ледзь не бягом, памчаўся ў клуб.

Мікола ўзрадаваўся, убачыўшы яго.

— А я заходзіў да цябе, Вася. Мне сказалі, што ты пацягнуўся ў медпункт.

— Не жартуй. Дзе ваша бібліятэка?

— Зараз завяду. А мо б ты запісаўся ў музычны гурток? Я ж там кіраўніком.

— Не, Мікола. Я запісваюся ў фізкультурны.

— Шкада, браток, у нас акурат барабаншчыка няма.

Нягледзячы на тое, што Васіль позна затрымаўся ў клубе, раніцай ён прачнуўся ў пару і не такім стомленым, як у мінулыя дні. І вобраз высокай дзяўчыны з блакітнымі вачыма не выходзіў у яго з галавы.

### 3

Выхадны дзень ва ўсіх адносінах быў вельмі ўдалы. Васіль, як звычайна, прачнуўся ў шэсць гадзін. Можна было б яшчэ каля гадзіны паляжаць у ложку, але настрой быў такі бадзёры, што ён уключыў святло і падняўся з пасцелі.

Бываюць хвіліны, калі ў чалавека з'яўляецца прадчуванне нечага добрага, радаснага, прадчуванне блізкага шчасця. Тады надзвычайная бадзёрасць авалодвае ўсёй істотай, з'яўляецца жаданне жыць і дзейнічаць так, каб не прапала дарэмна ні адно імгненне.

Такое прадчуванне было і ў Васіля. Ён яшчэ не ўяўляў сабе, у чым яно заключаецца, але быў упэўнены: шчасце яго побач.

На дварэ была яшчэ ноч. Месяц заходзіў, і нават крыху прыцямнела, але пасёлак ужо не спаў, нягледзячы на выхадны дзень. На вуліцы заўважаўся рух. У канторы, у кабінеце парторга свяціліся вокны. З каміноў сталоўкі ішоў густы дым. А навакол стаяў лес, казачна прыгожы, у зімовым убранні.

Васіль прывык мыцца на дварэ. Сёння быў вялікі мароз, і халодная вада апякала твар. Васіль хутка памыўся, вярнуўся ў пакой і зрабіў гімнастыку.

Ён успомніў, што ўчора дзялок наведалі начальнік лесапункта Жаровін і дзядзя Саша. Начальнік, грузны мужчына, круглатвары, чыста выгалены, доўга наглядаў за Васілёвай працай, і ў яго вялікіх вачах свяцілася задавальненне.

— А ты казаў, што сезоннікі працуюць дрэнна,— звярнуўся ён да дзядзі Сашы.— Нават скардзіўся на іх: не хвараюць за вытворчасць. Глядзі, як працуе Балкаў!

— Не ўсе сезоннікі працуюць дрэнна, Сцяпан Іванавіч. Але навічкі ў большасці не ўкладаюцца ў графік, і гэта цягне нарыхтоўку ўніз.

— Балкаў таксама навічок, чаму ж ён укладаецца ў графік?

«Зірнуў бы ты на яго ў першыя дні»,— хацелася сказаць майстру, але ён толькі зазначыў:

— Балкаў — вучань Галавач Алены.

— Не толькі ў гэтым прычына,— строга сказаў Жаровін.— З кім вы спаборнічаеце, таварыш Балкаў? — звярнуўся ён да Васіля.

— Ні з кім, таварыш начальнік.

— Дрэнна. У нас сезоннікаў шмат. Цягнуць іх трэба за сабой, таварыш Балкаў. На лесапункце павінны быць не толькі вучні Галавач Алены, але і вучні Васіля Балкава.

Ён спахмурнеў, развітаўся і пакрочыў з дзялка.

Чаму начальнік пайшоў з яго дзялка нездаволеным, Васіль не разумеў. «За работу пахваліў... Дык што ж яму не спадабалася?»

Радасныя прадчуванні не ашукалі Васіля. Адразу пасля снедання ён атрымаў два пісьмы з дому: адно — ад родных, другое — ад хлопцаў. З дому пісалі, што ўсе здаровы, таварышы пыталі аб поспехах. Вось цяпер з чыстым сумленнем можна адказаць, што поспехі яго нядрэнныя. Хваліцца няма чым, аднак не апошні ён лесаруб на лесапункце. І ён, не адкладаючы, сеў пісаць адказы. Толькі цяпер, седзячы над пісьмамі, ён па-сапраўднаму, да самых драбніц успомніў родны калгас і яму захацелася даведацца пра ўсё, што там робіцца. Пісьмы атрымаліся доўгія, хаця, можа, і не зусім складныя.

Калі Васіль апранаўся, каб аднесці лісты на пошту, адчыніліся дзверы, і на парозе з'явіўся Мікола Кудзелін.

— Здароў, браток, як гадуешся? Як спалася і ўставалася? Куды ты збіраешся?

— На пошту, Мікола.

— Хадзем разам, бо адтуль мы адразу накіруемся ў клуб на сход.

— На які сход, Мікола?

— На камсамольскі сход. Мне Алена даручыла паведаміць табе.

У Васіля мільганула думка аб нейкім дачыненні гэтага сходу да ўчарашняга наведвання начальніка.

Сход быў адкрыты. У клубе, дзе ён адбываўся, сабраліся не толькі камсамольцы. Прыйшлі сезонныя рабочыя і ўся моладзь лесапункта.

На парадку дня стаяла толькі адно пытанне: аб сацспаборніцтве. Першым выступіў начальнік лесапункта Жаровін. Ён сказаў, што становішча, якое склалася на лесанарыхтоўках, нездавальняючае. Большасць сезоннікаў не ўкладаецца ў дзённы графік, і ёсць пагроза, што квартальны план будзе недавыканан. Прычынай гэтага з'яўляецца тое, што маладыя рабочыя, якія ўпершыню прыйшлі на лесараспрацоўкі, не атрымліваюць належнай дапамогі ад больш вопытных таварышаў, адсутнічае сацспаборніцтва.

Начальнік паставіў у прыклад Васіля, які, з дапамогай Алены Галавач, стаў добрым лесарубам-лучкістам.

— А каб Васіль Балкаў, як ужо вопытны лесаруб, дапамог хаця аднаму таварышу, у нас было б два добрых лучкісты з сезоннікаў,— уставіў рэпліку парторг Кавалеўскі.

— Я да таго і падыходжу,— усміхнуўшыся, адказаў Жаровін.— Дык вось, таварышы, мы павінны з сённяшняга дня шырока разгарнуць сацспаборніцтва на нашым лесапункце,— заключыў ён.

Васіль зірнуў на Алену, якая сядзела ў прэзідыуме, і позіркі іх сустрэліся. Яму здалося, што Алена хоча яму аб нечым сказаць. Ён здагадаўся аб чым і ўстаў.

— Дазвольце мне некалькі слоў...— усхвалявана сказаў ён.— Выклікаю на сацспаборніцтва ўсіх сезоннікаў...— ён сам спалохаўся сваіх слоў і на імгненне замоўк.

— Так, так, таварыш Балкаў! — падбадзёрыў яго парторг.— Прадаўжайце.

— Не толькі сам павялічу выпрацоўку! Я цяпер маю магчымасць дапамагаць таварышам, як Галавач дапамагала мне.

Сход адразу ажывіўся. Пачалося заключэнне індывідуальных умоў.

У канцы сходу, калі Васіль ужо збіраўся дадому, яго гукнула Алена:

— Таварыш Балкаў! Вы забылі нашу дамоўленасць?

— Якую? — не зразумеў Васіль.

— Не хітруйце! Выклікаю вас на сацспаборніцтва. Падыходзьце сюды, падпішам умову.

— Брава, Алена! — паціраў ад задавальнення рукі начальнік лесапункта.— А я хацеў табе падказаць.

Васіль накіраваўся да стала. Калі яны з Аленай падпісвалі ўмову, у душу Васіля зноў прыйшла радасць. Яму здалося, што яго ўмова з Аленай самая важная.

Увесь дзень ён хадзіў як зачараваны, на жарты Міколы Кудзеліна адказваў неўпапад, гуляючы ў шахматы і ў більярд, памыляўся і праігрываў.

Мікола Кудзелін уголас дзівіўся:

— Што з табой, Васіль? Аб чым ты думаеш, браток?

— Што ты на мне такое ўбачыў?

— На табе — нічога, а ў табе сёе-тое бачу.

— Што?

Прыцісну ўшыся да Васілёвага вуха, Мікола зашаптаў:

— Ненармальны ты сёння, Васіль.

— Нармальны, як ніколі!

— Закахаўся ты, Васіль, і я ведаю ў каго! Хочацца ўвесь свет абняць, праўда?

А Васілю хацелася не толькі абняць увесь свет, але і прытуліць да сябе рыжага Міколу, расказаць яму пра сваю радасць.

Вечарам у клубе павінен быў адбыцца канцэрт. Васіль прыйшоў туды, калі ў зале было яшчэ амаль пуста. На сцэне, за заслонай, ішла дзейсная падрыхтоўка да канцэрта. Васіль не адважваўся заглянуць туды, бо ведаў, што артысты не любяць, калі ім замінаюць. Ён выбраў сабе зручнае месца ля сцэны і сеў. Прасторная зала пачала запаўняцца людзьмі. Ішла моладзь, па адным і групамі. Гэтыя не выбіралі сабе месцаў. Яны хадзілі па зале, заглядалі на сцэну, накіроўваліся ў пакоі для гульняў і там на некаторы час затрымліваліся. Пажылыя рабочыя прыходзілі з жонкамі. Яны распраналіся ў гардэробе і адразу займалі месцы.

Адхінуўшы заслону, са сцэны саскочыў Мікола Кудзелін з баянам.

— Васіль,— гукнуў ён здалёк,— ну, як тваё здароўечка?

«Пад мухай сёння Мікола»,— здагадаўся Васіль. А Мікола ўжо, мабыць, дзесяты раз за дзень паціскаў яму руку.

— Ты чаму не скінуў паліто? — запытаўся ён, усаджваючыся поруч.— Бяжы, браток, у гардэроб, а я зберагу тваё месца.

Калі Васіль вярнуўся, у зале ўжо ішлі танцы. Добра

іграў Мікола. Васіль сеў на сваё месца. Пары, кружачыся, праносіліся каля яго адна за адной... Ён не глядзеў на іх. Нахлынулі ўспаміны пра дом, і было крыху сумна.

Калі ён узняў вочы, проста перад ім прайшла Алена ў пары з нейкім незнаёмым доўгім хлапцом. Васілю здалося, што Алена кіўнула яму, і ён адказаў ёй, але не бачыў, ці заўважыла Алена гэта, бо другая пара засланіла іх. Васіль адчуў, як у яго з'явілася не вельмі выразнае, але і не вельмі добрае пачуццё да доўгага хлапца.

Нарэшце Мікола сціснуў гармонік і на імгненне ў зале стала ціха. Васіль устаў. Яму захацелася ўбачыць Алену, разведаць, што гэта за доўгі і чаму ён выбраў Алену.

— Месца майго можаш не берагчы, Мікола.

— Добра,— адказаў той.

Алена стаяла каля сцэны адна. Яна ўглядалася ў зал, нібы хацела некага ўбачыць.

«Шукае свайго доўгага»,— падумаў Васіль і адчуў крыўду.

Калі ён спыніўся каля яе і ўбачыў яе радасную ўсмешку, усё — і крыўда, і благая думка пра доўгага адляцелі прэч.

— Добры вечар, Алена.

— Добры вечар, Васіль... Я з вамі віталася, калі вы сядзелі каля Міколы.

— Мне здалося, што вы не заўважылі майго адказу.

— Заўважыла,— сказала яна і радасна ўсміхнулася.

— Дзе ваш доўгі партнёр?

— Пайшоў курыць. А вы чаму не танцуеце?

— Яшчэ не сабраўся.

— Доўга ж вы збіраецеся! Дзед вы, а не танцор.

— Ну, гэта мы пабачым,— з запалам сказаў Васіль.— Хто ён такі?

— Хто?

— Той доўгі.

— Хочаце, пазнаёмлю. Ён механік з леспрамгаса.

Яна крыху памаўчала, раптам зірнула на Васіля сваім загадкавым позіркам і сказала:

— Значыць, вальс за вамі, так?

— Так.

— Хадзем, дзядок, на сцэну, я пазнаёмлю вас з нашымі артыстамі. Магу запэўніць, што ў грыме нікога не пазнаеце.

— А вальс?
— Пасля канцэрта. Бачыце, ужо зала поўная людзей. Пара пачынаць канцэрт.
Позна ўвечары разыходзіліся з клуба. Нядоўгі шлях да баракаў Васіль і Алена ішлі разам. Васілю шмат аб чым хацелася пагаварыць з Аленай, але сцяжынка да жаночых баракаў павярнула ўправа, і яны разышліся.

## 4

На лясы апускаўся ранні зімовы змрок. Сыпаўся лёгкі, пушысты, густы і спорны снег. Ён павісаў на галлі дрэў, на кустах лазняку, клаўся на штабелі бярвенняў, упрыгожваў пні белымі шапкамі, усцілаў аўтатрасу, хаваючы пад сабой яе гладкае палатно.
І змрок быў белы і малады.
Бываюць такія прыгожыя зімовыя вечары, калі з глыбіны магутных лясоў вее нейкай урачыстасцю і патаемнай цішынёй, калі тоўстыя і стромкія дрэвы стаяць нерухома, як казачныя асілкі, калі запахне дымком ад далёкага кастра і да слыху даляцяць скрып саней, дзявочы смех і песня. Тады забушуе ў грудзях маладосць, кране пяшчотаю сэрца, і яно соладка заные. І з'явіцца раптам вельмі цікавы ўспамін, мільгне ў памяці і знікне... Аб чым ён быў?.. А можа, гэта не ўспамін, а мара, нешта мілае, летуценна лёгкае і дарагое?..
Васіль Балкаў крочыў дадому. Лучок вісеў за яго плячамі, як стрэльба, палатно пілы, як рэмень, прыціскала грудзі. Сякеру Васіль трымаў у руках, не набыў яшчэ прывычкі засоўваць яе ззаду за пояс, таму адна рука была занята, і нязручна было закурваць. Але ён усё-такі закурыў. Паблісківаючы агеньчыкам цыгаркі, ён, не спяшаючыся, ішоў наперад. Ззаду даносіліся людскія галасы: ішлі лесарубы. Уперадзе паскрыпвалі сані, і скрып гэты набліжаўся: тралёўшчыкі везлі да аўтатрасы апошнія вазы бярвення.
Прыцямнела. Васіль выйшаў на рум і спыніўся. Насустрач яму ішлі машыны, гружаныя бярвеннямі. Святло ад фар яркімі снапамі пырснула на дарогу і паплыло, асвятляючы заснежаны лес, абліваючы яго сярэбраным бляскам. Васіль сышоў на край аўтатрасы, каб даць дарогу машынам, і пастаяў, пакуль яны праехалі.

Нарэшце за паваротам дарогі заблішчалі агні пасёлка.

Васіль занёс у пілаточку лучок. Там нікога не было. Ён павесіў пілу на цвік і накіраваўся ў кантору. Людзей тут было многа, і Васіль ледзь адшукаў Міколу Кудзеліна.

— Ну, Мікола, колькі сёння ў мяне?

Кудзелін адарваўся ад сваёй «памінальніцы», зірнуў на Васіля і адказаў:

— Я яшчэ толькі прысеў, Вася. Толькі от пачаў лічыць. Але наперад табе скажу: у Алены больш.

— Ну? — недаверліва запытаў Васіль, і твар яго спахмурнеў.

— Прыкладна, працэнтаў на пяць.

— Няўжо яе немагчыма абагнаць, Мікола?

— Усё магчыма, Вася. Магчыма і тое, што, пакуль ты дагоніш Алену, нашы сезоннікі дагоняць цябе! Я вось падлічваю. Шмат у каго выпрацоўка падыходзіць да тваёй. Ва ўсякім разе, ніжэй за сто працэнтаў няма ні ў кога, нават у дзяўчат.

— А я хіба буду стаяць на месцы! Няхай даганяюць, гэта добра. На тое мы і спаборнічаем. І не можа быць, каб да канца тыдня я не дагнаў Алены! — упарта адказаў Васіль.

— Старайся, Вася... Ды, браток, не замінай ты мне. Ідзі павячэрай, а я тым часам зводку падрыхтую. Леспрамгас звоніць і звоніць... Пакуль ты павячэраеш, я падлічу.

Васіль нахлабучыў вушанку на самыя вочы і пайшоў з канторы. Сёння яму трапіўся добры лясок: густы і тоўсты. Працаваў і думаў: «Ну, сёння сцеражыся, Алена...» А тут на табе... Мікола хоць і не падлічыў, а ведае. Прыкіне на вока і мала памыліцца...

Ужо два месяцы ідзе спаборніцтва. І за ўвесь гэты час Васіль ні разу не заняў першага месца. Яму нязменна заставалася другое, а на першым, таксама нязменна, была Алена. Васіль не зайздросціў, але жаданне дагнаць яе ад гэтага не змяншалася. Наадварот, умацоўвалася. Дзіўна было, што так хутка прайшоў час. Калі з'явіўся сюды, толькі пачыналася зіма, а цяпер надыходзіў яе канец. Прыйдзе вясна, і ён свабодны. Але гэтая думка чамусьці не ўзрадавала яго.

Адносіны Васіля з Аленай ускладніліся. Яны, як і

раней, наведвалі адзін аднаго на працы, дзяліліся вопытам. У лесе Алена была такою, як і заўжды: чулай, патрабавальнай, праўдзівай і шчырай, самым лепшым таварышам. Але пасля працы ў яе ўсяляўся чорт... Яна рабілася калючай, як вожык, жарты яе былі вострымі, ад іх не раз чырванеў Васіль. Алена нібы дражніла яго. Васілю нават здавалася, што яна пазбягае яго. Ён шукаў сустрэчы, хацеў пагутарыць ад душы пра ўсё, што ляжала ў яго на сэрцы, але дзяўчына не звяртала увагі на яго пачуцці...

Ужо сам Васіль не адзін раз інструктаваў маладых рабочых. Яны яго таксама клікалі «таварыш інструктар», аднак павага яго да Алены не прайшла, пачуццё, якое бліснула, не пагасла. «Чаму?» — задаваў сабе пытанне Васіль.

Праз некалькі дзён пасля таго камсамольскага сходу, на якім заключаліся сацспаборніцтвы, у дзялок да Васіля прыйшоў парторг Кавалеўскі. Пагутарылі. Кавалеўскі — стары рабочы-лесаруб — паспрабаваў яго інструмент. Цікава было наглядаць Васілю, як гэты прысадзісты пажылы чалавек з густымі, але кароткімі вусамі, з носам-бульбінай, з вясёлымі разумнымі вачыма арудаваў яго пілой. Ён зваліў некалькі дрэў і вярнуўся да Васіля.

— Адвык. Ды і гады, мабыць, не тыя,— сказаў ён густым голасам і ўсміхнуўся. Потым пацікавіўся Васілёвым метадам работы.

— У мяне метад Галавач Алены, таварыш Кавалеўскі,— адказаў Васіль.

— Хіба яе метад самы лепшы? — здзівіўся парторг.

— Не ведаю. Але яна мяне вучыла. Я, можна сказаць, яе вучань. Прытым, яна лепшы стаханавец на лесапункце.

— А вы пашукайце сваіх метадаў і станеце яшчэ лепшым стаханаўцам. Яна працуе трэці год і трэці год удасканальвае свой метад, а вы пляцецеся за ёй у хвасце.

Гэтыя словы ўразілі Васіля.

— Напэўна так, таварыш Кавалеўскі... І я павінен сказаць, што дарэмна з Аленай спаборнічаю...

— Чаму?

— Каб вынайсці свае метады, мне трэба папрацаваць лучком не меней года.

— Ну, гэта зусім не так. Лучком вы авалодалі. Трэба толькі выкарыстоўваць час рацыянальна. Я думаю, вы

шмат губляеце яго на дробязях. Ушчыльняйце працоўны дзень. І бярыцеся за справу сур'ёзна. Да нас ідзе магутная тэхніка. Электрапіла ў хуткім часе заменіць лучок.

Васіль задумаўся над словамі парторга і знайшоў шмат дробязей, якія заміналі яму ў працы. Ён пазбавіўся ад іх, аднак, хаця выпрацоўка яго і павялічылася, Алены ён усё-такі не дагнаў.

...У сталоўцы Васіль распрануўся і заказаў вячэру. Раптам ён пачуў вокліч:

— Таварыш Балкаў, як справы?

Алена Галавач павячэрала і збіралася дамоў. Васіль зірнуў на яе вясёлы твар, і сэрца яго зашчымела незразумелым болем.

— А ў цябе, таварыш Галавач?

— Не ведаю. Пайду запытаю ў Міколы.

— Ідзі. Ён ужо лічыць.

— А ты не злуйся, Васіль...

— Я не злуюся, Алена... У цябе сёння больш. Але... будзе свята і на маёй вуліцы!

— Тады пазавеш мяне на сваё свята,— засмяяўшыся, адказала яна і пайшла.

І пайшла такая далёкая, такая незразумелая, такая блізкая і дарагая дзяўчына... Няўжо ж так і не ўдасца яму да канца сезона стаць уровень з ёю? Ён чакаў таго дня, калі зможа сказаць ёй: «Ну, Леначка, дзякую за навуку. Нарэшце такі я параўняўся з табою... Дык давай і пойдзем уперад разам, дапамагаючы адзін аднаму...»

Сёння да яго зноў прыходзіў Кавалеўскі. Пастаяў нядоўга. Пахваліў. Сабраўся ўжо ісці, але запытаўся:

— А што ты думаеш пра электрапілы, Васіль Андрэевіч?

— У нас іх няма.

— Няма! Дык будуць... Хутка будуць!

Васіль успомніў гэтыя словы, калі ішоў у кантору, куды яго паклікалі са сталоўкі, калі ён кончыў вячэраць.

## 5

У кабінет начальніка Васіль увайшоў не без хвалявання. Ён прывітаўся і стаў ля парога.

Начальнік на хвіліну ўзняў галаву ад стала і сказаў:

— Бліжэй, таварыш Балкаў. Вось і крэсла.

Прымасціўшыся, Васіль заўважыў, што насупраць яго цераз стол сядзіць парторг і дыміць цыгарэтай, устаўленай у доўгі муштук.

У кабінеце было ўтульна і, як здалося Васілю, вельмі горача. Ён расшпіліў паліто і зірнуў на начальніка. Той сядзеў, нахмурыўшы пасівелыя бровы, і чытаў нейкую паперу. Такім хмурым Васіль ніколі не бачыў яго і таму з трывогаю падумаў, па якой прычыне яго сёння выклікала начальства. Але начальства не спяшалася аб гэтым паведамляць.

Так прайшло некалькі хвілін. Начальнік падсунуў да сябе лічыльнікі і ў задуменні нешта пачаў лічыць. Парторг пускаў дым праз густыя вусы.

Раптам начальнік рашуча адсунуў ад сябе і паперу, і лічыльнікі, акінуў вясёлым позіркам Васіля і сказаў:

— Значыць, не дацягнуў сёння да Алены толькі тры працэнты!

Васіль не зразумеў, што хаваецца ў гэтых словах — папрок ці пахвала, і нездаволена паморшчыўся.

— Што, не падабаецца? — засмяяўся начальнік.

— Нічога не зробіш. Прыйдзе час, дацягну і перацягну.

— Веру. Тры працэнты — глупства.

— Не глупства. Заўтра, можа, пяць не дацягну, але я ў сябе ўжо веру.

— І гэта самае галоўнае,— сказаў Кавалеўскі.

— Малайцом, таварыш Балкаў... З нашай Аленай яшчэ ніхто не зраўняўся і не падышоў так блізка, як ты,— начальнік падумаў і дапытліва агледзеў Васіля.

— Справа вось у чым, таварыш Балкаў: ты думаеш застацца ў лясной прамысловасці ці ў канцы сезона вернешся дамоў?

Ад першага дня, калі ў Васіля з'явілася думка ўцячы з лесапункта, прайшло нямала часу, і больш да яго яна не вярталася. Такое пытанне з боку начальніка было раптоўным, і ён не адразу адказаў.

— Я сабе такога пытання не задаваў... Мне не так лёгка далася новая спецыяльнасць... — ён змоўк.

— Каб так лёгка яе кінуць,— дадаў Кавалеўскі.

— Амаль што так, таварыш Кавалеўскі.

— Значыць, застаешся?

— Так,— рашуча сказаў Васіль.

Начальнік задаволена пацёр рукі.

— Гаворачы шчыра, таварыш Балкаў, твае гэтыя словы мяне ўзрадавалі. Мы тут думалі аб табе, гутарылі з таварышам Кавалеўскім.

Гэта было навіною для Васіля. Ніколі ён не спадзяваўся, што начальства аб ім можа думаць або гаварыць.

— Памятаеш, Васіль Андрэевіч, я табе сёння гаварыў пра электрапілу, не забыў? — запытаўся Кавалеўскі і ўсадзіў у муштук новую цыгарэту.

— Памятаю.

— Ну дык гэты час настае. Наш лесапункт у хуткім часе будзе механізаваны. Мы атрымаем некалькі электрастанцый, некалькі машын, тралёвачных трактараў, нават лябёдак. Зразумеў?

— Зразумеў, ды не зусім, таварыш Кавалеўскі.

— Кадры нам патрэбны, гаспадары машын, зразумеў?

— Зразумеў.

— На курсы мы пасылаем цябе, на тры месяцы,— сказаў Жаровін.

— Чаму абавязкова мяне, таварыш начальнік?

— Не толькі цябе. Шмат людзей пасылаем. Над тым і думаю. Лесапункт агаляецца, падлічваю, ці выканаем без вас праграму. На курсы — шафёраў, трактарыстаў, матарыстаў — усё лепшых рабочых.

— Значыць... Спаборніцтва па баку...

— Чаму па баку? Вернуцца і будуць прадаўжаць яго ў новых умовах.

Васіль доўга маўчаў. Ні начальнік, ні парторг не перашкаджалі яму думаць. Нарэшце ён падняўся і сказаў:

— Згодзен. Еду.

— Іначай і быць не магло,— усміхнуўся начальнік.— Заўтрашні дзень даецца табе на адпачынак і на зборы. Атрымаеш у Іванаўны грошы, а паслязаўтра — у дарогу.

«Як раптоўна ўсё здарылася»,— падумаў Васіль, ідучы з канторы. І раптам яму здалося, што яго згода ехаць на курсы падобна на ўцёкі. Ён уцякае ад спаборніцтва. Што падумае Алена? «Уцякаеш, Балкаў»,— скажа яна. Пачне кпіць...

На дварэ пасвятлела. Праяснілася начное неба, і памацнеў марозік. Васіль падаўся дамоў і зусім нечакана сустрэў Алену Галавач. Спыніліся абое.

— Чула навіну, Алена? — запытаўся ён.

— Чула. Значыць, едзеш, Васіль?

— Еду... А ты?
— На жаль, не...
— Эх... Памыліўся я...
— У чым ты памыліўся?
— Даў згоду ехаць на гэтыя курсы.
— Дык гэта, па-твойму, памылка? — здзівілася яна.
— Не тое што памылка... На ўцёкі гэта падобна. Ад спаборніцтва, выходзіць, я ўцякаю...
— Дзівак ты! Якое глупства прыйшло ў тваю галаву! Ды каб мяне паслалі, я ганарылася б! — у яе голасе чуліся незразумелыя ноткі: ні то жаль, ні то зайздрасць.
— Дык чаму ж яны цябе не паслалі? — абурыўся Васіль.
— Не ведаю... Бачыш, камсоргам я, адным словам, многа спраў...
Васіль адчуў, што яна нечага не дагаварвае. Яна маўчала і стаяла некаторы час, нахіліўшы галаву. Потым рэзка падняла яе, нібы адагнаўшы дакучлівыя думкі, і запыталася зусім другім тонам:
— Ты куды цяпер, Васіль?
— Дамоў, Лена. Трэба сваім лісты напісаць.
— У клубе сёння танцы... Памятаеш першы вальс? Ну дык сёння будзе апошні... Тры месяцы не будзе цябе, дык давай на тры месяцы і... патанцуем...
Нейкае незнаёмае, але надзвычай харошае пачуццё ўзняло Васіля. Ён не чакаў такой сустрэчы з Аленай. Ён чакаў насмешкі, у крайнім выпадку, проста таварыскай гутаркі, а не такой цеплыні і шчырасці, якія чуліся ў Аленіным голасе...
Ён узяў яе пад руку, і яна прыхінулася да яго. А мо гэта здалося? Безумоўна, прыхінулася... Не, не прыхінулася, а ледзь нахілілася ў яго бок.
У клубе было поўна моладзі. Весела заліваўся баян у Міколавых руках.
Васіль дапамог Алене скінуць паліто, распрануўся сам. Яны стаялі каля вешалкі і маўчалі. Не першы раз ён сустракаўся з ёю ў клубе, але сёння яна была не такой, як усе разы. Сёння яна была надзвычай прыгожаю, дзівосна прыгожаю, гэтая лясная дзяўчына. Нейкая кволасць, мяккасць адчуваліся ва ўсёй яе постаці. І Васіля ахапіла жаданне ўзяць яе на рукі, пранесці па ўсім клубе, як малое дзіця. Толькі так выказаў бы ён тую пяшчоту, якая нарадзілася ў яго грудзях у гэтую хвіліну.

Калі палілася мелодыя вальса, ён падаў ёй руку, і яны закружыліся.

Васіль адчуваў, што п'янее. П'янее ад мелодыі, ад блізасці Алены. Ён не ведаў, не бачыў, як прыгожа выходзіць у іх гэты стары і вечна малады танец.

Змоўк баян, а Васілю не хацелася адыходзіць ад Алены. Ён заўважыў табурэтку ў самым кутку каля сцэны і паказаў на яе вачыма:

— Адпачні, Лена...

— А ты?

— Я пастаю.

— А мне няма часу сядзець, Васіль... Я ж табе казала: патанцуем апошні вальс. От мы і патанцавалі...

— Ты хочаш ісці? — з жалем сказаў ён.

— Мне трэба ісці, Васіль... — адказала яна, ласкава зірнуўшы на яго.

— Хадзем. Мне таксама трэба ісці...

Яны ішлі па дарожцы, што вяла да баракаў. На дварэ зусім праяснілася, мароз узмацніўся, і вясёлыя зоркі ўсеялі ўсё неба. Лес, што абкружаў пасёлак, стаяў маўклівы. З-за яго паказваў свой круглы твар месяц з адсечаным беражком.

Яны спыніліся каля ганка, і Лена павярнулася да Васіля тварам.

— Жадаю табе поспехаў, Васілёк... Бывай,— сказала яна, падаючы яму руку.

Ён схапіў і да болю сціснуў яе... «Васілёк...» Яна ніколі не называла яго так.

— Лена, пачакай... Мы нават не пагутарылі... Я не пра ўсё табе сказаў! Ах, Леначка... Мне абавязкова трэба сказаць. Я еду на тры месяцы...

— Дурненькі, Васілёк... Чаму ж ты раней не сказаў?

— Леначка, я не ведаў... — адказаў ён, абдымаючы яе за плечы.

Яна адвяла яго рукі.

— Ты мне будзеш пісаць, не палянуешся?

— Ах Лена, Лена...

Яна крутнулася і па ўсходцах пабегла на ганак.

## 6

На лесапункце, дзе праходзілі курсы механізатараў лесанарыхтовак, Васіль спачатку разгубіўся.

Увесь працэс лесанарыхтоўчай работы тут быў механізаваны. Тут працавалі не толькі аўтамашыны і рухомыя электрастанцыі на калёсах, якія нагадвалі вагоны. Тэхніка ахапіла ўсе віды вытворчасці. Тралёўку лесу выконвалі магутныя «Сталінцы». Цікава было глядзець, як такі трактар цягне да ляснога склада цэлы дзесятак дрэў, трымаючы іх за верхавіны. На складзе рабочыя распілоўвалі бярвенні электрапіламі. Пагрузка лесу на станцыі — самая цяжкая работа. Тут лябёдкі і дэрыкі замянялі працу людзей. Рабочыя толькі кіравалі гэтымі машынамі. «Колькі тут тэхнікі,— думаў Васіль,— няўжо так будзе і ў нас?!» Ён зайздросціў тым рабочым, якія стаялі ля машын, як камандзіры. Якой недасканалай і прымітыўнай выглядала лучковая піла ў параўнанні з электрапілой!

Васіль адразу нібы перанёсся ў другі свет, і гэта ашаламіла яго. Акрамя таго, ён адчуваў сябе нейкім раздвоеным, нібы частка яго засталася там, на Янеўскім лесапункце, дзе працуе сваім лучком Алена. У першы ж дзень ён сеў пісаць ёй ліст. Пісаў доўга і калі прачытаў, то не рашыўся паслаць. «Наплёў чорт ведае чаго,— падумаў ён,— можа, Алена толькі пасмяецца». Ён успамінаў яе то такой, якой яна прыйшла да яго інструктарам, то такой, якой бачыў у апошні вечар, і сэрца яго ныла салодкім болем. «Васілёк...» — так ніхто і ніколі не клікаў яго. І гэтае слова ўвесь час гучала ў яго вушах.

Ён вучыўся на курсах матарыстаў. Вучоба займала ўвесь час. Заняткі праходзілі на вытворчасці, што ў значнай меры аблягчала засваенне, але вечарамі прыходзілася сядзець над кнігамі і запісамі да поўначы. І Васіль сядзеў, як крук, цярпліва наганяючы тое, чаго не паспеў набыць у школе. Ён кінуў вучэнне пасля сёмага класа і цяпер сам сябе лаяў за гэта.

Іншы раз ім авалодвала пачуццё, падобнае на тугу. Гэта здаралася тады, калі ён ляжаў у пасцелі, стомлены за дзень да таго, што нават не прыходзіў сон. Тады ён заплюшчваў вочы, і ў іх паўставала Алена. Яна стаяла, нахіліўшы галаву, кволая, нібы пакрыўджаная, і доўгія вейкі закрывалі яе вочы. Пяшчотай тады напаўнялася яго сэрца, вялікая радасць агортвала ўсю істоту. Ён успамінаў яе твар, постаць, яе погляд, такі ласкавы і загадкавы, яе дзівоснае слова: «Васілёк». «Ты і тут дапамагаеш мне, Леначка»,— з удзячнасцю думаў ён.

І сапраўды, вобраз яе, успамін аб ёй акрыляў яго, дадаваў сілы, падымаў жаданне быць лепшым, імкнуцца ўперад. І яшчэ не адзін раз прабаваў ён пісаць ёй лісты і, перачытаўшы іх, знаходзіў, што і тысячнай долі няма ў іх таго, што хацелася яму сказаць.

Прайшло два месяцы. Кончылася зіма. Васілю было дзіўна, што ён так і не заўважыў, калі пачалася вясна. Яе прыход ён адчуў неяк раптоўна. Выйшаў раніцай на двор. Яшчэ не ўзыходзіла сонца, а ўжо аднекуль з вышыні лілася птушыная песня. Васіль прыгледзеўся: на старой бярозе, што расла ля інтэрната, як чорны камячок, сядзеў шпак і весела пасвістваў. «Вясна!» — з радасцю падумаў Васіль і толькі цяпер заўважыў, што ўжо адшумелі вясновыя ручаі і амаль зусім няма снегу.

Прайшло яшчэ некалькі дзён, і вясна цвіла ўжо ў бярозавых гаях, на лугах па берагах рэчкі, на калгасных палях. Жоўтай лотаццю пакрыліся паплавы і балоты. Кволае лісцейка, светла-зялёнае, яшчэ пакарабачанае і клейкае, пакрывала дрэвы і кусты. Маўклівы дагэтуль лес агалосіўся птушыным спевам, зашумеў пад вясновым ветрам весела і ласкава.

Прыход вясны выклікаў новыя думкі. Васіль успомніў родны калгас, і стаў ён дарагім яму і блізкім да слёз. Васіля пацягнула на палі, хоць паглядзець, як прасыхае зямля, як рыхтуецца яна прыняць новае насенне. Ён уяўляў, як у родным калгасе яго таварышы рыхтуюць цяпер новы ўраджай. Хіба ён уцёк ад іх? Ён толькі перайшоў на другі, таксама вельмі важны ўчастак работы.

Усе курсанты цяпер праходзілі практыку на вытворчасці. Васіля паставілі памочнікам матарыста. Машына працавала спраўна, і Васіль нават адлучаўся ад яе. «Мала быць матарыстам,— думаў ён,— трэба быць і добрым электрапільшчыкам». І ён, дамовіўшыся з майстрам, ішоў на дзялянкі і гадзіны па дзве, па тры працаваў электрапілой. Было ў яго і другое жаданне — пабыць на электрастанцыі аднаму. І няхай бы здарылася нейкая замінка. Тут ён упэўніўся б, ці добра ведае машыну. І такі дзень прыйшоў, Васілю давялося замяніць матарыста, які захварэў.

Васіль з усходам сонца выйшаў на работу. Лясная дарога яшчэ маўчала, і Васіль быў рады, што будзе на сваім месцы раней за ўсіх і зможа падрыхтавацца да работы. Лясное птаства ўжо не спала. Жаўна дзяўбла

дрэва з такой увагай, што не толькі не спалохалася Васіля, але нават не звярнула на яго ўвагі. Галасы лясных спевакоў, нябачаных у лясной гушчыні, ліліся з усіх бакоў. Былі яны клапатлівыя, але такія бадзёрыя, што Васіль сам пачаў падсвістваць ім.

Зайшоўшы ў вагон свае электрастанцыі, Васіль спачатку агледзеў механізмы. Усё было ў парадку. Ён зрабіў змазку і заправіў гаручым матор. Калі прыйшлі рабочыя, матор ужо спяваў сваю працоўную песню.

Васіль выйшаў з вагона, і ў яго з'явілася жаданне самому папрацаваць электрапілой. Ён прыслухаўся да голасу матора: гук быў раўнамерны і чоткі. Васіль зірнуў на правады, што, як змеі, паўзлі ва ўсе бакі, і пабег на лясны склад, дзе ішла распілоўка хлыстоў. Малады хлапец з веснавым рабаціннем на твары раскрыжоўваў у гэты час тоўстую яліну.

— Ну як, хапае току? — спытаў Васіль.

— Хапае, механік,— адказаў той.

«Механік»,— падумаў Васіль з усмешкай і папрасіў:

— Дазволь мне, таварыш, пільнуць разок.

— Калі ласка, таварыш механік.

Васіль узяў электрапілу і прыняўся за работу. Зрабіць адзін рэз было справай некалькіх хвілін, і на ім Васіль не спыніўся. Ён распілаваў ужо два хлысты, і дарэмна рабочы не адзін раз казаў яму:

— Давайце мне, таварыш механік.

Васіль перайшоў да трэцяга хлыста і толькі дакрануўся пілой да бервяна, як ланцужок яе спыніўся. Васіль памчаўся да сваёй электрастанцыі. Матор заглух. Некалькі разоў Васіль хапаўся за ручку, каб завесці яго, але матор толькі фыркаў, як наравісты конь, і зноў злавесна маўчаў. Тады Васіль пачаў корпацца ў ім. Але, як і кожны раз бывае ў выпадках, калі механік яшчэ не вельмі спрактыкаваны, ён не ведаў, за што перш за ўсё трэба ўзяцца. Васіль кідаўся ад адной часткі да другой, нічога не мог знайсці і зноў хапаўся за ручку. Матор толькі фыркаў у адказ на яго намаганні.

— Эх ты, механік разняшчасны... — горка сказаў ён і нахіліўся над маторам. Цяпер ён рашыў па парадку перагледзець кожную частку, але думка, што праз яго нядбайнасць адбываецца прастой на рабоце, што рабочыя ўспамінаюць яго цяпер не вельмі ласкавымі словамі, зноў выбіла яго з раўнавагі.

Ён не ведаў, колькі прайшло часу, бо хвіліны здаваліся яму гадзінамі, але нечакана ў дзверы вагона зірнуў той самы рабочы, чыёю пілою ён працаваў, і сказаў зусім па-таварыску:

— Вы, механік, зірніце, можа, гаручае не паступае. Гэта іншы раз бывае.

Добрая парада і прыязны тон, якім яна была сказана, адразу супакоілі Васіля. Ён кінуўся да трубкі, якая падае гаручае, і адразу знайшоў няспраўнасць: трубка захрасла. Васіль старанна прачысціў яе. Рабочы крутнуў ручку матора, той яшчэ фыркнуў разы са два, нібы хацеў не паддацца, і запрацаваў роўна і без перабояў. Цяпер Васіль рашыў нікуды не адыходзіць ад механізмаў, хоць яго і цягнула да электрапільшчыкаў.

Астатак рабочага дня прайшоў хутка і без аварый. Васіль быў не задаволены гэтым днём. Не задаволены таму, што дапусціў памылку, пакінуўшы машыну без догляду, і праз гэта атрымаўся прастой. «На тое і машыніст, каб кіраваць машынай»,— думаў ён і цвёрда рашыў, што такі выпадак павінен быць першым і апошнім.

Калі пасля працы ён зайшоў у інтэрнат, яго сустрэла прыбіральшчыца.

— Табе, ліст, Вася,— сказала яна, падаючы яму блакітны канверт.

Васіль не памятаў, як разарваў канверт. Ён нават не зірнуў на адрас, ён і так ведаў, што пісьмо ад Алены.

«Забыў ты, Васілёк, сваё абяцанне,— пісала яна.— Забыў ты наш апошні вальс, што танцавалі мы ў клубе перад тваім ад'ездам. Харошы быў той вечар, я заўсёды з радасцю ўспамінаю яго... А ты забыў».

«Не! Не забыў, Леначка!» — хацелася крыкнуць Васілю. Як бы дорага ён даў, каб убачыць цяпер яе перад сабой, каб перанесціся хоць на гадзіну ў Янеўскі лесапункт.

Яна пісала, што таксама была на курсах, пры трэсце, і атрымала званне майстра лесанарыхтовак, што паступіла вучыцца завочна ў лесатэхнікум.

«Ах, Лена, Леначка! Хіба можна такую дзяўчыну ды забыць!» — з гордасцю за сяброўку думаў Васіль.

Ён некалькі разоў перачытаў гэты дарагі ліст і пачаў пісаць адказ.

*1953*

## ЗАТОР НА ДВАЦЦАТЫМ

### 1

Калі Паўла Дубовіка пыталі, дзе ён працуе, ён адказваў:

— А я, братка, на тых... на падсобных...

Гэта азначала, што Дубовік працуе на падсобных работах.

Так званых падсобных работ на лесаўчастку было не вельмі многа, і звычайна іх выконвалі старыя, чаго нельга было сказаць пра Паўла Дубовіка.

Гэта быў мужчына гадоў сарака, круглатвары, чырвоны, як бурак, тоўсты і дужы, як мядзведзь. Хадзіў ён павольнай хадою, перавальваючыся, як качка, з нагі на нагу. Пазіраў ён заўсёды спадылба, падазрона глядаючы субяседніка, нібы не давяраў, што з ім гавораць сур'ёзна. Галіўся ён ад выпадку да выпадку, таму ад вачэй да шыі быў абросшы рэдкімі рыжаватымі валасамі.

Пазнаць яго можна было здалёк па тым гарнітуры, які ён насіў і летам, і зімой. Гарнітур быў надзвычай стракаты: летняя армейская шапка з круглай чорнай плямай на самым версе, ватовая фуфайка, замызганая да таго, што нельга было пазнаць, з чаго яна пашыта, штаны-галіфэ ні то зялёнага, ні то ахоўнага колеру з чорнымі леямі, а на нагах вялізныя чаравікі, з якіх заўсёды тырчалі анучы.

На ўсім гэтым гарнітуры штодзённа прыбывала плям ад салідолу, аўтолу і алею. Рыбная луска розных колераў паблісквала на фуфайцы і штанах. Усё гэта яскрава сведчыла, з якімі матэрыяламі меў справу Павел Дубовік, выконваючы падсобныя работы.

Асаблівасць падсобных работ заключалася ў тым, што яны маглі ўзнікнуць нечакана, у любы час сутак. Трэба, напрыклад, тэрмінова падвезці гаручае для аўтамашыны, у сталоўку адправіць мяса або рыбу, у пякарню падкінуць дроў. Тут патрэбен быў чалавек, і такі чалавек знаходзіўся ў асобе Паўла Дубовіка, які ў вольны час спаў у дзяжурцы коннага двара, уваткнуўшы галаву ў лямец сядзёлкі. Спаць ён любіў надзвычай: дзе сеў, там і заснуў. Гэта пра яго гаварылі, што на Янеўскім

лесаўчастку ёсць такі чалавек, які можа выспацца на хаду.

Прачынаўся ён не адразу: доўга пазяхаў, чухаў кудлатую галаву, вохкаў, стагнаў, нарэшце падымаўся і ішоў запрагаць гультаяватую кабылу Мошку, выдзеленую для падсобных работ.

Павел Дубовік з'явіўся ў Янеўскі лесаўчастак болей года назад. Тут ён адразу, як кажуць, упрогся ў падсобныя работы, быў імі вельмі задаволены і, здаецца, ні аб чым болей не думаў. Ён нават атрымаў на лесаўчастку мянушку: «Падсобныя работы», але не крыўдзіўся за яе.

Усё сваё жыццё Павел Дубовік пражыў у адным з мястэчкаў Заходняй Беларусі. Застаўшыся сіратою з малых год, ён спачатку жабраваў, потым пасвіў местачковую скаціну. Павел быў рухавы хлапчук, бадзёры і жыццярадасны, нягледзячы на гаротнае жыццё. Калі падрос, ён кінуў пасвіць, бо меў цвёрды намер зарабіць грошай і завесці ўласную гаспадарку. Аднак ва ўмовах панскай Польшчы гэта было немагчыма. Адзіная дзяржаўная работа, якая праводзілася ў павеце — пракладка шасейнай дарогі,— аказалася для яго недаступнай. Для таго, каб паступіць на работу, трэба было запісацца ў «палякі», гэта значыць прыняць каталіцкую веру.

Тады Дубовік пачаў зарабляць пакрысе, наймаючыся да багатых местачкоўцаў. Работу ён выконваў розную, якая траплялася: пілаваў і калоў дровы, гарадзіў платы, мёў двары і вуліцы, насіў ваду, размятаў снег. Браў за работу, што давалі, а давалі, безумоўна, нямнога. Іншы раз яму давалі грошы, а іншы раз працаваў толькі за харчы і начлег. Калі ў мястэчку не знаходзілася работы, адлучаўся ў вёскі: летам на жніво, увосень на малацьбу.

Працуючы ў розных людзей, ён упэўніўся, што кожны хоча даручыць як мага больш працы, а заплаціць як мага меней, і пачаў глядзець на людзей падазрона. Упэўніўся ён і ў тым, што як ты добра ні выканаеш работу, гаспадару не дагодзіш. А самае галоўнае, ён прыйшоў да вываду, што сумленнай працай не забагацееш. Усё гэта прывяло да таго, што ён разленаваўся, апусціўся, навучыўся падбіраць усё тое, што дрэнна ляжыць, але рабіў гэта вельмі асцярожна і ні разу не папаўся.

Так пражыўшы амаль паўвека, ён ніколі не меў сталай работы, не атрымаў ніякай спецыяльнасці і ведаў цану капейцы: жыў у вышэйшай меры сціпла.

Вайна амаль не кранула яго. Ён перабыў яе ў вёсках у «цёплых» мужыкоў. Калі Савецкая Армія вызваліла Заходнюю Беларусь ад фашысцкіх захопнікаў, ён працаваў у аднаго кулака і разам з яго сынам рыхтаваў бярвенні на новы дом.

На лесаўчастак ён прыйшоў, калі пачуў, што там добрыя заробкі. З вялікімі цяжкасцямі пратрымаўся ён на лесаўчастку першы месяц. Прывыкшы працаваць ад выпадку да выпадку, калі гэтага запатрабуе страўнік, ён не мог звыкнуцца з дысцыплінай. Яго цягнула ў мястэчка, на лёгкую работу, дзе ён меў магчымасць дзень працаваць, два адпачываць, дзе дапаможаш выкаціць з чайной пустыя піўныя бочкі, закаціць туды поўныя, прынесці паварысе вядры два вады, і глядзіш — ужо келіх піва і талерка супу стаяць на стале...

Аднак пратрымаўся, бо трэба было чакаць разліку. І чакаў ён яго з нецярплівасцю. У той дзень ён старанна злажыў у мяшочак свае небагатыя пажыткі, заадно ўпіхнуў туды новую сядзёлку, некалькі раменных паскаў, новыя тасьмовыя лейцы і з паўдзесятка супоняў. Выбрацца меркаваў пасля поўначы.

Разлічвалі рабочых вечарам. Дубовік стаяў у чарзе і чакаў, калі яго выклічуць. Можна было і пачакаць: наперад уяўляў сабе жыццё ў мястэчку, меркаваў, каму прадаць сядзёлку і лейцы, каб паляжаць з тыдзень на печы ў старой Пракопіхі, якая жыла ў яго хаце ў якасці кватаранткі.

Калі яго нарэшце выклікалі, ён бокам падышоў да касіра. Той так лоўка заляскаў лічыльнікамі, што Павел не мог прасачыць за костачкамі, якія ляталі па дроціках, і нават ухмыльнуўся.

— Табе трыста рублёў, Дубовік. Распішыся.

— Тры-ы-ста! — здзівіўся Павел і, разявіўшы рот, зірнуў на касіра.

— Што? Мала? Я, брат, лічу згодна нарадаў. Не верыш, дык я пералічу.

Паўлу хацелася сказаць, што не трэба пералічваць, што трыста рублёў зусім не мала, а нават многа... Паўлу нават стала горача: вось пералічыць касір, і атрымаецца меней...

Касір зноў заляскаў лічыльнікамі і нарэшце сказаў:

— Ну глядзі: трыста. Дарэмна ты мяне затрымаў.

Ён адлічыў Дубовіку трыста рублёў новенькімі хрусцячымі пяцёркамі — іх ляжала цэлая горка на стале. Павел зірнуў на свае велізарныя парэпаныя рукі, у якія ўелася гразь, можа, пяцігадовай даўнасці, і нясмела сабраў са стала свой заробак.

Ён не паклаў грошы ў кішэню, а нёс у руках і ўсё паўтараў:

— Кажаш — трыста... гм... калі трыста, то гэта, братка, трыста... гм...

Столькі грошай ён зроду не трымаў у руках, і гэта яго ўсхвалявала. Так ён і прыйшоў у дзяжурку, не паклаўшы іх у кішэню.

У дзяжурцы нікога не было. Дубовік запаліў лямпу, сеў пры століку і пералічыў грошы. Налічыў роўна трыста рублёў. Ён палажыў грошы на стол і доўга глядзеў на іх. Потым дрыжачымі пальцамі адлічыў дваццаць пяцёрак і паклаў у кішэню. Астатнія абгарнуў газетай, потым анучкай, выцягнуў з-за пазухі тоўсты скураны бумажнік, запхнуў туды рэшту грошай і паклаў у другую кішэню. Тады падняў з долу свой мяшок, развязаў яго, выняў сядзёлку, лейцы, паскі і супоні і развесіў іх там, дзе яны і былі, пакуль не папалі ў яго мех.

У тую ноч яму дрэнна спалася, і гэта, мабыць, была першая такая ноч у яго жыцці.

Назаўтра ён выйшаў на работу. Так і пацякло жыццё Паўла Дубовіка на Янеўскім лесаўчастку.

Ён цяпер скруціў сябе, як толькі мог. Харчаваўся хлебам і таннымі цукеркамі, запіваючы іх халоднай вадой. Цукар купляць лічыў нявыгадным, бо, на яго думку, цукар быў вельмі няспорны... Але кожны дзень у Дубовіка была свая асабістая радасць, невядомая другім: чаканне дня разліку. Кожны месяц ён чакаў гэтага дня і заўсёды аб ім думаў.

## 2

Начальнік Янеўскага лесаўчастка Жаровін толькі вярнуўся з лесу. На ганку канторы ён доўга абтрасаў снег з каўняра паліто і з шапкі і нездаволена паўтараў:

— Ну і лепіць без канца, каб на яго халера... ну і лепіць...

Снег і сапраўды ляпіў без канца, вільготны і густы. Размятальшчыкам на аўтатрасе не было калі перадыхнуць — машыны буксавалі і прастойвалі па дарозе: графік ламаўся. А тут яшчэ не хапала рабочых: больш пятнаццаці лепшых лесарубаў прыйшлося адправіць на курсы механізатараў.

Жаровін, не распранаючыся, прайшоўся па канторы лесаўчастка, спыніўся ля дзвярэй свайго кабінета і запытаў у статыстыка:

— З леспрамгаса званілі?

— Не, Сямён Пятровіч. Зводку я перадала раніцай.

— Добра. А Кузьма Іванавіч тут?

— Толькі што прыйшоў.

Жаровін адчыніў дзверы. Парторг Кавалеўскі сядзеў на дыване ў воблаку дыму ад цыгарэты.

— Вярнуўся? — коратка запытаў Жаровін.

— Вярнуўся...

Кавалеўскі кіўнуў галавой.

Жаровін распрануўся, шырокімі крокамі прайшоў па кабінеце і спыніўся каля стала.

— Кажаш, вярнуўся... Выхаду не магу знайсці! Мала таго, што машыны стаяць у дарозе праз гэтае праклятае надвор'е, дык і пагрузчыкаў не хапае... Графік па вывазцы зламаўся... У Доўнараву брыгаду трэба даць чалавека, а каго даць? Доўнар наляцеў сёння на мяне, як каршун,— начальнік усміхнуўся,— порах, а не чалавек. І от думаю: здымі каго-небудзь з лесарубаў або тралёўшчыкаў — там будзе коратка... Адным словам, Трышкін кафтан.

— Ну, гэта ты залішне, Сямён Пятровіч.

Кавалеўскі ўлажыў муштук у левую далонь, стукнуў па ёй правай, і акурак стрэліў далёка на падлогу. Кавалеўскі падняў яго, укінуў у попельніцу і схаваў муштук у кішэню.

— Выхад ёсць. У Доўнараву брыгаду я табе адразу дам чалавека.

— Каго? — начальнік здзіўлена зірнуў на парторга.

— Паўла Дубовіка.

— «Падсобныя работы»?

— Перавядзём на прамыя.

Жаровін грузна сеў у крэсла.

— Што ж! Гэтая думка неблагая. Але як зірне на гэта сам Доўнар? Ведаеш, які ён.

— Ведаю, разумны хлопец. Дубовіка ён, безумоўна, возьме. Аднак справа тут не ў адным Дубовіку, Сямён Пятровіч. Нам наогул неабходна перагледзець як належыць усе падсобныя работы. Там ёсць не адзін такі Дубовік.

— Тады мы агалім падсобныя.

— І тут выхад ёсць. Многія хатнія гаспадыні дапамогуць нам. Адным словам, я гэта бяру на сябе. Ты быў у лесе, а я таксама быў там-сям.

— Ну, Кузьма Іванавіч... калі сказаць папросту, твае гэтыя словы мне, як маслам па сэрцы... Давай перагледзім падсобныя работы.

...Брыгадзір пагрузчыкаў лесу на машыны Доўнар Хвёдар быў гарачы, як кіпень. Невысокага росту, галаваты, ён быў моцны, як корч, і любая работа гарэла ў яго руках. Пажылы чалавек, рухавы і спрытны не па гадах, ён быў дружны з таварышамі, любіў працаваць сам і не цярпеў дрэннай работы іншых. Пры першым спатканні ён здаваўся душою-чалавекам, але ледзь толькі заўважаў нядбайства, абібоцтва — і з касаватых вачэй яго ўжо ляцеў агонь, рукі сашчэпліваліся ў кулакі, ён крычаў тонкім голасам, які ніяк не пасаваў да яго фігуры, і гатовы быў кінуцца ў бойку.

Брыгаду ён падабраў самую выдатную — маладзец да малайца. Але больш за ўсіх паважаў ён свайго намесніка Івана Свіршчова, па росту амаль удвая вышэйшага за свайго брыгадзіра. Калі Доўнар Хвёдар кіраваў брыгадай, то спакойны і разважлівы Іван Свіршчоў кіраваў сваім неспакойным брыгадзірам.

Дачуўшыся, што ў яго брыгаду вызначылі Паўла Дубовіка, Доўнар адразу ўспыхнуў і, як бомба, уляцеў у кабінет начальніка. Жаровіна там не было, за яго сталом сядзеў Кавалеўскі.

— Чуў, Кузьма Іванавіч? — тонкім голасам закрычаў ён без ніякай прадмовы.— Чуў, каго мне ўперлі ў брыгаду?

— Чуў, Хвёдар Антонавіч. Гэта я і ўпёр, прызнацца табе шчыра,— сур'ёзна паглядзеўшы на Доўнара, сказаў Кавалеўскі.

Хвёдар як стаяў, так і бухнуўся на канапу, недаўменна паглядаючы на парторга. Гэтыя словы адразу абтушылі яго.

— Дзякую, Кузьма Іванавіч... Але я не веру! — разгублена прагаварыў ён.

— Чаму не верыш?

— Ты сам лесаруб... Ведаеш, што такое пагрузка... І каб уперці ў маю брыгаду «Падсобныя работы»! Ды ты паглядзі, як гэты абібок ходзіць! — зноў захваляваўся Доўнар.— Калі ўбачу, як ён пляцецца за возам, дык, здаецца, схапіў бы пугу ды падагнаў, каб хоць прайшоў як чалавек.

Кавалеўскі ўсміхнуўся.

— Вось я і думаю, што вы там навучыце яго варушыцца хутчэй.

— Хто яго навучыць? Лысае цялятка і здохне з лысінай! Ды цяпер на маю брыгаду пальцамі будуць паказваць: вунь, скажуць, «Падсобныя работы» ідуць... А мы яшчэ з дошкі Гонару не злазілі.

— Нічога, Хвёдар Антонавіч. У нас больш няма каго даць... Ды і не веру я, што адзін чалавек усю брыгаду сцягне з дошкі Гонару. А вы гуртам аднаго чалавека пацягнеце за сабой.

— Няхай яго за хвост цягаюць! Праганю! Праганю, Кузьма Іванавіч! Як толькі што, адразу праганю! Ужо лепш без яго будзем упраўляцца, так і начальніку скажы.

Выйшаўшы ад парторга, Доўнар памчаўся да Івана Свіршчова. Па дарозе ён сустрэў Галавач Алену і паскардзіўся ёй на начальніка і на парторга. Ля баракаў спыніў прыёмшчыка Міколу Кудзеліна.

— Чуў ты, Мікола, ці не? — адразу запытаў у яго.

— Што такое, браток? — зацікавіўся Мікола.

— Ён не ведае што! — горка ўсміхнуўся Доўнар.— У маю брыгаду ведаеш каго ўперлі?

— Каго, браток?

— «Падсобныя работы»! Гэтага абібока, гультая, чуў? Ты падумай, Мікола! Ну што мне рабіць?

— Толькі вешацца, браток, або тапіцца, не іначай. Я на тваім месцы пайшоў бы на Янеўку. Бачыў палонку, дзе кавалі ваду бяруць? Там глыбока! Уніз галавою — боўць! Хай бы ведалі, як «Падсобныя...» — Мікола не паспеў дакончыць.

Доўнар сціснуў кулакі:

— І ты яшчэ здзекуешся з мяне, рыжы чорт! От як дам, дык перакоцішся дзесяць разоў.

— Што ты, Хвёдар! — Мікола адступіў крок назад.—

Ты ж ненарокам зубы мне выб'еш! Чаго ты размахаўся кулакамі? Здзекуешся! Які ты дзівак, браток! Дубовіку самы раз на пагрузцы працаваць, а не дровы вазіць. Такі здаравенны мужчына.

— Ідзі пацалуйся з ім, сваякамі будзеце,— крыкнуў Хвёдар і, павярнуўшыся, пабег у барак.

Свіршчоў рыхтаваўся ісці ў клуб. На стале яго стаяла люстэрка, ляжаў брытвенны прыбор. Сам ён быў у майцы, відаць, нядаўна памыўся. Хвёдар толькі чмыхнуў, зайшоўшы ў пакой, і без прывітання пачаў:

— Бяда, Іван... Чуў такую бяду?

Свіршчоў ужо такую бяду чуў, але выгляду не падаў. Неабходна было даць Доўнару выгаварыцца да канца.

— У чым справа, Хвёдар Антонавіч?

— У чым справа! «Падсобныя работы» ў нашу брыгаду ўперлі.

— Дубовіка?

— Таго валасатага...

— Гм... Ну і што ты думаеш?

— Выганю.

— Ну, з першага дня неяк нялоўка выганяць.

— А што ж там! Я толькі зірну, як ён будзе варочацца каля бярвення.

— Ён дужы, Хвёдар Антонавіч! Бачыў, як ён бочкі з гаручым на сані ўскочвае? Адзін! Або з саней куляе.

— І мядзведзь дужы, але пастаў яго на пагрузку! — крыкнуў Доўнар.

Свіршчоў засмяяўся.

— Ну, ты раўняеш! Дубовік жа чалавек, у яго розум ёсць.

— А ліха яго ведае...

— Гэта не бяда, Хвёдар Антонавіч, што ў нашу брыгаду прызначылі Дубовіка. Гэта толькі паўбяды. Я от думаю: як нам абчасаць яго.

— А-а-а! — расчаравана працягнуў Доўнар.— Дык ты ўжо чуў. Ну, дык і абчэсвай ты яго, колькі табе ўлезе, а я то не буду.

Панурыўшы галаву, ён накіраваўся да дзвярэй.

— Хвёдар Антонавіч, пачакай. У клуб прыходзь, у шахматы пагуляем.

— Не пайду. Я праз гэтага валасатага яшчэ не вячэраў сёння.

Ён бразнуў дзвярыма і пайшоў.

## 3

Назаўтра Павел Дубовік выйшаў на пагрузку лесу. Раніца была ясная і марозная. Сняжок, які выпаў за ноч, іскрыўся на сонцы і мякка хрусцеў пад нагамі. Але настрой у Дубовіка быў надзвычай дрэнны. Па-першае, ён не выспаўся, бо ноччу давялося везці бензін у гараж. Па-другое, ішоў ён на цяжкую работу і ведаў, што агінацца там яму не дадуць.

Ён плёўся ззаду ўсяе брыгады і адчуваў, што бяруць яго неахвотна, толькі па неабходнасці, што яго не любяць і не паважаюць, што ўсе ідуць моўчкі таму, што кожны думае пра яго, пра «Падсобныя работы». Як ён адрозніваўся ад іх, ад гэтых хлопцаў! Усе яны ў цёплых шапках-вушанках, у ватных касцюмах, у валёнках, у новых рукавіцах, а ён нібы белая варона ў гурце чорных.

Ён ведаў, што Доўнар ненавідзіць яго, таму і ішоў ззаду, каб не пападацца яму на вочы, а той штохвілінна азіраўся, зняважліва пляваў на снег і мармытаў нешта ўпаўголасу.

На лясным складзе яшчэ нікога не было, толькі збоку дагараў касцёр. Убачыўшы агонь, Павел крыху павесялеў. Рукавіцы яго былі старыя, за дарогу замерзлі рукі, і ён адразу пайшоў да кастра, каб сагрэць іх.

Увесь час, пакуль ён стаяў ля кастра, у Доўнара свярбеў язык. Хацелася сказаць «Падсобнай рабоце» нешта зняважлівае, пякучае, але не быў упэўнены, што нечым можна праняць гэтага гультая. Ды і не было прычыны, бо нават Свіршчоў прыйшоў да агню і закурыў. Тады ён пачаў размятаць пляцоўку, кідаючы раз-пораз калючыя погляды ў бок Паўла Дубовіка, але той стаяў пануры і зусім не глядзеў на свайго неспакойнага брыгадзіра.

Нарэшце падышла машына. Пагрузчыкі адразу занялі свае месцы. Доўнар і Свіршчоў палажылі на прычэп лёжкі, каб па іх з эстакады ўскачваць на машыну бярвенні. Дубовік усё яшчэ стаяў ля кастра і драмаў.

Гэта ўзарвала Доўнара.

— А ты што ж, ламіна! Прыліп да агню? А мо нешта снілася? — крыкнуў ён.

— Ідзі сюды, Дубовік! — гукнуў яго Свіршчоў.— Будзеш стаяць з майго боку.

Калі б у гэты дзень Павел працаваў каля Доўнара, то гэта быў бы яго першы і апошні дзень работы на па-

грузцы. Ляны і няспрытны, прытым не знаёмы з работай, ён толькі нагінаўся, каб падхапіць бервяно, а яно ўжо кацілася па лёжках на машыну. Работа ішла хутка і зладжана. Дубовік сам адчуваў, што бярвенні коцяцца ўгору амаль без яго дапамогі, і нават быў задаволены. «Не так страшны чорт, як яго малююць»,— думаў ён пра сваю новую работу.

Не паспеў ён як след разварушыцца, а машына ўжо была пагружана.

— Прымі лёжку ад прычэпа,— загадаў яму Свіршчоў.

Дубовік па-мядзведжаму абхапіў слізкае абкатанае бервяно і адкінуў яго ўбок.

— Куды ты яго завалок? — крыкнуў Доўнар.— Можа, думаеш, што ўжо ўсё?

Дубовік нагнуўся, каб падняць лёжку, паслізнуўся і паляцеў у снег.

Доўнар зарагатаў.

— Паглядзіце, хлопцы, можа, ён там рассыпаўся.

Свіршчоў, не чакаючы, пакуль Дубовік устане ды абтрасе снег, сам усклаў лёжку на месца.

— Хіба ты не бачыў, як прымаў другую лёжку Хвёдар? — запытаў ён у Дубовіка.

— Не...

— Дрэнна. Трэба глядзець. Я табе знарок загадаў прыняць лёжку, бо ты павінен быў бачыць, як на тваіх вачах прыбіраў яе Хвёдар. Ён прыпадняў яе канец з зямлі, пацягнуў назад, і гатова, яна ўжо ўпала. Глядзі: вось так. А пакласці яе на машыну таксама будзе лёгка: трэба падняць другі канец, глядзі: вось так. А цяпер пацягнуць уперад і пакласці на прычэп. У прычэпе — бачыш — і гняздо для яе ёсць. На кожнай працы, Дубовік, акрамя сілы, патрэбны яшчэ кемлівасць і ўменне. Трэба прыглядацца да другіх, вучыцца ў больш вопытных. Вось хутка прыйдуць дзве машыны, і мы раздзелімся на дзве групы. Я цябе бяру ў сваю, толькі глядзі, не падкачай.

З-за павароту дарогі сапраўды паказалася машына. Яна развярнулася і падышла да эстакады. Праз хвіліну пачулася гудзенне другой машыны.

Як бы там ні было, у той дзень Дубовіку не прыйшлося па-сапраўднаму папрацаваць. Ён толькі варушыўся і ніяк не паспяваў укласці у агульную працу сваю магутную сілу. Але хапіла яму і гэтага.

Ён ішоў дадому з такім адчуваннем, нібы толькі закончыў нейкую бесталковую беганіну. Было горача, і стомленасць адчувалася ў кожным мускуле.

Ён зноў плёўся ззаду ўсяе брыгады і з жалем пaглядаў на свае рукавіцы. Яны парваліся ўшчэнт.

Калі Свіршчоў адстаў ад усіх, каб ісці поруч з ім, Дубовік крыху спалохаўся. Па невядомай прычыне Павел пачаў баяцца Свіршчова больш, чым Доўнара. Доўнар са сваім крыкам быў не страшны, у крайнім выпадку такога малога можна было і адпіхнуць ад сябе. А вось Свіршчоў... Гэтага не адкінеш, і ад яго не адпіхнешся. Дубовік быў упэўнены, што Доўнар нават не выгане яго з брыгады, пакуль гэтага не захоча Свіршчоў.

— Ну як, Павел, замарыўся? — запытаў у яго Свіршчоў.

— Не то каб... так сабе...

— Так сабе! Перш за ўсё ты сходзіш у склад і атрымаеш рукавіцы. Пакажы свае. Ну, гэта не рукавіцы! Дай іх сюды... Зусім зношаныя. Работніка з цябе ў іх не будзе.

Ён шпурнуў рукавіцы ў снег за дарогу. Павел з жалем зірнуў у той бок.

— Братка... дык а як жа я...

— Атрымаеш на складзе новыя.

— Дык яно ж... за новыя трэба грошы...

— Якія грошы? За спяцоўку грошай не плацяць, дзівак ты.

— Не плацяць? — недаверліва запытаў Павел.

— Ну, вядома. Зносіш — другія дадуць. Цяпер вось у чым справа, Павел. Такіх валасатых, як ты, у нашай брыгадзе дасюль не было. Бачыў, якія ў нас хлопцы? А ты аброс, як звер.

— Дык яно, братка Іван...

— Грошай няма? Ну, вядома, які быў твой заробак на падсобных, толькі на харчы. Я табе дам пяцёрку, сходзіш у цырульню. Ведаеш, дзе яна?

— Ведаю.

Свіршчоў дастаў з бумажніка пяць рублёў і працягнуў іх Паўлу.

— Братка Іван... — сказаў Павел, і сэрца яго сціснулася.— У мяне ёсць. На галенне знайду...

Ён здзівіўся, што Свіршчоў думае, нібы ў яго няма грошай. Каб ён ведаў...

— Не толькі на галенне. Падстрыжэшся таксама і сходзіш у лазню. Пяцёркі на ўсё хопіць. Калі няма, то бяры.

— Ёсць, братка Іван... Дзякую.

— Глядзі, каб заўтра прыйшоў на работу без гэтых кудлаў.

— Добра, братка...

— Цяпер адзенне на табе... Ты от сёння паслізнуўся, а ведаеш чаму? Праз свае чаравікі. Каб ты быў у валёнках, то не паслізнуўся б. Гэта яшчэ добра, што ты спатыкнуўся без лёжкі ў руках. А то ўяві: трымаеш ты бервяно, раптам нага твая паслізнулася. Ты паляцеў, і бервяно паляцела. Куды? Ды на цябе ж. А каля цябе рабочыя, і на іх... Цяпер — шапка. Ударыць мароз, дык ты без вушэй застанешся. Гэта ж табе не на кані ехаць, ручнікам галаву абматаўшы. Я пагутару з начальнікам, каб выдалі табе авансам валёнкі і шапку.

— Братачка Іван!.. Мо як да палучкі дацягну,— узмаліўся Павел.— Тады ж мне на рукі нічога не застанецца.

— Застанецца! Гэта табе не падсобныя работы. Ты дзе жывеш? Усё ў дзяжурцы?

Павел кіўнуў.

— Глупства, які там адпачынак. Сёння скажу загадчыку гаспадаркі, каб арганізаваў табе ложак. Ты і пасцелі не атрымаў?

— Не.

— Трэба атрымаць. Запамятай, Павел, што ў нас рабочы — першы чалавек у дзяржаве. Яму даюцца ўсе ўмовы і правы. Ён павінен не толькі працаваць, але і жыць як чалавек... А на табе гарнітур... Ну, гэта мы зробім пасля палучкі.

Прыйшоўшы ў сваю дзяжурку, Дубовік адчуў, што жыццё яго зламалася. Ён выцягнуў з-за пазухі свой кашалёк і пералічыў грошы. Было іх болей двух тысяч. Ён уздыхнуў. У свядомасць яго яшчэ не прыйшла думка, што гэтыя грошы — вынік яго нечалавечага жыцця, але нешта падобнае з'явілася ў галаве. Тым болей было шкада гэтых грошай. Ён уздыхнуў яшчэ раз, аднак выцягнуў з пачка адну пяцёрку і палажыў у верхнюю кішэню. Ці выматае Свіршчоў яго душу, ці не, гэта было яшчэ невядома, але грошы то выматае. Валёнкі, шапка... А тады новая ватоўка, штаны...

Але есці хацелася. Ён дастаў з палічкі паўтаракілаграмовую буханку хлеба і з'еў яе ўсю, нават без цукерак, толькі запіваючы вадой. Тады пайшоў у склад па рукавіцы і выбраў, на яго думку, самыя лепшыя. Адтуль пайшоў у цырульню і каля гадзіны сядзеў у крэсле, пакуль яго стрыглі і галілі. Сядзець было нічога, прыемна. З цырульні — хочаш не хочаш — прыйшлося ісці ў лазню.

Назаўтра ён крыху адстаў ад брыгады, бо пасля лазні вельмі спалася, і прыйшоў на склад, калі ўсе былі ў зборы. Начная змена пайшла на адпачынак, але работа яшчэ не пачалася, бо машын не было.

Калі ён спыніўся ля эстакады, Доўнар зірнуў на яго і ўхапіўся за жывот.

— Не магу, хлопцы... памру або лопну,— стагнаў ён, заліваючыся смехам.— Я ж яго не пазнаў... От апрацавалі чалавека... Ратуйце, людзі! А анучы з чаравікаў... усё роўна... тырчаць.

Павел стаяў, нялоўка паварочваючыся на месцы, круглатвары, як поўны месяц.

## 4

Праз некалькі дзён Дубовік перасяліўся ў барак. Перш чым перайсці туды, ён зноў дастаў запаветны кашалёк. Доўга лічыў і перакладваў грошы, стагнаў і ўздыхаў. У гэты час у ім змагаліся два пачуцці, два жаданні. Ён то адлічваў ад агульнай сумы частку грошай, то хаваў назад, потым зноў адлічваў. Нарэшце адважыўся. Не лічачы, узяў пачку дзесятак і пайшоў у магазін.

Тут ён доўга стаяў каля прылаўка, аж датуль, пакуль з магазіна не выйшлі ўсе людзі.

— А табе што? — не вельмі прыветна спытаў яго прадавец.

— Мне? Шапку і... валёнкі.

— Якога табе памеру?

— А я, братка, не ведаю.

— Ну дык мерай, якія падыдуць.

Цэлую гадзіну выбіраў і прымяраў Дубовік шапку і валёнкі, пакуль нарэшце знайшоў па сабе.

Калі адлічыў грошы, у яго забалела сэрца. Хацеў нешта сказаць, але махнуў у роспачы рукой, уздыхнуў і выйшаў з магазіна. Ён трымаў пад рукой валёнкі, а ў руках шапку і не ведаў — бяднейшы ён стаў ці багацейшы.

Раніцай, збіраючыся на працу, ён думаў, як будзе смяяцца з яго Хвёдар. Але гэтага не адбылося. Доўнар, безумоўна, не мог не звярнуць на яго ўвагі. Ён доўга аглядаў яго, як нейкае дзіва, нібы не верыў, што перад ім сапраўды Павел Дубовік. Нарэшце сказаў:

— Ну зірні, Іван! Бачыш ты такое мурло! Ды каб на яго, чорта, надзець добры касцюм, быў бы зусім малады.

— Відны мужчына,— адказаў Свіршчоў.

Усталявалася пагода, і вывазка лесу пайшла поўным ходам. Месяц падыходзіў да канца. У пачатку яго праз снегапады і завеі парушыўся графік вывазкі. Цяпер ён не толькі ўстанавіўся. Былі ўсе магчымасці перавыканаць план. Пагрузчыкі стараліся, як маглі, каб не быць апошнімі. У значнай меры ад іх працы залежала перавыкананне плана.

Павел Дубовік памалу ўваходзіў у брыгаду як раўнапраўны яе член, і хоць у яго не было таго спрыту, як у іншых пагрузчыкаў, але была сіла, якая замяняла спрыт. За той канец бервяна, які падымаў ён, заўсёды можна было паручыцца.

У дальняй дзялянцы адкрываўся новы лясны склад. Трэба было прадоўжыць да яго аўтатрасу. Пакуль ішло ўтоптванне снегу, Доўнар паслаў туды частку свае брыгады падрыхтаваць эстакаду для пагрузкі лесу.

Тым пагрузчыкам, якія засталіся, а іх было толькі чацвёра, у тым ліку і Дубовік, хапала работы. Прыходзілася працаваць без перадышкі.

Павел Дубовік пачаў цяпер адчуваць, што ён у брыгадзе не абы-якая асоба. Без яго ні адно бервяно не падымалася на машыну. Яму іншы раз нават хацелася прыкрыкнуць на Доўнара, калі ў таго здаралася замінка. Але ён сабе гэтага не дазваляў і толькі зларадна ўсміхаўся. «Ага,— думаў ён,— крычаць любіш, а сам то не вельмі...» Неўгамонны Доўнар у час кароткіх перапынкаў, калі яны здараліся, не адпачываў. Ён стараўся падкаціць па эстакадзе да трасы як мага больш бярвенняў, бо гэта паскорвала пагрузку. Яго напарнікам у гэтай рабоце быў Дубовік. І вось папалася такая тоўстая камлістая сасна, што Хвёдар, як ні напінаўся, не мог скрануць яе з месца. Яна нібы прыстыла да лёжняў. Павел стаяў і раўнадушна наглядаў, як напінаецца Хвёдар. У яго на-

ват не з'явілася думкі, што трэба дапамагчы таварышу. Наадварот, ён быў бы незадаволены, каб Хвёдару ўдалося скрануць камель з месца. Патраціўшы дарма шмат намаганняў, Хвёдар нарэшце разагнуўся і, сашчапіўшы кулакі, наляцеў на Дубовіка.

— Стаіш! — крыкнуў ён.— Ты... Ты... «Падсобныя работы»...

Ён ужо гатовы быў учапіцца ў Дубовіка, як каршун. Той стаяў крыху перапалоханы і лыпаў вачыма, нібы не разумеў, у чым справа.

У гэты момант падышоў Свіршчоў, які працаваў на другім штабелі, бачыў усю гісторыю і з цікавасцю наглядаў, чым яна скончыцца. Ён адвёў Доўнара ўбок. Той усё яшчэ рваўся і крычаў тонкім голасам.

— А што? Абчасаў ты яго? Абчасаў? — крычаў ён.— Аднаасобнік, кулак! Пусці, Іван, я яму па зубах дам.

— Не крычы, Хвёдар, дай пагаварыць мне.

Ён павярнуўся да Дубовіка:

— Ты чаму, Павел, не дапамог Хвёдару адвярнуць камель? Няўжо табе... цяжка?

— Дык, братка... — разгублена адказаў Дубовік.— Я ж таго... сам варочаю... А гэта ж не з майго боку...

— Не з твайго боку? — ускіпеў Свіршчоў.— Не з твайго боку, дык і дапамагчы не трэба? — ён здзіўлена паглядзеў на Дубовіка.— Ну, гэта мне незразумела. А ты бачыў, як заўсёды імчыцца Хвёдар на дапамогу нам, каб падняць наш канец бервяна, калі яны свой ужо ўскінуць на прычэп?

— Бачыў...

— Значыць, ты думаў, што Хвёдар дурны?

— Дык гэта ж на машыну.

— Якая розніца? А што, калі б ты не мог скрануць свайго канца! Думаеш, Хвёдар стаяў бы так, як ты? Ды ў яго б цярпення не хапіла. Ён, можа, па прывычцы аблаяў бы цябе, але дапамог бы.

Дубовік панура маўчаў.

— Можа ў Хвёдара толькі на адзін кілаграм не хапіла сілы, каб скрануць гэты камель. Няважна, дапамог бы ты яму ці не дапамог, абы ты падышоў да яго, каб ён адчуў поруч твой локаць. От у чым справа. Тады б у яго самога прыбавілася сілы на гэты кілаграм.

Дубовік маўчаў, але ў яго свядомасць паволі ўваходзіла разуменне, што мала таго, любіць ён ці не любіць

чалавека. У агульнай справе гэта нават глупства. На рабоце існуе адно: цесная працоўная згуртаванасць, узаемная дапамога. Адчуванне локця таварыша, вось што дапамагае зрабіць тое, што іншы раз здаецца немагчымым. Аднак ён яшчэ не разумеў, што адсюль і пачынаюцца сяброўства і дружба, павага і нават самаахвяраванне.

— Глядзі, Дубовік.

Гэтыя словы Свіршчова ён успрыняў як пагрозу. Ён ведаў, што калі ад яго адступіцца Свіршчоў, месца яму ў брыгадзе не будзе. І не тое, каб ён надта шкадаваў гэтае месца. Ён яшчэ не ведаў, якую мае выгаду, працуючы на пагрузцы. Можа, ніякай. Але вяртацца назад на падсобныя работы ўжо не хацелася. Ён адчуваў, што каб яго цяпер прымусілі спаць, уваткнуўшы галаву ў лямец сядзёлкі, то ён бы не заснуў. Наўрад і павячэраў бы хлебам з вадой...

Прыемна было зайсці ў барак, у свой пакой, дзе стаялі чатыры жалезныя ложкі, акуратна прыбраныя, з бялюткімі просцінамі. Стол быў пакрыты новай цыратай. Ля ложка стаяла блакітная тумбачка, а на ёй графін з вадой і шклянкі. Усё гэта заліта яркім электрычным святлом, усё блішчыць і ззяе, як малады сняжок на полі пад ясным сонцам.

Не ведаў Свіршчоў, якія выдаткі зрабіў Дубовік. Калі Павел зірнуў на белую чыстую пасцель, то адразу ўспомніў, што ўжо каля месяца не мяняў сваю зрэбную бялізну, і сэрца яго тужліва затрапятала. Як легчы на такую чыстату ў сваёй чорнай бялізне! І ён перамог сябе — купіў дзве пары новай бялізны. Ён ледзь не плакаў, аддаючы за яе грошы... Але калі ён надзеў усё чыстае і лёг на мяккі ложак, на сэрцы яго стала спакойна і лёгка. Ён нават пачаў ганарыцца сабой.

Цяпер ён думаў: зрабіць яшчэ адно выдаткаванне ці не? Яму падабаўся адзін ватны касцюм у магазіне: фуфайка і штаны прыгожага цёмна-сіняга колеру. Кожны вечар ён стаяў у магазіне і пільнаваў, купіць іх хто-небудзь ці не. Рука яго заўсёды трымалася за кашалёк. Калі нехта з пакупнікоў прасіў прадаўца паказаць касцюм, Павел пільна сачыў за яго рухамі. І калі б той узяў у рукі аблюбаваную ім фуфайку або штаны, Павел бы не вытрымаў. Ён бы адразу выняў грошы і крыкнуў: «Бяру я!» Але ніхто не купляў гэтай пары, нібы ўсім было вядома, што яе належыць купіць толькі Паўлу Ду-

бовіку. І ён так прывык да гэтай думкі, што касцюм ужо лічыў сваім. «Мой цэлы»,— радасна думаў ён кожны раз, калі заходзіў у магазін.

У той вечар Дубовік, верны сваёй прывычцы, таксама з'явіўся ў магазін. Ён адразу зірнуў на тую полку, дзе ляжаў «яго» касцюм, і твар яго хваравіта скрывіўся. Паліца была пустая. Павел абшукаў вачыма ўсе паліцы, мяркуючы, што прадавец пералажыў касцюм у другое месца. Але касцюма нідзе не было. «Нехта перахапіў...» — з вялікім жалем падумаў ён. Цяпер ён адчуваў сябе так, нібы яго абакралі. Заставацца болей у магазіне не было ніякага жадання, і ён падаўся дадому. На дварэ ён уздыхнуў, але ад гэтага не стала лягчэй. У бараку, кладучыся спаць, ён з нянавісцю зірнуў на сваю зашмальцаваную фуфайку і галіфэ.

...Павел з асалодаю адпачываў. Была нядзеля, і ён з раніцы ляжаў на ложку. На душы ў яго было хораша і радасна. Учора позна ўвечары ён атрымаў разлік за месяц свае работы на пагрузцы. Павел не прымушаў касіра пералічваць свой заробак, але ніяк не мог паверыць, што атрымаў за гэты месяц у тры разы болей, чым атрымліваў на падсобных. Яму хацелася смяяцца і спяваць, і такое замілаванне агарнула яго сэрца, што ён гатовы быў усіх абняць і сказаць нешта прыемнае і ласкавае. Нават Доўнар, які атрымліваў разлік, глядзеў на яго сёння ветліва. Паўлу здалося, што ён па-сяброўску ўсміхнуўся яму, займаючы месца каля касіра.

Павел паклаў грошы ў кішэню, і думка аб тым, што за адзін месяц ён кампенсаваў з лішкам усе свае выдаткі, сагрэла яго, як цёплы прамень. Яму хацелася зрабіць нешта такое, чаго ён ніколі дасюль не дазваляў сабе.

Сярод рабочых ён адшукаў вачыма Свіршчова Івана і сеў на лаўцы недалёка ад дзвярэй. Калі Доўнар, атрымаўшы разлік, накіраваўся да выхада з канторы, Павел адважыўся затрымаць яго.

— Братка Хвёдар...— сказаў ён.— Пачакай крыху.

— Чаго? — здзіўлена запытаў Доўнар.

— Ды нічога, братка... Але вунь жа Свіршчоў атрымлівае... то, можа, пачакалі б яго.

Доўнар сеў на лаўку поруч з ім, выняў папяросы і прапанаваў:

— Закурым, Дубовік.

Павел устрапянуўся. З такой прапановай Хвёдар звярнуўся да яго ўпершыню.

— Яно, братка, таго... Я гэтым не займаюся... Але давай адну сапсую табе...

Ён закурыў першы раз у жыцці, няўмела пускаў дым і не верыў, што каля яго сядзіць Доўнар.

Настрой у Паўла быў надзвычай узнёслы. Ісці ў барак адпачываць не было ніякага жадання. Цягнула ў людзі, і ён зноў успомніў сваю фуфайку і штаны.

У гэты час грошы атрымаў і Свіршчоў.

— Ну як, хлопцы? — запытаў ён, падышоўшы да іх.— У клуб не сходзім?

— Братка Іван,— звярнуўся да яго Дубовік.— Мо б мы схадзілі туды... у сталоўку. Там бы па келіху піва, ці што...

— Чаму ж не схадзіць? З палучкі можна,— адразу згадзіўся Іван.

У сталоўцы яны выпілі па чарцы гарэлкі і па келіху піва. Расчырванелы Павел прызнаўся таварышам у сваім няшчасці з ватным касцюмам цёмна-сіняга колеру.

— І от, браткі,— гаварыў ён,— няма цяпер у лаўцы ні фуфаек, ні штаноў, а мне няма ў чым у людзі выйсці... Бо я, браткі, от так праз усё жыццё... А цяпер мяне, браткі, цягне ў гурт. Бо і на працы мы ўсе гуртам... і прывык я...

— Гэта не вялікае няшчасце, Павел,— адказаў яму Свіршчоў, пераглянуўшыся з Доўнарам.— Сёння няма, заўтра будуць. Над гэтым не варта і галаву ламаць.

Усю гэтую гутарку ўспамінаў цяпер Дубовік, лежачы ў ложку. І да таго прыемнымі былі гэтыя ўспаміны, што ён увесь час вяртаўся да іх. І не тое было важна, што Свіршчоў і Доўнар сядзелі з ім за сталом, як з роўным. Гэта было не так важна. Важна было тое, што Дубовік пачаў паважаць сам сябе. Ад мінулага засталіся як спадчына толькі вось гэтая фуфайка і галіфэ. Але хутка ён адкаснецца і ад такой спадчыны.

На сцяне тахкалі ходзікі. Яны раўнамерна адлічвалі час, які сёння цягнуўся вельмі памалу. Мо таму, што дасюль Павел ніколі не лічыў яго. Справа ў тым, што ў першай гадзіне дня ў клубе павінен адбыцца сход і яго прасілі абавязкова прыйсці. Слова «абавязкова» для Дубовіка цяпер многа значыла. Калі абавязкова, то хочаш ці не хочаш, а прыйсці павінен.

І ён пачаў збірацца. Ён не надта спяшаўся і з'явіўся ў клуб, калі там ужо было поўна людзей. Па прывычцы быць ззаду, ён пачаў шукаць сабе месца ў задніх радах, але яго паклікаў Свіршчоў. Павел неахвотна пайшоў да сцэны і сеў каля Івана на пярэдняй лаўцы. Цяпер ён разгледзеўся. На сцэне ў прэзідыуме сядзелі начальнік, парторг, Галавач Алена, Доўнар і яшчэ некалькі рабочых.

Павел не ўслухоўваўся ў прамову начальніка, які гаварыў аб перавыкананні месячнага плана, хваліў многіх лесарубаў, тралёўшчыкаў, пагрузчыкаў, шафёраў. Павел па складу сваёй натуры не любіў сходаў і заўсёды лічыў, што калі начальству захочацца, то яно збірае сход і пачынае адных хваліць, другіх ганіць. Павел працаваў на лесаўчастку, але яго ніколі ніхто не хваліў. Звычайна пра Дубовіка не ўспаміналі. Ён толькі тады ўслухаўся ў прамову, калі ўпамянулі брыгаду Доўнара. Брыгаду пахвалілі, паставілі ў прыклад іншым, але і гэта па-сапраўднаму не кранула Паўла. Доўнараву брыгаду хвалілі і раней, яна была занесена на дошку Гонару. Аднак на Дошцы не быў запісаны Дубовік Павел, таму ён быў упэўнены, што пахвальба гэта адносіцца не да яго. Яна адносіцца да Доўнара, Свіршчова, да іншых рабочых.

Потым ён зноў паглыбіўся ў свае дмукі і ачнуўся ад іх, калі пачалося прэміраванне лепшых рабочых. Ён любіў наглядаць, як гэта адбываецца, але вялікай цікаўнасці і тут для яго не было.

Па-сапраўднаму ён прыйшоў у сябе толькі тады, калі выступіў Кавалеўскі і адзначыў, што рабочы Дубовік, які толькі месяц яшчэ працуе на пагрузцы, зарэкамендаваў сябе за гэты кароткі час як сумленны работнік, і таму не адзначыць яго проста немагчыма.

— Павел Канстанцінавіч! — сказаў парторг.— Атрымайце прэмію.

Дубовік не кранаўся з месца. Ён не разумеў, у чым справа. «Ну што ж, адзначылі, і добра»,— думаў ён, але ніяк не хацеў паверыць, што прэміруюць іменна яго. «Павел Канстанцінавіч». Няўжо гэты сур'ёзны, разумны чалавек, парторг, так назваў яго, Паўла Дубовіка!..

— Павел, дык што ж ты! — штурхнуў яго Свіршчоў.

Павел устаў і пайшоў на сцэну з тым непрыемным адчуваннем, якое заўсёды з'яўляецца ў чалавека, калі на

яго з цікаўнасцю глядзіць не адна пара вачэй. Аднак калі ён узышоў на сцэну, адчуванне гэта знікла. Яму паціс履нулі руку ўсе члены прэзідыума. Мацней другіх паціснуў яе Кавалеўскі. Пацiснуў і страсянуў, патрымаў у сваёй, нібы гэтым хацеў падбадзёрыць Паўла. Алена Галавач дала яму вялікі скрутак, загорнуты ў газеты. Ён узяў яго ў рукі і, не разгортваючы, панёс на сваё месца. Ён ведаў, што ўсім цікава паглядзець, чым жа яго прэміравалі. Яму і самому хацелася ведаць, што яму далі, але ён разгарнуў газеты толькі тады, калі Свіршчоў сказаў яму:

— Пакажы, Павел, сваю прэмію.

У газеты быў загорнуты «яго» цёмна-сіні ватны касцюм: фуфайка і штаны.

5

Надышла вясна, і на лесапункце пачалася самая гарачая пара: сплаў лесу. Гэты апошні этап лесанарыхтоўчай работы лічыўся самым адказным. Да яго пачалі рыхтавацца яшчэ зімой. Важна было ўсю нарыхтаваную драўніну адправіць на месцы прызначэння — шматлікім прадпрыемствам і будаўніцтвам, дзе яе з нецярпеннем чакалі. Праца была адказная яшчэ і таму, што правесці яе неабходна было ў самы кароткі тэрмін. Янеўка — невялікая рака. Увесь лес, які быў падвезены да яе берагоў, яна магла вынесці да Віллі толькі вясной, у час паўнаводдзя.

Як толькі крануўся лёд, пачалося скочванне бярвенняў у раку. Гэта работа цягнулася кругласутачна.

Для правядзення сплаву ўся рака была падзелена на ўчасткі — пікеты. Кожны пікет займаў адлегласць ад трох да пяці кіламетраў, у залежнасці ад профіля ракі.

На Янеўцы не сплычвалі бярвенняў, лес тут ішоў па адным бервяну, бо нават у час паўнаводдзя не магла Янеўка выносіць плыты да Віллі.

На кожны пікет ставілася брыгада рабочых. Увесь лес, які ішоў з вярхоўяў ракі, трэба было прапусціць так, каб ні адно бервяно не засталося на беразе і каб не ўтваралася затораў. Заторы на Янеўцы былі бедствам. Невялікая рака, вузкая і мелкая, яна мела шмат перакатаў і крутых паваротаў. Варта было аднаму бервяну ўперціся ў бераг, як за яго чапляліся іншыя, і праз га-

дзіну лес перагароджваў раку і ўтвараў плаціну ад берага да берага, усцілаючы рэчышча да самага дна.

Пікет Доўнаравай брыгады быў самы адказны. Ён займаў чатыры кіламетры ракі і прымыкаў да яе вусця. Праз гэты пікет праходзіў увесь лес, які нарыхтоўваўся па абодвух берагах Янеўкі.

Перад самым пачаткам сплаву парторг Кавалеўскі наведаў Доўнара.

— Ну як, Хвёдар Антонавіч, на твой пікет падмацавання не трэба? — запытаў ён.

— Спраўлюся са сваёй брыгадай, Кузьма Іванавіч.

— Як Дубовік? Падганяць пугай не трэба?

Доўнар засмяяўся.

— Не, Кузьма Іванавіч. На хаду ён ужо не спіць. Абчасаў яго Свіршчоў.

— Свіршчоў, а не ты?

— Не, Кузьма Іванавіч, не я. Я і цяпер яму не надта веру. Не люблю панурых людзей. Чорт яго ведае, аб чым ён думае.

— Глядзі, Хвёдар Антонавіч! За пікет і за брыгаду адказваеш ты, а не Свіршчоў. Гэта не пагрузка, а сплаў. Там вы заўсёды працавалі разам, і Дубовік быў на вашых вачах. А цяпер вам у большасці прыйдзецца працаваць па адным.

— Гэта я разумею, Кузьма Іванавіч. Вачэй я з Дубовіка не спушчу...

— Будзеш наглядаць за Дубовікам і прагледзіш сплаў.

— Гэтага не будзе, — цвёрда адказаў Доўнар.

— Добра. У выпадку аварыйнага становішча паведамляй. Твой пікет самы далёкі, аднак сувязь з намі трымаць неабходна. Ва ўсякім разе, нам спаць у шапку таксама не прыйдзецца.

Пасля гэтай гутаркі Доўнар пайшоў да Дубовіка і сурова папярэдзіў яго:

—Глядзі, Дубовік! Я за цябе і за пікет галавой адказваю. Ты ведаеш, што такое сплаў? Можа, нам па цэлых сутках спаць не давядзецца. Трэба ўвесь час быць на рацэ. Калі дзе заўважыш, што пачынаецца затор — раскідай. Не можаш сам, кліч усіх.

Так ён доўга растлумачваў Паўлу яго абавязкі, нарэшце прыгразіў і пайшоў заспакоены. Ён быў упэўнены, што Дубовік зразумеў усё.

Была цёплая вясновая раніца. Над ракой курыўся празрысты туман. Кусты вербалозу, што густа раслі пры самай вадзе, былі абсыпаны жоўтымі пушыстымі каткамі. Ад іх ліўся прыемны веснавы пах.

На беразе ракі, на невысокім грудку, у засені стаяла маленькая дашчаная хацінка рабочых-сплаўшчыкаў Доўнаравага пікета. Тут яны складвалі свае рэчы, торбы з харчамі, тут і адпачывалі, калі знаходзіўся такі час. Адпачывалі не ўсе, а па чарзе, частка брыгады заўсёды была на рацэ, сачыла за ходам лесу. А лес ішоў. Плылі магутныя ствалы сосен і ялін, ліп і бяроз. Плылі па адным і па два, гуртамі па некалькі дзесяткаў, у некаторых месцах плылі густа па ўсёй рацэ, сутыкаючыся адзін з адным.

Можна гадзінамі стаяць і наглядаць, як плыве лес. Ад яго руху навокал стаіць нейкі своеасаблівы шум. Нібы дзіўныя жывыя істоты, плывуць бярвенні адно за адным, зыходзяцца і разыходзяцца, збіваюцца ў кучы, чапляюцца за прыбярэжныя кусты.

Тоўстыя стрыжнёвыя камлі тонуць да палавіны свае таўшчыні і высока тырчаць над вадой. Убіўшы ў такі ствол багор, можна стаяць на бервяне і плыць. Затое абалоністыя верхавіны амаль не відны з вады, тырчаць уперадзе толькі іх канцы.

Калі Свіршчоў ускочыў у хаціну з багром у руках, Доўнар яшчэ спаў.

— Затор на дваццатым кіламетры! — крыкнуў Іван. — Уставайце, хлопцы!

Доўнар мігам ускочыў з нараў.

— Дзе затор? — трывожна перапытаў ён.

— На дваццатым.

— Аварыя! — гукнуў Хвёдар. — Жыва, хлопцы!

Тры сплаўшчыкі, якія адпачывалі разам з Хвёдарам, адразу падняліся.

— А Дубовік там? — запытаў Хвёдар.

— А хіба ён не тут? — здзівіўся Іван.

— Ён павінен быць там! — крыкнуў Хвёдар. — Я яму даручыў дваццаты!..

— Усе там, акрамя Дубовіка. Я думаў, што ён на адпачынку. Я іду з дваццаць другога кіламетра. Заўважыў, што на рацэ не стала лесу. Я амаль бег да дваццатага, адчуваў, што ўся бяда там, на той купіне, што

пасярод ракі. Так яно і аказалася... Склікаў туды ўсіх, хлопцы ўжо працуюць... А Дубовіка на рацэ няма...

— Мабыць, спіць у кустах, сукін сын... Хутчэй, хлопцы! — загадаў Хвёдар.

Калі Доўнар выйшаў з хаціны і завярнуў убок, каб забраць свой багор, што вісеў на чаромхавым кусце, то ад нечаканасці спыніўся. За кустом тырчалі ногі Дубовіка ў керзавых ботах. Толькі адно імгненне стаяў Хвёдар нерухома. Ён нагой штурхануў Дубовіка, той хутка прадраў вочы і сеў.

— Затор на дваццатым! — крыкнуў яму Хвёдар. — Дзе ты быў, абібок?

Дубовік стаў на ногі.

— Там, дзе і ты...— глуха адказаў ён.— Табе дык можна...

Але ён не закончыў.

— Што ты сказаў! — крыкнуў Хвёдар. —Што ты сказаў, «Падсобныя работы»!

Сашчапіўшы рукі ў кулакі, ён кінуўся на Дубовіка, але не паспеў дакрануцца да яго, як паляцеў назад ад моцнага штуршка ў грудзі. Гэта яго канчаткова ашаламіла. Ён здзіўлена зірнуў на хлопцаў і запытаў:

— Бачылі? Ну, абчасаў ты яго, Іван?

У гэты момант здавалася, што ўся яго злосць выпарылася, засталіся адно недаўменне і здзіўленне.

— Бачылі, Хвёдар, — адказаў Свіршчоў.— Хадзем хутчэй.

Ён зняў з чаромхі Доўнараў багор, падаў яго Хвёдару, і ўсе пяцёра, нават не азірнуўшыся, хуткай хадою рушылі ў бок дваццатага кіламетра.

Застаўшыся адзін, Дубовік не адразу зразумеў, што адбылося. Ён спачатку хацеў падрыхтаваць сабе снеданне і ўжо накіраваўся ў кусты, каб прынесці сухога ламачча для кастра, але невыразная, трывожная думка спыніла яго на паўдарозе. Яшчэ не разумеючы, што трэба рабіць, ён вярнуўся назад, узяў багор і паволі пайшоў на раку. «Прывык... — думаў ён пра Доўнара. — Абы што, дык з кулакамі... От, як правучыў, то будзе ведаць».

Вада ў рацэ паднялася і пачала выходзіць з берагоў. Па ёй густа ішло бярвенне. У нізкіх месцах яно стукала верхавінамі ў берагі, закручвалася і, як прывязанае, спынялася. «Такі заторышча,— з жахам падумаў Павел,— аж ваду ў рацэ запрудзіла...» Яму стала гора-

ча. Думка, што гэта праз яго ўтварыўся такі затор, на імгненне ўкалола яго сэрца. Ён ускінуў на плячо багор і колькі было сілы пабег на дваццаты. Ён ведаў, што там патрэбна яго дапамога. Яшчэ не дабегшы, ён пачуў песню сплаўшчыкаў:

Гэй, раз! яшчэ бярэм!
Малойчыкі, яшчэ бярэм!

Чым бліжэй падыходзіў ён, тым мацнела песня і рвала яго сэрца. Ён, не спыняючыся, па бярвенні ўзляцеў на затор і адразу стукнуў сваім багром у бервяно каля багра Івана Свіршчова.

Свіршчоў разагнуўся.

— Вось што, Дубовік, ідзі сваёй дарогай. Мы разбяром затор без цябе.

— Дык як жа, братка Іван...

— А вось так: ідзі сваёй дарогай... Сплаў яшчэ толькі пачаўся, і ўжо, бачыш, што праз цябе робіцца. Ідзі, Дубовік.

Разгублена абвёў Павел вачыма сваю брыгаду, але ніхто не ўзняў галавы, не зірнуў на яго. Нават Хвёдар не павярнуўся ў яго бок.

Ён узяў багор і пайшоў.

Перш за ўсё трэба было забраць сваю торбу. Цяпер ён зразумеў, што з брыгады яго выгналі назаўсёды...

Ён зняў торбу з цвіка і выйшаў.

Вяртацца назад на лесаўчастак ён ужо не мог. Ён закінуў торбу на плечы і стаў ля парога, не ведаючы, куды накіравацца. У гэты час па сцежцы, што ішла берагам, хутка праехаў коннік. Дубовік пазнаў яго: гэта быў парторг Кавалеўскі. Мабыць, там, у вярхоўях ракі, адкуль ішоў лес, зразумелі, што недзе тут утварыўся затор і падняў ваду ў рацэ. Халодны пот выступіў на яго лбе. Толькі цяпер, у гэтую хвіліну, ён зразумеў, якое вялікае злачынства зрабіў. Гэта праз яго па ўсёй рацэ паднялася трывога. Каб ён прадбачыў такое няшчасце, то хіба кінуў бы свой пост на дваццатым! Ён амаль усю ноч хадзіў па беразе, але тады нічога дрэннага не было. Лес плыў і плыў без канца. Толькі на світанні вярнуўся ён з дваццатага, каб крыху адпачыць. Але ён нават не зайшоў у хаціну, думаў падрамаць крыху на дварэ...

Аднак куды ж ісці? Прасіцца, каб прынялі ў брыгаду? Можа, каб там не было Кавалеўскага, то Дубовік так бы

і зрабіў. Свае ж хлопцы, няўжо ж бы яны не даравалі яму...

Ён паволі крочыў уніз па плыні ракі. Думак у галаве не было, з'яўляліся толькі недарэчныя абрыўкі, накшталт таго, што работы цяпер усюды хапае, што такі дужы чалавек, як ён, нідзе не загіне, што невялікае шчасце на сплаве...

Ён зноў пачуў галасы сваёй брыгады. Па сцежцы, назад ад затора, галопам імчаўся Кавалеўскі, Дубовік зразумеў: па людзей. Значыць, там бяда. Сэрца яго заныла так, што хацелася праваліцца скрозь зямлю. Не мілы стаў белы свет.

Ён глыбока зайшоў у кусты, каб не паказацца на вочы сваёй брыгадзе і выйшаў зноў на сцежку толькі тады, калі затор схаваўся за паваротам ракі.

Сонца да гэтага часу паднялося і пачало прыграваць. Цяжка было ісці з торбай за плячыма. Замінаў багор, які Павел нёс у руках. Ведаў, што не патрэбен яму багор, але кінуць не мог. Падумаў, што на Віллі знойдзе сабе работу...

Ніжэй затора па рацэ мала ішло лесу. Рэдка плылі толькі асобныя бярвенні. «Не вельмі паддаецца затор»,— падумаў Дубовік, але гэта не прынесла ні радасці, ні задавальнення.

Ён паволі крочыў па сцежцы, ледзь перастаўляючы ногі, сваёй звычайнай качынай хадою і паглядаў на раку. Вось праплыло каля дзесятка бярвенняў, кучкай, нібы звязаныя. Вось яшчэ кучка. Потым зноў плылі па адным і па два. Потым пайшлі густа, па ўсёй рацэ. Дубовік ужо не глядзеў на іх.

Адно жаданне мучыла яго, але адважыцца, каб выканаць гэтае жаданне, у яго не хапала волі. Назад, туды, у сваю брыгаду...

Калі ён выйшаў на дваццаць трэці кіламетр, да вусця Янеўкі заставалася не больш, як кіламетры тры. Тут ён рашыў спыніцца, паснедаць і абдумаць становішча, але зірнуў на раку і аслупянеў. «Затор!» — ледзь не крыкнуў ён.

Тут і сапраўды быў затор. Яшчэ невялікі, не такі, як на дваццатым, але пройдзе гадзіна, і што будзе! Сціснутая між гор рака тут была вузкая і крута паварочвала ўбок.

Спачатку нейкая злосная радасць ахапіла Дубовіка. «Ага, — падумаў ён, — вы разумныя! Мяне прагналі, а пакуль ірвеце затор на дваццатым, то на дваццаць трэцім зробіцца большы!»

Ён некалькі хвілін стаяў і наглядаў, як бярвенні адно за адным падплываюць да затора, далучаюцца да яго, узлазяць, як жывыя, пад націскам плыні адно на адно, кладуцца ўдоўж і ўпоперак ракі, становяцца старчма, як слупы... Затор рос на яго вачах...

Рашучым рухам ён скінуў з плячэй торбу, зняў фуфайку і, з багром у руках, ускочыў на затор. Бярвенні, што ляжалі ля берага, загойдаліся пад яго нагамі. Ён скочыў уперад, там яны ляжалі шчыльней, і цюкнуў багром у першае бервяно.

Гэй, раз! яшчэ бярэм!
Малойчыкі, яшчэ бярэм!

Ён спяваў. Яму здавалася, што адтуль, з дваццатага кіламетра, Доўнарава брыгада пераклікаецца з ім. Адтуль густа ішоў лес.

«Ірвуць хлопцы затор!» — радасна думаў ён, адрываючы ад свайго затора бервяно за бервяном.

Гэй, раз! яшчэ бярэм!
Малойчыкі, яшчэ бярэм!

Кашуля яго даўно ляжала на беразе, шапка ўпала з галавы і паплыла разам з лесам у Віллю. Ад магутнага яго цела ішла пара, стомы ён не адчуваў. Бервяно за бервяном адрываў ён ад затора і з радасцю бачыў, што затор становіцца меншы, што бярвенні ляжаць не так шчыльна, што выцягваць іх лягчэй.

Так і застала яго Доўнарава брыгада на заторы, на дваццаць трэцім кіламетры.

*1954*

# АНЭЛЯ

## 1

На двух гектарах зямлі не многа збярэш пасагу для трох дачок, аднак стары Бацян умудрыўся выдаць двух старэйшых і без пасагу. Праўда, пайшлі яны з бацькоўскай хаты не ў божы рай, а ў далёкія панскія маёнткі, дзе іх мужы працавалі парабкамі.

Пасля двух вяселляў убачыў стары Бацян, што гаспадарка яго трымаецца, як кажуць, на валаску і, каб крышку ўзняць яе, кінуўся шукаць заробкаў. Пасля доўгіх пошукаў наняўся плытагонам на Віллю і даплыў да самай Клайпеды. Нялёгкая гэта была работа для старога чалавека, і Бацян вярнуўся дадому з пакалечаным здароўем. Некаторы час ён яшчэ трымаўся на нагах, падбадзёрваў сябе тым, што хутка ачуняе, ды ўсё ж злёг і болей не падняўся. Быў канец лета. Наступаў час сеяць жыта, а работніка ў хаце не было. Старога Бацяна акрамя хваробы грызла і гэта. Аднак памёр ён з думкаю, што бацькоўскі доўг выканаў: двух дачок аддаў замуж, а меншанькая, Анэля, возьме да сябе прымака. Два гектары зямлі, конік ды кароўка, хоць і мізэрная, але гаспадарка, і знойдзецца на яе добры чалавек.

Калі памёр бацька, Анэлі было чатырнаццаць гадоў, і ўсе клопаты цяпер ляглі на яе вострыя плечыкі, бо маці была старая і хваравітая.

У трыццаць шостым годзе вёску разагналі на хутары. Анэлінай маці дастаўся кавалак пясчанай зямлі каля лесу. На самым яго крайку яны склалі невялікую хатку і хлеўчык, выплелі з галля адрыну.

Да гэтага часу Анэля падрасла. Блакітнавокая і русавалосая, Анэля сама не ведала — прыгожая яна ці не. У абломак люстэрка, які заўсёды валяўся на акне, не было калі глядзецца. Яна толькі адчувала ў сабе вялікую сілу і бадзёрасць. Хацелася жыць. У доўгія зімовыя вечары, седзячы над прасніцай, Анэля марыла. Яна чакала надзвычайнага. Яна верыла, што ў яе жыцці адбудзецца нешта нечаканае, але абавязкова шчаслівае і радаснае.

Калі Анэля першы раз прыйшла на вечарынку, то доўгі час праседзела ў кутку. Ёй здавалася, што яе про-

стая саматканая сукенка ўсім кідаецца ў вочы. Заможныя хутаранскія нявесты былі прыбраны ў новыя «крамныя» сукенкі, абуты ў бліскучыя туфлі. Багатыя жаніхі рызыкоўна хадзілі па хаце ў хромавых ботах з стаячымі, як гладышы, халявамі. «Не месца мне тут, ой, не месца...» — з жалем думала Анэля, і яе простая сукенка нібы сціснула яе цела, так цяжка было дыхаць.

Яна ўжо збіралася ісці дадому, чакала толькі, калі пачнуцца танцы, каб выйсці з хаты неўзаметку. І вось у гэты час да яе падышоў Антось Калюга, хлапец з далёкага хутара, з якім яна некалі разам вучылася ў школе. Сын бедняка, Антось дома бываў рэдка, бо працаваў у панскіх маёнтках, і таму Анэля ў апошні час рэдка бачыла яго.

— Патанцуем, Анэля,— сказаў ён.— Чаго ты ў кутку сядзіш?

— Ой, некалі мне, Антось...— спалохана сказала яна.— Мне ўжо дадому пара.

— Паспееш яшчэ дадому. Ды чаго ты баішся? Хіба мы горшыя за гэтых шляхцюкоў?

Гэтыя шчырыя словы ўплылі на Анэлю. Яна падала Антосю руку, і яны пайшлі танцаваць.

Як ёй было сорамна! З усіх бакоў на яе пагардліва глядзелі цікаўныя вочы. Яна бачыла, як шапталіся багатыя дзяўчаты, акідваючы яе позіркам ад галавы да ног. А потым яна ўжо нічога не заўважала. Яна кружылася пад гукі музыкі, і вялікія яе вочы гарэлі цудоўным агнём прастаты і маладосці. Яна адчувала падтрымку моцных Антосевых рук, і цяпер для яе ўсё было хоць бы што.

Калі музыка змоўкла і Антось пасадзіў Анэлю на лаўку, яна апамяталася і разгубілася. Але яе абкружылі хлопцы, пачалі гутарыць і жартаваць. У вачах дзяўчат, якія нядаўна з пагардай глядзелі на яе, цяпер Анэля заўважыла зайздрасць.

Анэлі было дзіўна, што каля яе пачаў увівацца Ясь Кандыба, сынок багатага суседа. З ім яна сустракалася амаль кожны дзень. Іх хутары былі побач, нельга было не сустрэцца або ў полі на працы, або ідучы дамоў. Але пры тых сустрэчах Ясь не толькі не цікавіўся ёю, але нават ні разу не сказаў добры дзень. Яна і сама ніколі не думала, што з такім багатым дзецюком можна гутарыць, як з роўным.

Ясь быў відны хлопец: рослы, кучаравы і чарнабровы, дужы і лоўкі. Да яго постаці вельмі пасавала вайсковая форма, якую ён, як кіраўнік мясцовай групы «Стшэльца», надзяваў у кожнае свята.

Сёння Ясь зацікавіўся Анэляй. Ён адразу адцёр ад яе ўсіх хлопцаў і пачаў запрашаць Анэлю на кожны танец. Ясь нібы назнарок выводзіў яе ў сярэдзіну круга, каб паказаць усім. Яна, захапіўшыся танцамі, не заўважыла зларадных поглядаў, не чула хіхікання дзяўчат.

Калі скончылася вечарынка, Анэля непрыкметна выскачыла з хаты і хуценька пайшла па палявой сцяжынцы, што вілася між хутароў аж да яе невялічкай хаціны.

Прыгожа было глыбокай ноччу ў полі. Месяц схіліўся ўжо нізка і асвятляў жытнёвыя палеткі. Кругом было ціха, пахла канюшынай і палявымі кветкамі. Старыя ігрушы-дзічкі спалі на межах глыбокім сном.

Анэля ішла як п'яная. Яна не адчувала пад нагамі зямлі. Яна нават не чула, што шырокімі крокамі за ёю нехта ідзе.

Ясь дагнаў яе і палажыў руку на плячо.

— Нам па дарозе, Анэля,— сказаў ён ціха.— Чаго ты так бяжыш?

— Ай, Ясь... Я спалохалася.

— Мяне?

— Адкуль я ведала, што гэта ты...

Яны пайшлі поруч. Анэля сцяжынкай, а Ясь па замежку, па роснай траве. Анэля ўпершыню ішла поруч з хлопцам. Ёй было сорамна, і яна старалася апярэдзіць Яся, але ён не адставаў. Калі Анэля хацела застацца ззаду, ён таксама паменшваў крокі. Тады яна прыпусціла амаль бягом. Ён з усмешкай сказаў ёй:

— Ну і ляціш ты як на пажар.

Анэля не адказала.

— Хочаш — стрэлю! Пачуеш, як на ўсіх хутарах сабакі забрэшуць! — сказаў ён і пацягнуўся рукой да кішэні.

— Не трэба, Яська! — спалохана ўсклікнула Анэля, хапаючы яго за руку.

— Якая ж ты палахлівая! — мякка папракнуў ён, прыцягваючы яе да сябе.

Анэля рванулася, але моцна трымаў яе Ясь.

— Пусці мяне, Ясь...

— Якая ж ты, Анэля!.. Ну чаго ты баішся? Я ж цябе

не з'ем! Ды не рвіся ты... Ну пойдзем разам... Вунь ужо наш хутар.

— Пусці, Яська... Мне сорамна...— у голасе яе чутны былі слёзы.

— А хто нас бачыць?

Ён узяў яе пад руку, і яна вымушана была ісці з ім поруч. Анэля думала, што, дайшоўшы да свайго хутара, Ясь пусціць яе, але ён тут нават не спыніўся. Ён крочыў з ёю аж да самай брамкі, што вяла ў двор маленькай Анэлінай сядзібы.

— Я пайду, Ясь, у хату... Не трымай мяне...

— Пастаім хвілінку, Анэля...

— Мама будзе сварыцца.

— Мама твая спіць.

Яна памкнулася адчыніць брамку, але Ясь ухапіў яе за рукі. Аднак тут, каля свае хаты, Анэля адчула смеласць і рашучасць.

— Пусці! А то я закрычу!

— Ну дык што? — смеючыся, сказаў Ясь.— Хто цябе пачуе?

— Мама пачуе.

— А што мне зробіць твая мама?

— Яна скажа твайму бацьку.

Гэтыя словы адразу ўплылі на Яся.

— Ну, Анэля, глядзі! Гэта не апошняя наша сустрэча!..

Ён павярнуўся і паволі пайшоў да свайго хутара.

## 2

І сапраўды, гэта была не апошняя сустрэча.

Некалькі дзён пазбягала Анэля Яся. Яна адчувала, што баіцца яго. Акрамя таго, яна ведала, што Ясь ёй не пара. Ён — багаты шляхціц. Хіба патрэбна яму такая бядначка, як яна. Проста ён задумаў нешта благое, хоча паглуміцца з раскошы.

Між тым падышло жніво. Анэля касіла, а маці падбірала за ёю жыта і вязала ў снапы.

У час працы Анэля ўспамінала першую вечарынку. У вачах яе стаяў Антось Калюга, і невядомае дасюль жаданне пабачыць яго часта з'яўлялася ў дзяўчыны. Асабліва моцным было гэта жаданне вечарамі, калі цемра навісала над палеткамі і аднекуль здалёк даносіліся гукі

гармоніка і дзявочыя напевы жніўных песень. Аб чым бы яна гутарыла з Антосем, Анэля не ведала, але не магла забыць гэтага каржакаватага хлапца з вяснушкамі на твары і чубам валасоў, што ўпарта вылазіў з-пад шапкі.

Успамінала яна і Яся Кандыбу. Нельга было не ўспамінаць, калі ён быў тут, побач. Ён не працаваў на полі, але часта з'яўляўся туды да наймітаў і наймічак. Анэля заўважала, што ён часта кідае позіркі ў бок яе хутара, і баялася, каб ён не падышоў да яе.

Можа б, Анэля і не хутка сустрэлася з Ясем, каб не звычайны і заканамерны выпадак, які не мог не адбыцца.

Са сваім жнівом яны ўправіліся хутка. І вось аднойчы стары Кандыба з'явіўся ў іх хаце.

— Можа б, суседка пусціла сваю дачку да мяне на пару дзён? — звярнуўся ён да Анэлінай маткі.— Сама бачыш, жыта перастойвае, баюся, што асыпацца пачне.

— А чаму не, пане Кандыба. Мы сваё ўжо кончылі.

— Дык, мама, у нас жа...— хацела ўставіць сваё слова Анэля.

— Колькі ў нас тае работы! От заробіш сабе на сукенку.

Анэля ўспыхнула пасля гэтых слоў. Яна зноў успомніла вечарынку. Ёй вельмі не хацелася ісці ў падзёншчыцы да Кандыбы, не хацелася сустракацца з Ясем, нібы прадчувала яна, што сустрэча гэта нічога ёй не прынясе, акрамя бяды.

Назаўтра раніцой Анэля ўжо была на Кандыбавым хутары. Яна і раней кожны год працавала тут, але тады ў яе не было ніякіх думак, нічога такога, што магло б прынесці трывогу.

Сцямнела, калі Анэля выйшла з Кандыбавага двара. Яна была рада, што Ясь сёння цэлы дзень быў у мястэчку і на поле не з'явіўся. Ён вярнуўся толькі вечарам, калі работы скончыліся.

На сцежцы сярод палёў яна адчувала сябе вельмі лёгка. Уся стома знікла. Яна нават заспявала паціху і, не спяшаючы, крочыла на свой хутар.

Ля самай брамкі яе дагнаў Ясь.

— Як жа ты хутка, Анэлька,— сказаў ён ласкава.

У Анэлі закалацілася сэрца.

— Навошта я табе, Ясь — запытала яна.

— Дурная...— шапнуў Ясь.— Нашы ж хутары побач.

— Ну дык што?

— Пажэнімся... Хутары злучым... Эх ты!
— Ай, Ясь... Які ў нас хутар? Ды хіба твае бацькі захочуць?
— А што мне бацькі! — Ясь ваяўніча выпрастаўся.— Што мне бацькі! Я адзіны сын у сям'і, і па закону ўсё маё! Што захачу, тое і зраблю.
— У мяне пасагу няма...
— А хутар хіба не пасаг? І ты адна, тваё таксама ўсё.
Потым ён прыхіліўся да яе і зашаптаў:
— Анэлечка, золатца... Люблю я цябе, павер. А думаеш, бацькі засупярэчаць? Ведаеш, што сёння казаў мой бацька? От, кажа, каб такую работніцу, як гэтая... як Анэля Бацянова, ды ў хату.
— Работніцу... Можа, за парабчанку ўзяць хоча?
— Ай, ідзі ты... Табе абы прыдумаць... Хіба ён не ведае, што ты адна і гаспадыня, і гаспадар у хаце. Анэля, любая, золатца... Чаму ты не хочаш мне верыць? Анэлечка, залатая... Ну што ты пра мяне дрэннае чула? Хіба я табе выкладу душу на далонь!..
Ён узяў яе за плечы і прыгарнуў да сябе.
— Пусці, Ясь!
— Шчасце сваё ты адпіхаеш ад сябе, Анэля.
І такім шчырым і праўдзівым здаваўся Ясеў голас! Ён нават не пакрыўдзіўся, калі яна вытнула яго па шчацэ.

3

Спачатку Анэля ішла на спатканне з Ясем з адчуваннем нейкай віны. Адчувала, што гэтага рабіць не трэба. Цэлы дзень яна гаварыла сабе, што не пойдзе, і нават верыла ў гэта, але калі наступаў вечар, такой цеснай і беднай здавалася свая хатка, такі сум агортваў, што яна выходзіла за брамку. Каля плота, пад засенню чаромхаў і акацый, стаяла лавачка. Ясь ужо чакаў там. Ён нецярпліва прыцягваў яе за плечы да сябе і бясконца цалаваў. Анэля не адказвала яму.
— Ты мяне не любіш, Анэля... — з дакорам шаптаў ён.
Яна маўчала. Яна і сама гэтага не ведала. У часе такіх запытанняў у вачах яе на імгненне паўставаў Антось Калюга, і яна не магла зразумець, хто з іх бліжэй да яе сэрца, ці Ясь, ці Антось.

— Не любіш? — дапытваўся ён. — Не любіш, Анэля?.. Ты хоць пацалуй мяне... Адзін раз... Я не магу жыць без цябе...

І ён расказваў, як пакутуе днём, як углядаецца на яе хутар, каб хоць здалёк убачыць яе постаць... Як чакае вечара, каб сустрэцца з ёю... Анэля не разумела гэтага.

Так адзін за адным праходзілі летнія вечары. Анэля чакала іх, хоць і без вялікага нецярпення. Яны ўпрыгожвалі яе беднае працавітае жыццё.

І вось аднойчы яна адчула, што не можа жыць без Яся. Гэта адбылося пасля таго, калі яна адказала на яго пацалунак. Назаўтра раніцой яна прачнулася з адчуваннем шчасця, якое нахлынула на яе, як хваля, і запаланіла ўсю істоту. Нават у хаце стала светла і prасторна. Калі яна выйшла на двор, сонца толькі ўзыходзіла. Лёгкія воблакі на ўсходзе, пакрытыя пурпурам зары, дагаралі на яе вачах. На лістах дуба, што рос каля варот, іскрылася халодная раса, і Анэлі хацелася прытуліцца да ствала, прыгарнуць да сваіх грудзей халодную ліству, каб аддаць ёй хоць кропельку гарачыні свайго сэрца... І неабсяжны прастор адкрыўся перад яе вачыма. Упершыню за сваё жыццё яна ўбачыла і прыгажосць далёкіх пералескаў, закінутых на прасторы палёў, і прывабную зелень лугоў, ужо пакрытых маладой атавай, і нават утульнасць свайго маленькага хутара. Калі яна падышла да дуба, рукі яе мімаволі пацягнуліся да ствала, яна абняла яго і прашаптала:

— Ясь... Мілы мой, любы мой Ясь... Дубок ты мой малады...

Яна прытулілася шчакой да шурпатай кары магутнага дуба і заплакала.

Так Анэля спазнала шчасце. Яна, не думаючы, акунулася ў яго струмені і забыла аб усім.

Аднойчы Ясь спазніўся на спатканне. Анэля доўга чакала яго і ўжо хацела ісці ў хату, калі раптам з'явіўся ён з нейкім скруткам пад пахай.

— У мястэчку я сёння быў, Анэля, — сказаў ён, абдымаючы яе адной рукой. — Таму і спазніўся... Падарунак табе купіў.

Ён працягнуў ёй скрутак.

— Гэта табе на сукенку, Анэля... А потым і туфлі куплю.

— Ой, Яська, што ты! — спалохана адказала яна, адхінаючы ад сябе падарунак. — Не трэба, Яська... Што гэта, божачка мой...

— Чаму не трэба, Анэлечка? — здзіўлена запытаў ён.

— Хіба ж каханне купляецца, Яська, мілы мой... Ды я ж цябе і так люблю і любіць буду да смерці... А калі з падарункамі, то хіба ж гэта каханне! І ты мяне не так будзеш любіць, як цяпер, ды і я цябе... А мне не хочацца, каб так было...

— От якая ты... — нездаволена сказаў Ясь.— А я і туфлі табе купіў бы. Пайшлі б на вечарынку... Няхай бы паглядзелі тыя задрыпаныя шляхцянкі, якая ты ў мяне!

— Хіба табе на вечарынкі хочацца? А мне, калі я з табой, Ясечка, нікуды не хочацца. І нікуды б я не пайшла... І на гэтай лавачцы так мне добра з табою...

— Не хочацца, але чаму не схадзіць. Няхай бы паглядзелі.

— Дык ты саромеешся са мною... калі я пайду ў сваёй сукенцы.

— Ну от, выдумала ты...

— А каб ты і жабрак быў, усё роўна я любіла б цябе, Яська.

— А хіба я цябе не люблю? Я хацеў, каб лепш, а ты і ўзлавалася.

— Я не ўзлавалася, Яська... Ты мне тады падарункі купіш, калі я твая буду, зусім твая... Калі ты мой муж будзеш, а я твая жонка... Добра?

Ён затуліў ёй рот пацалункам.

Анэліна маці ведала аб адносінах Кандыбавага Яся да яе дачкі. Мудрасць сялянкі-хутаранкі гаварыла ёй, што з гэтага можа атрымацца і добрае, і благое. Добра, калі Ясь жэніцца на Анэлі, гэта яе шчасце. А можа атрымацца і наадварот — багаты шляхцюк наздзекуецца з яе дачкі і кіне. Гэта Анэліна няшчасце. Таму яна не патурала іх сустрэчам, але не вельмі і пярэчыла, калі Анэля выходзіла ўвечар пасядзець на лавачцы. Усё ж яна штодзень гаварыла Анэлі:

— Глядзі, дачушка, не згубі галавы... Май свой розум. Яму што! Крутнуўся ды пайшоў, а ты навек няшчасная...

— Ай, мама! Чаму вы так блага думаеце? Не, Ясь не такі...

— Я, дачушка, жыццё пражыла. Я пра тваю сірочую долю думаю... Ты не крыўдуй на старую, а лепш паслу-

хай... Ты яму пра вяселле гавары. Няхай жэніцца. Ты яму штодзень дзяўбі пра гэта...

Аднак Анэля ні разу не напамянула Ясю пра жаніцьбу. «Хіба ён сам не ведае, — думала яна. — Ён сам мне скажа, калі прыйдзе тая пара... Мой любы Ясь...» — І ўсё ж яна з хваляваннем чакала тае пары.

Аднойчы ў нядзелю Анэля ішла з мястэчка. Вечар ужо набліжаўся, калі яна ўвайшла ў лясок, за якім пачыналіся хутары.

Адны думкі былі ў галаве Анэлі — Ясь не выходзіў адтуль. Яна спяшалася дадому, каб хутчэй зрабіць гаспадарскія справы, а вечарам выйсці на спатканне з Ясем.

Зусім нечакана яе дагнаў Антось Калюга. Ён ехаў на зношаным веласіпедзе, які ўвесь час скрыпеў і бразгаў, як старыя драбіны. Пачуўшы гэты скрып, Анэля агледзелася і ўбачыла Антося. Ёй стала сорамна. Яна рада была пазбегчы гэтай сустрэчы, але ўжо нічога нельга было зрабіць. Антось прывітаўся, злез з веласіпеда і пайшоў поруч з ёю. «Што яму ад мяне трэба?» — падумала Анэля і насцярожана зірнула на Антося. Яна чакала ад яго насмешак або непрыстойных жартаў. Але Антось зірнуў на яе, і было ў яго вачах нешта такое, ад чаго насцярожанасць у Анэлі адразу прайшла. У яго позірку свяціліся і жаль, і здзіўленне, і горыч.

Абое некаторы час ішлі моўчкі, нарэшце Антось запытаў:

— Замуж выходзіш, Анэля?

— Хто табе казаў? — чырванеючы, запытала яна.

— Хто казаў? Усе кажуць.

— Усе кажуць, а ты ўжо і паверыў! — сказала яна, мяркуючы перавесці гутарку на жарт.

— У тым-то і справа, што я не веру... Не веру я, Анэля, што ён возьме цябе...

«Якая твая справа?» — захацелася сказаць Анэлі, але яна глянула на Антося і чамусьці не змагла задаць такога пытання. Успамін аб першай вечарынцы раптам кальнуў яе ў сэрца.

— Што ж... Жадаю табе шчасця, Анэля, толькі не аб гэтым ■ думаў... Не аб гэтым я думаў, калі ўбачыў цябе тады на вечарынцы... І можа, гэтага не было б, каб я быў дома...

Толькі на адно імгненне Анэлі здалося, што ён кажа праўду, потым злосць ахапіла яе. «Хто яму даваў права

так думаць!» Яна ўжо хацела груба адказаць Антосю, але ён сеў на веласіпед.

— Бывай, Анэля.

Калі ён схаваўся за паваротам дарогі, Анэля ўпершыню адчула ў сваім сэрцы тугу і трывогу. Рэчаіснасць паўстала перад ёю з усёй сваёй вастрынёй і відавочнасцю. Але калі Анэля здалёк убачыла Кандыбаў хутар, радасць зноў агарнула яе. «Любы мой Ясь...» — прашаптала Анэля. А слёзы ліліся з яе вачэй, і яна сама не ведала, ад чаго плача — ад шчасця ці ад гора?..

4

Так прайшоў год, ізноў надышло жніво. У гэты час Анэля адчула, што ў яе пад грудзьмі расце другая істота. Яе ахапіў жах. У той дзень яна касіла жыта, але каса валілася з рук. Яна чакала вечара. Калі ён надышоў, Анэля выйшла на лавачку пад чаромхі і пачала чакаць Яся. Сэрца яе закалацілася, калі яна ўбачыла на сцежцы яго постаць. Ён ішоў, насвістваючы вайсковы марш.

Падышоўшы, ён нецярпліва прыгарнуў яе да сябе, але яна адвяла яго рукі і сказала:

— Не сціскай мяне, Яська...

— Чаму? — запытаў ён.

— Я ўжо не адна... Яська мой мілы...

Ён не разумеў яе слоў.

— Калі мы пажэнімся, Яська?

Гэтае пытанне, зададзенае ўпершыню, ашаламіла Яся.

— Мы яшчэ не перастаркі, Анэлька... Хіба не хопіць часу? От пачакаем да каляд... У нас цяпер такая няўпраўка ў гаспадарцы...

— Да каляд... — Анэля адхіснулася ад яго. — Я цяжарная, Ясь...

Анэля не бачыла, як пабялеў і скрывіўся яго твар. Ясь спалохаўся і не ведаў, што адказаць.

— Даўно? — ледзь чутна запытаў ён.

— Не ведаю... Можа, і даўно...

— Да бабулькі трэба, Анэля...

— Да бабулькі?! Гэта ж тваё дзіця!

— Ну, Анэля, хіба я гэтага не ведаю... Але ўсё роўна трэба да бабулькі... Вунь старая Болесіха, яна і замужнім робіць...

— Ясь, Ясь... Хіба я гэтага чакала ад цябе? Значыць, так яно і ёсць... Ты толькі глуміўся нада мною...

— Прыдумаеш ты, Анэля...

Тую ноч яны прабылі пад чаромхамі давідна. Увесь час Ясь тлумачыў Анэлі, што трэба ісці да Болесіхі. Ён абяцаў сам дамовіцца са старою, заплаціць ёй так, каб яна трымала язык на прывязі. Анэля яму нічога не адказвала: ні згаджалася, ні адмаўлялася. Нарэшце заружавелася зара. Пара было разыходзіцца. Ясь нецярпліва чакаў Анэлінага адказу.

— Ну, Анэля, золатка, не маўчы... Гэта ж не па лесе хадзіць, а па людзях. Удзень я дамоўлюся з Болесіхай, а вечарам сходзім, га?

— Не, Ясь, не пайду,— рашуча адказала яна.— Я ўжо ўсё зразумела... Не хочаш ты мяне, не шкадуеш свайго дзіцяці... бог з табою... А забіваць дзіцё я не буду. Не, не буду, Ясь...

— Эх ты!..

Ён павярнуўся і паволі пайшоў. Ён чакаў, што Анэля адумаецца, пакліча яго. Але яна ведала, што гэта быў іх апошні вечар, што Ясь больш не вернецца да яе нават тады, калі б яна пайшла з ім да Болесіхі. Ёй захацелася пабегчы за ім услед, кінуцца яму на шыю і моцна-моцна пацалаваць апошні раз. Але Анэля стрымала сябе. У вачах яе стала цёмна, а на сэрцы пуста. Хістаючыся, яна пайшла дахаты і лягла ў сенях на халодны ложак. Хацелася плакаць, але яна адчувала, што і слязамі не змыць яе страшнага гора, яе цяжкае тугі. Сухімі вачыма Анэля глядзела у вузкае акенца, у якое лілося летняе світанне, але нічога не бачыла.

У той дзень яна праляжала ў пасцелі да вечара. Калі зайшло сонца, яна ўсё-такі выйшла на лавачку пад чаромхі. Яна не чакала Яся, але месца гэта стала дарагім яе сэрцу. А Ясь не прыйшоў. Не прыйшоў ён і назаўтра, і ніколі. Потым яна дачулася, што ён ужо ходзіць да багатай шляхцянкі на далёкі хутар.

Хутка пачалася вайна з Нямеччынай. Яся мабілізавалі ў армію, і ён нават не прыйшоў развітацца з Анэляй. Потым яна даведалася, што мабілізаваны ўсе хлопцы, у тым ліку і Антось Калюга.

Усе падзеі, якія адбываліся ў тыя дні, не пакінулі ў душы Анэлі следу. Сэрца яе зачарсцвела і не ўспрымала акаляючага. Калі прыйшла Чырвоная Армія, Анэля не

выйшла сустракаць яе. Ёй не хацелася паказвацца на людзях, яна ведала, што пра яе цяпер і так шмат гавораць. Калі старога Кандыбу з сям'ёй выгналі з хутара, а да яе маленькага хутарка прырэзалі тры гектары зямлі, яна не вельмі і ўзрадавалася.

Анэля нічога не гаварыла маці, але тая і сама ўбачыла, што да яе дачкі прыйшло гора горкае. Яна не папракала дачку, аднак глядзела на яе з такім жалем, што той цяжка было заставацца з маці ўдваіх.

Цяпер Анэля ўся аддалася працы. Яна ўзарала сваё поле, пасеяла жыта, потым выкапала бульбу, адна цягаючы важкія мяхі.

— Сцеражыся, дачушка,— казала маці.

Анэля ўпарта маўчала. У грудзях яе кіпела злосць на ўвесь свет, і яна пазбягала сустрэч з людзьмі.

У познюю восень Анэля распачала малацьбу. Можна было згаварыцца з суседзямі і хаўрусам наняць малатарню, але яна ўсё збожжа перамалаціла цэпам.

У доўгія зімовыя вечары, седзячы за калаўротам, яна ўспаміняла свае сустрэчы з Ясем, і здаваліся яны такімі далёкімі і неверагоднымі, як сон.

А на хутарах і вёсках ужо кіпела новае жыццё. У Кандыбавым доме адкрылі клуб. Кожны вечар туды збіралася моладзь. Не такімі сталі вечарынкі. Часта прыязджала кінаперасоўка, хлопцы і дзяўчаты наладжвалі спектаклі. Анэля не цікавілася гэтым. Яна лічыла, што жыццё яе загублена назаўсёды.

Аднойчы ў бурную лютаўскую ноч перад нядзеляй Анэля даставала са склепа бульбу. Яна ўзняла на падлогу вялікі кош і адчула, што ўсярэдзіне яе нешта абарвалася. Яна ледзь паднялася па драбіне і звалілася на падлогу. Да яе кінулася маці. З яе дапамогай Анэля таксяк дабралася да ложка...

Калі скончылася тая пакутная ноч, Анэля была ў беспрытомнасці. Першыя словы, якія пачула ад маці, зусім прыгнялі яе змучаную істоту.

— Нежывенькае, дачушка... Хлопчык.

— Мама! — ускрыкнула Анэля.— Чаму ж ён нежывенькі?! — у роспачы запытала яна.

— Гэта бог ведае, а не я...

— Мама, гэта вы... гэта вы яго...

Маці адхіснулася ад ложка і пачала хрысціцца.

— Гаротніца ты мая бедная... Ці я цябе лаяла, ці па-

пракала! Бога ты не баішся такое падумаць... Няхай бы жыў! Свет цяпер не той, і яму месца знайшлося б!

— Ах, мама... Даруйце мне...

— Хай бог табе даруе, а я ўжо даўно даравала... І калі выйшла ўжо так, то няхай і людзі не ведаюць пра гэта... Пахаваем яго самі.

— Чаму яны не ведаюць...

— Эх, дачушка... Гаварылі людзі, яшчэ пагавораць і замаўчаць... А можа, было, а можа, не было.

Каля месяца праляжала Анэля ў ложку. І калі ўстала, то гэта ўжо была не тая Анэля... І душою, і целам.

## 5

У красавіку з фашысцкага палону прыйшоў Антось Калюга.

Хоць і цяжкім, не па-чалавечы жорсткім быў рэжым у фашысцкіх лагерах для палонных, але дачуліся хлопцы-беларусы, што на іх радзіме няма ўжо польскіх паноў, што цяпер там Савецкая ўлада.

Нямала загінула ўцекачоў-палонных на лясных і балотных сцежках Усходняй Прусіі, на польскай зямлі ад голаду, холаду і варожых куль, але Антось Калюга выжыў. Ён прыйшоў на свой хутар чорны, абарваны і схуднелы, як шкілет.

Услед за ім пачалі з'яўляцца і іншыя хлопцы з навакольных вёсак. Толькі Яся Кандыбы не было.

І хаця Анэля амаль не ўспрымала тых падзей, якія адбываліся вакол яе, сэрца сціснулася, калі яна пачула, што вярнуўся Антось Калюга. Яна зноў успомніла першую вечарынку, сустрэчу з Антосем у лесе, і ёй захацелася заплакаць па загубленай маладосці.

Часта, выйшаўшы з адрыны з рэзгінамі трасянкі для каровы, яна застывала, як каменная, і глядзела на хутар Кандыбы. І хоць там даўно ўжо быў клуб, але здавалася, што і цяпер, як некалі ў шчаслівыя дні, мільгане там постаць Яся. «Можа, ён вернецца»,— думала Анэля. І хоць яна ведала, што паміж імі ўсё скончана, бо глыбокае пачуццё, якое калісь гарэла ў яе сэрцы, даўно ўжо стлела, але хацелася яшчэ раз пабачыць таго, хто спачатку прынёс ёй так многа шчасця, а потым стольκі гора.

У Анэлі зараз яшчэ прыбавілася клопатаў. Захварэ-

ла маці. Болей двух тыдняў пракідалася яна ў пасцелі і ў адну красавіцкую ноч ціха сканала.

Цяпер Анэля засталася зусім адна. Не было з кім нават перакінуцца словам. Можа, гэта і прывяло да таго, што яна пачала штодзень хадзіць у касцёл, дзе ўсё гаварыла ёй аб тым жыцці, якое павінна прыйсці пасля смерці... Яна адчувала сябе вялікай грэшніцай і жадала стаць вартай таго, шчаслівага, вечнага, жыцця. Яна горача малілася, слухала музыку аргана, спевы касцельнага хору. Усё гэта на некаторы час выганяла прыгнечанасць з яе душы, рассявала ціхую безнадзейнасць, бясконцую тугу па страчаным шчасці.

Анэля не магла без хвалявання глядзець на малых дзяцей. Часта ўспамінала пра сына. Яна ўяўляла, якім бы ён быў цяпер. Як хацелася, каб ён жыў! Інстынкт маткі, якая нарадзіла, але не выкарміла дзіця, не даваў ёй спакою. Яна пачала любіць чужых дзяцей. У святочныя летнія дні яны, як вераб'і, зляталіся на яе хутарок. Яна ім давала кветкі, частавала гароднінай, гарохавымі і бабовымі струкамі, вучыла спяваць песні з кантычкі, арганізоўвала гульні.

Хадзіць у касцёл стала для Анэлі такою прывычкаю, што яна не магла пражыць дня, каб не схадзіць туды.

Ксёндз вельмі хутка заўважыў гэтую маладую жанчыну і яе прыхільнасць да касцёла. Спачатку ён непрыкметна наглядаў за ёю, потым пастараўся дазнацца аб яе гісторыі. Яму перадалі яе, безумоўна, у перакручаным выглядзе, аднак ён зрабіў патрэбны для сябе вывад. Розныя дробныя работы ў касцёле ён узлажыў на Анэліны плечы. Яшчэ ў маленстве Анэля любіла маляваць. Любоў да гэтай справы засталася ў яе і ў сталым узросце. Яна нават крыху зарабляла, размалёўваючы настольнікі, навалочкі і ручнікі. Ксёндз скарыстаў і гэта. Перад вялікімі святамі Анэля ўпрыгожвала касцёл. Яна са здавальненнем рабіла гэта, бо верыла, што работа ў касцёле здыме з яе хоць частку яе вялікіх грахоў.

Часта ёй даводзілася па просьбе ксяндза мыць падлогу ў клебаніі і выконваць іншыя хатнія работы. Ксёндз з прагнасцю аглядаў яе зграбную пругкую постаць, і, можа, толькі вечна тужлівы, спалоханы погляд яе шчырых, па-дзяцінаму праўдзівых вачэй выратаваў яе ад яшчэ аднаго няшчасця.

Так і праходзіла яе ціхае, адзінокае жыццё. Яно было

тым болей адзінокім і непрыкметным, што ніхто яго не заўважаў, ніхто з таварыскім удзелам не звярнуўся да яе. І сама яна не хацела ні да каго звяртацца, бо лічыла, што з яе толькі пасмяюцца.

У пачатку чэрвеня Анэля дачулася, што ажаніўся Антось Калюга. Анэля не сустракалася з ім ад таго часу, калі ён дагнаў яе на лясной дарозе, аднак вестка аб тым, што ён жэніцца, чамусьці кальнула яе ў сэрца. У Анэлі з'явілася думка, што іначай склалася б яе жыццё, каб у яго ўвайшоў не Ясь Кандыба, а Антось Калюга.

## 6

Як ні хавалася Анэля ад жыцця, яно не магло абмінуць ні яе самой, ні яе закінутага на ўзлессі хутара.

Ужо першыя дні Айчыннай вайны ўнеслі ў жыццё Анэлі шмат змен. На хутарах з'явіліся фашысцкія салдаты. У былым маёнтку пана Скірмунта, на маляўнічым беразе ракі Сміранкі, размясціўся нямецкі гарнізон. Ён заняў усе жылыя памяшканні, аборы, гумны і свірны. Касцёл знаходзіўся паблізу маёнтка, і Анэля зусім затужыла. Не хацелася ёй пападацца на вочы фашысцкім салдатам, а, ідучы ў касцёл, іх нельга было абмінуць. Некалькі дзён яна не выходзіла з хаты, думала, што гэтая навала так жа хутка адкоціцца, як і накацілася.

Хоць Анэлін хутар быў і далёка ад вялікай дарогі, фашысцкія салдаты хутка знайшлі яго. Ім патрэбны былі куры, яйкі, масла і малако. Белабрысы доўгі фашыст, зайшоўшы да Анэлі, акінуў пагардлівым поглядам яе хацінку.

— Хаўз шлехт, фрэйлін гут! — пастукаў ён Анэлю па плячы.

Потым немец растлумачыў, што яму патрэбны «яйкі і млека». Анэля прынесла яму яек, масла і малака, абы хутчэй адправіць з хаты.

Хутка на свой хутар з'явіўся стары Кандыба. Тры гектары, якія Анэлі дала Савецкая ўлада, ён адразу адабраў і далучыў да сваёй зямлі. Гэта ўскалыхнула Анэлю. Яна ўжо не магла маўчаць. Доўга не раздумваючы, яна накіравалася да Кандыбы.

— Дзядзька,— сказала яна,— я ж апрацавала і засеяла гэтую зямлю. Няўжо ж я не збяру з яе таго, што засеяла?

— Не, дзеўка, не збярэш. Збяру я.
— Уся ж мая бульба пасаджана на гэтай зямлі.
— Я цябе не прасіў, каб ты на маёй зямлі саджала бульбу.
— Дзядзька...
— Маўчы ты, дзеўка...— ён вылаяўся брыдкімі словамі.— Скончылася ваша... ваша...— ён не знаходзіў слоў.— Я вось зраблю, што ўсю нарыхтоўку за гэтую зямлю аддасі немцам ты. І заплаціш ты!
У Анэлі калацілася сэрца, калі яна прыйшла дамоў. «Што рабіць? — думала яна.— Хто дапаможа, хто выратуе?..» Яна кінулася да суседзяў, да ўсіх тых, каму Савецкая ўлада дала зямлю. І ўсюды яна ўбачыла адну бяду, адно гора...
Тады яна вырашыла схадзіць да ксяндза. Цяжка было адважыцца на гэта, бо да касцёла было болей двух кіламетраў, гарнізона абмінуць нельга, а яна ўжо ведала, як небяспечна дзяўчыне або маладой жанчыне сустракацца з фашысцкімі салдатамі. Аднак пайшла.
— Дачка мая,— сказаў ксёндз, выслухаўшы Анэліну крыўду,— табе не трэба было браць зямлі пана Кандыбы. Хіба, псякрэў, бальшавікі куплялі зямлю для пана Кандыбы? То ест паганцы, бязбожнікі, псякрэў. Але немцы сцерлі іх з нашай зямлі. Сам бог карае іх рукамі немцаў. Ён пакарае і ўсіх тых, хто ім служыў!
Анэля са страхам глядзела ў вочы айца пробашча. Ён цяпер быў больш падобны на фашысцкага афіцэра, чым на ксяндза. Высокі і дужы, ужо сівеючы, з буйным арліным носам, з тонкімі губамі і цяжкім падбародкам, ён выглядаў грозна і пагражаюча. Анэля толькі цяпер па-сапраўднаму ўбачыла, які ён. Да гэтага дня ён здаваўся ёй святым, такі пакорны і ласкавы быў яго позірк, такі мяккі і лагодны голас. І хадзіў ён заўсёды прыгнуўшыся, нібы цяжар людскіх грахоў увесь час ціснуў яму на плечы.
Убачыўшы здзіўленне ў вачах Анэлі, ксёндз зразумеў, што сказаў лішняе. Ён перахрысціўся, апусціў вочы долу і моўчкі прастаяў некаторы час з такім выглядам, нібы моліцца.
— Дачка мая,— ціха сказаў ён.— Не трэба гнявіць бога... Мы шмат думаем аб зямным і забываем пра тое, што нам будзе ўгатавана на тым свеце. Але я зраблю так,

каб твая праца не прапала дарма. Я ў хуткім часе пагутару з панам Кандыбам.

— Дзенькую, пане пробашч.

— Не цурайся касцёла, дачка мая. Ён табе заўжды дапаможа.

— Баюся, пане пробашч... Баюся немцаў.

— Яны не звяры. Яны аднае з намі веры. Нічога і нікога не бойся, дачка мая, калі ідзеш у божы дом.

Праз некаторы час Кандыба вярнуў Анэлі трэцюю частку яе пасеваў.

Гэта ў некаторай меры супакоіла Анэлю, але не так, каб вярнуць яе жыццё ў старое рэчышча.

## 7

Анэлі ўжо не хапала таго замкнутага існавання, якое дасюль яе поўнасцю задавальняла. Яе пацягнула да людзей. Пачало з'яўляцца жаданне раскрыць каму-небудзь сваю душу, расказаць пра сваё гора. Яна яшчэ не разумела, што яе асабістае гора патанула ў вялікім горы ўсіх сумленных людзей, стала яго маленькай кропелькай. І як жа здзівілася яна, калі сустрэла недаверлівае маўчанне з боку тых, з кім яна жадала зблізіцца.

За ляском, ля якога стаяла яе сядзіба, быў хутар Фэлікса Шыбкі. Фэлікс пры Савецкай уладзе таксама атрымаў некалькі гектараў Кандыбавай зямлі. Ён быў такі гаротны працаўнік, і так ён жадаў як мага хутчэй выйсці з жабрацтва, што восенню трыццаць дзевятага года, адразу пасля атрымання зямлі, засеяў болей гектара жытам. Вясной ён абсеяў яе ўсю. Здавалася, ён ужо стаў на ногі, і вось прыйшла нямецкая навала. Кандыба адабраў у яго зямлю разам з пасевамі.

Да Фэлікса і пайшла Анэля. Высокі і дужы, крыху сагнуты, са стрыжанай пад машынку барадой і доўгімі вусамі, ён толькі зірнуў на Анэлю і адвярнуўся. Калі яна звярнулася да яго жонкі, тая нічога не адказала. Цяжка і крыўдна стала Анэлі. Яна пайшла ад Фэлікса з горкім асадкам на сэрцы. «Што таму прычынай? — думала Анэля.— Што я ім зрабіла?» ...Яна не ведала, што суседзі не вераць ёй, бо толькі ёй адной Кандыба вярнуў частку пасеваў.

Кандыба да таго часу ўжо быў старастам. Ён прыняў пасаду з рук фашыстаў і пачаў ім верна служыць. Усіх

тых, хто з радасцю сустракаў Савецкую ўладу, хто спачуваў ёй, ён прадаў фашыстам. З жахам глядзела Анэля, як паліцаі вялі па бальшаку ў бок гарнізона збітых звязаных людзей, як палалі агнём іх хаты і гумны. Першым быў схоплены Стась Галубоўскі, член сельскага савета, які дзяліў паміж сялянамі зямлю пана Скірмунта і такіх мíраедаў, як Кандыба. Забралі не толькі яго, але і жонку. Потым схапілі Андрэя Ломаця, камсамольца, загадчыка хаты-чытальні. Усіх іх Анэля добра ведала. Андрэй у трыццаць дзевятым годзе клікаў яе на сход. На сход яна не пайшла, але часта з усмешкай успамінала гэтага вясёлага хлапчука. Стась Галубоўскі ў тым жа годзе наразаў ёй зямлю. Яна частавала яго сырам і кіслым малаком. «Шукай мужа, Анэля,— гаварыў ён ні то жартам, ні то сур'ёзна,— цяпер у цябе гаспадарка ладная...» І вось ужо няма гэтых людзей. І не праходзіць ні аднаго дня без жудаснай навіны.

Анэля зноў замкнулася ў самой сабе. Нават у касцёл яна пачала хадзіць толькі раз у тыдзень. Малілася дома. Малілася горача, са слязамі, прасіла пана Езуса і яго святую матку пашкадаваць бедных людзей.

Аднойчы ў нядзелю, калі яна выйшла з касцёла, яе спыніў ксёндз.

— Дачка мая,— сказаў ён,— ты пачала забываць дарогу ў божы дом.

— Баюся, пане пробашч...— ціха адказала яна.

— Я ўжо табе казаў: не трэба нічога баяцца.

— Баюся, пане пробашч,— упарта паўтарыла яна і дадала: — Я малюся дома.

— Гэта добра,— сказаў ксёндз,— але не трэба забываць дарогі і да святога касцёла,— ён уважліва глянуў на яе твар.— Падумай аб гэтым, дачка мая.

— Добра, пане пробашч.

Аднак колькі яна ні думала, розум падказваў ёй, што фашыстаў трэба асцерагацца, і яна па-ранейшаму хадзіла ў касцёл толькі раз у тыдзень.

Адзінай уцехай яе былі дзеці з суседніх хутароў. Яны не пакідалі Анэлю, а так, як і да вайны, кожнае свята дружнай гурбой збіраліся на яе хутар. У такія дні Анэля аджывала. Больш, чым іншым, яна аддавала ўвагі Фэліксавым дзецям — тром хлапчукам і дзяўчынцы. Заўсёды басаногія, абадраныя, яны дурэлі менш, чым іншыя дзеці. Анэля ўглядалася ў іх сумныя тварыкі і думала:

«Хочуць есці... Далібог, яны галодныя». Яна заводзіла іх у хату і карміла.

Аднойчы, у асеннюю ноч, Анэля прачнулася ад стрэлаў, якія даносіліся з боку гарнізона. Яна не магла зразумець, што здарылася. Вайна ўжо даўно адышла на ўсход. Парушалі цішыню толькі самалёты, якія ішлі то на захад, то на ўсход, а такіх частых стрэлаў даўно ўжо не было чуваць.

Толькі назаўтра яна даведалася, што партызаны часткова знішчылі гарнізон. Рэштка фашыстаў уцякла ў напрамку да мястэчка Кабыльнік. Аднак замацавацца ў маёнтку партызаны не маглі. Занадта блізка быў Кабыльніцкі гарнізон, значна мацнейшы, чым тутэйшы.

Раніцой Анэля бачыла, як удалечыні па шляху ішлі партызаны, ехалі фурманкі з трафеямі. У той жа дзень яна даведалася, што шмат хто з мужчын пайшоў за партызанамі, у тым ліку і Фэлікс Шыбка. Пра Антося Калюгу яна нічога не ведала, толькі чула, што ён знік у першыя дні вайны, пакінуўшы жонку са старым бацькам.

Надышлі цяжкія дні. Фашысты азвярэлі. Яны не толькі адбіралі апошняе, але і катавалі людзей. Кандыба з паліцаямі ім дзейна дапамагаў. Добра было толькі, што пасля бойкі з партызанамі і фашысты, і паліцаі не так смела лазілі па хутарах і вёсках. На далёкі Анэлін хутар яны рэдка адважваліся заходзіць.

Так прайшла першая ваенная зіма. Наступіла вясна. Аднойчы Анэля капала грады. Вечарэла. Вясна ўжо ўбіралася ў сілу. Лясы былі яшчэ голымі, але такім цёплым ветрыкам павявала з поўдня, што маладая травіца ўвачавідкі лезла з зямлі.

Анэля любіла работу на агародзе. Грады яна садзіла значна раней, чым яе суседзі, і кожную вольную хвіліну аддавала іх догляду. Нават стары Кандыба зайздросціў, што ў Анэлі гуркі ўжо растуць, а ў яго толькі цвітуць, у яго на памідорах толькі пупырышкі, а ў Анэліным агародзе ўжо вісяць буйныя жаўтабокія плады.

— Ты, дзеўка, мабыць, чараўніца,— сказаў ён ёй аднойчы.

На нейкую хвіліну Анэля забыла аб усім і ўспомніла сваё маленства і дзявоцтва. Як любіла яна збіраць першыя вясновыя кветкі! Тут у ляску іх было шмат. Анэля кінула працу і нерухома стаяла, ахопленая ўспамінамі. У гэты час у яе памяці праходзілі тыя вясновыя адвячор-

кі, калі яна спяшалася закончыць работу, каб хутчэй сустрэцца з Ясем. «Дзе ён цяпер?» — падумала яна, але гэта думка не прынесла жадання пабачыць яго.

Анэля ўздрыгнула, калі нечакана пачула свіст з боку ляска. Яна прыслухалася. «Мабыць, здалося»,— падумала яна і ўзялася за рыдлёўку. Але свіст зноў паўтарыўся. Не думаючы аб тым, што робіць, Анэля ўваткнула рыдлёўку ў зямлю і паволі пайшла да ляска. Яна схамянулася толькі тады, калі ўбачыла ў кустах чалавека, які махаў ёй рукою. Анэля спачатку спалохалася, але, пазнаўшы Антося Калюгу, смела пайшла да яго.

Антось значна змяніўся з тае пары, калі яна бачыла яго пры сустрэчы ў лесе. Ён узмужнеў за гэты час. Валасы не тырчалі з-пад шапкі, як калісь. Ён трымаў у руках аўтамат, цераз плячо была перакінута палявая сумка. Калі яна падышла да яго, Антось усміхнуўся.

— Малайчына, Анэля,— сказаў ён.— Не спалохалася. Не думаў я, што адважышся ісці на свіст.

— Каб не пазнала цябе, Антось, блізка не падышла б... Ды і каму я патрэбна такая...

— Якая?

— Старая баба...

— Гэта ты дарэмна, Анэля... Ну, як жывеш?

— Ай, Антось... Сам ведаеш, як жывуць цяпер людзі.

— Чаму я не ведаю? Але я пытаюся, як жывеш ты.

— Хіба ты не ведаеш майго жыцця, Антось... Якое гэта жыццё...

— А як маецца Кандыба?

— Адкуль я ведаю?

— Ён жа твой сусед. І добры сусед.

— Ай, Антось... Гэта ты пра тую трэцюю частку гаворыш... Дурная была, то ўзяла... Жыцця няма ад Кандыбы... Горай, як немцы. Амаль штодзень па хатах валочыцца. Тыя цяпер баяцца, а ён: давайце тое, давайце гэта... І воўну забраў, і лён...

Антось уважліва слухаў і маўчаў.

— А сёння тут немцаў не было?

— Не, Антось, не было. Хіба на іншых хутарах, але і то не чуваць было.

— Праўду кажаш?

— Ай, Антось, няўжо ты мне не верыш? — сказала яна з такім здзіўленнем і жалем, што Антось пашкадаваў, што задаў такое пытанне.

— Не хвалюйся, Анэля, я табе веру. А хіба кожнаму можна верыць? Асабліва на маім месцы і ў такі час. А цяпер скажы шчыра: у цябе хлеб ёсць?

Яна зірнула на яго з глыбокім дакорам.

— Ты, Антось, есці хочаш, то чаму адразу не сказаў? Хіба я не ведаю, што ты ў партызанах... Ёсць яшчэ і хлеб, і сала кавалачак знайду. Ад немцаў усё хаваем, а ад вас грэшна было б. Я табе прынясу.

Яна памкнулася ісці.

— Пачакай, Анэля,— спыніў яе Антось.— Тут справа такая... Калі маеш цэлую буханку, то прынясі яе ўсю. Я табе заплачу. Бачыш, дамоў мне зайсці нельга, а ў Фэлькі Шыбкі, сама ведаеш, нічога няма.

— Ведаю, Антось... І платы мне не трэба.

— Толькі прынясі так, каб было непрыкметна.

— У кош пакладу і пайду ў лясок, нібы лісце збіраць для каровы на подсціл. Ты чакай мяне тут, Антось.

Хутка яна вярнулася.

— Ты ж, Анэля, нікому пра гэта не скажаш?..

— От які ты, Антось... Няўжо я такой стала...

— Я табе заўсёды верыў, Анэля.

Яна вярнулася дахаты такая ўсхваляваная, што нават не мела сілы капаць агарод.

У тую ноч знік стары Кандыба. Яго знайшлі ў лесе пры шляху павешаным на асіне.

## 8

Скончылася вайна. Вярнуліся дамоў салдаты і партызаны.

Многія з іх знайшлі замест родных вёсак папялішчы.

Прыйшоў на свой хутар і Антось Калюга. Ён пастарэў. Тонкія, але прыкметныя зморшчыны з'явіліся ў яго на твары, пачалі сівець русыя валасы.

Ён стаяў на тым месцы, дзе калісь была яго хата, і трымаў за руку чатырохгадовага хлопчыка.

Шмат вытрымаў Антось выпрабаванняў. Яго жонка не паспела ўцячы з вёскі. Схапілі яе фашысты і закатавалі да смерці. Цудам выратаваўся стары бацька, які з маленькім унукам быў у полі, пасвіў кароў. Два дні сядзеў стары Калюга ў балоце разам з іншымі ўцекачамі, пакуль іх не знайшлі партызаны. Мабыць, не выжыў бы ў гэтыя дні малы Андрэйка, каб не суседка Адэля, у якой таксама было малое дзіця. А стары Калюга хоць і вы-

жыў, але не вытрымалі старыя косці балотнай сырасці. Ледзь дабраўся да партызанскага лагера, а там лёг і болей не ўстаў...

Антось стаяў на папялішчы свайго гнязда і думаў, што вайна адабрала ад яго і сям'ю, і родны дом. Толькі аднаго не адабрала яна — Радзімы. Антось Калюга выстаяў і перажыў усё, абараняючы яе.

— Ты ўжо замарыўся, мой хлопчык? — запытаўся Антось у сына, беручы яго на рукі.

— Не. А дзе цёця Маня?

— Няма цёці Мані, мой хлопчык. Яна паехала дамоў.

— А ці скора яна прыедзе?

Антось з замілаваннем зірнуў на сына.

— Яна не прыедзе, сынок...

У гэты час успомніў Антось цёцю Маню, пажылую партызанку з Віцебска, якая даглядала ў лагеры ўсіх дзяцей, вось такіх, як яго сын, сірат, што засталіся без матак. «Эх, дарагая цёця Маня! — падумаў ён.— Колькі цяпер у цябе сыноў і дачок, якія ў гэты час успамінаюць цябе, як і мой сын!»

Нядоўга стаяў Антось. Трэба было знайсці месца, дзе б хоць часова прытуліцца.

Вечарэла, калі Анэля ішла дамоў з касцёла. Дарога вяла праз той самы лясок, дзе яны калісь сустрэліся з Антосем. Яна ўжо забылася пра тую сустрэчу... Ды і лясок змяніўся. Ён нібы памаладзеў. Кучаравыя бярозкі, ахутаныя маладым лісцем, стаялі пры самай дарозе. За прыдарожнымі канавамі шаптаўся стромкі алешнік, цвілі хвойкі, выцягнуўшы ў вышыню маладыя парасткі.

З ціхім сумам глядзела Анэля вакол і не пазнавала мясцовасці. Адусюль веяла цішынёю і спакоем, толькі з глыбіні лесу ліўся вясёлы і клапатлівы шчэбет птушак.

Анэлі часта сустракаліся людзі. Але ў іх вачах не відаць было ні варожасці, ні падазронасці. Людзі не абыходзілі адзін аднаго, а прыязна віталіся і заводзілі гутарку. А нейкі незнаёмы нізенькі дзядуля нават спыніўся, абапёрся на кіёк і зняў шапку.

— Вось і вясна прыйшла,— весела сказаў ён.— Заўваж, кабетка, за чатыры гады першая вясна пасля вайны...— Ён уздыхнуў.

«Так, вясна,— падумала Анэля,— каторая вясна майго жыцця! І не дзіва, што гэты дзядок назваў мяне кабетаю».

Яна ўздыхнула. Цяпер ёй нічога не трэба. Надыходзіць старасць... Пацiху дажыць сваё гаротнае жыццё, вось і ўсё...

Анэля была рада, што пасля доўгага перапынку зноў пачаў працаваць касцёл. Стары ксёндз уцёк з немцамі, і гэта добра. Наўрад ці магла б яна шчыра маліцца, каб ён застаўся. Тая гутарка пра Кандыбаву зямлю, той яго драпежны выгляд не выходзілі з яе галавы. На месцы былога ксяндза з'явіўся невялічкі, ужо стары, але яшчэ бадзёры і праворны пробашч з Вільнюса. Сёння ён сказаў гарачую казань, у якой заклікаў усіх верных католікаў працаваць шчыра і сумленна, аднаўляць разбуранае, бо Савецкая ўлада не забараняе рэлігіі. Не трэба забываць бога і святога касцёла, казаў ён. Трэба ўмацоўваць святую каталіцкую веру, і для ўсіх прыйдзе збавенне на тым свеце.

Калі Анэля выйшла з лесу і ўбачыла Кандыбаву хату, яна адразу зразумела, што там нешта адбываецца. Дасюль хутар быў пусты, а цяпер там стаялі фурманкі, хадзілі людзі. У хаце былі адчынены дзверы, з акон зняты дошкі, з коміна віўся ледзь прыкметны дымок.

Анэля прыбавіла кроку. Ёй было цікава паглядзець, што за людзі будуць яе суседзямі. Калі яна падышла да хутара, то ўбачыла хлопчыка гадоў чатырох, які забаўляўся пугай, ссякаючы ёю маладыя лапухі, што густараслі каля плота. Хлопчык таксама ўбачыў Анэлю і адразу кінуў свой занятак.

— Цёця, а мы будзем тут жыць,— паведаміў ён і спыніўся каля варот.

Спынілася і Анэля. У адзін момант у памяці яе паўстала даўно прайшоўшая пакутная лютаўская ноч, і сэрца зашчымела ад вострага болю.

— Андрэйка! З кім ты гаворыш? — пачула яна знаёмы голас і ўбачыла на ганку хаты Антося Калюгу. Ён хутка падышоў да сына і, убачыўшы Анэлю, радасна засмяяўся.

— Анэля! Дык гэта ён з табой знаёміцца? Ну, як ты жывеш?

— Жыву, Антось...

— А я, бачыш, у суседзі да цябе перайшоў, пакуль сваю хату ўзніму.

— Дык у цябе, Антось, такі вялікі сын...— сказала яна з зайздрасцю. І ёй захацелася сказаць, што і ў яе

быў сын, і каб ён нарадзіўся жывы, то цяпер быў бы большы за Антосевага.

— Ён у мяне малайцом, і партызан!

— А як жа ты з ім, Антось?.. Яму ж догляд трэба...

— А я не адзін тут. Нас тут тры сям'і такіх бяздомнікаў. Ёсць каму даглядаць. Ну дык як ты жывеш?

— Так і жыву, як жыла...

— Значыць, па-старому... А па-старому цяпер жыць нельга, Анэля, нельга. Трэба пачынаць новае жыццё. Трэба і нам жыццё будаваць так, як ужо даўно пабудавалі нашы браты на ўсходзе.

Ён уважліва паглядзеў на яе і раптам весела засмяяўся.

— А памятаеш, як ты мне ў лясок харчы прынесла?

— Памятаю, Антось...— адказала Анэля.

Цяпер ёй здалося, што той выпадак — гэта самае прыгожае, самае лепшае і шчаслівае, адзінае ў яе жыцці, што варта ўспомніць, чаго нельга забыць.

— Памятаю, Антось...— паўтарыла яна.

— А ведаеш, чаму я ў цябе цэлую буханку папрасіў?

— Ведаю, Антось, ты не адзін быў.

Ён кіўнуў:

— Так, Анэля, я тады быў не адзін... Ну дык вось. А цяпер мы будзем суседзямі.

## 9

Анэля была рада, што Антось стаў яе суседам. Яна больш не была такой адзінокай. Прыемна было бачыць рух людзей каля пустое калісьці хаты, адчуваць, што людзі гэтыя не чужыя ёй, пачуць дзіцячы гоман і смех і нават проста заўважыць святло ў акне або дымок над комінам.

Яна старалася не сустракацца з Антосем, нават пазбягала такіх сустрэч, бо заўсёды ў яго прысутнасці адчувала сябе няёмка. А вось Андрэйка, яго сынок, ніколі не выходзіў з яе галавы. У яе часта з'яўлялася жаданне пабачыць яго, і яно расло з кожным днём.

Аднойчы ў нядзелю, калі да Анэлі прыйшла ўся суседская дзетвара, у гурце Фэліксавых хлапчукоў яна ўбачыла і Андрэйку. Сэрца яе закалацілася. Яна разгубілася ад такой шчаслівай нечаканасці. «Антосеў сын у мяне!» — радасна падумала яна.

Андрэйка быў непаседлівы хлопчык. Зацікавіць надоўга якой-небудзь гульнёй яго было немагчыма. Ён аблазіў усе куткі яе невялікай сядзібы, нарэшце зусім знік. Анэля спачатку не заўважыла гэтага. Раптам з боку хлява пачуўся яго голас:

— Я сам не злезу!

Знайшлі яго на вышках хлява. Ён туды ўзабраўся па драбіне, але злезці назад у яго ўжо не хапіла адвагі.

Анэля спалохалася — ён жа мог адтуль зваліцца! Што б тады сказаў Антось! Яна ўзяла гарэзу на рукі і зняла з вышак. Ён вылузаўся з яе рук і пачаў шукаць новай цікавай, яшчэ невядомай для яго, мясціны.

У ляску ўжо трапляліся спелыя суніцы, і Анэля павяла туды дзяцей. Андрэйка адразу прыціх і супакоіўся. Ён з цікаўнасцю аглядаўся, услухоўваўся ў лясны шум і раптам запытаў:

— А мы ў лагеры, цёця? Так?

Анэля спачатку не зразумела яго, потым успомніла словы Антося.

— Партызан ты мой мілы,— шапнула яна.

Ёй захацелася схапіць гэтага маленькага чалавечка, які першыя гады свайго жыцця правёў не ў роднай хаце каля матчыных грудзей, а ў лясным партызанскім лагеры, і прытуліць яго да сябе.

— А цёця Маня? — запытаў ён.

— Якая цёця Маня, Андрэйка?

— Цёця Маня.

Анэля не разумела яго. А ён доўга глядзеў на яе, нешта ўпарта хацеў успомніць, і ў вачах яго засвяцілася туга. Мабыць, не мог успомніць, як трэба...

— Цёця Маня...— сказаў ён і прыціх.

Калі Анэля села пад кустом на мяккую траву, ён падышоў да яе, даверліва палажыў галаву на яе калені і праз хвіліну спаў салодкім дзіцячым сном. Яна асцярожна ўзяла яго на рукі і прытуліла да сябе. Ён нават не зварухнуўся. Анэля адчула шчасце. Яна ўяўляла, што гэта яе ўласны сын, кропля яе істоты, і гатова была сядзець так без канца.

Вярнуўшыся з лесу, Анэля ў сваім двары ўбачыла Антося. Ён па-мужчынску ўважлівым вокам аглядаў яе будыніны, платы, вароты. Андрэйка адразу кінуўся да бацькі.

— Добры дзень, Анэля.

— Дзень добры...

Па нейкай невядомай прычыне яна не магла зірнуць яму ў вочы.

— Не толькі мой сын, а і я да цябе ў госці прыйшоў, Анэля. Чым будзеш частаваць такога госця, мо мешалкай? — пажартаваў ён.

— Што ты, Антось! Ах, які ў цябе сын!.. І пра нейкую цёцю Маню гаварыў...— апошнія словы вырваліся ў яе мімаволі.

— Пра цёцю Маню? Значыць, не забыў... Гэта была такая партызанка з Віцебшчыны. У нас там дзіцячы сад быў, дык яна даглядала нашых дзяцей... Як маці. Старэйшых грамаце вучыла, яна настаўніца, а такіх малых, як мой Андрэйка, песціла. А хіба ён памятае матку! Яму ж тады і года не было...

— Маладая? — запытала Анэля.

І гэта пытанне вырвалася ў яе мімаволі. Яна пачырванела ад думкі, што Антось можа падумаць пра яе нешта непатрэбнае. Але Антось нічога не заўважыў.

— Пажылая. Сын на фронце, а муж яе ў нас доктарам быў. Нядаўна ліст ад яе атрымаў, пра Андрэйку пытаецца.

— Пра Андрэйку...

Анэлі было крыўдна, што існуе яшчэ і другі чалавек, які цікавіцца жыццём Антосевага сына і мае на гэта, магчыма, больш права, чым яна.

— Дык усё па-старому жывеш, Анэля?

— А як жа іначай, Антось... Ды чаго ж мы тут стаім, хадзем у хату. Хіба госця на двары частуюць...

— Мы і тут пагутарым. Ты толькі не думай, што я пра жыццё таму пытаюся, што мне гаварыць няма пра што. Я і сапраўды хачу з табой пра жыццё пагутарыць.

Яна недаўменна зірнула на яго.

— Ты чула пра калгасы?

— Чаму не чула... Але ж гавораць пра іх...

— Хто гаворыць? Хіба ты не ведаеш, хто гаворыць? Але я чуў гаворку ад тых людзей, якія самі ў калгасах жылі. У нас было многа партызан-усходнікаў, яны, брат, зусім не тое кажуць.

— Нічога я не ведаю, Антось...

— Ну дык вось паслухай. Хіба ты мне не верыш? А я, здаецца, табе заўжды верыў. Я прыйшоў пагаварыць з

табой як з суседкай. Будзем арганізоўваць калгас. Не мы з табой удваіх, Анэля. Аб гэтым шмат хто думае. Няўжо ты застанешся збоку? Я думаю, што не застанешся. Мы мяркуем азіміну сеяць разам, не па адным, а калгасам. Будавацца пачнём. Я твае будынкі аглядаў: адно гнілле. Хату скора падпіраць будзеш, бо паваліцца.

— Не ўздужаю и новую хату...

— Адна не ўздужаеш, а калгас уздужае.

— Як людзі, так і я, Антось...

— А я так і разлічваю, што ад людзей ты не адстанеш.

Калі ён сабраўся ісці, Анэля зірнула на Андрэйку, які стаяў каля бацькі, як маленькі дубок каля вялікага моцнага дуба, і нерашуча сказала:

— Антось... Няхай твой Андрэйка часцей да мяне прыходзіць... Тут жа недалёка.

— Будзеш хадзіць да цёці Анэлі? — запытаў Антось у сына.

Андрэйка зірнуў на Анэлю блакітнымі, як у бацькі, вачыма і адказаў:

— Буду.

## 10

Пра гутарку з Антосем адносна калгаса Анэля хутка забылася. У галаве яе цяпер былі іншыя думкі. Яна цікавілася толькі Андрэйкам, без якога жыццё здавалася пустым і непатрэбным. Яна адчувала неабходнасць бачыць яго кожны дзень хоць здалёк.

З Антосем Анэля сустракалася рэдка ды і не хацела сустракацца з ім. Ёй здавалася, што Антось глядзіць на яе не так, як на іншых жанчын. Яна думала, што ён лепш, чым іншыя, ведае яе мінулае і зневажае яе. Калі ў часе гутаркі ён усміхаўся, ёй здавалася, што ён з яе смяецца, калі быў задумёны і сур'ёзны, думала, што ён ставіцца да яе з пагардай. І пасля кожнай гутаркі Анэля перажывала хваравітую ўсхваляванасць. Мінулае, як прывід, паўставала ў памяці і не давала спакою... Як хацелася забыць пра ўсё назаўжды, так, каб ніколі не ўспамінаць, не бачыць нават і ў сне... А Антось заўсёды з'яўляўся перад ёю, як напамінак аб страчанай маладосці, якая не можа вярнуцца...

Быў пачатак жніва, калі аднойчы ў нядзелю Анэлю паклікалі на сход. Яна збіралася ў касцёл і на сход не пайшла б, каб у хату не зайшоў Антось.

— Пра жыццё будзем гаварыць, Анэля,— сказаў ён.

— Пра калгас?

— Так, пра калгас. Жыта будзем сеяць гуртам.

Ён гаварыў так упэўнана, нібы калгас ужо быў арганізаваны і хоць заўтра выязджай на поле і сей.

— Значыць, прыйдзеш?

— Прыйду, Антось.

Гэта быў першы сход, на які пайшла Анэля. Многае на сходзе было для яе незразумелым. Яна слухала гарачыя прамовы сялян, сваіх блізкіх і далёкіх суседзяў, і не ведала, хто з іх правы. Усе гаварылі ўпэўнена і пераканаўча. Калі выступаў Антось або Фэлікс Шыбка і ўсе тыя, хто ішлі за імі, у Анэлі з'яўлялася ўпэўненасць, што яны кажуць праўду. Калі ж уставаў заможнік, які цягнуўся калісь за Кандыбам, Анэля верыла і яму. Многія маўчалі. Многія падтаквалі таму ці іншаму, або і таму, і іншаму. Так і пайшла яна са сходу, нічога не зразумеўшы, не ведаючы, за кім ісці.

Пад вечар Анэля накіравалася ў касцёл. Яна ішла і думала: «Вось табе і людзі... І тыя людзі, і тыя... Адны думаюць так, іншыя гэтак. Вось і не адстань ад людзей. Усё роўна ад некага трэба адстаць. Ці правы Антось? Можа, ён і праўду кажа, можа, і лягчэй, і лепш будзе ў калгасе, але ж ці адразу? Палі спустошаны, будынкі папалены, коней мала, а авечкі і свінні амаль пераваліся ў наваколлі... Як жа тады калгас? Не, немагчыма... Будзе цяжка... А ці не лепш спачатку на ногі стаць, адбудавацца, наладзіць моцныя гаспадаркі, а тады ўжо і ў калгас».

Анэля вельмі здзівілася, калі пачула размовы аб калгасах і ля касцёла. Яна ўвайшла ў касцёл, выбрала месца каля дзвярэй і пачала маліцца. Прашаптала на памяць некалькі малітваў, разгарнула кантычку і жахнулася: сход не выходзіў у яе з галавы, у вушах стаялі словы, чутыя на сходзе і тут, ля касцёла. Што ж цяпер варта яе маленне, калі яно было няшчырае? Губы яе шапталі адно, а думалася пра іншае. Яна стала на калені і пачала хрысціцца, але не дапамагло і гэта.

Калі ксёндз пачаў казань, яна ўзрадавалася, бо верыла, што пасля яе ўсе сумненні знікнуць. Аднак праз некаторы час зразумела, што не чула казані.

* * *

Анэля прынесла сваю заяву ў праўленне, калі калгас ужо быў арганізаваны.

Шмат перажыла Анэля за гэты час. Яна шмат думала і ні да чаго не магла дайсці. Прыслухоўвалася да гутарак сялян, наведвала суседзяў, хадзіла ў касцёл, упарта старалася знайсці правільны шлях і не знаходзіла.

А хіба не шкада было гаспадаркі! Аддаць каня, калёсы, сані, жыта на сяўбу... Аддаць зямельку, якую стольki гадоў ад самага маленства палівала сваім потам... Засыпаць яравое насенне на будучую вясну... Усяго гэтага было шкада. І яна са здзіўленнем наглядала, як Антось і Фэлікс Шыбка першыя вязуць свой умалот жыта на насенне не сабе, а ў калгас. І Шыбчыха не бяжыць за Фэліксам, не енчыць і не лямантуе, што ён адбірае ад дзяцей хлеб. Шыбчыха, якая не ела ўволю хлеба ўсё жыццё!

Анэля старалася ні аб чым не думаць. «Буду ж неяк жыць...» Аднак адчуванне таго, што яна застаецца збоку, не давала супакою. Ёй цяпер хацелася ўбачыць Антося, які быў абраны старшынёй калгаса, пачуць яго словы, і Анэля пачала шукаць сустрэчы з ім. Але Антось вечна быў заняты, дамоў прыходзіў позна вечарам, і сустрэцца з ім было не лёгка. Анэля некалькі разоў была на Кандыбавым хутары, але насустрач ёй радасна бег Андрэйка. Ён паведамляў ёй свае навіны, і яна смяялася, слухаючы яго няхітрыя дзіцячыя апавяданні.

Тады Анэля накіравалася да Фэлікса Шыбкі. Фэлікса не было дома, яе сустрэла Франуся. Анэля зірнула на яе шчаслівы вясёлы твар і падумала, што Шыбчыха памаладзела. Яна хацела распытаць Франусю аб усім, але не ведала, як распачаць гутарку. Шыбчыха сама яе распачала.

— Ты мо да Фэлікса, Анэля? — запытала яна.— Няма яго дома. Ён жа цяпер брыгадзір, то ад цямна да цямна на полі. А сёння трактара чакае. І так ён трэба! І жыта сеяць дапаможа, і зябліва ўзарэ.

— Трактара чакае?..

— Трактара, Анэлечка! Мой Фэлька кажа, што ён і лес вазіць дапаможа, такі ён моцны і цягучы.

— Які лес, Франуся? — не зразумела Анэля.

— Які лес? Хіба ты не чула? — Франуся паглядзела на яе з дакорам.— Лес дзяржава дае. І на дамы, і на

калгасныя будоўлі. Мой Фэлька таксама бярэ. Бо і праўда, хата ж — адна парахня. Ды і да якой пары ў такой нары жыць? Аж прыкра...

Яна адлажыла ўбок штонікі старэйшага сына з прадранымі калашынамі і пачала гойдаць калыску.

— Цэлы дзень то абмывай іх, то латай адзежу. Такія шмаравозы! Ды і ў цябе ж, Анэлечка, хата ледзь трымаецца, з дроў складзена... Мабыць, і халодная?

Анэля не думала пра хату і адказала механічна:

— Халодная...

— А мой Фэлька злуецца на цябе, Анэля. Яшчэ, кажа, і яе трэба за руку ў калгас весці. А я кажу: дарэмна ты на яе, Фэлька, сярдуеш. Не застанецца Анэля ад людзей. А ён: ужо яна, кажа, засталася.

Ад Фэлікса Анэля і накіравалася ў праўленне калгаса. І вось яна стаіць насупраць Антося, які сядзіць за сталом.

— Ну, што ж, падавай заяву. Я так і ведаў, што ты будзеш з намі. Ды і хто цяпер не з намі. Мала хто! Бадай толькі тыя, якіх мы самі не возьмем.

— Антось, можа, я заўтра на ворыва пайду?

— Спачатку прымем цябе ў калгас. Вечарам збяромся, прыходзь і ты. А адносна работы, то гэта справа Фэлікса, ён брыгадзір.

## 11

Упершыню Анэля пачала быць сярод людзей не толькі ў касцёле, але і на працы. На ўсё жыццё запомніла яна той першы ў калгасе дзень, калі разам з усімі калгаснікамі выехала на нарыхтоўку лесу. Спачатку яна сябе адчувала вельмі няёмка. Здавалася, што ўсе глядзяць на яе пагардліва, думаюць пра яе мінулае... Яна старалася трымацца ўбаку, каб менш звяртаць на сябе ўвагу. Але праз некалькі дзён прыкрае пачуццё прыніжанасці і сораму знікла і ўжо болей ніколі не з'яўлялася.

Мужчыны валілі лес з пня, абсякалі сукі, дзяўчаты і маладыя жанкі палілі галлё, распілоўвалі бярвенні.

Цэлую восень і зіму ішло будаўніцтва. Да пачатку вясны ў калгасе стаяла два хлявы, на месцы многіх папялішчаў узняліся новыя зрубы хат калгаснікаў.

Потым надышла вясна, і Анэля пачала ўдзельнічаць

ва ўсіх работах. Новае жыццё пакрысе ўвайшло і ў яе думкі, і ў побыт. Яна ўжо не магла ўявіць яго іншым.

Зараз Анэля часцей сустракалася з Антосем. Гэтыя сустрэчы адбываліся не толькі на Кандыбавым хутары, дзе яшчэ жыў Антось, але і на працы, і ў праўленні калгаса. І дзіўна было Анэлі, што ў Антосевых вачах з'явілася нешта такое, чаго раней яна ў іх не заўважала. Змяніліся і яго адносіны да яе. Ён цяпер не жартаваў, не смяяўся. «Вядома,— думала Анэля,— Антось — старшыня, клопатаў і працы ў яго шмат...» А вось позірку яго яна не магла ні забыць, ні зразумець. Нешта большае, чым простая ўвага і зацікаўленасць, былі ў ім.

Анэлі было дзіўна, што яна часта ўспамінае Антося. І не толькі ўспамінае, але і думае пра яго... У кароткія вясеннія ночы, калі яна лажылася на адпачынак у сваёй адзінокай хаце, ёй заўсёды ўяўляўся Антось, і яна доўга не магла заснуць. «Што са мной робіцца?» — думала яна і не знаходзіла адказу.

Аднойчы ў поўдзень, у часе жніва, Анэля прыйшла з поля, каб падаіць карову. Дзень стаяў сонечны і вельмі гарачы. Анэля спяшалася. Яна схадзіла ў поле, дзе спыняўся на стойла статак жывёлы, падаіла карову і, управіўшыся з гаспадаркай, зайшла ў свой агарод, каб падвязаць кусты памідораў і выбраць крыху гуркоў. Яна аж уздрыгнула, калі пачула вокліч: «Анэля!»

Ля плота стаяў Антось. Быў ён без шапкі і ўвесь абліты потам. Мокрыя валасы зблыталіся на яго галаве, каўнер кашулі быў расшпілены. Ён цяжка дыхаў. Анэля зразумела, што нешта здарылася. Яна хацела запытаць, у чым справа, але не адважылася.

— Прынясі мне, Анэля, халоднай вады. Паміраю ад смагі.

— Вады. Ты ж увесь мокры ад поту... Я табе лепш вынесу малака, Антось.

Яна імгненне стаяла, потым сагнулася, абарвала некалькі спелых памідораў і падала яму. Ён адразу ўгрызся зубамі ў памідор і, здаецца, забыў аб усім. Потым усміхнуўся і сказаў:

— Памідор... У цябе ўжо спелыя памідоры!

— Ужо шмат, Антось.

— Дзіўна! Аднак прынясі мне напіцца.

Калі Анэля вярнулася, Антось ужо прычасаў валасы, выцер пот і зашпіліў каўнер.

— Вельмі добра... Дзякую, Анэля,— сказаў ён, аддаючы ёй збан.— Дык, кажаш, спелыя памідоры...— працягваў ён задумёна.— І кветак у цябе шмат... А ў нас на агародзе чорт ведае што робіцца. Учора там быў... Зелля ў нас шмат, а гародніны мала. А мы такіх агароднiц, як ты, у касу і серп запрагаем... Вось што, Анэля: сёння ж адпраўляйся на агарод, зацвердзім цябе звеннявою.

— У мяне загон не дажаты... Можа, няхай заўтра, Антось?

Ён падумаў:

— Добра. А заўтра раніцой абавязкова. Ну і бывай.

— Пачакай, Антось! Занясі Андрэйку памідораў і гуркоў.

— Я не дамоў, Анэля. Некалі мне... І так праз твае памідоры затрымаўся.

І ён, не аглядаючыся, хутка пакрочыў з двара, а яна недаўменна глядзела яму ўслед.

## 12

Адвячоркам Анэля ішла з поля з Франусяй. Франуся спяшалася дадому, дзе яе чакалі дзеці, а Анэля думала. Ёй успамінаўся Антось у такім незвычайным для яго выглядзе, а галоўнае, трывожыла новая праца на калгасным агародзе.

Калі яны пераходзілі шлях паблізу ад сельсавета, Франуся зірнула ў той бок і сказала:

— Глядзі, колькі коннікаў каля сельсавета.

— Нехта прыехаў,— абыякава адказала Анэля.

— Мабыць, міліцыя,— зазначыла Франуся.

Ад Фэліксавай хаты Анэлі трэба было ісці праз лясок. Тут была пратаптана сцяжынка, якая злучала хутары, і Анэля пайшла па гэтай сцяжынцы. Калі яна дайшла амаль да самай сваёй адрыны, нехта ззаду схапіў яе за плечы. Яна не паспела крыкнуць, як рот яе быў затулены дужай рукой.

— Не пазнала, Анэля?

У яе падкасіліся ногі, і яна ледзь не ўпала. Яна пазнала гэты голас. Гэта быў Ясь Кандыба.

— Не будзеш крычаць? — шэптам запытаў ён.

Анэля сцвярджальна кіўнула галавой, і ён прыняў ад яе рота сваю руку. Яна поўнымі жаху вачыма глядзела на гэтага высокага і дужага чалавека, які калісьці быў блізкім і дарагім яе сэрцу. Як ён змяніўся з тае пары!

Худы і пастарэлы, абарваны, залеплены граззю, якім ненавісным і страшным быў ён цяпер!

— Гэта ты, Ясь? — мімаволі вырвалася ў яе пытанне.

— Не пазнала? — запытаў ён у адказ, аглядаючы яе з ног да галавы.

— Пазнала...

— Спалохалася?

— Хіба я цябе не ведаю...

— Малайчына, Анэля...— ён азірнуўся па баках.— Тут небяспечна... Зойдзем глыбей у лес.

Яна адчувала, як жах скоўвае яе цела.

— Не бойся, Анэля... Мы толькі пагутарым... Хутчэй, Анэля.

Яны зайшлі ў глыбіню ляска, дзе купкай рос і густа сплятаўся малады ельнік.

— Ну вось, пасядзім... Ты ж маеш час?..— і ён палажыў пры боку аўтамат.

У Анэлі так калацілася сэрца, што яна ледзь знайшла сілы, каб адказаць: «маю».

— Раскажы, як ты жывеш, Анэлька... з таго часу.

— Жыву... Яшчэ не памерла.

— Я ведаю, Анэля. Гэта я так запытаўся. Я ўсё ведаю... і хто на маім хутары жыве, і хто ад майго бацькі жыццё адабраў... І хто калгас арганізаваў. І пра тваё жыццё, Анэля, ведаю ўсё... Малайчына ты... Скажы шчыра, Анэля, ты яшчэ не забыла мяне?

— Не, не забыла, Ясь...

— Я гэта ведаў... Таму і чакаў цябе тут. На цябе я спадзяваўся, а болей мне тут няма да каго зайсці. Даўно чакаў і паглядаў на тваю хату... Я не ведаў, што сустрэну цябе тут...— ён перадыхнуў і аблізаў перасохлыя губы.— Ганяліся за намі, сволачы... І той Калюга няшчасны... Мяне выратавала бульба... У разоры ляжаў, а потым поўз. І па балоце поўз, пакуль сюды выпаўз... Бачыш, які я...

Толькі цяпер зразумела Анэля, чаму Антось заходзіў да яе ў такім выглядзе і чаго прыехалі коннікі да сельсавета. І па меры таго як яна асэнсоўвала кожнае слова бандыта, ёй станавілася лягчэй і страх пакідаў яе сэрца. «Як яго затрымаць? — думала яна.— А каб завесці яго дадому? Але ці зможа яна тады выйсці з хаты? Ён узброены... і не пусціць, і наглуміцца...»

— Ты не адзін, Ясь?

Ён падазрона зірнуў ёй у вочы:

— Колькі нас, табе не трэба ведаць... Я тут адзін.

— Ты галодны?

— Гэта не галоўная справа... У цябе павінна быць нейкая адзежа... Можа, якая старая бравэрка пасля бацькі засталася і порткі... Няхай сабе лахманы...

— Ёсць, Ясь... Не новае, але ёсць.

— Добра, Анэля... І галодны я, як сабака. Ты прынясеш сюды.

У Анэлі пачало праясняцца ў галаве.

— Я прынясу, Ясь... толькі тады, калі добра сцямнее.

— Чаму? — бліснуўшы вачыма, запытаў ён.

— Небяспечна, Ясь. Хіба я пра сябе думаю?

— А ты... ты не прадасі мяне? — скрыгануў ён зубамі і схапіў яе за плечы.

— От які ты, Ясь... Ды мне ж трэба і карову падаіць, табе малака прынесці. Ды яшчэ ж светла, а Калюга ведаеш, дзе жыве, а што, калі ўбачыць. Тады і я загінула....

Ён доўга глядзеў ёй у вочы. Яна не зводзіла позірку, і на твары яе не здрыганулася ні адна жылка. Анэля яшчэ не ведала, чым усё скончыцца, што будзе рабіць, калі ён пусціць яе дахаты, але цвёрда вырашыла, што з гэтага ляска яму не выйсці.

Ён адхіснуўся ад яе і абапёрся локцем на зямлю.

— Анэля... — і голас яго быў бездапаможны і знясілены. — Анэля... выратуй мяне сёння. Мне трэба адзежа і харчы... Не прадай мяне ў памяць таго, што было між намі... Ты павінна даравадь мне. Мы засталіся адны — і ты, і я. У нас няма блізкіх і родных. Мы б сышліся, Анэля, каб не такое жыццё, і мы яшчэ сыдземся, павер...

Можа, знясілены яго голас, у якім акрамя хітрасці ўжо гучалі і мальба, і ліслівасць, можа, блудлівы і прыніжаны яго позірк і ўвесь бездапаможны выгляд прывялі да таго, што з душы Анэлі вылецеў увесь страх і пачала падымацца там страшэнная злосць і нянавісць.

— Калі сыдземся, Ясь? — ледзь прыкметна ўсміхнуўшыся, запытала яна.

— Хутка, Анэля... Ты мне павер. Прыйдзе час, і нядоўга яго чакаць. Канец прыйдзе і Калюгу, і ўсім іншым такім.

Анэля скаланулася. У гэтае імгненне яна адчула з

поўнай яскравасцю, што няма для яе людзей даражэйшых, чым Антось Калюга і Андрэйка. Бандыт не прыкмячаў гэтага. Ён прадаўжаў з поўнай упэўненасцю, што яна не толькі яму верыць, але і з радасцю чакае гэтага.

— Усёй гэтай уладзе зробім мы канец. Ты думаеш, адзін я такі? От тады мы пажэнімся, злучым хутары... Мы яшчэ не перастаркі, Анэля. А ты нават папрыгажэла... Толькі дапамажы мне вырвацца адсюль. Я ўжо два дні не еў... А адзежа... Адзежа галоўнае... У іх ужо ёсць усе нашы прыкметы...

Ён зірнуў на Анэлю і раптам спыніўся. У вачах яе ён прачытаў нешта такое, ад чаго нельга было чакаць ні спачування, ні дапамогі. Ён памкнуўся кінуцца на яе, але Анэля абедзвюма рукамі з такой сілай штурхнула яго ў твар, што ён схапіўся за нос і губы і адкінуўся на траву. Анэля ўскочыла. У яе раптам з'явілася думка ўцякаць, хутчэй бегчы па Антося, але розум падказаў, што гэта раўназначна смерці. І тут яна ўбачыла аўтамат. Яна схапіла яго за рулю ў той момант, калі рукі бандыта цягнуліся да яго. Не паспеў ён ускочыць з месца, як моцны ўдар прыкладам па галаве збіў яго з ног.

Анэля апамяталася толькі тады, калі цела бандыта сутаргава здрыганулася і выпрасталася.

Яна не помніла дарогі ад страшнага месца да Антосевай хаты. Гэты кавалачак часу назаўсёды вылецеў з яе галавы...

У хаце Антося сядзелі міліцыянеры і вячэралі. Анэля не заўважыла іх. Яна адразу знайшла вачыма Антося і памкнулася да яго. Ён пабег ёй насустрач.

— Што з табой, Анэля, адкуль у цябе аўтамат?

— Антось,— сказала яна ціха.— Я яго забіла...

— Каго?

— Яся Кандыбу.

І, напоўненая падзеямі і ўражаннямі дня, згубіла прытомнасць і абсунулася на яго рукі.

*1955*

## ЗМЕСТ

**Чарнышэвіч А.**

Ч 21 Выбраныя творы. У 2-х т. Т. 1. Раман, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 512 с., 1 л. іл.

Першы том выбраных твораў А. Чарнышэвіча складаюць раман «Світанне» — аб станаўленні Савецкай улады ў Беларусі, а таксама асобныя апавяданні. Некаторыя з іх маюць аўтабіяграфічны характар, другія расказваюць пра суровую ўральскую тайгу, трэція малююць працу, клопаты, імкненні людзей калгаснай вёскі, паказваюць воблік сучаснага сельскага інтэлігента.

Ч $\frac{70303-158}{М 302(05)-79}$ 96—79

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Аркадий Дмитриевич Чернышевич
**Избранные произведения в двух томах**

ТОМ 1

*Роман, рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак А. І. Раманцоў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктары Я. А. Бебель, Е. У. Дзмітрыенка, Л. С. Зіза, Н. А. Давыдзенка.

ІБ № 462

Здадзена ў набор 05.01.79. Падп. да друку 23.08.79. АТ 13311. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,88+ +0,11 укл. Ул.-выд. арк. 28,17. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1907. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.